Вільня – 1910.
Чэрвень

6

# Пяніца.

Смяецца мужык: хай нядоля шуміць!
Не дбае ён, не баіцца,
Як скруціць, як сцісне — балюча не баліць —
Ў нядолі не будзе хрысціцца...
Прадасць ён паследні кусочак добра,
Ў карчму без аглядкі памчыцца;
Жартуй не жартуй, бядовая пара!
Гэць, чарка за чаркаю льецца!...
Хай шапка з патыліцы, бурка з плячэй,
Хай выкруціць рукі і ногі. —
А дказу німа, каля чурбанчыка ў очак,
Забыў сваё горэ убогі...
Чысцінцом нясецца, дарогу давай!
То праца разгуляцца хоча...
Бушуй, бушуй, калечы — ніхай!
То ліха-зладзейка рагоча...
Ці крэпак ня крэпак — людзей ёны дух,
Не страх ёму нат ні дзесяткі!...

**Аўтограф Змітрака Бядулі,**
**які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы**
**АН Літоўскай ССР.**
**1910 г.**



**Гумарыстычны аўтограф Змітрака Бядулі, які захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай ССР. 1910 г.**

# Пяюць начлежнікі...

...Пяюць начлежнікі...

Слоў не разбярэш,—надта закацістая песьня, але зірнеш, адкуль плыве яна, і ўбачыш чырвоны слуп с чорнай каронай над лесам—гэта огнішча начлежнікоў...

... Пяюць начлежнікі...

Зычная, маркотная песьня лунае да неба, аж да зорак... Гэта стогн загнанаго жыцьця, жальба крывавай працы, споведзь доўгай нядолі, кананьне веры пад ударамі цяжкай крыўды...

... Пяюць начлежнікі...

Якая моцная падмога ідзе ад цябе, шчырая сьвятая песьня!.. Нудным і вясёлым часам ты загледаеш у нашы душы! Ты лечыш нашэ безпатольнае горэ, ты аблегчаеш нашу працу, ты абцíраеш кроў і пот, даеш надзею і моц і, малюючы шэрае жыцьцё, цешыш надзеяй на лепшае. Чуе цябе душа наша і радуецца і лунае разам с табой да сьветлаго неба...

... Пяюць начлежнікі...

Шчыры напевы іх і поўны задумы, як цёмнае небо, каторае навісло над імі; як белые туманы над рэчкай атуляюць яны душу тваю і на клік гэтай песьні зьвіняць струны твайго сэрца, а ў вачах сьлёзы блішчаць...

...Пяюць начлежнікі...

С. Плаўнік.

Першы друкаваны твор Змітрака Бядулі.
1910 г.



**Дом у Мінску на вул. Л. Талстога,
дзе ў 1915—1918 гг. жыў Змітрок Бядуля.
1964 г.**



**Ян Райніс
сярод беларускіх пісьменнікаў.
1926 г.**



**Змітрок Бядуля**
**сярод членаў літаратурнага аб'яднання «Узвышша».**
**1927 г.**



**Змітрок Бядуля,**
**Уладзімір Дубоўка і Мікола Каспяровіч.**
**1920 гады.**



Змітрок Бядуля
з жонкай Марыяй Ісакаўнай.
1929 г.



Змітрок Бядуля
з сястрой Марыяй.
1913 г.



Змітрок Бядуля (у цэнтры)
з братамі Мацвеем і Ізраілем.
1927 г.



Сястра Змітрака Бядулі
Соф'я Яфімаўна Лерман-Плаўнік.
1987 г.



Змітрок Бядуля і Кандрат Крапіва.
1939 г.



Сцэна з балета М. Крошнера «Салавей».
Народныя артысты БССР А. Нікалаева і С. Дрэчын
у ролях Зоські і Сымона.
1940 г.



М. Манасзон. «Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля ў Мінску ў 1916 годзе».
1975 г.

# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ



Рэдактары тома

У. В. Гніламёдаў і М. І. Мушынскі

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі

Э. А. Золавай і В. Ю. Дэконскай

# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

ТОМ
ПЯТЫ



## ЯЗЭП КРУШЫНСКІ

РАМАН
КНІГА ДРУГАЯ

## СЯРЭБРАНАЯ ТАБАКЕРКА

КАЗКА

## ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

# ЯЗЭП КРУШЫНСКІ

## РАМАН. КНІГА ДРУГАЯ

### 1

### У ДАРОЗЕ

З абодвух бакоў дарогі сівы лес. Дзе-нідзе паказваюцца ўдалі хаткі. Аснежаныя дахі — белыя кучмы. Павольна насоўваецца на абшар сінявы змрок. Ён апускаецца ледзь прыкметна, крадучыся. З бяздоння вышыні кроплямі ваты ціха нізіцца дробны сняжок.

Калматы конік і двое людзей на развалістых санках ледзь вызначаюцца з агульнага фону бела-сінявага абшару. Конь павольна і лянiва трухае па дарозе. Вось-вось спыніцца і далей не пойдзе. Зусім не чутно, як санкі рухаюцца наперад па мяккім снезе. Каб не бярозкі дзе-нідзе абапал дарогі, каб не хаткі, каб не разнастайнага выгляду гаі і хмызнякі, якія адсоўваюцца назад, магло б здавацца, што фурманка застыла на адным месцы шараватай кропкай. Ціха. Толькі калі-нікалі ў мутнаватым малочнага колеру паветры праносяцца з збянтэжаным крыкам вароны.

Едуць бацька з сынам — Цыпрук Ярэмчык з Міколам. Яшчэ ўдодні Цыпрук запрог каня і паехаў па сына ў Мінск. Цяпер — дамоў.

На дзень раней Цыпрук атрымаў ліст. Сваімі рукамі і канверта не раскрыў:

— Можа, спасую, ці што?

Вострае вока ў старога. Часта сын прысылае лісты дахаты, а стары кожны раз пільна прыглядаецца да круцёлак на канверце. Ён заўсёды пазнае руку сына... З лістом у руцэ, асцярожненька, нібы нясе нешта цяжкое і кволае, якое можа рассыпацца ў пыл, Цыпрук пайшоў да Солаха.

Там двое пісьменных: стары матрос царскіх часоў і сынок матроса, Саўка.

Праз марозную пару адчыненых дзвярэй Солахавы спачатку ўгледзелі высунутую наперад руку з лістом, а пасля, задаволена крэкчучы, усунуўся Цыпрук.

— Дзень добры!

Спешна, з гарачай узбуджанасцю кінуў ён у хату прывітанне і, не чакаючы адказу, сказаў як працяг:

— Ад Міколкі ліст, ці што!

Апошняе ён прагаварыў з асаблівай сардэчнасцю і нецярпліва працягнуў ліст да Саўкі.

— На, чытай!

Саўка акуратна раскрыў канверт, каб не сапсаваць. Цыпрук навастрыў вушы. Вочкі яго пільна ўтаропіліся ў рот Саўкі.

Мікола пісаў:

«Дарагі бацька.

Як толькі атрымаеце маю пісульку, прышліце каня. Нас, рабфакаўцаў, адпушчаюць дамоў на зімовыя вакацыі. Навін ніякіх. Жыў. Здароў. Паступіў у камсамол. Прывітанне ўсім. Асабліва Саўку Солаху. Чакаю фурманкі.

*М. Ярэмчык».*

Саўка чытаў уголас, а Цыпрук мармытаў за ім слова ў слова. Стары так заўсёды рабіў, каб пасля на памяць пераказваць «маці» (жонцы). Калі ліст бываў даўжэйшы, Саўка павінен быў чытаць два або тры разы, пакуль бацька Міколы не вывучыць...

Саўка добра ведаў норавы Цыпрука. Заўсёды, калі канчаў чытаць подпіс «Мікола Ярэмчык», паднімаў вочы на старога з запытаннем, Цыпрук звычайна гаварыў:

— Яшчэ раз, ці што.

Цяпер досыць было аднаго разу. Ліст кароткі, як дэпеша.

Цыпрук маўчаў, апусціўшы рукі. Вось толькі што асцёбалі старога. Такі выгляд. Крыўдна тое, што ліст кароткі і халодны. Ён адчуваў у словах сына нешта чужое і новае, чаго раней не было. Пашараваў плячыма. Нібы цярэбіцца аб сцяну. Працадзіў праз бараду:

— Та-а-ак...

І крыўда і смутак.

Не вытрымаў і былы матрос:

— Піша як ластаўка крыллем па вадзе. Гэта ж бывала даўней, калі я пісаў дамоў лісты з Чорнага ці іншага мора, дык кожны раз у мяне на гэта два аркушы паперы

выходзіла. Да гэтага заўсёды дадаваў фатаграфію з сябе, некалькі відаў з малюнкамі. Гэта ж бывала...

Цыпрук не даслухаў да канца яго «бывала». Моўчкі пайшоў дахаты, не развітаўся з Солахамі.

Дома ён некалькі хвілін маўчаў з разгорнутым лістом у руках. Маці прывыклым вокам зірнула на збянтэжанага мужа, на кавалак паперы. Запыталася:

— Гэта ўсё?

— Усё...

— Чаму так мала напісана?

— Або ведаю, ці што? Твой сын, як і мой.

— Дык чаго злуешся?

— І не злуюся.

— Гавары, што ён там кажа?

— Кажа ён вось што...

Цыпрук зірнуў на жонку.

Яшчэ не чуючы ніводнага слова з ліста, яна пачала выціраць хусткай слёзы. Старому стала яе шкода. Маці заўсёды лёгкая на слёзы. Недзе ўнутры ў яе захавана іх вечная крыніца. Яна плача заўсёды, нават ад радасці. На гэты раз яе слёзы выклікаиы кароткасцю ліста Міколы.

Нешта тарганула старога за сэрца. За гэту хвіліну і ён сам быў узварушаны слязьмі старой. Зрабіў злосны выгляд і крыкнуў:

— Годзе слёзы ліць, ці што!

— Я так сабе...

Па зморшчаным твары Цыпрука раптам праплыла хітрая ўхмылка.

— Годзе, маці (цёплым тонам). Мікола не так каротка піша. Гэта толькі, як глянеш на паперу, здаецца, што мала. Ён навучыўся там, у Мінску, так лоўка пісаць, што кожная кропачка ў яго некалькі слоў. Вось што ён піша!

Стары стаў чытаць на памяць. У яго рэдакцыі ліст разбух. Ён сфабрыкаваў экспромтам, для супакоення маці, фальшыўку:

«Дарагі радзіцель Кіпрыян Міронавіч і любезная радзіцелька Марыя Антонаўна. Шлю вам сардэчнае прывітанне з нізкім паклонам і жалаю ад госпада бога нашага доўгага здравія і вечнага благапалучыя. Нізка кланяюся свайму дарагому брату Макару Кіпрыянавічу з любезнымі дзяцьмі. Жалаю ад госпада бога здравія і ўспеха ў дзялах. Яшчэ нізка кланяюся братавай паважанай...»

«Нізка кланяюся» цягнецца доўга. Жывым ланцугом

гэтыя традыцыйныя словы ахапляюць усю вёску, паасобку кожную хату, кожнага ў хаце — ад старых да малых.

Па твары Цыпрука цёплым аганьком разыходзіцца дабрадушная ўсмешка. Ён сам пачынае верыць, што так, слова ў слова, піша Мікола. Голас старога ўрачыста-паважны, сямейны, прытульны. Ён смакуе кожнае слова, як мёд:

«Прашу цябе очэнна і сардэчна, дарагі радзіцель, прыедзь па мяне ў Мінск, бо распускаюць рабфакаўцаў на зімовыя вакацыі».

Стары вызначыў гэтае слова паасобку, спыніўся і зірнуў на жонку з такім запытаннем, нібы пісьменны чалавек у слоўнік.

— Мудронае слова, ці што! Да яго сваім розумам я ўжо не дастукаюся.

Старая зноў пачала вочы выціраць. Цыпрук на яе задаволена зірнуў — слёзы радасці...

— Міколка прыедзе,— паўтарыла старая некалькі разоў.

«Навін ніякіх не пішу,— чытае далей Цыпрук.— Прыеду дамоў, усё па парадку раскажу, бо навін шмат, у лісце ўсяго не напішаш. Дзякаваць богу на небе, жыў і здароў, чаго і вам, мае родныя і любезныя, жадаю. Аб вас, радзіцелі старыя і адзіныя на свеце, вечна думаю і клапачуся. Вучуся добра, каб потым вам дапамагаць у бядзе ды ў горы, калі вам трэба будзе толькі на печы сядзець і грэцца, бо да ніякай працы не будзеце здатны. Я паступіў у кусамол, чаго і вам жадаю».

Тут ён зноў спыніўся. Задумаўся, утаропіў вочы ў печ, пачухаў бараду і патаемна ўсміхнуўся. Быццам гаварыў старой: «разумей, маці, як табе выгадней». Усхапіўся, як бы нешта раптам успомніў і скончыў скорагаворкай:

«Сваёю рукою подпіс падпісаў ваш дарагі сын Мікалай Кіпрыянаў Ярэмчык, які вам сардэчна і нізка кланяецца і чакае фурманкі, каб нецярпліва пабачыць сваіх радзіцеляў».

— У куса-мо-о-ол...— сказала старая на спеўны лад.— Глядзі, вунь куды гне!

— А кепска, ці што?

— Хто яго ведае! Не нам, старым, аб гэтым знаць.

— А чаму старым не знаць? — заартачыўся Цыпрук.— У старых мазгоў няма, ці што?

За час імправізацыі доўгага і цёплага ліста ад сына Цыпрук вырас у сваіх уласных вачах. Ён адчуў хоць не-

відочны, але нейкі грунт пад нагамі. Ён трохі падумаў і ўголас дакончыў:

— Добра Мікола зрабіў, што паступіў у кусамол. Будзе цяпер абарона ад рознай там кантрабанды і ад іншага ліха. Жартачкі, свой кусамолец! Вельмі разумна зрабіў.

— А хто яго ведае,— забедавала старая.— Кажуць, што кусамольцы бацькоў не слухаюць, не паважаюць. Кожны дзень жонак сваіх мяняюць. Бога не баяцца. Хто ж яго ведае...

Разважанняў жонкі Цыпрук не чуў. Ён зноў выскачыў з хаты і пайшоў да Солахаў. У Солахавых ён зрабіў выгляд, нібы зусім і не выходзіў адгэтуль і звярнуўся да Солаха-матроса:

— Як па-твойму?

Быццам гаварыў з Солахам доўгі час і спакойна працягвае далей бяседу.

— Што па-мойму?

— Мікола добра зрабіў, што паступіў у кусамол?

— А-а-а! Ты вось аб чым!

Былы матрос напусціў на сябе павагу бывалага чалавека.

— Гэта даўней было так. Калі я адслужыў у матросах шмат гадоў, дык даслужыўся толькі да чамаданчыка, каб дамоў прывезці тое-сёе. Ведаеш, што мае грошы ў банку прапалі. Цяпер не то-о-ое!

Тут Солах так усхапіўся з месца, нібы яго камар укусіў, заківаў адным пальцам у бок Цыпрука, і тон яго павысіўся ў ласкавай пагрозе:

— Глядзі, Цыпрук, твой Мікола туды-сюды і ў камісары выкруціцца! Цяпер гэта лёгка, не царскія часы. О-го! Помні маё слова — камісарам будзе!

Цыпрук падазрона зірнуў на Солаха. «Жартуе, ці што?» Але ў вачах Солаха была шчырасць. Упэўніўшыся ў гэтым, Цыпрук пакомкаў рукою бараду і размяклым голасам сказаў:

— Разумны ты, браце мой, чалавек, ці што... Шмат чаго бачыў ты, шмат дзе пабываў... Можа, з Міколы што добрае і выйдзе. Глядзі, і мне, бацьку, гонар!

Солах яшчэ раз кінуў пальцам у бок Цыпрука. У яго голасе зайграла зайздрасць:

— Тут можна і кароўку яшчэ адну набыць, і каня лепшага, ды наогул... Будзе ён на гаспадарку грошы прысылаць.

— Будзе прысылаць ці не, гэта ўжо маё, бацькава, справа, ці што...

Стары гэта прагаварыў у абарону ад розных людскіх гутарак пра яго, Цыпрукову, удачу... Ён дадаў з гонарам:

— Калі што якое, суседзе, дык ты адразу да мяне, а я да Міколы. Ён усё табе зробіць, што толькі трэба будзе!

Цыпрук радуецца. Словы Солаха аб камісарстве Міколы ён захоўвае ў сваёй памяці для жонкі: прынясе маці як падарунак, як добры дадатак да ліста. Такім чынам ліст Міколы разросся ў цэлую кнігу, якую стары бацька чытае і перачытвае пятае праз дзесятае. Усе старонкі гэтай кнігі ружовыя, сонечныя, радасныя: цёплая, забяспечаная старасць для бацькоў, пашана і гонар для ўсяе сям'і Ярэмчыкаў і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

Малады дзяцюк Саўка, сын матроса, сядзеў пры стале і нешта чытаў. Ён спачатку толькі адным вухам прыслухваўся да гутаркі.

Але пачуўшы аб меркаваннях старых, Саўка не выцерпеў, адлажыў кнігу, падняўся з свайго месца і голасна з абурэннем сказаў:

— Дык вось якія вы!

— А якія ж мы?! — здзівіўся яго бацька.

— Не зладзеі і не разбойнікі, ці што! — выказеліў вочы і Цыпрук.

— Хораша вы разумееце камсамол, няма чаго і казаць! Па-вашаму выходзіць, што ў камсамол паступаюць дзеля таго, каб зрабіцца камісарамі, а камісары толькі тое і робяць, што бацькоў грашмі абсыпаюць. Дзе вы бачылі такіх? Калі такія дзе і ёсць, дык іх вон выганяюць.

— Дык навошта ж ідуць у кусамол? — запытаўся яго бацька.

— І то праўда, навошта? — паўтарыў за ім Цыпрук.

Саўка застаўся з адчыненым ротам. Ён не ведаў, як ім, старым, тлумачыць. Не знаходзіў слоў.

А ў іх вясёлыя іскры ў вачах, кпліва на Саўку пазіраюць.

— Дык дзеля чаго ідуць у кусамол? — не адступае бацька.

— Ага, дзеля чаго? — зацікавіўся і Цыпрук.

«Як на экзамене ўсё роўна,— падумаў Саўка.— Старыя бяруць мяне на цыгундар».

— Для ідэі! — нарэшце сказаў ён.

— Для яды? Мы ж тое самае кажам,— узрадаваўся бацька.

— Не для яды, а для і-дэ-і!

— Што ж гэта за птушка — і-дэ-я? — падазроным голасам запытаўся бацька.

— Што ж за ядэя? — паўтарыў за ім, нібы водгалас, Цыпрук.

Вочы ў яго зрабіліся хітранькія і ад напружання слязлівыя. Яму вельмі важна было выявіць «кусамольскае» становішча сына...

— Ідэя — гэта тое, калі чалавек дбае не аб сваёй уласнай скуры, але думае аб іншых, калі стараецца наладзіць дабрабыт грамады. Вось як камуністы робяць.

Так тлумачыў Саўка старым і быў сам не ўпэўнены ў сваёй фармуліроўцы. Ён зараз жа скрытыкаваў сябе ў думках: «Ідэі бываюць у кожнага чалавека. Ёсць і буржуазныя ідэі». Для большай уласнай упэўненасці вытлумачыў ім слова «камсамол»:

— Камсамол — гэта Камуністычны Саюз Моладзі.

Старыя толькі галовамі ківалі і глыбакадумна казалі:

— Т-т-так...

— Та-а-ак...

Не мог Саўка зразумець гэтае «так»: ці яно азначае, што старыя яго зразумелі, ці наадварот. Яму было непрыемна ад свайго няўдалага тлумачэння, і зайздрасць да Міколы з'явілася...

Мары Цыпрука, так пышна ўзгадаваныя Саўкавым бацькам, страцілі сваю каляровасць. Стары не ведаў, ці радавацца яму, ці не такому здарэнню, што «яго» Мікола паступіў у «кусамол»...

Цыпрук з сынам едуць дахаты. Між сабою мала гутараць. Кожны заняты сваімі думкамі. Справу пра «кусамол» стары адлажыў да прыезду. Аб гэтым трэба гаварыць спакойна ды ў цяпле, каб добра раскумекаць... Мікола сядзіць побач з ім у вялізным жоўтым кажуху, пазычаным Цыпруком у суседа.

Лагодна і роўна падае зверху сняжок. Хтосьці прасейвае праз вялізныя сіты пытляваную муку.

З восені Мікола дома не быў. Цікава наведваць вёску, дзе нарадзіўся і вырас, паглядзець старую матку, усіх сваіх, суседзяў, Сёмку Солаха, які чамусьці застаўся сёлета дома.

Кіпела ўлетку праца ў гэтай вёсцы. Звычайная сялянская праца сваім чынам, але гэта праца была асаблівая,

незвычайная. Мікола і яшчэ некалькі вясковых хлапцоў арганізавалі тады людзей на праўку грэблі. Цяжка было спачатку. Як пагаварылі аб гэтым перад грамадою, дык думалі, што гэта жарт, і пробавалі таксама жартаваць:

— Сумна тады стане ў нас і ціха, як у пустцы.

— Цяпер, прынамсі, людзі збіраюцца, талакою падарожныя фурманкі з балота выцягваем.

— Наша быдла будзе мець на сабе адзнак, як асушым дарогу.

— Куды мы дзенем калы-струмэнты?

— У выпадку вайны ворагу дарогу для пераправы лепшую зробім.

— Ды мы прывыклі да гэтага балота. Нам яно не перашкаджае.

А калі з тлумачэнняў пабачылі, што ўсур'ёз гавораць аб папраўцы грэблі, пачалі зноў аднекваццa:

— Я адзін нічога не зраблю.

— Часу няма гэтым займацца.

— Не лёгкая гэта работа.

— Ці ўсе пойдуць?

— Я пайду, але няхай іншыя пачынаюць.

Страшна было людзям брацца за гэту працу. Не ведалі, што можна будзе зрабіць... Быў тады спынак паміж сенакосам і жнівом. Можна было вырваць у лета некалькі дзён працы. Было цёпла. Сонца ярка свяціла. Абапал грэблі стаялі свежыя стагі, якія цягнуліся шэрагамі аж пад самы лес.

Мікола і Саўка і яшчэ некалькі хлапцоў з рыдлёўкамі ў руках пайшлі на грэблю. Пачалі капаць канаву. Прыйшлі некаторыя паглядзець на працу і пакпіць. Няёмка стала вяскоўцам. Спачатку яны бралі рыдлёўкі з рук дзецюкоў:

«Каб тыя адсапліся».

Пасля пайшлі дамоў па рыдлёўкі.

«Да вечара папрацуем...»

За гэтымі прыйшлі яшчэ... Кожны думаў:

«Як жа ж так? Сусед будзе працаваць, а я не? — сорамна...»

А як пачалі, дык ужо трэба канчаць:

— Дудкі! Зробім!..

На другі дзень Мікола і Саўка зрабіліся галоўнымі «інжынерамі». Працавала ўся вёска... Гуртам пракапалі абапал дарогі глыбокія канавы. Талакою вазілі лапкі, жэрдзі, бярвенне, пясок, каменне.

Шумна было і весела. Пры рабоце песні зацягвалі. Пачне адзін на жарт, і падхопяць усе. Праз некалькі дзён было ўсё зроблена...

Мучыліся людзі тут гадамі, дзесяткамі год...

Горача было тады на сэрцы ў Міколы. Ён заўважыў, што ў Саўкі па-новаму вочы блішчаць. Ніколі ў таго гэткай радасці не было.

Кончылі работу, і некаторыя са старых запыталіся:

— А што цяпер?

— Вось каб так гаспадарку талакою... Мабыць, кіпела б...— сказаў хтосьці.

— І гэта будзе! — крыкнуў Саўка.

— Іш ты, малакасос! — буркнуў другі.

Падышоў да грэблі стары Цыпрук. Доўгім удумёным позіркам зірнуў на грэблю, на людзей і пасмутнеў. Патупаўся туды і сюды і нешта мармытаў пад нос.

— Што ты, Цыпрук, квокчаш? Не падабаецца? Гэта ж твой сынок тут адзін з першых!

Цыпрук махнуў рукой і адышоў убок.

Суседка тлумачыла:

— Кіятар Цыпруковы разбурылі. Ён жа заўсёды першым прыходзіў вазы выцягваць з балота. Ён жа тут гутаркі заўсёды з людзьмі заводзіў...

Мікола чамусьці пачырванеў, а стары бацька яго пры гэтых словах ажывіўся і давай расказваць розныя прыгоды: як калісьці нейкі пан даў яму рубля за тое, што памог выцягнуць фаэтон з балота; як воз яек хтосьці перавярнуў у балота; як часта коні ногі выкручвалі ў гэтым месцы; як пазнаёміўся тут з аграномам. Нарэшце Цыпрук плюнуў і сказаў:

— А ведаеце, добра, што навялі тут лад. Нямала і я гараваў тут над горам людскім. Хадзем, Мікола, палуднаваць, ці што.

Усе зарагаталі з такога пацешнага канца Цыпруковай жаласлівасці да ранейшага топкага месца.

Пасля гэтага вяскоўцы цэлы тыдзень адскрабалі закарэлую гразь з свае жывёлы...

Пацямнела. Значна пасінеў абшар. Далі пачалі мутнець і зліваццa з сінню. Снег ціха падае, кладзецца роўнымі пластамі на спіну каня, на сані і кажухі Цыпрука і Міколы.

З нецярплівасцю Мікола чакаў пасяджэння ячэйкі, дзе павінна была разглядацца яго справа аб паступленні ў камсамол. Як падаў заяву, дык некалькі дзён хадзіў з павышанай тэмпературай, як жартавалі таварышы. Нешта святочнае мільгала перад яго вачыма. Расла жвавасць, ахвота да вучобы, захацелася як найбольш займацца грамадскай працай. Ён пачаў адчуваць сябе адным з шчырых удзельнікаў у перабудаванні жыцця. Ужо некалькі тыдняў перад падачай заявы ён працаваў у адной школе па ліквідацыі непісьменнасці, у якой вучыліся хатнія работніцы. Выкладаў там тры разы на тыдзень. Спачатку было трохі няёмка. Некаторыя касавурыліся на яго, некаторыя хіхікалі. Закарузлымі ад чысткі бульбы, ад кухні пальцамі яны выводзілі буйныя нязграбныя літары. Лягчэй чымся з чытаннем і пісаннем было з матэматыкай. Тут з дарослымі работніцамі ішло шпарчэй. Бадай усе яны былі з вёскі. Мікола адчуваў да іх асаблівую блізкасць. Пачаў уводзіць у сваю працу жывыя гутаркі, чытаў ім газеты, тлумачыў. Раіў ім, як трымацца, каб гаспадары іх не эксплуатавалі, каб паступалі на фабрыкі.

— Нешта наш настаўнік больш жвавым зрабіўся,— чуў Мікола шэпт сярод дзяўчат.

«Заўважылі ў мяне перамену,— падумаў ён.— Заява ў ячэйку».

На ўсіх рабфакаўскіх сходах ён стараўся выступаць адным з першых.

«Няўжо ж я так стараюся спецыяльна дзеля прыёму ў камсамол? — Не, я так працаваў, калі яшчэ аб гэтым не думаў. А можа? Я самога сябе яшчэ добра не ведаю...»

Аб чым ён ні думаў, што ні рабіў, гэту заяву кожны раз успамінаў. Кожны раз яна асвятляла яго думкі яркай маланкай.

Два дні да пасяджэння ячэйкі Мікола пачаў хвалявацца:

«А можа, будзе правал? Хлопцы вялікія майстры задаваць розныя закавырыстыя запытанні...»

Уявіў сабе, як на гэтым сходзе ён зробіцца на некаторы час цэнтрам увагі. Сакратар ячэйкі, чарнявы хлопец, не паводле гадоў сур'ёзны, прачытае спачатку яго, Міколы, заяву, кароткую біяграфію. Пасля гэтага ўтаропіць у яго вочы. Мікола добра ведае гэтыя шэрыя пранізваючыя вочы. Яшчэ як яму заяву падаў, той зірнуў на Міколу пранікліва, доўга. Здаецца, самыя затоеныя думкі Міколы чытаў. Мікола не вытрымаў гэтага позірку і апус-

ціў вочы. «Добра,— сказаў сакратар,— абгаворым тваю заяву на бюро, а там пабачым».

Бюро згадзілася. І вось дайшло да агульнага адчыненага сходу ячэйкі... Тут самае галоўнае... Як пачнуць прабіраць яго, разбіраць па костачках. Ён сам сябе тады пазнае. Таварышы растлумачаць, які ён сапраўды ёсць, хто ён і што ён. Трохі непрыемна будзе з непрывычкі, але затое карысна для яго самога.

Пры дарозе мільганулі аганькі сялянскіх хатак. Снег пасінеў. Хацелася ад непрытульнай дарогі накіраваць каня да хатак, да цёплага прытулку.

Пачнуць на сходзе пытацца:

— Чым ён дома займаўся?

— Што ён зрабіў для бядняцкай грамады на вёсцы?

— Хто яго бацькі?

— Колькі ў іх зямлі?

І яшчэ і яшчэ.

Мікола тады сам сабе пачаў даваць ацэнку:

«Вось грэблю паправіў — плюс. Хацеў у мінулым годзе ліквідаваць непісьменнасць у роднай вёсцы. Гаварыў з Саўкам на гэту тэму, але так і засталося — мінус».

Налічыў яшчэ некалькі плюсаў і мінусаў.

Вострым шклом разанула справа з судом яго бацькі. Аштрафавалі яго за кантрабанду на пяцьдзесят рублёў... Але ж бацька не быў вінаваты...

«А можа, быў вінаваты? Адкуль у яго потым з'явіліся грошы, каб купіць другую карову? Гэты прайдоха Крушынскі. А можа, нават і не ён? Ліха яго ведае. Ніякіх вынікаў не было пасля заявы, якую я падаў на Крушынскага...»

Падачу заявы ён плюсам для сябе не лічыў... Падаў толькі пасля таго, калі родны бацька пацярпеў ад гэтага...

Мікола атрапаў снег з кажуха і паправіў пад сабою сядзенне.

— Дай мне, тата, лейцы.

Узяў лейцы, па-заліхвацку свіснуў, сцебануў каня, і конь шпарка пабег.

— Ты, сынку, не па-гаспадарску. Шкада каня. Спа-

цее, ці што. Маці ад нас не ўцячэ, калі на гадзіну пазней прыедзем.

Стары забраў лейцы з рук сына, і конь зноў патрухаў дробным крокам.

Лысы чалавек з доўгімі вусамі ў дажджавым плашчы прынёс Міколу ў інтэрнат пасылку ад бацькоў — два сыры і кавалак сала. Лысы абыходзіў усе паверхі, ледзь не ўсе пакоі, пакуль знайшоў рабфакаўца. Мікола дзякаваў. Пазнаёміўся з гэтым чалавекам.

— Ярэмчык.

— Крушынскі.

«Ці не той, на якога я заяву падаў?»

Нялоўка стала перад надзвычайна ветлівым лысым.

«Непадобен ён да кантрабандыста».

— Вы не з Курганішча?

— З Курганішча...

Вочы лысага заблішчалі. Мікола заўважыў перамену ў выразе яго твару. Не мог уцяміць.

«Гэта выяўленне здаволенасці, што аб ім усе ведаюць, ці, можа, дзеля гэтага самага нездаволенасць?»

Нешта знаёмае ўгледзеў Мікола.

Успомніў.

Бачыў партрэт Крушынскага ў газеце. Артыкул аб ім чытаў.

— Не пра вас у газетах пісалі?

Ціхі, рахманы голас:

— Пра мяне... Цяпер да доктара прыехаў. Нездароў.

— У вас стомлены выгляд. Садзіцеся.

І ў думках:

«Пэўна, гэта адны плёткі, што кантрабандай займаецца. Але культурная гаспадарка, малочная, сад, пчолы, добрыя коні і ўсё такое... Такім чынам падтрымліваюцца вясковыя багатыры... Не разумею... Мабыць, яшчэ мала разумею ў эканамічных справах... Трэба падвучыцца...»

Надакучыла аднастайная сінь зімовага вечара. Захацелася хутчэй дахаты. Ногі празяблі. Мікола саскочыў з санак і пусціўся бягом. Бег, пакуль не стала горача. Зноў сеў.

З прыёмам у камсамол выйшла зусім не так, як ён меркаваў.

На павестцы дня стаяла шмат пытанняў. Спачатку былі два вялізныя даклады, гарачыя спрэчкі па іх, у якіх ён таксама прымаў удзел. Таварышы былі трохі стомлены пасля дакладаў. Яго справа ў аддзеле «бягучых». Не было той урачыстасці, якую ён сабе ўяўляў. Выпалі і фокусныя запытанні па палітграмаце і іншых прадметах. Ён сам даў гэтаму тлумачэнне:

«Ячэйка ведае мяне ўжо другі год. Увесь час да мяне прыглядаліся. Я выконваў розныя заданні».

Пры выхадзе са сходу яго затрымаў сакратар, ахапіў яго з галавы да ног свойскім вокам, ляпнуў па плячах і сказаў:

— Глядзі! Мы ўсе за цябе цяпер адказваем.

Пасля гэтага Мікола адчуваў сябе як тады, калі разам з грамадою будаваў грэблю: мацней, чым раней.

«Камсамол ва ўсім Саюзе дапамагае партыі будаваць сацыялізм, ва ўсім свеце змагаецца супраць эксплуататараў».

Надзвычайная радасць агарнула яго. Хоць шмат абавязкаў выконваў раней, але цяпер трэба яшчэ болей старанна працаваць. Не пісаць заяваў толькі тады, калі ад злаўчынкаў пацярпела яго сям'я. Сям'я ў яго цяпер вялікая — мільёны, усе працоўныя...

«Бацькі?»

Халадок пранізваў яго. Вельмі строга пачаў да іх адносіцца.

«Бацькі, праўда, бедныя, але ўсё жыццё імкнуцца стаць багатымі... Дбаюць толькі аб сабе».

«Можа, і цяпер бацька думае, што сын-камсамолец дапаможа яму «падняцца на ногі», гэта значыць стаць кулаком».

«І навошта я пісаў дамоў, што паступіў у камсамол?»

«Абавязкова пайду на фабрыку, каб вытруціць з сябе рэшткі сялянска-ўласніцкіх настрояў... Яны, пэўна, у мяне ёсць... хоць сам іх не прыкмячаю».

Снег ужо не падае. Па шкляным цёмна-сінім небе мігцяць зоркі — буйныя, бліскучыя.

Стары бацька, заняты канём, цмокае, нукае, размаўляе з ім на не вядомай для іншых мове.

Мікола чуе ў голасе бацькі да каня не то крыўду, не то злосць.

«Гэта ж бадай усю дарогу з бацькам не размаўляем...

Сядзім абодва плячо ў плячо і як чужыя... Ды яшчэ горш. У вагоне, напрыклад, чужыя людзі, якія толькі першы раз у жыцці сустрэліся, таксама зближаюцца».

— Н-н-ну! — кажа бацька каню і скоса паглядае на Міколу.

«Няма аб чым гаварыць з родным бацькам».

Мікола шукае тэмы для гутаркі. Смяецца сам з сабою. Усё роўна як у рабфаку на тэму пісаць. Аб чым жа з ім? Ага...

— Як гэта праз Крушынскага мне пасылку прыслалі? Ці не быў ты ў яго, тата?

Стары схамянуўся. Нібы ад сну прабудзіўся.

— Ты да мяне, ці што? Крушынскі, кажаш? Ён быў праездам. Ехаў каля нас. Я праз акно ўгледзеў. Выскачыў, папрасіў яго пачакаць і даў яму торбачку. Пасылка ляжала некалькі дзён. Усё не было праз каго паслаць.

— Як гэта ты турбаваў чужога чалавека?

— Крадзенае даў яму для роднага сына, ці што?

Стары павярнуўся шчыльней да Міколы:

— Для роднага сына...

Голас бацькі зрабіўся больш блізкім. Міколу стала так нялоўка, жаласліва, ажна ком падступіў да горла...

«Вось і адкажыся ад бацькоў толькі за тое, што імкнуліся ўсё жыццё стаць багатымі, а жывуць вечна ў беднасці...»

Стары тым часам цягнуў сваю аповесць:

— Маці так узрадавалася, што ўдалося паслаць. Адзін сыр яна ў суседкі пазычыла... Кавалак сала таксама пазычаны... Толькі нядаўна аддалі, як свайго парсючка закалолі...

Кожнае слова бацькі рэзала Міколу як нажом. Надзвычайная жаласць размякчыла яго. Зірнуў на бацькаву шапку. Той насіў яе яшчэ тады, як Мікола быў малым хлапчуком... Яна такая аблезлая і старая, што яму было сорамна, як бацька з'явіўся ў інтэрнат...

«Вось табе і камсамолец!» — папракаў сам сябе Мікола.

— Навошта было пасылаць? — звярнуўся ён да бацькі.

— Як навошта?! Каб ты там галадаў, ці што? Маці толькі і бядуе аб тым, што ты, можа, чаго есці не маеш...

Жаласлівасць да бацькоў расла з кожным словам бацькі. Сэрца сашчамілася.

— Ды ў нас на рабфаку ўсяго досыць ёсць. Я падзяліў сыры і сала між таварышамі...

— Як жа так?! Не можна, сынок, дабром раскідвацца... Але твая, сынок, справа, толькі маці не гавары, а то бедавацъ будзе, што ты сам не еў...

Адпала пры гэтых словах жаласлівасць да бацькоў. Бацькавы словы «не раскідвацца дабром» вытруцілі цёплае пачуццё.

«Але маці... яна баіцца, каб я не галадаў».

Бацька тым часам бубніў над ім жаласлівыя словы:

— Мы ж цябе выгадавалі. Мы ж хочам, каб ты не галадаў, каб здаровым быў. Яшчэ некалькі год — і ўся наша апора будзе на цябе. У мяне, сынок, раматус у нагах. Усю зіму на печы сяджу...

— Крушынскага добра знаеш? — павёў Мікола гутарку ў іншы бок.

— А як жа! Што я — сваіх суседзяў у нашай ваколіцы не ведаю, ці што? Гэта ж той самы праязджаў, калі я пакуначак з кантрабандай знайшоў.

— Як табе здаецца, пакуначак быў яго?

— Не! Не яго! Тут рознага народу па дарозе бывае, ці што!

— Можа, праўда, і не яго...

— То-то ж я і кажу! — узрадаваўся бацька.— Ён-то цяпер ляжыць хворы. Кажуць, хутка памрэ.

— Ён і тады мне гаварыў, што да доктара едзе.

— І мне казаў.

Змоўклі.

«Адвык я ад бацькоў за той час, што я ў Мінску».

Яркі серп месяца плыў разам з санкамі і ўвесь час быў супроць Міколы.

«Яшчэ пара гадзін, і маці будзе клапаціцца вакол мяне. Пэўна, у печы на вялізнай скаварадзе аржаныя бліны ў сале топяцца».

«Стары твар маці зморшчаны, зморшчаны.

Вочы яе так ласкава на мяне заўсёды пазіраюць... Яны нейк асабліва свецяцца бледнымі агеньчыкамі... Яна згорбленая. Сапраўды ёй ужо цяжка працаваць. А, пэўна, сёння, як угледзіць мяне, рухавай і жвавай зробіцца. Пачне малітвы шаптаць...»

Яго думкі, цёплыя і затоеныя, перабіў бацька.

— Ведаеш, сынку, нам трэба было набыць лепшага каня. Гэты ўжо вельмі стары. Пры тваёй памяці іншага ў мяне не было... Мне трэба рублёў трыццаць, а ў маці захавана толькі каля дзесяці рублёў... Потым тое-сёе ў гаспадарцы. Ды што я табе кажу, не ведаеш, ці што?

Мікола добра ведае свайго бацьку: у таго голас цяпер штучны, жаласлівы.

Праз кароткі час стары дадаў:

— Ты, праўда, ужо гарадскім стаў. Можа, забыўся пра нашыя гаспадарчыя справы.

І яшчэ дадаў:

— Маці казала, можа, ты што параіш...

Некалькі разоў пацягнуў лейцы і чакаў адказу. Сын маўчаў. Тады ён падсунуў да сына заільдзянелую калматую бародку і запытаўся:

— Дык ты пішаш, што паступіў у кусамол, ці што?

Мікола зразумеў, што бацька пачынае глыбей закідаць вудачку.

«Навошта мне было старым аб гэтым пісаць?»

І сам сабе адказаў: «Гэта я з вялікай радасці...»

2

## РАК

Прыехаў да Крушынскага «Леў Талстой». Урачыста ўвайшоў у хату, выставіў перад сабою сваю белую бараду, нібы сцяг міру. Але вочы яго блішчалі зусім не на мірны лад. Строгія і чужыя.

Перад сваім неспадзяваным селькорам Крушынскі гасцінна патупаўся, рыхтаваўся да цёплай гутаркі. Рот старога на гэты раз быў сціснуты, схаваны ў вусах і барадзе.

— Што там у вас у Гайдачанах? Якія навіны? — пытаўся Крушынскі.

— Эт! — махнуў рукою «Леў Талстой».— Тоісь нічога не чуваць...

Крушынскі адчуў, што стары нешта зусім іншае хоча яму сказаць і слоў не знаходзіць.

«Відаць, нешта для мяне непрыемнае»,— падумаў Крушынскі. Настаражыўся. Цярпліва чакаў. Нарэшце стары загаварыў:

— Ведаеце, суседзе? Мы з жонкаю сварыліся некалькі дзён. Тоісь жонка на мяне крычала і называла па-рознаму. Так.

— Усяляк паміж мужам і жонкаю бывае,— спачувальна сказаў Крушынскі.

«Леў Талстой» як бы не чуў яго заўвагі. Гаварыў далей:

— Што мы, кажа яна, жабракі, тоісь галодныя? Нашто табе жыта чужое, Крушынскага? — пытаецца ў мяне жонка.

— Як чужое?! Гэта ж маё! Даў я за карэспандэнцыю! Мы ж суседзі!

«Леў Талстой» паморшчыўся:

— Я, трэба прызнацца, і сам толькі назаўтра агледзеўся, што мяшок жыта ў сенцах стаіць. Так. Я і тлумачыў жонцы: п'яны, кажу, быў. Так. Дык жонка на гэта: адвязі ды адвязі назад, а то сорам! І не думай болей піць, бо гэта табе на галаву шкодзіць. Так. Я кажу, сама адвязі, бо мне няёмка. Яна мне на гэта тыц у вочы сівым памялом, тоісь абазвала сівым памялом і гэтак далей. Так. Вось я і прывёз, тоісь жыта. Трэба прызнацца, дзякую, суседзе, за дабро, але няхай ваша дабро, як мая старая кажа, пры вас будзе. Так!

— Та-а-ак! — нібы водгук такнуў і Крушынскі.

Было вельмі непрыемна: першы выпадак, калі чалавек адмовіўся ад яго падарункаў.

«Здаецца, на хабары добрую школу калісьці ў земскага начальніка праходзіў»,— падумаў Крушынскі.

Зараз жа знайшоў тлумачэнне: «Жонка кіруе старым...»

Хацеў быў запытацца, ці пашле карэспандэнцыю аб гайдачанах у рэдакцыю, але падумаў, што лепш аб гэтым цяпер не гаварыць.

«Даў жа старому жыта за тое, каб не друкаваў, і вось што выходзіць...»

Гэта быў ужо другі выпадак, калі чалавек выбыў з «рэспублікі» Крушынскага.

Першым быў аграном — дзівак той, а вось другі дзівак — «Леў Талстой». Але той на развітанне вырваў пяцьсот рублёў. Розныя бываюць на свеце дзівакі...

Крушынскаму было не па сабе. Ён адчуваў, што з адыходам гэтых двух карысных для яго людзей змяншаюцца яго сілы, яго магчымасці.

«Будзе цяжэй працаваць...»

Не стрымаўся. Па-воўчаму ляпнуў зубамі і ўтаропіўся ў «Льва Талстога» злоснымі вачыма.

Стары гэта запрыкмеціў і з асаблівым гонарам развітаўся з ім.

Прасіў некалькі разоў прабачэння за турботы, часта паўтараў «тоісь», «так», «трэба прызнацца» і сунуўся да дзвярэй задам, нібы бараніўся ад гаспадара белай барадою.

Крушынскі чуў, як «Леў Талстой» ляпнуў клямкай у сенцах і смялейшым крокам дабег да свайго каня.

«Відаць, баіцца, каб я за ім не пагнаўся».

Зірнуў з зацікаўленасцю праз акно.

«Леў Талстой» спрытна ўскочыў на воз, схваціў лейцы і сцебануў пугай каня. Па гладкім дзядзінцы конь шпарка пабег.

Крушынскі аж нагамі затупаў ад злосці і ўголас сказаў:

— Стары прахвост! Дурны як бот! Думае, што лепшы за мяне.

Ён выскачыў на ганак.

Мяшок жыта ляжаў на зямлі каля самага ганка, як тулава кабана. Крушынскі азірнуўся ва ўсе бакі.

«На дзядзінцы ні жывой душы».

Урэпіўся рукамі ў мяшок і лёгка занёс у сенцы.

Зараз жа ўвайшоў у бакавы ад «салона» пакой і лёг на ложку.

Злаваўся цэлы дзень.

Гэта было ўвосень.

Па ваколіцы ўсе ведалі.

Крушынскі захварэў на рак і ляжыць у ложку ўжо доўгі час.

Галава і Сухарукі спрачаліся: што гэта за яно — рак.

Паводле Галавы:

— Крушынскі глытнуў маленечкага рака. Улетку часта піў з рэчкі. Рак вырас у вантробах чалавека і грызе яго нутро. Мінскія дактары яму гаварылі, што памрэ. Каму па каму, а Крушынскаму два камы!

Паводле Сухарукага:

— Гэты самы рак не ад вады, а нейкая жывая штучка мазгі грызе ў чалавека. Глядзі, Крушынскі багаты чалавек, а ўсё роўна яму каюк. Што ж, альбо рыбка, альбо піпка!

Дзівіліся суседзі:

— Чаму гэта Сымон Чарнюк, родны бацька, яго не лечыць?

Паўзлі чуткі па вёсках, па хутарах, ад чалавека да чалавека:

— Крушынскі паміраe...

У гэты час лавілі людзей з кантрабандай на граніцы, высылалі іх кудысьці далёка на поўнач. Сціхла на мяжы. Хто з людзей дапамагаў вазіць і пераносіць замежны та-

вар, хаваўся па шчылінах і ціханька, дрыжучы, чакаў, пакуль сціхне бура.

Крушынскі ляжаў у бакавым пакоі побач з «салонам». Адзінае акно ўваходзіла ў сад. Яно здавалася хвораму вокам вялікага свету. Ён праз шыбы назіраў за тым, як надыходзіла восень, як яна шалясцела па дрэвах, шуршала сцвярдзелым, як бляха, лісцем. Сад пажаўцеў. Разам з хмарамі колеру волава, якія віселі цяжкімі футрамі над зямлёй, завандравалі вятры. Яны скублі, нібы пер'е з курэй, лісцё з адранцвянелых дрэў, гудзелі, свісталі за акном, сцёбалі веццем у сцяну і клікалі хворага:

— Ідзі да нас. Мы цябе памчым на граніцу. Ночы цяпер вільготныя і цёмныя. Ідзі да нас...

Крушынскі стагнаў.

Настачка і Мзей, малыя дзеці хворага, шушукаліся ў «салоне».

— Татка хворы...

Галасы трывожныя. Вочы спалоханыя.

Жонка Крушынскага больш чым раней цяпер занята гаспадаркаю. Часта падыходзіць да мужа, раіцца аб тым ды аб сім.

— Можа, адправім цяпер Стэфку? Трэба ж вельмі яе асцерагацца...

У шапатлівым голасе жонкі захаваная радасць.

— Не можна цяпер. Яшчэ нам шкоды наробіць. Няхай бавіцца ў салоне з дзяцьмі.

Калі дзеці пробавалі спяваць, граць на старым папсутым фартэпіяна альбо скакаць, цёця Стэфка гаварыла трывожным голасам.

— Татка хворы...

Але хворы прасіў:

— Не звяртайце ўвагі на мяне. Мне весялей, калі шум у хаце. Тады забываюся аб хваробе.

Дзівілася Стэфка такому хвораму.

Як стада авец праз вузкія вароты, чаргаваліся адны за аднымі суткі. Марудна соўваліся дні стомленымі вандроўнікамі, апранутымі ў светла-шэрыя світкі. Ледзь краталіся з месца ночы — у цёмных бурнусах. У вачах хворага, які пагарадзіўся ад жыцця ў чатырох сценках невялікага пакоіка, кожныя суткі здаваліся годам, нудным і змрочным, праз меру марудным часам, ад якога няма дзе дзецца, які пятлёю зацягваецца вакол шыі... Хворы зрабіўся нервовым, прыдзірлівым, як малое дзіця, зварочваў увагу на дробязь. Ніяк з ядою не маглі ўгадзіць. Часам ляжаў на

ложку і затуманенымі вачыма глядзеў у акно. Часам сядзеў пры століку і кніжку чытаў. Калі-нікалі пляшка гарэлкі стаяла на стале.

Яго свідравала адна думка, драпала, нібы кот кіпцюрамі:

— Калі ўжо мінскія сваякі ліст прышлюць?

Кожны дзень некалькі бліскучых сонечных нітак аплятаді яго надзвычайным цяплом. У такія хвіліны яму здавалася, што варта хварэць. Стэфка ціха стукне ў дзверы яго пакоя і запытаецца:

— Можна да вас?

— Зараз...

Хворы ўзбярэцца на ложак (калі ў той час пры стале сядзіць), укутаецца коўдрай, ляжыць млявы і ледзь-ледзь крэхча...

— Калі ласка, заходзьце...— кажа ён літаслівым голасам.

Стэфка скрыпне дзвярмі, уваходзіць і аглядаецца па баках. Шукае ў абсталяванні пакоя бальнічнага смутку. На акне бутэлечкі з лякарствамі, шпрыц і ампулкі для падскурнага ўспрыскваиня. Твар Крушынскага бледны, аброс барадою. Хворы ледзь чутна войкае.

Ведае Стэфка, што ён памрэ. Яна чула аб гэтым ад яго жонкі. Усе Дразды і Дзятлы кажуць тое самае. Стэфка глядзіць на хворага з жалем у вачах. Ён гэта заўважае і пачынае мацней стагнаць...

— Можа, вам падушку паправіць? Вам не кепска ляжаць? Ці лякарства падаць?

Яна не ведае, што трэба рабіць з чалавекам, які, можа, праз месяц-два будзе ляжаць у магіле...

«Ён, бедны, можа, й не ведае, што хутка памрэ. Нават дактары адмовіліся лячыць яго...»

Памагае хвораму сесці. Злямцаваная падушка робіцца ў яе руках пухкай і свежай. Хворы зноў кладзецца, спакорлівы, як дзіця. Яна асцярожна прыкрывае яго коўдрай. Хворы праз меру туліцца да яе, Стэфкі. Ад яе, маладой, здароўя набрацца хоча. Па-асабліваму, не так, як заўсёды, блішчаць яго вочы. Спачатку Стэфцы непрыемна, а пасля страшна. Каб не пакрыўдзіць хворага, нібы не прыкмячае.

«Трэба як найхутчэй выбрацца з яго пакоя».

За ўвесь час толькі адзін раз з'ездзіла да сваіх у Мінск. Хворы даў ёй употайкі ад жонкі трыццаць рублёў для бацькоў. Хаця не вельмі хацелася, але зноў сюды вярну-

лася. Маці прасіла. Гэтыя грошы былі вялікай дапамогай для сям'і.

Мяняліся дні.

На раніцу зямля цвярдзела, як чэрствы хлеб. А калі замаразкі высмакталі вільгаць з глебы, яна зрабілася гулкай і зычнай. Кожны крок па зямлі быў стукам па пустой бочцы. Звінела глеба. Паветра лілося ў грудзі халодным пітвом. З рота плылі сіняватыя дымкі пары. А вось снег закружыўся над зямлёй. Спачатку ён знікаў удзень ад сонца, а потым улёгся на зямлі, прымасціўся на доўгі час. Намяло вялізныя гурбы. Вятры пачалі іх перакідваць з месца на месца, аблізваць беражкі, прэсаваць і шліфаваць.

У сонечна-снежныя дні Стэфка выводзіла дзяцей на дзядзінец. Цёпла апранутыя, яны весела шумелі і зусім холаду не баяліся. Цэлымі днямі гула ў таку малатарня. Мітусіліся людзі, і жыццё кіпела ў Курганішчы не менш, чым улетку. Адно толькі — сам гаспадар хворы. Не чуваць яго каманды. За ўсім глядзіць жонка. Яна за гэты час парухавела і гаворыць з большай, чым раней, упэўненасцю. Нават твар яе змяніўся. У жоўтым кароткім кажушку яна мітусіцца па белым дзядзінцы ад гумна да хлявоў і ад хлявоў да гумна.

Стэфка запрыкмеціла, што гаспадыня адносіцца да яе куды горш, чым раней.

«Як толькі гаспадар памрэ, зараз жа паеду ў Мінск».

Хутка забывалася аб такіх думках. Скрыпеў снег пад нагамі. Сляпілі вочы змурудныя іскры. Абшар, як вокам кінуць, да краю шараватага лесу, белы, белы... Гэта надавала своеасаблівую вясёласць. Часта хадзілі на рэчку. З горада канькі прывезла. Слізгалася па люстраным лёдзе. Імчалася так, ажна ў ціхім надвор'і адчувала вецер на твары, ажна горача станавілася. Брала з сабою і дзяцей. Прывыкла да іх, палюбіла...

Але вось...

У адзін міг усё змянілася Яна перастала спаць па начах. Кожны раз з нецярплівасцю чакала светлых ранічных палосак у шчылінах аканіц. Тады ціха выходзіла адна на дзядзінец. Малатарня гула. Стэфка не хадзіла ў бок гумна, каб людзі не заўважылі. Брыла па сінім гладкім нечапаным снезе. У першы раз па ім гэтай зімою чалавечыя сляды пакідала. Вочы яе блукалі па абшары і нічога, апрача мутнаватай сіні, не бачылі. Яе позірк быў захаваны ўнутры. Нядаўна адбылося нешта адно вельмі жудаснае

ў яе жыцці. Як ні старалася яна ўявіць гэта жыва ў сваім выбражэнні — не магла.

«Страшна».

Жудасная хвіліна расплывалася плямай, залівала яе памяць, нібы рану крывёю.

Ходзіць Стэфка адна па нечапаным снезе і холаду не адчувае. Хутка вяртаецца дамоў, каб гаспадыня не заўважыла яе збянтэжанасці.

«Ехаць у Мінск? Але матка, сястра... Сляпая матка па голасу пазнае, сястра — па вачах».

У «салоне», як нікога няма, яна сціскае твар рукамі, зачыняе вочы і застывае.

Яна пайшла да «яго» паправіць падушку. Жаласлівасць да хворага... «Ён» моцнымі, не як у хворага, рукамі схапіў яе...

Яна хацела крыкнуць, але ён адной рукою заціснуў ёй рот...

— Маўчы! — шаптаў ён.— Кіну жонку і цябе вазьму. Я выздаравею...

Гудзе малатарня на гумне. Мітусіцца па дзядзінцы жоўты кажушок гаспадыні.

Адзін толькі раз за гэты час у Курганішча прыехаў новы аграном замест ранейшага сябра Крушынскага Івана Мацвеевіча.

Крушынскі абкружыў сябе цэлай галерэяй разнастайных бутэлечак з лякарствамі і войкаў больш чым заўсёды. У гэтым жа пакоі частавалі абедам агранома. Хворы да яго прыглядаўся. Малады, маўклівы, толькі пра гаспадарку і гаворыць. Праўда, раней запытаўся, ці хворы цяпер цікавіцца гэтым, ці не стоміцца, калі гутарыць пра гаспадарку.

— Калі ласка, калі ласка! — ажывіўся хворы.— Хаця мне цяжка, хаця вясной, можа, пад маёй трунoю трава нарасце, але пакуль чалавек жыве, усім цікавіцца. Я ж працую толькі на карысць дзяржавы. Я ж... Але што аб гэтым гаварыць. Самі, пэўна, чыталі аба мне ў газетах...

— А як жа, а як жа!

— Я і сваёй смерцю карысць прынясу: ужо загадаў, у выпадку чаго, хаваць мяне па-новаму, без крыжоў, з песняю: «Вы жэртваю палі»...

Хворы выцер вочы. Шэптам:

— А памерці, аднак, яшчэ не хочацца. Падайце мне, будзьце ласкавы, тую бутэлечку.

Хворы ў лыжачку налічыў дваццаць кропель, даліў вадою, выпіў і паморшчыўся:

— Горкае як палын...

Аграном глядзеў на яго з той нялоўкасцю, з якой заўсёды здаровы глядзіць на хворага.

Патупаўся на месцы і запытаўся:

— Можа, вас не турбаваць, а гаварыць пра гаспадарку з гаспадыняй?.. Альбо другім разам, як ваша здароўе паправіцца? Ад рака таксама ачуньваюць. А можа, у вас і не рак...

— Вы мне, таварыш... таварыш...

— Кавалькевіч...— падказаў аграном.

— Вы мне, таварыш Кавалькевіч, толькі прыемнасць зробіце, калі са мною пра гаспадарку гаварыць будзеце.

Аграном асмялеў. Гаварыў аб недахопах у гаспадарцы Курганішча, даваў розныя парады.

У гэты ж час хворы яго «вывучаў», прыглядаўся да рысаў твару Кавалькевіча, да гладка пастрыжанай галавы, да шэрых маладых вачэй, да яго рухаў, вопраткі.

«Дзе яго слабае месца?»

Прыслухваўся да пераліваў голасу агранома, стараўся часамі не перабіваць яго гутаркі альбо раптоўна задаваў запытанні. Заўважыў, што, як толькі аграном гаворыць пра гаспадарку, тады ў яго нейкая ўпэўненасць такога характару, як у школьніка, які паўтарае лекцыю. Да агульных жыццёвых спраў у яго быццам няма зацікаўленасці.

«Хлапчук,— падумаў хворы,— але... дзе яго слабае месца?»

На ўсе заўважаныя недахопы ў гаспадарцы хворы адказаў коратка:

— Я цяпер нядуж. Не было каму глядзець. Я ўжо больш году адчуваю сябе кепска.

— Так, так,— такаў аграном.

Калі Крушынскі пільна часам на яго пазіраў, заглядаў у глыбіню вачэй, у якіх таксама шукаў «слабага месца», той апускаў вочы.

«Хлапчук».

Стэфка ў ролі гаспадыні падавала на стол, бо жонка хворага была пры малацьбе. Ён прыглядаўся, якое ўражанне Стэфка робіць на дзецюка. Лавіў кожны позірк маладога агранома на Стэфку, выраз вачэй:

«Можа, яго слабае месца — дзяўчаты?»

Аграном сядзеў моўчкі, утаропіўшы вочы ў стол. Не ажывіўся і тады, калі выпіў пару чарак гарэлкі. Крушынскі прымусіў яго выпіць. Калі аграном пачаў адмаўляцца, тлумачачы, што аднаму не лоўка піць, хворы сам выпіў.

— Доктар не забараніў мне выпіць часам таго-сяго. Ад гэтага стан майго здароўя хоць не палепшае, але і не пагоршае.

Хворы думаў: «Пасля выпіўкі ў Кавалькевіча развяжацца язык. Ён сябе пакажа не толькі як аграном, але і як чалавек».

Аграном, як наўмысна, так асалавеў пасля гарэлкі, што зусім змоўк. Парываўся некалькі разоў жартаваць са Стэфкай, але язык не варочаўся. Нарэшце прыйшлося палажыць яго спаць, як малое дзіцё. Не паспеў хворы распытацца ў яго нават аб Гайдачанах. Не аб тым, што там робіцца, пытацца хацеў. Гэта ён сам добра ведае. Хворы хацеў ведаць погляд агранома на гэту справу.

«Аслабіў лейцы сваёй «рэспублікі». Што зробіш — хворы... Папраўлюся — тады...»

Усе трубілі, што памрэ, але ён спадзяваўся: «папраўлюся». Глядзеў у акно на аснежаны сад і меркаваў новыя планы аб узмацненні «рэспублікі». Курыў папяросу за папяросай, задуменна глядзеў на сінія кольцы дыму, і ў яго мазгах блукалася адно запытанне:

«Калі сваякі прышлюць ліст з Мінска?»

Прыйшлі да яго Слуп і Бочка з навіною:

— Сярод Драздоў і Дзятлаў нелады. Заварылі нейкую кашу. Глядзяць адны адным у гаршкі (ад баб сваіх навучыліся). Мераюць языкамі, у каго больш зямлі — у каго менш, у каго больш жывёлы — у каго менш, хто больш зарабляе — хто менш, хто лепш жыве — хто горш...

— Запахла гайдачанскім ветрам. Дразды і Дзятлы таксама пачалі гаварыць пра калектыў.

— Нічога я ў гэтым кепскага не бачу,— сказаў хворы.— І ў Драздоў і Дзятлаў наладзім калектыў, як надыдзе для гэтага час. Я б нават памог. Толькі хто яго ведае, ці выкарабкаюся ад гэтай паганай хваробы...

Слуп і Бочка пілі гарэлку і пацяшалі яго:

— Паправішся.

— Пабачым...— гаварыў хворы сумным голасам.— Падайце мне шклянку.

— Вось так і трэба!

— Правільна!

Хворы адным махам выпіў шклянку гарэлкі. Слуп пачаў сам з сабою разважаць:

— Гарэлка пры розных хваробах памагае. Пераядае пошасць. Ачышчае кроў. Паправішся, братку!

Бочка наліў яшчэ. Хворы выпіў.

— Паправішся!

Хворы выцер вусы і запытаўся:

— Дык што ж там робіцца ў вас? — Пры гэтым пытанні хворы зрабіўся больш цвярозым, чым да выпіўкі.

— Вось незадаволены людзі адны аднымі. Нечага новага захацелі. Пачалося з таго, што прыехаў сюды нейкі таварыш, які ў Мінску вучыцца, нейкі Мікола Ярэмчык.

«З усіх бакоў,— падумаў хворы.— Там Гайдачаны. Тут новы яшчэ».

— Склікаў сход і чорт ведае што нагаварыў.

— Аб чым гаварыў?

— Аб усім. У нас, як бы сказаць, кулакі і беднякі, багатыя крыўдзяць бедных. Гаварыў, што ты хутка памрэш і Курганішча трэба будзе зрабіць, як бы сказаць, цэнтрам калгаса. Але многія за цябе стаялі. У цябе, прыкладам, культурная гаспадарка. Ты — разам з начальствам — добра да людзей адносіўся. На сходзе нашыя пачалі між сабою сварыцца і ні да чога не дагаварыліся. Некаторыя ж на сходзе пабіць хацелі гэтага Міколу Ярэмчыка. Як бы сказаць. Галава і Сухарукі вялі каманду на тое, каб юху з яго спусціць. Ён уцёк.

— Вось як...— сказаў хворы лагодным голасам.— Вось як...

І падумаў: «Гэты горш за Антося Драчыка з Гайдачан. А я ж яму яшчэ пасылку ад бацькоў аж на кватэру занёс. Старому бацьку праз Рахмільку пяцьдзесят рублёў падкінуў, каб да мяне не чапляўся... Забраць Курганішча... Але пасля маёй смерці. Дзякую і за гэта. Можа, не так хутка памру...»

Хвораму захацелася цяпер астацца сам-насам. Лёг і застагнаў. У вачах быў выраз шчырай пакуты.

Слуп і Бочка занепакоіліся:

— Зноў горш стала?

— Можа, лякарства якое падаць?

Хворы завохкаў:

— Выбачайце, суседзі. Мне трэба аднаму застацца.

Нешта ўнутры рэжа. Вось тую бутэлечку з чырвонай паперкай!

Слуп падаў.

— Дзякую. Цяпер ідзіце, браткі. Як памру, благім словам не ўспамінайце...

— Не памрэш!

— Паправішся!

Пакуль Слуп і Бочка выходзілі, хворы войкаў на розныя лады. А вось за імі зачыніліся дзверы. Стэфка з дзецьмі на двары. Жонка каля гаспадаркі. Нікога ў хаце. Хворы забыўся стагнасць і давай прыслухоўвацца... Звініць у вушах ад цішыні. Дзве шклянкі гарэлкі для яго тое самае, што нічога...

Гудзе малатарня. Шум ваўначоскі і людскія галасы на двары ўрываюцца непрыемнымі гасцямі ў цішыню хаты, напамінаюць аб жыцці, аб руху.

Хвораму непрыемна...

Асцярожна сышоў з ложка. Стаў супраць замёрзлага акна. Хукаў на заільдзянелае шкло, як малы хлопчык. Круглячок велічынёю ў пятак зрабіўся чыстым. Хворы зірнуў на запушчаны сад. Дрэвы ў снежным пуху. Дзенідзе спачываюць у белым сне вялізныя гурбы.

«Увесь кавалачак свету, які маю перад сабою».

Пакута не сышла з яго аброслага барадою твару. Ад доўгага ляжання на адным месцы кружылася галава. Ён адчуў слабасць.

«У працягу кароткага часу гэтулькі трывог...»

Напаў страх. Пачалі непакоіць людскія галасы, шум. Непрыемным стаў бадзёры выгляд жонкі: «яна цяпер усім кіруе». Зайздросціць. Ён сам сябе прыкуў невідочнымі ланцугамі да гэтага пакоіка. Гэтымі ланцугамі з'яўляецца страх. Рызыкоўна цяпер будаваць млын. На ўсякі выпадак падумаю аб гэтым...

Хворы пачаў рухацца туды і сюды па пакоі, спачатку павольна, нібы дзіцё, што вучыцца хадзіць, а потым шпарчэй і шпарчэй.

«Хто ж гэта сярод Драздоў і Дзятлаў супроць мяне? Няўжо пайшлі Дзятлы на Дзятлаў і Дразды на Драздоў? Я ж стараўся ўвесь час падтрымліваць у іх племянную розць... Бойкамі за лужок іхнюю ўвагу адварочваў ад больш небяспечнага...»

Пад нагамі рыпела падлога. Паплыў вячэрні змрок, абліў пакой шэрым атрамантам. Прыйшла жонка. Запаліла лямпу і зноў пайшла. Ніводнага слова.

«З кантрабандай супакоілася. Можа, мяне не чапалі б. Ніхто ж на мяне даказаць не можа. Ды пра мяне зусім забылі. Я ж хутка памру...»

Стала непрыемна, што людзі аб ім забываць пачалі... А раней гэтага так хацеў...

З «салона» чуваць дзіцячы смех. Толькі што прыйшлі з двара Стэфка і дзеці. Стэфка ім нешта гаворыць. Слоў не чуваць. Шум галасоў. І свае прывыклі да яго хваробы...

Не спаў усю ноч.

За час хваробы ночы часта напаўняліся яго бяссонніцай. Цягнуліся доўга-доўга. Кожная ноч — чалавечае жыццё. Кожная ноч — жудасць. Кожная ноч — таўшчэзны скрутак чорнага сукна, які марудна раскручваецца перад успалёнымі вачыма.

Думкі плывуць з перабоямі. Як брэд, чаргуюцца настроі: уздым энергіі, радасць пераходзіць у роспач, роспач пераскоквае ў бадзёрасць. У канцы адчуў слабасць і бездапаможнасць. Расла вялікая нянавісць, нянавісць да тых, якія перабудоўваюць нанава жыццё. Гэтыя будаўнікі — яго ворагі, бо яны яго знішчаць... Няўжо ж ім гэта ўдасца — Антосям Драчыкам, Міколам Ярэмчыкам і ўсёй вясковай галоце?.. Іхнія гарачыя, гнеўныя і бадзёрыя вочы палохаюць яго. Як той агідны васьміног, яго нянавісць раскідвае ва ўсе бакі шчупальцы. Нянавісць і злосць перапаўняюць усю яго істоту: па-звярынаму выслізгваюцца пенай з яго губ, са скрыгату зубоў. Ён мармыча праклянці. Але злосць яго не мае сілы. Ён сам гэта адчувае. Ва ўсім гэтым стаіць абасоблена адна толькі Стэфка. Ён плыве па безбярэжным моры, а Стэфка з'яўляецца тым берагам, дзе ён адпачывае. Злосць і нянавісць хворага ахопліваюць нават і яго блізкіх па думках, настроях і стане: яны не маюць сілы аб'яднацца ў адну грамаду, каб смела выступіць супраць «тых»... Вось і стой цяпер на чужым вяселлі і яшчэ рабі радасны выгляд.

У такія жудасныя ночы хворы засынаў пад раніцу. Усход сонца лез у яго акно, крывіўся на ўскраіне неба, абліваў сад. Хворы стагнаў праз сон, але жонка яго не будзіла.

Калісьці, да рэвалюцыі 1917 года, стрыечнаму брату Язэпа Крушынскага Алесю Крушынскаму, які пісаў вершы пад псеўданімам «Антон Цярэшка», прыходзілася бачыць газету «Наша ніва». Разам са сваімі таварышамі ён тады смяяўся з «мужыцкай тарабаршчыны», з «мешаніны

польскай і расійскай мовы», якую чамусьці называюць беларускай. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Алесь Крушынскі, толькі што вылуплены з яйца малады адвакат, зацікавіўся «беларушчынай».

— Беларуская княгіня Радзівіл, беларускія паны: Скірмунт, Вайніловіч і іншыя, таксама «цікавяцца беларускай справай». Яна, «беларуская справа», раптам зацвіла дзівоснымі кветкамі на полі «Беларускай незалежнай рэспублікі» — некалькі дзесяткаў міністраў, паслоў, розныя маршалкі...

Запахла смачным хлебам.

«Куды ж мне выязджаць з роднага горада, з Мінска?» — падумаў Алесь Крушынскі. Пачаў цікавіцца «беларушчынай». Набыў камплект «Нашай нівы» і давай знаёміцца.

Беларускі народ,
Шчырыя беларусы,
Бацькаўшчына,
Святая ідэя адраджэння,
Курганы,
Народныя казкі ды шмат іншага.

Усё гэта звінела ў яго вушах «святымі» званамі. Спадабалася. Тут і рэвалюцыя, і як бы не рэвалюцыя, а глыбокая старасветчына... Алесь Крушынскі захапіўся «беларускай справай», якой цікавіліся «шчырыя» беларусы. Праз год і ён зрабіўся адным са «шчырых». У працягу гэтага часу ён праходзіў розныя выпыты, як бы да прыёму ў масонскую ложу: з'ездзіў на вёску, каб пазнаёміцца з жывымі сялянамі, паслухаць жывую гутарку. З гэтай мэтай схадзіў пару разоў у рынaчныя дні на Траецкую гару, выступаў некалькі разоў на сходах, дзе стаяў і за беларускіх ксяндзоў, папоў, паноў, шляхту, а галоўнае выпіваў з беларускімі «дзеячамі» — грошай не шкадаваў, ладзіў журфіксы ў сваёй кватэры.

Жонка яго радавалася:

— Гэта ж не жарты! Міністры ў нас гарэлку п'юць...

Хвалілася гэтым перад суседкамі.

Радаваліся і міністры.

— Алесь Крушынскі — шчыры беларус.

— Трэба будзе прыблізіць яго да сябе. Ён вельмі гасцінны... <...>

На журфіксах у Алеся Крушынскага спачатку гаварылася пра «беларускую справу», а калі ўжо напіваліся да зялёнага змея, тады «міністры» ваявалі за партфелі.

Бойкі бывалі гарачыя і шчырыя — бутэлькі ад піва лёгкімі жаўранкамі ляцелі над міністэрскімі галовамі. «Міністры» спрытна жангліравалі бутэлькамі. Тады жонка Алеся Крушынскага плакала. Муж супакойваў яе:

— Не плач. Гэта ж не абы-хто, а міністры.

«Беларуская справа»?

Некаторыя агортвалі яе ў старасвецкі пергамент «Літоўскага статута», марылі пра беларускага караля, выкопвалі з-пад пылу вякоў старадаўніх беларускіх святых, манахаў, рыцараў. Гаварылася пра беларускую біблію, акты, летапісы, народную міфалогію, старадаўні сялянскі быт, які захаваўся па сённяшні дзень... Алесь Крушынскі глытаў словы «міністраў», як яны хмельнае пітво...

Алесь Крушынскі шанаваў гэтых «міністраў» за іхнюю надзвычайную адвагу. За партфелі яны «прадавалі» ўсім, хто толькі даваў авансы, беларускі лес, лён, пяньку, збожжа, людзей — усё...

Тады Беларусь зыбалася ў агнёва-крывавай калысцы акупацый.

«Шчыры» беларус Алесь Крушынскі ў 1922 годзе, калі пры Савецкай уладзе жыццё ўваходзіла ў новую плынь, выбраў сабе псеўданім «Антон Цярэшка» і пачаў пісаць вершы. Гарэлачная палітыка, якая ў яго засталася з часоў «беларускіх міністраў», і тут яму дапамагала: аб ім загаварыла пара гарэлачных крытыкаў, галоўны з іх — Максім Алалоўнік, які потым пачаў падпісвацца «Максім Гайдач».

У тыя часы было ўжо шмат савецкіх беларускіх школ, ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых, многа газет, часопісаў, новых паэтаў і пісьменнікаў. Беларуская культура стала штодзённшчынай. Ядро гэтай культуры было нясмачным для «шчырых».

— І мы таксама старыя рэвалюцыянеры,— гаварылі яны,— але няма ў нас беларускага пралетарыяту, дык навошта нам пралетарскі ярлык.

— У старыя беларускія бочкі ўліваецца не беларускае віно.

«Шчырыя» круціліся, як уюны, трацілі грунт пад нагамі.

— Як жа так, гаспадараць чужынцы, а мы, шчырыя беларусы, тут непатрэбны?

— Пачакаем іншых часоў, а пакуль што трэба старацца, каб нас не выкінулі за борт... <...>

Антона Цярэшку мералі, дзякуючы такім крытыкам,

пралетарскім аршынам. Пішучы свае вершы, ён стараўся «пралетарызаваць» іх так, каб «у выпадку чаго» яны яго не кампраметавалі...

«Шчырыя» былі вельмі рады.

— Пакуль што ідзе ўсё добра... Беларуская інтэлігенцыя не здрадзіць беларускай справе. Пастараецца ў школах (вышэйшых і ніжэйшых) гадаваць моладзь у патрэбным напрамку...

Сярод маладых беларускіх пісьменнікаў Антон Цярэшка сустракаў таксама шчырых, але зусім іншага гатунку. У гутарцы з былымі міністрамі ён скардзіўся:

— Хлопцы здольныя, але псуюць свае таленты, пішуць агіткі. Гэта перашкаджае сапраўднаму мастацтву.

— Бяда ў тым, што яны шчыра гэта робяць...— тлумачылі былыя міністры.

Працавалі «шчырыя» і шчырыя.

Часам чуў Цярэшка, як тыя новыя шчырыя гаварылі:

— Пошасць беларускай старасветчыны і «незалежнасці» ахапляе некаторых, як хвароба, нібы рак. Трэба лячыць іх, выразаць паганы рак... <...>

Кабінет Цярэшкі добра абсталяваны: мяккая канапа, персідскі вялізны дыван на падлозе, круглы стол пасярэдзіне, мяккія крэслы, пісьмовы стол, шафы з кнігамі. На пісьмовым стале бронза і мармур, статуэткі, цацкі. Для пісання толькі маленькі кавалак вольнага месца.

Яшчэ нябожчык бацька абсталяваў яму гэты кабінет,— падарунак на вяселле, калі Цярэшка ўзяў сабе жонку, дачку банкаўскага чыноўніка.

Часта паэт Цярэшка глядзіць праз акно кабінета ў гарадскі сад, які звычайна з'яўляецца крыніцай яго натхнення. Улетку тут хараша. Абапал Свіслачы нахіляюцца вербы, глядзяць у ваду і прыхарошваюцца. Далей дарогі і дарожкі, пляцы і пляцоўкі, дрэвы, клумбы. Улетку косяць траву ў гарадскім садзе. Тады адчыняе акно, і ў кабінет пракрадваецца пах свежага сена. Як на вёсцы... Чуваць песні піянераў, фізкультурнікаў, чырвонаармейцаў. Увосень хмурна ў гэтым садзе, як на вёсцы. Шуміць вецер, разносіць чырвоныя кляновыя лісты. Строга ківаюцца хвоі, шэпчуць нешта таемнае пра старадаўніну, якая вельмі Цярэшку падабаецца...

Цяпер па садзе вандруе зіма ў белым плашчы. Сад у снежным глянцы. Цярэшка глядзіць праз акно кабінета. То чырвонаармейцы праходзяць пад гучны спеў, то лыжнікі праплываюць адзін за адным. На снежным фоне ярка

вызначаюцца іхнія профілі, нібы абведзеныя атрамантам. Тут і дзеці на маленькіх саначках з горкі соўваюцца. Усе яны кудысьці імчацца ўдаль, у будучыню... Гарацць шчокі, блішчаць вочы.

Антон Цярэшка ў глыбіні душы кожнаму з іх зайздросціць — і лыжнікам, і чырвонаармейцам, і нават дзецям...

«Іхнія характары, настроі не расшчэпленыя, цэльныя. Яны сапраўды шчырыя».

За апошнія месяцы стрыечны брат Язэп Крушынскі ў яго ні разу не быў. Той хварэе на рак. Сумна, мабыць, у Курганішчы, але нявесела і тут, у Мінску, на кватэры Цярэшкі. Няма вясковых, свежых прадуктаў з Курганішча: сыру, масла, мёду, сала, каўбас, якія Язэп Крушынскі прывозіў не шкадуючы, ад шчодрай рукі. Гэта было традыцыйнай данінай ад вясковага Крушынскага гарадскому. Жонка Язэпа цяпер нічога не прысылае.

Прадукты з Курганішча аздаблялі журфіксы Антона Цярэшкі фальваркавай сытасцю, ідыліяй. Сумаваў па іх Цярэшка.

У кабінет праз акно няпрошаным лезе вячэрні змрок. Сінее гарадскі сад. Лыжнікі выглядаюць цяпер як цені.

Хутка яны пойдуць. Апусцее сад. Над дрэвамі, над снежнымі палосамі засінее ноч.

Змрок туліцца да масіўных каменных сцен кабінета, расплываецца па кутках, па падлозе.

Антон Цярэшка апускае шторы на вокнах і асвятляе кабінет электрычнасцю, садзіцца к сталу і па прывычцы піша спачатку адрас на канверце, а пасля пачынае ліст:

«Дарагі брат Язэп».

У адну раніцу, калі Крушынскі моцна спаў пасля бяссоннай ночы, да яго падышла жонка:

— Уставай, Язэп, уставай!

Голас яе быў устрывожаны. Яна торгала хворага за плечы, як здаровага чалавека.

Хворы прачнуўся. Азірнуўся па баках мутнымі ад сну і спалоханымі ад голасу жонкі вачыма.

— Га? Што?

— Вось ліст ад брата!

— Што ён піша?

— Яшчэ не чытала. Чытай сам.

Падала ліст.

Хворы прабег вачыма:

«Дарагі брат Язэп.

Усё спакойна. Можаш ачуняць. Досыць адпачываў. Дзе трэба было і што трэба было, усё зроблена. Небяспекі няма. Усё спакойна. Прывітанне ад жонкі. Прыязджай!

Твой Ан. Цярэшка».

Хворы павесялеў. Звярнуўся да жонкі:

— Ты нічога ў Мінск не пасылала?

— Не.

— Чаму?

— Не было калі гэтым займацца.

— Ой, ты! Шкадуеш...

— Уставай скарэй!

— Што здарылася?

Ён адкінуў ад сябе коўдру і жвава сеў на ложку.

— Толькі не палохайся... Твой бацька памёр.

Крушынскі пачухаў непрывычную бараду і слаба прагаварыў:

— А-а-а-а?..

— Ну я ж сказала. Памёр. Трэба яго хаваць.

Крушынскі не любіў бацькі, але нешта непрыемнае пранізала яго наскрозь. Ён ляніва ўсміхнуўся і сказаў урачыстым голасам, падхопленым у «Льва Талстога»:

— Ведаеш, жонка, я ўжо, трэба прызнацца, тоісь выздаравеў ад рака. Хопіць! Так.

Засвістаў па-заліхвацкаму і давай апранацца.

— Варта было падгаліцца, а то чорт ведае да каго ты падобны.

— Можна з гэтым пачакаць. Няхай людзі бачаць, што я толькі што з ложка падняўся.

У яго вачах засвяцілася ранейшая жвавасць.

Жонка пасмутнела. Сама не заўважыла, як з вачэй пакаціліся слёзы.

— Ганна, што ты! — здзівіўся Крушынскі.

— Шкада старога. Ве-е-ечна жыў адзін, адзіно-о-окім і памёр.

Яна ўголас заплакала.

Крушынскі пачаў апраўдвацца:

— Ды я ж яго колькі разоў прасіў, каб сюды жыць перабраўся. Мы ж невінаваты. Ён сам не хацеў.

— Усё роўна шкада.

— Але навошта плакаць? Ён жа голаду не цярпеў. Нават шмат дабра пакінуў. Жыў як самому хацелася, а што больш чалавеку трэба?

Жонка не магла стрымаць свайго плачу. У гэту хвілі-

ну ёй здавалася, што сапраўды шкадуе Сымона Чарнюка.

— Годзе, дурная, мы ўсе памром! — крыкнуў Крушынскі неспачувальным голасам.

Хутка апрануўся і выскачыў на дзядзінец. Пра хваробу забыўся адразу. Ахмялеў ад зімовай раніцы, ад хрусту снегу пад нагамі. Надзвычайна радаваўся зімоваму паветру і белізне снегу.

«Свае» людзі на дзядзінцы ад раптоўнасці аж спалохаліся, нібы ўгледзелі нябожчыка, які з магілы выйшаў. Яны думалі, што Крушынскі памрэ...

— Лякарствамі рака выгнаў! — як бы апраўдваўся перад імі Крушынскі.

Вочы яго блішчалі.

— Дзе ж цяпер рак гэты? — зацікавіліся людзі.— Па хаце паўзе?

Крушынскі зарагатаў:

— Я атруціў рака і сабакам аддаў.

Пасля гэтага вярнуўся ў хату і спакойна сеў снедаць. Жонка выцірала слёзы. Глядзела на мужа такімі вачыма, нібы даўно яго не бачыла.. Увесь час яго хваробы ёй так прыемна было адчуваць сябе поўнай гаспадыняй у Курганішчы... Яна ўжо ўвайшла цалкам у гэту ролю, а вось ачуняў...

«Думае, што па яго старым бацьку, па гэтым чорным чараўніку плачу».

Яна ўсміхнулася.

— Хутчэй снедай ды ідзі! — падганяла яна мужа.— Не выпадае марудзіць.

— Не ўцячэ мой тата,— пажартаваў Крушынскі.

У яго мазгах мітусіліся розныя планы — адзін аднаго спрытнейшы.

— Скарэй ідзі!

— Іду.

Яшчэ не глынуўшы апошняга кавалка сала, падняўся з зэдліка. Пайшоў у Драозды і Дзятлы да нябожчыка. У дробным ельнічку каля хаты Сымона Чарнюка стаялі людзі. Здалёку старая хата выглядала вялізнай гурбай снегу. Толькі сёння раскапалі сцежку да дзвярэй...

«Ельнічак гэты пры маёй памяці тут вырас»,— чамусьці ўспомніў Крушынскі.

Угледзеўшы яго, адзін з суседзяў сказаў:

— Памёр бацька, сын ачуняў.

Нібы маніфест прачытаў перад Драздамі і Дзятламі.

— Няўжо ж ачуняў? — запытаўся Галава.

— Вунь, бачыш, сюды прэ,— запэўніваў Сухарукі.
— А барада ў яго якая!
— Відаць-ткі хварэў чалавек.

Крушынскі з усімі вітаўся. Людзі жартавалі. Смяяліся. Усе адчувалі хаўтурны настрой: пальецца ракой гарэлка, будзе цэлая гара яды...

— Адзін раз толькі ў чалавека бацька памірае,— філасофстваваў Галава.

— Не дваццаць бацькоў сваіх чалавек хавае,— дадаў Сухарукі.

— Усе мы будзем там.
— Толькі немаведама, хто раней і хто пазней.

«Сухарукі раней за мяне памрэ»,— падумаў Галава.

«Галава раней за мяне здырдзіцца!» — падумаў Сухарукі.

Падбадзёраныя такімі думкамі, кожны з гэтых дзядоў глядзеў на другога з затоенай задаволенасцю і незахаваным спачуваннем і жаласлівасцю. Адзін аднаго частавалі тытуном, закручвалі тоўстыя махорачныя цыгаркі і тупаліся на месцы, каб на марозе ногі сагрэць. Тым часам Крушынскі ўвайшоў у бацькаву хату. Даўно тут не быў. Некалькі год. А ўсяго дзесяць хвілін хадзьбы сюды ад Курганішча... Калісьці маці брала з бацькавых запасаў сушаных яблыкаў для маленькага Язэпкі...

Вось тут, дзе вялікія кублы, стаяў маленькі ложак, дзе калісьці Язэпка спаў. Цяпер усе куткі завалены мяшкамі, пасудаю. Куры дзяўбуць збожжа з мяшка. У хаце змрочна, бо вокны бадай да самага верху занесены снегам. «Стары заўсёды так любіў зімой,— успомніў Крушынскі,— ён гаварыў, што ад гэтага цяплей».

Запасы Сымона Чарнюка на «чорны дзень», на «канец свету» запоўнілі хатку дзе-нідзе да самай столі. Начоўкі, скрыні, цэбры, бочкі, кублы — усё было з дабром.

Крушынскі выйшаў у сенцы. У загарадцы стаялі двое свіней. Ён узлез па драбінах і зірнуў на гару. Там — тыя самыя запасы. Вісіць каўбаса і вяндліна.

— Ну і рупны быў стары...

Ён успомніў, што даўней, калі бацькі крыўдзілі яго, маленькага, чым-небудзь, ён узбіраўся па драбінах на гару і сядзеў там, прытуліўшыся ў кутку. Праз шчыліны даху глядзеў удаль. Было прыемна. Маці хадзіла тады ўстрывожаная вакол хаткі, шукала яго і клікала плачучым голасам:

— Язэпка! Язэпка!

— Я тут! А татка біць не будзе?

— Не, сынку, не дам біць...

І твару маткі ён цяпер не памятае. Толькі яе хаўтуры помніць. Бацька тады стагнаў, што шмат грошы выйдзе на яе пахаванне. Быў вельмі скупы. Бацька ў касцёле з ксяндзом таргаваўся. Стары ксёндз, сухі, з такімі ж, як у бацькі, чорнымі бліскучымі вачыма, крыкнуў:

— Забяры яе назад дадому!

Бацька плюнуў ад злосці і сказаў:

— Можаш, яловы сук у сутане, з'есці яе. Можаш яе пакрышыць на каўбасы. Мне ўсё роўна...

Бацька пасля гэтага рвануў спалоханага Язэпку за руку, вывеў з касцёла і пасадзіў на воз, матку ксяндзу пакінуў. З таго часу бацька ніколі не маліўся, не хадзіў на споведзь...

Крушынскі зноў у хату вярнуўся.

«Трэба ж і на яго самога паглядзець. Калі я хварэў, ён ні разу ў мяне не быў. Я ж яго родны сын. Мабыць, ведаў, што ачуняю».

Каля парога тупалася старая Марцініха. Падпальвала ў печы. У хаце было вельмі холадна. Відаць, некалькі дзён стары ў печы не паліў. Пахла яблыкамі і трухляцінай. Труна стаяла ў кутку жоўтая, смалістая, пакрытая тонкім слоем пылу. Сляды пальцаў нябожчыка засталіся ў некалькіх месцах звонку на сценках труны. Побач ляжаў на цабэрку ворах старой вопраткі, якую Чарнюк насіў штодня. Выглядала, нібы чалавек распрануўся і ўлез ў ванну купацца. Апабал гарэлі дзве васковыя свечкі.

— Гэта ж я сёння толькі і зайшла сюды. Некалькі дзён старога не бачыла,— сказала Марцініха.— Зайшла, ажна ляжыць ён у труне. Сама ўлетку бачыла, як ён гэту труну рабіў. Свечкі на гэтым самым месцы стаялі. Не запаліў перад смерцю, відаць, пажару баяўся. А божачка ты мой! Я ж баялася спачатку. Ён жа ж быў чараўніком. Кажуць жа, што чараўнік пасля смерці людзей душыць...

Крушынскі засмяяўся.

— Не бойся, Марцініха. Мала што хто пляце. Ён ужо не паднімецца з труны.

Сымон Чарнюк быў апрануты ў самае лепшае, што ў яго было: шэрая жакетка, чорныя штаны, боты, купленыя мо дваццаць год таму назад. Яго твар — косці, абцягнутыя цёмна-жоўтай скурай. Строгія рысы твару акамянелі.

«Збіраў, пэўна, грошы на «чорны дзень». Дзе ж ён іх схаваў?» Аглядаўся па баках.

«Ці пад ім у труне, ці на ім пад вопраткай... А можа, Марцініха раней за мяне парупілася?»

Яна спакойна тупалася каля печы.

«Не можа быць. Яна пабаялася б, каб чараўнік яе не задушыў». Павярнуў нябожчыка на бок. Бацька быў лёгкі і цвёрды, як жэрдка. Прыкра стала сыну.

«Грошы мне не патрэбны, але цікава, дзе яны і колькі іх. Я іх пушчу на хаўтуры».

У труне пад нябожчыкам нічога не было. Тады ён палажыў труп па-ранейшаму і расшпіліў яму жакетку. Пад кашуляй на валасатых сухіх грудзях вісела палатняная торбачка... Відаць, шмат гадоў грэлася на грудзях Чарнюка, бо на шыі глыбокі знак ад вяровачкі і торбачка чорная, засаленая.

— Паглядзіце ў сенцах вядро, цётка Марцініха! Трэба ж будзе нагрэць вады.

— Чаму жонка твая не прыйшла? — запыталася Марцініха.

— Па гаспадарцы занята.

— У мяне ж таксама гаспадарка... Я ж чужая, а прыйшла.

Марцініха выйшла. Пакуль пайшла па ваду, Крушынскі паспеў зняць торбачку і ўпарадкаваць нябожчыка. Цяжкую, цвёрдую торбачку ён сунуў сабе ў кішэнь.

Крушынскі ладзіў хаўтуры па-новаму, без духоўніка. Сам прамову над магілай сказаў. Пахваліў нябожчыка бацьку за тое, што той ніколі не маліўся.

Сухарукі і Галава незадаволена галоваміківалі.

— Вось і памірай! — мнагазначна сказаў Галава.

— Небяспечна ў наш час пайсці на той свет,— дадаў Сухарукі.

Супакоіліся яны пасля: было многа выпіўкі і яды, шуму, як на вяселлі. Сухарукі і Галава ледзь у скокі не пусціліся.

Крушынскі быў падголены, да яго вярнуўся ранейшы настрой, і ад рака нічога не засталося... Свіней, курэй і бондарскае начынне сам забраў з бацькавай хаты. Марцінісе за тое, што ўпарадкавала нябожчыка, даў некалькі рублёў, а ўсё іншае з хаты Чарнюка сказаў забраць тым Драздам і Дзятлам, якія больш за іншых шумелі на сходах у часе яго хваробы...

Некалькі дзён вазілі дабро з хаты Сымона Чарнюка. Шмат запасу чараўнік падрыхтаваў на «чорны дзень»: сушаных грыбоў, яблыкаў, груш, ягад, гароху, бобу, мукі,

збожжа, нават бульбу сушаную. Мяшкі, кублы, скрыні, начоўкі, цабэркі, гаршкі, міскі — усё забіралі. Здавалася, што ўсяму гэтаму канца не будзе. Нарэшце Крушынскі пашкадаваў, што сам не забраў. Але «палітыка»...

«Мне затое торбачка засталася».

У торбачцы пяцьсот рублёў золатам і некалькі чырвонцаў.

Як усё з хаты Чарнюка было вывезена, неспадзяваныя наследнікі Сымона Чарнюка разбурылі старую хату і падзялілі між сабою на дровы. Засталася адна толькі закураная печ. Хутка і яе занесла снегам.

## 3

## НЕ ХАЧУ БЫЦЬ БРАТАМ КУЛАКА

Спявалі жаўранкі.

Каля бярозы на мяжы, супраць акна «Льва Талстога», ляжала закарузлая і заільдзянелая купка снегу. Па чорных градах агарода капаліся свінні. Водаль на пагорку ёрзалі туды і сюды дзеці. Мяжа выпукляла вясноваму сонцу палінялае шчацінне леташняй мёртвай травы.

«Леў Талстой» глядзеў у акно.

Заўважыў на насыпанай прызбе пад самым акном некалькі маленькіх кусцікаў кволых зялёных травінак. Сунуў акуляры з лоба на вочы і давай пільней прыглядацца.

— Сяголетняя траўка... Калі тоісь падняцца паспела?

Шчырая радасць і замілаванне свяціліся ў вачах старога.

— Першыя дзеці вясны...

Усміхнуўся траўцы добрай усмешкай.

Так дарослы чалавек усміхаецца ўдаласці маленькага дзіцяці, якое раптам выкінула фокус і сказала:

— Гха... гха-а-а...

Радасць расплылася прыемным цяплом па ўсім целе старога. Ён пацягнуўся і ляніва гмэкнуў. Не ведаў, дзе дзецца ад сонца, якое лезла ў твар. Сажмурыўся і не мог адарваць вачэй ад сяголетніх травінак. Яму здавалася, нібы бачыць, як тоненькія драцінкі травінак лезуць з зямлі і вытыкаюць угару завостраныя, як шпількі, носікі. Яму здавалася, што травінкі пахнуць па-асабліваму — нібы маленькія дзеці.

Ён сам не чуў, як мурлыкаў пад нос нешта пяшчотнае.
Якая мелодыя?
Ніякай мелодыі няма ў яго мурлыканні, а толькі трохскладовыя рытмы: а-а-а, а-а-а, а-а-а, а-а-а.
Пераплятаўся ланцужок дактыляў і анапестаў [1].
Нешта падобнае да калыханкі.
Раптам стары ўтаропіў вочы ў сухую леташнюю траву. Адразу спыніў мурлыканне.
— Так. Мінулай вясной і гэта трава была маладзенькай і свежанькай.
Вочы «Льва Талстога» пахмурэлі. З твару сышла вясёлая ўсмешка. Хоць твар быў асветлены сонцам, але нібы хмары раптам навіслі над ім. Шкада старому леташняй травы. Тонкая нітачка веснавой радасці перарвалася.
— Так. Леташняе памірае, адгнівае. Трэба прызнацца, на гэтым гніцці заквітнеюць новыя пахучыя расліны.
Нягледзячы на сонечнае цяпло, старому раптам стала холадна.
— Так.
Ён пяшчотна пагладзіў бараду.
Азірнуўся па кутках хаты.
Яна здавалася цяпер цёмнай і непрытульнай.
— Так.
Ён наставіў адно вуха ў бок акна.
На гародзе смяяліся ўнукі.
«Радасць раптам напала на іх... А мне ўжо стукнула шэсцьдзесят год...»
Ён усміхнуўся. У вачах з'явілася здзіўленне. Нібы раптам пачуў цікавую, але непрыемную навіну.
Якраз у гэтую хвіліну яго жонка Барбара ўскочыла з сенцаў у хату. Пачула яго словы.
Кінула жвавымі вачыма ва ўсе куткі.
— А я думала, што ты з суседам размаўляеш, ажна нікога няма.
— Га? — усхапіўся, нібы са сну, «Леў Талстой».
— Ты што гэта гаворыш сам з сабою? Можа, з панам богам гутарку завёў? Што там у цябе за шэсцьдзесят стукнула? Навошта гады свае лічыш? Ніхто іх у цябе не ўкрадзе.
— А я так сабе, Барбара. Думка такая прыскочыла.
На гародзе смяяліся ўнукі.
Барбара плюнула і кіўнула некалькі разоў галавою ў

[1] Дактыль і анапест — трохскладовы размер у вершах.

бок старога. У яе вачах была не то злосць, не то крыўда на яго. Толькі два словы прагаварыла, але затое ад усяго сэрца:

— Э-э-эх т-т-ты-ы-ы...

«Леў Талстой» зразумеў і расшыфраваў у думках словы жонкі.

Вось іхняе значэнне:

— Эх ты, недарэка! Пражыў шэсцьдзесят год, а што паспеў зрабіць за гэты час? Невялікая была карысць ад тваёй службы ў земскага начальніка. Мала ты дбаў аб сям'і і да службы, і пасля яе.

Альбо:

— Эх ты, памяло сівое! Пішаш-пішаш, пішаш-пішаш, а толку ніякага. «Лідакцыя» не друкуе. Грошай за гэта ніхто табе не дае. Дармо псуеш такія чыстыя кнігі земскага.

А можа:

— Эх ты, дурны! Вечна на цябе працую. Ты не памагаеш у гаспадарцы. У цябе не галава, а балдавешка. Табе шэсцьдзесят год, а трымаеш сябе, быццам табе толькі шэсцьдзесят дзён.

Ці яшчэ:

— Эх ты! Гляджу за табою, як за малым. Навошта хлеб псуеш, ды яшчэ самы смачны? Бо цябе пешчу, як малых унукаў, а за гэта якая падзяка?

Чатыры тлумачэнні жончыных слоў «эх ты» прамільгнулі ў яго галаве чатырма дэпешамі.

На гародзе смяяліся ўнукі.

— Можа, што-небудзь з'ясі? — запыталася жонка.

— Не хочацца.

«Леў Талстой» зняў з паліцы адну з кніг земскага, у якую ўпісваў «Летапіс вёскі Гайдачаны», прысеў да свайго століка і разгарнуў кнігу.

— Што я там раней напісаў?

І давай уголас сам сабе адказваць:

— Як некаторыя мінскія вучоныя па-вучонаму даследавалі гайдачанскія кашулі і спадніцы. Навуку гэту яны назвалі «гайдачаназнаўствам». Так. І зрабіліся прафесарамі на гайдачанскіх портках. Так.

— Якія асэсары? На якіх портках? — зацікавілася Барбара.

Ён нічога не адказаў і гаварыў далей:

— Як Крушынскі пасылаў сваіх паслоў у Гайдачаны з заклікам: «Будзем разам багацець!» Кулакі былі на яго

баку, бедпякі, з Антосем Драчыкам на чале,— па супрацьлеглым баку. Так.

— На якім баку ты там качаешся? — зацікавілася Барбара.

Ён нібы не чуў і давай яшчэ казаць:

— Як Антось Драчык цярпеў за шчырасць усё сваё жыццё. Яго шчыры «карахтар» быў вострай брытвай ў яго ж няўмелых руках, і крамсала яго ж морду, як бручку.

— Бручка, каб на цябе калючка! — зазлавалася Барбара.

Ён хоць бы што. Успамінае раней напісанае:

— Як Антось Драчык усім кулаком быў косткай у горле. Крушынскі яго як агню баяўся. Драчык падаў заяву на Крушынскага, а з гэтага нічога не выйшла, бо Крушынскі быў у добрых адносінах з начальствам. Так.

— Не лезь у чужыя справы! — папярэдзіла Барбара.

Ён сваё робіць:

— Як я назіраў псіхалагічна за паводзінамі паміж Крушынскім і Драчыкам. Я хацеў склеіць у адно халодную тактыку Крушынскага з гарачай шчырасцю Драчыка. Нічога з гэтага не выйшла.

— І не выйдзе! — дадала Барбара.

Яна прысела на лаве і давай прыслухоўвацца.

Ён нібы не чуў. Плёў далей ланцуг раней напісанага:

— Як у адну раніцу прыехалі ў Гайдачаны два чырвонаармейцы — Хведар і Змітрок. Яны растлумачылі Драчыку, што ён адзін супраць кулака Крушынскага нічога не зробіць. Супраць такіх трэба змагацца грамадою, тоісь масаю. Так.

— І я не люблю гэтага хітрага Крушынскага,— дадала Барбара.

— Не перашкаджай! Дай успомніць: — Як Хвёдар і Змітрок пачалі ладзіць сходы ў Гайдачанах, а я, трэба прызнацца, быў сакратаром на гэтых сходах. Так.

— Гэта я ведаю,— заўважыла Барбара.

— Не лезь асою ў вочы.

— Як нарыхтавалі ў Гайдачанах малочнае таварыства. Кулакі: Янка Фалькевіч, Сымон Гарбочык, Антон Сініца, Гаўрыла Лаўронак і іншыя былі супраць таго, каб наладзіць у нашай вёсцы калектыў. Так.

Барбара слухала і маўчала.

— Як нехта падпаліў уночы хату малочнага таварыства, і на пажары Гаўрыла Лаўронак забіў колам Драчыка. Так.

Барбараківала галавою.

— Як Хвёдар і Змітрок выратавалі Гаўрылу Лаўронка ад самасуду. Усё гэта было на карысць Крушынскага. Так.

— Гэта праўда,— заўважыла Барбара.

— Я не да цябе гавару.

— Гавары сабе да сцяны!

Барбара плюнула і выйшла.

«Леў Талстой» скончыў паўтарэнне на памяць ранейшых раздзелаў «Летапісу» і пачаў чытаць з кнігі.

Так. Трэба прызнацца, Гаўрыла Лаўронак забіў Драчыка на смерць. Гэта ж не жарты — ляпнуць такім колам па галаве. Глянуўшы на яго, тоісь не на кол, а на Драчыка альбо на абодвых,— іншай думкі быць не магло. Так.

Ляжыць Драчык на зямлі пры пажары, раскінуўшы рукі крыжам. Вочы заплюшчаны. Твар да жудасці белы (як бяроста). Галава акрываўленая. Гэта ж не жарты — так гладзіць чалавека па галаве. Так.

А гайдачане?

Трэба прызнацца, гайдачане заняты ўсім, толькі не Драчыкам. Канчаюць тушыць пажар. Трымаюць за рукі падпальшчыка і забойцу — Гаўрылу Лаўронка, каб не ўцякаў. А некаторыя пабеглі на хутары затрымаць падбухторшчыкаў да падпалу і забойства, тоісь кулакоў Антона Сініцу, Янку Фалькевіча і Сымона Гарбочыка. Так.

Хвёдар і Змітрок заўважылі заўвагу, што рукамі вышэй адзначаных кулакоў была падпалена хата малочнага таварыства і быў забіты Антось Драчык. Так.

Пры нябожчыку, тоісь пры Драчыку (будзем зваць яго нябожчыкам), лямантавала яго сям'я: жонка і дзеці. Так.

Галавешкі дагарэлі на пажары, і стала цёмна. Так.

Тым часам, трэба прызнацца, я зацікавіўся адной псіхалагічнай цікавасцю: як гэта гайдачанская ноч накіруе маё сачыненне, тоісь мой твор? Ці мне прыйдзецца пісаць, што хутаране, тоісь вышэй заўважаныя кулакі, уцяклі, ці мне прыйдзецца пісаць, што яны злоўлены і аддадзены ў пралетарскі суд? Так.

А што мне прыйдзецца пісаць пра Гаўрылу Лаўронка — забойцу Драчыка? А як Драчык выкарабкаецца з сваёй шчырасці? Ды ўжо не выкарабкаецца, бо памёр чалавек на векі вечныя, і шчырасць плакаць па ім будзе. Ён за сваю шчырасць на той свет без пары пайшоў. Пойдзеш

да начальства без пары, не прымае, а той свет — калі ласачка! Так.

А каб Драчык быў інакшым, тоісь без шчырасці, дык бы ў маленстве яго не білі, нагі не выкруцілі б на царскай службе, не забілі б кулакі на пажары.

Каб ды каб...

Каб не было таго ды сяго. Але гэта ж мусіла быць. Інакш Драчык Драчыкам не быў бы. Так.

Трэба прызнацца, Крушынскаму ад гэтага вялікая радасць. Не будзе вісець Драчыкава шчырасць жалезнай булавою над Курганішчам. Так.

Ад такіх думак, тоісь псіхалагічных, у мяне галава ходырам захадзіла. Непакоіла адна несупакойнасць: як мне прыйдзецца ўсё гэта ў «Летапісе» запісаць? Так.

А пры Драчыку плача яго сям'я. Я ўсхапіўся з месца, нібы хтосьці гарачым жалезам да мяне пp ыткнуўся.

— Пачакайце,— кажу.— А можа, Антось жыве?

— А можа, жыве? — усхапіліся іншыя.

— А можа...

— Вады! Вады! Абліць яго халоднай вадою! Што ж вы дагэтуль маўчалі?

Гэта крыкнуў Хвёдар, які вярнуўся з хутароў.

Гарачыя вуголлі на пажарышчы адкідвалі бледны водсвет. Зноў разгарэліся. Так.

Вядро вады вылілі Драчыку, тоісь нябожчыку, на галаву.

Нябожчык, тоісь Драчык, павярнуў галавою.

Улілі яму ў рот трохі вады.

Ён адчыніў вочы. Прапаў нябожчык — з'явіўся Драчык. Зноў зачыніў вочы. І зноў няма Драчыка. Ёсць толькі нябожчык.

Яго сям'я, якая на некалькі хвілін перастала плакаць, зноў заенчыла, залямантавала. Жонка прыказвала так, хоць ты вазьмі ды запісвай.

— Ціха! — крычыць Хвёдар.— Рапа галасіць уздумалі.

Я прыгнуўся вухам да яго, нябожчыка, тоісь Драчыка, грудзей. Слухаю.

— Сэрца б'ецца!

Падышоў Хвёдар. Сваё вуха прылажыў.

— Не,— кажа — не чую. Мабыць, зноў абамлеў.

— Маніш,— кажу,— сэрца Драчыка вунь як б'ецца. Ты, мабыць, глухі.

Я ў другі раз прабую Драчыкава сэрца на вуха, нібы гадзіннік.

— Проста малаток гручыць!

Зноў Хвёдар прабуе — нічога не чуе.

А справа тут сур'ёзная. Ці жыве чалавек, ці, можа, канчаткова, тоісь на векі вечныя, сканаў?

Мне гэта вельмі важна для майго твора.

Нарэшце Хвёдар кажа:

— Гэта ж ты, «Леў Талстой», чуеш стукаты свайго ўласнага сэрца. Кінь дакторства!

— Хіба ж маё ўласнае сэрца! Я ж не вінават, што і ў мяне ёсць такое дабро! Так.

Трэба прызнацца, сэрца ў мяне тухкала так моцна, ажно я рукамі за грудзі трымаўся. Калені стукалі адно аб адно. У галаве шумела. Пяткі дрыжалі.

Ад чаго?

Ад страху. Так.

Адкуль гэты страх?

А вось вам!

У тую хвіліну дурная думка прыйшла мне ў галаву:

А што ж было б, каб здарылася так не з Драчыкам, а са мною? Каб гэта Лаўронак мяне бэцнуў па галаве? Хто ж бы маю кнігу дапісаў? Драчык? У яго ж да гэтага таленту няма.

Я, трэба прызнацца, хутка супакоіўся. Не кожны можа быць Драчыкам, каб за шчырасць на агонь пайсці. Так.

Драчык адчыніў вочы і нешта буркнуў.

Нягледзячы ні на што, яшчэ, можа, выжыве. За шчырасць, можа, яшчэ не мала ваяваць будзе. Яшчэ не мала выкарыстаю яго для майго «Летапісу». Так.

Трэба прызнацца, Драчык глядзеў на мяне, тоісь я на яго, як на сваё псіхалагічнае багацце. Гэта такое дабро, што ніякі разбойнік не адбярэ, хіба колам выб'е разам з усім іншым. Але сам гэтым багаццем усё роўна карыстацца не будзе. Так.

Цікавая, трэба прызнацца, ноч.

Пасля ўсяго вышэй напісанага ў тую ж ноч запрэглі некалькі коней і паехалі ў блізкае мястэчка Шапялевічы. Так. Цэлы абоз выехаў туды. Павезлі ў бальніцу Драчыка, а ў лячэбніцу чалавечых характараў — Гаўрылу Лаўронка, Антона Сініцу, Янку Фалькевіча і Сымона Гарбочыка, тоісь гэтых авечак у воўчых скурах. Нават не так, а проста ваўкоў у воўчых. Так.

Трэба прызнацца, я сабе ўяўляў, як яны, кулакі, ляскалі зубамі, тоісь клыкамі, ад злосці і страху. Так.

Тут я хачу спыніць увагу маіх былых, тоісь будучых, чытачоў на адной рэчы, на прозвішчы аднаго з вышэйпамянёных кулакоў — на Гарбочыку. Я, хаваючыся пад «Львом Талстым», прытаіў свайго сапраўднага Гарбочыка, тоісь прозвішча. Кулак, арыштаваны за злаўчынак,— Сымон Гарбочык, а я, аўтар «Летапісу»,— Мірон Гарбочык.

Гэта ж проста бяда — адно прозвішча... Але, трэба прызнацца, не зусім бяда, бо людзі з адным і тым самым прозвішчам бываюць зусім чужымі і нават не ведаюць адзін аднаго. Прыклад: я знаю аднаго мужычка Раманава, дык той нават да Кастрычніка не быў знаёмы з домам Раманавых. Мая хата з краю, нічога не знаю.

У маім выпадку выйшла трохі інакш. Мы з Гарбочыкам сваякі, ну, далёкія сваякі, але ўсё ж такі непрыемна. Думаў я нават даць у газету аб тым, каб не блыталі кулака Сымона Гарбочыка з аўтарам «Летапісу» Міронам Гарбочыкам. Так.

Гэта аказалася лішнім, паколькі самі гайдачане мяне не папракаюць гэтым сваяцтвам. Бо, трэба прызнацца, паколькі я пачаў аб гэтым гутарку, што Сымон Гарбочык — мой родны брат (малодшы)... Я быў спачатку трохі ў сэрцы яго пашкадаваў. Усё ж такі не чужы. Так. Але тут я стаўлю кропку над «і», гэта значыць над сваімі сямейнымі справамі, паколькі гайдачане мне аб іх не гавораць. Так.

Калі хто ў мяне запытае запытанне аб выніках той пажарніцкай і разбойніцкай гайдачанскай ночы, дык я вось якую параду параю: усё будзе ў свой час і на сваім месцы. Паводле законаў прыроды. Не цярпіцца? І мне не цярпелася. Так.

У маёй кнізе аб усім гэтым будзе. Вам хочацца зараз? Маеце зараз!

Пралетарскі суд судзіў вышэйзапрыкмечаных злачынцаў. Адправілі іх на псіхалагічную адпраўку за пажар і замах на забойства Драчыка. Пралетарская бальніца вылечыла Драчыка. Праз месяц ён вярнуўся дахаты.

Многія з гайдачан радаваліся і аднаму і другому.

Некаторыя (з Язэпам Крушынскім на чале) сумавалі з дзвюх прычын. Першая прычына — строгі суд над кулакамі. Другая прычына — тое, што Драчык ачуняў. Так.

Бывае, што захварэе буржуазны прэзідэнт альбо буржуазны міністр якой-кольвечы буржуазнай рэспублікі на буржуазную хваробу. Паедзе сабе на буржуазны курорт

і палітычна чакае. Тое самае было, трэба прызнацца, з Язэпам Крушынскім. Ён захварэў на рак. Так.

Жонка Барбара сказала мне адвезці яму назад жыта, якое ён даў у выглядзе зарплаты за карэспандэнцыю. Я абрадаваўся, хацеў паглядзець, як рак хварэе на кулака, тоісь наадварот. Выйшла хітрая механіка. Жыццё і мая кніга ў далейшым пакажуць гэту механіку. Так.

Цяпер зноў пра Хвёдара і Змітрака, якія, паводле маіх ранейшых інфармацый, вярнуліся дамоў з Чырвонай Арміі. Не забуду і Антося Драчыка.

Так. Пачнём з апошняга.

Антось Драчык застаўся такім, якім быў раней: гарачым, шчырым, упартым і за шчырасць гатоў быў любому горла перагрызці альбо сваё горла аддаць на перагрызку. Гледзячы з якога боку шчырасць да яго падыходзіла, тоісь ён да яе. Да ранейшага гербу яго шчырасці, да яго кульгавасці (з царскіх часоў) быў дадзены яму адзін дадатак ад кала Лаўронка: Драчык аглух на адно вуха, і часта яму галава балела, ды і толькі. Так.

Хвёдар і Змітрок пачалі па-ранейшаму весці гутарку сярод гайдачан аб калгасе.

Трэба прызнацца, што тыя з гайдачан, якія раней нават згаджаліся ўваходзіць у калгас, цяпер да гэтай справы астылі. Былі гэта з катэгорый людзей адных, другіх, трэціх і г. д.

— Не хочам лезці ў драку,— гаварылі адны.

— Забойства, пажары, ну яе...— казалі другія.

— А ці будзе яно лепш? — пыталіся трэція.

— Гэта ж цэлая разруха,— разважалі чацвёртыя.

— Мы яшчэ пачакаем,— меркавалі пятыя.

— Пабачым, як іншыя гэта зробяць, спадабаецца — пойдзем,— абяцаліся шостыя, і гэтак далей.

Я, трэба прызнацца, цікавіўся з пункту гледжання кнігі земскага, тоісь майго твора.

Першым Хвёдар і Змітрок адказалі так:

— Без дракі новае жыццё не будуецца. Няма чаго баяцца дракі.

Другім:

— Каб рабочыя і сяляне баяліся, што на іх наступяць з пажарамі ды забойствамі, дык яшчэ да гэтага часу фабрыкант і пан ездзілі б на нашым карку.

Трэцім:

— Вядома, будзе лепш, калі ўсе разам будзем праца-

вацьь. Прападуць межы, набудзем машыны. Добрае пасенне, шматполле. Праца куды спарней пойдзе.

Чацвёртым:

— Не разруха будзе, а перабудова з горшага на лепшае.

Пятым:

— Няма чаго чакаць. Чым хутчэй пачнём, тым лепш будзе.

Шостым:

— Вы будзеце глядзець на іншых, іншыя — на вас, і нічога тады з гэтага не выйдзе.

І так далей.

Тады стаяла добрая зіма, і быў «рак» у Крушынскага (лапкі мае, рак яго), а мне трэба было перажыць адну непрыемную псіхалогію. Так.

Будучы чытач маіх будучых друкаваных твораў ведае, аб кім хачу гаварыць — аб сваяку з адным прозвішчам пад імем і прозвішчам Сымон «Гарбочык» (лапкі мае, прозвішча яго. Сваё уласнае прозвішча хачу перавесці з Гарбочыка на Талстой). Так.

Яшчэ з маленства я адчуваў яго кулацкую натуру, тоісь майго роднага брата Сымона Гарбочыка (маё імя Мірон). Так. У яго яшчэ ў тыя царскія часы вызначаліся адзнакі контррэвалюцыі.

Лепшы кавалак сала — ён з'есць.
Лепшы кажух — ён апране.
Лягчэйшую работу — ён зробіць.
Горшая яда — мне.
Горшая вопратка — мне.
Цяжэйшая праца — мне. Так.

І няма паміж гэтых псіхалагічных адзнак мяжы паміж Сымонам Гарбочыкам малым і Сымонам Гарбочыкам дарослым як да Кастрычніка, так і пасля.

І вось, трэба прызнацца, мы, тоісь я і ён, ясней кажучы, ён — Гарбочык і я — Талстой (абавязкова буду Талстым — лапкі мае), пайшлі па розных пуцявінах, гэта значыць у жыцці. Бацькі нашы былі небагатыя, і мы самі пачалі аб сабе дбаць. Так. Я выкруціўся на пісара і дваццаць год у земскага служыў (як вам вядома), а ён задумаў багацець (апетыты Крушынскага). Смякалісты быў чалавек з заграбастымі «лапамі» (лапы яго, лапкі мае). Стараўся ўсё сабе заграбаць. Арандаваў зямлю ў паноў і дааранда-

ваўся да свайго ўласнага фальварка каля Гайдачан. Не любіў я, Талстой, яго, Гарбочыка (жыць не буду, калі прозвішча не змяню), яшчэ за адну псіхалогію. Так. Усіх — і малых, і маладых, і старых — ён называў «хлопцамі» (лапкі мае). Усіх стараўся залапаць у свае лапы (лапы яго). Так.

І, трэба прызнацца, усіх людзей ён дзяліў на дзве сямейкі — на «разумных» і «дурных» хлапцоў (лапкі мае). «Разумнымі хлапцамі» былі тыя, якія даваліся яму ў кулацкія лапы (лапы яго), «дурнымі хлапцамі»,— якія не даваліся. Так.

Пайшоў да яго касіць па нізкай цане:

— Разумны хлапец.

Прасіў людскую цану:

— Дурны хлапец.

Хто пахваліць Гарбочыка:

— Разумны хлапец.

Хто зганіць Гарбочыка:

— Дурны хлапец.

Хто бярэцца на яго кулацкую вудачку:

— Разумны хлапец.

Не бярэцца:

— Дурны хлапец.

Так.

Часамі «разумныя хлапцы» перакідваліся ў яго ў «дурныя» і наадварот.

З беднаты доўга ніхто не вытрымліваў быць «разумным хлапцом», бо Гарбочык лупіў з яго сем шкур. Тады той уцякаў ад кулака і пераходзіў да «дурных хлапцоў».

Малазямельны чалавек таксама доўга не мог быць «дурным хлапцом», бо гора давала сябе знаць. Пад вясну сена не хопіць, жыта не хопіць — пойдзе пазычаць да Гарбочыка. Ён дасць, і ўлетку ўся сям'я таго няшчаснага чалавека адпрацоўвае (ледзь не задарма) Гарбочыку. Тады той пераходзіў да «разумных хлапцоў». Так.

Жыццёвая трасца перакідвала людзей са стану ў стан. Іхняя годнасць мянялася з «разумных» у «дурныя» і наадварот.

Перад буржуазнымі хцівымі і хітрымі кулацкімі вачыма Гарбочыка заўсёды, значыцца, стаялі дваякай годнасці людзі: «разумныя» і «дурныя» хлопцы. Так.

Трэба прызнацца, я быў у лагеры «дурных хлапцоў», бо не хацеў лезці ў лапы (лапкі мае, лапы яго). Так? — Вядома, так!

І вось наваліўся на маю галаву снег. Тоісь я атрымаў ліст з турмы ад свайго былога брата. У лісце ён мяне просіць, каб я апякаваўся яго гаспадаркаю, тоісь каб я заходзіў да яго сям'і. Так.

І, трэба сказаць праўду, дзівы дзіўныя: называе мяне, тоісь «дурнога хлопца» (у яго вачах), «разумным хлопцам» (лапкі мае). Раптам!

Глядзі, Сымонка, памыляешся. У тваім хітрым і кулацкім уяўленні я быў «дурным» і застануся «дурным», бо не падамся ў лапы (лапкі мае, лапы яго). Так!

Твая хвальба, заядлы тып кулака, мне ганьба, твая ганьба — мне хвальба. Хачу застацца пры апошняй. Так!

Я, самі разумееце, каб не паганіць свайго сачынення, тоісь свайго твора, кулацкім братэрствам (няхай запрапасціцца маё гарбочыцкае прозвішча!), не выканаў яго просьбы.

— Гэта ж твой родны брат! — заартачылася жонка.— Людзі вы людзі, а жывяце, як свінні!

— Іменна, не хачу свінскага кулацкага карыта! — тонка адказаў я жонцы, сур'ёзна гмыкнуў і сур'ёзна пагладзіў бараду.

Населі на мяне і дачка і зяць-прымак — нічога не памагло.

— Акыш, не лезьце ў мае справы!

Яны б і самі туды пайшлі, дык, трэба прызнацца, былі з сям'ёю Сымона Гарбочыка на нажы. Сымоніха выгнала б іх з хаты ды яшчэ сабакамі зацкавала б. Так.

Чаму?

Ліха іх ведае. Тут, здаецца, справа ішла пра гонар.

Сымоніха ганарылася тым, што яе муж гаспадар, што ў іх усяго ёсць, а мы ледзь не жабракі.

Мая Барбара запэўняла, што няхай сабе яна жыве не вельмі багата, але ёй досыць. Хлеба прасіць у Сымонавых не будзе. Яшчэ горш, калі багацце прэ назад праз горла: тады брыкаешся, як конь, і рохкаеш, як свіння. Так.

Тут, можа, апрача гонару карадзіла яшчэ і зайздрасць.

Сымонава жонка хацела б, каб да багацця яе муж меў бы і мой пісарскі гонар.

Мая Барбара хацела б, каб да майго пісарскага гонару дадаць багацце Сымона. Здаецца, так.

Я не прызнаю папізму ад слова «поп» і багізму ад слова «бог», але тут хачу заўважыць заўвагу, што і паводле Сымоніхі, і паводле маёй Барбары «бог» тут няскладна ўстанавіў наша становішча на зямлі.

Вось вам і «бог»!

Прыбавіўся яшчэ адзін дурны хлапец.

Гэтаму дурному хлапцу і лапак не даю. Навошта лапкі, калі яго самога няма?

З гэтым пунктам я згодзен. Так.

Але чаму мае хатнія дамагаюцца, каб я пайшоў да сям'і Сымона Гарбочыка?

Ім здаецца, што ўдасца мне тое-сёе адтуль забраць. Ім здаецца, што можна будзе карову і каня далучыць да іхняга стада. Няхай разам пасуцца. Шмат чаго ім здаецца — квапункі вялікія.

Я ім на гэта:

— Калі вы такія рупныя, дык навошта вы, тоісь я, павінен быў завезці назад Крушынскаму мяшок жыта?

Тады яны:

— Крушынскі нам не сват і не брат, а Сымон родны брат табе.

— Дурная сваяцкая псіхалогія,— кажу ім.

— Дурналогія ты! Нічым не хочаш дапамагчы ў гаспадарцы! — крыкнула мая жонка.— Да братавай сям'і не хоча ісці! Чулі?

Тады і мой голас пачаў расці, як лаза на балоце.

— Я адмаўляюся ад братэрства з кулаком! Люблю шчырасць! Паважаю праўду!

Тут мая Барбара забарбарыла:

— Ах ты, памяло сівое! Не падрабляйся са сваёй шчырасцю і праўдай пад Антося Драчыка!

Я падняў свой голас яшчэ на паўтона вышэй:

— Сівая ты качарга! Па шчырасці кажучы, ты мне за ўсё жыццё, тоісь як горкая цыбуліна, апрыкрала! Здаецца, сорак год з табою жывём? Так?

— Не сорак, а сорак адзін з палавінаю,— папраўляе жонка.

Пры гэтым, як пятнастоўка, узялася ў бокі, глядзіць на мяне ды смяецца. Вось і рабі з ёй што хочаш!

Каб не адставаць ад старой, узяліся ў бокі і мая дачка, і зяць-прымак, і ўнукі — (цэлы шэраг малых і вялікіх літараў «ф») і таксама з мяне, старога, рагочуць, кепікі строяць.

Тут ужо я не вытрымаў, зароў, як вядзьмедзь:

— Шчырасць люблю-у-у!

Далей не магу і слова казаць, бо дух захапіла. Адно толькі — у грудзі сабе стукнуў уласным кулаком.

— Якраз — Антон Драчык! — кажа жонка Барбара і покатам коціцца ад смеху. За ёю тое самае ўсе хатнія.

Пасля смеху жонка дадае:

— Не хапае толькі, каб табе, памяло сівое, яшчэ нагу выкруцілі і паленам па галаве ляпнулі за шчырасць, як Драчыку!

Вакол нашай хаты людзі збірацца пачалі, як на спектакль у Крушынскага. Тут я яшчэ больш увайшоў у стос, гэта значыць у злосць, зрабіў разбойніцкія вочы і крыкнуў:

— Хадзем у сельсавет! Хачу з табою на развод і разлуку ісці! Годзе! Сорак адзін з палавінай гадоў жыў, тоісь не жыў, а пакутаваў з табою. Так.

Здаецца мне пры гэтым, што мая жонка зараз лопне, зараз трэсне ад смеху.

Здаецца мне пры гэтым, што мае вочы зараз на лоб вылезуць ад злосці.

— Абвяшчаю цябе прахвостам! — крычу да жонкі хрыплым тонам (я тады здорава ахрып). Накінуў на плечы кажух, схапіў з паліцы «Летапіс» і гайда з хаты.

Жонка Барбара выскачыла адразу за мною. Я чуў, як яна за маімі плячыма запаўняла на памяць маю анкету. Хоць вазьмі ды пашлі гэту анкету некаторым мінскім прафесарам.

Шмат пунктаў было ў анкеце:

1. Памяло сівое.
2. Дурны, як варона.
3. Антось Драчык (у выглядзе лаянкі).
4. Не ўсе дома (тоісь у маёй галаве).
5. Пісака-ламака.
6. Абармот.

І г. д., і г. д., і г. д.

4

## НА ПАСЁЛКУ

На гэтым месцы «Леў Талстой» спыніўся, адлажыў кнігу і кінуў мнагазначна ў хату:

— Та-а-ак!

— Можа, есці хочаш? — запыталася з двара Барбара.

— А дай!

Увайшла старая і паставіла яду на стол. Потым зірнула мужу ў вочы.

— Ты чаго? — запыталася яна.— Зноў злуешся?
— Адчапіся, бяда!
— Зусім я не бяда, калі ты тады праз пару дзён зноў ка мне вярнуўся.
— У тым-то і бяда мая, што — дзе я дзенуся адзін ды стары?
Гэта «Леў Талстой» прагаварыў тады, калі ўжо сядзеў за сталом і еў.
Пасля яды зноў прыняўся за чытанне. Так.
Трэба прызнацца, зямля не чула мяне над сабою, тоісь я зямлі пад сабою не чуў. Так лёгка мне стала. Раз назаўсёды вызваліўся ад брата-кулака, ад сям'і, якая камусьці спачувае (толькі не мне), ад паганага прозвішча «Гарбочык» (адна заява — і ад Гарбочыка, тоісь майго сапраўднага прозвішча, нават рожкі ды ножкі не астануцца). Так.
Мне так лёгка, нібы сорак пудоў, тоісь сорак гадоў скінуў з плеч. Я ў дарозе. Так.
Даўно скончыліся крыкі жонкі, гігіканне гайдачанак і гайдачан, якія стаялі каля нашай хаты, даўно я мінуў вёску. А я ўсё бягом па снезе ды бягом. Так.
Прызнаюся шчыра, агледзеўся я, на якім свеце знаходжуся, толькі тады, калі засопся, як гусак, і апусціў крылле. Так.
Тыя сорак год, якія я раней скінуў з плеч, зноў уеліся ў мой карак, як сорак каршуноў, ды з такім імпэтам і раптоўнасцю, што хоць ты лажыся ды канай. На што-колечы іншае я ўжо не быў здолен. Але непрыемная гэта прыемнасць — канаць. Трэба прызнацца, вялікай ахвоты да гэтага ў мяне не было. Так.
А вакол — снег, зіма і мароз і наадварот.
Я трохі пастаяў на месцы ў сумным раздуме, адсопся і пайшоў далей. Куды? Хто яго ведае. Трэба вытрымаць драчыкаўскі фасон. Прызнаюся шчыра, не лёгкі гэты фасон. Але раз назвалі Драчыкам, дык няхай будзе так. Пастараюся быць упартым і шчырым, як ён. Я сам быў зацікаўлены, што з гэтага выйдзе. Так.
Вось я ўвайшоў у хвойнік. Дарога якраз перарэзвае яго на дзве часткі, нібы нож булку хлеба. Глядзяць на мяне высокія калматыя хвоі, і нават галінка не кіўнецца. Толькі часам варона ўзнімецца з галіны і страсяне ўніз снег. Пакрытыя снегам хвоі здаюцца мне сівабародымі, як я, і я дзеля гэтага адчуваю сябе нядрэнна ў іхняй кампаніі. Так. Яны не гутарлівыя? Якраз гэта мне і трэба. Няхай бы мая былая жонка Барбара (буду вымагаць разводу) была гу-

тарлівай, як гэтыя хвоі, каб толькі калі-нікалі ад ветру шумела без слоў, а так сабе «ш-ш-шу», дык я і разводу не дамагаўся б, і ў хаце сядзеў бы, каб працягваць працяг свайго твора аб гайдачанах. Так.

Мінуў лес і пайшоў далей дарогаю. І вось пачаўся вячэрні змрок. Трэба прызнацца, неспадзяваны для мяне. Трохі паружавеў край неба. А вакол — снег і пустата, пустата і снег. Вось і дажыўся я. Пражыў больш за шэсцьдзесят год і страціў свой жыццёвы прытулак. Каламутна стала на сэрцы.

Куды ісці? Няўжо ж назад да Барбары?

Тут, як жывы, стаў перад маім нутраным зрокам Антось Драчык. Ён мне ўсміхнуўся і сказаў майму нутранаму слыху:

— Не паддавайся, «Леў Талстой»! Будзь такім, як я!

У адказ на гэта я імпэтна пайшоў наперад і, каб надаць сабе больш бадзёрасці, крыкнуў ва ўсю моц сваіх шасцідзесяці з хвосцікам год:

— Люблю шчы-ы-ырасць!

— Шчырасць! — адказаў мне здалёку сівы лес. Так.

Не лёгка быць у скуры Драчыка. А тут развагі розныя ражнамі лезуць:

— Драчык вёў лінію шчырасці ад самай калыскі, тоісь нарадзіўся з ёю. Ён заўсёды накіроўваў сваю шчырасць у той бок, каб людзі не крыўдзілі адны адных, каб чалавек гаварыў заўсёды толькі тое, што думае. А я... дваццаць гадоў у земскага вучыўся адваротнаму. Калі сядзеў крукам над пісанінай па дванаццаць і больш гадзін, дык часта думаў: «Згінь ты, прападзі, земскі, з усімі сваімі справамі. Скруці сваю галаву па таму прыкладу, як людзям скручваеш». Але не было ніводнага выпадку, каб я адважыўся аб гэтым уголас сказаць не то што земскаму ў вочы, але нават і сваім блізкім сябрам. А Драчык такую смелую і праўдзівую заяву земскаму напісаў, у якой абазваў таго прахвостам і г. д. Так.

— Зайздрошчу часам самым простым сялянам (непісьменным). Адмаўляюцца ад сваяцтва з кулакамі вельмі лёгка і проста. Лішне не разважаюць аб гэтым. Шмат такіх у нашай ваколіцы.

— А можа? А можа, удасца мне цяпер шасцідзесяцігадовым разумовым стажам пераняць Драчыкаў шчыры «карахтар» (як ён кажа)? Вельмі ж хочацца паказаць Барбары, на што я яшчэ здолен... Так.

— Ага! Зноў Барбара! Пры чым тут яна і навошта яна? Значыць, я лгу самому сабе, што ад жонкі ўцякаю...

Ад злосці я б цяпер адкусіў язык сваіх думак і развагаў.

— Не разважай, а дзейнічай, былы пісар былога земскага!

На пустой зімовай дарозе, дзе з аднаго боку воддаль атулены снежнай сівізнай лес, а з другога боку — мутнае поле, а над усім гэтым сiняватай тканінай апусціўся вячэрні змрок,— я адчуў сябе вельмі адзінокім. Так. А Драчык не быў раней адзінокім? — уклаў мне нехта чужы новую думку, палажыў яе на ранейшую, нібы масла на хлеб.

Я глынуў і адно і другое, і перад маім псіхалагічным зрокам на стаенніках пранесліся мае шэсцьдзесят год, праскочылі галопам шэрыя ад службы ў земскага начальніка, цёмна-шэрыя за дваццаць год службы, пасля зноў шэрыя. А за апошнія гады пасля ўсіх акупацый так у нас змянілася жыццё, што нават старыя памаладзелі і пакіравалі свае погляды і ўчынкі ў новы бок жыцця. Шчырасць? Я нават сам з сабою шчырым не быў. Ілгаў самому сабе, як той цыган пры продажы сляпой кабылы. Так.

Дык навошта, дзеля чаго я жыў? Часам я жартаваў з Драчыка, што ён галавою аб сцяну стукае. Лепш было да Кастрычніка хоць гэта рабіць, чымся сядзець у сценах жыццёвай турмы і берагчы свой лоб, каб на ім шышкі не выскачылі.

— Драчык не быў калісьці адзінокім? Яго не любілі? Ён гладзіў супраць шэрсці? Мой былы брат Сымон Гарбачык назваў яго «дурным хлопцам»? Затое цяпер уся гайдачанская бедната Драчыка любіць. Ён звязаўся з масаю, як кажуць Хвёдар і Змітрок. Так.

А я?

Ні туды ні сюды.

Шэсцьдзесят год ківаўся, як маятнік, між шчырасцю і фальшам. Быў не халодным і не гарачым, а нейкім цеплаватым, трэба прызнацца. Так. Дзеля гэтай самай цеплаватасці па чарзе — то Драчык, то Крушынскі (і наадварот) — лічылі мяне сваім чалавекам. Тоісь людзі з супрацьлеглых лагераў. Так.

І вось цяпер, у самоце, Драчык — кульгавы, глухі на адно вуха (пасля пажару), змучаны жыццём, з босымі чорнымі патрэсканымі нагамі ўлетку, у набухшых, як пораўкі, лапцях зімою,— зрабіўся мне самым блізкім, самым дарагім чалавекам... Так.

Агорнуты такімі думкамі, я не чуў, як нехта за маімі плячыма крыкнуў:

— Гэ-э-эй!

Пачуў толькі тады, калі ззаду сані спыніліся і конь дыхаў цяплом у маю патыліцу.

— Гэ-э-эй!

Я ўздрыгнуўся. Знаёмы, дарагі голас... Драчыкаў...

Я адвярнуўся. Разам з ім сядзелі на санках Хвёдар і Змітрок.

— Леў Талстой! — сказаў Хвёдар.

— Дзядок! — здзівіўся Змітрок.

— Суседзе! — крыкнуў Драчык.

І зноў па парадку (першы, другі, трэці):

— Куды ты?

— Што адзін у дарозе?

— Садзіся! Едзем у камуну «Чырвоны Кастрычнік».

Не памятаю, што я гаварыў, але не агледзеўся, як апынуўся на іхніх санках.

Мы паехалі.

Ужо назаўтра вечарам яны мне апавядалі: спачатку думалі, што я падхалімоніўся гарэлкай. Потым меркавалі, што я звар'яцеў. Так.

Трэба прызнацца, я сказаў ім адным гакам усё, нібы з кулямёта стрэльнуў новую анкету:

1. Уцякаю ад жонкі.

2. Адмаўляюся ад братэрскага сваяцтва з кулаком Сымонам Гарбочыкам.

3. Мяняю сваё прозвішча Гарбочыка на Талстой.

4. Люблю шчырасць (пры гэтым стукнуў сабе кулаком у грудзі).

5. Няхай Драчык, Хвёдар і Змітрок лічаць мяне сваім чалавекам.

Трэба прызнацца, пры гэтым я плакаў, як малое дзіцянё.

Яны мяне ледзь супакоілі. Так.

Калі мы прыехалі ў «Чырвоны Кастрычнік», да мяне вярнуўся ранейшы супакой. Трэба прызнацца, вярнулася ранейшая здольнасць маіх псіхалагічных вачэй, тоісь назіранне за падзеямі жыцця і збіранне матэрыялу для майго твора.

Мы трапілі якраз на вячэру ў агульнай сталоўцы камуны. Нас зараз жа насадзілі за стол. Мы тут адчувалі сябе

роўнымі з усімі камунарамі. Пасля вячэры старшыня «Чырвонага Кастрычніка» апавядаў нам пра гаспадарку, паказаў у лічбах, як камуна расце з года ў год. Так.

Пасля гэтага нас павялі ў клуб камуны, дзе слухалі радыё. Там сядзелі сабе камунары і газеты чыталі пад радыё-музыку з Мінска.

Драчык штурхнуў мяне ў бок.

— Ну, што скажаш цяпер?

— Надта добра. Так,— сказаў я.

— Глядзі, кніг тут шмат,— здзівіўся Хвёдар, глянуўшы, як старшыня адчыніў вялікую шафу.

Назаўтра мы агледзелі ўсю іх гаспадарку: сыраварню, абору для жывёл, стайню для коней, крухмальню.

Мне трохі дзіўна было тое, што яны нам усё гэта паказваюць, як начальству якому. Нібы хочуць сказаць так:

— Калі вам, таварышы, не падабаецца наша праца, дык пастаўце іншых працаўнікоў.

— Ага! — кожную хвіліну штурхае мяне ў бок Драчык.— Бачыш, як тут добра! Ага!

— Тут, але не ў нас,— ахалоджваў я гарачага Драчыка.

— У Гайдачанах тое самае будзе! Зробім!

Раней «Чырвоны Кастрычнік» называўся Хадыкаўкай — маёнтак пана Гардзялкоўскага, які ўцёк з белапалякамі. Калісьці тут парабкі на пана працавалі. А пан вечныя балёўкі ладзіў у белым палацы на запрацаванае парабкамі дабро. Памятаю добра шустрага, быстрага, з тонкімі вусікамі пана Гардзялкоўскага. Высокі, зграбны. Усё паненак пстрыкатых з Мінска дастаўляў на баляванне. Вечныя суды былі паміж панам і сялянамі вакольных вёсак. Не раз прыходзілася мне перапісваць гэтыя судовыя справы. Так. Галоўным чынам судзіліся за крадзеж лесу і за сервітутную зямлю. Заўсёды выйграваў пан. У 1905 г. падпалілі панскае гумно. Панаехала тады многа стражнікаў,ураднікаў, прыстаў і сам іспраўнік. Сялян лупцавалі нагайкамі, каб прызналіся, хто падпаліў,— нічога не памагло.

— Што так задумаўся, таварыш? — запытаўся ў мяне старшыня камуны, здаровы мужчына гадоў трыццаці пяці.

— Успамінаю, тоісь, старыя часы.

— Калі тут лепш жылося?

Я пагладзіў бараду і сур'ёзна адказаў:

— Тут дваякае, тоісь, псіхалагічнае жыццё. Так.

— Як вас, таварыш, трэба разумець? — усміхнуўся ён.

— А проста, раней тут багатыя балявалі, а парабкі бедавалі. Цяпер наадварот. Так.

— Правільна! Люблю шчырасць! — крыкнуў Драчык, які здаровым вухам прыслухоўваўся да нашай гутаркі, а вачыма глядзеў праз акно на цагляную будыніну крухмальні.

— Можа, хочаце былога пана паглядзець? — запытаўся з усмешкаю старшыня.

— Ён жа ў Польшчы,— здзівіўся я.

— Ён тут. Пойдзем пакажу.

Старшыня павёў нас у вузенькі, доўгі пакойчык, дзе ляжала куча рознага барахла. Пакапаўся ў сціртах паперы і выцягнуў адтуль вялізны партрэт.

— Пан Гардзялкоўскі, як жывы! — крыкнулі разам Драчык і я.

— Навошта вам гэты партрэт? — запытаўся Хвёдар.

— Пэўна, для музея,— сказаў Змітрок.

— Не,— тлумачыў старшыня.— Гэта на тое, каб напомніць камунарам пра розныя непаразуменні.

— У вас часам спрэчкі бываюць? — занепакоіўся Драчык.

— Цяпер не, а раней, пакуль не наладзілі добра гаспадарку, бывалі. Я тады прыносіў камунарам, былым парабкам, партрэт пана Гардзялкоўскага. Як толькі на яго глянуць, дык зараз усе спрэчкі канчаліся. Нічым, бывала, іх так не пераканаеш, як партрэтам гэтай п'яўкі. Камунары яго яшчэ добра памятаюць. Вельмі не хочуць, каб ён вярнуўся...

Мы ўсе засмяяліся.

— Нашы камунары ніколі не пусцяць яго назад у «Чырвоны Кастрычнік». Жыццё аддадуць і не пусцяць. Я гэта добра ведаю,— сказаў старшыня.— Улетку мы тут электрычнасць наладзім.

Потым мы расселіся ў мяккіх панскіх плюшавых крэслах, якія стаялі ў клубе — у былой панскай зале.

Драчык сеў з нейкай апаскаю, нібы баяўся.

— Люблю шчырасць! — сказаў ён.— Не прывык я да гэткай раскошы! Аж нялоўка...

— Спачатку камунары таксама не хацелі на плюшы сядзець. Пасля навучыліся. Толькі падавай,— вытлумачыў старшыня.

Раптам ускочыў устрывожаны дзяцюк:

— Таварыш Шапевіч,— звярнуўся ён да старшыні,— ведаеш?

— Не ведаю.
— Зноў падстрэлілі.
— Каго?
— Пана Гардзялкоўскага.
— Як — пана Гардзялкоўскага? — усхапіўся радасна ўстрывожаны Драчык.
Мы ўсе так ускочылі са сваіх мяккіх крэслаў, ажна спружыны пад плюшам зазвінелі музыкай.
Старшыня ўсміхнуўся, калі заўважыў наша здзіўленне, і звярнуўся да дзецюка:
— Дзе цяпер пан Гардзялкоўскі?
— На ганку. Увесь ганак у крыві. Пан Гардзялкоўскі, мабыць, хутка сканае. Вельмі шкода.
Мы ўсе разявіліся і вочы вылупілі.
— Што тут за гульня адбываецца?
— Пільнуй хаця ангельскіх лёрдаў,— звярнуўся занепакоены старшыня да дзецюка.
— Яны ўсе на моцных ланцугах,— супакоіў яго дзяцюк.
Мы зарагаталі.
— Гэта ж сабакі! — крыкнуў радасна Драчык.
— Няма чаго радавацца,— заўважыў старшыня.— Кулакі, якія жывуць па суседству з «Чырвоным Кастрычнікам», нішчаць нашых лепшых сабак. Не раз кулакі мерыліся падпаліць нас. Але ў нас варта па начах ходзіць з добрымі сабакамі, хоць сабакі носяць такія паганыя імёны.
Мы прабылі там жа да вечара другога дня. Жылі як у гасцях. А Драчык усё браў іх на цугундэр крытыкі. Хлявы не ў парадку, не ўсе камунары жывуць у добрых памяшканнях. Прыбытак крухмальні трэба павялічыць.
— Ціха ты,— гаварыў я яму.— Чаго лезеш не ў сваё?
— Як гэта не ў сваё? — выставіў на мяне Драчык здзіўленыя вочы.
Камунары смяяліся. Вядома, не з Драчыка, а з мяне. Так.
Трэба прызнацца, я тут адпачыў душой. Нас прасілі наведацца сюды з вясны, калі праца закіпіць на полі.
Вярнуўшыся з «Чырвонага Кастрычніка» ў Гайдачаны, я не пайшоў дамоў, а застаўся ў Драчыка. Але не паспеў у яго пераначаваць хоць адну ноч. Зараз жа даведалася мая Барбара. Прыбегла і завыла над маёй галавою. Я пайшоў дахаты. Я б, можа, пакуль што застаўся ў Драчыка, але ў яго вось якая супрацьлегласць — маленькая хатка і вялікая сям'я. Дзе ж мне тут пісаць свой твор?

Так. У Гайдачаны прыехаў аграпом малады і, на першае знаёмства, маўклівы.

Было сонца і адліга. Капала са стрэх. Па адзінай гайдачанскай вуліцы было слізка. Дарога блішчала, як шкло. Дзе-нідзе спявалі пеўні. Дзеці каталіся з горкі на вялізных санках, якія называлі аўтамабілем. Сцягнуць санкі без аглабель на горку, насядуць туды цэлай гурбою і з'язджаюць уніз са смехам, з крыкам, з галасам. Вочы ў іх блішчаць ад радасці. Твары чырванеюць.

Трэба прызнацца, каб не саромеўся, дык сам бы з імі пакатаўся. Але маё месца занялі ўнукі. Я стрымліваю ў сабе жаданне бавіцца разам з дзецьмі. І без гэтага Барбара мне часта напамінае сваю Барбарыну тэорыю:

— Стары як малы,— кажа яна.

Глядзіць на мяне зверху ўніз, знізу ўверх. Ківае галавою і зноў паўтарае.

— Стары як малы.

Так.

А вялікім сапраўды не да забаў.

Прыездам агранома гайдачане зацікавіліся. Трывожыліся багацейшыя. Радаваліся бяднейшыя. І ўсе думалі прыблізна адно і тое самае.

— Што скажа аграном?

Зноў у Марцінавай хаце сход. Зноў шмат гайдачан, гайдачанак і гайдачанят. Нібы маленькімі каменьчыкамі, людзі перакідваюцца слоўцамі, смешачкамі, пашаптушачкамі, жартамі, сварачкамі. Усё гэта адбываецца нібы ў тумане, у сіняватым махорачным дыме. Так.

Зноў той самы прэзідыум: Хвёдар, Змітрок, адзін з нашага сельсавета, а я — сакратаром.

— Зноў правалілі Драчыка пры выбарах у прэзідыум! — смяецца дзядок Мікіта — сівенькі і лысенькі. Ён пры гутарцы трасе галавою туды і сюды. Нібы не згаджаецца з тым, што сам гаворыць.

— Драчык вялікі крыкун. Яго не можна ў прэзідыум, бо ўвесь сход разгоніць,— тлумачыць цётка Мар'яна, удава, мужа якой забілі ў часы імперыялістычнай вайны.

— Ён жа за нас, удоў і бедных, гарою стаіць! — кажа ёй другая, цётка Паўлючыха.— Што ты супраць яго голас падаеш? Дурная!

Антось Драчык не звяртае ўвагі на гэтыя гутаркі. Адным вухам усяго і недачуе. Ён верціцца, нібы ўюн (нягледзячы на кульгавасць), то туды то сюды. Па-асабліваму

вочы гарацъ, па-асабліваму рукамі махае. Адчувае сябе як на хрэсьбінах. Так.

Раптам Драчык падскаквае ка мне да прэзідыумскага стала і шэпча на вуха такім голасам, каб увесь сход чуў:

— Вось гэта я разумею! Няма Фальковіча, Сініцы, Гарбочыка і Лаўронка! Яны сядзяць цяпер там, дзе даўно для іх месца падрыхтавана! Можа, ушанаваць іх адсутнасць уставаннем?

— Цішэй, Антось,— прашу я.

Ён не можа супакоіцца.

— Люблю шчырасць,— кажа ён сваё.— На сходзе яшчэ знойдзеш некалькі чалавек, якія шкадуюць тых. Вунь, глядзі: Тамаш Пікунчык, Язэпчыха і Андрэйчык. Муж сам не пайшоў, дык сваю язычлівую бабу прыслаў сюды. А там у кутку дзядок Мікіта. Сыны, кулакі, дома засталіся. Старога каршуна прыслалі. Ой, хітры народ. Але мы іх выведзем на чысценькую вадзіцу. Люблю праўду, сягоння, мабыць, зноў будзе бой.

— Цікава, што агранам скажа? — шапнуў я ціха Драчыку на вуха.

— Га?

Ён выпучыў на мяне вочы і наставіў другое вуха.

Я зусім выпусціў з увагі тое, што ён аглух на правае вуха пасля пажару і кала Лаўронка. Я перавёў свой шэпт на яго левае здаровае вуха.

Драчык зморшчыўся. Боль свяціўся ў яго вачах. Гэты боль знайшоў водклік у маім сэрцы. Я зразумеў Антося. З кульгавай нагой на сходзе — невялікая бяда, а вось глухое вуха вельмі перашкаджае.

— Ты кажаш, агранам? — сказаў Драчык.— Ясна, агранам наш! Такі малады! Няма ў яго старых, дарэвалюцыйных замашак. Ён цяпер той пратакол праглядае, напісаны на апошнім сходзе.

Трэба сказаць, што з таго скандальнага сходу ніхто з гайдачан не адважыўся болей хадзіць на сходы аж да сягоннягняга дня. Так.

Я паглядзеў на Драчыка з сур'ёзным пашкадаваннем. Ён не думаў мяне ўкалоць, а ўткнуў шпільку (па сваёй прастаце) мне ў самае сэрца...

Ён сказаў: «Агранам наш. Такі малады, і ў яго няма дарэвалюцыйных, старых замашак». Так.

Што ж мне з маімі гадамі (лікам шэсцьдзесят) рабіць? Няўжо ж у мяне дарэвалюцыйныя замашкі? Няўжо ж мне

ў магілу ісці? Няўжо ж паслякастрычнікавыя гады не выветрылі земшчыны з маёй галавы?

Я выцерпеў яго шпільку і падумаў:

«А можа, Драчык мае права так сказаць? Факт застаецца фактам, што Драчык зусім не хацеў пакрыўдзіць мяне. Няўжо ж пры гутарцы са мною, старым, ён павінен выкінуць з ужывання словы «стары», «дарэвалюцыйны» і г. д.?»

Я сапраўды раблюся вельмі прыдзірлівы да людзей. Недарма жонка Барбара мне напамінае, што стары як малы. Так.

Лямпа на прэзідыумскім стале стаяла каля самога носа агранома. У хаце быў паўзмрок. Твары гайдачан, якія стаялі далёка ад стала, былі ў цені. Трэба было добра да іх прыглядацца, каб вычытаць на тварах тое, што кожны з іх, тоісь гайдачан, думае, чым пахне. Так.

Але на гэты раз я зацікавіўся тварам агранома, які чытаў пратакол апошняга скандалезнага сходу.

Пратакол я тады напісаў поўны. Запісваў усё тое, што даляцела з вуснаў гайдачан да маіх вушэй. Я занатоўваў цалкам кожнае выступленне. Усё апісаў яшчэ больш, чымся ў маім «Летапісе». Я пасля сходу некалькі раніц апрацоўваў пратакол, каб відаць была поўная з усіх бакоў карціна. Так.

Я зацікавіўся выразам твару агранома пры чытанні маёй пісаніны. Можа, хоць ён выкрые мой спознены талент?

Недзе я чытаў, што на твары чалавека бывае асаблівая мімрыка, тоісь міміка. Але дазвольце, будучыя чытачы майго будучага друкаванага твора, замест «мімікі» ўжываюць «мімрыку». З майго пункту гледжання «мімрыка» гучней і больш адпавядае сэнсу. Я так адчуваю гэтае слова, нібы яно жывая істота, з ручкамі і ножкамі. Яно нават пахне па-свойму — па-псіхалагічнаму. Так.

Няхай жыве мімрыка!

Пры розных перажываннях, калі чалавек вясёлы, у яго вясёлая мімрыка, сумны — сумная мімрыка; калі ён хітры, дык і мімрыка яго хітрая; калі ён шчыры — мімрыка шчырая; калі ён добры — мімрыка добрая.

Я вельмі добра разбіраюся ў мімрыцы чалавечага твару. У земскага па судах вывучыў мімрыку ва ўсіх яе тонкасцях на сотнях і тысячах твараў людскіх, да якіх я вельмі прыглядаўся.

Гэты занятак, трэба прызнацца, займаў у мяне шмат

часу. Мімрыка мае жонкі Барбары мне, напрыклад, вельмі вядома. Калі гляну на яе ў часе яе сну, дык ведаю, што яна сніць у тую хвіліну. Для майго твора без мімрыкі ўсё роўна як без рук. На мімрыцы я здорава навастрыў зубы і насабачыў вочы. Так.

Дык вось прыглядаюся да мімрыкі аграномічнага твару.

Мімрыка сур'ёзная, з маленькай зморшчынкай пад носам, з адтапыранай ніжняй губою. Нібы ён прабуе смак новай стравы і хоча сказаць, што солі не хапае.

— Ага — здагадваюся! — Чытае даклады Хвёдара і Змітрака аб калгасах. Пры гэтым агранам зірк то на Хвёдара, то на Змітрака. Твар яго сур'ёзнасці не мяняе, толькі час ад часу агранам кіўне галавою. Я, аднак, не разумею, ці ён згодзен з дакладчыкамі, ці не. Мімрыка яго вагаецца на гэтым месцы.

Выраз вачэй неразборлівы. Так.

А вось на аграномаўскім жывым партрэце вельмі выразная мімрыка страху.

Агранам ледзь прыкметна зірнуў на Драчыка і зараз жа ўтаропіў вочы ў пратакол.

«Выступленне Драчыка чытае цяпер»,— здагадаўся я.

Ён раптам напусціў на мімрыку страху туман бяссэнсавай усмешкі.

«Не, міленькі аграномчык, ад мяне не ўтоіш сваёй мімрыкі! Дудачкі!»

Далей ён забарабаніў пальцамі па стале. Рукі ў яго ледзь дрыжалі. Мімрыка на яго жывапісе, як стрэлкі на гадзінніку, паказалі новую думку: «ану, хто каго?»

«Трэба прызнацца, чытае выкрыкі кулакоў супраць калгаса,— меркаваў я беспамылкова.— Праглядвае іхнія запісаныя мною перагіркаванні з Драчыкам».

А вось зусім простая, як літара «а», мімрыка: агранам хіхікнуў сабе ў пазуху і зірнуў на мяне.

«Гэта ён, гад, маё выступленне цяпер чытае. Памятаю. Я тады тлумачыў Лаўронку, што такое за яно «слова» на рэвалюцыйных сходах. Я тады сказаў каротка і ясна:

— Слова не значыць адно, тоісь слова, а, трэба прызнацца, многа слоў. Так. Я гэта, каб іншыя ведалі, з педагагічнага і адваротнага боку. Калі прэзідыум дае слова, дык...

Пры слове «дык» маю прамову спыніў тады гучны бяскласавы смех гайдачанскай масы.

А вось агранам зноў сур'ёзную мімрыку напусціў.

У гэтай сур'ёзнай мімрыцы, нібы кропкі на мухаморы, свяціліся не то радасць, не то згода».

«Не можа быць, каб выступленне падкулачніка Лаўронка зрабіла на агранома такое ўражанне. Не можа быць! Так».

Тут прэзідыумскі Хвёдар падышоў да яго і шапнуў:

— Таварыш Кавалькевіч, сход чакае вашага даклада.

— Мне ж трэба пазнаёміцца з вашай ранейшай працай і настроямі сялян.

— Мы ж вам удзень аб усім гаварылі.

Аграном усміхнуўся і тонка сказаў, выставіўшы на мяне мнагазначную мімрыку:

— Ваш сакратар так жыва піша пратаколы, што чытаеш іх, як раман.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я наўмысне паставіў тут два радкі кропак, як малюнак аграномаўскай мімрыкі.

У гэтую хвіліну я выпусціў са сваіх псіхалагічных рук нітку яго мімрыкі: не ведаю, ці ён ганіць, ці хваліць маю пісаніну. А гэта тады было для мяне самым галоўным.

За такое «галоўнае» Драчык мяне не пахваліў бы. Ён не хоча ведаць ніякіх чалавечых слабасцей. Так.

Нарэшце, аграном пачаў сваю прамову.

На гэты раз змоўклі жарты і пашаптушачкі. Гайдачане наставілі вушы, выцягнулі шыі. Некаторыя нахілілі галовы з нутраной напружанасцю. Некаторыя разявілі раты. Некаторыя зажмурылі вочы.

Слухалі ўсе.

Так. Я прыгледзеўся да яго твару. Хацеў вылавіць яго прамову, не толькі слова ў слова, але і тое, што па-за словамі прытоена і прыжмурана. Я зноў узяў яго, трэба прызнацца, на кручок мімрыкі.

Аграном хоць малады, але голас глухаваты і часам пераходзіць у хрып і кашаль. Ён просіць не курыць. Але дзе там?

Відаць, аграном хварэе на мудрагельства. Спачатку ён доўга гаварыў аб сялянскім быце і псіхалогіі, якія ўтрамбоўваліся стагоддзямі. Цяжка ўсё гэта адразу ламаць. Усё

гэта трэба рабіць павольна і асцярожна. Потым ён сыпнуў з вуснаў бліскучы фантан рыфмаваных слоў:

рацыяналізацыя,
канфігурацыя,
нацыяналізацыя,
індустрыялізацыя,
інтэнсіфікацыя і г. д. і г. д.

Сход слухаў з цікавасцю. Можа, дзеля таго, што некаторыя месцы былі падобны да гучнай песні на замежнай незразумелай мове, а можа, лавілі пятае праз дзесятае зразумелыя думкі:

«Трэба нам вучыцца ад фермераў у Даніі і Амерыцы».

«Трэба памятаць, што ў нас, на Беларусі, няма такіх кулакоў, як у РСФСР, Сібіры, на Доне ды іншых месцах. Таварышы, былыя чырвонаармейцы, відаць, наслухаліся аб кулаках у Расіі. Такіх у нас няма».

«Глеба наша пакуль што не падрыхтавана да стварэння калектыўных формаў сельскай гаспадаркі».

«Трэба павучыцца раней быць культурным гаспадаром, а пасля ўжо пераходзіць на новыя формы сельскай гаспадаркі...»

«Пакуль што толькі на землях былых маёнткаў могуць быць саўгасы, камуны і арцелі, бо там гаспадарка вялася і раней больш-менш культурна».

«Пакуль што мы павінны будаваць эканамічна жыццёвыя гаспадаркі».

Хоць малады аграном гаварыў, як я заўважыў з яго мімрыкі, нешта вычытанае з кніг, аднак гайдачане прыслухоўваліся да яго гутаркі ўсё з большай зацікаўленасцю. Вочы ўсіх былі нацэлены аграному якраз у рот.

Было ціха.

Антось Драчык, які здаровым вухам лавіў кожнае слова агранома, не вытрымаў, падскочыў да мяне і шапнуў:

— Люблю шчырасць! Трэба было вярнуць назад нашых кулакоў з турмы. Яны б радаваліся. Трэба было пасадзіць у прэзідыум Язэпа Крушынскага. Ён бы добра смакаваў прамову агранома.

— Ціха...— сказаў Драчыку прэзідыумскі Хвёдар. Аграном тым часам захлёбваўся сваімі ўласнымі словамі:

— На сельскай гаспадарцы ў часы мірнага будаўніцтва, па дарозе да сацыялізма, мы можам абыходзіцца без пажараў, без забойстваў ды наогул без скандалаў. Культурныя гаспадаркі — хутарскія нам патрэбны! Пераход на пасёлкі нам патрэбен! Добрыя гаспадарскія двары нам

патрэбны! Шматполле нам патрэбна! Малочныя таварыствы, меліярацыя, машыны нам патрэбны!

Хоць ён гаварыў далікатнымі, а часам і незразумелымі словамі, але мне ўсё здавалася, што за яго мімрыкай хаваюцца кулакі, кулачкі і падкулачнікі. Аграном толькі для віду, як заслона, а за ім задаволена падкручвае вусы Язэп Крушынскі, радасна тупаецца Лаўронак, усміхаецца і рукі пацірае Фалькевіч, мой былы брат Гарбочык называе яго «разумным хлапцом». Сініца абнімае яго, як роднага... Так.

Аграном арганізоўвае масу, але якую і як?

А нашыя беднячкі падаліся яму на вудачку.

Пасёлкі спадабаліся многім.

— Наркамзем ведае, што робіць! — гаварыў сход на розныя галасы.

— Мы згодны на пасёлкі!

Выступіў пасля агранома Хвёдар. Сказаў слова і Змітрок.

У іх словах адчуваўся такі сэнс:

— Мы не вучоныя. Нам здавалася. Мы не ведалі, пабачым і г. д.

Трэба прызнацца, яны далі задні ход.

Таварыш з сельсавета нічога не сказаў.

Пасля выскачыў Антось Драчык. Ён трымаў сябе, як на ранейшых сходах:

— Таварышы! Я зразумеў са слоў агранома, што трэба ўставіць кол у калясо сацыялізма! Гэта няправільна! (Стукнуў сабе кулаком у грудзі.) Наркамзем? Аграном, мабыць, не разумее наркамземаўскіх спраў!

З усіх куткоў пачалі цюкаць і люкаць на Драчыка.

— Далоў Драчыка!

— Ура, аграном!

— Ура, пасёлкі!

— Ура, хутары!

Аграном пры гэтым глядзеў на Драчыка, як дарослы на маленькага хлопчыка — з мімрыкай усмешачкі і кплівасці. Так.

Хвёдар сказаў Драчыку:

— Гэта музыка для цябе, Антоська, тонкая штука. Наркамзем ведае, што робіць. Аграном жа не ад сябе гаварыў, але ад імя Наркамзема.

Аграном зноў папрасіў слова для тлумачэння. Яму ахвотна далі.

Трэба прызнацца, ён зноў доўга гаварыў, доўга тлумачыў.

За ім, не просячы слова, зноў крыкнуў Драчык:

— Для мяне гэта ўсё ж такі не ясна! Люблю шчырасць! Нічога новага, сацыялістычнага, не бачу ў гэтых хутарах і пасёлках! Рассоўваць людзей, як вядзьмедзяў па бярлогах? Гэта ж і некаторыя беднякі такім чынам кулакамі зробяцца. Іду ў камуну «Чырвоны Кастрычнік»! Хто яшчэ?

— І я! — крыкнуў Змітрок з прэзідыума.

— Каціся на калёсах сваіх! — гукнуў нехта са сходу.

Вялікая пакута была напісана на твары Драчыка.

Ён абвясціў:

— Часта з «Чырвонага Кастрычніка» буду наведвацца з камунарамі на вашыя пасёлкі! Не выкруціцеся ад сацыялізма! Не думайце акопвацца на доўгія гады!

Я пачаў выціраць вочы. Можа, не так шкадаваў, што калгас праваліўся, як пакуту Антося Драчыка.

Змітрок пацягнуў мяне за рукаво і сказаў:

— Супакойся! Трохі пазней наша возьме. Гэта нейкае непаразуменне.

Хвёдар гмыкнуў. Так.

Папрашу сваіх будучых чытачоў памятаць Хвёдара. Трэба прызнацца, яго гмыканне набудзе пазней вялікі сэнс. Гэта трывожны сігнал для самога Хвёдара.

— Ура, на пасёлкі!

Доўга звінелі ў маіх вушах гэтыя словы.

Такая пастанова аб пасёлках адбылася тымі ж днямі і ў Драздоў і Дзятлаў.

Ужо на вясну, трэба прызнацца, пачалася завірушка: сельсавет, каморнікі, сродкі на перавозку, перарэзку, перабудову і інш.

Шмат новых закавычак: Каму якая зямля пападзе? Колькі? Дзе? І г. д., і г. д.

У сельсавеце варылася, як у катле. Але аб гэтым далей. Так.

Антось Драчык выканаў сваё слова. Яго прынялі ў камуну «Чырвоны Кастрычнік».

Змітрок хацеў спачатку таксама ісці ў камуну, але зацікавіўся пасёлкамі.

Хвёдар як гмыкнуў на сходзе, дык ужо вызначыў сабе пэўны шлях.

Адно цікава — тыя шчыліны, якія былі прабіты на ранейшых сходах паміж беднякамі і багатымі гайдачанамі, не былі склеены. Так.

Тое самае было і ў Драздоў і Дзятлаў. Пайшлі Дразды супроць Драздоў і Дзятлы супраць Дзятлаў. Так.

Што з гэтага выйдзе, пакажа ў далейшым мой «Летапіс». Так.

«Леў Талстой» палажыў кнігу на паліцу і зняў акуляры з носа. Ён выйшаў на двор, каб пагрэцца на сонцы. Над яго галавою зусім нізка спявалі жаўранкі. У гародзе забаўляліся яго малыя ўнукі. Звінеў смех дзяцей. «Леў Талстой» усміхнуўся і павольна пайшоў на агарод да ўнукаў. Ён зусім забыўся, што яму больш за шэсцьдзесят год. Было лёгка на сэрцы.

— Люблю шчырасць,— шапнуў ён.— Яшчэ паваюем.

Раптам ухапіўся за лоб.

— Забыўся...— шапнуў ён і давай азірацца па баках.— Аб чым я гэта толькі што думаў?

Ён доўга моршчыў лоб. Раптам устрапянуўся, нібы ўгледзеў нешта вельмі цікавае.

— Ага! Успомніў! Трэба будзе схадзіць у «Чырвоны Кастрычнік». Надта хочацца Драчыка пабачыць.

Спявалі жаўранкі.

## 5

## ДЗЕ МАМА?

Настачка і Мзей, дзеці Язэпа Крушынскага, за зіму выраслі са сваёй вопраткі, спаднічкі пакарацелі.

Аднаго разу Стэфка заўважыла:

— Усё на вас коратка, дзеці. Трэба будзе пашыць для вас новую вопратку — даўжэйшую, прыгажэйшую. Вы за гэту зіму падраслі.

— І цёця Стэфка за зіму падрасла! — сказала Настачка.— Вунь які жывот у цёці, а-я-яй які!..

Мзей ляснула далонямі і крыкнула ў захапленні:

— Глядзі, Настачка, якая пекная цёця Стэфка! Чыйвоная, чыйвоная...

Твар у Стэфкі загарэўся агнём. Нават шыя і вушы пачырванелі. Ад сораму слёзы бліснулі ў яе вачах.

— Праўда, праўда! Цёця Стэфка чырвоная, як мак! — згадзілася і Настачка.

— Ціха, дзеці,— загаварыла Стэфка хрыплым кашляючым голасам.— Ціха, а то я на вас зазлуюся!

Стэфка тупнула нагою.

Дзеці спалохана пераглянуліся між сабою і не ведалі, за што злуецца цёця.

Ужо некалькі тыдняў, як Стэфка абыходзіцца з імі вельмі лагодна. Не злуецца на іх, не крычыць. Яна так чула да іх адносіцца, што «злосць» Стэфкі з'яўляецца для іх цяжкай карай. Дзеці пытаюцца ў яе:

— Дзе мама?

— У Мінску.

Пры гэтых словах злосць цёці адпадае. Яе голас прыдушаны. Яна адварочвае твар ад дзяцей, нібы баіцца глянуць ім у вочы, як бы нешта ў іх украла.

Пасля гутаркі аб маме цёця Стэфка заўсёды хаваецца ад дзяцей на мамiным ложку. Кінецца і ўткнецца галавою ў падушку.

— Цёця Стэфка, цёця Стэфка,— палохаюцца дзеці.

Стэфка ім не адказвае.

— Цёця Стэфка плячыма трасе,— кажа Настачка.

— Цёця Стэфка душыцца,— кажа Мзей.

— Ідзеце адгэтуль! — крычыць Стэфка незнаёмым голасам.

Дзеці варочаюцца ў «салон».

Няма да каго прытуліцца. Маці ў Мінску. Бабуня, якая жыла ў іх некалькі год, яшчэ зімою ў Польшчу паехала.

Настачка пачынае ад нуды барабаніць на старым сапсутым фартэпіяна, Мзей наводзіць стары гадзіннік.

Фартэпіяна выдае хрыплыя, дрыжучыя гукі, а гадзіннік урачыстым басавым тонам пачынае біць свае дванаццаць разоў.

— Ціха вы там! — крычыць Стэфка са спальні.

Тады дзеці выходзяць на двор шукаць бацьку. Калі дзе-колечы знаходзяць яго, спыняюць.

— Дзе мама?

— Паехала ў Мінск.

Бацька таксама адварочвае ад іх свой твар.

— Дзеці, я часу не маю... Мне трэба ісці...

— Пачакай, татка...

І тут пачынаецца заўсёды адна і тая самая гутарка паміж Настачкай і Язэпам Крушынскім. У часе гутаркі Мзей глядзіць то на Настачку, то на бацьку — ловіць і глытае кожнае слова.

— Чаму мама дамоў не едзе?

— Прыедзе...
— А цукерак прывязе?
— Прывязе.
— А шапачкі мне і Мзей купіць?
— Купіць...
— А крычаць на нас не будзе?
— Не будзе...
— А гуляць нам дазволіць?
— Дазволіць...
— А будзе нам тады шмат весялей...
— Будзе весялей...
— Няхай толькі скарэй мама прыедзе. Мы, татка, яе слухацца будзем, добра?
— Добра...
— Чаму ты, татка, не такі, як раней?
— Мне часу няма...
Крушынскі ўцякае.
Дзеці зноў адны.
— Што гэта ў нас такое робіцца? — дзівіцца Настачка і пачынае рукі ламаць, як дарослая.
Мзей плача.

Ужо некалькі тыдняў, як пані Ганны няма ў Курганішчы. Дзеці не бачылі, як маці паехала ў Мінск. Прачнуліся аднаго разу раніцою і не знайшлі ў хаце бацькоў.
— Дзе бацькі? — запыталіся дзеці ў Стэфкі.
— У Мінск паехалі.
У цёці Стэфкі тады вочы былі чырвоныя і дрыжалі рукі. Яна карміла і даглядала іх лепш, як да гэтага часу. Стэфка вельмі задумвалася ў той час і ўсё паўтарала адно і тое самае:
— О-о-ой...
— Цёці нешта баліць? — пыталася Настачка.
— Не...
— Чаму войкаеце?
— Так сабе...
Па некалькі разоў на дзень Настачка і Мзей выбягалі на дзядзінец, узбіраліся на паркан каля саду і глядзелі, ці бацькі едуць.
З Мінска бацька вярнуўся адзін і чамусьці цукерак не прывёз. Гэта ўпершыню за ўвесь час, як памятаюць Настачка і Мзей. Твар бацькі шэры. Сам ён маўклівым стаў. З Настачкай і Мзей гаварыць не хацеў. Ён доўга нешта

ціханька гаварыў з цёцяй Стэфкай, пасля чаго звярнуўся да дзяцей і сказаў новым, незвычайным для яго голасам:

— Маці засталася ў Мінску. Як вернецца, шмат гасцінцаў прывязе.

Не паспелі дзеці і слова на гэта сказаць, як бацька выскачыў з хаты і пабег за гумно да рэчкі, дзе пачалі будаваць млын.

У акно глядзела ранняя вясна. Спявалі птушкі. У садзе і на дзядзінцы паднялася зялёная трава. Доўга чакалі Настачка і Мзей маці з Мінска. Часта выбягалі на дарогу глядзець, ці не едзе.

А раніцамі сонца лезла ў самае акно, дзе спалі Настачка і Мзей. Як толькі прачнуцца, дык зараз да Стэфкі:

— Дзе мама?

— Мама ў Мінску.

А на полі каля крушні пяць красуняў, пяць бярозак. Яшчэ нядаўна яны былі зусім голыя, белыя, нібы ў палатняных кашулях, а вось пакрыліся галінкі кволым жаўтавата-зялёным лісцем. Лісцё падрасло, і толькі два колеры на бярозках — зялёны і белы. А пад імі ад сонца цень на мяжы. А калі завандруе вецер на пагорку, ківаюцца бярозкі. Тады і цені на мяжы ківаюцца. Нядаўна Настачка маленькім сцізорыкам пакалупала адну бярозку. Мзей прысмактала губамі і піла сакавік.

— Дзе мама?

— Мама ў Мінску.

Спачатку пад самым лесам цвілі беленькія пралескі. Шмат разоў Настачка і Мзей хадзілі туды па кветкі. Потым зніклі пралескі. Новыя ў лесе паказаліся — сон-кветкі. Сіні званок з залатым сэрцам. У лесе быў тады пах смалы, сонца і сон-кветкі. Па карчах ёрзалі чырвоныя мурашкі. Здалёку чуваць былі людскія галасы. А ў лесе ціха. Толькі часам на вяршалінах дрэў перашэптваліся галіны:

— Шу-шу-ш?

— Шу-шу-шу.

— Дзе мама?

— Мама ў Мінску.

Вада ў рацэ мяняла колеры. У пагодны дзень яна была празрыстая, нібы тонкае філіграннае шкло. Сонечныя зайчыкі гралі на самым дне — на залатым пяску. Часам з-пад зялёна-імшыстых карчоў высоўваліся цэлыя статкі срэбных плотачак. Настачка і Мзей прыносілі ім сыру. Крышылі на драбнюткія канапелькі і кідалі ў ваду. Плотачкі глыталі белыя іскрынкі сыру. Дзеці радаваліся.

А вось хутка будзе дождж. Сіне-шэрыя хмары праглынулі сонца. Вада такая, нібы хмары ў рэчку кінуліся. Заржавела залатое дно.

— Дзе мама?

— Мама ў Мінску.

Так плыў дзень за днём, тыдзень за тыднем. Мамы ўсё яшчэ няма.

Настачка аднаго разу сказала Мзей:

— Паспрабуем інакш пытацца, можа, тады прыедзе мама.

Сустрэлі Стэфку.

— Калі мама прыедзе?

— Заўтра.

Сустрэлі бацьку.

Тое самае.

Дзеці ўставалі кожны дзень раненька-рана. Яшчэ Стэфка спала, яшчэ бацька нешта ў нос праз сон спяваў. Давай будзіць Стэфку і бацьку.

— Мама прыехала?

— Не.

— Вы ж учора сказалі, што заўтра прыедзе?

— Заўтра і прыедзе.

Часам даўгадзюбыя цыбатаногія буслы спацыравалі на пагорку пад бярозамі. А вось стаіць бусел на адной назе і думу думае. Мзей таксама стаіць на адной назе. Настачка смяецца. А то недзе блізка-блізютка над самым вухам як раздасца голас... Аж задрыжыць Мзей.

— Ку-ку?

— Ку-ку.

— Баюся...

— Не бойся, Мзей, гэта зязюля.

Дзеці непрыкметна для саміх сябе пачалі адвыкаць ад мамы. Ім было цяпер досыць толькі і гутаркі аб ёй.

Шмат незразумелага для сябе ўгледзелі дзеці. Цёця Стэфка з бацькам нейк інакш між сабою раней абыходзіліся, калі мама яшчэ не паехала ў Мінск. Раней, пры маме, Стэфка называла бацьку «Язэпам Сымонавічам» альбо «таварышам Крушынскім». Цяпер кажа да яго «мой хлопчык» альбо «Язэпка». Раней гаварыла да яго «вы», цяпер — «ты». Тое самае бацька: «Стэфачка», «міленькая», «душачка», «жоначка».

Дзецям прыкра. Чаму? Яны самі не ведаюць.

У тую вясну дзеці пасталелі на некалькі год. Вочы пахмурыя. Падазрона паглядалі на людзей. Бацька і цёця

Стэфка асцерагаліся іх. Бывала, дзеці ўскочаць раптам у пакой, дзе татка з цёцяй Стэфкай — тыя адразу змоўкнуць.

«Мабыць, пра маму гаварылі»,— думала Настачка.

Бывала, калі надыдуць Настачка і Мзей, татка і цёця Стэфка адскоквалі ў розныя бакі і чырванелі. Настачка па іх вачах пазнавала, што яны злуюцца. Настачка аб гэтым нічога не гаварыла маленькай Мзей, але старалася больш не заходзіць у той пакой, дзе татка з цёцяй Стэфкай сядзяць. Настачка замыкалася сама ў сабе і пачала лічыць сябе вялікай: туліла маленькую Мзей і гаварыла:

— Пакуль мамка не прыедзе з Мінска, я буду тваёй мамкай, добра?

— Доб'я...

— Будзеш слухацца мяне?

— Буду...

— Будзеш слухаць маю казку пра белую козачку?

— Буду...

Вялікія — татка і цёця Стэфка — не перашкаджалі дзецям гуляць у «мамку з дачкой».

А як надыходзіў змрок, Стэфка часта знаходзіла іх у «салоне» на старой канапе. «Мамка з дачкой» спалі абняўшыся...

Калі Язэп Крушынскі бываў дома, Стэфка звярталася да яго:

— Перанясі дзяцей у спальню, мой хлопчык. Мне не можна — зашкодзіць...

А калі яго ў хаце не было, дзеці заставаліся на канапе да яго прыходу.

І кожную ноч маленькая Мзей па старой прывычцы клікала маці, каб брала яе да сябе спаць. Стэфка, не падаючы голасу, упоцемках клала яе да сябе, туліла і цалавала. Мзей шаптала праз сон:

— Мамка, матанька...

Хутка пасля смерці Сымона Чарнюка Курганішча панавяму ажыло. Дразды і Дзятлы вазілі з лесу калоды на будоўлю млына ў Курганішчы. Вазілі з таго самага месца, дзе ўлетку Крушынскі сустрэў Мэру ў лесе. Яна тады ўцякла з хаты, бо бацька мужа яе «жыдоўкай» абазваў. Вазілі да таго самага месца, дзе Мэра кінулася з абрыву ў рэчку. Тут меркаваў Крушынскі месца для млына — якраз за гумном.

Як прыемна пахне махорачны дым на марозе ў лесе. Крушынскі ў ботах з доўгімі халявамі, у кароткім кажушку. Ён утаропіў вочы ў снег і меркаваў свае грашовыя планы. Весела слухаць здалёку стукат сякер, крэхт хвоі, калі яна кідаецца плазам на снегавую пярыну. Прытульнасць надаюць лесу людскі гоман, візгатанне піл, праведзеныя санкамі дарогі.

Звіняць калоды на санках, скрыпяць палазы, шліфуючы снег, пахне свежай хвояй, коньмі ды марозам. Людзі пераклікаюцца між сабою. Твары ў Драздоў і Дзятлаў чырвоныя ад марозу.

— Не шкодзіць зарабіць лішні рубель. Прыгадзіцца пры пераходзе ў пасёлак.

— Нешта скупіцца пачаў наш Крушынскі. Зусім чалавек змяніўся.

На гэты раз Крушынскі маленькі браварок наладзіў у кузні. Трэба ж частаваць Драздоў і Дзятлаў пры такой справе, як будова млына. За некалькі дзён выгналі шмат гарэлкі. Вінакурам быў стары Галава. Напоўнілі некалькі невялікіх бочак і схавалі гарэлку і прылады для гонкі ў патаемным месцы.

«Танна абышлося»,— радаваўся Крушынскі.

Кожны дзень пасля сканчэння працы ён секачом і возьнікам выносіў самагон.

Хадзілі бутэлькі са шклянкаю з рук у рукі, з горла да горла, нібы пры рытуальным абрадзе. Людзі прыемна крахталі, як у лазні на гарачым палку, лілі ў горла моцную гарэлку, са смакам выціралі рукавом губы і зноў:

— Гэ-э-х... А скупым Крушынскі зрабіўся! Гэта ж гарэлка без закускі, як касцёл без званіцы...

— Выбачайце, суседзі, я адзін, а вас многа! Не набярэшся...— сарамліва апраўдваўся ён.

Пасля сканчэння кантрабанднай справы, калі тысячы ўжо не плылі ў рукі, як рыба ў невад, калі ён пастанавіў будаваць млын, Крушынскі пачаў ашчадна абыходзіцца з грашмі і гаспадарчым дабром. Ранейшая шчодрасць раптам прапала.

— Не можна мне цяпер раскідвацца рублямі,— гаварыў ён айцу Дзімітрыю, які часта прыходзіў глядзець будову млына.— Кожная капейка падлічана. Кожны пятак мае сваю шчыліну. А ці хопіць пятакоў на ўсе шчыліны?

— Не згадзіцца з вамі нельга, Язэп Сымонавіч. Вашы словы хоць вазьмі ды ўпішы гусіным пяром у святое евангелле.

Цяпер толькі Крушынскі атрымаў ад роднага бацькі Сымона Чарнюка і ад дзядзькі ў Мінску сапраўдную спадчыну — скупасць, дрыжаў над кожнай капейкай. Ён пачаў пералічваць перад айцом Дзімітрыем, колькі лішніх сродкаў выкінуў раней на вецер.

— Шмат золата прапала пры Рахмільку, калі той быў забіты на граніцы.

— Ой-ой-ой...— ківаў галавою айцец.

— А колькі мне аграном каштаваў. Апрача пастаянных падарункаў, жульніцкім спосабам абшустаў мяне на пяцьсот рублёў.

— Эх вы! — папракаў яго айцец.

— А колькі Драздам і Дзятлам і іншым раздаў?

— Ветрагон! — вылаяў яго айцец.

— Ужо нядаўна, ведаеце, хату з бэбахамі нябожчыка бацькі раздаў суседзям.

— Э-хэ-хэ, Язэп Сымонавіч! Вы падобны да таго рыбалова, які злоўленую рыбу ў ваду кідае.

— Тое-сёе ў мяне засталося. Вось млын будую.

— Але было б яшчэ больш.

— Было б...

Кожную ноч пачалі з'яўляцца да Крушынскага непрыемныя здані — думкі аб растранжыраных ім раней сродках: кожная капейка, пушчаная раней на ўзвей-вецер, паўстала цяпер перад яго вачыма і скардзілася:

— Чаму ты мяне не шанаваў у свой час? Я б прыгадзілася цяпер для твайго «мірнага будаўніцтва». Няхай бы ты памятаў, Язэп, разумныя гутаркі дзядзькі і папярэджанні бацькі. Слаўныя былі людзі.

Тым часам праца на пабудове млына ішла шпаркім крокам. З Мінска прыехаў «майстар на ўсе рукі». Рабіў планы для пабудовы млына. Працавалі пільшчыкі, стальмахі. Калі скончыўся ранейшы самагон, яшчэ сфабрыкавалі.

Парадамі дапамагаў айцец Дзімітры.

— Скуль у вас, айцец, такія інжынерскія веды?

Айцец Дзімітры ўсміхнуўся, сажмурыў вочы і працадзіў праз зубы:

— Калісьці вучыўся.

— Дык вы не на папа вучыліся?

— Усе навукі ад госпада бога.

— Г-м-м. Дык навошта вам было ісці ў папы?

Яны сядзелі ў тым пакоі, дзе Крушынскі адлежваў

свой «рак». На акне яшчэ стаялі бутэлечкі з лякарствамі. Айцец зірнуў на іх і ўсміхнуўся.

— Бачыце, Язэп Сымонавіч, я быў прымушаны быць папом. Думаў, можа, прыйдзецца вас паспавядаць перад смерцю. Хто ж мог ведаць, што ачуняеце ад рака.

Крушынскі зарагатаў.

— Затое я добра адпачыў!

— І я адпачываю ў папоўстве. А калі захачу, дык і мне, служыцелю культу, дадуць надзел зямлі. Чым кепска?

Гэта было напрадвесні.

Пані Ганна, жонка Крушынскага, угледзела: Стэфка пачала ад яе адварочвацца. Вечна апраналася ў паліто.

— Мне холадна,— гаварыла яна.

— Як холадна? — дзівілася гаспадыня.— Гэта ж у нас так цёпла. Дроў многа, дзякаваць богу. Дзеці ледзь не ў адных кашульках бегаюць па пакоях.

А Стэфка сваё:

— Мне холадна... Ой, як холадна...

І нават пачынала дрыжаць і ляскаць зубамі.

Гаспадыня ціскала плячыма, і вочы яе рабіліся вялікімі.

— У нас, здаецца, горача, як у лазні.

— Хо-о-ладна...

Стэфка цэлымі днямі не вылазіла са свайго паліто.

— Можа, вы нездаровы? Трэба напіцца маліны і добра прапацець.

Так некалькі дзён.

І вось пані Ганна раскумекала.

Твар яе зрабіўся шэрым. Вочы запаліліся. Яна спацела. Шэпт яе быў скрыпучым, нібы вадзіла нажом па шкле. Злосна прахрыпела.

— Вы, Стэфка, вы... цяжа-а-арная...

Стэфка сцяла зубы і маўчала.

— Ад каго? — крыкнула гаспадыня не сваім голасам.— Ад каго?

Крушынскі ў той час стаяў у другім пакоі і слухаў. Дзяцей у хаце не было.

Гаспадыня стала непадобна да сябе. Твар пачырванеў, вочы сыпалі маланкі.

— Вон з маёй хаты! Мала вас там шляецца ў Мінску? Вон адгэтуль!

Урэпілася пальцамі ў валасы Стэфкі і пацягнула да

дзвярэй. Настаўніца не баранілася. Рукі ў яе віселі як абамлелыя. З вачэй капалі слёзы.

Выскачыў з другога пакоя Крушынскі. Падбег да жонкі. Схапіў яе за рукі.

— Супакойся, Ганна!

— Я не супакоюся! Аскандалю яе і цябе на ўсю ваколіцу!

Крушынскі так моцна сціснуў рукі жонкі, ажно яна пабялела і войкнула. Выпусціла валасы Стэфкі. Тая давалаклася да канапы і павалілася.

— Пусці рукі, ой, балі-і-ць...— заенчыла пані Ганна.

Крушынскі выпусціў яе рукі.

— Глядзі,— сказаў ён,— не думай выганяць яе з хаты! Я вазьму яе за жонку!

— А я? А дзеці? — застагнала пані Ганна.

— Дам табе кавалак зямлі, пабудую для цябе хату. Дзеці мае, як і твае. Няхай пры мне жывуць.

— Не дам!

— Вазьмі іх сабе... Толькі каб шуму ніякага не рабіць, а то...

Крушынскі патрос кулаком.

Уночы месяц тады стаяў над самым дзядзінцам. Снегу бадай не было. Толькі лужыны былі ахоплены тонкім шкелкам ільду. Зямля была трохі прыпечана калючым вясеннім марозам — ён калоў, нібы тоненькімі голкамі, пальцы, вушы і нос.

Крушынскі выйшаў на дзядзінец. Пабег на стайню. Выцягнуў калёсы і хутка запрог самага лепшага каня. Рукі і ногі дрыжалі. У вачах стаяў спалох.

Жонку ён перад гэтым перанёс са спальні ў «салон», каб дзеці не прачнуліся ад яе стогнаў. Ён злаваўся на местачковага аптэкара, які прадаў яму летась па знаёмству бутэльку неразведзенай карболкі. Жонка знайшла гэта дабро ў хатняй аптэцы. Трохі выпіла. Ён злаваўся на Стэфку, разбудзіў яе.

— Глядзі, што ты нарабіла.

— Што я нарабіла?

— Жонка атруцілася...

— А-а...— ускочыла яна, нібы яе падкінулі сталёвыя спружыны.— Атруцілася?..

— Атруцілася...

Яе лоб пакрыў халодны пот.

— Дык гэта я нарабіла? — запыталася Стэфка.

Ён маўчаў.

— Гэта ж ты сам зрабіў! Ты мяне згвалціў!

— Маўчы...

З таго часу яны ўжо больш на «вы» не гаварылі.

Каня ён не шкадаваў. Гнаў на ўсю моц аж да Мінска. Па лясной дарозе яшчэ ляжалі гурбы снегу, пасіненыя месяцам. Усю дарогу месяц гнаўся за ім, як за разбойнікам. Ад каня і воза плылі па дарозе доўгія цені.

Адразу завёз у бальніцу. Была яркая раніца з брызгамі вясновага сонца.

— Памрэ,— сказаў яму ў змрочным калідоры бальніцы дзяжурны доктар.— Тут ужо не паможа ніякая медыцына.

— Ніякая медыцына...— шаптаў Крушынскі сам з сабою, пакуль даехаў да сваякоў.— Ніякая медыцына.

Вельмі цяжка было яму ў калідоры бальніцы, а як яго воз тарахтаў па ціхіх ранічных гарадскіх вуліцах, стала лягчэй, хоць ён увесь час шаптаў доктарскія словы: «Ніякая медыцына».

Свяціла сонца. У горадзе ўжо не было слядоў зімы.

Жонка Антона Цярэшкі зараз жа прачнулася.

— Сядайце, сваячок, тут, на маім ложку. Што вас нялюдскае прыгнала так рана?

Антон Цярэшка прачнуўся, павярнуўся тварам да сцяны і зноў заснуў.

Крушынскі шэптам усё расказаў сваячцы.

Яна нецярпліва глытала сумную вестку. У яе вачах расла зацікаўленасць.

— Дык толькі да вечара дацягне?

Яна схапіла яго за руку гарачымі пульхнымі пальцамі.

— Так доктар сказаў, і ніякая медыцына не паможа.

— Вось і будзе мне работа, а то аж нуджуся. Нічога не раблю. Трэба будзе накопт пахавання падумаць.

— Та-а-ак.

Крушынскі сціснуў лоб рукамі.

«Не вельмі ахвотна выдалі за мяне, мужыка, замуж шляхцянку Ганну. Была яна тады ружовая, круглая. Вечна смяялася. Што б я ні сказаў, а Ганна — хі-хі-хі. Пры гэтым яе зубы блішчалі ў ледзь прыкметнай вільгаці чырвоных губ. Пасля першых родаў пачалі выпадаць зубы. Сінія жылы выступілі на яе нагах. Пасля другіх родаў яна перастала смяяцца. Займалася гаспадаркай. А вось...»

— Што вы так задумаліся, сваячок? Шкадуеце?

— Не то што. Не думаў, што так скончыцца.

— Трэба было раней падумаць. Цяпер Стэфку не пакідайце. Ганне ўжо ўсё роўна.

— Не пакіну, але вы вінаваты...

— Я?..

— Вы...

— Чаму?

— Каб не насваталі тады Стэфку ў настаўніцы, да гэтага не дайшло б.

— Яшчэ хто вінаваты?

Крушынскі махнуў рукою.

— Лёгка вы, сваячок, узвальваеце ўсе беды на іншых. У вас гэта старая прывычка. Заўсёды любіце заграбаць жар чужымі рукамі. Ідзіце ў сталовую. Я апрануся і пастаўлю самавар. Будзем снедаць. Ідзіце!

Ён яшчэ не паспеў выйсці са спальні, як яна ўскочыла з ложка. Ён адвярнуўся да яе.

— Не глядзіце, вочы сапсуеце.

Як пілі гарбату, сваячка была задуменная.

— Аб чым вы думаеце? — запытаўся Крушынскі.

— Шчаслівая яна...

— Хто?

— Стэфка.

— Таму, што за мяне замуж ідзе?

— Не. А вось таму, што дзеля яе самагубствам канчаюць.

— А вы б хацелі, каб хто дзеля вас так зрабіў?

— Ого! Яшчэ як хацела б...

Крушынскі званіў лыжачкай па шклянцы.

Сваячка ўвайшла ў натхненне:

— У мяне ёсць адна знаёмая. Нельга сказаць, каб яна была ўжо вельмі цікавая, але мужчыны ліпнуць да яе, як мухі да атручанай паперы. Прыклеіцца і дрыг-дрыг лапкамі. Гэта жанчына паказала мне альбом з партрэтамі яе ахвяр. Там цэлы аддзел самагубнікаў. Хто дзеля яе страляўся, хто вешаўся, хто рэзаўся, хто труціўся — розныя. Яна помсціла мужчынам, такім, як вы, лысы ды вусаты. Яна такая шчаслівая, ажна зайздрасць бярэ.

— Вам гэта падабаецца?

— Гэта ж вельмі рамантычна.

— У вашым жыцці не было такіх здарэнняў?

— Не,— сумным голасам сказала яна.— Нецікава праходзіць маё жыццё. Была раз справа. Мільгнуў перад маімі вачыма светлы прамень і хутка згас. Але вы, сваячок, майму мужу аб гэтым нічога не кажыце...

— Не, не.

— Ну і пазнаёміліся... Цікавы такі хлопец! Высокі, з чорнымі вачыма. Таемна ўсміхаецца. Ветлівы. Трымаецца інкогніта, як пераапрануты турэцкі каліф. Я не ведала, хто ён і што ён. Свайго імя і прозвішча не хацеў сказаць. Гэта ж вельмі рамантычна, праўда? Прыходзіў бадай штодня. Але глядзіце, трымайце язык за зубамі, а то муж як даведаецца, бяда будзе...

— Што вы? Я нікому не скажу.

— Вельмі цалавацца любіў. Цалуецца-цалуецца і гэтак далей. «Я — казаў ён,— застрэлюся, калі не будзеце маёй».— «Страляйцеся! — кажу я.— Я ж нават не ведаю, хто вы». Ён зараз жа выняў рэвальвер і паказаў мне. «Вось гэтым пушчу сабе кулю ў лоб». Мяне ахапіла надзвычайная радасць. Вось, думаю, будзе задаволена мая жаночая гордасць. Прамень у маім шэрым жыцці. Я глядзела на яго з замілаваннем. Частавала віном. Ён прыходзіць ка мне. А я ўсё думаю, калі ён гэта зробіць? Толькі вы майму — ані-ні...

— Ані-ні.

— Аднаго разу каля нашай кватэры прайшла пахавальная працэсія. Я выскачыла на вуліцу. Кажуць мне: «Адзін малады чалавек застрэліўся, рамантычная гісторыя». Радасна затухкала маё сэрца. «Ці не мой?» — падумала я. Хацела ўжо суседцы па сакрэту пахваліцца. Паглядзела ў адчыненую труну — не, не мой... Зноў сумна стала. Але і ён гэта зробіць. Я ўпэўнена — сам гаварыў. Вы, сваячок, глядзіце, каб ад вас мой пясняр не даведаўся. Яшчэ пісаць кіне.

— Нікому не скажу.

— Дык вось аднаго разу мой Цярэшка атрымаў ганарар і купіў мне залаты гадзіннік. Удзень ляжу сабе на канапе і грэюся на сонцы. Гадзіннік тут жа на стале. Ажна бачу праз акно — ідзе мой невядомы герой. Я зажмурыла вочы і чакаю. Нібы сплю. Ну, думаю, сягоння давяду яго да таго, што заўтра абавязкова застрэліцца. Ён увайшоў. Ціханька падышоў да мяне. Зараз пацалуе, думаю. Не. Не пацалаваў. Пакруціўся туды і сюды і ціханька высунуўся з пакоя. Мне здалося, што ён шапнуў: «застрэлюся». Толькі вы, сваячок, нікому.

— Нікому...

— Я ўскочыла з канапы. Нейк крыўдна. Чаму перад смерцю мяне не пацалаваў? Потым агледзелася — залатога гадзінніка няма... Вось мой пераадзеты каліф. Больш

рамантычных гісторый у мяне не было. Як муж агледзеўся пасля, дык шмат рэчаў з кватэры знікла: срэбны партсігар, партфель з залатой манаграмай і яшчэ тое-сёе. Усё гэта падарункі, якія муж атрымаў на сваім літаратурным юбілеі. Вы мужу не кажыце, што гэта мой патаемны рамантык зрабіў.

— Не, не...

— Некалькі дзён, як мой не ў гуморы. Выйшла яго новая кніжка «Сонцакруткі», а пакуль што ні слова аб ёй няма. Яго лейб-крытык Алалоўнік чакае, што людзі скажуць. Другі прыяцель таксама крытык, дык таксама маўчыць. Той выключна юбілейны крытык — выступае толькі на юбілеях пісьменнікаў і хваліць іх. Гэта цікавы чалавек. Ён абяцаўся мужу пахваліць яго на чарговым юбілеі.

Раптам гаспадыня ўсхапілася:

— Язэп, што з вамі?

Крушынскі ўсхліпваў.

— Вы толькі што пачалі плакаць?

— Я ў-у-увесь час.

— Не чулі маёй гутаркі?

— Н-н-не-е...

— Ну і добра. Мужу не раскажаце?

— Не раскажу...

— Даць вам віна?

— Дайце.

Доктар падвёў Крушынскага. Пані Ганна жыла яшчэ два дні. Яе пахавалі ціха. Апрача сваіх, нікога на могілках не было.

Не вытрымала сваячка Крушынскага. Не магла хаваць у сабе такой «рамантычнай» справы. Зараз жа з могілак пабегла да сляпой маткі Стэфкі і ўсё ёй расказала.

Маці Стэфкі, цёця Вярбіцкая, з'явілася да Крушынскага ў пакой. Яе дачка Бронька засталася ў калідоры. Ён ціханька высунуўся за дзверы і ўцёк ад сваёй новай цешчы.

У пакоі засталіся паэт Цярэшка і яго жонка Мар'я.

Сляпая Вярбіцкая, думаючы, што яе зяць тут, загаварыла:

— Гэта ж вы, Крушынскі, маю Стэфачку абманулі! Што вы мелі да яе і мяне, старой ды сляпой? Вось чаму яна дамоў усю зіму не прыязджала. Вось чаму яна лістоў мне не піша. Як вам не сорамна? Яна ж яшчэ дзіцё!

Сляпыя вочы наставіла ў столь. Размахвала рукамі ў бок акна і гаварыла далей:

— Я ж нават не ведаю, хто вы такі. Чым я гарантавана, што з маёй Стэфкай не здарыцца тое самае, што з вашай ранейшай жонкай? Навошта маёй Стэфцы няньчыцца з чужымі дзецьмі? Не хачу такога шчасця для маёй дачкі! Не хачу!

Сляпая Вярбіцкая трэсла кулакамі. Твар яе, заўсёды бледны, быў у чырвоных плямах.

— Зараз жа аддайце мне Стэфачку! Паганец вы! Вось што я вам скажу! Паганец, паганец!

Антон Цярэшка і яго жонка слухалі і маўчалі. Ён жонцы ківаў пальцам, каб яна голасу не падала, і яна яму тое самае.

— Вельмі цікава,— гаварыў Цярэшка вачыма да жонкі.

— Яшчэ больш, чым вельмі,— адказвала яна мужу таксама вачыма.

Сляпая Вярбіцкая плюнула ад злосці на плюшавы дыван. Цярэшка ўсхапіўся з месца.

— А вы, цёця Вярбіцкая, не плюйце! Яго тут няма, вашага зяця Крушынскага.

— Няма? Дык чаму вы маўчалі? Выбачайце...

— Вось што твой язык нарабіў! — звярнуўся Цярэшка да жонкі.— Ты б яго лепш у іншым месцы трымала, чымся ткнуць туды, куды не трэба.

— Хам! Лёкайчук! Яшчэ паэт! — ускочыла з плачам жонка.

— А твой бацька царскі чыноўнік задрыпаны.

Слухаючы такія пераклікі, сляпая Вярбіцкая анямела, хацела сунуцца да дзвярэй і трапіла выстаўленымі рукамі ў акно.

— Бронька, дзе ты? Хадзем дамоў!

— Бронька пайшла ўжо,— сказала Мар'я.— Я з вамі пайду.

Паднялася з месца, выцерла вочы і ўзяла сляпую за руку.

У кузні Крушынскага звінелі малаткі. Рабіліся розныя жалезныя прылады для млына.

Настачка і Мзей пайшлі да млына. Мітусіліся людзі туды і сюды. Габлявалі дошкі, пілавалі, рэзалі, секлі. Цэлыя горы стружак і трэсак валяліся. Сцены раслі.

Крушынскі камандаваў. На дзяцей увагі не звярнуў.

Яны трохі пастаялі пры будоўлі і пайшлі далей у лес, да таго месца, дзе ў мінулым годзе знайшлі скарб. У лагчыне стаяла ўжо добрая трава. Да самага лесу даходзіла высокая жытняя рунь. Воддаль чарнела глеба. Дзед Галава хадзіў з сявалкай у руках. Сеяў авёс.

На мяжы стаялі калёсы, пасвіўся спутаны конь. Воддаль сядзела старая Галавіха, якая прынесла мужу палуднаваць.

Настачка і Мзей зацікавіліся. Падышлі.

— Сюды, дзетачкі! Сюды, сіраткі горкія! — залямантавала Галавіха.— Блыкаюцца, бедныя, немаведама чаго. Можа, па кавалачку блінца даць?

— Не хачу,— сказала Настачка.

— Я хачу — папрасіла Мзей.

Галавіха дала ёй кавалак блінца і агледзела яе з ног да галавы.

— Стэфка-мачыха вас, сіраткі, не б'е?

— Не.

— Ходзяць, бедныя, швэндаюцца немаведама чаго і дзе, бо нагляду няма. Роднай матачкі няма.

— Мама ў Мінску,— сказала Настачка.

— Шмат, шмат гасцінцаў мама прывязе нам,— сказала Мзей.

Старая Галавіха зморшчыла твар, і ў яе вачах заблішчалі слёзы.

— Бедныя, бедныя сіраткі! Не прыедзе ваша матанька з Мінска. Не прывязе вам гасцінцаў. Яна без пары, бедненькая, у сырую зямельку лягла.

Настачка і Мзей заплакалі.

— Плачце, сіраткі, плачце, маленечкія! — ламала над імі рукі старая Галавіха.— Плачце, бо вашыя валасочкі вецер-сівер расчэсваць будзе. Бо вашыя тварыкі будзе мыць расіца халодная. Спаткі класці маці родная вас не будзе. Карміці вас піражочкамі не будзе. Ой, горкая доля сіраціначак...

Настачка і Мзей нястрымана плакалі.

— Плачце, міленькія, плачце! — падавала ахвоту бабуля Галавіха.— Ваша маці на векі вечныя аглухла, анямела, аслепла. Ручкамі белымі не паверне. Галоўкаю не пакруціць. Ножкамі не пойдзе. Есьцікі і піцікі не будзе.

Настачка і Мзей трэсліся ад страшнага плачу, які нахлынуў на іх, як навальніца. Усё тое, што накіпела ў іх за апошнія некалькі тыдняў, вылілася цяпер праз плач: і няшчырыя вочы бацькі і Стэфкі, і тое, што надта бліз-

кімі сталі між сабою родны бацька з чужой Стэфкай, і тое, што маці з Мінска ўсё яшчэ не прыехала...

— Плачце, ягадкі мае, плачце! — зацягнула Галавіха на спеўны лад.— Кусток-яварок, на якім вы раслі, вецер-віхор вырваў і панёс. А вы адзінюткімі, адарванымі лісточкамі засталіся. А вы нават не ведаеце, дзе магілка вашай роднай маткі...

Падышоў Галава. Як закрычыць на жонку:

— Старая, ды дурная! Навошта дзяцей разжальбіла? Эх ты...

— Сам стары і дурны! — уз'елася Галавіха.— Дзеці павінны ведаць. Няможна малых абманваць!

Старая Галавіха ўзяла на рукі Мзей, за руку Настачку і пайшла з імі ў Курганішча. Дзеці ўсхліпвалі, кулачкамі слёзы з вачэй выціралі.

Стэфка нарадзіла хлопчыка.

З Мінска ў Курганішча прыехала на аўтамабілі некалькі чалавек. Цярэшка дастаў машыну ў адной установе. Прыехалі стрыечныя браты Крушынскага, літаратурны крытык, які пачаў пісаць кнігу пра творчасць Цярэшкі, адзін прафесар і яшчэ адзін — таварыш Цімафейчык, які калісьці кінуў бутэлькай у літаратурнага крытыка. Хто не змясціўся ў аўтамабілі, прыехаў на фурманцы, прысланай Крушынскім.

Пасля вясёлага абеду госці разбрыліся па лесе. З імі ішоў і Крушынскі.

Гарачы сонечны дзень. Пах асіны і хваёвай смалы.

Госці расселіся на старым вываратні — бярозе. Калі-нікалі кукавала зязюля. Было прытульна.

Перад вачыма Язэпа Крушынскага праплыў малюнак з мінулай восені:

«Тут, па гэтай самай бярозе я «пацяшаў» Мэру... Потым яна асталася ляжаць... Я ўцёк. Малайчына! Яна мужу нічога не сказала».

— Што вы так задумаліся, Язэп Сымонавіч? — запытаўся адзін з гасцей, прафесар Лявон Максімавіч Карпоўскі, выкладчык на рабфаку. Яму было гадоў пяцьдзесят пяць. Лысіна, маленькая бародка, круглыя акуляры на кірпатым носе.

— Я ні аб чым не думаю, Лявон Максімавіч.

Лявона Максімавіча называлі на рабфаку «чалавекам без знакаў прыпынку» (назву прыдумаў Мікола Ярэмчык)...

Лекцыі Лявона Максімавіча былі вельмі цягучыя. Здавалася, што ўся лекцыя ў працягу гадзіны цягнецца адным доўгім-доўгім сказам без усялякіх знакаў прыпынку. Пры такой будове гутаркі яго словы здаваліся часта двухсэнсовымі, што выклікала сярод студэнтаў непаразуменні.

Лявон Максімавіч, седзячы на бярозавым пні, аглядаўся ва ўсе бакі, зашамкаў губамі і загаварыў без знакаў прыпынку:

— Як тут хараша і прыемна ты забываеш аб усіх прыкрасцях жыцця бо пахне тут часамі «Нашай нівы» яе ідыліяй і няма класавасці паміж асінамі хвоямі і бярозамі.

— Так. Тут можна вершы пісаць. Можна знайсці сапраўдную крыніцу натхнення,— адазваўся літаратурны крытык.

Лявон Максімавіч хмыкнуў:

— Цяпер не прызнаюць «Нашай нівы» і не разумеюць што каб не было яе дык не было б і маладнякоўцаў і такім чынам падсякаюць сук на якім самі сядзяць. Усход вось дзе тут ліха.

Цімафейчык не стрымаўся. Ён падняўся з месца і крыкнуў:

— А вас на Захад цягне? Хочацца да «культурных» жандараў?

— Не не не таварыш Цімафейчык,— занекаў Лявон Максімавіч.— Я наогул у палітыку не ўмешваюся і толькі тэарэтычна разважаю і паводле маёй тэорыі толькі незалежная Беларусь патрэбна паводле ходу гісторыі і не трэба пераскакваць і абмінаць гістарычных шляхоў як праз гнілыя калоды пабачым што з усяго гэтага выйдзе я толькі спец па беларусазнаўству пры чым тут палітыка.

У гэту хвіліну «спец па беларусазнаўству» быў падобны да савы ўдзень. Жмурыў вочы, стараўся схавацца ў цень і хмыкаў.

Цімафейчык падняўся і пачаў трэсці кулакамі:

— Я вас разумею, Лявон Максімавіч! Вам не падабаецца наша новая культура? Вядома, яна не панская, як вы б хацелі. Мы за гэта змагаліся з панамі! Кроў пралівалі! А наконт гістарычнага ходу, дык вы праўду сказалі, што мы пераскокваем праз гнілыя калоды!

— Няма ў нас таварыш Цімафейчык ні паноў і ні пралетарыяту ёсць толькі адзін пакрыўджаны богам і людзьмі бедны беларускі народ і вы штучна і тэарэтычна хочаце раздрабіць яго на багатых і бедных на кулакоў і беднякоў.

Твар прафесара зрабіўся яшчэ больш падобным да савы.

— Ведаеце, ад вас сапраўды трухляцінай пахне! — зазлаваўся Цімафейчык.

— Вы не далікатны чалавек, дзядзька Цімафейчык!— узнервавана сказала цётка Мар'я, жонка Цярэшкі.— Вы такімі брыдкімі словамі лаеце паважанага Лявона Максімавіча.

— Не толькі лаяць, а гнаць трэба такіх з савецкіх установў!

Цімафейчык плюнуў і пайшоў.

— Што ты яго, Цімафейчыка, вечна цягнеш за сабою? — абурана звярнулася жонка да Цярэшкі.— З ім вечныя скандалы.

— Міленькая,— мякка сказаў Цярэшка.— Ты добра ведаеш, што каб не ён, дык мы б сягоння на машыне сюды не прыехалі. Няма яго чаго баяцца. Няхай сабе гарачыцца, а ён робіцца патрохі нашым чалавекам — шчырым беларусам.

— Эх,— уздыхнуў Лявон Максімавіч,— кіньце аб ім ён адэсіт я яго даўно знаю захачу яго супакоіць дык вельмі лёгка гэта зраблю скажу Адэса-мама і ён сціхне як старое ўспомніць.

«Чалавек без знакаў прыпынку» спыніўся і яшчэ раз уздыхнуў:

— Эх усё наша шчасце ў тым што без нас без старых спецаў абыходзіцца не могуць калі б маглі выкінулі б нас з самога пачатку мы гэта адчуваем добра не любяць нас а трымаюць мы таксама прымушаны нам трэба есці нам трэба жыць.

«Чалавек без знакаў прыпынку» яшчэ раз уздыхнуў:

— Эх я нядаўна бачыў фокусы Дурава з сабакамі ўсе гэтыя фокусы трымаюцца на мясе кожны раз Дураў падносіць сабаку кавалак мяса і сабака за мяса робіцца матэматыкам і іншым знаходзіць захаваныя рэчы ў людзей усё за мяса і мы за кавалак мяса стараемся.

— Параўнанне рэзкае, грубае, але да жудасці правільнае,— сказаў прафесар Крушынскі, другі стрыечны брат Язэпа Крушынскага, які дастаў годнасць прафесара за складанне дзіцячага лемантара.

— Мала таго што нас не паважаюць,— гаварыў далей «чалавек без знакаў прыпынку», падобны да савы,— на кожным кроку нам перашкаджаюць у працы і вытыкаюць марксісцкі метад я напрыклад чытаю лекцыю і мяне пе-

рабівае камсамолец Мікола Ярэмчык мой вучань і крычыць мне «няправільна» ва ўвесь голас і такіх Міколаў Ярэмчыкаў многа і яны над намі гаспадарамі а інтэлігенцыя павінна кіраваць разам з партыяй.

Язэп Сымонавіч меў з сабою ў кошыку некалькі бутэлек віна. На сухім моху ён паставіў шклянкі і давай частаваць гасцей.

— Дзе Цімафейчык? — запытаўся Цярэшка.

— Пайшоў дахаты,— сказаў Язэп Крушынскі.

— Каб ён са злосці не паехаў на аўтамабілі адзін у горад,— заўважыў прафесар ад дзіцячага лемантара.

— Не зробіць гэта,— супакоіў «чалавек без знакаў прыпынку», падобны да савы.— Я добра ведаю яго з Адэсы і свайму адэсіту ён гэта не зробіць.

— Дзень добры! — пачулі госці Крушынскага за плячыма гучны голас.

Усе паўскаквалі са сваіх месц, нібы спужанае вараннё.

— А таварыш Ярэмчык,— сказаў «чалавек без знакаў прыпынку».— Вы даўно тут?

— Няма чаго непакоіцца,— засмяяўся Мікола Ярэмчык.— Я толькі што падышоў. Вашых гутарак не чуў, хоць добра ўяўляю іх змест.

— Як вы тут апынуліся? — запытаўся ў яго Язэп Крушынскі.— Памятаеце, як я вам пасылку ад бацькі прывёз?

— Памятаю, а як жа. Іду з экскурсіяй у камуну «Чырвоны Кастрычнік». Хлопцам захацелася ў лесе пагуляць.

— Гэй! Хло-о-опцы! — гукнуў Мікола Ярэмчык з усяе сілы.

З некалькіх месц адгукнуліся.

Мікола Ярэмчык утаропіў вочы ў гасцей Крушынскага. Госці адчулі нешта непрыемнае для сябе ў яго вачах — агеньчыкі пянавісці.

Не развітаўшыся нават са знаёмымі сярод гасцей, Мікола пайшоў да сваіх таварышоў.

Госці адчулі сябе няёмка.

«Чалавек без знакаў прыпынку» падняўся са свайго месца і прагаварыў голасам прарока:

— Толькі што ўспомніў таварыша Ярэмчыка і ён з'явіўся нават у глухім лесе ад «іх» не схаваешся апанавалі чэрці месца святое.

## 6

## У НОВЫМ ПАСЁЛКУ

Не агледзеўся Хвёдар з вёскі Гайдачаны, былы чырвонаармеец, як прайшлі тры гады.

Плыў час у новым пасёлку, час, апрануты ў клопаты будавання новай гаспадаркі.

Адразу пасля пастановы аб пераходзе гайдачан на пасёлкі сяляне разышліся па хатах. Марцінава хата, у якой адбыўся сход, здавалася цяпер прасторнай як ніколі.

Было так накурана, што прыйшлося адчыніць дзверы, нягледзячы на мароз. Марцініха выцірала цяпер жа падлогу, на якой стаялі лужыны ад снегу, нанесенага лапцямі гайдачан.

Марцін Тумілоўскі, бацька Хвёдара, пахмурнеў. Ён разуўся з такой уважлівасцю, нібы збіраўся праверыць, колькі пальцаў у яго на нагах.

Пасля шуму і галасу на сходзе ў хаце стала ціха. Марцінава сям'я адпачывала ў цішыні, усе маўчалі.

Гаспадар узлез на печ і звесіў ногі ўніз. У яго вачах была такая рашучасць і пагрозлівасць, як бы ён збіраўся зараз зарэзаць чалавека. Ён хмурыў чарнявыя бровы і шукаў месца, куды ўтаропіць для самотнага раздум'я свой цяжкі, як жалезныя гіры, позірк. Супроць яго босых ног, з якіх даўно адлупіўся закарэлы летні гной, стаялі на падлозе яго скураныя атопкі. Яны былі пастаўлены так, каб, саскочыўшы з печы, можна было адразу трапіць у іх нагамі.

Марцін, кароткі, шырокі ў плячах, з моцнымі рукамі і нагамі, з вялікай круглай, як гарбуз, галавою, здаваўся каменным, цяжкім. Вось расцісне печ, пад яго цяжарам яна раздасца, развáліцца на цэглiны. Селяпін сядзеў нерухома. Яго цёмныя вочы ўперліся ў новы хамут, які вісеў на сцяне.

Хатнія Марціна не чапалі. Між сабою гаварылі шэптам, нібы ў хаце знаходзіцца вельмі хворы чалавек. Нават Хвёдар, які заўсёды любіў пашумець, стараўся на гэты раз быць непрыкметным.

Дзве рэчы лезлі неадчэпна ў мазгі, супакою не давалі. Часта ён мармытаў назвы гэтых рэчаў:

— Гной...

— Вяселле...

На дварэ завея. Снег пытлюецца за вокнамі, круціцца, шорхаецца каля сцен. Маленькая лямпачка на стале кружыць вакол сябе светла-жоўты круг.

Хатнія кладуцца спаць, а Марцін усё сядзіць на печы. Ён абдумвае свае новыя гаспадарчыя планы ў сувязі з пераходам на пасёлкі.

У запечку скрабуцца мышы. Снег на дварэ туліцца да сцен, засыпае вокны. Вецер ледзь-ледзь у коміне завывае.

— Гной...

— Вяселле...

Хатнія ляжаць на ложках. Не спяць. Ніхто лямпы не тушыць, бо гаспадар яшчэ не думае спаць, хаця позна ўжо.

Здаецца на першы погляд, што гной і вяселле ніякага дачынення не маюць да пераходу на пасёлкі. Хатнія, якія чуюць гэтыя словы з вуснаў гаспадара кожныя дзве-тры хвіліны, не могуць здагадацца, да чаго ён іх устаўляе ў сваю маўклівасць, нібы тычкі ў пустое поле.

Марцін свідруе цяжкім позіркам хамут на супрацьлеглай сцяне.

З самых маладых год Марцін вельмі шануе гной. Ён часта паўтарае свае спрактыкаваныя агранамічныя веды: калі добра ўгнойваць зямлю, яна дае добры ўраджай; для зямлі гной тое самае, што хлеб для чалавека, авёс для каня.

Ён гэта гаворыць кожны раз з такім захапленнем, нібы толькі што сам вынайшаў гэты спосаб палепшання ўраджаю. На зямлю ён глядзіць як на жывую істоту і шануе яе харч — гной. Вельмі рупліва ён заўсёды запасіць гной у хляве, збірае яго на дзядзінцы, на вуліцы, на выгане, кошыкамі ў хлеў носіць... Суседзі з яго смяюцца, а ён увагі не звяртае.

Калі вясною ці ўвосені Марцін выходзіць на рунь, дык заўсёды яго палоскі вызначаюцца: гусцейшыя і вышэйшыя, чымся ў суседзяў.

Ён тады гаворыць толькі адно слова, укладае ў гэтае слова вялікі сэнс:

— Гной...

Глядзіць пераможцам на суседнія шнуры.

Не варухнецца цяпер Марцін на печы. Перад сабою нічога не бачыць. Не чуе, як за сценамі хаты гуляе завея, кідае снегам у сінія шыбы акенцаў, дзьме ў комін, свішча. Лямпа міргае на стале жоўтым вокам.

«Камусьці чужому пакіну ўгноенае поле,— думае Марцін.— Як наліха ўвосень увесь гноі вычысціў з хлява. Каб ведаў, дык два гады падрад збіраў бы ў хляве... Чорту лысаму застанецца...»

Адчувае Марцін, як сэрца ў яго баліць.

— Шкада...

Баліць сэрца, нібы хто сціснуў яго моцнымі пальцамі і трымае...

Другі Марцінаў клопат:

— Яшчэ да службы ў Чырвонай Арміі круціўся мой Хвёдар з Язэпавай Марыляй. Ходзіць, ходзіць да яе, дыбае, як бусел, а толку мала. Цьфу! А дзеўка гаспадарная ды з твару гладкая.

Ні ён, Марцін, ні Язэп, бацька Марылі, нічога супраць гэтых залётаў не маюць. А вось чакаюць...

Чакаюць год, другі, трэці... Хвёдар ходзіць да Марылі, на вечарынках заўсёды разам, часта шэпчуцца то каля Язэпавых, то каля Марцінавых варот, а толку ніякага.

Можа, што колечы і выйшла б у іх, але ёсць тут адна закавычка.

Хвёдар не прызнае папоўскага шлюбу. Бацькі Марылі не прызнаюць бясшлюбнага вяселля. Марыля не пабаялася б і без шлюбу пабрацца з Хвёдарам, але баіцца застацца без пасагу. Яе бацька не раз гаварыў, што пасагу не дасць, калі не пажэняцца «па-людску». Не будзе яна мець тады ні кароўкі, ні парсюкоў, ні таго-сяго... Хвёдар і на гэта пайшоў бы. Часта ён гаварыў Марылі:

— Паедзем у горад. Дастану працу і будзем жыць.

— Баюся горада. Ты мяне кінеш у горадзе,— кожны раз адказвала Марыля.

Цягнецца час доўгай істужкаю для Хвёдара і Марылі, а на гэтай істужцы ўсё адно і тое самае напісана.

Адбедаваў Марцін на печы свой гной, які ўсё роўна назад з поля не збярэ, каб забраць з сабою на пасёлак.

Але вось другая бяда — вяселле Хвёдара.

Вельмі непакоіць старога і гэта справа. Злез Марцін з печы, крэхчучы і стогнучы, затушыў лямпу і лёг спаць.

Ён заснуў з пэўнай думкай: «Маё возьме!»

Яшчэ ў сне ён крахтаў і стагнаў, але ўжо ад прыемнасці, нібы пад бярозавым распараным венікам у лазні.

«Маё возьме!»

На яго губах, абкружаных цёмнай шчэццю валасоў барады і вусоў, прытаілася злодзеем задаволеная ўсмешка, нібы вось зараз ён прачнецца і скажа:

— Маё возьме!

Завея гуляла ўсю ноч.

Марцін рана падняўся з ложка, выйшаў з лапатай на двор, каб вызваліць ад снегу дзверы і вокны і раскапаць сцежку да хлявоў, да гумна і да вуліцы. Да поту працаваў. Пасля такой працы паснедаў, насунуў на ногі святочныя боты, апрануўся ў жоўты кажух і выйшаў з хаты.

— Куды яго панесла? — запыталася Марцініха ў Хвёдара.

Хвёдар моўчкі пацісиуў плячыма.

Марцін ішоў па гайдачанскай вуліцы цвёрдым крокам чалавека, упэўненага ў сваёй перамозе. Трымаў галаву роўна перад сабою і не аглядаўся па баках.

За ноч навярнула на ўсю вуліцу адну вялізную гурбу снегу. Трэба было выбіраць каля сцен, каля платоў, але Марцін не звяртаў увагі. Месцамі ён па калені ў снег увальваўся, але доўгія халявы яго новых ботаў выратоўвалі. А вось вуліца павярнула ў другі бок, дзе не было снегу.

Супраць хаты Антося Драчыка ён незнарок стукнуўся лоб у лоб з «Львом Талстым». На далікатную заўвагу старога «тоісь як гэта?» ён нават не адказаў.

Адна думка сляпіла яму вочы і надавала бадзёрасці: «Маё возьме!»

Язэп, дзядзька з рыжаю барадою і ружовым гладкім тварам, угледзеў яго яшчэ з акна, сустрэў ля самых дзвярэй.

— Сваток?

— Сваток.

Ужо некалькі год яны называюць адзін аднаго сватамі.

Язэп прыемна сажмурыў вочы, нібы не на Марціна глядзіць, а на яснае сонейка, і запытаўся:

— З якою навіною?

— З такою, што нам трэба як найхутчэй скончыць гэту справу — вяселле.

Марцін яшчэ не адсопся ад хады па глыбокім снезе. Голас яго выклікаў трывогу ў Язэпа.

— Што здарылася? — спалохаўся Язэп.— Можа, твой Хвёдар ужо...

Ён не дакончыў і строга зірнуў на сваю дачку Марылю, якая мыла гаршкі каля печы.

— Не,— засмяяўся Марцін.— Мой Хвёдар не з такіх.

— І мая Марыля не з такіх.

— Але як найхутчэй трэба ладзіць вяселле.

Пры гэтым Марцін махнуў рукою, нібы надакучлівых мух адганяў ад сябе.

— Уламаў сына на людскі шлюб?

— Не, дзе там! Але ўсё роўна трэба...

Язэп спахмурнеў. Раней зажмураныя вочы расплюшчыліся. Сiняватая сталь заблішчала ў іх.

— Значыцца, нічога не будзе, калі так. Пачакаем, сваток. Ведаеш, я сказаў, і аман, як адрэзана!

— Будзе! — зароў басам Марцін.— Яшчэ як будзе!

Ён з упэўненасцю палажыў цвёрдую руку на Язэпава плячо.

— Ніколі за бязбожніка дачкі сваёй не аддам! Ніколі!

Пры гэтым Язэп ківаў галавою направа і налева ў знак пацверджання сваіх слоў.

Марцін, адчуваючы сваю перамогу, якую зараз будзе мець, захіхікаў тоненькім хітрым смяшком, адразу стрымаў свой смех, зрабіўся сур'ёзным і давай тлумачыць:

— Кінь, сваток, бязбожніцтва і божніцтва! Ад гною большая карысць, павер ты мне. Калі яны, маладыя, значыць, цяпер не запішуцца, дык можа прапасці цэлая гаспадарка. Я тады скажу, сваток, што ты знішчыў, спаліў гаспадарку. Мае словы шчырай праўдай будуць. Вось што!

Язэп адскочыў на крок назад і вылупіў на свата здзіўленыя вочы.

— Як гэта, гаспадарка?!

— А так, гаспадарка...

Чорныя вочы Марціна і сінія Язэпа перапляліся розпакаляровымі агнямі здзіўлення і мнагазначнасці.

— Як гэта?

— А так...

— Нічога не разумею!

— Зразумееш!

«Жартачкі — гаспадарка»,— думаў Язэп.

«Ого, гаспадарка»,— меркаваў Марцін.

Зараз жа бязбожніцтва і божніцтва адплылі кудысьці далёка ад іхняга ўяўлення, як бы ніколі сваты не чулі царкоўнага звону, ніколі не бачылі «айца» Дзімітрыя, які не так, як усе папы, свае казанні гаварыў.

Думкі сватоў былі вельмі падобныя адны да адных: «Прападзе гаспадарка».

Якая? Дзе? Якім чынам?

Гэта ўжо не так важна. А гаспадарка — гэта хата, хлявы, пуня, гумно, агароды, жывёла, поле...

Сэрца Язэпа забалела:

Што за загадка?

Непакоіўся, рабіў сумны выгляд і Марцін. Яго трывога была робленая, каб падбухторыць Язэпа. Ён добра ведае, што гаспадарка не прападзе. Зараз вытлумачыць Язэпу.

Водгаласкам на яго думкі Язэп сказаў:

— Дык растлумач, сваток, у чым справа?

— Справа простая. Пераходзім на пасёлкі?

— Пераходзім.

— На кожную сям'ю даюць надзел зямлі?

— Даюць.

— У мяне цяпер адна сям'я разам з Хведарам?

— Адна.

— А калі Хвёдар ажэніцца, будуць дзве сям'і, і на яго дадуць надзел зямлі. Зразумеў?

— Зразумеў...

Язэп церабіў бараду, і вочы яго зрабіліся такімі вінаватымі, нібы ён сапраўды хацеў разбурыць гаспадарку.

Марцін глядзеў на яго хітрымі вачыма і хіхікаў. І ў яго словах адчуваўся лагодны смяшок.

— Ну, сваток, што па-твойму важней — гаспадарка ці шлюб у цар...

Язэп не даў яму скончыць. Сажмурыў вочы і кінуў у хату загад:

— Бяжы да Сымона па самагонку!

Праз тыдзень пасля гэтай гутаркі адгулялі Хвёдарава вяселле без папа.

Улетку Хвёдар ужо меў у пасёлку новую хату, хлеў, гумно, жывёлу і розныя прылады для гаспадаркі.

Ранейшая хлапцоўская вёрткасць Хвёдара мінула. Ён агаспадарыўся і з выгляду. Тыднямі не галіўся. «Часу няма»,— тлумачыў ён суседзям. Рухі яго зрабіліся павольнымі, змеранымі, узважанымі. Адчувалася, што калі ідзе куды на дзядзінец ці ў хаце ад кута да кута, дык не так сабе, а каб нешта рабіць, нешта паглядзець, ці ляжыць або стаіць на месцы. Ужо калі ступіць дзе, дык пакіне след — патрэбны, карысны для сваёй гаспадаркі. Бровы яго заўсёды цяпер насупленыя, вочы накіраваны ў адзін пункт і нібы прыглядаюцца да тых від овішч, якія Хвёдар малюе ў сваіх думках. Нават голас яго змяніўся, пасталеў: няма лішніх неабмеркаваных выкрыкаў. Словы льюцца роўным павольным шнурком, нібы праводзіцца

роўненькая, але глыбокая баразна. Не кідае Хвёдар слоў на вецер. Кожнае слова выпешчана, вынашана ў думках, выцягвае Хвёдар яго, нібы па кропельцы мёду з поўных сотаў.

Калі гаварыў з кім-небудзь, дык стараўся абдумваць, абмяркоўваць і адшліфоўваць кожнае слова, каб яно было вострым, роўным і гладкім, багатым па сэнсе. Дзеля гэтага паміж словамі заўсёды ён рабіў маленькія перапынкі, замаскаваныя клейкім і расцягненым гмыканнем. Гмыканне прышчапілася да яго гутаркі, стала патрэбным, як восі да колаў.

Спачатку ён выгмыкваў такія думкі:

— Г-м-м... Такі закон. Трэба навучыцца гаспадарыць па-культурнаму... Г-м-м. Пасля, як навучымся, пяройдзем на калектыўныя формы гаспадаркі. Г-м-м. І аграном гаварыў: «пераходная ступень да калгаса»... Г-м-м...

Гэта ён аратарстваваў перад суседзямі-пасялкоўцамі, якія ведалі яго зусім інакшым у працягу ледзь не года пасля яго звароту з Чырвонай Арміі.

Калі-нікалі наведваліся да Хвёдара яго былыя сябры, Змітрок і Антось Драчык. Змітрок жыў за некалькі вёрст у другім пасёлку, а Драчык — у камуне. Яны часта між сабою сустракаліся і разам прыходзілі да Хвёдара.

— Глядзі, Хвёдар, каб ты тут гаспадарчай шэрасцю не абрастаў і каб твая псіхалогія, як кажа «Леў Талстой», не змянілася,— гаварыў яму Змітрок.

— Г-м-м... не зменіцца,— супакойваў Хвёдар.

— А ты пра калгас трубіш людзям у вушы, культурнай справай займаешся? — дапытваўся Драчык.— Люблю шчырасць, мабыць, спіш у шапку.

— Г-м-м... дайце, браткі, людзям ачухацца. Яшчэ новыя гаспадаркі ў пасёлку як мае быць не наладжаны, а ўжо культура, калгас. Г-м-м... Што ж гэта за скокі такія? Ведаеце, што працаваць па зямлі не гімнастычныя фокусы, а поўная напружаная праца. Г-м-м... Ды я ж таксама, ведаеце, сам адзін. Няма калі разгульваць. Не тое што раней, калі пры бацьку жыў. Усё ж такі я думаю аб культуры. Г-м-м. Часам аграном сюды прыязджае раіць, як і што рабіць. Толькі я не чакаю яго. Купляю сам сельскагаспадарчыя кніжкі ды стараюся пакуль што хоць у сябе паводзіць культуру. Пабачаць людзі мае ўраджаі, вось і будзе агітацыя!

Новая хата Хвёдара пахне свежай смалою. Вокны вялікія: шмат сонца, шмат святла. На сценах граюць сонеч-

ныя зайчыкі. У хаце ўсё новае і бліскучае. На стале, у кутку каля сцяны, купка кніжак, газет. Яго жонка Марыля не вельмі гаваркая, але гаспадыня ветлая, з усмешкай на ружовым твары. Валасы яе золатам адліваюць, і здаецца, што і ад яе пахне сасновай смалою. Яна цяжарная. Асцярожна ступае па жоўтай новай падлозе. Ленасць і дрымотнасць у яе хадзе.

Задаволена глядзіць муж на жонку. Нібы пасля буры ў моры дабраўся да ціхай прыстані. Вось угледзеў, што абрус не роўна ляжыць на стале,— паправіў. На падлозе газета — падняў, зладжыў акуратненька і на месца.

Госці, Змітрок і Драчык, пераміргваюцца.

Прынёс Хвёдар з сенцаў пляшку гарэлкі. Жонка падала к сталу сыр, масла, сала, хлеба і нават белую булку. Да гэтага новенькія відэльцы, нажы.

— Ого! — здзівіўся Змітрок.

— Люблю шчырасць, гэта лішняе! — сказаў Драчык.

— Г-м-м...— усміхнуўся Хвёдар.— Вы ж у мяне самыя найлепшыя таварышы і госці, чаму трохі не пабалавацца?

Селі за стол.

Няма жывой шчырай гутаркі паміж старымі таварышамі. Выглядае, нібы малазнаёмыя людзі сустрэліся. Змітрок глядзіць на новую печ. Драчык утаропіў вочы перад сабою на дзверы.

Здаецца, што яшчэ кагосьці чакаюць, хто павінен увайсці ў хату, тады толькі пачнецца самае шчырае, цікавае і прыемнае.

Гаспадыня ставіць пачастункі на стол і працяжна і голасна ўздыхае. Хвёдар кладзе гасцям па відэльцу і нажу, расстаўляе талеркі, чаркі, налівае гарэлкі.

Усё гэта робіцца моўчкі, як бы ў хаце нехта спіць, якога будзіць нельга.

— Г-м-м... калі ласка, таварышы, сілкуйцеся! Г-м-м...— просіць Хвёдар.

— Проша...— кажа гаспадыня.

— Што ж гэта ў цябе, Хвёдар, за новая прывычка з'явілася? Пры кожным слове гмыкаеш,— заўважыў Змітрок.

Хвёдар пачырванеў.

— Вось прычапілася, г-м-м... нейкая дурная прывычка...

— Гэта ад розных думак па гаспадарцы. Глядзі, Хвёдар, каб праз меру ўласная гаспадарка цябе не захапіла.

Люблю шчырасць, ты забываешся аб грамадскай працы.

— Г-м-м... Ану яе к ліху, зноў загмыкаў,— смяецца Хвёдар.— Выпіце, браткі, і закусіце. Будзьце пэўны, што застануся такім, якім быў раней, толькі дайце агледзецца. Г-м-м...

Не клеілася ў іх гутарка, нягледзячы на гарэлку і закуску. Моўчкі елі і пілі. Часта спыняліся, забываліся пра яду.

Змітрок глядзеў у новую сцяну сумным позіркам. Драчык зазіраў Хвёдару ў глыбіню вачэй, нібы нешта вычытваць там хацеў.

Хвёдар адварочваецца. Яму непрыемна.

Праз адчыненыя вокны крадзецца ў хату ціхі летні поўдзень. Дзынкаюць пчолы. Два каляровыя матылькі ўляцелі праз акно і замільгалі над сталом. На вуліцы на санцапёку купаюцца ў пяску дзеці. Смяюцца. А вось сварыцца паміж сабою пачалі. Пачуўся дзіцячы плач: працяжны, жаласлівы, гучны.

Усе зірнулі ў акно.

— Гм-м... Глупства,— кажа Хвёдар,— пасварыліся, памірацца. Піце, браткі, ешце!

Ён стараецца заглушыць непрыемнасць, якая пануе ў хаце.

— Дзякуем,— кажа Змітрок.— Чаму да мяне не прыйдзеш?

— Усё, г-м-м... няма калі...

— А колькі разоў прасіў цябе паглядзець наш «Чырвоны Кастрычнік». Люблю шчырасць, цікавіцца перастаў нашай камунай. Стары «Леў Талстой» і то часта наведваецца.

— Паспею, дайце агледзецца! — з хваляваннем у голасе адказвае Хвёдар.

Падняўся з зэдліка і давай спацыраваць па хаце туды і сюды. У гэтыя хвіліны Хвёдар зноў як бы стаў ранейшым да наладжвання ўласнае гаспадаркі: рухлівы, гарачы, вёрткі, шчыры і натуральны. Ранейшы голас, ранейшы бляск у вачах. Ходзіць па хаце і гаворыць так, нібы перад самім сабою апраўдваецца:

— Усе гады пражыў у беднаце, у гразі, у цемнаце. Дык ці ж не маю права і я, г-м-м... наладзіць сваё жыццё? Хачу трохі на ногі падняцца. Няўжо ж гэтым раблю злаўчынак перад бядняцкай грамадою? Я ж таксама сябар грамады. Я ж не болей як чалавек. Г-м-м...

Змітрок міргнуў Драчыку, Драчык — Змітраку.

— Бярэшся пад Крушынскага,— заўважыў Змітрок.

— Правільна! — пацвярдзіў Драчык і стукнуў кулаком аб стол.

— Што вы, таварышы? — пакрыўдзіўся Хвёдар.— Крушынскі эксплуатуе чужую працу. Ён багатыр, а я? Г-м-м... Я ўсё сваімі рукамі. Во, глядзеце, мазалі на маіх руках. Наркамземаўскі аграном хваліць мяне кожны раз, як сюды прыязджае.

— Ты забыўся на беднату, на сацыялістычнае будаўніцтва. Думаеш толькі аб сабе. Вось што, Хвёдар, я табе скажу! — прабіраў яго Змітрок.

— Праз некаторы час зробішся воўкам, мядзведзем у бярлозе. Люблю праўду, гэта факт! Вось і пасёлкі! Вось яны! — крыкнуў Драчык.— Ражнамі лезуць яны ў горла! Ну і прыдумаў Наркамзем! Гэта ж чорт ведае што...

Твар у Хвёдара наліўся крывёю. Вочы памутнелі і зрабіліся вільготнымі.

— Браткі...— пачаў ён дрыжачым голасам.— Вы ж сапраўды лічыце мяне злачынцам. За што? За тое, што перасялілі на новае месца і далі магчымасць весці па-культурнаму гаспадарку і па-культурнаму жыць? Г-м-м... За тое, што я чытаю газеты і кніжкі і хачу суседзям паказаць розніцу паміж маёй гаспадаркай і іхняй? Г-м-м... Каб мог бы, дык сэрца сваё паказаў бы вам, што я гэта ўсё шчыра раблю, шчыра... Г-м-м...

Хвёдар змоўк. Сеў за стол, падняўся, гмыкнуў і зноў сеў. Па ўсім відаць было, што чалавека нешта мучыла. Ён сабе месца не знаходзіў. Адварочваўся да акна, зганяў мух з падаконніка, глянуў пустымі вачыма на гасцей, на хату і не ведаў, што рабіць і дзе дзецца.

Змітрок падсунуўся да яго бліжэй, па-сяброўску палажыў яму руку на плячо і лагодным голасам шапнуў:

— Супакойся, Хвёдар, супакойся.

Гаварыў ён да Хвёдара такім тонам, нібы доктар да хворага. Гаварыў ад усяго сэрца:

— Глядзі, вось у пасёлку, дзе я жыву, малочнае таварыства наладзілі, машыннае, меліярацыйнае. Я бадай кожны дзень пасялкоўцам газеты чытаю. У цябе нічога гэтага няма.

— Будзе! — крыкнуў Хвёдар на ўвесь голас, і твар яго афарбаваўся ад нутранога хвалявання ў колер цэглы.

Жонка Хвёдара моўчкі прыслухоўвалася да гутаркі і варожымі вачыма глядзела на гасцей. Ледзь-ледзь з яе языка не сарваліся словы такога зместу:

— Чаго вы прыйшлі? Разбурыць тое, што мой Хвёдар пачаў будаваць? Няма чаго сказаць, добрыя таварышы!

У хаце стала ціха. Непрыемнай была гэта цішыня. Ніхто не ведаў, аб чым яшчэ гаварыць. Усё было сказана. Усё было абмеркавана.

Змітрок утаропіўся вачыма ў бутэльку з гарэлкай, на якой сонца грала колерамі.

Драчык прылажыў руку да грудзей, і на твары яго быў такі выраз, нібы яму не хапае паветра.

Хвёдар схаваў вочы пад бровамі, увесь як бы сціснуўся і чакаў новага нападу.

Ува ўсіх было адно і тое самае жаданне: як найхутчэй разысціся хто куды. Гарэлка і закуска стаялі на стале бадай нечапаныя. Быў страчан апетыт.

І госці і гаспадар адчулі, што паміж імі ўстае сцяна. Пакуль што палажана толькі адно бервяно. Яшчэ можна праз яго пераходзіць. Але бярвенні будуць паднімацца адно за адным. Сцяна будзе расці і расці, аж пакуль з абодвух бакоў сцяны адны адных бачыць не будуць.

На адным з адчыненых акон грэецца на сонцы белы тлусты кот. Ён паглядае на хату дрымотнымі сажмуранымі вачыма. З двара чуваць, як квактуха кліча сваіх куранят. А вось з боку агарода пачуўся гуд, вясёлы гуд з тонкімі пераззвонамі: нехта вядзе адну ноту на ліры.

Усе наставілі вушы.

— Што гэта гудзе? — усхапіўся Хвёдар.

Яго жонка, якая ўвесь час маўчала, усплясну́ла рукамі і крыкнула ў роспачы:

— Малады рой вылецеў! Хвёдар, хутчэй!

Хвёдар ускочыў з месца ўстрывожаны, нібы дом загарэўся.

— Прападзе малады рой...

Заклапочаныя Хвёдар з жонкаю выбеглі на двор і давай гнацца за пчоламі.

Хвёдар пчол палюбіў.

На другі год працы ў пасёлку пятнаццаць рамавых вулляў паставіў. Каня памяняў на лепшага, гадаваў жарабка. Купіў яшчэ адну карову.

— Для гною, каб больш гною было ў гаспадарцы,— раіў яму бацька.

Часта прыходзіў і бацька яго жонкі. Радаваўся і нарадавацца не мог. Гарэла агнём яго рыжая барада. Свет-

лыя вочы былі сажмураны ў дзве бліскучыя шчылінкі.

— Вось гэта я разумею,— гаварыў ён.— На вокнах фіранкі, вазоны. На падлозе дарожкі. Гэта па-людску! Хвалю!

— Кіньце аб гэтым, тата. Вечна адно і тое самае гаворыце.

— Я гэта, каб людзям паказаць, як жыць трэба пакультурнаму... Г-м-м...

— Ну і жартаўнік!

На поўныя грудзі рагоча рыжы Язэп.

— Гэ-гэ-гэ! Востры ты, зяцёк, на язык, ой, востры! Мабыць, ад Крушынскага навучыўся. Разумны ён чалавек, ой, разумны! Малайчына ты, што здружыўся з ім, ой, малайчына!

Трасе Язэп рыжай барадой, аглядае ўсе куткі Хвёдаравай хаты, радуецца і нарадавацца не можа. Раптам мяняе тон і сур'ёзным голасам пытаецца:

— Як унук?

— Здароў.

— Не пашкодзілі папоўскія хрэсьбіны?

— Г-м-м...

З хрэсьбінамі выйшла гісторыя.

Хвёдар тады павёз збожжа ў млын да Язэпа Крушынскага. Рыжы Язэп, цесць Хвёдара, аб гэтым ведаў. Малога хлопчыка, сына Хвёдара, павезлі да айца Дзімітрыя. Там жа чакалі кумы. Ахрысцілі хлопчыка паводле ўсіх правілаў.

Хвёдар сядзеў тады ў млыне ў Крушынскага аж два дні. Як вярнуўся адтуль, дык падняў скандал на ўвесь пасёлак.

— Маё шчасце,— крыкнуў ён,— што я беспартыйны, а то выкінулі б з партыі.

Праз некалькі дзён ён забыўся пра скандал і запытаўся ў жонкі:

— Папу заплаціла?

— Заплаціла. Ты, здаецца, перад тым, як паехаў у млын, сам сказ...

Жонка стрымалася на паўслове.

— Г-м-м... Занясі яму трохі мёду. Чалавек ён культурны. Можа, калі прыгадзіцца.

Селі палуднаваць.

Рады Хвёдар, што сынок гадуецца.

— Трэба старацца цяпер і на маленькага Мікітку! — кажа ён да жонкі бадзёрым голасам.

— Яму яшчэ мала трэба.
— Але ж падрасце. Мала ў нас зямлі. Вось каб яшчэ кавалак сенакосу, пару шнуроў пад жыта. Эх, загуляў бы...
— Ты ж не здолееш.
— Яшчэ як здолею! Толькі давай!
Хвёдар і пры ядзе ад руплівасці лоб моршчыць.
«Да каго падсунуцца? Ніхто лішняга не мае».
Есць шпарка.
«Трэба ўпарадкаваць гумно. Як пачнецца касьба, не будзе калі».
Неўзабаве нехта рыпнуў дзвярмі, Хвёдару думкі перабіў.
У хату ўваходзіць хлопчык гадоў дзесяці, чарнявы, як цыганёнак, у яго чорныя спалоханыя вочы. Стаў хлопчык каля парога, апусціў рукі, перабірае на адным месцы закарузлымі босымі нагамі і канфузіцца ступіць далей: чыста вымытая, жоўтая, як воск, падлога, тканая ўзорамі дарожка ад дзвярэй да стала палохаюць яго.
Хлопчык глядзіць на Хвёдара разявіўшы рот.
Прыемна Хвёдару, што яго хата робіць на хлопчыка такое ўражанне.
— Што, братку, скажаш? — пытаецца ён у хлопчыка лагодным голасам.
— Тата прасіў...
Але яго Хвёдар перабівае:
— Што трэба сказаць, як уваходзяць у хату?
— Дзень добры! — кажа хлопчык і чырванее.
— Вось так! Ну, а цяпер, што тата прасіў?
— Тата прасіў, каб дзядзька Хвёдар да нас прыйшоў.
— Добра. Скажы, што зараз прыйду.
Хлопчык ціхенька высунуўся за дзверы.
— Г-м-м... Навошта ён мяне заве?
Ведае Хвёдар, што бацька гэтага хлопчыка, Сідар Мядзведскі, ужо другі тыдзень з хаты не выходзіць. Яшчэ з вясны занядужаў, высах, кашляе. З бядой папалам абсеяў поле вясной, а цяпер зусім паддаўся.
Кончыў полудзень і пайшоў да Сідара. На двары горача. Сонца пячэ якраз у твар. Хвёдар жмурыць вочы, ідзе павольным, млявым крокам.
Вось і Сідараў двор — адчынены. Вароты ляжаць на зямлі, і пустая брама выглядае як разяўлены бяззубы рот. На дрывотні ні палена дроў. Малыя дзеці сядзяць на возе, а двое большых цягнуць за аглоблі.

— Адразу відаць, што гаспадар хворы,— кажа Хвёдар самому сабе, адчыняючы дзверы хаты.

У бруднай і запушчанай хаце цэлыя хмары мух.

Сядзіць Сідар на ложку, кашляе і рукамі мух адганяе ад сябе. Ён кашляе надрыўна, прытрымліваючы грудзі адной рукою.

— Дзень добры!

— Добры дзень!

Голас у Сідара такі, нібыта нехта водзіць пілою па гнілой калодзе.

Хвёдар да яго прыглядаецца: вельмі змяніўся хворы за апошні час. Сядзіць згорблены ў расхрыстанай зрэбнай кашулі. Шчокі пажаўцелі, заўпалі, проста скура да самых касцей прыліпла. Толькі вочы гараць чорным ліхаманкавым бляскам.

Каля ложка наплёвана.

— Чаму вокны зачынены? Табе ж няма чым дыхаць.

— Пацею вечна. Баюся, каб не прастудзіцца.

— Пацееш, бо ў душнай хаце сядзіш. Выйшаў бы на гумно, там паветра чыстае.

— Ат...— махнуў Сідар рукой.— Не магу... Сэрца баліць, як гляну на гаспадарку. Лепш, каб вочы не бачылі...

Хвёдар маўчаў. Не ведаў, што на гэта адказаць. Пасля запытаўся:

— Да майго дачніка хадзіў? Ён жа добры доктар!

— Ат... Мала ён памагае. Раней, ведаеш, так-сяк працаваў, абсяваў поле. А цяпер... (Сідар закашляўся) касьба не за гарамі, і не ведаю, што рабіць...

Хворы ўтаропіў у Хвёдара пранізваючыя вочы.

Хвёдар гмыкнуў глыбакадумна і адвярнуўся:

«Г-м-м... Што яму параіць?»

Каб гэта было два гады таму назад у Гайдачанах, дык грамадою дапамаглі б такой бядзе справіцца з сенакосам. Тады іншае было. Тады Хвёдар яшчэ не меў сваёй сям'і і сваёй гаспадаркі. Тады ён сябраваў з Змітраком і Антосем Драчыкам. А цяпер?

«Г-м-м... Жыццё ў мяне інакш накіравалася».

Пры гэтых думках Хвёдар не адважваецца зірнуць Сідару ў бліскучыя вільготныя вочы. Нібы нешта ўкраў у хворага.

А вочы Сідара мігацяцца ад нейкай затоенай сарамлівасці. У іх нямое запытанне:

— Што рабіць?

Хвёдар толькі адным вокам зірнуў на віпаватую збян-

тэжаную постаць Сідара. Нешта ўзварухнула ўсё яго нутро. Ледзь з языка не сарваліся такія словы:

— Пагавару, Сідарка, з пасялкоўцамі. Агульнымі сіламі мы табе ўпарадкуем сенакос...

Ведае Хвёдар: каб ён так сказаў, дык Сідар ад шчырай удзячнасці яшчэ больш засаромеўся б, яго вочы яшчэ больш вільготнымі сталі б. Яго, Хвёдара, пранізала б пры гэтым наскрозь гарачая хваля прыемнасці...

«Вось зараз скажу яму».

У хаце глухі гуд ад мух. Хворы кашляе.

Хвёдар перабіў свае думкі такім запытаннем:

— Дзе жонка?

— Павяла каня на пашу.

— Чаму хлапца не выправіла?

— Хлопец? Каня баіцца. Брыкаецца конь.

— Г-м-м...

І думкі Хвёдара накіраваліся ў другі бок:

«Што мне больш за іншых клапаціцца пры чужой бядзе? Мяне ўсё роўна ніхто ў бядзе не пашкадуе. Яшчэ я сам добра на ногі не стаў, каб пра іншых думаць».

І Хвёдар сказаў зусім не тое, што хацеў сказаць спачатку:

— Прыйдзецца табе, Сідар, аддаць сенакос каму-небудзь напалавіну. А там да жніва, можа, сам паправішся, а не,— дапаможам грамадою.

— Дзякую, суседзе... Але хто возьме ў мяне сенакос?

— Г-м-м... Хто яго ведае? Ты ні з кім з пасялкоўцаў яшчэ не гаварыў?

— Табе першаму кажу.

Хвёдар паморшчыў лоб, каб схаваць радасць, выкліканую апошнімі словамі Сідара, і давай разважаць уголас:

— Бадай што ніхто не возьме, бо ў кожнага сваё.

Сідар забедаваўся.

І пачаў Хвёдар аглядаць усе куткі хаты: усюды бруд, лахманы. Захаваная гордасць з'явілася:

«Мая хата не такая».

Ён пералічыў у памяці ўсе двары пасялкоўцаў:

«Па-ранейшаму, як у Гайдачанах, жывуць. У мяне самая лепшая гаспадарка».

— Г-м-м... Дык вось, братку, трэба абмазгаваць справу з тваім сенакосам.

Сідар палахліва зірнуў на Хвёдара. Запрапанаваў:

— Можа б, ты, Хвёдар, узяў на палавіну мой сенакос.

— Не спраўлюся.
— Бацька дапаможа, цесць.
Сенакос астаўся ў Хвёдара...

У кожную летнюю раніцу Хвёдар любіць абыходзіць сваю гаспадарку, аглядаць тое, што з кожным днём расце і плодзіцца.

Выйдзе з расою, каб паглядзець, ці няма слядоў чужых ног, ці не здратаваны поле і луг начлежніцкімі коньмі.

Каля хаты кветнік насадзіў. Курэй і свіней на чысты двор не пускае, бо дарожкі пасыпаны жоўтым пяском. Куры і свінні маюць сваё месца каля хлява. Пры чыстым двары белы частакол, вароты з разьбою, з пяцікантовымі зоркамі.

Кветнік ён зрабіў для дачнікаў.

Ужо другое лета да яго доктар з сям'ёю на дачу з Мінска прыязджае.

Сухі хваёвы бор зусім блізютка ад гумна. Стромкія дрэвы жывой сцяною адгароджваюць гумно Хвёдара. Нават на гумне смалою пахне. Калі хвоі шушукаюцца ад ветру, дык іхні шэпт праскоквае праз гумно аж да хаты.

— Зімою выскачу з хаты з паляўнічай стрэльбай, прайду некалькі сот крокаў і ўжо ў лесе,— хваліцца Хвёдар перад дачнікам.

— Гэты бор лепшы курорт, чымся Крым і Каўказ,— кажа яму доктар па сакрэту.

Людзям весела і карысна.

Два разы на тыдзень доктар хворых прымае. Прыходзяць і прыязджаюць з усёй ваколіцы.

— Вось вам і доктарская дапамога,— хваліцца Хвёдар перад суседзямі.— Г-м-м... Не жарты, культура!

— Дзякуем за такую культуру. Доктар па тры рублі дзярэ. Ласка невялікая...

— Г-м-м... І яму ж трэба жыць. Мала ён гараваў, пакуль навучыўся? Г-м-м... Доктарства — яго поле, яго барана, яго саха.

Маўчаць суседзі.

— Г-м-м... А больніца ў Шапалевічах. Там дарэмна лечаць. Каму не падабаецца доктар, можа ехаць туды.

Маўчаць суседзі.

Не ведае Хвёдар, ці згодны яны з ім, ці не...

— Г-м-м... Вы, суседзі, такой культурнай выгады не

разумееце. Доктар тут жа, на месцы. Хоць штодня хадзі да яго. Як у горадзе...

Весела ўлетку ў Хвёдаравым двары.

Ён, яго жонка, малы хлопец, доктарава сям'я і бедная жанчына сваячка, якой ён, Хвёдар, «даў прытулак» (працуе ў яго да дзесятага поту).

І нават бор ажыў.

Не лес, а парк з прысадамі. Песні, гутаркі, смех, шум дзяцей. У сонечныя дні гамакі, прывязаныя да хвояў. Прытульна.

Воддаль ад гамакоў лупіны ад яек, косткі ад курэй, газеты, акуркі ад папярос, бутэлькі ад піва, віна.

Часта падкрадваецца туды пастушок з суседняй вёскі. Стаіць за дрэвам, каб яго не заўважылі, і слінку глытае, гледзячы на доктарскі абед.

Дзівіцца дванаццацігадовы пастушок Сцёпка, глядзіць на старэйшага доктарскага сынка, такога ж хлопчыка, як ён.

Той ляжыць сабе ў гамаку ў кароткіх трусіках і пячэ плечы на сонцы. Ванькам завецца доктарскі хлопчык.

Часта Ванька кніжкі чытае, кніжкі з прыгожымі малюнкамі...

Вострае вока ў Сцёпкі — здалёку ўгледзеў.

«Чым Ванька лепшы за мяне?» — часам думае Сцёпка.

А ў лесе смалою пахне. Знізу, дзе гамакі, ціха. Зверху вечна шумяць вершаліны хвояў.

Часам зязюлька кукуе.

— Ку-ку! Ку-ку! — лічыць яна хвоі.

Доктар ляжыць у гамаку і глядзіць у неба. Па сіняве праплываюць ваўняныя бялявыя хмаркі. Нехта вялікі курыць там папяросы і дым пускае.

Доктарыха, тоўстая і заклапочаная, злуецца на Ваньку, візгатлівым голасам, нібы шкло рэжа, крычыць:

— Чаму, Ванька, нічога не ясі?

— Я толькі што еў.

Ванька дрыгае нагамі.

— Ты ж павінен папраўіцца на дачы. Ну і сынок...

Сцёпка не варухнецца за дрэвам. Слухае. Цікава. Вельмі хочацца кінуць шышкай на Ваньку, але баіцца. Думае:

«Мая маці ніколі не крычыць на мяне за тое, што мала ем. Розныя маткі бываюць».

Уяўляе Сцёпка сваю матку: тонкая, касцістая, высокая, вечна злосная. Яе босыя ногі з крывымі пальцамі — чорныя і патрэсканыя.

Сцёпку злосць бярэ на матку, што яна такая. А можа, не злосць, а жаласлівасць, бо яму раптам сумна становіцца, хоча плакаць...

Доктарыха ляжыць у гамаку. Гамак пад ёю аж да зямлі апусціўся. Абхапіў яе гамак з усіх бакоў белым палатном. Бачыць Сцёпка, якая яна круглая і тоўстая. Яна газету чытае.

Хмельны пах лесу лезе ў нос, у горла. З блізкага лугу пахне скошанай мурожнай травою. Гудуць пчолы.

Дзівіцца Сцёпка:

— Як гэта доктарыха чытае, калі газета на самым яе носе?

Востры ў Сцёпкі слых.

— Х-х-м-м... Х-х-м-м.

Доктарыха не чытае, а спіць. У яе добры сон. Не чуе, як над самай галавою зязюля кажа грудным зычным галасам:

— Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

Водгаласкі з усіх бакоў.

Сцёпка сажмурыў вочы. Глядзіць. Радасць засвяцілася раптам у яго вачах. Ціханька падняў шышку. Доўга цэліўся. Кінуў...

— Ай-ай...— візгатнула доктарыха.— Хто гэта? Што гэта?

Доктар яе супакойвае і тлумачыць:

— Шышка з дрэва ўпала.

— Але ў самы нос трапіла... баліць...— дзівіцца доктарыха.

Сцёпка ціханька адсоўваецца далей ад дачнікаў. Рот рукою прыціснуў. Каб так не зрабіў, дык зарагатаў бы на ўвесь бор.

Шануе Хвёдар доктара.

— Ого! Такі культурны чалавек!

І Хвёдар часта напамінае пасялкоўцам:

— Доктар прасіў, каб дзеці не цягаліся ў лесе па тых месцах, дзе ён з сям'ёю адпачывае.

— Цьфу! Пан які! Як гэта дзецям забароніш? Глупства, Хвёдар, гаворыш!

Калі просьба Хвёдара не памагае, ён сам прыбяжыць у лес ганяць адтуль сялянскіх дзяцей.

Хвёдар любіць культурных людзей.

— Гэта ж не жартачкі, на некалькі сот рублёў дачнікі

ў мяне за лета прадуктаў купляюць... Г-м-м... Я ж не шкадую. Няхай ядуць на здароўе. Яны ж культурныя людзі...

Але часта хмурыцца Хвёдар, незадаволена аглядаецца па баках.

Ён адчувае за сваёй спіною неспагадлівыя вочы пасялкоўцаў. Яны перасталі яго паважаць.

Драчык і Змітрок да яго больш не паказваюцца, а па ваколіцы пусцілі гаворку, што ён, Хвёдар, кулаком зрабіўся, што нават сябраваць пачаў з Язэпам Крушынскім.

## 7

## «САМПАТЫЯ»

У гэтыя летнія дні сонца ўзыходзіць якраз над тым месцам, дзе капаюць гліну, дзе будуецца цагельня камуны «Чырвоны Кастрычнік».

На небе паводка колераў — лілёвых, сініяватых, у залатых кроплях. Бліпічыць пад сонцам чырвоная цагліна, агорнутая ў глянц раніцы. Пляц вялікі, роўны, гладкі, вытаптаны, як гліняны ток. На ім цэглы — палоскамі, клеткамі, узорамі. Тут жа дашчаны шалаш, дзе паліцца цэгла. Побач — глыбокія ямы з мутнай вадою.

У гэтыя летнія дні сонца знаходзіцца якраз на тым краі неба, дзе свойскім спосабам капаюць торф на балоце для патрэб камуны.

Над чорнымі цаглінамі торфу расплываецца вячэрні змрок. А раней, калі балота яшчэ не было парэзана ў палосы вострымі рыдлёўкамі, калі груды тлустай чорнай зямлі з шэрымі жылкамі карэнняў раслін яшчэ не былі навалены зверху, тут кружыліся дзікія качкі. У бурштынавыя раніцы яны насіліся над балотам невялічкімі сямейкамі.

Даўней, калі яшчэ тут камуны не было і гэты абшар зямлі належаў да маёнтку Хадыкаўкі, пан Гардзялкоўскі сюды хадзіў на паляванне. Блізка было.

Па краях камунарскай зямлі хутары і вёсачкі.

Ад некаторых вакольных хутароў былых арандатараў пана Гардзялкоўскага прырэзаны кавалкі зямлі да камуны. З году ў год ідзе наступ на хутары. Прыбавіцца новы камунар, і адбавіцца некалькі гектараў зямлі ў хутараніна.

Плыве сполах ад камуны на хутары невідочнай паводкай. Баяцца заможнікі.

У хмызняках, у садочках прытуліліся хутары, чакаюць сваёй немінучай чаргі...

Хутаранін Макар Пархамчук выходзіць паглядзець «сваё ранейшае»...

Цягам сюды цягне...

Хоць рыжая барада, падкругленая знізу нажніцамі, яшчэ не пасівела, але на загарэлым твары баразны глыбокіх зморшчын. Макару за пяцьдзесят год. Ён невысокі. Плечы трохі сутулыя. На ім расшпіленая шэрая жакетка з сукна свайго вырабу. Вялізныя боты, белыя ад пылу, пахнуць дзёгцем.

Наставіць Макар шырокую загарэлую далонь супроць сонца над вачыма, як брыль, і глядзіць смаглым позіркам светлаватых вачэй на агромністыя абшары бульбы, жыта, канюшыны.

Усё гэта камунарскае...

Абшары наводзяць на яго страх, душаць, ахопліваюць з усіх бакоў сотнямі невідочных рук. Заўсёды яны перад ім. Ён іх бачыць нават ува сне перад вачыма: застылай паводкай насоўваюцца на яго хутар.

Ён крэхча густым крэхтам, адхарквaецца, плюе.

Яго хутар вось тут, побач. Часта сюды прыходзіць таціць у пахучых абшарах слюнявыя праклянцці ад бяссільнай злосаці.

Бывае, ён тут сустрэне аднаго з камуны — Сымона Троську.

Той — худы, высокі, вастраносы, з мігатлівымі вачыма, хітрыкай у голасе.

Ведае Макар: ужо колькі разоў збіраўся Троська выйсці з камуны, і вось цікава з ім пагаварыць...

Дыбае да яго Троська, як бусел. Смяецца, белыя вострыя зубы шчэрыць:

— Бачу здалёку, пянёк тырчыць. Ажна гэта ты-ы-ы!

Троська зацягвае «ты-ы-ы» на спеўны лад.

— Я...— крэхча Макар.

— Чаго ты тут?

— А што? — усхопліваецца Макар.— Мо пастаяць тут забароніш?

— Па-мойму, хоць дзень і ноч стой сабе тут. Толькі нічога не выстаіш. Ногі засвярбяць, кроў застоіцца ў жылах.

— Так...— не то на заўвагу Троські, не то на свае думкі адказвае Пархамчук.

— Вядома, так.

Смяецца скрыпучым смехам Пархамчук. Троська на яго моўчкі глядзіць, міргае вачыма, як да старога сябра, і кажа:

— Дай закурым! — і Троська вымае з кішэні капшук.

Круцяць махорку ў тоўстай паперы.

Між Троськай і Макарам сіні дымок уецца.

Не адступае Троська:

— Дык чаго тут стаіш? Сампатыю камуне выказваеш?

— Сампатыю.

Што гэта за слова «сампатыя», Макар не ведае.

«Мабыць, нянавісць, злосць»,— думае ён.

Глядзіць на Троську падазроным вокам. Той усміхаецца, знімае кончыкам пальца попел з папяросы і маўчыць.

— Сампатыя,— паўтарае Пархамчук незразумелае слова.— Сампатыя.

— Можа, я твая сампатыя? — не адстае Троська.

— Не ты, а Калістра.

— Любіш яго — як сабака кій?

Троська аглядаецца па баках. Калі чалавека здалёку пабачыць, дык зараз жа адыходзіць ад Пархамчука.

— Чаго, Троська, уцякаеш?

— Ну іх к ліху! Яшчэ пачнуць брахаць, што з кулаком звязаўся.

— Ідзі сабе.

Блыкае хутаранін вачыма па блізкім шнуры, шукае, дзе тут была мяжа яго зямлі. Не можа пазнаць... Тут раней бярозавым плотам было адгароджана ад панскай зямлі. Цяпер тут канюшына цвіце, мёдам пахне.

— Аддзякаваў Калістра! — бурчыць Макар у рыжую бараду.— У мяне гэты гад, можна сказаць, выгадаваўся.

Яшчэ ўвосені 1915 года прыблукаўся на хутар Макара хлапчук — абарваны, страшны, скура ды косці. Прыйшоў хлапец з таго боку, дзе бухалі гарматы, скуль уначы неба ў пажарышча апраналася.

Прыйшоў хлапец з тых месц, дзе ў восеньскай шэрай кіселі расхлябаных вайсковымі абозамі дарог многія з бежанцаў ад халеры корчыліся. Абапал тых дарог крыжы заставаліся на памятку. Крыжы, на скорую руку зробленыя, хутка нішчыліся.

Калістрай звалі гэтага хлапца.

У такой гаспадарцы, як у Пархамчука, Калістра не быў лішнім.

Прабыў у яго Калістра аж пяць год. Потым у свет пайшоў. Год таму назад з сям'ёю вярнуўся. У камуну прынялі. На яго долю адрэзалі ад хутара, дзе ён быў парабкам, кавалак зямлі.

— За пяць год працы Калістры. Так тлумачылі ў камуне.

І Пархамчук выказвае сваю «сампатыю»:

— Каб яму пяць скул!

Мёдам пахне канюшына. Па небе паўзе хмарка, паўзе марудна, як маленькі звярок на слабых лапках.

На гэтым самым месцы, дзе цяпер камунарская канюшына, заўсёды было ў Макара жыта ўраджайнае.

Увосень, пасля малацьбы, да яго заўсёды з'яўляўся местачковы гандляр Мэндаль. Па ўсёй ваколіцы быў вядомы гандляр Мэндаль з Шапалевічаў. Ён скупліваў тут збожжа і са станцыі чыгункі вагонамі кудысьці адпраўляў. Высокі, худы, падслепаваты Мэндаль нават з панам Гардзялкоўскім пры адным стале сядзеў, гарбату піў. Яго і пан шанаваў...

З'явіцца Мэндаль да Макара на хутар і адразу да справы:

— Ну як?

— Што, пане Мэндаль?

Макар быццам не ведае, пра што Мэндаль пытаецца.

— Як сёлета жыта?

— Як заўсёды...

Голас Макара рахманы. Макар пацягваецца, гультаявата пазяхае. Яму ўсё роўна: купіць у яго Мэндаль жыта ці не...

— Прадаеш?

— Хто яго ведае...

Макар лезе шырокімі пальцамі ў бараду. Вось пачне лічыць свае рыжыя валасы.

— Чакаеш, каб цана выспела?

— Паляруш яго знае...

— Ну дык бывай! Часу няма на доўгія гавэнды...

— Пачакай...

— Ідзем у свіран! — кажа строга Мэндаль і жмурыць падслепаватыя вочы.

Прыемна Макару гандлёвая ігра. Ён не спяшаючыся бярэ вялікі ключ ад свірна і ўсё яшчэ з няўпэўненасцю па баках аглядаецца: ісці ці не...

Доўга граюць у гандлёвую дыпламатыю гэтыя два груганы.

— Цана якая? — пытаецца Макар.

— Колькі пану Гардзялкоўскаму, гэтулькі і табе.

Гонар Макару: калі меркаваць паводле цаны на жыта, ён і пан Гардзялкоўскі раўня...

У свірне надслепаваты Мэндаль усуне руку ў груд са збожжам, нібы грэць руку надумаў. Набярэ жменю ў адным месцы, у другім, у трэцім, да дзвярэй падыходзіць, дзе святлей, глядзіць, на зуб прабуе. Потым выпускае зерне зноў у груд праз худыя пальцы. Шорхае жыта ў яго руцэ, зярно да зярна шапоча:

— Золата...

— Золата...

Разумее Макар жытнюю мову і кажа Мэндалю:

— Не жыта, а золата.

— Не хвалі, сам на тавары разумею.

Без лішніх слоў дае Макару задатак і тут жа запісвае нешта сабе ў кніжачку алоўкам.

Макар цьфукае на грошы і крэхча салодкім млявым крэхтам:

— Няхай будзе спорна!

— Няхай.

Два груганы развітваюцца.

У імглістыя восеньскія раніцы, калі на платах і на полі блішчыць у расе павуціна, калі на Макаравым двары рабіны выстаўляюць напаказ свае акрываўленыя жмуты ягад, абоз фурманак цягнецца па дарозе — фурманкі з жытам. З розных хутароў яны соўваюцца па размяклым ад дажджоў тракце ў бок мястэчка Шапалевічы. Тут і Макар.

Вялікія шпіхляры ў Мэндаля. Як гляне Макар, дык страх бярэ, і зайздрасць, і пашана...

З хаты Мэндаля выносяць некалькі бутэлек гарэлкі. Грэюцца фурманшчыкі.

Даўно хутаране-арандатары выкупілі зямлю ў пана Гардзялкоўскага. Самі панкамі парабіліся. Дапамагло і жыта, прапушчанае праз худыя пальцы Мэндаля.

Лагодная ўсмешка на твары Макара.

І ён успамінае: «З пастуха Калістры выйшаў добры баранавалок. Хутка спрытным парабкам стаў. Спраўляўся з ворывам. Ад цямна да цямна працаваў дзяцюк. Можа, быў бы такім гультаём, як іншыя, але Макар ніколі з вока

яго не спускаў. Аплявухамі яго габляваў. Чалавекам, можна сказаць, стаў...»

Доўга стаіць Макар на адным месцы. Бачыць здалёку не то людзей, не то мурашак. Мітусяцца туды і сюды. Да сенакосу камунары на цагельні працуюць.

З вачэй Макара сыплюцца белыя аганькі. Зубы яго так вырабляюць, нібы жарству імі жуе.

«Ці падпаліць, ці што іншае?»

Не ведае, як лепей...

Раней думаў, што камуна сама развaліцца.

«Які можа быць толк з гэтых парабкаў-абібокаў?» — меркаваў ён.

«Ажна не, мацнеюць».

Лёгкі ветрык ледзь зыбае траву, кране льняныя рэдкія валасы Макара, кіне халадок на гарачую шчаку, на загарэлы лоб. Жартуе летні ветрык з сур'ёзнага чалавека.

«Ці падпаліць, ці што іншае?»

Сціх ветрык. Сонца пячэ.

Прыткнешся рукою да каменя — накалены, як на агні. Млее зямля з гарачыні, пахне рознымі травамі. Гудуць чмялі. Зверху — кволыя званкі жаўранкаў.

«Адплачу!»

На хвіліну радасць свеціцца ў вачах — дзікая, воўчая радасць.

— Гэ-э-э! — вырываецца з яго грудзей гук будучай перамогі.

«Толькі...»

Гасне радасць у яго светлых вачах. Не падкрадзешся. Вартаўнікі ўначы вакол будынкаў, са стрэльбамі і злымі сабакамі...

З боку дарогі тарахцяць калёсы. Іхні стукат і рып набліжаецца. Плывуць раўчукамі ў вушы Макара.

Уздрыгануўся.

Спалохаўся сваіх думак.

Фурманка.

Чалавек паганяе пугай каня. На возе некалькі мяшкоў мукі. Чалавек абелены мукою, нібы снегам акропелены.

«Відаць, з млына едзе, ад Крушынскага».

Злуецца Макар, што воз з млівам думкі яго збянтэжыў.

Праехала фурманка.

Макар падышоў, каб з чалавекам пагаварыць.

Па дарозе ад фурманкі клубкі мутнага пылу і пах каламазі.

Ідучы дамоў, Макар звесіў галаву ўніз, як цяжкую гіру. Ад думак галава воладам налілася. Вачыма пацэліўся ў свае ўласныя ногі. На масянжовым твары выраз сарамлівасці.

«Не буду я Пархамчуком, калі чаго-колечы не прыдумаю супраць «іх».

Яго рыжая барада адлівае агнём. Твар у жоўтых плямінах рабацення ў.

«Прыдумаю».

Разамлеў Пархамчук ад думак і гарачыні. І ўяўляе сабе камуну як на далоні. Вельмі ўрэзалася ў памяць.

...Вялізны ўзгорак абкружаны ручаём з двух бакоў. Ручай празрысты, як шкло, з жоўтым пяском на дне, ад чаго ён здаецца залацістым. З боку дарогі вядуць у камуну таполевыя прысады. Далей вялізны ангельскі парк з газонамі, сад, былыя панскія палацы, дзе цяпер клуб, сталоўка і школа. Трохі воддаль некалькі новых будынкаў для камунараў, крухмальня, стайня. Бліжэй да лесу аборы для жывёлы, доўгія будыніны для свіней і авечак; гумно займае цэлае поле з будынінамі для сена, збожжа і сельскагаспадарчых машын.

Перабірае Пархамчук у памяці ўсіх камунараў. «Да каго можна падступіцца?»

Спыняецца на адным: «Сымон Троська! Выпіць любіць».

Як ні адвучваюць у камуне ад гарэлкі, нічога не памагае.

Хмурны дзень. Па небе ходзяць дажджавыя хмары. З аднаго боку дарогі — лес, з другога боку — поле. Калінікалі кукуе зязюля. Далёкія грымоты недзе далёка-далёка ў лясной далячыні. Над лесам ледзь прыкметны перамігрванні маланкі. Бледна-чырвоныя водблескі хутка гаснуць. Па дарозе сухі пясок. Пераганяюць стада з боку лесу. Над стадам воблака густога пылу. У паветры свежасць. Павявае цёплы вецер. Вось-вось кінуцца на зямлю першыя кроплі дажджу. Кожная кропля — чорная плямінка на пяску. Потым уляжацца пыл, прытопчацца. Паветра сіняе.

Вось-вось першыя кроплі прасеюцца з хмар, як праз рэшата...

Вось-вось...

У млын да Крушынскага едзе некалькі фурманак, з

камуны «Чырвоны Кастрычнік»: Троська, Драчык і Калістра. За імі Пархамчук з хутара.

Калістра чалавек гадоў дваццаці сямі, невысокага росту. У яго маленькія чорныя вусікі, карыя вочы. Ён скручвае папяроску і падыходзіць да Пархамчука.

Калістра кпліва называе Пархамчука «пане гаспадару».

Пархамчук свайго былога парабка: «таварыш Калістра».

Яны колюць адзін аднаго вострымі вачыма і вострымі слоўцамі.

— Дай, пане гаспадару, прыкурыць.

Пархамчук вымае запалкі з кішэні.

— На, таварыш Калістра.

— Запалкі часам не атручаныя?

Збялеў Пархамчук ад злосці.

— Язык у цябе атручаны!

Калістра закурвае, зацягваецца папяроскай, дым праз ноздры пускае і глядзіць лагодна на Пархамчука. Потым вымае тытун з кішэні і дае Пархамчуку. Глядзіць на яго зверху ўніз і знізу ўверх, як бы першы раз яго ўгледзеў, і цешыцца з яго. Кажа роблена-ветлівым голасам:

— На, круці па старой знаёмасці, пане гаспадару.

Пархамчук робіць шырокай далонню такі рух, нібы хоча адпіхнуць Калістру з тытуном за тры мілі ад сябе, усміхаецца ў бараду і бярэ тытун.

— І па новай знаёмасці магу ў цябе закурыць, таварыш Калістра.

— Куры па новай знаёмасці! — згаджаецца Калістра.

— Жартачкі, шэсць дзесяцін зямлі адцяпнула ў мяне камуна па тваёй міласці. За гэтую зямлю магу курыць твае папяросы ўсё жыццё.

Голас Пархамчука падзямельны, глухі. Рыжая барада ходырам ходзіць.

— Ды мала яшчэ, пане гаспадару! — голас Калістры вельмі сардэчны.— Твае дзеці ў маіх дзяцей, твае ўнукі ў маіх унукаў павінны курыць і так да страшнага суда.

Калістра праз меру націскае на словы «пане гаспадару».

Пархамчук робіць моцны націск на зварот «таварыш Калістра».

— Не верыш, таварыш Калістра, у страшны суд? — гараць вочы Пархамчука воўчымі аганькамі.— Чаго доб-

рага, ён падыдзе раней, чым ты думаеш, таварыш Калістра, яшчэ да ўнукаў.

У голасе Пархамчука шчырая пагроза. Ён адной рукой зашпільвае жакетку дрыжачымі пальцамі і зараз жа адшпільвае. Прыкметна хвалюецца.

— Для цябе, пане гаспадару, страшны суд ужо наступіў. Вось і рукі твае дрыжаць ад страху.

— Брэшаш! — буркнуў яго былы гаспадар, скрыпнуўшы зубамі.— Брэшаш, гад!

Пархамчук кінуў ад злосці папяроску ў пясок з такім імпэтам, ажно рука забалела. Ледзь не вывіхнуў яе. Каб замест папяросы камень быў у яго руцэ, дык увайшоў бы ў пясок і схаваўся б там.

Калістра зарагатаў на ўвесь голас:

— Го-го-го!

Аж слёзы паказаліся ў яго вачах ад рогату. Ён нагінаўся, трымаўся абедзвюма рукамі за грудзі і не мог стрымаць свайго смеху.

— Чаго ржэш? — запытаўся з пярэдняга воза Антось Драчык.

— Не пужай варон! — дадаў з другога воза Трoська.

— З сваім гаспадаром, панам Пархамчуком, размаўляю. Го-го-го!

— Кінь! — крыкнуў Драчык.— Вось кампанію сабе знайшоў. Ці варта з ім наогул гаварыць. Люблю шчырасць, навошта гэта?

— Няхай гаворыць. Язык не адпадзе,— сказаў Трoська і міргнуў Пархамчуку адным вокам. Можа, Калістра сагітуе Макара Пархамчука, каб да нас у камуну перабраўся!

— Лепш мы цябе адправім на хутар да Пархамчука.

— Ніхто нікуды мяне не адправіць. Куды захачу, туды і пайду,— адгіркнуўся Трoська і злосна сцебануў каня.

Пярэднія дзве фурманкі ад'ехалі трохі далей, заднія дзве — Калістры і Пархамчука — засталіся.

Па небе гусцелі хмары. Здалёку ледзь прыкметна відаць былі хаткі. Яны дыміліся ў дажджовых хмарах. Хмары надыходзілі адны на адны, наступалі, клубіліся. Бліскавіцы не спыняліся. Увесь абшар чакаў.

Вось-вось сыпне дождж...

Вось-вось грымоты загуляюць над борам...

Вось-вось зусім пацямнее, апусціцца вільготны сівы змрок.

Побач соўваюцца наперад фурманкі Калістры і Пар-

хамчука. Нешта не дае людзям адыходзіць аднаму ад аднаго. Нітка ненавісці моцна звязала іх. Кароткі час яны моўчкі глядзяць адзін на аднаго. Пасля:

— Пане гаспадару!

— Што, таварыш Калістра?

— Дык, можа, сапраўды пяройдзеш да нас у камуну? Ты б зажыў у нас спакойна.

— Мне не кепска і ў сваёй хаце. Не мне, старому, да вас у камуну ісці. Жарты — жартамі.

— Я не жартую. Пойдзеш да нас, дык гліну мясіць будзеш на цагельні. Будзеш у нас працаваць па дваццаць гадзін у суткі, як даўней я ў цябе працаваў. Каб табе было весялей, выпішам для цябе з Польшчы пана Гардзялкоўскага.

Твар Пархамчука надзьмуўся пры гэтых словах. Пачырванеў Пархамчук увесь: і шыя і рукі наліліся малінавым сокам.

— Як табе, таварыш Калістра, не сорамна з мяне жартаваць?

Пархамчук пырскаў слінаю, якая плыла па яго рыжай барадзе. Раптам ён згорбіўся, зрабіў жаласлівы выгляд, вочы ў яго сталі вільготнымі, і ён загаварыў рахманым дрыжачым голасам:

— Я ж быў для цябе ўсё роўна што бацька родны. Каб не я, дык загінуў бы дзе-небудзь пад плотам. Ты прыйшоў да мяне голы, галодны. Вось як ты мне аддзякаваў за маё дабро! Забраў шэсць дзесяцін, і я чуў, што ўвесь мой хутар хочаш да камуны прышыць. Успомні, што ты ў мяне выгадаваўся, успомні!

Калістра адну хвіліну моўчкі на яго глядзеў. Пархамчук быў згорблены, але здавалася, што ў адзін міг ён выпрастаецца, падскочыць на месцы і кінецца. Хоць шырокія пальцы яго віселі бяссільныя і крохкія, як свежая морква, але ў любую хвіліну гатовы былі, здаецца, скруціцца ў цвёрды і моцны кулак. Памутнелыя вільготныя вочы вось-вось высахнуць, бялявыя іскры заблішчаць у іх ад напору злосці, і голас Пархамчука памацнее ў крыклівай пагрозе. Добра памятае Калістра ўсе жэсты і прывычкі свайго былога гаспадара, за пяць год прабывання парабкам добра яго пазнаў, ведае ігру кожнай зморшчынкі на яго твары.

Ідуць фурманкі Калістры і Пархамчука побач, папрыяцельску. За фурманкамі Калістра і Пархамчук.

— Я ў цябе, кажаш, за сына быў? — засмяяўся злым смехам Калістра.— Татка, няма чаго і казаць!

Ён пачаў як бы любавацца Пархамчуком, аглядаць яго з усіх бакоў:

— Татка, няма чаго гаварыць! Гэта ж горш за жывёлу я ў цябе быў. Ого, каб я тады быў у цябе дагледжаны, як твой конь, за якога я ў некалькі разоў больш працаваў. Добра помню аплявухі, якімі ты мяне часта частаваў, пракляты рыжы сабака! Ніколі я ў цябе не адпачываў. Нават у вашыя папоўскія святы. Спачатку скаціну пасвіў ад цямна да цямна з кавалкам хлеба на ўвесь дзень, а потым усе лугі твае касіў, узворваў тваю зямлю, падзённа ў лесе працаваў. А зароблены маім потам грошы хто забіраў? Ты! Бо я быў тваім парабкам, тваёй скацінай. Не, пане гаспадару, быў ты чортавым бацькам, а не маім!

Калістра ўвесь гарыць ад гневу. Вочы ў яго пацямнелі, сківіцы дрыжаць. На лбе над пераносіцай — цэлы жмуток зморшчын. Ніколі Пархамчук не бачыў яго такім. Не рад, што такую гутарку з ім завёў. Страшна стала. «Яшчэ зараз заедзе кулаком»,— падумаў Пархамчук і пачаў патрошкі адсоўвацца ад Калістры. У яго задрыжала рыжая барада.

— Усе парабкі тады так працавалі. Час такі быў,— сказаў Пархамчук няўпэўненым голасам. Узняў вочы на пахмурнае неба і дадаў спакойна: — Мабыць, хутка дождж сыпне.

— Што раптам пра пагоду загаварыў? — усхапіўся Калістра з яшчэ большай злосцю.— Ты, здаецца, прывучыў мяне ніякіх пагод не баяцца... Усе парабкі так тады працавалі, кажаш? Час такі быў? Правільна! Вось цяпер і новы час настаў для парабкаў! Мы, парабкі, разлічваемся цяпер са сваімі гаспадарамі, з такімі, як ты. У «Чырвоным Кастрычніку» і жывуць парабкі пана Гардзялкоўскага.

— Яны ж тут усё жыццё працавалі ў пана, а ты толькі прыткнуўся да маёй зямлі.

— Прыткнуўся? Ах ты, шэльма! Пяць год — гэта прыткнуўся? Я да цябе зараз так даткнуся, што косці сабачыя ў цябе рассыпяцца!

Калістра напружыўся ўвесь, нібы зараз шпурне ад сябе Пархамчука нагою, як пустую бочку.

— Кінь, Калістра, гарачыцца. Я сам, па-твойму, на печы валяўся? Я ж больш за цябе працаваў. Такія ж мазалі на маіх руках, як на тваіх. Вось што я скажу табе. Свайго брата мужыка душыш.

Калістра зарагатаў:

— Глядзі, якое сваяцтва! То ён мне бацька родны, то брат! Ну і пацешны ты, пане гаспадару! Калі на тое пайшло, дык у пана лягчэй было быць парабкам, чымся ў «роднага брата мужыка». Горшай п'яўкі за «роднага брата» на свеце не было. «Родны брат» ні на крок не адыходзіў ад свайго парабка, усе кішкі выматваў. Ніколі з вока не спускаў. Вечна ты вісеў, акаянец, над маім каркам, як узнятая сякера, і не было нават калі мне за сваёю патрэбай пайсці. Зненавідзеў я цябе, пане гаспадару, так, ну як чалавек зненавідзеў змяю, ну як кожны парабак ненавідзіць свайго гаспадара.

Кожны мускул на твары Калістры дрыжаў ад злосці. Твар яго быў бледны. Словы ён працэджваў праз зубы раздзельна, гук у гук, і як бы не словы гучалі з яго тонкіх губ, а кавалкі крыві. Губы крывіліся, нібы ад вялікага нутранога болю.

Пархамчук маўчаў. Увесь ён спацеў. Вочы яго ўглыбіліся. Рукі прыціснуў да бакоў, як прышчэмлены да сцяны. Здаецца, зараз высуне язык, нібы пятля душыць яму шыю.

— Мала таго што трэба зямлю забраць у такіх, як ты, а скуру жывую злупіць трэба, сволач ты! — сказаў Калістра пасля кароткага маўчання.— І злупім! Ніводнай п'яўкі не павінна застацца на савецкай зямлі!

Пархамчук так спалохаўся яго голасу, што адскочыў ад яго ўбок. Здалёку сказаў:

— Ведаеш, мы з табою не кампанія, таварыш Калістра!

— Правільна! Табе кампанія — Язэп Крушынскі!

— А табе — Антось Драчык!

— Згодзен!

— І я згодзен!

Калістра ўскочыў на воз і давай даганяць сваіх.

Гудзе млын у Курганішчы.

Вакол млына прыбудовачкі: паветка для коней, цёплая будыніна для завознікаў.

Сам Крушынскі вечна ў млыне. Парабак Рыгор у яго цяпер мельнікам. Бухгалтарам — Стэфка. Яна важыць мліва, выдае квіткі, запісвае. Уся жывая сіла Курганішча ў хаду.

Знутры і звонку млын аброс мучным пылам. Драўляныя сцены аселі, па-гаспадарску на месцы ўзмацніліся.

Кіпіць жыццё ў млыне і каля яго. Млын сцягвае да сябе людзей з усёй ваколіцы. Нават з мястэчка Шапалевічы завозңікі сюды прыязджаюць.

— Дарогі і пуцявінкі сюды цягнуцца з усіх бакоў, як у стары Рым,— не раз жартаваў айцец Дзімітры.

— Усё па закону раблю! — сур'ёзным тонам тлумачыў Крушынскі.— Усё па закону. Тры тысячы рублёў падатқаў плачу дзяржаве. Я ж толькі для рэспублікі і працую. Добра цяпер хоць тое, што не трэба дрыжэць і кожнага баяцца. Усё па закону!

У млыне Крушынскі ніводнай хвіліны на месцы не можа ўстаяць. Яго рвуць на кавалкі — то туды, то сюды. Не мае часу нават ліст пачытаць, які вось зранку ляжыць у яго ў кішэні. А цікава пачытаць, хто гэта піша да Стэфкі і што там напісана.

Ужо некалькі разоў пачынаў чытаць:

«Дарагая, мілая Стэфачка.

Можаш мяне віншаваць...»

Далей гэтых двух радкоў Язэп Крушынскі ніяк не дабраўся. З усіх бакоў яго рвуць на кавалкі.

— Таварыш Крушынскі!

— Дзядзька Язэп!

— Суседзе!

Товажыць трэба, то нехта скардзіцца, што чарга яго даўно мінула, а яго мяшкі стаяць на месцы.

Не глядзіць Крушынскі на людзей, а можа, глядзіць і нікога не бачыць. Імчыцца ён з першага паверха на другі, зноў уніз і так бясконца.

Гручыць у яго вушах стукат млына і людскі гул галасоў.

«Дарагая, мілая Стэфачка, можаш мяне віншаваць...» — урэзалася ў яго памяці.

Зноў бярэцца за ліст.

«З чым жа яе можна віншаваць? І хто гэта піша да маёй жонкі? Ніколі ніхто не пісаў».

Нервуецца Крушынскі.

«Жонка на шмат гадоў маладзейшая за мяне».

— Суседзе, я да цябе...— цягне яго нехта за рукаво.

Падняў ад ліста вочы.

Насупраць яго рыжая барада хутараніна Пархамчука.

— Па чарзе, суседзе, нічым не магу дапамагчы,— кажа Крушынскі.

— Я не спяшаюся. Я па іншай справе.

Крушынскі зірнуў на яго зацікаўленымі вачыма.

— Я зараз.

— Дзядзька Язэп! — кліча Крушынскага Рыгор.

Крушынскі пабег.

Ужо тры разы, як Пархамчук чуе ад яго гэтае «зараз». У Пархамчука роспач на твары. Ён цярпліва чакае.

А вось зноў паказаўся Крушынскі.

— Суседзе, на пяць хвілін...— літасці просіць Пархамчук.

— Добра, хадзем, Макар!

— Вялікі сакрэт...

Крушынскі ўстрапянуўся. Ён любіць сакрэты.

— Калі так, дык ідзі ка мне ў хату, а я зараз прыйду. Не выпадае тут.

Праз некалькі хвілін яны разам сядзелі ў пакоі Крушынскага. Не вярнуўся Крушынскі ў млын праз пяць хвілін.

На стале была гарэлка. І Пархамчук з Крушынскім ціханька шапталіся доўгі час. Вушы да губ падстаўлялі адзін аднаму, пільна лавілі кожнае сяброўскае слова, каб не рассейвалася.

Часта Крушынскі паглядаў у акно, ці няма блізка чужога вока і лішняга вуха, і ўсё паўтараў Пархамчуку:

— Толькі цішэй...

Потым пайшоў у другі пакой і прынёс адтуль малепечкую аптэчную пудэлачку. Даў Пархамчуку.

Пархамчук схаваў у кішэню.

Як Пархамчук выйшаў з хаты, Крушынскі зноў узяўся за ліст:

«Дарагая, мілая Стэфачка.

Можаш мяне павіншаваць. Знайшоўся мой муж і твой дзядзька, Антон Сяргеевіч Мятлоў».

«І мае пяцьсот рублёў знайшліся! — узрадаваўся Крушынскі.— Хоць дзядзька ён мне цяпер па жонцы, але гэтыя пяцьсот рублёў, якія пазычыў у мяне на дарогу некалькі год таму назад, ён павінен вярнуць. Ого, такія грошы! Не жартачкі. Анекдотамі гэта майму новаспечанаму дзядзьку не абыдзецца.

— Дзядзька Язэп! На млын клічуць! — сказаў нехта пад акном.

— Ах, чэрці! Пачытаць не даюць.

Зноў скамячыў ліст, сунуў у кішэню і пабег у млын.

## 8

## ГРУГАН ГРУГАНУ ВОЧЫ НЕ КЛЮЕ

Праз некалькі дзён Пархамчук зноў сустрэў Троську. Ідзе ён пасярод дарогі і тоненькім, нібы валасок, галаском песню спявае:

Выпіў чарку, выпіў дзве,
Зашумела ў галаве.

Нагамі перабірае, нібы зараз у скокі пусціцца.

Ён наступае на Пархамчука, выстаўляе рукі перад сабою і кажа п'яным голасам:

— Ты, кулак! Дай мне дарогу! Такі ты ды сякі!

— Як гэта дарогу ўступіць? Дарога шырокая. Ідзі куды хочаш!

Адыходзіць Пархамчук направа — і Троська направа да яго нос у нос. Адыходзіць ён налева — і Троська супраць яго лоб у лоб.

— Дык чаго табе ад мяне трэба?— пытаецца Пархамчук.

— Знішчыць цябе хачу!

Пархамчук схапіў яго загрудкі і патрос так моцна, ажна Троська вочы вылупіў.

— Братка, пусці,—залямантаваў ён.— Горка мне.

— Прыйдзі ка мне на хутар, мёдам накармлю.

У той жа дзень, увечары, Троська да яго прыйшоў. Адразу папярэдзіў:

— Толькі ты нікому ані-ні, што я ў цябе быў.

— Нікому не скажу.

Пагладзіў Пархамчук бараду з паважнасцю гаспадарскай і сказаў салодкім голасам:

— Садзіся, Троська!

Пасадзіў госця. Сам побач сеў.

«Хоць госць неспадзяваны, але пажаданы»,— падумаў Пархамчук. Уголас сказаў з сяброўскай усмешачкай:

— Ты, можа, прыйшоў, каб вынюхаць, што ў мяне робіцца, і даклад камусе зрабіць?

— Што ты! Што ты! — аж спалохаўся Троська.

Пархамчук пахлопаў яго па спіне, і лагода чулася ў яго голасе:

— Ведаю. Ты не з такіх!

— Вядома, не з такіх! Інакш я да цябе не пайшоў бы і не палез бы да цябе п'яны ўдзень, як іншоў з Шапалевіч. Як ты думаеш?

— Пэўна, так.
— Маю да цябе сампатыю.
— З якіх часоў?
— Як толькі пазнаў цябе.
— За што?
— Вольна жывеш.
— Якое там вольна жыву. Душаць з усіх бакоў.
— Але як вып'еш, дык ніхто табе слова не скажа. Як засвяткуеш дзянёк, ніхто не скрытыкуе. Як хочаш, так і жывеш.

Пархамчук глядзеў на Троську вока ў вока і лавіў кожнае яго слова. Паглядзеў яму ў рот, нібы адтуль залатыя вераб'і вылятаюць.

— І так, і не зусім так,— працадзіў Пархамчук праз бараду.

Рад Пархамчук, што адзін з камунараў нездаволены, што прыйшоў да яго, хутараніна, паскардзіцца. Паглядзеў у акно. Вячэрні змрок насоўваецца на ваколіцу, як чорны мядзведзь. На маленькім бярэзнічку паблеклі апошнія залатыя плямы сонца. Неба пацямнела.

— Каб ніхто, Троська, не даведаўся, што ты да мяне прыйшоў.
— Ніхто не даведаецца. Маю волю хадзіць куды хачу. Маю да цябе сампатыю. Вось і прыйшоў.

На стале з'явіўся самагон, сала, масла, хлеб, сыр.

Пасля выпіўкі ў Троські язык развязаўся.

— Уцяку з камуны, чэснае слова, уцяку!
— І добра і разумна зробіш. Усе ўцякуць, бо ўсё роўна пан Гардзялкоўскі вернецца ў свой маёнтак. Ён падзякуе, што гаспадарку падправілі. Ой, падзякуе!

Пархамчук пры гэтым пальцам у паветры махае. Вочы яго строгія.

— Уцяку,— паўтарае Троська.— Я тут з людзьмі ладзіць не магу.
— Ты ж тут не першы год працуеш?
— Раней было спакайней. А як з'явіўся Антось Драчык, дык жыць не магу. Не мае ён да мяне сампатыі.
— Гэты скандаліст з Гайдачан?
— Ён! Гультаём мяне абазваў, апаганіў. Выпіць не можна. Не камуна, а манастыр. Так апаганіў, што жонка ад мяне адраклася. Асобна жыве. Усе яе хваляць за гэта. Ледзь стрымаўся, каб яе не пабіць.
— Добры час падышоў, каб муж жонку пабіць не мог,— пад'юджвае яго Пархамчук.

— Драчык мяне называе палыном у камунарскім агародзе. Я пакажу яму! Будзе ён мяне памятаць. Газету прыдумалі. «Камунар» завецца. У кожным нумары аба мне пішуць. Ненавісны чалавек гэты самы Драчык. Усё аба мне ўгледзіць, усё выкапае. Заб'ю яго! Дальбог, заб'ю!

— А ты яго капай! — усміхаецца Пархамчук.— Выпі, брат, яшчэ!

Троська п'е.

Пацямнела ў хаце.

— Дзе пад Драчыка падкапаешся? Калі што б ён ні зрабіў, дык усё добра, кажуць камунары. Хаця не ўсе, але любяць гэтага шальмяца. Заб'ю яго!

Вочы ў Троські заплылі п'яным бляскам. Спацелыя валасы прыліплі да лба.

— Якая карысць з таго, што заб'еш яго? — кажа шэптам Пархамчук.— Яны там усе лыкі аднаго лапця. Раз жонку яны ў цябе аднялі, апаганілі цябе, жыць не даюць, дык з усімі расплаціся.

— І то праўда! — згаджаецца Троська.

— Цішэй гавары,— просіць Пархамчук.— Дык вось пакінь памятку ўсёй камуне. Перад выхадам шмат што зрабіць можна. На дарогу дам грошы.

— Пакіну памятку! Век помніць будуць!

— Ты цішэй...

— А ліха іх бяры!

— А як там мой Калістра ў камуне?

— Чаму гэта твой?

— Даўней у мяне парабкам быў. Выгадаваў яго.

— Асэсарам! Ого, Калістра! Улегцы яго не возьмеш. Ён падае праект, каб увесь твой хутар забраць. Кажа, клінам у камуну ўрэзаўся.

— Ведаю...

Пархамчук увесь задрыжаў, як успомніў Калістру, і ўрэпіўся моцнай рукою ў худое плячо Троські.

— Вось як...

— А так... Я да цябе сампатыю маю і кажу...

Пасля выпіўкі доўга ў сенцах шапталіся.

— Каб ніхто не ведаў, што ты ў мяне быў. Чуеш?

— Ясна... Іду з мястэчка, з Шапалевіч.

На развітанне пацалаваліся.

— Дык мы ж свае людзі...— кінуў Пархамчук сардэчныя словы.

— А ты думаў — чужыя?

Пайшоў Троська ў ноч на п'яных нагах. У ручаі ква-

каюць жабы. З неба глядзіць поўны месяц, дваіцца і траіцца ў вачах Троські.

Сочыць Пархамчук з двара, куды пайшоў Троська.

Ступае Троська па мяккім пяску, крокаў яго не чуваць.

— Кува-а-ах! Кува-а-ах,— квакаюць жабы.

Толькі позна ўвечары вызваліўся Крушынскі ад працы ў млыне. Гэта было ў той дзень, калі Пархамчук у яго быў. Удзень тады ліў дождж. Пад вечар зноў распагодзілася. На дварэ было вельмі цёпла. Крушынскі сядзеў пры адчыненым акне і піў гарбату. Над лямпай кружыліся матылькі. Стэфка, цяперашняя жонка Крушынскага, сядзела побач. За апошнія тры гады яна пакруглела і як бы пастарэла на дзесяць год. Вочы, раней бліскучыя, іскрыстыя, паблеклі, страцілі свой ранейшы колер. Ва ўсім яе целе не было ўжо болей дзявочай рухавасці. Яна была лянівая, вечна заспаная, часта пазяхала. Нават голас яе змяніўся. Не было ў ім ранейшых зычных пераліваў. Рукі яе заплылі тлустасцю.

— У мельніка заўсёды тлусцеюць свінні, каровы і жонка,— часта жартаваў Крушынскі.

Стэфа спачатку, пакуль не прывыкла да гэтага жарту, злавалася, называла мужа «хамам», «дзярэўняй», а пасля перастала ўвагу зварочваць: ленавалася. Усім сваім выглядам яна гаварыла адно:

«Я сытая. Хачу спаць».

П'е Крушынскі гарбату і часта кажа да жонкі:

— Ідзі спаць, Стэфка.

— Дай ліст раней пачытаем. Цікава, што піша цёця.

Крушынскі дастаў з кішэні скамечаны ліст. Ён чытаў уголас, а Стэфка слухала:

«Дарагая, мілая Стэфачка!

Можаш мяне павіншаваць. Знайшоўся мой муж і твой дзядзька Антон Сяргеевіч Мятлоў. Я нядаўна атрымала ад яго ліст. Ён мне піша, што быў на Каўказе некалькі год аграномам. Потым за штосьці яго судзілі і выслалі на дзесяць год. Ён просіць у мяне, каб паслала яму трохі грошай. Просіць прабачэння, што са мною так абыходзіўся, піша, што калі пабачымся з ім некалі, дык мне аб усім падрабязна раскажа. Інакш, піша ён, тады рабіць не мог. Не ведаю, як іншыя на маім месцы зрабілі б, але я паслала яму з апошніх трыццаць рублёў. Я цяпер на службе ў

адной установе, машыністкай. Налаўчылася, як трэба было самой карміць і гадаваць дзяцей. Гора навучыла. Хаця злосць бярэ на яго. За ўсе гады ні капейкі не прыслаў для дзяцей. Што з ім такое было, які злаўчынак, я ўцяміць не магу. Ён жа рэвалюцыянер з 1905 года. Дзеці падраслі за гэты час. Можа б, ты прыехала да мяне ў госці? Прывітанне твайму мужу. Вось і давялося тады мне пазнаёміцца з Крушынскім, а як прыехала пасля атрымання твайго ліста ў Курганішча, як атрымала ад свайго ліст, дык аж тры дні плакала. Думаеш, я шкадавала яго? Не, не шкадавала. Толькі нейк шкада было дзяцей, якія сіротамі гадуюцца, без бацькі. Ён іх так любіў. І вось за тое, што ён іх любіў, я з апошніх паслала яму грошы. Мабыць, сапраўды нешта страшнае было ў яго, якое прымушала яго адрачыся сям'і і схавацца, жыць пад чужым прозвішчам. Я ж чула, што ён жыў адзін, кабет не меў. Суд над ім, пісаў ён мне, адбыўся ў Тыфлісе. Думала напісаць тады да пракурора, каб даведацца, за што яго судзілі. Збіралася колькі разоў напісаць, але ўсё адкладваю. Баюся, каб самой сабе гэтым не нашкодзіць. Разумееш, Стэфачка, я ж жонка такога злачынца. Можа, лепш не дапытвацца? Тут усе думаюць, што твой дзядзька даўно памёр. З таго часу, як атрымала тэлеграму аб яго смерці, лічуся ўдавою. Дзеці выраслі за гэты час. Яны не ведаюць, што тата іх жыве. Я тады нікому твайго ліста не паказвала. І аб лісце мужа з ссылкі ніхто не ведае. Вось і нашуся цяпер з гэтым, па праўдзе кажучы, цікавым сакрэтам як з пісанай торбай. Часам так хочацца каму-небудзь расказаць аб сваім сямейным становішчы. Я — удава і не ўдава. Дзеці — сіроты і не сіроты. Як паслала яму трыццаць рублёў, дык гэтыя грошы зараз жа адчуваліся на дабрабыце сям'і, пачала ашчадна жыць, дзеці пачалі горш карміцца, пахмурнелі, глядзяць на мяне падазрона і маўчаць. Я ведаю, яны хочуць папытацца: «Чаму яечні не зрабіла на снеданне, чаму няма малака?» Баліць у мяне сэрца, як гляну на іх. Колькі разоў прызнацца ім хацела: татку грошы паслала апошнія... Ён жыве. Вы — не сіроты. Я — не ўдава. Ледзь стрымалася. Усё роўна такое нашае становішча іх не радавала б, як і мяне не радуе. Я цяпер часта ўначы плачу. Проста стрымлівацца не магу. Слёзы самі з вачэй цякуць. Што такое мой муж зрабіў? — думаю я. Успамінаю брата, які ў царскай турме загінуў. Нейк апошнія часы ён у мяне з памяці не выходзіць. Вось як бы глядзіць на мяне і пытацца хоча: чаму гэта твайго Анціка (мужа майго) тады вызвалілі, а мяне

загубілі? Я памізарнела вельмі. На службе ў мяне пытаюцца: «Што з вамі? Вы памізарнелі». Я кажу, што хворая... Моцна трымаю за зубамі свой сакрэт. Словы, здаецца, самі лезуць на язык. Вось зараз, думаю, не вытрымаю, а ўсё пра мужа раскажу, дык не. Маўчу. Гэты сакрэт сядзіць у мяне ў грудзях і коліць, як вострая шпілька. Часам пачынаю ўспамінаць ранейшыя гады. І вось выплываюць у памяці розныя карціны жыцця з мужам. Часта вечарамі ён дома не бываў. Аднаго разу я зацікавілася, дзе гэта ён прападае, і пайшла за ім ціхенька. Была тады восеньская вільготная ноч. Муж наперадзе, а я за ім тулілася да сцен дамоў. Насустрач мужу ішоў мужчына ў капялюшы, у чорным паліто. Яны павіталіся і пайшлі разам. Дзе я гэтага чалавека бачыла? — падумала я,— вельмі знаёмыя рыжыя вусы, усе рысы яго голенага твару. Раптам успомніла — і дрыжыкі па ўсім целе ад страху пачаліся. Я так дрыжала, ажна зуб на зуб не пападаў. Гэта быў той самы жандарскі палкоўнік, які раней арыштаваў майго брата. Якія ў яго справы з маім мужам? Я зараз жа вярнулася дамоў. Няўжо ж мой Анцік такі?! Няўжо ён шпікам зрабіўся?.. Позна муж тады дахаты вярнуўся. Калі я ў яго запыталася, якая была ў яго справа з гэтым катам, муж пабялеў, як папера. Потым папрасіў нікому аб гэтым не гаварыць, запэўніў мяне, што знаходзіцца яшчэ пад наглёдам і што час ад часу прыходзіцца такім чынам сустракацца з жандарам, каб не хадзіць у іхнюю ўстанову. Я тады яму не зусім паверыла. Нейкая цёмная справа,— падумала я. Пасля гэтага мы хутка выехалі з таго горада, і я перастала аб гэтым думаць. Цяпер зноў успомніла. Хопіць на гэты раз пісаць. Прывітанне ад дзяцей. Нікому, Стэфачка, аб гэтым не гавары! Усяго найлепшага! Прыедзь ка мне ў госці з сынком. Буду вельмі рада. Цалую. *А. Мятлова*».

Крушынскі кончыў чытаць. Зрабіў мнагазначны выгляд на твары і мнагазначным тонам сказаў:

— Та-а-ак. Жыццё здорава, відаць, дзядзьку папага круціла.

З твару Стэфкі зышла на некалькі хвілін дрымотнасць. Яна захвалявалася. Памаладзела. У вачах з'явіўся ранейшы бляск.

— Ведаеш, мой хлопчык,— звярнулася яна да мужа,— трэба цёці наслаць трохі грошай...

Яна зазірала яму глыбока ў вочы, прытулілася да яго, як яна рабіла калісьці ў першыя месяцы пасля вяселля.

— Ты не будзеш скупым на гэты раз, праўда?

— Добра,— працадзіў Крушынскі праз зубы,— пашлём. Ведаеш, у мяне засталася да яго нейкая сампатыя, да гэтага агранома. Сампатыя, кажу, засталася. Мы з ім сябравалі.

— Ён быў трохі падобны да цябе сваімі паводзінамі,— заўважыла Стэфка і зноў пазяхаць пачала.

— Глупства гаворыш. Якімі паводзінамі?

Крушынскі пакрыўдзіўся.

Частым госцем Трoська ў Пархамчука. Як толькі можна вырвацца — ён на хутары.

— Глядзі толькі, ніхто не нюхае тваіх слядоў?

— Ніхто.

— Умееш трымаць язык за зубамі?

— Э-гэ-гэ-э... Я табе не абы-хто! — Нагнуўся. Вочы яго зайгралі заліхвацкімі агеньчыкамі.— У Балаховіча арудаваў, а па сягонняшні дзень ніхто аб гэтым не ведае,— хваліцца Троська.

Пархамчук ляпае яго шырокай лапай па спіне. Ківае галавою з такой мінай, нібы нешта дарагое раптам згубіў.

— Вось і ўмееш трымаць язык за зубамі! Эх ты! Яшчэ хваліцца!

— А што?

— Навошта мне пра Балаховіча кажаш? Ведаеш, з такімі сакрэтамі не перакідваюцца, як дзеці каменьчыкамі. Эх ты!

— Мы з табою свае...— апраўдваецца Троська.

— Мала што... А вось вазьму ды раскажу куды трэба... Ты цяпер у маіх руках, як рыба, выцягнутая з вады.

— Чорт нас звязаў. Не баюся цябе, рыжага. Сампатыя ў мяне да цябе.

Аднак Троська пашкадаваў зараз жа, што нейк ненарокам выслізнула з яго губ, нібы сліва, неасцярожнае слова. Гэтулькі гадоў нікому не гаварыў, а вось выскачыла. «Рыжы чорт»,— падумаў ён. Нават жонка, якая адреклася ад яго цяпер, аб гэтым не ведае. Міжволі мільгнулі перад яго вачыма пажарышчы, крыкі ахвяр, мітусня на вуліцах яўрэйскага мястэчка. Страх прабраў Троську. Але ён віду не паказваў перад Пархамчуком, што баіцца.

— Калі ўжо справа будзе зроблена? — звярнуўся да яго Пархамчук.

— Калі рак свісне.

— Ты, Троська, не таго. Я сур'ёзна гавару.

Троська злуецца. Ён цяпер у лапах гэтага «рыжага чорта». «Навошта сказаў яму?» Ён зірнуў у акно. Была цёмная, дажджлівая ноч. Ад святла невялічкай лямпы акно свяціла як люстэрка. Ён на шыбінах угледзеў, нібы ў тумане, свой уласны твар і рыжую бараду Пархамчука. З яго памяці пры гэтым затушаваліся ўспаміны часоў Балаховіча. Троська адвярнуўся ад акна. Смяецца. Блішчаць яго белыя вострыя зубы.

— Дасі соценьку, зраблю! — сказаў ён рашуча.— Ведаеш, мне прыйдзецца даць лататы далёка-далёка.— Ён рукою зрабіў дугу ў паветры.— У Польшчу махну.

— Дам, каб цябе ліха ўзяло!

— Толькі доларамі...

Пархамчук незадаволена махнуў рукой і пакруціў галавою.

— Гэта ўжо новая стацця...— Ён задуменна пачаў гладзіць бараду.

— Як сабе хочаш. Я застануся пры стацці, а ты пры доларах.

Устрапянуўся рыжы Пархамчук. Вочы яго пацямнелі. Ён хрыплым голасам прагаварыў:

— Навошта цягнеш у мяне жылы? Калі захачу, дык застанешся пры такой стацці, ад якой усе тыя, хто з Балаховічам арудавалі, даставалі пашпарт на той свет...

Троська падскочыў на месцы, нібы наступіў на вострае шкло босымі нагамі.

— Ведаеш, д'ябал рыжы, з гэтым жартаваць не дазволю! У адзін момант адкручу табе рогі разам з галавою.

Пархамчук адсунуўся. Паводле твару Троські, які ў адну хвіліну зрабіўся страшным, ён пабачыў, што лепш з ім не жартаваць, і ён прымірэнча сказаў:

— Супакойся. Груган груганy вочы не клюе.

Яны сышліся.

Пархамчук згадзіўся даць Троську пяцьдзесят долараў. Выйшаў у сенцы. Недзе доўга капаўся, пакуль дастаў грошы. У дадатак прынёс яму маленькую аптэчную бутэлечку. Пры гэтым Троська ледзь пачуў яго шэпт, які, здавалася, плыў з рыжай барады. Нібы не Пархамчук гаварыў, а нехта іншы:

— Гэта такая штучка, што як адну макавінку з пудэлачкі на язык паложыш і — капут... Харошая штучка! Гэтым можна цэлае стада атруціць. Ідзі! Шчасліва! Глядзі,

каб сам не...— Пархамчук строга пальцам кіўнуў.— Асцерагайся...

Цёмная дажджлівая ноч. Неба — чорны атрамант. На двары хутараніна шушукаюцца рабіны. Стаіць гаспадар на ганку і прыслухоўваецца...

— Ведаем... ведаем...— шапочуць рабіны.

— Ведаем... ведаем...— кажуць дажджавыя кроплі і падаюць з даху тонкімі ніткамі.

— Ведаем... ведаем...— падміргвае начная цемень.

Троська пайшоў

Пархамчук быў і рад і не рад:

— А можа, яшчэ варта пачакаць з «гэтым»?

Хлюпае дождж, барабаніць па даху, хвіліны лічыць: раз-два-тры... раз-два-тры...— цёмныя хвіліны ночы. Страх напаў на Пархамчука. Праз акно свеціць невялікая лямпа, кідае ў цемру ночы яркія плямы. Серабром адліваюць бурбалкі ў лужынах.

— І навошта лямпа гарыць?

Узяўся за клямку, каб у хату ісці і патушыць лямпу, ажно чуе — нехта месіць гразь каля брамы. Квохчуць у гразі з нейкім прыкрым прыцмокам чалавечыя крокі.

Пархамчук спыніўся. Хацеў анямець, акамянець, каб нават сэрца не тухкала, але само сабою вырвалася:

— Хто ідзе?

І свайго ўласнага голасу не пазнаў.

— Цішэй. Гэта я...

Па светлай паласе ад лямпы ішоў да яго назад Троська. Ён усміхаецца. Блішчаць яго вострыя зубы.

— Чаго вярнуўся?

— Ціха...— У шэптах Тroські страх.— Там людзі... Са стрэльбамі... Драчык і Калістра...

Пархамчук затросся.

— Сюды ідуць?

— Можа, не сюды... Ведаеш, маю да цябе сампатыю. Ты не думай, што я вораг Савецкай улады і камуны. Я хацеў выпрабаваць, што ты за птушка. Вось Калістра і Драчык будуць сведкамі, які фокус ты хацеў праз мяне выкінуць у камуне. Я ім тваю пудэлачку паказаў. Яны заўтра на курыцы папрабуюць.

Пархамчук ледзь схапіўся за сцяну, каб не ўпасці. Ён адчуў, што ўжо ён не Макар Пархамчук, а куча разлезлага мяса.

— Эх ты...— прастагнаў ён.— Жулік...

— Ты, Макар, не лайся. Думаеш, я не ўмею? Мой язык

таксама габляваны. Толькі сампатыю да цябе маю. Вось і папаўся ты, саколік рыжанькі! Ты, мабыць, думаў, што я здраджу камуне? Не, брат, не купіш мяне за долары!

Пархамчук увесь пакрыўся халодным потам. Да спіны прыліпла кашуля. Дрыжаць рукі і ногі. Хоча ён нешта сказаць, а язык не варочаецца.

Глядзіць Троська на яго і любуецца.

— Вось і папалася птушачка! — кажа ён са спачуваннем.— Можа, вады табе падаць? Што? Млосна стала?

— Ба-ла-хо-вец... Бандыт...— вырваліся ў Пархамчука хрыплыя словы. Не словы, а шматочкі слоў. Нібы іх нехта абцугамі з яго горла вырываў.

Засмяяўся Троська скрыпучым злым смехам.

— Гэта я табе наўмысне сказаў, што я балаховец, а ты, дурань, паверыў. Зараз крыкну да Калістры і Драчыка...

— Маўчы, братка...— застагнаў Пархамчук.— Што хочаш са мною рабі, толькі нікому не кажы...

— Вось гэта мне падабаецца. Тон у цябе вельмі шчыры... Проста і па-чалавечаму ты загаварыў. Ты — скрыпачка, а я — смычок... Ведаеш, груган груганy вочы не клюе, сказаў ты мне нядаўна. Гэта святая праўда. Маю да цябе сампатыю, дасі яшчэ пяцьдзесят долараў, тады ўсё добра будзе...

## 9

## ГРЫБНЫ ВАЛЬС

Мінулі тры ўраджаі, як Драчыкава сям'я жыве ў камуне «Чырвоны Кастрычнік».

Тры разы на новым месцы адбывалася сяўба, касьба, жніво, малацьба і розныя зімовыя працы ў камуне. Дзеці выраслі тут за тры гады. Цененькім і высокім зрабіўся Юзік, старэйшы сын Драчыка. Яму цяпер пятнаццаць год. Маленькая пяцігадовая Юлька нават не памятае ранейшай хаты ў Гайдачанах. Дый старэйшыя дзеці бадай што забыліся аб ранейшым жыцці.

Сама Драчыха часта ўспамінае.

Калі гаспадарчыя прылады і хатнія рэчы везлі з Гайдачан на камунарскіх фурманках, Драчыха слязу пусціла.

Яе пасадзілі на воз разам з дзецьмі.

— Бывай здаровая, Драчыха! Шчасліва жыць у камуне! — крычалі ёй суседкі каля кожных варот.

Жаласлівыя бабы таксама вочы выціралі.

Па небе плылі лёгкія хмаркі. Быў свежы і зімні вецер. Але весела спявалі птушкі. Абапал дарогі зелянела рунь. Па самай дарозе месцамі прабівалася трава.

Драчык бегаў туды ад фурманкі да фурманкі, папраўляў рэчы на вазах і быў заклапочаны і маўклівы.

— Глядзі, Антось,— звярнуўся да яго адзін з камунараў, твая жонка плача.

— Шкода ёй старой хаты, дзе яна гэтулькі год пражыла.

— Радавацца трэба, а не шкадаваць.

Драчык усміхнуўся.

— Ведаеш,— сказаў ён,— мне калісьці апавядаў адзін арыштант, які тры гады адсядзеў у турме, што як выйшаў на волю, дык яму спачатку шкада было турэмнай каморы.

— Гэта можа быць.

Больш за ўсіх радаваліся дзеці. Твары ў іх паружавелі ад свежага ветру. Зычным смехам звінелі яны праз усю дарогу. Ехаць прыйшлося якраз супраць ветру, які сцёбаў у дзіцячыя твары, вырываў з-пад шапак і хустак пасмы льняных валасоў, выціскаў з дзіцячых вачэй бліскучыя краплінкі. Дзеці смяяліся, выцiралі вочы, нібы пры разрэзанай цыбулі альбо пры горкім дыме.

Драчыха крычала на іх:

— Не сядзеце тварам супраць ветру!

Дзеці не слухаліся.

Камунары прывезлі ім пшанічнага хлеба. Дзеці елі па дарозе з такой прагнасцю і смакам, нібы перад гэтым галадалі некалькі дзён. Рэдка, можа, раз на год, прыходзілася ім прабаваць пшанічнага хлеба... Яны гаварылі адно-аднаму з дзівам і радасцю:

— Ага! Белы хлеб...

— І ў мяне!

— І ў мяне!

Блішчалі вочы і зубы ў дзяцей. Кавалкі белага хлеба яны трымалі абедзвюма рукамі. Канчалі есці і прасілі:

— Яшчэ!

— І мне...

— І мне...

Святам, сонечнай радасцю была для дзяцей гэта дарога.

Драчыха расчулілася і праз слёзы ўсміхалася:

— Ціха вы... Як галодныя шчаняты ўсё роўна. Дзядзькі падумаюць, што я вам ніколі есці не давала!

Кусцікі і маладыя бярозкі, якія дзе-нідзе стаялі аба-

пал дарогі, гнуліся ад ветру ў бок Драчыхі, кланяліся ёй насустрач, як ветлыя падарожнікі, адыходзілі пасля, і новыя паказваліся.

Аж тры разы давалі ў дарозе дзецям белага хлеба.

— Вы ж не з галоднай губерні едзеце,— сарамліва гаварыла Драчыха.

А тое, што ў хаце ў Гайдачанах дзеці ледзь не кожныя паўгадзіны падыходзілі да яе з крыкам: «мама есці», ёй на возе чамусьці здавалася даўняй мінуўшчынай. Яны тармасілі яе за спадніцу, мітусіліся вечна каля яе з крыкам: «Мама, давай есці!» — «Ненасытныя вы! — крычала Драчыха на іх.— Саранча галодная. Не набяруся на вас!» Часам моцна на іх злавалася, праклінала іх, сябе і ўсё жыццё. А яны вечна сварыліся між сабою і зноў да яе падыходзілі са скаргамі:

— Мамка, Юзік мяне ўшчыпнуў!

— Мамка, Хомка мне нагу падставіў, і я паваліласяі!

Драчыха мірыла дзяцей рознымі спосабамі: ірване аднаго за вуха, другога за валасы, на трэцяга крыкне, чацвёртага ўшчыпне... Плач і лямант напаўняў хату. А Драчыха ўваходзіла ў злосць. Вочы яе рабіліся дзікімі ад роспачы і болю, шкадавала і дзяцей і сябе, крычала на ўсю хату:

— Старэю ад вас без пары...

Такое камандаванне маленькай шасцігаловай арміяй было яе пастаянным абавязкам пры рознай рабоце ў хаце, на дварэ ці на полі, бо і на поле брала дзяцей з сабою: небяспечна было пакідаць іх у хаце, каб не пакалечылі адны адных або, каб чаго добрага, па неасцярожнасці хаты не падпалілі...

Ад такіх вечных клопатаў Драчыха састарэлася раней часу. Твар яе абсыпаўся змаршчынамі. Нібы драцяным грэбнем падрапалі. Ад вечнага напружання ў працы і гадаванні дзяцей яе сінія вочы заўсёды ліхаманкава блішчалі.

Цяпер старэйшыя дзеці вучацца ў школе. Меншыя жывуць асобна з усімі камунарскімі дзецьмі, таксама пад наглядам настаўніц.

Прайшлі тры гады.

Сягоння Драчыха працавала на сенакосе разам з вялікаю грамадою. Было весела. Людзі перакідваліся жартамі.

Удзень вельмі сонца пякло. Ні маленькага ветрыка не было. Неба без адной хмарынкі, празрыстае, як сіняе шкло,

сіняватае з ледзь прыкметным ружовым адлівам. Паветра было гарачае. Гулі розныя мухі, авадні. Скошаная трава хутка высыхала, як на гарачых цэглінах. Сонца сляпіла вочы. Драчыха насунула белую хустку на лоб і працавала граблямі.

Чамусьці вельмі стараўся Троська. Заўсёды лянівы, ён зухаваўся сягоння як ніколі. Часта бегалі іншыя камунары да ручая, чырвоныя ад сонца, млявыя, каб напіцца вады альбо памыцца, а ён ні разу не адрываўся ад працы. Ён быў празмеру вясёлы. Ніколі, як сягоння, так не жартаваў.

— Троську камар укусіў,— смяяліся навакол.

Ён сена на вазах укладваў. Яму падаваў Калістра. Не паспее Калістра падаць на воз, а ён хутка ўкладвае і ўсё крычаў:

— Падавай! Падавай!

— На! Няхай цябе чэрці возьмуць! — хрыплаватым голасам гаварыў Калістра.

— Даёш!

Пры гэтым чырвоная кашуля Троські мітусілася на возе і выглядала здалёку як сцяг.

— І як ты спраўляешся так хутка? — дзівіўся Калістра, які ўвесь быў распараны. З яго пот цурком ліўся...

А Троська — бледны і сухі. Ён ніколі не пацеў. Толькі вочы ў яго не так, як заўсёды, гарэлі.

— Хутчэй! Не спі, Калістра! А то коней авадні кусаюць. Бачыш, як Маруся хвастом аваднёў зганяе? Хутчэй!

— Што на цябе надышло? — злуецца Калістра.— Раптам коней шкадаваць пачаў!

Сена абляпіла яго ўспацелы твар. Ён вохкаць пачаў. Накладуць адзін воз, а Троська падганяе:

— Не варонь, Калістра!

Не агледзяцца — і другі воз парабнём прыціскаюць, увязваюць.

А вось і трэці воз гатоў.

Злоснымі вачыма Калістра пачынае глядзець на Троську, глядзіць як на ворага. А той — хоць бы што, шмаргане носам, падцягне вузкія шэрыя штаны і зноў тое самае:

— Даёш!

— Старайся, але ў меру,— бурчыць Калістра.— Рукі млеюць. Сіл няма. Горача. Няўжо ж хочаш адным днём выплаціць за гады гультайства?

— Ну, ну, не разгаварвай! Працуй!

— Як ні старайся, а жонка да цябе не вернецца...

— Даёш! Даёш! — грыміць голас Троські па ўвесь луг.

Здалёку глядзела Драчыха, усміхнулася і сказала суседцы:

— Перад выпіўкай стараецца.

Так прайшоў увесь дзень. Не агледзелася Драчыха, як сонца апусцілася, стала вялікім чырвоным пакаленым кругам над тым месцам, дзе капалі торф. Як на малюнку, вызначаліся на краі неба адзінокія дзераўцы — вольхі і бярозы. Нібы шэраг невядомых істот залаціла над сонцам свае калматыя галовы. У паветры адчуўся прыемны халадок. Гучней заспявалі птушкі. З луга забралі апошні воз сена.

Павячэралі ў агульнай сталоўцы і разышліся хто куды — у клуб, на дзядзінец, у сад.

На вячэры былі грыбы, прыпраўленыя смятанай. Заўтра, у дзень адпачынку, зноў многа хто ў грыбы пойдзе.

Любіць Драчыха збіраць грыбы ў лесе блізка ад камуны. Хоць гэта будзе не па-таварыску, але яна заўтра раненька пойдзе з кошыкам у лес, адна пабяжыць раней за ўсіх... Трохі млеюць рукі ад сягонняшняй працы граблямі.

Драчыха рэдка заходзіла ў сад.

— Навошта мне гэта? Не пані якая,— разважала яна.

Колькі разоў ні звалі яе туды, яна адмаўлялася. Заўсёды, як гляне на дарожкі ў садзе, на ангельскі парк з газонамі, на яе нападаў не то страх, не то сарамлівасць: панская забава тут гуляць,— думала яна.

На гэты раз яна сама пайшла ў сад. Пахла яблыкамі. Недзе жаласліва чырлікала птушка. Праз густыя дрэвы з падпоркамі дзе-нідзе прабіваліся колеры заходняга неба, падобныя да раскалёнага дачырвона вугolля. Тлела вуголле і гасла, павольна мяняючы колеры. Патрохі ў садзе цямнела. Паміж стрыжаных кустоў Драчыха заўважыла невялічкую альтанку, якая выглядала белай каплічкай.

«Добра ўмелі паны жыць на нашых гарбах,— падумала Драчыха.— Парабкі працавалі, ад цёмна да цёмна пот пралівалі, а паны прахладжаліся вось у такіх будачках. Вучымся цяпер і мы жыць».

Дзверы альтанкі ціха рыпнулі. Драчыха ўвайшла і села на пляцёным зэдліку. У альтанцы зусім цёмна. Пахне сушанымі кветкамі.

Недзе недалёка смяюцца людзі. З клуба чуваць музыка. Зноў чамусь Троську ўспомніла. Не падабаецца ёй Троська. Не разумее яна, чаму вось церпяць яго ў камуне. Часта праз яго тут адбываюцца сваркі. Ніхто не ведае,

скуль ён сюды прыйшоў. Ён гаворыць, што бежанец з Гродзеншчыны. Заўсёды ён тут плёткамі займаецца.

З клуба плыве музыка, заглушаная, аддаленая. Кунежаць Драчыху кволыя гукі піяніны.

«Аднак добра тут пасядзець у халадку пасля працы... А то бывала...»

Гэтае «бывала» — трохгадовая мяжа паміж ранейшым жыццём Драчыхі і цяперашнім: паміж Гайдачанамі і камунай. З кожным месяцам, з кожным годам мяжа робіцца шырэйшай, аддаляе Драчыху ад ранейшага. Усё больш і больш ранейшае аплывае туманам, затушоўваецца, а цяперашняе расце, робіцца больш яркім.

«А то бывала яшчэ не высахне на табе пот ад працы, а ты завінайся каля печы, гатуй вячэру, кармі дзяцей, кладзі іх спаць».

У мінулым годзе Драчыха сядзела раз у гэтай самай альтанцы з адной з былых парабчых. Тая расказала ёй, што ў гэтай самай альтанцы пан Гардзялкоўскі часта з паненкамі балаваўся, віно піў. Садоўнік нікога ў сад не пускаў.

З клуба чуваць музыка. Гучнымі кроплямі яна прасочваецца сюды праз пахучы змрок, аплятае Драчыху прыемнай сеткай гукаў.

Драчыха ведае: гэта адна з настаўніц грае на піяніне, па-асабліваму нахіляецца над інструментам, пальцы яе бегаюць па белых клавішах вельмі спрытна. Грае нейкі вальс, які завецца «Грыбным вальсам». Як пачула Драчыха ўпершыню гэты вальс, дык вельмі расчулілася і расказала сваю гісторыю аб грыбах і гэтай самай музыцы:

Гарачае тады было лета.

Густы высокі панскі лес і сярод белага дня стаяў змрочнай сцяною. Вельмі вабіў да сябе грыбамі.

Іншай яды ў той час у Драчыхі не было.

Доўга гнаўся тады за ёю палясоўшчык пана Гардзялкоўскага, пакуль дагнаў. Пры гэтым соп, як мядзведзь. Яна так спалохалася... Той сарваў у яе хустку з галавы са жмутам валасоў. Галава пасля гэтага некалькі дзён агнём гарэла... Адабраў кошык з грыбамі і пагнаў яе ў маёнтак.

Валасы на яе галаве раскалмаціліся. Драчыха плакала і нічога перад сабою не бачыла.

З гэтага самага пакоя, дзе цяпер клуб, чуваць была дзіўная музыка. Ніколі раней Драчыха гэткай пекнай музыкі не чула. Яна спыніла плач і пачала прыслухоўвацца.

Прыгожая паненка высунула галаву з акна.

Зычным, як музыка, голасам паненка паскардзілася, надзьмула губкі:

— Навошта дапускае да майго акна гэтакіх?

Драчыха аж уздрыганулася ад крыўды. Страх прапаў. Забыла боль ад вырванага жмута валасоў. Толькі ў грудзях нешта загарэлася.

Палясоўшчык зняў шапку перад паненкай і сказаў:

— У лесе, паненачка, злавіў. Грыбы збірала. Самыя лепшыя баравікі выбіраюць хамулы, а для панскага стала ніколі сваіх грыбоў няма.

Раней, ідучы ў маёнтак, Драчыха думала адпрасіцца, каб ёй кошык з грыбамі аддалі, але тут яе рот замкнуўся. Яна анямела.

— Якія гэтыя вясковыя калматыя, дзікія,— грэбліва сказала паненка.

Драчыха зірнула на яе злоснымі вачыма. Слёз у іх ужо не было. Вочы Драчыхі цвёрда сустрэлі пагардлівы позірк паненкі.

Тая пачырванела і адвярнулася.

Палясоўшчык, шчупленькі і спрытны, з маленькай чорнай бародкай, кінуў Драчысе хустку:

— На, на, жаба карэлая! Чаго вачыма лыпаеш? Ідзі адгэтуль!

Грыбы панёс на кухню. Нават кошыка не аддаў.

Драчыха пачала каравымі ад працы пальцамі папраўляць валасы.

— Новы кошык,— успомніла яна, як пайшла з панскага двара. Але не плакала, толькі злосць была такая, што, каб магла, дык тады маёнтак падпаліла б...

Яе даганялі гукі пекнай музыкі.

Яна тады праклінала і маёнтак і музыку.

Вось за такую гісторыю назвалі гэту музыку «Грыбны вальс».

Часта настаўніца, дачка аднаго з камунараў, грае той самы вальс, які тады грала паненка.

У садзе пацішэла.

Не чуваць смеху і жартаў. Толькі птушкі перагукаюцца ў кустах.

«Мабыць, у клуб пайшлі».

Драчыха ўскочыла з месца так раптоўна, нібы яе хтосьці даўно кліча або дзеці пакалечыліся.

«Нельга доўга заседжвацца».

Бягом пусцілася...

Так дома, у Гайдачанах, яна заўсёды рабіла — не хадзіла павольна, а вечна бягом. Засталася старая прывычка. Нават у ранейшай маленькай хатцы знаходзіла месца для свайго «бегу».

«Часу няма».

Стаяла цяплынь. У небе свяцілі зоркі.

Успомніла Драчыха, што хопіць ёй часу, і стрымала свой «бег», хаця, каб павольна хадзіць, ёй прыходзілася напружвацца і на гэта пакласці спецыяльнае старанне... Па жоўтай дарожцы ў садзе яна заўважыла некалькі сучкоў, чысценька падабрала і паклала каля старой яблыні.

«У вольны час трэба будзе пачысціць сад»,— падумала яна.

Ішла ў клуб. Гукі «Грыбнога вальса» ледзь чуваць былі. Затое гул галасоў плыў на вялікі дзядзінец з адчыненых вокан разам з палосамі святла.

У тлуме ніхто не заўважыў, як Драчыха ўвайшла ў клуб.

«Чамусьці сягоння людзі ажыўлены больш, чымся звычайна».

Драчыха заўважыла, што некаторыя спрачаюцца аб нечым, махаюць рукамі.

З урыўкаў гутаркі яна толькі адно ўлавіла:

— Драчык правільна напісаў.

— Драчык перахапіў мерку.

— Ён нахлусіў.

— Ён праўду сказаў.

— Не, не.

На розныя лады людзі мяркуюць пра яе мужа.

«Што тут такое здарылася?» — устрывожылася Драчыха.

Яе муж сядзіць на канапе насуплены і маўчыць. Вочы ў яго такія строгія, што лепш да яго цяпер не падходзь. Ён пускае ўгару над сваёй галавою махорачны дым і здаровым вухам зацікаўлена прыслухоўваецца да гутарак. Святло ў клубе няроўнае ад вялікай лямпы. Па сценах мітусяцца людскія цені. Плывуць празрыстыя цені па розных партрэтах і плакатах. Затуляюць цені куток бязбожнікаў. Егіпецкія, кітайскія і хрысціянскія багі на хвіліну выступаюць у святле, а вось іх зноў пакрыў цень. Строгія багі нібы злуюцца. Мітусенне светаценяў робіць іхнія вочы жывымі, мігатлівымі. На сцяне над піянінай цэлы шэраг малюнкаў з коньмі.

Каля адпае сцяны ціснуцца людзі.

— Чытаць нельга, адступецеся! — крычыць Калістра.— Не шкляныя вы. Нічога не відаць.

Людзі адступаюцца і зноў падыходзяць.

На сцяне свежы нумар газеты «Камунар». Газета напісана ад рукі буйнымі роўнымі літарамі. Дзе-нідзе, паміж слупкамі тэксту, красуюцца карыкатуры. Набела ўсю газету перапісала настаўніца, якая ледзь чутна наігрывала цяпер на піяніне «Грыбны вальс». Здаецца, што коням грае. Яны нібы прыслухоўваюцца з малюнкаў, нерухомыя, у розных позах. Настаўніца перабірае пальцамі клавішы і прыслухоўваецца да гутарак.

Карыкатуры маляваў студэнт-практыкант, які прыехаў сюды на некалькі тыдняў. Ён сядзіць цяпер у кутку пры століку і кніжку чытае.

Знялі газету са сцяны, палажылі на стол. Усе глядзяць на Калістру і смяюцца. Паспелі даць на яго карыкатуру: ён падае Троську сена на воз і вельмі пацее. Пад ім — рэчка поту.

Троські няма ў клубе. Пайшоў коней паглядзець.

— Стараецца праз меру,— смяецца нехта.— Можа, злітуюцца над ім і не выкінуць з камуны.

— Чакайце ад яго дабра як ад казла малака,— устаўляе слова Драчыха і папраўляе хустку на галаве.

Сымон Троська пасля вячэры апрануў сваю лепшую вопратку, абуў новыя боты і ў клуб чамусьці не пайшоў. Яшчэ пры вячэры ўсе заўважылі, што ён быў сур'ёзны і маўклівы як ніколі. Многа было пушчана жартаў аб яго сягонняшнім старанні. Ён глядзеў спадлобу, часам мільгне белымі вострымі зубамі: вось нешта скажа калючае і вострае, але стрымліваўся. Толькі скоса зірне на аднаго-другога з такім выглядам, нібы зараз скажа: «Вось расплачуся з вамі». Мала еў. Як добра пацямнела, ён пайшоў у канюшню. Ціхенька, асцярожна адчыніў вароты. Аддала цёплай парай конскага паху. Ліхтары з газавымі лямпачкамі кідаюць бледнае святло вакол. Дзе-нідзе ў стойлах заржалі ветліва коні.

Троська пачаў прыслухоўвацца. Раздумваў. Нейкая перашучасць лягла на яго твары, потым ён махнуў рукою і пайшоў у кут, дзе ляжала сушаная канюшына. Узяў ахапак абедзвюма рукамі і панёс чорнаму, бліскучаму, як аксаміт, каню, пад клічкаю Бура. Не любіў гэты конь Троську. Скасіў на Троську грознае вока, злосна пачаў стукаць капытом і стрыгчы вушамі.

— Ну ты, ганаровы! Супакойся!

Троська кінуў яму ў кармушку канюшыны і пачаў гладзіць па шыі.

Заржаў побач Танцор і зазвінеў ланцужком вясёлае прывітанне.

Ведае Троська, Танцор спакойны, спі пад ім — не зачэпіць.

А вось за перагародкаю грызуцца дзве кабылы — Зара і Маруся. Ніколі не ладзяць між сабою, а іх чамусьці заўсёды побач ставяць.

— Стоп! — прыкрыкнуў на іх Троська.— Я вам дам зараз гасцінца! Чэрці!

Зара і Маруся настаражыліся, застылі на месцы і чакаюць порцыі канюшыны. Апусцілі вінавата галовы.

— Разумныя вы, ліха на вас...— кажа Троська з пашкадаваннем у голасе.

Кожны раз, як Троська падасць каню канюшыны, дык пачне чысціць свой сіні святочны фрэнч.

— Напрацаваліся вы за дзень,— размаўляе ён з коньмі,— але і я сягоння здорава валтузіўся. Ледзь дух з Калістры не выпер!

Смяецца Троська, задаволены сваёй удаласцю. Коні шчыра жуюць. Ад нецярплівасці скубуць з яго ахапкаў, якія нясе па чарзе кожнаму каню.

Кончыў Троська раздачу корму. Старанна ачысціў вопратку і выйшаў з канюшні, азірнуўся ва ўсе бакі, лавіў кожны гук з дзядзінца. Нідзе ні жывой душы. Па небе плылі хмаркі, пухкія, як бы з сівой шэрсці скомканыя, з ружовымі краямі. Паміж хмарамі з пустога цёмна-сіняга бяздоння неба свяцілі зоркі.

Розныя пахі ласкаталі ноздры.

Троська заскрыгатаў зубамі. Вочы яго былі дзікія і злосныя. Ён зноў вярнуўся ў канюшню, дастаў з кішэні маленькую аптэчную пудэлачку. Падышоў да жвавай Марусі.

Разлажыўшы газету на стале, Калістра пачаў чытаць уголас. Усе стоўпіліся вакол яго. Змоўклі. Прыслухоўваюцца. Глядзяць яму ў самы рот, на апушчаныя на паперу вочы. Калістра чытае басам. Святло ад лямпы падае на яго загарэлы шырокі твар. Калістра робіць частыя перапынкі, аглядаецца вакол і кажа:

— Глядзі вось, напісаў-такі!

— Бач, як хваліць нас! — адзываецца адзін зморшчаны дзядзька.

— Чаго добрага, перахваліць.

— Правільна хваліць! — чуваць некалькі галасоў.

— Дайце чытаць!

— Сам сябе перабівае, а потым «дайце чытаць». Прахвэсар!

Калістра цярпліва нанова пачынае чытаць артыкул Драчыка пад назваю «Новае аб нашай камуне».

«За ўсе гады свайго існавання наша камуна вельмі добра жыве і мацнее. Павялічыла гаспадарку ва ўсіх яе кірунках, а іменна: жывёлагадоўля, ураджаі ўсялякіх гатункаў збожжа, крухмальня і гэтак далей. Шмат новых будынкаў з'явілася ў нас за гэтыя гады. Прыносім пралетарскай дзяржаве нямала карысці. Ніхто супраць гэтага нічога сказаць не можа. Самі добра жывём, ямо белы хлеб, мяса. Ніхто за яду нас таксама не злае.

Мы бадай зліквідавалі непісьменнасць сярод нашых камунараў, вучылі дзяцей у школе, ёсць у нас дзіцячы сад, ёсць у нас гурток бязбожнікаў і шмат іншых гурткоў.

І за гэта нас ніхто лаяць не будзе!

Ёсць у нас партыйная ячэйка, камсамольская. У межах камуны ідзе ў нас усё добра. Усё, здаецца, так, як павінна быць.

Калі часам з'явіцца да нас якая-небудзь экскурсія, дык ёсць чым пахваліцца, ёсць што і паказаць.

Правільна я пішу?

Правільна!

Калі прыедзе хто да нас, калі прыйдзе, мы і накормім і напоім.

Няўжо пакуль што пры нашых цяжкіх умовах можа быць лепей?

Не! Не можа быць лепей!

Мы жывём пры такіх добрых умовах, што ніхто з камунараў ад нас уцячы, я ўпэўнены, не хоча. Калі ёсць у нас гультаі і п'яніцы, як Троська, дык гэта, можа, два-тры, ад якіх, я ўпэўнены, мы хутка збавімся.

Усе са мною згодны?

Думаю, што ўсе!

У нас не камуна якая-небудзь беднепькая, нэндзная, а сапраўдны ўзор, хоць маленькі, але бліскучы ўзор сацыялістычнага будаўніцтва, на якім адпачывае вока кожнага пралетара, бядняцкага сялянства ды іншых.

Наша камуна блішчыць, як свежы чырвоны яблычак над сонцам Кастрычніка.

Ніхто не скажа, што гэта мана?

Ніхто! Я ўпэўнены!

І мая жонка выйдзе ў сад, у альтанку пасядзець, і хлопцы і дзяўчаты спакойна газеткі чытаюць і музыку паслухаюць на манер «Грыбнога вальса», і жывём мы сытна і добра.

Хто скажа, што не так, той паклёп навядзе на нас. Гэта так, таварышы!

Наша камуна акурат прыгожы яблык. Паспрабуйце гэты яблык раскусіць і знойдзеце чарвячкоў.

У чым жа чарвячкі нашай камуны?

А вось у чым:

Мы зашыліся, як у мяшку. Па-за межамі нашай камуны нічога не бачым і бачыць не хочам, нічога не ведаем і ведаць не хочам.

Не ў тым толькі павінна выяўляцца наша праца па-за сценамі камуны, каб далучыць да яе некалькі гектараў зямлі ад сумежных хутароў. Не ў тым толькі, каб калі-нікалі павялічыць нашу камунарскую сям'ю на аднаго, двух новых камунараў.

Не ў гэтым уся мэта існавання камуны.

Ці бачыла камуна ўсе гады, што вакол яе робіцца?

Ці змагалася яна супраць розных Язэпаў Крушынскіх, якія млыны пабудавалі, якія эксплуатуюць беднату і жывуць сабе спакойненька, прыпяваючы?

Ці многія з камуны звярнулі ўвагу на тое, што сельсавет, Дразды і Дзятлы яшчэ на сягоннядні дзень знаходзяцца пад уплывам Язэпа Крушынскага, тутэйшага папа і іншых такіх дабрадзеяў?

Не! Вельмі мала ва ўсім гэтым робіць наша камуна.

Зусім правільна, што яна свежы яблык з чарвяточынамі.

Мы сабе адзін да аднаго прывыклі, зжыліся вялікай сям'ёю, а на тое, што вакол нас робіцца, нам напляваць.

Так мы і робім — плюём!

Што тычыцца грамадскай працы па-за камунай, дык маленечкі калгас «Новае жыццё» зрабіў куды больш за нас.

Сорамна нам, таварышы! Люблю шчырасць, сорамна!

Мы праз меру захапіліся пшанічнымі бліцамі і «грыбнымі вальсамі».

Хто ў гэтым вінават?

Мы ўсе вінаваты!

Асепленыя сваім лагодным дабрабытам, замазанымі маслам вачыма і вушамі, мы не бачым і не чуем, што робіцца вакол нас.

Рассыпемся, таварышы, ва ўсе бакі будзіць сялянскія масы!»

Храпе Маруся. З яе чулых ноздраў у твар Троські пападае цёплая пара. Ён выцірае рукавом твар і сыпле нешта з пудэлачкі на пучок канюшыны, які Маруся цягне ў рот мяккімі губамі.

— Еж на здароўечка...

Троська абыходзіць па чарзе самых лепшых коней. У яго дрыжаць рукі. Высоўваецца са стайні хуткімі нячутнымі крокамі, ідзе каля сцен, аглядаецца, шаснуў каля клуба. Гул галасоў. Ціхі «Грыбны вальс». Пайшоў Троська на гумно, адтуль накіраваўся ў лес.

Мігцяць зоркі над хвоямі, рыпяць дрэвы аб дрэвы. Стаіць лес цёмнай сцяною. Пад нагамі Троські трашчаць сучкі, аддаюцца ў цішыні глухой ночы трывожным шэптам. Троська прыслухоўваецца да сваіх крокаў і ваўком глядзіць у лясную цемру.

Кончыў Калістра чытаць. Уголас прачытаў подпіс «Антось Драчык. Камуна «Чырвоны Кастрычнік». 1928 год». Ён азірнуўся ва ўсе бакі і запытаўся:

— Ну?

Усе маўчалі. Некаторыя выглядалі як аблітыя халоднай вадою. У іншых на тварах можна было заўважыць выраз незаслужанай крыўды. Чутно было, як над лямпай гудзелі мухі.

— Нясмачна? — запытаўся Калістра ў другі раз.— Драчык майстра падносіць нясмачнае пад самы нос. Вось так!

Пры гэтых словах Калістра сціснуў у адно кончыкі сваіх трох пальцаў, жоўтых, прыпаленых махорачнымі папяросамі, тыкнуў імі сабе пад нос і адышоў ад стала.

— Лоўка! — грымнуў сівы, барадаты Язэп, адзін з першых арганізатараў камуны шэсць год таму назад.

— Лоўка! — паўтарыў ён у другі раз. І невядома, што ён хацеў сказаць гэтым «лоўка»: згодзен з Драчыкам ці не.

За спіною старога нехта хіхікнуў.

— Смяяцца няма чаго! — злосна сказаў стары і падышоў да Драчыка з такім імпэтам, нібы хацеў задушыць яго адным махам.

Драчык сядзеў каля сцяны з апушчанай галавой. Стары патармасіў яго за плячо.

— Га? — устрапянуўся Драчык. Стары перабіў яго думкі.

— Калі б пачалі, таварыш Драчык, паводле тваёй рады рассыпацца ад камуны ў бакі, дык яна даўно рассыпалася б, як сухі гарох.

Стары глядзеў на Драчыка такімі вачыма, нібы вось толькі што злавіў яго пры зладзейскім учынку.

— Як гэта — рассыпалася б? — запытаўся Драчык, падняўся з канапы і наставіў на старога Язэпа вострыя, як шпількі, вочы.

— А рассыпалася б! Даўным-даўно і слядоў камуны тут не было б! Дальбог, праўду кажу!

У кожным руху старога адчувалася абурэнне. У яго паружавеў твар, заблішчалі маленькія слязлівыя вочы.

— Лёгка табе цяпер браць нас на цыгундар,— прабіраў ён Драчыка тоненькім галаском.— Лёгка браць нас на цыгундар, калі на ўсё гатовенькае сам прыйшоў сюды!

І стары Язэп пачаў апавядаць Драчыку гісторыю камуны, якую ён па традыцыі заўсёды расказваў усім тым, хто сюды прыязджаў і прыходзіў. Апошнія два гады стары Язэп на цяжкую працу не выходзіў, поркаўся на дзядзінцы каля дрывотніка. Хто б толькі ў камуну не паказваўся б, стары Язэп першы яго сустракаў. Не аднаму экскурсанту і супрацоўніку газет гэты стары, былы парабак пана Гардзялкоўскага, дыктаваў у блакнот гісторыю камуны «Чырвоны Кастрычнік». Гэта зрабілася яго абавязкам, стала яго «амплюа». Ніхто так гладка, як ён, ды з такім шчырым пачуццём і расказваць не мог. У яго гэта выходзіла не звычайнай гутаркай, а лірычнай паэмай. Каб пры тым даць яму ў рукі старадаўні музычны інструмент, дык выглядаў бы старадаўнім старцам з новымі былінамі.

Заўсёды ён пачынаў апавядаць са старых часоў, калі пан Гардзялкоўскі яшчэ быў у маёнтку Хадыкаўцы. Пасля апавядання аб здзеках гэтага пана над парабкамі і вакольнымі сялянамі ў беднаты ён пераходзіў да апошніх часоў.

...як шэсць год таму назад, у 1922 годзе, заселі тут

былыя парабкі пана Гардзялкоўскага, якія вярнуліся з Чырвонай Арміі, з грамадзянскай вайны...

...як цяжка тут было наладзіць зруйнаваную гаспадарку. Не было ні жывёлы, ні сельскагаспадарчых прылад. Нічога не было, апрача будынкаў, якія захаваліся нейкім цудам з панскай мэбляю ў палацах...

... як у першыя гады людзі сюды прыходзілі і выходзілі, як у адчыненую стадолу. Два разы гарэла камуна: падпальвалі кулакі-хутаране.

Ніхто старога Язэпа не перабіваў. Ніколі камунары з гэткаю цікавасцю не слухалі ўсё вядомае ім, як у гэты раз.

— Драчык кажа, што мы тут нешта не тае, нядобрымі справамі займаемся,— зрабіў стары Язэп канцоўку, сеў і заківаў незадаволена галавою. Хутка зноў стаў і выйшаў на двор.

Шаневіч, старшыня камуны, круціў рыжыя вусы і маўчаў, пагглядаючы сабе пад ногі.

Камунары зноў падзяліліся на групкі, спрачаліся між сабою: хто быў за Драчыка, хто супраць. Хоць вокны былі адчынены, але душна стала ў пакоі.

Да Драчыка падскочыў другі камунар, Цішка Пархвенчык, нізенькі, сутулы, на крывых нагах з доўгім вострым носам.

— Брэшаш! — крыкнуў ён Драчыку адно толькі слова.— Брэшаш!

— Адстань,— ціха адказаў Драчык.

Шаневіч кідаў у бок Драчыка строгія позіркі.

— Пляваціа табе лёгка! — Не адставаў стары Пархвенчык і як бы цэліўся вострым носам у Драчыка.

— Якое там пляваццa! — пакрыўдзіўся Драчык.— Я ад сэрца пісаў, бо люблю шчырасць! — Драчык стукнуў сабе кулаком у грудзі і падскочыў. Вочы ў яго гарэлі ад абурэння.— Пляваццa! Уласнай крывёю плюю...

Клуб выглядаў як стрывожаны вулей.

— Правільна напісаў Драчык!

— Брэша!

— Хлусіць!

— Праўду сказаў!

Адны адным даводзілі сваю правату, хваляваліся. Кіпела, як у катле. Ледзь іх супакоіў старшыня камуны Шаневіч. Ён падышоў да Драчыка. У яго прыкметна дрыжалі губы, быў бледны. Ён запытаўся ў Драчыка спакойным голасам:

— Камуну трэба было замацоўваць ды на ногі паставіць? Гэта, па-твойму, не грамадская праца — каля трыццаці сямействаў перашліфаваць ад «маё» да «наша»?

— Такое «наша» майму сэрцу нічога не кажа. Мы сабе добра жывём вялікай сям'ёю і адгарадзіліся кітайскай сцяною ад усіх. Як у манастыры жывём, люблю шчырасць!

— Перагібаеш, Драчык. Гарачы ты чалавек. Гарачнасць не заўсёды на карысць ідзе. Як табе здаецца: нашта камуна сама па сабе не жывая агітацыя для ваколіцы? Нашыя ўраджаі, добра пастаўленая праца не кажуць усёй беднаце і серадняцтву: «жывяце так, як мы?» Ты, Драчык, лішне строга гаворыш.

— А спектаклі для сялян? А лекцыі? — крыкнуў нехта з грамады.

— Гэта ўсё капеечкі, а не рублі. Люблю шчырасць! Мы закапаліся ў сваіх акопах і сядзім тут.

Шаневіч сеў побач з Драчыкам, палажыў яму руку на плячо і, ледзь усміхаючыся, сказаў:

— А гэта ж, міленькі мой, капеечкі, што сам у камуне вырас за тры гады? Успомні толькі: тут партыйным стаў, чытаеш газеты дзень у дзень, кнігі розныя, Леніна. Малую школу ты тут праходзіш? Чаму толькі цяпер загаварыў аб тым, што праца ў ваколіцы ў нас кепска пастаўлена? Дзе ты, разумнік, раней быў? Зусім магчыма, каб сярод нас былі не адны сяляне, а хоць адзін-два рабочых з фабрыкі, дык раней загаварылі б аб тым, што ты сягоння ў газеце напісаў. Цяжка, братку мой, было нам гэтым займацца, калі наша камуна тут выспачкай у моры стаіць, а вакол плодзяцца, як ты сам ведаеш, новыя хутары, пасёлачкі, дзе гадуюцца заможнікі. Усё будзе, толькі гарачыцца, таварыш Драчык, не трэба.

У гэтую хвіліну з шумам адчыніліся дзверы. З разяўленым ротам і выпучанымі вачыма стаў на парозе чалавек. Увесь ён дрыжаў. Твар яго быў белы як палатно. Гэта быў стары Язэп, які пасля таго, як расказаў перад усімі гісторыю камуны, выйшаў на двор.

Усе на яго зірнулі з трывогаю, да таго ён змяніўся ў працягу некалькіх хвілін.

— Што здарылася?

— Што?

— Гавары!

Яму паветра не хапіла. Ён душыўся словамі.

— Ко-ко...коні падушыліся.

— Га?

— Дзе?

Усе падскочылі да дзвярэй спалоханыя, збянтэжаныя.

— Па ветэрынара! — крыкнуў Шаневіч.

У адну хвіліну клуб апусцеў. Па дзядзінцы ў бок канюшні бягом пусціліся камунары.

## 10

## АЗІЯ І ЕЎРОПА

Уводдалі, як на экране, местачковыя хаты. Выган у белых пер'ях, нібы ў рэдкіх сняжынках. Сажалка. Па сажалцы гусі. Сонца толькі што высунулася з-пад заслоны лесу. Крык варон глушыць спевы жаўранкаў. На лістах бяроз нарадзілася цёплая раніца.

Роснаю сцежкаю, побач з трактам, ідзе з боку мястэчка стары каваль Лейба. Сягоння ён першы пакідае нязграбныя сляды па роснай стоптанай траве. Пад мяшком на спіне ён да таго нагінаецца, што сівая барада прыціснута да грудзей... Рукою абапіраецца аб кій.

Павольна ідзе Лейба наперад у бок Драздоў і Дзятлаў. У мутнаватых чорных вачах выраз дзіву і непаразумення. Павольная хада надае такт яго думкам:

«Ужо чатыры гады не быў у Драздоў і Дзятлаў. А за гэты час, ай-яй-яй, як мястэчка змянілася! Мабыць, і Драздьі і Дзятлы не тыя».

Муліў мяшок на спіне. У мяшку цвёрдыя пакуначкі. Стары знімае яго з плеч, з усмешкай перабірае там пакуначкі і зноў ускідвае мяшок на плечы.

«Зусім не цяжка».

Пайшоў шпарчэй. Ніводнай фурманкі, ніводнага чалавека на дарозе. Толькі абапал па полі недзе далёка мітусяцца людзі з коньмі — чорныя кропкі на сіняватым фоне далягляду.

«І не агледзеўся, як мястэчка інакшым стала. Каля мястэчка некалькі дробных сельскагаспадарчых арцеляў. «Ідн зайнэн авэк аф карке» [1].

У мястэчку некалькі саматужных арцеляў. У сінагозе — клуб... «Свет перакуліўся».

---

[1] Яўрэі пайшлі ў земляробы.

Ад таго што «свет перакуліўся», Лейба цяпер ужо не сумуе. Прабаваў раней сумаваць — не памагло, дык ліха з ім. Няхай ідзе, як ідзе.

«Няхай ідзе, як ідзе»,— Лейба часта паўтарае такім тонам, нібы сам выпусціў з рук, з-пад свайго кіраўніцтва, лейцы свету, і свет скача перад ім галопам. Дзень у дзень дзівіўся Лейба гэтаму страшнаму «галопу»: «свет перакуліўся».

Няма часу дзівіцца гэтаму, аднак Лейба дзівіцца... А раней сумаваў, што «каралева-Шабас» [1] узнялася і паплыла на воблачных крыллях да «караля Адэная» ў самае сёмае неба (вобраз, запазычаны з суботняй малітвы). Ды не горш за «каралеву-Шабас» камсамолка Серада — дзень адпачынку ў саматужных арцельшчыкаў. Так маршуюць ў гэты дзень, што сумаваць не прыходзіцца.

Спачатку Лейба палохаўся.

Потым разам з «каралевай-Шабас» знік страх. Замест страху адно здзіўленне засталося ў Лейбы.

Учора ён атрымаў па пошце ліст ад сваёй дачкі Мэры. Падумаеш, пошта запатрэбілася, калі ад Драздоў і Дзятлаў да мястэчка тры разы плюнуць!

Мэра пісала па-яўрэйску. Так пісала:

«Дарагі татынке!

Зорачка, унучка твая (ён думаў, што дачка Мэры завецца Сорачка), хоча цябе пабачыць. Дзеда Лейбу дай ёй, кажа яна. Напішы, калі згодзен прыехаць, калі злосць твая адлегла ад сэрца, і мой Марцін запражэ каня і паедзе па цябе. Я таксама хачу цябе пабачыць. Чакаем цябе... Якраз цяпер да нас прыехаў твой другі зяць, Мікола Ярэмчык. Вось і пазнаёмішся з ім. Твая дачка Мэра».

— Я толькі Сорачку хачу паглядзець, сваю кроў... — апраўдваўся Лейба перад жонкай.

Быў якраз дзень адпачынку — камсамолка Серада — і Лейба, замест таго каб напісаць ліст аб згодзе, «запрог сваю пару»: насунуў новыя боты на ногі і раніцою пайшоў да Драздоў і Дзятлаў. Яго жонка, якая ўжо некалькі разоў была ў дачкі, накупіла для ўнучкі розных падарункаў, дала яму з сабою харчоў («трэфнага мой Лейба не будзе есці, хоць з голаду памрэ»,— гаварыла яна часта суседкам), і ён пайшоў.

Адно толькі кальнула старога тонкай шпілечкай, што і другая дачка, Соня, якая вучыцца ў Мінску, таксама за

[1] Субота.

«гоем» замужам. Але на гэты раз укол быў не вельмі балючы:

— Прывык да Мэрынага Марціна, прывыкну і да Сонінага Міколы. Як Марцін не Шлёма, таксама і Мікола не Борух.

Доўга аб гэтым разважаў перад сваёй жонкай, якая лічыць яго самым разумным на свеце чалавекам...

Ён часта выкладаў перад ёю сваю новую філасофію наконт «перакуленага свету». Звычайна канчаў так:

— Мы ўсе цяпер ходзім дагары нагамі, а калі ўсе так ходзяць, дык здаецца, што роўна... Цікава паглядзець і другога — Міколу...

Пагладзіў бараду і дадаў:

— Дзве бяды аднолькавыя — адна бяда. Звыкнешся з бядою — палавіна бяды. Усё гэта залежыць ад часу. На цяперашні час, можа, і ніякай тут бяды няма...

Жонка недачула канчатка яго разважанняў. Яна і так добра ведае:

«Бо «свет перакуліўся».

Здзіўленыя вочы Лейбы паглядаюць на знаёмы стары тракт з бярозавымі прысадамі.

І старыя бярозы не тыя, што даўней.

Калісьці яму здавалася, што старыя бярозы вечна богу моляцца, а цяпер нейкія гарэзлівыя песні пяюць. Вунь як тыя дзеўкі.

(Па дарозе ішоў цяпер гурт дзяўчат з граблямі ды гучнай песняй.)

— Адкуль? — запытаўся Лейба.

— З камуны «Чырвоны Кастрычнік»,— адказала адна з іх.

За апошнія гады выраз здзіўлення ніколі не зыходзіў з твару Лейбы.

Са слязамі на вачах Мэра сустрэла старога бацьку ўпершыню пасля некалькіх год разлукі. Яна зараз жа пабегла ў пуню будзіць сваіх — Марціна і Міколу:

— Уставайце. Госць прыйшоў. Мой тата.

Мужчыны ўвайшлі ў хату. Стары Лейба іх не прыкмеціў. Трохгадовая Зорачка сядзела ў яго на каленях. Адзін і той самы выраз здзіўлення і замілавання быў у вачах дзеда і ўнучкі. Гэты выраз падраўняў пад адзін штрых іхні ўзрост... Абое глядзелі на адну цікавую рэч — на стары мяшок, які стаяў тут побач на лаўцы. Ён падміргваў ім з хітрыкай мудрага і спрытнага клоуна.

У мяшку было ўсё прыгожае, цікавае і смачнае, што толькі можа быць на свеце...

— Ясцэ...— гаварыла Зорачка,— ясцэ...

Дзед выцягваў з мяшка ўсё новыя рэчы, павольна і з доўгімі спынкамі, з тэатральнымі жэстамі.

— Ясцэ...

З мяшка перавандравалі на стол: шапачка, чаравічкі, паліўны конік, цукеркі...

Мяшок пусцеў, моршчыўся і, здаецца, радаваўся свайму спустошанню, а «самае прыгожае, цікавае і смачнае, што толькі можа быць на свеце» запаўняла стол са спрытам цыркавога фокусніка...

Зорачка была ў захапленні ад свайго «новага дзядуні», смяялася, пляскала ў ладкі ды ўсё паўтарала:

— Ой, якое прыгожае. Ясцэ, дзядуня, ясцэ...

На стале паказалася кароўка, галоўка гутаперчавай лялькі. На дне мяшка засталася толькі яго «кашэрная» ежа... Мяшок быў цяпер скамечаны ў блін.

І вось з твару старога Лейбы зышоў выраз здзіўлення і ўступіў чаргу выразу ціхай лагоды — гэта ўпершыню за апошнія гады.

— Мабыць, «той» так захацеў,— падумаў Лейба.— Тут ужо нічога не зробіш.

Пад словам «той» стары разумеў бога, ад якога яшчэ не адышоў, але ў яго ўяўленні і бог змяніўся разам з усім на свеце...

— Відаць, бог зміры́ўся. Ну дык і я тое самае...

Марцін і Мікола моўчкі глядзелі на старога і падміргвалі адзін аднаму. Без слоў:

— Глядзі, асвойваецца стары.

— Але.

Мікола заўважыў кавальскія рукі Лейбы — патрэсканыя, чорныя, з нарастамі мазалёў. Відаць, некалькі дзесяткаў год не выходзілі з іх мазалі.

Цёплая, сардэчная ўсмешка з'явілася на твары Міколы.

«Стары герб працы. Такі самы герб і на руках майго бацькі. Герб інтэрнацыянальны... Няма расавых адзнак».

— Глядзі, дзядуня,— усхапілася Зорачка.— Татка плісёў і дзядзька, яны глядзяць на нас і хочуць смяяцца...

— Хочам! — сказала Мэра, і ўсе засмяяліся. Віталіся са старым.

Лейба падняўся і паказаў пальцам на Міколу:

— Дык гэта Мікола? Муж маёй Соні?

— Гэты самы,— адказаў Мікола.
— А дзе цяпер Соня? — і палажыў руку на плячо Міколы.
Успомніў, што Мікола «гоі», і зняў руку...
— Соня госціць цяпер у маіх бацькоў,— адказаў Мікола.
— Кожнае дзіцё мае бацькоў, і ўсе бацькі маюць сваю бяду,— падумаў Лейба.— Можа, бацькі Міколы плакалі, што іх сын за жонку ўзяў нейкую яўрэйку...
Мікола пільна прыглядаўся да старога. Ён знаходзіў у рысах твару Лейбы, аброслага да самых вачэй сівізнаю, нешта агульнае з рысамі твару Соні...
Тым часам Лейба сказаў уголас:
— Ну што ж! Калі ты муж маёй дачкі, дык, значыць, ты мой сын. А калі ты мой сын, дык, значыць, ты паедзеш да мяне ў госці разам з імі (ён паказаў рукою на Марціна і Мэру).
— Добра, выбярэмся калі,— за ўсіх даў згоду Марцін.
І тут жа стары Лейба пашкадаваў, што прасіў іх у госці:
«Гэта ж местачковыя як пабачаць, як возьмуць на языкі».
Не дадумаў да канца. Нешта рашучае блiснула ў яго вачах. І ён сказаў голасам цвёрдым, як справядлівы гнеў:
— Абавязкова прыедзеце! Будзем чакаць. Старая вельмі прасіла...
На гэты раз ён схлусіў, бо старая аб гэтым яму нічога не казала.
Лейба зноў узяў да сябе на калені маленькую Зорачку і загаварыў сам з сабою на яўрэйскай мове голасам замовы:
— Зээр гут вос амэйдэлэ ун ніт аінгелэ. Мэдарф ніт махн абрыс. Гот гот дос гетон цуліб мір...[1]
— Рэйд ніт ідэш, татэ. С'паст ніт [2].
— Гаварыце, гаварыце па-яўрэйску,— схамянуўся Марцін.— Я ўсё разумею. Толькі мне самому гаварыць цяжка на гэтай мове.
— А я і гаварыць ад Соні навучыўся,— пахваліўся Мікола.
— Добра, сынкі, добра...

---

[1] Вельмі добра, што дзяўчынка, а не хлопчык. Непатрэбна абразанне. Бог гэта дзеля мяне зрабіў.
[2] Не гавары па-яўрэйску, тата. Не выпадае.

У Лейбы зноў з'явілася здзіўленне ў вачах.

«Нейкая блытаніна сярод народаў...»

Мэра мітусілася каля печы. Яна была заклапочана захаванай думкай:

— Ці тата будзе есці яе снеданне?..

Лейба аглядаў хату. У куце абразоў няма, але і «мэзузэ» [1] няма пры дзвярах... Нешта не тое ды не сёе...

У гэту хвіліну павольна адчыніліся дзверы. У хату ўсунуўся бокам маленькі сівы дзядок. Твар у глыбокіх маршчынах. Барада рэдкая і жаўтавата-белая. Гэта быў Марцінаў бацька.

— Я ўгледзеў, што свой чалавек ідзе,— пачаў старэнькі тоненькім пісклявым галаском, і вочы яго заслязіліся,— свой Лейба, дык я, казаў той, падумаў, што трэба прыйсці. Як жа ж, казаў той, не прыйдзеш?

Марцінаў бацька паглядзеў на кожнага паасобку і пачаў нешта засоўваць глыбей за пазуху.

— Дык чаго сядзіш, Лейба? Дай павітаемся. Ці ты мо..., казаў той, злуеш на мяне?.. Я ж не вінават. Свет такі настаў...

— Свет перакуліўся... — паправіў Лейба. Асцярожненька, нібы жбанок, поўны малака, паставіў унучку на падлогу і падняўся з месца.

Абодва дзяды павольна ішлі адзін да аднаго. Здавалася, што ногі іхнія наліты волавам. Твары сур'ёзныя і рашучасць у вачах. Можна было падумаць, што яны рыхтуюцца да бойкі альбо да такога нязвычнага ўчынку, ад якога зараз калі не ўвесь свет, дык, прынамсі, Марцінава хата перавернецца.

Можна было падумаць, што Марцін, Мэра і Мікола таксама рыхтуюцца да нечага незвычайнага, бо яны з вялікай зацікаўленасцю пазіраюць на абодвух дзядоў.

Сустрэліся дзяды пасярэдзіне хаты, падалі адзін аднаму рукі з такім выглядам, нібы яны два асілкі, якія за апошнія гады вельмі аслабелі...

— Сваток...— дрыжачым голасам прагаварыў Марцінаў бацька...— Сваток...

— Мэхутн,— паправіў бацька Мэры,— па нашаму гэта будзе мэхутн...

— Няхай сабе «хамуты», усё роўна, братку,— дадаў Марцінаў бацька.— Унучка ў нас адна — Зорка.

---

[1] Скрутак пергаміну з надпісам-замовай супраць «нячыстай сілы» ля дзвярэй яўрэйскіх памяшканняў.

— Сорка,— паправіў бацька Мэры.

Старыя абняліся і заплакалі.

Мікола і Марцін перамірґваліся. У вачах Мэры заблішчалі слёзы.

— Не хачу, каб плакалі дзяды,— прасіла Зорачка.

Дзяды супакоіліся, селі.

Марцінаў бацька з асаблівай урачыстасцю выцягнуў з-за пазухі пляшку гарэлкі, узмахнуў ёю супраць сонца, і ў бутэльцы закіпелі іскры.

Бацька Мэры падышоў да свайго мяшка, каб дастаць адтуль «кашэрную» закуску...

Стары Лейба быў усхваляваны. Думкі плылі шпарка адна за адной, як чаўны на рэчцы. Адна зыходзіла з поля ўяўлення, другая з'яўлялася.

«Новае сваяцтва (стары Лейба любіў мець як найбольш сваякоў)».

Ён пачаў лічыць:

«Марцін, Мікола, іхнія бацькі, маткі, браты, сёстры, дзядзькі, цёткі, стрыечныя браты...»

Закружылася галава:

«Я не адзінокі».

Успомніў Біблію:

«Першы яўрэй Абрам для свайго сына Ісака таксама ўзяў жонку не яўрэйку... А я тое самае раблю. Вось і аднолькавы пачатак і канец Бібліі...»

Тым часам Марцінаў бацька наліваў гарэлку ў чаркі і прыгаварываў:

— Казаў той, цікава жыць на свеце. Лейба, што там поркаешся ў мяшку?

<...> Цярэшка прыпадняў галаву, абапёрся вераценевай вастрынёй правага локця аб падатлівую мяккасць падушкі, пачаў прыслухоўвацца ў змрочнай духаце пакоя. Не чуваць прывычных ранічных гарадскіх гукаў: грукату калёс, людской хады і гутаркі, пераклікy гудкоў. Ён успомніў, што гасціць ў Курганішчы, у свайго стрыечнага брата Язэпа Крушынскага.

Праз шчыліну аканіцы цячэ сонечна-рыжая ручаінка раніцы. Яна дрыжыць у змроку пакоя светлай жылкай на чорным мармуры і перарэзвае наўскос мядзяным нажом дубовую шафу.

Цярэшка намацаў на крэсле гадзіннік і злавіў сеткай цыферблата сонечную палоску.

...Восьмая гадзіна раніцы. Пагодны дзень.

Узрадаваўся. Адчыніў аканіцу, а разам і акно.

У пакой хлынула сонца і свежае паветра.

Цярэшка хутка апрануўся і пабег да рэчкі мыцца. Млявасць паўзла па ўсім целе. Жмурыў вочы. Каля млына было некалькі завознікаў. Пахла каламаззю і свежым сенам. Адзін селянін з бялявымі вусамі, апушчанымі ўніз на рот, гнуўся пад мяшком збожжа, нёс па роўным дашчатым ганку ў адчыненыя дзверы млына. Твар селяніна чырванеў ад натугі. Дошкі рыпелі пад яго босымі нагамі. Другі селянін — нізенькі, сівенькі — падскочыў да яго і давай адной рукою падпіраць мяшок на спіне селяніна з бялявымі вусамі.

— Ну і дапамога,— пачуўся з-пад мяшка надрыўны хрыплаваты голас.— Ты скінеш мяшок. Глядзі, скінеш!

Каля ганка капаліся па-гаспадарску рупатлівыя вераб'і. <...>

Жоўты пясок каля рэчкі ахапіў немалы кавалак зямлі, вырваны ў паплавоў. Пясок пабялеў на сонцы і быў падобны да мукі. Цярэшка падышоў да развілістай вольхі, крануў рукою галінку. З яе нізіліся кроплі рознакаляровай расы.

Пасля купання вярнуўся ў хату. На стале чакала снеданне. Апрача пляменніц Настачкі і Мзей, нікога не было.

Настачка выцягнулася, вырасла і, як кажуць, не паводле гадоў разумненькая. Мзей даганяе сястрычку, пераймае ад яе і манеры і розум. Нават шапяляць кінула.

Настачка кажа да Цярэшкі сумным галаском:

— А мы дзядзьку чакаем.

Мзей паўтарае, і Цярэшку здаецца, што гэта водгалас Настачкі.

— А мы дзядзьку чакаем.

Дзяўчаткі ў адных і тых жа самых ружовых спаднічках з чорнымі гарошынкамі. Ручкі і ножкі загарэлыя на сонцы.

Вычышчаны да яркага бляску самавар шуміць, спявае тоненькім галаском і кашляе гарачым варам.

Цярэшка глядзіць на маўклівых дзяцей.

— Дзе ж гэта цёця з хлопчыкам?

— У млын пайшлі да таты.

— Чаму вы, дзеткі, не гуляеце?

— На нашага татку вясковыя дзеці ўчора казалі «сволач і кулак», бо татка багаты, бо млын мае. А мы — яго дзеці. Не хочуць гуляць з намі, бо мы — дзеці сволачы і кулака...

— А хто ж гэта іх так навучаў? — устрапянуўся Цярэшка.

— Не ведаем...

— Вось як...

Самавар паказвае яму скрыўлены выцягнуты твар з расшыранымі злоснымі вачыма.

Цярэшка маўчыць.

Праз акно лезе ў пакой разрэджанае сонца. Па кутках дрыжаць агнёвыя зайчыкі (водблескі шараванага самавара).

Дзеці глядзяць на Цярэшку пільнымі вачыма, чакаюць адказу ў яго вачах. Ён ад іх адварочваецца.

— Дык вы не гуляйце з тымі дзецьмі, а самі забаўляйцеся.

Настачка крывіць губкі:

— Ай, не хочам самі...

Цярэшка маўчыць.

— Татка нягодны. Нам бабулька Галавіха гаварыла, што татка нашу матку ў магілу ўвагнаў і ўзяў сабе гарадскую пантыплюшку...

— Не гаварыце глупства, дзеці!

Цярэшка без апетыту ўзяўся за снеданне.

## 11

## СПРАВЫ СЕЛЬСАВЕТА

Мікола накіраваўся ў сельсавет. За гэтыя некалькі дзён, што ён жыве ў шваграа, пазнаёміўся з рознымі людзьмі. Тут цэнтр яго ўвагі — сельсавет. Часта прыходзіць да Міколы нейкі дзівацкі стары пад мянушкаю «Леў Талстой» са сшыткамі смешных твораў, у якіх, аднак, шмат цікавага. Сяляне скардзяцца, што ў млыне Язэпа Крушынскага пруская вага падгульвае. Праз меру многа бяруць на «фунты». Кажуць, што ледзь не дзень у дзень Слуп і Бочка возяць вазамі ў Мінск прыватным пекарам пшанічнай і жытняй мукі.

Сонца пячэ. Яно вандруе па пустэчы неахопнага блакіту і заглядае няўтомным агнёвым вокам ва ўсе куткі і шчыліны. Цень самы кароткі і празрысты. Пахне жывіцай, мурагом і распаранай сонцам глебай. Бзынкаюць мухі. Дзе-нідзе па полі сустракаюцца курганы розных памераў і форм. Яны адпачываюць нерухома сярод абшараў

дагістарычнымі мастадонтамі. Вакол, куды ні кінеш вокам, даспявае жыта. Дзе-нідзе зялёны шоўк аўсоў. На курганах і полі тэлеграфныя і тэлефонныя слупы. На нацягнутых бліскучых дратах — вераб'і. Над вясковымі хатамі калі-нікалі сустрэнеш шасткі радыё.

Каля самага лесу пасуцца каровы. На паваленым пні сядзіць пастушок. Сядзіць моўчкі, скурчыўся. Нібы ў зямлю пад свае босыя ногі пільна ўглядаецца. Можа, назірае над бронзавымі мурашкамі ці над сабачымі грыбамі. Чамусьці пастушок не дзьме ў традыцыйную жалейку, апавяную на ўсе лады беларускімі песнярамі старэйшага пакалення.

Можа, пастушок копыкі пляце або лапці? Не. Не рухае рукамі. Доўга ўглядаецца Мікола здалёку на яго скламачаную кучаравую галаву з палінялымі ад сонца валасамі. Зацікавіўся, падышоў бліжэй.

— Кніжку чытае,— узрадаваўся Мікола,— піянерскую кніжку.

Пастушок зірнуў на Міколу.

У хлапца звужаныя ад сонца зрэнкі, жмурыць вочы на Міколу.

— Чытаеш?

— Чытаю.

Два словы дзвюх істот, якія толькі што сустрэліся, а даўным-даўно знаёмы і блізкі...

Мікола адышоў. Жоўтае карэнне дрэў вылазіла з-пад зямлі, як электрычны кабель. Купкі сухога сіўца бялеліся вакол вялізнымі барадаўкамі.

А вось белыя хутаркі, новыя творы прышчэпаўшчыны. Воддаль старыя гайдачанскія хаты.

Кроплі поту блішчалі на лбе Міколы, пакуль дабраўся да сельсавета. Над ганкам на паіржавелым цвіку visіць наўскос вывеска:

*ГАЙДАЧАНСКІ СЕЛЬСАВЕТ*

«І вывеска паказвае, што тут справы ідуць няроўна»,— жартаўліва падумаў Мікола.

Першае, што ён у хаце сустрэў, яго здзівіла: каля печы завіхалася разрумяненая ад гарачыні жанчына. Яна садзіла хлеб у печ. Дружным хорам гулі мухі. Чорным воблакам яны кружыліся пад столлю, над сталом, каля печы. На Міколава «дзень добры» жанчына не адказала.

Мікола збянтэжыўся.

«Можа, не сюды папаў?»

Дзверы вялі ў другі пакой — у святліцу. Пачуў адтуль гул галасоў. Адчыніў дзверы і ўвайшоў.

«Так і ёсць. Сельсавет...»

Каля адзінага доўгага стала стаіць некалькі чалавек. Некалькі сядзяць на доўгай лаве ля сцяны.

Старшыня разглядае пошту, сакратар — маладая жанчына — раскладвае стопкі картак, выбірае адны, адкладае, нешта ўпісвае ў іншыя і зноў бярэцца за першыя. Выглядае здалёку, нібы яна варожыць на карты.

Перад ёю сціртачкі картак — вёскі і хутары, кожная картка — гаспадарка, на картках рубрыкі, клеткі, лініі, лічбы.

Гайдачанскіх сельсаветчыкаў Мікола бачыць упершыню, але паводле таго, як яны абмаляваны перад ім Антосем Драчыкам, ён іх адразу пазнае...

На тварах старшыні і сакратара стомленасць. Бледныя твары. Пад вачыма шэрыя кругі. Нервознасць у рухах.

— А-а-а... таварыш.

Старшыня падняўся са свайго месца і хацеў загаварыць да Міколы, як да знаёмага, але зараз жа папраміўся:

— Хто вы такі будзеце, таварыш? Па якіх справах?

Жанчына-сакратар зірнула на яго з-пад ілба і левай рукой паправіла стрыжку.

— Я з Мінска.

Мікола выняў з кішэні паперку і падаў старшыні.

Старшыня толькі зірнуў на пасведчанне рэдакцыі «Звязды» і зараз жа вярнуў назад, нібы раней яе чытаў.

Бацька Марціна яшчэ ўчора пахваліўся перад ім, хто такі Мікола і чаго ён сюды прыехаў. Ведаў старшыня, што Мікола шмат з кім ужо бачыўся...

Угодлівым голасам:

— Садзіцеся, тав. Ярэмчык. Праз гадзіну кончу справы, а пасля мы пагаворым. А ты, Анкуд (да босага селяніна, які сядзеў на лаве каля самых дзвярэй), зачыні дзверы, а то мухі адтуль налятуць. Ад іх паратунку няма.

— Вось тут садзецеся, тав. Ярэмчык! — старшыня паказаў месца каля сябе пры стале.— Мы ад удавы арандуем гэты пакой пад сельсавет. Пяць рублёў у месяц.

У голасе, у твары дображаданне тлумачыць, інфармаваць, дапамагаць у карэспандэнцкай справе Міколы чым

толькі можа. Старшыні прыемна. Гэта відаць з яго карых вачэй: «жартачкі, таварыш з Мінска, ад «Звязды»...»

— Паратунку няма ад гэтых мух! — тлусты дзякаўскі басок.

Гэта Анкуд, які зачыніў дзверы, каб бараніць сельсавет ад мух. Ён паадчыняе вокны.

— Праз вокны, можа, вылятуць на двор,— кажа ён з абурэннем і глядзіць на Міколу.

У Анкуда рыжая бародка клінам, твар у рабацэнні, хітрыя, прыжмураныя ад сонца вочы. У босых нагах з крывымі запэцканымі ў гнаі пальцамі хлапцоўскі спрыт.

— Дык вы працуйце, таварыш старшыня, перашкаджаць не буду,— сказаў Мікола і пачаў адным вухам лавіць сялянскае шушуканне.

«Як бы ўсе тут баяцца мяне»,— падумаў ён.

Стала непрыемна.

«Няўжо ж усе яны гадунцы Крушынскага?»

Струмень чыстага паветра з адчыненых акон казлытаў ноздры. Зашалясцелі на стале паперы. Жанчына прыціснула рукою карткі, якія ветрам растрэсліся ва ўсе бакі, і крыкнула «ай» такім голасам, што ўсе засмяяліся.

Зачынілі вокны. З пакоя гаспадыні запахла свежым хлебам. Пачуўся шэпт:

— Можа, што і выйдзе.

— А хто яго ведае!

— Мы з ім пасля пагаворым аб усім, што ў нас робіцца.

— Хіба што! Дагэтуль і носа ніхто сюды не паказваў.

— Не перашкаджайце! — пачуўся трэці голас.

Мікола запрыкмеціў. Двое, якія гутараць між сабою, сядзяць у расхрыстаных кашулях. Галовы ў іх потныя, ускалмачаныя. Адзін, малодшы, з шэрымі вачыма, з гладкім даўгаватым тварам. Другі, старэйшы, голены, з глыбокай маршчынай на лбе. Лупавокі. Простая дзіцячая ўсмешка. «Цяжка здагадацца, аб чым гэта яны мяркуюць»,— думае Мікола.

Агледзеўшы ўсіх сялян, ён зварочвае ўвагу на адну маладую пару — дзецюка і дзяўчыну. Яны вызначаюцца сваім урачыстым выглядам і святочнай вопраткай. Нецярпліва чакаюць. Да таго пацеюць і чырванеюць, нібы толькі што ў лазні парыліся. Шэпчуцца між сабою нячутна — на вуха адзін аднаму. Час ад часу паглядаюць у бок старшыні такімі вачыма, нібы ён павінен іх выратаваць з вялікай бяды.

Нарэшце хлопец нецярпліва звярнуўся да старшыні:

— Дык можна ўжо?

— Можна,— радасным голасам кажа старшыня. Да Міколы: — Жэняцца яны, тав. Ярэмчык, па-новаму, без папоўскага шлюбу. Наша, так сказаць, перамога па культурным, так сказаць, фронце.— Зноў да маладых: — Няма спешкі. Ночы цяпер усё роўна кароткія.— Сам хіхікае на сваю трафарэтную дасціпнасць, адтапырвае тоўстыя губы.

«Няйначай старшыня хоча перада мною пахваліцца чырвоным вяселлем».

Усё ў старшыні ў круглых формах: галава, шчокі, плечы пад сацінавай чорнай касавароткай, а на стомленым твары ўсмешка захаванай перамогі. Ён чамусьці вельмі рад і не можа схаваць сваёй радасці. Ён пільна пераглядае паперы маладых і давай сам рыхтаваць новы дакумент.

Маладая аказалася непісьменнай.

— Вось табе і культурны фронт! — нехаця вырвалася ў Міколы.— Што робяць вашы лікпункты?

Пачырванеў старшыня. Нібы папаўся пры кепскім учынку. Пачырванела маладая.

— Вось і стаў крыжыкі на дакуменце,— стыдзіў старшыня маладую,— вось і стаў.

— Не маю калі вучыцца, працаваць трэба,— адказвае маладая.

На тэму жаніцьбы і граматы сяляне пачалі апавядаць вясёлыя анекдоты. Гуллівыя смешкі, развязаліся языкі. Успамінаюць і айца Дзімітрыя.

Тут жа адчыняюцца дзверы, і сам айцец ва ўсёй сваёй духоўнай красе ўваходзіць у сельсавет.

Невысокі, шырокі ў плячах, айцец на нікога не глядзіць, метравымі крокамі падыходзіць да старшыні. Пасобныя кусткі рэдкіх рыжаватых валасоў на яго твары зleплены ад поту. Чырвоныя тонкія губы сціснуты.

Старшыня пабляднеў. Вочы пацямнелі. Ён заёрзаў на лаве так нецярпліва, нібы пробаваў шараваць сасновую дошку.

— Як наўмысля сягоння,— ледзь не вырваўся ў яго злосны крык. Ён насупіўся. Разявіў рот і глядзеў на папа як на здань.

— Ці вырашана справа з маім агародам? — пытаецца айцец з ноткамі далікатнай просьбы ў металёва-басовым голасе.

— Заўтра, бацюшка, заўтра аб гэтым пагаворым,— вырваўся ў старшыні не то крык, не то стогн.

— Вы ж абяцаліся ўсё сягоння закончыць.

Металёва-басовыя пералівы пераходзяць у альтовыя выкрыкі.

Даўгаваты нос айца з чулымі ноздрамі ў кроплях поту, як у расе.

— Заўтра, бацюшка, заўтра,— шапоча старшыня і так глядзіць на папа, нібы просіць, каб той выцягнуў яго з глыбокага віру.

Айцец разумее. Не сказаўшы больш ні слова, выходзіць з сельсавета.

Мікола ўсміхаецца. Зноў чуе ранейшы суфлёрскі шэпт:

— Поп у нас у пашане. Ён і гэтых маладых потайкам ужо павянчаў.

— Яшчэ не тое ўгледзіць у нас таварыш з Мінска.

Гаварылі тыя самыя два ў расхрыстаных кашулях.

Пад столлю плойма мух. Сяляне падыходзяць па розных справах. Старшыня ветлівы, лагодны. Міколе падсоўвае «Праўду», нібы дзіцяці пернік.

— Пакуль што, так сказаць, чытайце...

Мікола прымае газету і прыслухоўваецца да сялянскіх спраў, каб у іх улавіць тое, чаго тут шукае — здаровых думак і ўчынкаў беднаты. Усё ідзе гладка, лёгка, як воз па добрай грэблі. Мікола разумее: «падрыхтавана раней для мяне. Толькі айцец сапсуў музыку...»

Старшыня часта скосу пазірае на Міколу за газетную заслону.

Кульгаючы, уваходзіць Антон Драчык.

— Люблю шчырасць, таварыш Мікола! — крыкнуў ён свой стары лозунг.— Можаце мяне лаяць! Кінуў працу ў камуне і прыбег сюды! Я так і ведаў, што вы тут будзеце сягоння. Люблю праўду! Матэрыялу для вас — во-о-о!

Драчык разгарнуў рукі на ўсю шырыню, каб паказаць, колькі будзе для газеты матэрыялу.

У старшыні прыкметна дрыжаць пальцы. Сакратар нервова ўткнуўся пяром у карткі, нібы хоча іх пракалоць, як шылам.

Усю ноч перад гэтым сельсаветчыкі не спалі. Даведаліся, што «нехта» з Мінска прыехаў, «нейкі партыец Ярэмчык». Паслалі сваіх на разведку: гэты «нехта» вельмі цікавіцца ўсім, што тут робіцца, запісвае ў кніжку, а потым...

Галоўныя справы сельсавета пераваидравалі на хутарок да старшыні.

Многакаляровая дуга вясёлкі ахапіла тады паўнеба. З вышыні нізіўся лагодны дождж ык. Было перад заходам сонца. Кроплі падалі яркія і буйныя, хоць ты іх лічы на ляту. Дождж ык быў цёплы. Куры спакойна спацыравалі па двары, і кроплі расплываліся на іхніх пер'ях цемнаватымі плямінкамі. Але цяжка было на душы ў старшыні. Не хацелася папасці ў газету. Ён, саракагадовы чалавек, толькі нядаўна ажаніўся. Узяў за жонку дачку аднаго з самых моцных тутэйшых гаспадароў. Толькі жыць пачынае, а вось трывожаць...

Перад тым як пералічыць недахопы «свайго» сельсавета, старшыні прыйшлося зрабіць часовы эксперымент над самім сабою: пераставіць наадварот стрэлку сваіх уласных перакананняў. Зрабіўшы гэта, ён пачаў удумвацца: «У багатых утоена шмат зямлі, не ўпісаны поўнасцю лік жывёлы, кааператыў выдае тавар каму хоча і колькі хоча (багатым), з фунтамі ў млыне Крушынскага. Калі будуецца школа, дык хто возіць лес: бяднейшыя».

Пунктаў абвінавачвання ў яго шмат.

«Як іх утоіш за адну ноч?»

Нават есці не хочацца. Аслабаніў стол ад хатніх рэчаў, і вось на ім сельсавецкія справы.

Калі добра сцямнела, прыбег і «сам» — Язэп Крушынскі.

— Ну як?

— А так!

— Злавацца, дружа, няма чаго.

Лысіна Крушынскага блішчала, нібы пакрытая лакам. Твар быў спакойны.

— Паслухай лепш, што чалавек табе кажа. Блыха цябе ўкусіла, а ты думаеш — мядзведзь. Памятай адно — кулакоў у нас няма. Так і кажы, часта паўтарай, каб «яму» гэта ў мазгі ўлезла.

— А калі «ён» пра цябе запытаецца?

— Пра мяне?! — Крушынскі засмяяўся. Вадзіў вусамі, як таракан.— Я культурны селянін, рэвалюцыянер 1905 г., чырвоны партызан пры белапольскай акупацыі. У сельсавеце ёсць тая «Беларуская вёска» з артыкулам аба мне ды з маім партрэтам?

— Ёсць.

— Вось і добра, калі што якое, тыцні ў вочы гэтай газецінай.

Старшыня пачаў супакойвацца. Крушынскі настаўляў далей:

— Там кааперацыя ды іншыя такія справы — плюнь! Ты не адказваеш, ты не ведаеш. Няхай заўтра збярэцца ў сельсавеце пабольш сваіх. Ты ім, здаецца, паказаў? Чырвонае вяселле заўтра? — дзела! Вось і новы быт! За гэта цябе паважаю.

Крушынскі моцна апусціў руку на яго плечы. Старшыня падбадзёрыўся.

— А што варта наша вылучэнка? Жартачкі, жанчына сакратаром сельсавета! Дзівак ты, калі баішся нейкага там карэспандэнта з Мінска. Наш сельсавет на першым месцы ў раёне! Эх ты, варона!

— Дык, можа, вып'ем, га? — расхаробрыўся старшыня.

— Гэта па сягоння будзе залішняе. Ты свае там шпаргалкі добра прагледзь з чыстай галавой! А то... Толькі не бойся, дружа!

Крушынскі пайшоў дадому.

«У нашым сельсавеце кулакоў няма»,— звінела ў вушах старшыні настаўленне Язэпа Крушынскага прыемнай музыкай.

На гэты раз вокны былі заслонены тканінамі, каб з двара не відаць было святла лямпы... Старшыня і сакратар працавалі з незвычайным імпэтам. Скрыпелі пер'і, шалясцелі паперы і паперкі — рэвізія. Вочы былі апушчаны ўніз: смагла, нібы п'яўкі, упіваліся ў лічбы, пальцы з асаблівай гарачкай перагортвалі купкі папяровага снегу, шукалі, знаходзілі. Учытваліся, раіліся, меркавалі, і ніколі такой салодкай і страшэннай ім не была канцылярская праца. Мухі гулі над гарачым шклом лямпы, смажыліся ў «Этне» газавага кнота, а сельсаветчыкі гарэлі на сваім уласным агні.

«У нашым сельсавеце кулакоў няма»,— скрыпелі пер'і і іерогліфамі адзначалі тое самае чарнільныя кляксы.

Плыла цішыня ночы па палях і лясах, спынялася над хутарам змрочнай хваляй і забірала на сваіх грэбнях скрыпы пер'яў, шалясценне паперы і шэпты людзей. На двары заспяваў певень, за ім другі, трэці.

Старшыня ўздрыгануўся. І ў «кукарэку» чуў ён галюцынацыю слоў:

«У нашым сельсавеце...»

Спіны, рукі і вочы смактала зморанасць. Старшыня зрабіўся шэрым, сакратар моргаў вачыма, нібы ў іх папаў пясок. Толькі пад раніцу яны агледзеліся, што на адных

і тых самых паперах неаднолькавы атрамант. У сельсавеце пішуць сінім, а тут выпраўлялі чорным...

Калі зарыпеў асвер над студняй, старшыня загасіў лямпу і зняў з акон тканіны. Было зусім відна. Дзесьці блізка стагнала птушка. Усходняя палоска неба палала нізка над лесам чырвоным шоўкам.

## 12

## ЛІРЫКА І АТРУТА

Пасля снедання трэба паглядзець на «дзяцей свайго творчага духу». Вось яны спяць на стале — у пялёнках шырокай папкі.

Вершы.

Кожны на лістку белай гладкай паперы. Пад кожным дата і назва мясцовасці — Курганішча.

Вось і новы зборнік...

Курганішча ўдалае для Цярэшкі месца. На гэтым Парнасе можна вывучаць заход і ўсход сонца, рух, формы і колеры воблакаў, шапаценне лісцяў на дрэвах, спевы птушак над рэчкай, сум курганаў, тут можна назіраць над фазамі месяца. Тут адчуваеш пах першабытных часоў, эмоцыю яды і кахання...

Вось і зборнік лірыкі, сад беларускага Рабіндраната Тагора, хлопчыкі і дзяўчаткі ў васільковых гірляндах цярэшкінскага натхнення.

Мускулы і косці ім надасць крытык Алалоўнік пад псеўданімам Гайдач.

Да чарговага юбілею ім падаруе чырвоныя сарочкі юбілейны прафесар ад літаратуры, тоўсты і лысы, з жабінымі вачыма і жабіным квохканнем. Ён знойдзе ў гэтых рахітыкаў тое, чаго зусім няма.

Зборнік лірыкі з Курганішча.

За гэты месяц, што Цярэшка тут жыве, ён зусім забыўся пра кіпучае жыццё ў горадзе і нават пра навакольнае тутэйшае жыццё.

Чалавек без знакаў прыпынку з выглядам савы і мудрасцю яе не раз гаварыў Цярэшку:

— Класавае змаганне — штучна прыдуманая рэч.

І вось жыццё заслонена перад Цярэшкай тканінай старадаўняй лірыкі, якую ён тут, у Курганішчы, тчэ на «надкласавых» кроснах.

Калі часам Крушынскі гаворыць яму пра свае трывогі, Цярэшка прапускае гэта міма вушэй.

Цярэшка лічыць стары быт вёскі непарушным, як тутэйшыя курганы, аброслыя дубамі.

Адзіныя, з якімі ён тут, у Курганішчы, мае сувязь, гэта Галава і Сухарукі, дзяды Драздоў і Дзятлаў. Яны для песняра сімвал старой Беларусі. Для аддзела этнаграфіі ў Інбелкульце яны — скарб. Цярэшка запісвае з іх вуснаў казкі. Ён праз меру любіць гэта.

Сягоння ён тут апошні дзень. Увечары едзе ў Мінск. Трэба яшчэ запісаць пару казак.

Бярэ хімічны аловак і тоўсты сшытак паперы. Настачка і Мзей уюнамі каля яго.

— Пойдзем, дзеткі, паслухаць казкі ад старых.

— Не хачу,— кажа Настачка, а за ёю і Мзей.

— Чаму?

— Настаўнік гаварыў, што гэтыя байкі не варта слухаць дзецям.

— Гыш ты! — Смех Цярэшкі злы і нервовы.— Да дзяцей дабраліся.

Вогненным мядзведзем сонца ўзвалілася на Курганішча.

Па дзядзінцу босай нагой не ступіш, пясок — прысак.

Цярэшка насунуў на лоб белую кепку і пайшоў млявым крокам у бок Драздоў і Дзятлаў. Некалькі дзён не быў у Галавы і Сухарукага. У апошні раз Галава скардзіўся на здароўе:

— Нешта сярэдзіна баліць!

Цярэшка ідзе пясчанай дарогай. Далягляд атулены жоўтай заслонай узгорка, які лёг грудзьмі папярок дарогі. З таго боку ўзгорка чуваць не то пчаліны гуд, не то людскія галасы ў працяглым урачыстым спеве.

Цярэшка прырос вачыма да ўзгорка.

На самым пуку ўзгорка, абапал дарогі, растуць прысадзістыя хвоі, выставілі ў прастор распаленага неба дзесяткі рук-сукоў і выдаюць гэты цуд. Яны, дрэвы,— жывыя істоты.

У гэту ж хвіліну Цярэшка глядзіць на сябе збоку і любуецца сабою: ён так пранікся беларускай міфалогіяй, ажна кожны куток прыроды напаўняе жывымі фантастычнымі істотамі, як старадаўні крывіч...

Уносіць гэты вобраз у кніжку і павольна ідзе наперад. Гукі растуць з кожным крокам. Як бы з-пад зямлі, з таго боку ўзгорка ўзнімаліся людскія галовы. Праз хвіліну

вырас цэлы гурт людзей без шапак. На фоне неба яны нагадваюць малюнак Чурлёніса. Спераду адзін у белым нясе крыж. За ім на руках чатырох сялян гойдаецца труна.

Цярэшка пазнае Драздоў і Дзятлаў, айца Дзімітрыя, побач — Слуп і Бочка.

— Хто памёр?

— Галава.

— А я ж іду да яго...

— Спазніўся,— смяецца Бочка.

— Вось ён у труне,— жартуе Слуп.

Галавіха не то галосіць, не то спявае. Сухарукі — побач з труною, нібы сваёй чаргі чакае.

Да магільніка недалёка. Цярэшка ідзе разам з усімі. На яго нападае сум.

«Паміраe беларуская казка. Трэба на гэту тэму верш напісаць...

Вось табе і непарушнасць казкі... Маладыя забываюць яе, і Настачка слухаць не хоча... Мая пляменніца».

Магільнік заслонены хмызняком. Людзі разапрэлі ад гарачыні. Непрыемны пах чалавечага поту.

Затое Цярэшка будзе запісваць хаўтурнае галошанне Галавіхі.

Цярэшка глядзіць, як сонца грае на труне вясёлымі іскрамі.

Тым часам айцец Дзімітры міргае да яго адным вокам, хітрым і непрыкметным для іншых. Ведае Цярэшка значэнне гэтага падміргвання.

— Сягоння яшчэ з інтэлігентным чалавекам не пагаварыў пры традыцыйнай бутэльцы Язэпа Сымонавіча Крушынскага.

У гэты час страшная думка маланкаю асвяціла мозг Цярэшкі:

— Можа, я са сваёй міфалогіяй твань і гніль пад нагамі «тых».

У яго вачах спалох.

Ён уцягвае ноздрамі пах хваёвай жывіцы.

Апрача Анкуда, у сельсавеце няма «чужых». Старшыня папрасіў «не перашкаджаць». Паміж Міколай і старшынёй адбываецца лагодная гутарка, са спынкамі, з зазіраннем адзін аднаму ў вочы. Сакратар і Драчык прыслухоўваюцца. Гутарка плыве мірна, камені падазронасці не затрымліваюць яе роўнай хады.

Старшыня падсоўвае Міколе армію папер з лічбамі, калёнкамі і клеткамі ведамасцей. У сакратара напагатове сельсавецкія картачкі.

Мала заглядае туды Мікола.

Пасмялеў старшыня. Глядзіць на Міколу, як старэйшы на малодшага, часта пазяхае і далонню рот засланяе.

«Не так страшан чорт, як яго малююць».

У старшыні адна прыпеўка:

— У нашым сельсавеце няма кулакоў.

Драчык глядзіць убок, профіль яго затулены рукою. Не ведае старшыня, якое ўражанне на «яго» робіць прыпеўка, і ледзь прыкметная маршчынка мільгае ў вуглах яго губ.

Анкуд стараецца ўсімі сіламі дасягнуць такога ідэалу, каб усіх мух павыганяць з пакоя. Ён адчыняе акно і шапкай махае ў паветры.

— Паратунку ад вас няма! — злуецца Анкуд.

Немаведама ад каго няма паратунку: ад мух, ад старшыні, ад Міколы.

Калі-нікалі Мікола нешта ўпісвае ў блакнот. Старшыня адным вокам глядзіць на незразумелыя круцёлкі.

«У гэтых круцёлках, нібы ў сетцы рыбалова, тузгаецца мой лёс, як акунёк, толькі што з вады выцягнуты...»

Па інтанацыі голасу Міколы старшыня стараецца даведацца пра свой лёс. Голас роўны, лагодны, упэўнены, але без водгукаў пагрозы.

Па выразу твару Міколы ён пачынае хіраманцкую варажбу пра сваю будучыню. У твары Міколы — моладасць, бадзёрасць, прастата. Вочы такія шчырыя...

«Можа, у шчырасці «яго» вачэй небяспека для мяне?.. «Ён» шчыры, як малое дзіця...»

— А Язэп Крушынскі таксама не кулак? — Тут у Міколы вылазіць наверх не то нервовасць, не то нецярплівасць. Ён проста зазірае ў стомленыя вочы старшыні.

Такі ж «просты» адказ. Крушынскі — галоўны козыр у руках старшыні.

— Ён культурны гаспадар.

Старшыня доўга шукае ў паперах, у папках. Бровы дужкамі ўзлётваюць над вачыма, апускаюцца. Ведае, дзе ляжыць патрэбная папера, але адцягвае драматычны эфект. Наўмысне шукае. Шалясцяць лісткі, нібы бярозавае лісце ўвосені. Нарэшце знаходзіць. Яго вочы ззяюць расплаўленым металам.

— Вот...

Падае Міколу выразку з газеты «Беларуская вёска» за 1924 год.

— Чытайце, тав. Ярэмчык.

Мікола чытае надрукаваны артыкульчык пра «культурную» гаспадарку Крушынскага, глядзіць на яго партрэт.

— Добры партрэт,— кажа Мікола.

Драчык ускоквае з месца. Яго твар буры ад злосці.

— Люблю шчырасць! Лоўка напісана.

І ён малюе ў кароткіх словах новы партрэт:

— Крушынскі — канакрад, кантрабандыст, эксплуататар чужой працы, фабрыку-млын мае! І г. д., і г. д.

— Ведаю,— супакойвае яго Мікола.— Ведаю...

У старшыні кроплі поту на лбе і дрыжыкі ў руках. Ён успамінае той час, калі быў фельдфебелем. Аднаго разу моцна збіў маладога белабрысага салдата за тое, што той быў слаб у «славеснасці». У таго кроў з носа пацякла. Вось, каб так цяпер «гэтых».

— Я тут даведаўся, але чаму таварыш Драчык да гэтага часу маўчаў? — дзівіцца Мікола.

— Я не маўчаў і не маўчу. На ўсіх сходах гавару. Праўду люблю. Пісаў у раён. Ніякіх вынікаў. У Крушынскага ўсюды свае людзі. Гэта такая хітрая сволач, што...

Драчык хвалюецца, стукае сябе кулаком у грудзі. Вочы гараць. З кожным словам яго голас расце, вырастае ў крык:

— Заўсёды выкручваецца. А мала іх у нас, Крушынскіх featured рознага выгляду? Ці не сябар Крушынскага даў мне калом па галаве, ад чаго я аглух на адно вуха? А ў новых пасёлках мала кулакоў? Іх усіх адгэтуль трэба жалезнай мятлой!

Мікола глядзіць на Драчыка, і радасць свеціцца ў яго вачах. Ледзь стрымліваецца, каб не крычаць разам з Драчыкам.

З шэрых вачэй Драчыка сыплюцца іскры. Ён падымаецца з лавы, нібы хоча пайсці з сельсавета, зноў садзіцца, выцірае губы і зноў:

— Не я адзін так гавару... Многія, але я павінен канстатаваць той факт, што...

Анкуд спыніў вайну з мухамі і наставіў зацікаўленыя вочы ў самы рот Драчыка. Рыжая бародка Анкуда гарыць на сонцы, як пучка чырвонага дроту. Рот у яго адчыняецца і зачыняецца, нібы пробуе сілу сківаіц. Блішчаць

белыя зубы. Мухі, як звар'яцелыя, сваволяць пад столлю. Пахне печаным хлебам.

Залацісты слупок сонца соваецца ад акна папярок пакоя. У ім мільёны драбнюткіх пылінак верцяцца, кружацца, рухаюцца.

Мікола вяртаецца дадому.

На скошаных паплавах сквіргочуць стрыгунчыкі, нібы сотні танюсенькіх пілак грызуць жалеза. Цені даўжэюць. Круглы чырвоны дыск сонца вісіць над самым лесам.

Толькі адзін раз у памяці Міколы яшчаркай мігатнулася перасцярога Драчыка.

— Асцерагайся, братку. Ты не ведаеш Крушынскага. У яго тут нямала рук.

Мікола зараз жа пра гэта забыўся. Ішоў не гасцінцам, а воддаль сцежкай. Рэчка ўрэзалася ў гасцінец бліскучай дугою.

У некаторых вокнах Драздоў і Дзятлаў разгортваюцца снапы сонечнага захаду. Вее халадком.

З-за касагору паказаўся чалавек у белай сарочцы. Мікола зацікавіўся. У хадзе гэтага чалавека, які па-ваеннаму махае рукамі, ён успамінае нешта знаёмае. Як той падышоў бліжэй, Мікола пазнаў: паэт Цярэшка.

— А-а-а... як маецеся, тав. Ярэмчык? Надоўга?

— Сягоння еду ў Мінск. Цэлы месяц тут адпачываў. А вы?

— Прыехаў на некалькі дзён па розных справах.

Па твары Цярэшкі зазмяіўся цень.

Прысадзісты, з шырокім рабым тварам (сляды воспы) чалавек звоніць па тэлефоне. Твар яго бледны. Часта трэ рукою сухі лоб. Чалавеку здаецца, што ўспацеў. Вочы ўтаропіліся ў рукапісную газету, прышпіленую кнопкамі да сцяны, і нецярпліва чакаюць адказу. Дрыжыць тэлефонная трубка ля яго вуха. Пальцы пабялелі ад таго, што моцна сціснулі трубку. Зараз бразне ёю аб стол, не сцерпіць, і з яго сціснутых губ сарвецца лаянка — моцная, злосная.

Не. Стрымліваецца.

Звоніць у адно месца, другое, трэцяе.

Ніякага адказу.

— Ах, ч-ч-орт!

Губы крывяцца ў злую іронію, вочы цямнеюць, увесь

ён да таго напружаны, што зараз тупне нагою, моцна тупне, ажна клубнае піяніна застогне ўсімі струнамі.

— Што рабіць? Ну ш-ш-што?

Грудны голас з самага нутра.

Ярка свеціць электрычная лямпачка. Чалавек нядаўна патушыў іншыя лямпачкі ў клубе — эканомія. Пры ўсёй вялікай трывозе ён аб гэтым не забыўся. Побач на сцяне, абвешанай лозунгамі, дыяграмамі, плакатамі і партрэтамі, цень чалавека. Каб акрэсліць вуглем, выйдзе чоткі профіль з завостраным носам і характэрнай напружанай лініяй барады, і кожны пазнае ў гэтым профілі старшыню камуны «Чырвоны Кастрычнік» — таварыша Шаневіча.

Адчуваецца, што ў клубе адбылася толькі што вялікая сумяціца, крэслы парассованы, адно ляжыць бокам, ножкі яго выцягнуты ўбок, нібы ў аглушанай ад сполаху жывёлы. Дзверы парасчынены. Толькі што тут быў цэлы гурт людзей, толькі што сцены ўсмактвалі ў сябе іхнія разнастайныя галасы, толькі што па падлозе чуваць быў стукат сотні ног, толькі што...

Цярпліва маўчыць у чаканні таварыш Шаневіч.

— Паснулі яны ўсе, ч-ч-орт іх падзяры!

Голас адчаю стрымліваецца, бо калі не будзеш стрымлівацца, дык... Але Шаневіч заўсёды такі — спакойны тады, калі іншыя хвалююцца і рвуць на сабе валасы.

Глядзіць на гадзіннік.

— Без пятнаццаці хвілін дванаццаць. Не дзіва, што ва ўстановах раёна нікога няма.

Зноў звоніць.

На гэты раз:

— Міліцыя! Адкуль?

— З камуны «Чырвоны Кастрычнік».

— Слухаю.

— Няшчасце ў нас. Коней атруцілі. Зараз жа сюды ветэрынара і міліцыю!

Летняя цёплая ноч са сквіргатаннем старыгунчыкаў кудысьці адплыла адгэтуль на вялізным караблі. Ніхто яе не заўважае.

Трывога расце веерам — вузкім у клубе, дзе Шаневіч званіў у раён, шырэйшым на дзядзінцы і самым шырокім у канюшні, дзе мучаюцца ў сутаргах атручаныя коні.

З дзядзінца гул галасоў урываецца праз вокны ў клуб, захлёствае вялізны пакой трывожным прылівам.

Шаневіч трэ рукамі сухі лоб і выходзіць на двор. Усё

гэта напамінае Шаневічу той час, калі колькі год таму назад было падпалена камунарскае гумно.

У цёмна-сінім бяздоннi неба падміргваюць адны адным прамяністыя кропкі зорак. Нібы аганькі караблёў у моры. І тады, пры падпале гумна, была такая ж ноч.

Людзі не прыкмячалі яе тады, як і цяперашнюю ноч. Трывожны гул перакідваецца па дзядзінцы з месца на месца. Рыпаюць дзверы. Тупаюць ногі. Бягом мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці.

Трывога.

З вуснаў лезуць, ірвуцца гранатамі незвычайныя ў штодзённым жыцці камуны словы.

Шаневіч не прыслухоўваецца, але злосныя словы, крыкі абурэння і гневу самі лезуць у яго вушы вострымі і доўгімі ганталямі. Ён многіх пераганяе, а здаецца, ідзе так павольна... Некаторыя ўступаюць яму дарогу.

Лагодна просіць:

— Супакойцеся, таварышы... Не хвалявацца і не тупацца без толку...

Устрывожаны вулей гудзе:

— Чулі?

— А-я-яй, што ж гэта будзе?

Пракляцце на іх, на гэтых бандытаў!

— Да чаго звяр'ё дадумалася!

— Жывёл нявінных труціць, га?

Шаневіч пазнае голас Драчыхі.

— Супакойцеся...

— Ну і адплоцім кулаччу! Мы з імі расквітаемся! Люблю праўду. Так цягнуцца далей не можа! Гэта ж жыць нельга!

Хрыплы крык у Драчыка.

Яму ў адказ старэчы галасок, плаксівы, дрыжучы:

— Ну вас усіх! Пайду з камуны, жабраваць пайду, а тут жыць не буду. Гэта ж адно страхоцце!

— Не пудлуй, дурань стары!

Высокая труба крухмальні лезе ў неба чорным пальцам. Вось-вось саскрабе з сіняга абруса агнёвых «божых каровак». Заглушана галасамі людзей сквіргатанне стрыгунчыкаў. Чорным масівам ценяў глядзіць сад, прыслухоўваецца.

Расце гул людзей. У гуле — злосць і нянавісць да ворагаў. Страшная гэта нянавісць грамады.

Адна жанчына ўсхліпвае:

— Жыць тут тое самае, што на пазіцыі... Памятаю, як была бежанкай, то...

— Супакойся, бабка. Праўду ты кажаш, жывём на пазіцыі! Вораг нам пакасці робіць, але наша возьме!

Шаневіч уваходзіць у канюшню.

— Хто гэта зрабіў? Хто?

У Драчыка не чалавечы голас, а дзікі крык. Ён абводзіць усіх такімі страшнымі вачыма, аж некаторыя адварочваюцца ад яго.

— Супакойся, Драчык, даведаемся.

— Цяпер трэба коней ратаваць,— звярнуўся да яго Шаневіч.

Людзі цягнуць вёдры з вадою, даюць коням піць і не ведаюць, што рабіць пры гэтых выпадках.

«Вось табе і наша бібліятэка. Няма ў нас добрых кніжак па ветэрынарыі, сам вінават, што не паклапаціўся ў пару»,— думае Шаневіч, выціраючы рукою сухі лоб. І ён звярнуўся да Драчыка.

— Пазвані ў міліцыю. Няхай да тэлефона вызавуць ветэрынара. Пытайся, што трэба рабіць у такіх выпадках.

Драчык пабег.

Бура — чорны і бліскучы, як аксаміт, конь — ляжаў, хрыпла стагнаў і дрыгаў нагамі. Адшліфаваныя падковыblішчалі серабром.

Ходырам хадзілі ў каня бакі. Заўсёды грозныя вочы Буры былі цяпер зацягнуты мутнай павалокай. Пару разоў з яго вачэй сыходзіла каламуць, і яны рабіліся прытомнымі. Конь глядзеў тады на людзей чалавечым позіркам і чакаў дапамогі... Вушы яго бездапаможна абвіслі.

Бура — гадунец сівага барадатага Язэпа, аднаго з першых камунараў «Чырвонага Кастрычніка». Тры гады таму назад Бура быў малым і смешным жарабём. Стары Язэп узяў на сябе абавязак выгадаваць яго. Сам прыдумаў яму клічку Бура. Прывык да яго Бура. Бывала, як толькі Язэп крыкне: «Бу-ра-а-а!» — жарэбчык прыбягаў да яго, як дзіцё да добрага дзядзькі.

Разумныя жвавыя вочы былі ў Буры... Тады на свае ўласныя грошы Язэп купіў «маломў» (нібы цацку для ўнука) званочак... Песціў стары Буру.

На раённай сельскагаспадарчай выстаўцы ў мінулым годзе Бура атрымаў першы прыз. Ганарыўся стары Язэп.

Цяпер ён рукі ломіць над канаючым аксамітным жарабцом і ўпотайку слёзы выцірае...

— Хто вечарам у канюшню хадзіў? — пачуў Язэп гучны голас Шаневіча.
— Троська.
— Дзе Троська?
— Яго тут няма.
— Знайсці Троську!

13

## ПАЦУК У ВАННЕ

Крушынскі ўспомніў такую драбніцу з хлапцоўскіх гадоў, калі ён жыў у дзядзькі ў Мінску.

У кватэры напладзіліся пацукі. Ад іх паратунку не было. Усё грызлі — і ежу і вопратку. Дзядзька вар'яцеў ад злосці. Стары скнара валасы на сабе рваў. Што рабіць? Усе хатнія былі да таго тэрарызаваны дзядзькам з гэтай прычыны, што месца сабе не знаходзілі. Выглядала, нібы не пацукі ўсё грызуць, а яны... Панакуплялі мышаловак, параскідалі атруту. Але разумныя былі паганыя пацукі — не лезлі ў бяду. І вось аднаго разу ў ванну папаўся пацук. Ніяк не мог выкарабкацца адтуль па гладкіх эмалёвых сценках. Першым угледзеў гэта ён — малы тады Крушынскі. Пазваў стрыечных братоў. І вось... пачалі дражніць яго кійком. У пацука загарэліся драпежніцкія злосныя вочкі, ён цапаў кіёк вострымі зубамі, пішчэў і бараніўся.

— А, папаўся, драпежнік! — крычалі хлопцы.

Што было далей з гэтым шкоднікам-пацуком, Крушынскі не памятае, і не было калі аб гэтым думаць. Старшыня сельсавета стаяў перад ім (употайкі прыйшоў вечарам у Курганішча).

Крушынскаму здавалася, што рыхлае цела старшыні зараз разваліцца, застанецца ад яго толькі мокрая вопратка.

— Ярэмчык усё ведае... Я дум...

— Годзе! (Крушынскі засмяяўся.) Няма чаго больш расказваць. Раніцаю еду ў раён да знаёмых. Ідзі спаць.

Калі старшыня выйшаў, у вушах Крушынскага яшчэ доўга звінелі тры словы: «Ярэмчык усё ведае».

Крушынскі адчуў, што вакол яго шыі звужаецца пятля. «Як ратавацца?» Завіруха страшных думак.

Лёг спаць.

І якраз нядаўна, некалькі гадзін таму назад, паехаў Цярэшка. Няма з кім параіцца. Той жартам гаварыў, што Настачка казала: «тата сволач і кулак»... Заўтра задасць ёй такога пытлю, ажна...

Колькі дзён таму назад даў Пархамчуку атруту для коней камуны. Калі гэта зробіцца, дык...

«Пацук у ванне...»

З сельсавета Мікола вярнуўся змрокамі. На шыбах акон даўно памерлі водсветы зарніцы заходу. Лямпа яшчэ не гарэла, і вокны выглядалі цёмнымі квадрацікамі ночы.

Лугі да гароды былі напоўнены канцэртам конікаў-стрыгунчыкаў. Мэра даіла карову. Цырканне малака ў дайніцу песціла вушы. Пры Мэры стаяла і Зорачка.

— Мама каёўку доіць, а тата павёз дзеда ў мястэчка, а дзядзька Мікоя сягоння не абедаў.

Мікола засмяяўся.

— Вырасцеш, Зорачка, лепшым карэспандэнтам за мяне.

— З цябе карэспандэнт праз меру шчыры. Ніхто цябе не перарасце. Гэта ж трэба ведаць — цэлы дзень нічога не есці. Дзе ж ты прападаў?

— У сельсавеце.

— А я з дзедавымі цацынькамі бавілася.

— І я ў сельсавеце бавіўся цацкамі. Нічога сабе цацка старшыня, а самая лепшая цацка — Язэп Крушынскі.

— Гэта дык цаца,— сумным голасам сказала Мэра.

Перад ёю туманны кадр успамінаў. Сустрэча з Крушынскім у лесе. Яго звярыны твар. Высокі абрыў над рэчкаю. Халодная вада глыбокага віру. Ужо колькі год прайшло, і па сягонняшні дзень баіцца вады і... Крушынскага. Нібы калючыя шышкі, хавае ў сэрцы жаночы сорам і паганы сакрэт. Эх, каб мела адвагі, яго даўно б за гэта судзілі!

Старая бярозка на двары ледзь шалясціць лісцем. Нібы хто перагортвае маленькія лісткі паперы. На небе запаліліся лямпачкі. Вакол іх дрыжыць сінявае павуцінне праменняў.

— Дзядзька Мікойка, да мяне!

Зорка выставіла яму маленькія ручкі.

— Я ж вялікі ды цяжкі.

— Яна заўсёды кажа «да мяне», калі на рукі просіцца,— тлумачыць Мэра словы Зорачкі.

— Да мяне. Хачу каля дзядзькі.

Мікола паднімае Зорачку, садзіць на правае плячо. Дзяўчынка абнімае ручкамі яго галаву. Яму незвычайна прыемна. Зорачка глядзіць у неба.

— Г'янь, дзядзька, колькі там зоячак.

— Якіх зорачак?

— Дзевачак.

— Хто табе гэта сказаў?

— Мама сказайя.

— Перастань лапатаць, Зорка. Дай дзядзю спакой. Ён яшчэ не абедаў.

Мэра заганяе карову ў хлеў.

— Дзядзя, аз-два-евай!

— Як гэта раз-два-левай?

— Як піонэї.

— О, дык ты аб піянерах ведаеш!

Пайшлі ў хату. Мэра запаліла невялічкую лямпачку, паставіла ежу на стол.

— Бліны цвёрдыя, дык, можа, лепш тварог з хлебам будзеш, швагрок, есці, га?

— Сяг'ёк, сяг'ёк, казе мама.

— Ціха ты, папугай!

— Мама казе «папугай»...

— Дай дзядзю есці!

— Даю! (Бярэ кавалак хлеба.) На, дзядзя!

Смех. Мэра да Зоркі:

— Ідзі спаць, Зорка.

— Не хацу...

Вакол лямпачкі на стале светлы круг, па хаце клубіцца змрок. Зорачка сядзіць у дзядзі на каленях, перашкаджае есці.

— Дай дзядзю есці!

— Дам!

Праз хвіліну яна засынае ў Міколы на руках...

— Напрацавалася малая за дзень.— Мікола асцярожна перадае Мэры дзіцё. Мэра кладзе яе на ложак і падыходзіць да Міколы.

— Колькі я даведаўся тут пра Крушынскага! Як гэта, Мэра, можаш маўчаць? І ўсе вы тут!

— Ціха, малую разбудзіш — небяспечна аб ім гаварыць.

— Усе вы яго баіцёся.

— Усюды яго людзі.

— Мы іх раскапаем!

Мікола заўважыў, што Мэра занепакоілася, пацягнулася да яго тварам, нібы нешта цікавае хоча яму сказаць. Са страхам у чорных вачах адсунулася назад. Яна падняла кнот у лямпе, ціха падышла да ложка і тканінай затуліла Зорачку ад святла.

— Ты, Мэра, нешта хацела сказаць мне?

— Так... не...

Яна пачырванела. У яе вачах зноў нешта мільгнула і схавалася.

«Сказаць ці не?.. Пра Крушынскага».

Мікола не здымае з яе вачэй.

— Ты падобна цяпер да маёй жонкі.

— Родныя сёстры.

— Нешта хочаш мне сказаць...

Трэснула шкло ад лямпы. Мэра ўздрыганулася. Зменшыла агонь. Мікола не адстае:

— Гавары...

— Нічога асаблівага казаць не хацела, а можа, і хацела, ды забылася. Відаць, нешта няважнае, калі забылася. Ага! Упершыню за ўвесь час (пасля вяселля) угледзела сягоння бацьку. Як ён змяніўся... Зусім іншы. Тады (гэтаму ўжо чацвёрты год) ён мяне пракляў... Я на яго злавалася і ўзненавідзела ўсё яўрэйскае. Старалася не быць падобнай да яўрэйкі...

— Няправільна ты зразумела нацпалітыку (не то жартам, не то ўсур'ёз). Асімілятарка. А як твой Марцін на гэта глядзеў?

— Злаваўся. Я зусім не тая цяпер.

— А вось твая сястра, мая жонка, будзе яўрэйскай настаўніцай. Мне гэта падабаецца. Новы час і бацькоў падганяе наперад, як пугай. Вось мой стары. Калі я калісьці ўступіў у камсамол, ён быў рады, але... думаў шукаць у гэтым для сябе выгады. Я ледзь яму растлумачыў. Цяпер ён зразумеў.

З адчыненых дзвярэй плыў у хату прыемны подых ночы. Над лямпай кружыліся матылькі. Стала ціха. Толькі што сказанае набыло ў цішыні асаблівы глыбокі сэнс. У Мэры задрыжалі вейкі. Зноў пацягнулася да Міколы, нібы...

«Хочаш нешта сказаць?..» — але ён не запытаўся.

— Толькі глядзі, Мікола, каб ніводны чалавек...

Яна пабляднела. Слёзы бліснулі ў чорных вачах. Валасы адлівалі вороннім крылом.

— Не знаю, што б рабіў Марцін, каб даведаўся. Мне вельмі сорамна, але я невінавата...

— Гавары...

У Міколы незвычайна сардэчны голас. Мэра адчула аблягчэнне і апавядала сваю сумную прыгоду з Крушынскім у лесе, як пасля яе выцягнулі з рэчкі...

Шастае па двару сіні змрок, станожкамі паўзе па скошаных пахучых паплавах. Стрыгунчыкі — так-так-так, нібы тахканне тысячаў гадзіннікаў. Праз акно зазіраюць у пакой зоркі. Здаецца Крушынскаму, што гэта вочы, шмат вачэй праніклівых, усё ведаюць. Прытуліўся лбом да шыбы. З боку тракту грукат калёс. Пэўна, Марцін едзе назад з мястэчка. Крушынскі бачыў, як той старога Лейбу павёз. Лейба, пэўна, пра Рахмільку гаварыў...

«Пацук у ванне...»

Нагамі адчувае падлогу, а нібы процьма. Жонка і дзеці спяць спакойна. Зайздрасць і злосць. «Гэта ж я... Чаму яны такія спакойныя? На маім карку».

Крокі на двары. Асцярожнае шорханне чалавечых ног. Нібы злодзей крадзецца сюды.

У сэрцы пуста. Пачаў нячутна апранацца. Выйшаў у «салон». Упацёмках на сцяне ледзь свеціцца вялізнае круглае вока цыферблата старога гадзінніка ў дубовай шафе з разьбою. Колькі разоў думаў аддаць у папраўку, а ўсё не выбраўся.

Даўным-даўно гадзіннік анямеў у сваёй дубовай магіле. Сапсуўся механізм, а калі яго накруціць — звоніць дванаццаць разоў. Жудасна ад таго, што дванаццаць разоў.

Глядзіць праз акно на двор. Да акна падыходзіць высокі тонкі чалавек. Крушынскі яго не пазнае. Той ціха і асцярожна скрабе шкло: баіцца, каб хто і стуку яго не пачуў, і нібы ведае, што Крушынскі тут — у «салоне».

«Мабыць, свой...»

Крушынскі ціха адчыняе акно. Шэптам:

— Хто?

— Свой...

Стала лёгка.

— Лезь у хату.

Чалавек спрытна, як кот, ускочыў у пакой. Адсапнуўся, упоцемку агледзеўся па баках.

— Святла не трэба.

Пазнаў: Троська з «Чырвонага Кастрычніка».

— Змарыўся. Ледзь не быў на «тым» баку ў Польшчы, але нашыя пачулі, крыкнулі «стой», і я ўцёк назад. Трывогі нарабіў. Стралялі. Пабег сюды. Маю да цябе сампатыю...

У цемнаце ледзь вызначалася постаць Троські. Крушынскаму здавалася, што гэта яго ўласны цень. Троська абапёрся рукою аб фартэпіяна. Яно выдала глухі гук.

— Ціха... Па якіх справах сунуўся «туды»?

Троська гарачымі губамі да самага вуха:

— Атруціў коней у камуне...

Крушынскі адскочыў ад яго. Цела пакрыў халодны пот. Засмактала ў грудзях.

«Пацук у ванне...»

— Хто даў табе атруту? Ай, што ты нарабіў...

— Рыжы Пархамчук.

Крушынскі пачаў да яго прыглядацца. Цень прымае акругленыя чалавечыя формы, вызначаецца твар, востры нос, мігатлівыя вочы, вінаватая ўсмешка, белыя зубы...

Пранізаў цемнату воўчым вокам і ўгледзеў усе маршчыны Троськінага твару.

— Што за ліха?..

Стары гадзіннік, які не ходзіць ужо мо дваццаць год, ажыў у дубовай труне, затукаў...

— Тык-так...

— Тык-так...

— Тык-так...

Нібы нябожчык перад ім стаяў.

Схваціўся рукамі за грудзі.

«Гэта ж сэрца... У вушах звон...»

Адзін толькі момант. Троська не заўважыў.

— Дзе Пархамчук дастаў атруту?

Яго вочы драпалі бледны твар Троські. Перад ім кружыўся млын, Курганішча, Дразды і Дзятлы. Усё гэта драбнюткае, бы цацкі, маленькія макеты.

«Ці ведае Троська?..»

— Не ведаю.

Крушынскі ледзь не кінуўся яму на шыю за тое, што не ведае. Зноў млын, Курганішча, Дразды і Дзятлы выраслі ў натуральную велічыню. Моцна стаяць на месцы, але... пацук у ванне...

— Ратуй мяне... Схавай на дзень... Вечарам пайду...

— Чаму да Пархамчука не пайшоў?

— Вельмі ж блізка ад камуны...

8 Зак. 1622

## 14

# ЦІ ВЫРАТУЕЦЦА?

Хітрыкі на гэты раз не чуваць у голасе Трoські. Крушынскі вывучае ўсе маршчынкі на яго твары. Змрок нарадзеў. Атрамант акон разбаўлены вадою. На ўсходзе неба пажарышча раніцы. Нехта мажа на небе акварэлі, замазвае адны і малюе новыя. На дзядзінцы павольна вызваляюцца са слепаты змрокаў абрысы будынкаў. Хваёвае бярвенне насупраць акна адлівае кракадзілавай скурай.

Пад спевы вясёлыхранічных птушак Крушынскі думае невясёлыя думкі. Яны расшчапіліся ў яго на дзве часткі, як змяіны язык. Гаворыць да Трoські адно, а мяркуе другое.

Уважліва раіць, пытаецца, а ў той жа час пасылае самому сабе дэпешы-маланкі.

Да Трoські:

— Кепска зрабіў, што дзе-небудзь у лесе не схаваўся на дзень-два.

Самому сабе: «Паеду ў Мінск да сваякоў і адтуль уцяку. Грошы ёсць, буду жыць пад чужым дакументам, як той агранам».

Голас Трoські:

— У лесе хавацца баяўся. Цяпер позна. Яшчэ хто ўгледзіць...

Крушынскі да яго:

— Пайшоў бы да Пархамчука.

Самому сабе: «А можа, лепш перадаць млын сельсавету. Можа, зноў выплыву наверх? Пацук у ванне? Глупства...»

Голас Трoські:

— Я ж табе казаў, што небяспечна ў Пархамчука. Блізка ад камуны.

Крушынскі да яго:

— Добра, я цябе схаваю.

Самому сабе: «Перадам яго ў рукі ўлады. А што будзе, калі ён на судзе выдасць Пархамчука, а той мяне? Спакойней усё ж такі схаваць яго да вечара, а пасля няхай ідзе куды хоча... Не! Узмацню свае пазіцыі, калі выдам Трoську... А каб замесці сляды...»

— Схавай так, каб і твае хатнія не ведалі,— чуе ён замагільны голас Трoські.

— Добра. Зараз...

Раніца лье на дзядзінец сок. Дахі выглянцаваны.

Раптам Крушынскі задрыжэў усім целам. За старое піяніна ўхапіўся цэпкімі рукамі Троська. Палахліва завойкаў расстроены інструмент.

Гучны стукат у дзверы.

Голас Драчыка грыміць на ўвесь дзядзінец:

— Ад-чы-ні-і!

У другі раз:

— Ад-чы-ні-і!

Крушынскі да Троські:

— У алькерык і праз акно ў сад...

— Зловяць... На дварэ міліцыя...

— Прарвешся...

— Куля дагоніць... Узброеныя...

Крушынскі самому сабе: «Пацук у ванне... Хіба цуд...»

Гусінымі лапкамі расплыўся па акне першы прамень новага дня. Здалося Крушынскаму, што вокны зазвінелі.

Жонка і дзеці прачнуліся. З другога пакоя, дзе яны спяць, чуваць:

— Што такое? Хто тут?

— Ад-чы-ні-і-і! А то будзем дзверы ламаць.

На ганку старасвецкага фальварка грозны гул галасоў.

Позна ўночы вярнуўся з мястэчка Марцін.

І да і пасля яго прыезду з уяўлення Міколы не выходзіў «Леў Талстой».

«Цікавы тып. Прачытаў яго рукапісы. Стары пісар земскага часам цікавыя рэчы паказвае. Адна нага ў мінулым, другая — у сучасным».

Не спіцца.

Некалькі разоў яго прабудзіў дзіцячы плач Зорачкі. Мэра люляла яе, спявала:

А-а, а-а, мой каток,
Выйшаў коцік на таржок,
Купіў Зорачцы піражок
А-а, а-а...

Сціхае Мэра, і Зорачка просіць:

— Спявай, мама...

— Спі.

І зноў:

А-а, а-а, мой каток...

«Дзе ж гэта я раней бачыў «Льва Талстога»? Ага... Яго белая барада асвятляла калідоры Інбелкульта. Ён хадзіў з пакоя ў пакой, з аддзела ў аддзел са сваімі рукапісамі. «Леў Талстой» хоць пра сучаснае гаворыць, а там? (Мікола ўспамінае.) Адзін з «правадзейных членаў» з выглядам алхіміка паказваў усім паіржавелую спрожку ад дзягі. Гэту бляшку выкапалі пры каналізацыі Нямігі ў Мінску. З гэтай спрожкі мастак зрабіў некалькі зарысовак. Фатограф — некалькі здымкаў. Алхімік напісаў «навуковы» трактат і паслаў у Львоў да нейкага прафесара разам з малюнкамі. Маскве не даверыў, каб не далучылі гэты «скарб» да расійскага мастацтва... Праўда, былі скептыкі. Яны гаварылі, што спрожка з пажарніцкага пояса. Вось і кажы, што так сабе пісаў «Леў Талстой» свой «Летапіс вёскі Гайдачаны». Гэта не шкодзіла б надрукаваць.

Мікола моцна спаў толькі пад раніцу. Прачнуўся, калі сонца засвяціла ў самыя вочы. Марціна ўжо не было ў хаце. Мэра завіналася каля печы.

— Мабыць, не выспаўся,— сказала Мэра.— Мы заседзеліся позна, і ты не пайшоў спаць у пуню.

Мікола зараз жа апрануўся і сеў за стол. Выняў блакнот і хімічны аловак. Пісаў шпарка, запаўняў лісток за лістком. З кожным новым радком Язэп Крушынскі выступаў перад уяўленнем Міколы ўсё жывей і ярчэй. Агідная фігура гэтага чалавека будзіла ў яго шчырую злосць. На двары чылікалі вераб'і. Сонца пачало прыпякаць.

Ужо многа лісткоў напісана. Мікола іх вырываў з блакнота і адкладваў убок. Ад націску алоўка забалелі пальцы. Праз адчыненыя дзверы ўвайшоў Антось Драчык, збянтэжаны і радасны. Шэрыя вочы яго блішчаць, а па твары відаць, што ўсю ноч не спаў.

Ён крычыць Міколу:

— Пачакай. Не пішы. Люблю шчырасць, ты стараешся, але ёсць новы матэрыял.

— У чым справа?

— У гэту ноч атруцілі коней у камуне. Арыштавана цэлая хеўра. Папаўся нарэшце і Язэп Крушынскі.

Драчык падрабязна ўсё расказаў Міколу.

— Гэтага можна было чакаць ад Крушынскага.

— Хадзем у «Чырвоны Кастрычнік».

Мэра ўстрапянулася.

— Без снядання не пушчу.

— У камуне паснедае, не бяда. Хадзем, Мікола.

— Пачакай, Мікола. Мне трэба табе нешта сказаць. Мэра яго спыніла, узяла за руку, як маленькага хлопчыка, і павяла ў кут.

— Глядзі, ні слова аб тым, што я табе ўчора казала. Мэра хвалявалася.

Мікола і Драчык пайшлі шпаркім крокам у «Чырвоны Кастрычнік». Яны заўважылі, што ім насустрач ідзе «Леў Талстой», размахвае рукамі, і ад шпаркай хады яго барада разыходзіцца па грудзях венікам. На лбе, як у шафёра, бліпчаць акуляры. Стары на гэты раз босы, што з ім рэдка бывае. У яго такі імпэт і адвага, нібы выступае адзін супроць варожага войска. Як падышоў блізка, ледзь адсапнуўся і запытаў:

— Чулі?

— Чулі.

— Ведаеце?

— Ведаем.

Жоўты пясок прыстаў да яго ног лёгкім пылам. Стары выняў хустачку, выцер успацелы лоб і акуляры. Насунуў іх на нос і давай узірацца падазроным вокам то ў Драчыка, то ў Міколу. Нарэшце запытаўся сумным голасам:

— Дык вы ўжо ведаеце?

— Ведаем...

Ён асекся. Расчараванасць мільгнула ценем па яго твары: так хацелася, каб яны яшчэ не ведалі, каб ён ім першы апавядаў пра гэту навіну, каб...

Пайшоў побач з імі. Некалькі хвілін трымаўся за грудзі абедзвюма рукамі. Як трохі адсопся, звярнуўся да Міколы і Драчыка голасам, у якім чулася шчырая просьба:

— Так. Я вам усё-такі раскажу. Ёсць магчымасць, што вы, магчыма, яшчэ не ўсё ведаеце...

— Раскажы.

Драчык і Мікола ўсміхаліся, прыслухоўваліся, як да гутаркі малога дзіцяці.

«Леў Талстой» гаварыў і гаварыў... У вялікім бурным моры яго гутаркі часта сустракаліся маленькія выспачкі: «так», «трэба прызнацца», «тоісь». Па ўсім гэтым можна было падумаць, што злачынцаў злавіў ён сам...

Нягледзячы на такое няшчасце, што здарылася ў камуне, Драчыка і Міколу агортвала радасць. Кожны з іх думаў адно і тое самае: «Вораг злоўлены».

Акенцы Цыпруковай хаты — невялічкія аправы для малюнкаў, але яны ахопліваюць сабою, нібы прыжмураныя чалавечыя вочы, абшары даляглядаў. З гэтых акенцаў можна бачыць густы стромкі лес. Ён застыў наводдалі кучаравай аграмадзінай і ледзь рухае вершалінамі, перабірае зазубленай верхавінай, нібы грэбнем, сівыя камякі воблакаў. Старому Цыпруку відаць ледзь прыкметнае ківанне дрэў. На заходзе сонца на лес насоўваецца са змуруднага поля нябёс агнёва-крывавая шапка. Тады ўся адлегласць ад лесу да Цыпруковай хаты: паплавы, поле, узгоркі, дахі будынкаў, гароды і дарога апранаюцца ў палосы ценяў колеру, павуціння. Тады невялічкія сямейкі дубоў дзе-ндзе на полі гараць, як паходні. Калі цені на адлегласці сшываюцца ў адну неахопную каламуць, на антэнах, якія тырчаць над вясковымі дахамі, садзяцца вераб'і. Птушкі ловяць крылямі апошнія ружовыя блікі сонца.

Стары Цыпрук стаіць перад акенцам і глядзіць на дарогу. Вочы яго — вузенькія, завостраныя ільдзінкі. Барада — прыклееены жмутак пакулля. Дарога сухая, гладкая, роўная. У мінулым годзе брукаваная. Штодня ідзе з Мінска ў раён аўтобус. У гэты час Цыпрук заўсёды ля акенца, сплюшчыць нос аб шыбу і глядзіць на пасажыраў. Тут жа на падаконніку стаіць невялічкая чорная скрыначка з навушнікамі — апошні падарунак Міколы.

Між Цыпруком і старэйшымі ўнукамі часта адбываюцца спрэчкі за навушнікі. Кожны хоча паслухаць.

На гэты раз захапіў стары.

— Вось прыдумалі людзі...— любуецца ён.

— Дзядок, дай мне...

— Ціха, жаўжаняты, дайце паслухаць, ці што?

Ён бароніцца ад іх рукамі, як ад мух.

— Слухайце! Слухайце!

— Гаворыць Мінск!

Цыпрук глядзіць перад сабою праз акенца на даляглядд і нічога не бачыць. Вочы-ільдзінкі ўглыблены. У скалмачаным пакуллі барады хаваецца ўсмешка.

— Вось прыдумалі людзі...

— Дзядок...

— Ша, ці што? Не шумеце.

— Класавы вораг не спіць. На кожным кроку стараецца перашкодзіць нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву. У камуне «Чырвоны Кастрычнік» N... раёна былі атручаны коні.

— Гэта кепска,— перабівае радыё Цыпрук.

— Злачынцы злоўлены: былы бандыт Троська, кулак Пархамчук і кантрабандыст Язэп Крушынскі. Пралетарскі суд іх жорстка пакарае.

Далей Цыпрук не чуе, бо аглушыў самога сябе радаснымі словамі:

— Гэта добра!

Успаміны:

«Кантрабанда на дарозе... арышт... падласая кароўка...»

Унукам не церпіцца:

— Дай, дзядок, паслухаць...

15

## СНЕГ

У той восеньскі дзень з каламуці набухлых воблакаў нізіўся лапцяваты вільготны снег. Ледзь прымосціцца дзе дробным пер'ем да крушні, глебы, даху ці плота і зараз жа расплывецца. На палях і дарогах квасілася шэрае цеста клеістай гразі. У заімжавелым полі крычалі, скардзіліся вароны. Над хмызнякамі і напоенымі вільгаццю лагчынамі яны з устрывожанай рупнасцю пісалі крыллямі шырокія кругі.

А там, дзе яны апускаліся на зябленыя шнуры, іхні колер скрадвалі шэрыя грудзістыя гоні.

Па расхлябанай дарозе хлюпала фурманка. На возе было двое — мужчына і жанчына. Абодва ў брызентавых плашчах з капюшонамі на галовах. Яны стараліся схавацца ад вільготнага ветру і снежнага хлюпату, але іх усё роўна пранізвала сцюжа. Твары былі чырвоныя і набраклыя.

— Вам не холадна, цётка Крушынская? — часта чуваць быў прыглушаны голас.

— Не... Далёка да Мінска?

— Яшчэ гадзіны дзве язды.

І ў горадзе непрытул.

Снег прыстае да шыбаў акон мутнымі кроплямі, расцякаецца рагамі па шкле.

Паэт Антон Цярэшка толькі што прыйшоў на працу. Якраз паспеў на гарбату.

Ля ўвахода ў трохпавярховую камяніцу была прыбіта да сцяны невялічкая шыльда. На ёй красаваліся залатыя літары на чорным мармуры:

*ІНСТЫТУТ*

Рэшта ўсё было залеплена вільготным снегам.

Было дванаццаць гадзін дня.

У вялізным пакоі змрочна і нудна. Цярэшка зірнуў праз акно трэцяга паверха. Від нібы з самалёта, які спускаецца на зямлю, мутнаватыя квадраты дахаў. Шахматнымі клеткамі яны драбнеюць у аддаленні. За імі высокія фабрычныя коміны пыхкаюць рыжым і сінім дымам. Насупроць праз вуліцу Цярэшка бачыць з акна белыя шкілеты рыштаванняў вакол двух новых будынкаў, незакончаных за сяголетні сезон.

Ад іх улетку многа пылу. Так на ўсіх вуліцах. Цярэшка і большасць прафесараў Інстытута ў гарачы час летняга будавання ўцякаюць на поўдзень. Так кожнае лета. Ластаўкі аблепліваюць вясковыя стрэхі, а інстытутчыкі — пляжы Чорнага мора і вышыні Каўказскіх гор. Тым часам Мінск адбудоўваецца. Кожны сезон — нямала новых гмахаў, новых фабрык, гарадкоў, рабочых пасёлкаў на акраінах.

Сам Цярэшка, можа, па-свойму, на своеасаблівы лад робіць падлічэнні будаўніцтва ў Мінску за апошнія некалькі год.

Ён у Кіславодску — тут каналізацыя горада і новы мост.

Ён на Крымскім узбярэжжы Чорнага мора — тут універсітэцкі гарадок.

Ён на Волзе на параходзе — тут трамвай.

І гэтак далей, і гэтак далей.

Толькі тэхнічныя працаўнікі, канцылярысты і трэцярадныя навуковыя спецы абыходзяцца без курортаў.

Цярэшка мацае пальцамі астылую шклянку гарбаты. Яму ўсё здаецца, што вельмі горача.

Ён бы і на гэты раз сюды не прыйшоў (ніхто над каркам не стаіць), але сягоння зусім іншы дзень. Сягоння з'явіліся і тыя вялікія спецы, якія прыходзяць у Інстытут два разы ў месяц. Ва ўсіх аддзелах незвычайнае для гэтых муроў ажыўленне.

На сталах кабінетаў садом і гамора партфеляў, капялюхоў, шапак, кніг і рукапісаў з шафаў і шуфляд. Зірне

прафесар у кнігу з незвычайнай для яго жвавасцю, дзяўбне пяром у атрамант і...

«Сягоння будуць выплачваць пенсію...»

Па сходах усіх трох паверхаў туды і сюды вандруюць людзі. Па каменных плітах прафесарскія ногі дробяць чачотку. Рупатлівыя галасы:

— Прыйшоў з банка Залескі?

— Бухгалтар ужо выдае?

— Напэўна, сягоння дадуць.

У бухгалтэрыі чарга вучоных. Кожнага новага трактуюць дасціпнасцю, анекдотам.

Стаў у чаргу і Цярэшка.

— Чаму ж гэта Цярэшка сягоння не ў добрым гуморы?

Так пытаецца адзін з чорнай бародкай у суседа па чарзе — у чалавечка ў акулярах, які па-гусінаму нахіляе галаву.

— Што? — і наставіў левае вуха (ён глухаваты).

— Ця-рэш-ка неш-та ся-гоння сум-ны.

— А-а-а! Адкуль я магу ведаць?

Чалавек з чорнай бародкай кпліва:

— Вы ж яго крытык.

— Што? Што? — глухаваты нахіляе вуха і вінавата ўсміхаецца.

— Вы ж я-го кры-тык, та-ва-рыш Гай-дач! Вы ж каля яго жы-ві-це-ся! Усё я-го пад-на-гот-нае па-він-ны ве-даць!

Вакол лёганькія смяшкі.

Гайдач сур'ёзна тлумачыць:

— Мабыць, у таварыша Цярэшкі сягоння лірычны настрой. Восень, снег і ўсё такое. Ды пры чым тут я? (Па-гусінаму круціць галавою.) Я як вучоны адкінуўся ад літаратуры ў апошні час. Цяпер над таварышам Цярэшкай апякуецца паважаны Лявон Карпавіч: піша артыкул да чарговага юбілею Цярэшкі.

Стол бухгалтара Залескага пакуль што пусты. Яшчэ не шалясціць над ім шырачэзная ведамасць на пенсію з доўгімі слупікамі лічбаў і прозвішчаў. Яшчэ няма з банка бухгалтара. Аднак уся чарга цэліцца вачыма ў стол — у атрамантніцы і ў попельніцу з жоўтымі недакуркамі.

Антон Цярэшка з нецярплівасцю аглядаецца на дзверы. З яго ўяўлення не выходзіць шэрая бекеша бухгалтара, яго карыя вочы з бляскам вечнай заклапочанасці. На твары бухгалтара прытоеная ўсмешка, нібы ён нешта цікавае ведае ды казаць не хоча.

Аднак урыўкамі, праз вобраз бухгалтара ў галаву Цярэшкі пракрадваюцца трывожныя думкі. Яны псуюць настрой, моршчаць яго лоб.

У чарзе шэпт:

— Цярэшка сягоння ў кепскім гуморы.

Звычайная рэч — газетны артыкул прамільгнуў чорным корпусным шрыфтам у адным з нумароў «Звязды» за подпісам Міколы Ярэмчыка.

Цярэшка выразаў доўгімі канцылярскімі нажніцамі гэты артыкул і палажыў у верхнюю шуфляду свайго пісьмовага стала. Толькі адзін раз прачытаў. Кожны абзац калоў яго шпілечкамі дробных літараў. Кожны радок смяяўся з Цярэшкі трыма дзесяткамі маленькіх вочак. Кожнае слова кпіла з яго:

— Ага! Папаўся...

— Падумаеш! Папаўся! Я — Цярэшка, беларускі паэт, а той — Крушынскі... Крэўны? Мала што...

У артыкуле ўся «дзейнасць» Язэпа Крушынскага. На гэты раз без партрэта вусатага лысага дзядзі, але з кожнага радка глядзіць на чытача жывы Крушынскі.

Ёсць у артыкуле і пра раён, дзе выкрылі цэлы гнайнік. Некалькі адказных працаўнікоў зняты з працы. Склад Гайдачанскага сельсавета зменены.

Папярок дарогі стала нечаканая бяда:

— Як ратаваць Язэпа Крушынскага?

Цярэшка хадзіў куды трэба, да каго трэба, намацваў розныя грунты, заходзіў з розных бакоў, сам баяўся, асцерагаўся. Пакуль што яшчэ нічога не зрабіў.

Некаторыя спачувалі, шкадавалі, жаласлівымі вачыма пазглядалі на яго.

Гэтым і канчалася. Ён бы, можа, «згадзіўся б» з такім становішчам, але да яго часта прыязджае Стэфка, жонка Язэпа Крушынскага.

Колькі год таму назад адзін пачынаючы беларускі мастак напісаў на матыў «Слова аб палку Ігаравым» карціну пад назваю «Плач Яраслаўны». Ля старога тыну сядзіць чырванашчокая жанчына ў нацыянальных беларускіх вопратках і плача. Чамусьці гэта жанчына напаміпала Цярэшку кожны раз жонку Крушынскага.

Стэфка ў яго часта пытаецца:

— Ну як?

— Пакуль што нічога яшчэ не мог зрабіць.

— Вы верыце, што мой Язэп даў атруту нейкім там бандытам, каб коней труціць?

— Не веру, але...

Курганішча раскулачылі. Стэфка пакуль што жыве ў адным пакоіку ранейшага дома Крушынскага. Настачка і Мзей, дзеці Крушынскага ад першай жонкі, прыехалі да Цярэшкі. Шмат сварак было ў яго з жонкай аб гэтым самым.

— Клопату з гэтымі дзяцьмі будзе мне, а не табе,— гаварыла яна.

Тады Антон Цярэшка прыжмурыў на яе злосныя вочы і пачаў незнаёмым голасам задаваць ёй запытанні:

— А сала і масла, вяндліну і каўбасу з Курганішча ты любіла есці?

— А мануфактуру на вопратку і шоўкавыя панчохі, якія табе Крушынскі прывозіў, ты любіла браць?

— А дача ў Курганішчы табе падабалася?

Цярэшка вылічаў усё.

Яшчэ была бяда са зборнікам вершаў, напісаных у Курганішчы.

Як наўмысне, на гэты раз зборнік хутка папаў у друк ды ўжо набраны. Цярэшка хацеў бы выкінуць з-пад кожнага верша слова «Курганішча», але праваронiў карэктуру. У вершах, праўда, нічога страшнага няма. Звычайная лірыка прыроды...

У чарзе Цярэшка аб усім гэтым успамінае.

Лапчасты снег пярэсціць перад вокнамі бухгалтэрыі кавалачкамі падзёртай паперы. Над галовамі чаргі ўеццa ў круцёлкі табачны дым. Хударлявая, нервовая машыністка кашляе суха і адрывіста. Яна грэбліва круціць губы.

— Не курыце.

Дзверы бухгалтэрыі рыпаюць туды і сюды. Усоўваюцца галовы. З адчыненых дзвярэй пільна цікуюць за бухгалтарскім сталом зацікаўленыя вочы:

— Залескага няма?

— Няма.

Грукаценне прыдушаных галасоў. Кожны стараецца гаварыць ціха, але так, каб яго голас чуваць быў.

Пад гэты гул лёгка меркаваць аб розных справах. Цярэшка мяркуе.

«А што рабіць з млынамі? Шкода. Такі млын быў у Курганішчы».

Папраўляе гальштук. Круціць галавою, стараецца вызваліць шыю з цеснага каўняра манішкі.

«Хто будаваў, а хто цяпер карыстаецца такім харошым млынам».

Глядзіць застылымі вачыма. Туманіцца перад ім чарга вучоных. З розных куткоў свядомасці ды ўяўлення высоўваюцца, як зладзеі ў цёмную ноч, затоеныя мары:

«Шугаюць чырвоныя языкі полымя, драўляна-вуглёвы хрыпат сцен. Ад бярвенняў — чорныя галавешкі з мядзянымі змейкамі...»

Цярэшка моршчыцца, палохаецца:

— Чорт ведае што лезе ў галаву... <...>

Тым часам інстытутчыкі займаліся вывучэннем гайдачаназнаўства, Францыска Скарыны, Сімеона Полацкага...

Раптам Цярэшка ўздрыгануўся ўсім целам: прыйшоў ён — аўтар артыкула ў «Звяздзе» пра Язэпа Крушынскага — Мікола Ярэмчык.

— Гэта ж ліха ведае што! — хвалюецца Мікола.— Стаяць у чарзе, як жанчыны каля кааператыўнай крамкі! Проста брыдка! А на вечарах самакрытыкі іх мала бывае.

Мікола ўспамінае гэтыя вечары. Прыходзяць рабочыя з друкарні, тэхперсанал, аспіранты і вельмі мала з прафесуры.

— Чаму вучоных мала? Няўжо ж не ўсе павядомлены?

— Як не павядомлены! — усхопліваецца малады дзелавод, дэмабілізаваны вайсковец.— Ва ўсіх аддзелах абвесткі прыклееныя. Многім дамоў паведамленне пасылаў.

— Мусіць, гонар не дазваляе прыходзіць да нас,— кажа наборшчык Сакалоўскі, чалавек з вачыма колеру піва.— Як жа гэта мы будзем крытыкаваць іх? Як мы адважымся на гэта?

Вялізарная пуставатая зала інстытута прыслухоўваецца, адказвае лёгкімі водгаласкамі. Гіпсавы чорны бюст Скарыны ўтаропіў вочы на пустыя крэслы, дзе павінны былі сядзець навуковыя працаўнікі.

Звіняць галасы — абураныя, злосныя.

— Чаму не ўсе вучоныя?

— Пустыя крэслы.

— Такімі тэмпамі, калі мы ў навуковых працах адсталі на пяцьсот год ад Кастрычніка, нічога не зробім для сацбудаўніцтва...

Доўга гаворыць таварыш Сакалоўскі. Спачатку ноткі крыўды ў голасе, а пасля абурэнне ў бок пустых крэслаў, дзе павінны былі сядзець вучоныя. Вельмі мала іх тут.

Яркія электрычныя лямпачкі прагналі цень з пустых крэслаў, якія стаяць роўнымі шэрагамі, дубовыя, зграб-

пыя, моцныя, з лёгкім пылком ад неўжывання, нібы ў мебельным магазіне.

Наборшчык Сакалоўскі канчае:

— Да пустых крэслаў гаворым. Будзем у насценгазеце вастрэй пісаць! Можа, ачухаюцца.

Пасля кожнага нумара насценгазеты «Навука і праца» некаторыя з «пакрыўджаных» прафесараў не вітаюцца з рэдкалегіяй.

Два лагеры абменьваюцца халодным, як лёд, «дзень добры».

Нарэшце прыйшоў бухгалтар.

Бекеша ў мокрым снезе. На ворсе шэрага сукна маленькія кроплі-іскры.

Чарга ажывілася.

Пачалася выдача пенсіі. Хоць павольна, але ўсё бліжэй соўваецца да бухгалтарскага стала Антон Цярэшка.

Падышла і яго чарга.

Толькі што падпісаўся ў саліднай ведамасці. Яшчэ не паспеў праверыць грошы, як пачуў урачысты і строгі голас дзелавода:

— Вас завуць, тав. Цярэшка!

— Да тэлефона?

— У калідоры. Жанчына. Тая самая, што заўсёды да вас прыходзіць.

Дзелавод глядзіць на яго чужымі халоднымі вачыма.

Цярэшка чырванее.

«Мабыць, яна...»

Зноў успомніў твор пачынаючага маляра; малюнак пад назваю «Плач Яраслаўны».

Шпаркімі крокамі Цярэшка высоўваецца з бухгалтэрыі. «Яна» стаіць у калідоры і незацікаўлена разглядае кнігі, выстаўленыя ў вітрыне пад шклом.

«Плач Яраслаўны» займае цяпер шмат месца ў жыцці Цярэшкі. Жонка Язэпа Крушынскага часта прыязджае да яго з Курганішча і торгае за нервы запытаннямі і кароткімі заўвагамі:

«Што будзе?»

«Калі?»

«Далей так цягнуцца не можа».

«Чалавек толькі ў бядзе пазнаецца».

«Я больш чакаць не магу».

«Ратуйце майго мужа. Ён вам не чужы».

«Адно-два словы пагаварыце, напішыце».
«Ён жа вам часта дапамагаў...»
Яна прабуе на ім і сілу жаночых слёз.
Цярэшка заўсёды стараецца абыходзіцца з ёю далікатна і цярпліва. Кожны раз, як угледзіць яе, змяніцца ў твары. Яму непрыемна. Колькі разоў прыходзіла яна сюды ў інстытут шукаць яго. Некаторыя з інстытутчыкаў заўважылі яе, гаварылі:
«Новая муза ў Цярэшкі».
«Падобна да адкормленай мельнічыхі».
Цярэшка падыходзіць да вітрыны.
— Стэфка?
На ёй паліто з сіняга сукна і шэрая вязаная хустка. Тлусты твар чырвоны і набраклы ад холаду.
— А я так і думаў, што гэта вы. Хадзем, тут не выпадае.
Яны спусціліся па сходах уніз. Ён наставіў каўнер паліто, каб знаёмыя не пазналі. Спыніліся каля рамізніка. Паехалі дамоў.
Раней Цярэшка тлумачыў жонцы Крушынскага, што нічым ёй дапамагчы не можа, але Стэфка кожны раз яму напаміхала, што, мабыць, ён забыўся на той час, калі яе муж трымаў на сваіх плячах усіх мінскіх Крушынскіх.
Тады Цярэшка прыдумаў новую тактыку:
— Усё будзе добра. Яго вызваляць. Яшчэ не даведзена, што ён прымаў удзел у справе атручэння коней.— Цяпер на фаэтоне з паднятаю будаю яна зноў запыталася:
— Што чуваць?
— Дома аб гэтым пагаворым.
Змрочнымі вачыма Цярэшка паглядаў з буды на спіну фурмана.
Хлюпаў мокры снег.
— З кім вы прыехалі ў такую бездараж?
— Бочка запрог каня і прывёз.
— Гэты нізкі і тоўсты Дрозд?
— Але.
Дома Бочка яму апавядае, што ў пакоях Крушынскага ідзе цяпер рамонт. Новыя сельсаветчыкі рыхтуюць клуб у Кургані́шчы.
Доўга гутарыць аб гэтым Бочка і паўтарае часта, для большай яркасці:
— У Курганішчы цяпер габлююць і майструюць.
Цярэшка п'е гарбату, слухае і думае пра сябе:
«Усюды цяпер габлююць і майструюць.

Жонка Крушынскага выцірае заплаканыя вочы.

Прывыклі тут да слёз Стэфкі. На Цярэшкавых яны ўжо ніякага ўражання не робяць. За акном хлюпае мокры снег.

Сонечны зімовы дзень. Дрэвы абраслі сівой поўсцю. Драты над гарадскімі вуліцамі абтрушаны шэранню. На дратах дзе-нідзе шэрыя кропкі вераб'ёў, з-пад лапак якіх пыліцца ледзь прыкметная снежная труха.

Антон Цярэшка ідзе ў друкарню, дзе друкуецца яго зборнік вершаў «Галасы палёў».

І радасць і трывога.

Кніжка ўжо ў пераплётнай, але што аб ёй скажа крытыка? Вось каб выкінуць з-пад кожнага верша слова «Курганішча»... А то яўна відаць, што кніжка напісана ў кулацкім хутары. Як наўмысне і на вокладцы дзераўца, хаткі, птушкі. Мастак пастараўся, зрабіў паводле зместу.

У пераплётнай на сталах якраз яго кніжка. Ідзе фальсоўка. Шалясцяць аркушы, растуць сціргы. Куды ні павернецца Цярэшка — «Галасы палёў»... Каб мог, дык знішчыў бы цяпер гэту кніжку.

Але каб ніхто з рабочых не заўважыў, ён бярэ адзін экземпляр «Галасоў палёў» і кладзе ў свой партфель.

Дома яшчэ раз прачытае, адразу дасць на прагляд свайму крытыку. Можа, праплыве ліха.

У пераплётнай гудуць сшывальныя машыны. Пахне мучным клеем. Ніхто з рабочых не звяртае ўвагі на Цярэшку. Кожны заняты сваёй працай. Ніхто не цікавіцца ім як аўтарам. Ды ці мала аўтараў тут бывае?

З друкарні Цярэшка выйшаў з першым экземплярам «Галасоў палёў» і з дрэнным настроем. Баяўся, што кепска сустрэнуць яго новую кніжку.

«Цяжкія часы насталі,— думае ён.— Недахопы прадуктаў, мануфактуры, абуцця, жорсткае раскулачванне на вёсцы. Што з усяго гэтага будзе? А што, калі ў маіх вершах знойдуць адбіццё ўсяго гэтага? Я ж, здаецца, толькі лірыку прыроды...»

Не даканчыў аб гэтым і пачаў аб другім:

«Дзеці (Настачка і Мзей) цэлы садом у хаце паднімаюць. Зусім не бядуюць. Ім весела, а жонка цэлымі начамі плача немаведама чаго».

Не даканчыў аб другім і давай аб трэцім:

«Нейкая пустата ўнутры. Аб чым пісаць? Дзе шукаць натхненне?..»

Цярэшка зайшоў у піўную.

## 16

# СПАДЧЫНА

У Гайдачанскі сельсавет прыехала з Мінска брыгада з двух чалавек — Мікола Ярэмчык і наборшчык Сакалоўскі.

У клубе ўсё новае і святочнае: невялічкая сцэна з суфлёрскай будкай, на якой выступіла клейкая сасновая смала; жаўтаватыя сталы, расстаўленыя каля сцэны, гладка адгабляваныя сасновыя лавы; белыя шпалеры з сінімі ўзорамі на сценах. Дзве нікельныя лямпы «молнія» вісяць пад столлю і кідаюць роўнае святло на шматгаловы сход. Народу з усёй ваколіцы: Дразды і Дзятлы, гайдачане, пасёлкаўцы, глухаўцы, камунары з «Чырвонага Кастрычніка», хутаране. Паміж жоўтых кажухоў і сівых світак дзе-нідзе вайсковыя шынелі прымежнікаў. Сярод шэрагаў разнастайных шапак і кучмаў жаночыя хусткі. Рыгор, былы парабак Язэпа Крушынскага, сядзіць на адной з бакавых лавак і шэпча белабрысаму суседу на вуха, у той жа час вачыма глядзіць на сцэну, дзе сядзіць прэзідыум сягонняшняга сходу. У адзін і той самы час Рыгор слухае і шэпча суседу:

— Сценкі бакавых пакойчыкаў разбурылі, і вось бачыш, які вялікі клуб! Раней гэты пакой называўся «салонам». Усё барахло адгэтуль выкінулі — вазоны, і цацкі на століках, і стары сапсаваны гадзіннік. Фартэпіяна хацелі адрамантаваць, але нікуды не гадзіцца — таксама выкінулі.

Антось Драчык — новы старшыня Гайдачанскага сельсавета, абраны замест ранейшага, адчыняе ўрачысты сход. Усе ўважна слухаюць. Выцягнулі галовы ў бок сцэны і не здымаюць вачэй з прамоўцы.

Голас Драчыка (сягоння мякчэйшы, чым заўсёды) плыве, нібы човен па спакойным возеры. Толькі калі-нікалі на гэтым возеры ўспеньваюцца хвалі: вырываюцца грозныя выкрыкі па адрасе кулакоў. Традыцыйныя словы Драчыка: «люблю праўду», «люблю шчырасць» — гэта тыя вёслы, якімі ён кіруе свой човен. Сягоння, спецыяльна да гэтай урачыстасці, Драчык пагаліўся. Суседзі, якія прывыклі бачыць яго заўсёды са скалмачанай бародкаї, прыглядаюцца да яго, як да незнаёмага чалавека. Некаторым здаецца, што Драчык памаладзеў, а некаторым, што

пастарэў, бо якраз цяпер на голеным твары выступаюць раней схаваныя пад барадою маршчыны. Шэрыя вочы ў павуцінні тонкіх маршчынак адкідваюць іскры ва ўсе бакі. Адной рукою Драчык абапіраецца аб сасновы белы стол, другою энергічна махае ў паветры ў такт сваім словам.

— Люблю шчырасць! Каб сягоння вярнуўся з турмы Язэп Крушынскі, гэты бандыт і прахвост, каб вярнуўся ў сваю «культурную» гаспадарку ды пабачыў, што мы ў яго «салоне» зрабілі клуб для нашай беднаты і серадняцтва, дык я ўпэўнены, што гэты «культурнік» не абрадаваўся б нашай сапраўднай культуры! Люблю праўду, не абрадаваўся б!

У прэзідыуме ціха перашэптваюцца Мікола Ярэмчык, сакратар райкома і наборшчык Сакалоўскі. Новы сакратар райкома пачаў нешта ўпісваць у невялікі блакнот. Яго густая чупрына блішчыць сівізнай. Калі-нікалі падымае вочы з блакнота і пранікліва аглядае сход.

У пярэдніх радах сядзіць у застылых позах моладзь, хлопцы і дзяўчаты з арганізаванай нядаўна камсамольскай ячэйкі. У некаторых у вачах мнагазначныя ўсмешкі. У іншых грозная і акамянелая сур'ёзнасць. А вось хлапчук з завостраным носам ловіць па-вучнёўску кожнае слова прамоўцы. Калі глядзець на яго выразлівы малады твар і зусім не чуць прамоўцы, дык па адной міміцы гэтага твару можна прыблізна здагадацца, аб чым ідзе гутарка.

— Крушынскага ў нас няма, але, люблю праўду, крушыншчыкаў у нас яшчэ нямала засталося. З імі нам цяпер прыйдзецца змагацца, доўга і ўпарта змагацца. Во як весці бойку! (Драчык сціснуў кулакі і выпяў грудзі наперад.) Я ўпэўнены, што крушыншчыкі будуць нам перашкаджаць на кожным кроку, як яны дагэтуль рабілі! Гэта факт, таварышы! Такіх чорт нямала тут насеяў (на лаўках замітусіліся... Пачуўся шматгалосы гул сходу. Нібы дрэвы ў лесе пад ветрам). Крушыншчыкі спакойна жывуць у пасёлках, на хутарах, сярод Драздоў і Дзятлаў, у Гайдачанах. Ваўкі ў авечай шкуры! Люблю шчырасць, таварышы! Чаго варты Слуп і Бочка, наш поп, які ледзь не старшынёю сельсавета быў у нас! (Зноў на лаўках мітусня, нецярплівае шараванне кажухамі і світкамі аб новыя сасновыя дошкі ўслонняў.) А пра калгас, таварышы, якраз сягоння трэба будзе пагаварыць. Пяцігодка — гэта вам не жарты. Не думайце, што толькі ў газетах аб

гэтым пішуць. Вы, можа, скажаце, што нашыя багацеі спакойненька сядзяць, злажыўшы лапкі? Паглядзіце, як у нас прайшла сёлета хлебанарыхтоўка! Люблю шчырасць! Кулакі правалілі (на лаўках зноў мітусня. Драчык выцірае пот са лба рукавом сатынавай касавароткі). Толькі «Чырвоны Кастрычнік» і бедната да гэтага шчыра адносіліся... Трэба ведаць, што...

— А ты, старшыня, не сам вінават у гэтым?

— Ты сам!

Гэтыя галасы пачуліся з маленькага гуртка жанчын — удоў, якія сядзелі на адным з зэдлікаў.

— Заткні глотку, бабская каманда! — закрычаў хтосьці з іншай лавы.— Шмат вы там далі гэтай нарыхтоўцы?

— У нас нічога няма.

— Вось за гэта самае вы надта жвавыя на языкі, каб іншыя за вас давалі!

Зноў сход узбурыўся. Грукатанне гарачых галасоў расплываецца, сыплецца на розныя лады. Драчык трохі непакоіцца. Твар яго чырванее.

— Ціха! Супакойцеся, таварышы! Калі кулакі пахавалі дабро, дык мы яшчэ з імі паваюем! Люблю шчырасць! Паваюем!

Сход зноў застыў. Кажухі і світкі перасталі рухацца.

«Леў Талстой» сядзіць на першай лаўцы супраць прэзідыума і глытае кожнае слова. За апошні час барада яго яшчэ больш пабялела. Ён сягоння сумны, што яго не абралі ў прэзідыум, аднак старанна запісвае алоўкам у кнізе земскага ўсё, што чуе і бачыць. Часта выцірае кавалачкам палатна свае акуляры і насоўвае іх шчыльней на нос з заклапочанай стараннасцю.

Хвёдар і Змітрок сядзяць побач на адной з бакавых лавак. За той час, што вярнуліся з арміі (каля пяці гадоў), абодва пасталелі. Хвёдар выглядае як вухар-купец на старых лубачных малюнках: русая кучаравая бародка ахоплівае ўвесь яго ружовы твар да самых вачэй. Даўно не стрыжаныя валасы ўюцца ў дробныя абаранкі. Ён сядзіць каля самога акна. Шыбы напалавіну кованы снежна-срэбнымі хвойкамі з лёду. Дзе-нідзе праз чыстыя кавалкі шкла заглядаюць у клуб цёмна-сінія плямінкі зімовай ночы. Хвёдар часта пазяхае ў руку.

Змітрок штурхае Хвёдара локцем у бок:

— Хвёдар!

— Га?

— Раз назаўсёды ты павінен, Хведзька, сёння сказаць...

У голасе Змітрака цеплыня, якой Хвёдар даўно ў яго не заўважаў у адносінах да сябе.

— А што? — Хвёдар вылупіў вочы на Змітрака.

— Раз назаўсёды кажы мне: альбо — альбо. Ці ты з крушыншчыкамі, ці з намі?

Хвёдар апускае галаву. Маўчыць.

— Кажы, Хведзя! Мы разам з табою гэтулькі часу ў Чырвонай Арміі жылі. З аднымі думкамі назад вярнуліся. І вось ты збочыў направа, да багатых...

Хвёдар панура глядзіць перад сабою.

— Так,— працадзіў ён праз зубы.— У душы я такім самым застануся. Але ведаеш, Змітрок, як я жыў раней? Вечна ў галоце. Хоць бацька моцны гаспадар, але мне ад гэтага ўсё роўна. Хочацца хоць трохі лепш пажыць. Хочацца хоць чутачку дабра і для сябе.

Хвёдар махнуў рукою.

— У душы я, дальбог, такі самы, якім быў раней. Але я ж думаў, што гэтыя пасёлкі... ды што аб гэтым казаць...

Хвёдар зноў махнуў рукою.

— Значыць,— зазлаваўся Змітрок,— твая душа не прымала ўдзелу тады, калі поп твайго сына ахрысціў?

— Гэта рабілася без мяне. Я не быў тады дома...

Змітрок зірнуў на яго прыжмуранымі вачыма.

У клубе пачынае станавіцца душна. Над разнатварым сходам уюцца воблачкі махорачнага дыму. Некаторыя пацеюць. Густы пах аўчыны і чалавечага поту.

Кончыў сваё ўступнае слова Драчык. Таварыш з раёна гаварыў аб неабходнасці калгаснага будаўніцтва, даводзіў сялянам вялікую для іх выгаду пры пераходзе сельскай гаспадаркі на новыя рэйкі. Выступіў наборшчык Сакалоўскі аб фабрыках хлеба. А пасля яго гаварыў Мікола Ярэмчык. Ён намаляваў яркі партрэт Язэпа Крушынскага як шкодніка і эксплуатататара, які маленькімі падачкамі і рознымі хітрыкамі трымаў у сваіх руках увесь сельсавет. Усё насельніцтва баялася Крушынскага. Дзе падачкі не памагалі, там былі страшункі, а дзе і гэтага не баяліся, дык некаторыя ў раёне баранілі «культурніка» з Курганішча.

У пакоі горача. Матушка (жонка айца Дзімітрыя) спіць на канапе. На стале стаіць лямпа.

— Маці... маці...

— Га?

Яна расплюшчвае спалоханыя вочы і глядзіць на айца.

— Можа, хопіць табе спаць?

Матушка не чуе. Яна зноў заснула. Па яе ружовым твары мільгае цень ад пальца айца Дзімітрыя. Айцец хацеў з жонкаю пагаварыць аб сур'ёзных справах ды не паспеў: яна зноў заснула.

Яшчэ за некалькі дзён да сходу ў новым клубе айцец Дзімітры «рыхтаваў» людзей. Сам быў невідзімкай, але дзейнічаў праз Слупа і Бочку. Яны ледзь не кожны дзень рапартавалі папу аб усім тым, што дзеецца ў сельсавеце пад старшынствам Антося Драчыка. Айцец Дзімітры праз Слупа і Бочку вучыў сваіх парахвіян, як трымацца на сходзе. «Расседжвацца трэба так, каб с в а е былі ўперамежку з н я п э ў н ы м і на ўсіх лаўках. С в а е павінны падаваць знак: калі выступаць, а калі маўчаць. Самых небяспечных трэба заўчас улагодзіць пазычкамі грошай ці чаго іншага. Гэтым заткнём ім рот непрыкметна і пэўна. Можна палохаць Польшчай; як толькі, дык Гайдачанскі сельсавет, як прымежная паласа, зараз жа апынецца на «тым» баку. Ні аднаго фунта хлебанарыхтовак! Няма лішняга, сабе трэба...»

Айцец усміхаецца. У гэтай справе ён нямала папрацаваў. Калгасы і рэлігія — вада і агонь... Усё залежыць ад нас саміх... Не захочам: дык... Дагэтуль так ціха было ў нас, а вось надышла завіруха...

«Што там на сходзе цяпер робіцца? Зараз прыйдзе адтуль Слуп. Такі быў угавор».

Ад нецярплівасці айцец надзяе кажух і выходзіць на двор.

Змурудны снег трэцца пад нагамі, як расціснутае шкло. Дзве старыя бярозы, як вартаўнікі ў белых футрах, стаяць застылыя каля брамы. Калі-нікалі па бярвеннях будынкаў стрэльне мароз. У бяздонні начнога неба жаўтаватымі кроплямі вісяць зоркі. Вось-вось яны са звонам упадуць на купал царквы (яна стаіць воддаль на ўзгорку) і рассыплюцца гарохам па бляшаным даху. Саламяныя стрэхі вёскі Глухаўкі прыдушаны сіняватымі пластамі снегу. Адтуль вее холадам і цішынёю.

«Мабыць, і глухаўцы пайшлі на сход...»

З боку бярэзніку, які зліваецца з сіняй глуханню ночы, плыве сюды воўчае выццё, спачатку ціхае, як з-пад зямлі, а з кожным разам усё галасней. Ім адказваюць

глухаўскія ды іншыя сабакі. Мурза рвецца з ланцуга. Непрыемна становіцца папу. Вецер рыпае асверам над студняй. Поп свідруе вачыма сінява-снежны абшар. Некалькі вёрст адгэтуль граніца. На шырокім полі лінія калючага дроту. Вялікі камень ляжыць на тым полі. Аб камені ёсць байка, што гэта акамянелая капліца. У капліцы — княгіня. У княгіні на пальцах — пярсцёнкі з дарагімі каменьчыкамі. А на тым баку калючага дроту — вёска Рудня.

Поп шчыльней акрываецца кажухом, адварочвае твар ад марозлівага ветру, супакойвае Мурзу і бокам ідзе ў хату. Гудзіць грозны вецер. Яго гул здаецца папу водгуллем сходу ў Курганішчы. Поп сцяў зубы. У яго вачах аганькі нянавісці.

У сенцах скідае кажух. Уваходзіць у пакоік да матушкі і садзіцца к сталу. Ад рыпату дзвярэй і раптоўнай сцюжы, якая шматкамі ўварвалася ў пакой разам з папом, матушка прачнулася.

— Чаму, баця, спаць не ідзеш?

— Чакаю...

— Ах, праўда, і я ж чакаю...

— Колькі цяпер часу?

Матушка зірнула на свой ручны гадзіннік.

— Роўна адзінаццаць.

— Сход яшчэ доўга зацягнецца. Калі ім сягоння ўдасца, тады канец нашаму дабрабыту. Парахвія дасць нам гэтулькі, як дае «Чырвоны Кастрычнік»...

— Што ж нам тады рабіць? — палохаецца матушка.

— Так доўга цягнуцца не можа. Еўропа не будзе маўчаць. Рыхтуецца Польшча, Францыя, Англія. Увесь цывілізаваны свет рыхтуецца. Я ўпэўнены, што хутка ўсяму гэтаму канец.

Басавы голас айца пераходзіць на альт.

— Пяцігадовы план — гэта нешта д'ябальскае для народа. Явы сапраўды планава працуюць. Глядзі, як патроху з кожным годам тут усё горш і горш робіцца. Крушынскі вось праваліўся, бо не ведаў вайсковай стратэгіі.

Вочы матушкі праяснелі. Адпала ахвота да сну.

Айцец Дзімітры пачаў спацыраваць з кута ў кут. Цень перадражніваў па сцяне яго рухі.

— Некаторыя раілі мне адмовіцца ад духоўнага сану. І добра, што я так не зрабіў. Кіну расу тады, калі зноў трэба будзе надзець мундзір паручніка. Помніш мяне ў гэтым мундзіры?

— А як жа! Я потым спаліла фотаздымак.

— Цяпер выгадней быць паручнікам з крыжам. Я вось тут з табою гавару, а камандую фактычна сходам у Курганішчы. Эх...

Перад яго ўяўленнем, нібы яшчаркі, мільгаюць успаміны. Твар айца становіцца сумным і задуменным. У гэту хвіліну матушка глядзіць на яго і кажа:

— Мне здаецца часта (таксама і цяпер), што твая брыдкая барада і кудлы на галаве прыклееныя, чужыя...

— Але я ўвайшоў у папоўскую ролю як належыцца. Нават задумаў быў з'арганізаваць тут рэлігійны інтэрнацыянал (айцец хіхікнуў мышыным піскам). Хацеў быў наладзіць сувязь з местачковым рабінам. Мы з ім сустрэліся неяк на вуліцы, і ён на мяне паглядзеў такімі спачуваючымі вачыма; мне здалося, што ён кінецца да мяне, як палякі кажуць: «як свуй да свэго». Але ведаеш, яго барада, пэйсы і бліскучы ад бруду лапсардак здаваліся мне больш праціўнымі за мае кудлы ды папоўскую расу...

Матушка зарагатала срэбным смехам. І грудзі, і круглыя шчокі яе трасліся, як квашаніна.

Мікола Ярэмчык выцер пару разоў пот з ілба. Быў бледны, зმораны ад духаты, але голас яго бадзёры і свежы:

— Адзінае выйсце для вас — гэта калгас! (Ён зірнуў на сход, на многія дзесяткі рознакаляровых вачэй, якія ўтаропіліся ў яго. Успомніў вузенькія шнуры тутэйшых сялян, саламяныя стрэхі, бруд у хаце, галоту, худую жывёлу... Усё гэта ў адзін міг: працяглая кропка між двума сказамі.) Скажыце, ці не лепш жывуць у «Чырвоным Кастрычніку»? Калі хто наракае, што дагэтуль тут будавалі новыя хутары і пасёлкі, дык аб прышчэпаўшчыне ўжо гаварыў папярэдні прамоўца.

Бочка сядзіць побач са старым Сухарукім ды шэпча яму на вуха:

— Гавары! Табе, старому, няма чаго баяцца...

Сухарукі, высокі і тонкі, як жэрдка, падняўся з лавы. Зыркімі вачыма зірнуў вакол і крыкнуў старэчым пісклявым голасам вывучаныя словы:

— На нашым карку будзеце памылкі рабіць? А можа, выйдзе пасля, што і калгас памылка, што тады будзе?

— Ціха ты! — крыкнуў Драчык.— А-а-а! Каля цябе Бочка сядзіць? Навучыў? Глядзі, Бочка! Гэта табе не бой-

ка за лужок. Глядзі, каб на табе абручы не трэснулі! Пакуль што дайце гаварыць тав. Ярэмчыку, а пасля выступіць хто захоча!

Сход ледзь супакоіўся. Бочка скрыгатаў зубамі.

— Няхай класавы вораг не радуецца нашым памылкам. Мы іх не тоім. Мы першыя аб іх і гаворым. А што тычыцца прышчэпаўшчыны, ды гэта проста шкодніцтва з боку класавага ворага.

Так сказаў Мікола Ярэмчык і пачаў далей тлумачыць перавагу калгаснай гаспадаркі над аднаасобнай для беднаты і серадняцтва.

Пасля даклада Ярэмчыка быў зроблены перапынак. Сход рушыў з месца, падзяліўся на групкі, прыціснуўся да акон, расплыўся па кутах, многія выходзілі ў цёплыя сенцы. Цяпер стаяў такі гуд, што здавалася, нібы на людзей напаў нейкі шал.

Каля аднаго акна высокі Слуп шэпча на вуха чарнавусаму Яўхіму ў кароткім кажуронку:

— Калі табе трэба хлеба, ідзі ка мне, дам колькі хочаш! Мы ж суседзі! Пасля разлічымся. Толькі не думай ісці ў гэту цёплую кампанію, калі жыць ахвота.

— А вось у камуне ўсё ж такі людзі добра жывуць. Чаму ж нам калгасу тут не рабіць? — баязліва пытаецца чалавек у кажуронку.

— Пан Гардзялкоўскі ім гатовую гаспадарку пакінуў. Бокам ім усё гэта вылезе, як прыйдуць палякі.

— Прыйдуць?

— Прыйдуць... Помніш, як яны табе ўсыпалі за панскае бярвенне? І цяпер тое самае будзе.— У цяні, адвярнуўшыся тварам да сцяны, гавораць двое:

— Нэпа трохі дала дыхнуць, а цяпер зноў узяліся. Ты не гаспадар над сваёй працай. Толькі дармо аддавай! Кармі новых паноў-камісараў.

— Там жа рабочыя, яны ж з нашага брата. Вось і мой сын на фабрыцы ў Мінску працуе,— бароніць другі голас.

— Рабочыя! Рабочыя! — перадражнівае першы голас.— А што мы маем ад рабочых? Што нам у кааператыў прысылаюць? Не! Каб жыў Ленін, дык трымаўся б за нэпу. Добрая была яна і разумная, гэта самая нэпа!

У бакавым пакоіку з левага боку сцэны сядзіць камсамольскі штаб і прэзідыум сходу.

Мікола Ярэмчык хвалюецца, голас яго трохі ахрыплы:

— Сягоння, таварышы, нічога не выйдзе з калгаснай

справай. Ты, Драчык, яшчэ слаба падрыхтаваў беднату. Будзе тое самае, што з хлебанарыхтоўкай.

— Нічога, мы з крушыншчыкамі расправімся! — упэўнена кажа Драчык.

— А табе вядома,— не адстае Ярэмчык,— колькі ў сельсавеце кулакоў?

— Яшчэ падлічыць не паспелі. Бо шмат вазніцы было са справамі ў канцылярыі. Але я і па пальцах пералічу. Люблю шчырасць, усіх памятаю.

Драчык трохі збянтэжыўся.

— Вось бачыш, «па пальцах», кажаш, пералічыш. Думаю, што табе пальцаў не хопіць... А чым камсамол займаецца? Не маглі хлопцы гэтага зрабіць?

Драчык пачаў церабіць патыліцу.

— Гэтульнкі часу варонілі тут і нічога не зрабілі! — дзівіцца наборшчык Сакалоўскі. Ён глядзіць на сакратара райкома з дакорам. Яго вочы колеру піва цяпер цёмныя. Маршчыны на лбе глыбеюць.

— Я тут новы чалавек,— кажа той.— Зусім згодзен з вамі, таварыш Сакалоўскі, што гэты раён вельмі адсталы.

— А камуна? — не адстае Сакалоўскі. — Што камуна рабіла?

— Камуна ўвесь час была абкружана ворагамі, і ёй не да гэтага было. Вось яшчэ нядаўна, як вам вядома, былі атручаны коні. Камуна мела свае клопаты.

Так пачаў бараніць камуну Драчык.

— Але...— Драчык пагладзіў голены твар.— Люблю шчырасць,— камуна спала ў шапку. Тое, што мы цяпер пачалі, камуна магла зрабіць куды раней. Камунары былі захоплены сваёй справай і не звярталі ўвагі на сельсавет. Я сам калі-нікалі прабаваў дзейнічаць, кідаўся, як той кажа, нібы рыба аб лёд, але і ў раёне не мог дабіцца праўды. Усё ж такі і я вінават.

Драчык паморшчыўся і махнуў рукой.

— Я бачу, многа ліха нарабілі ў вас прышчэпаўскія хутары і пасёлкі,— сказаў Сакалоўскі не то Драчыку, не то самому сабе.

На стале ў айца Дзімітрыя гарэлка і ежа. Чакаюць гасцей. Побач на камодзе гафтаваная сарвэта — мастацтва матушкі, калі была яшчэ дзяўчынай. Фрэнзлі сарвэты вісяць уніз ледзь не да самай падлогі. Фрэнзлямі забаўляецца адкормлены кот. Матушка смяецца.

— Як табе, маці, не сорамна? — злуецца айцец Дзімітры.— Тут сур'ёзныя падзеі адбываюцца. Усё жыццё наша крэмсаюць на кавалкі, а ты забаўкамі занята.

— Няўжо ж мне вечна плакаць? І так атручана маё жыццё. Можа, загадаеш пайсці са стрэльбай пад Драчыкава акно?

Айцец Дзімітры тупнуў нагой і крыкнуў:

— Ах ты, дурная баба! — і дадаў непрыстойнае слова.

Матушка заплакала.

Айцец Дзімітры, не звярнуўшы ўвагі на яе слёзы, выбег на двор. Прывёў Мурзу.

— Ледзь не забыўся,— сказаў ён.— Гэта ж сабака нарабіў бы галасу на ўсю ваколіцу, каб сустрэў іх на двары.

А другой гадзіне ўночы прыйшлі яны: Слуп і Бочка. Скінулі кажухі, выцерлі заільдзянелыя вусы і бровы.

— Садзіцеся, госцікі! Ну і доўга цягнулася гэта музыка...

— Не сход быў, а лазня,— сказаў Слуп.

— Не лазня, а бойка,— паправіў Бочка.

Айцец Дзімітры наліў гарэлкі ў кілішкі.

Пілі і закусвалі. Матушка з асаблівай ветлівасцю падавала гасцям закуску.

— Ну і як там гэта бойка праходзіла? — пачакаўшы трохі, запытаў айцец Дзімітры.

Слуп паглядзеў на вокны. Аканіцы былі шчыльна зачынены.

— Выпусціце, бацюшка, сабаку на двор. Можа, хто за намі цікаваў. Тады няпрошаных сустрэне Мурза.

Айцец Дзімітры вывеў Мурзу на двор.

Пасля гэтага Слуп доўга апавядаў нізкім голасам.

Нарэшце пасыпаліся запытанні ў прэзідыум. Нашыя раней умовіліся, што пытацца, і нашэптвалі людзям на вушы:

— А калі ў калгасе ператруцяць усіх нас, як тых коней у «Чырвоным Кастрычніку»?

— Чаму нам трохі не пачакаць з гэтай справай, ну, хоць год адзін?

— Калі наша воля, дык мы не хочам у калгас, бо яшчэ даўней паншчыну адбывалі. Навошта нам калгас, калі пры Савецкай уладзе нам і так добра?

— Ці будзе дазволена ў калгасе богу маліцца?

На ўсё гэта яны вельмі трапна адказвалі. Зноў доўга гаварылі аб пяцігадовым плане і так замарочылі галовы, што многія з гайдачанцаў запісаліся ў калгас.

Айцец Дзімітры паморшчыўся, выставіў палец угару і сказаў:

— Та-а-к... Пяцігадовы план... А мы на план адкажам планам. Не можа быць, каб так доўга цягнулася. Еўропа павінна нас ратаваць.

— Зноў у лес прыйдзецца ісці,— дрымотным голасам сказаў Бочка, і вочкі яго замасліліся ад хмелю.

— Трэба як кольвечы затрымліваць калгасную музыку, а там прыйдуць разумнейшыя і навядуць лад і парадачак. Ні аднаго фунту хлебанарыхтовак! Дармаедаў кардміць — грэх! Вясною абсеяць поле толькі для сябе. Жывёлу прадаваць альбо рэзаць для сябе. Хоць мяса сабакам аддаваць, толькі калгасам нічога не пакідаць. Вось і зробімся ўсе беднякамі, калі беднякі ім так любы і дарагі. Пабачым, што з усяго гэтага выйдзе. Нарэшце ў кожным калгасе павінны быць і нашы.

Усю ноч дзьмуў вецер — сухі, марозлівы. Па вясковых комінах ён высвістваў працяглыя нудныя песні.

Усю ноч «Леў Талстой» пісаў. Сядзеў крукам над маленькім столікам. Не спала ўсю ноч і яго жонка Барбара — плакала на печы. Яна часта звярталася да мужа з такімі словамі:

— Ах ты, памяло сівое! Куды палез? Які ты ў мяне гаспадар?

— Ціха, маці, не перашкаджай мне працаваць. А то гаворыш, як той класавы вораг. Трэба прызнацца, так яно і ёсць.

— Я ўсё жыццё працавала-гаравала, а ты, паскуда, паскудзіць мне задумаў?

«Леў Талстой» перастаў прыслухоўвацца і давай далей пісаць:

«...Трэба прызнацца, гайдачанскі калгас будзе называцца «Першамайскі». Змітрок — старшынёю калгаса. Так. Той самы Змітрок, які калісьці разам з Хвёдарам вярнуўся з Чырвонай Арміі. Іхнія дарогі цяпер разышліся ў розныя бакі. Так. Упартыя Дразды і Дзятлы. Косамі, гарэлкай ды іншай трасцай Язэп Крушынскі труціў іх некалькі год. Так. Можа, гэта горшая атрута за тую, якую ён, Крушынскі, тоісь, перадаў Пархамчуку, а Пархамчук — Троську-бандыту, а бандыт Троська — коням камунарскім. Так».

Ужо зусім відна стала, калі ў хату ўвайшоў радаспа

ўсхваляваны Змітрок. Зірнуў адным вокам на пісаніну «Льва Талстога».

— Пішаш?

— Пішу...

— Пойдзем. Вазьмі з сабою паперу і аловак. Будзем рабіць падлік маёмасці калгаснікаў. Абагулім жывёлу, насенне, інвентар, сена.

— Пайду, пайду...— устрапянуўся «Леў Талстой» і высунуўся за дзверы разам са Змітраком.

Ён нават не звярнуў увагі на тое, што першы раз за ўсё сумеснае жыццё з Барбарай яна не падала яму снедання...

У хаце Змітраковых бацькоў ужо ўсе былі ў зборы.

— Ну і спадчыну пакінуў нам Крушынскі,— пачуў «Леў Талстой» гутарку Міколы Ярэмчыка, які таксама сюды з'явіўся,— апрача майго швагра Марціна, ніхто з Драздоў і Дзятлаў у калгас не йдзе.

## 17

## СТРАХ БЯРЭ

І Яўхіму, аднаму са старых касцоў Язэпа Крушынскага, успомнілася:

Год у год, як толькі касьба, ён адзін з самых рупных на сенакосе ў Курганішчы. Жонка — адна з першых там жа на жніве.

Тады і ён і жонка думалі, што Крушынскі робіць ім вялікую ласку. І былі яны ўдзячны такому гаспадару.

Калі пад вясну ў Яўхіма канчаўся хлеб, ён зараз жа з мяшком да Крушынскага.

— Добраму суседу ніколі не шкадую,— гаварыў Крушынскі.— Са сваім чалавекам гатоў апошнім падзяліцца. Вось які я!

Крушынскі цёр лысіну, хадзіў туды і сюды па розных справах. Спачатку ішоў на гумно, з гумна — у хлявы, потым у хату. Яўхім ззаду за ім, як цялё за каровай, ды ўсё выслухваў гутаркі Крушынскага.

Умеў Крушынскі так пагаварыць з чалавекам, каб той глядзеў на яго, як варона, і не мог слова сказаць.

У Яўхіма галава кружылася. Пакуль выбіраўся ў Курганішча, пакуль жонка яго сюды не прагоніць, паказваючы на згаладалых дзяцей, заўсёды праходзіла некаль-

кі дзён. Вельмі не любіў Яўхім доўгіх і мудрых гутарак гаспадара Курганішча. Калі б адкідаць тоўстую шкарлупіну гутарак, дык зярно іх заставалася заўсёды вось якое: «Мы суседзі. Павінны памагаць у бядзе адзін аднаму».

У Яўхіма бяда, што сям'я галадае. У Крушынскага бяда — сваімі сіламі не справіцца скасіць лугі і зжаць збожжа на полі. Заўсёды пасля гутарак Крушынскага выходзіла, што ён, Яўхім, не адзінокі ў бядзе...

Кожны раз пасля такой гутаркі, павадзіўшы Яўхіма за нос доўгі час, Крушынскі даваў яму пуд-другі жыта.

— Улетку адробіш, жонку прышлеш. Ну, бывай здароў!

З нейкім цяжарам на сэрцы заўсёды адыходзіў Яўхім ад Крушынскага, нягледзячы на тое, што той ніколі Яўхіму не адмаўляў.

Яўхім сягоння позна падняўся з ложка.

— Гэта ж усяночная была ў Курганішчы! — пачаў ён апраўдваць самога сябе, што позна спаў.— Потым, як вярнуўся, доўга заснуць не мог. Усё думаў-думаў.

— А на дварэ вецер і мароз,— сказала жонка і пагладзіла ўздуты жывот. Яна была цяжарная.

Яўхім пацёр пальцам чорныя вусы і няголеную бараду. Паглядзеў у акно. На дварэ круціла завея.

Пры снеданні Яўхім сказаў жонцы:

— Дзіва, як усё неяк круціцца-мелецца!

— А што? — зацікавілася жонка і паглядзела на Яўхіма паблеклымі шэрымі вачыма.

— Вось быў Крушынскі ды няма Крушынскага! Гэта я пра ўчарашні сход. Учора, як растлумачылі на сходзе, дык я зразумеў, што мы былі парабкамі ў Крушынскага гэтулькі часу.

— А я гэта даўно, без сходу, ведаю! — сказала жонка. Яе твар у жоўтых плямінах ажывіўся.— Мала мы на яго працавалі? Кожны пудзік жыта нам дорага абыходзіўся. Апошнюю сілу выцягне, пакуль адробіш. Ды што ж там на сходзе гаварылася?

— Усяго не перакажаш. Гаварылі, што трэба ісці ў калгас. Неяк страх бярэ.

— А які страх? Чаго ты баішся? Нам дык няма чаго палохацца.

Яўхіміха паднялася з лавы ды зноў села.

— Няма чаго палохацца, кажаш? А калі палякі прыйдуць? Калі пан Гардзялкоўскі вернецца? Помніш, як за бярвенне мне ўсыпалі? Каб не палякі, я пайшоў бы.

— Хто табе сказаў, што палякі вернуцца? — усхапілася жонка.— Няўжо ж гэта праўда?

Яна добра памятае, як білі Яўхіма за тое, што знайшлі на іхнім двары пару бярвенняў, вывезеных з панскага лесу да прыходу палякаў.

— Слуп гаварыў. Калі, кажа, табе трэба хлеба, дам колькі хочаш. Мы ж суседзі, кажа, пасля разлічымся. Толькі не ідзі, кажа, у гэту цёплую кумпанію, калі жыць хочаш.

— Ён і ласкамі, і страшуначкамі? — Яўхіміха раскрычалася.— Як той Крушынскі ўсё роўна! Ведаю іх! Дай бог нам жыць, як у камуне! Была я там не раз! Ведаю!

— Ціха, не крычы! — збянтэжыўся Яўхім. Ён трохі баяўся жонкі.— Не крычы, а то пачуюць.

— Чаго мне баяцца! Нашай беднасці? Не баюся! Калі ўсе пойдуць, дык і мы. Няма чаго шкадаваць. Бачыла, як людзі ў камуне жывуць.

— А калі вайна? — палахліва запытаўся Яўхім.

— Дык што, калі вайна? Твае маёнткі забяруць? Чаго мне баяцца вайны? Мала ваюю, пакуль дзяцей накармлю. Што ў нас возьмуць? Ды ці будзе гэта вайна.

— Слуп сказаў.

— Слуп? — жонка кпліва засмяялася.— Гэты дык майстар! Як толькі людзі будуць пісацца, дык і мы.

— З Драздоў і Дзятлаў яшчэ ніхто не ідзе, а вось гайдачаны падаліся ў калгас. Праўда, не ўсе.

Яўхім цярэбіць бараду.

— Калі не ведаеш, чалавеча, дзе лепш будзе.

— Горш не будзе! Шкада, што ў мяне вось гэткі жывот, а то я б на сходзе была, паглядзела б сама, што і як.

Яўхім вінавата аглядаецца па баках.

— Схадзі ў Гайдачаны, паглядзі, што там робіцца, цікава,— сказала Яўхіміха.

Яўхім апрануў кароткі кажуронак і выйшаў з хаты. Вецер адразу разануў у твар. Не хацелася цяпер ісці ў Гайдачаны. Яўхім злаваўся на самога сябе, што баба рэй вядзе ў хаце. Ён-то, праўда, у прымакі пайшоў да яе. Хата, гарод, кавалак сенакосу, некалькі палосак поля, кароўка — усё гэта яе. Аднак жа ён гаспадар, «бо мужчына». З яго і людзі смяюцца, што ён дае жонцы волю. Некаторыя дабрадзеі нават вучылі яго так вымуштраваць жонку, каб яна ішла на яго павадку. Нічога з гэтага не выходзіла. Каб ён і адважыўся спрабаваць сваю сілу на ёй, дык яна была дужэйшая за яго.

У Гайдачанах на вуліцы было вялікае ажыўленне. Нягледзячы на кепскае надвор'е, усе былі на двары — і старыя і малыя.

Яўхім далучыўся да гурткі людзей, якія хадзілі з хаты ў хату абагульваць жывёлу, збожжа, конскую збрую, вазы, плугі ды іншае.

«Леў Талстой» акуратна ўсё ўпісваў у кнігу. Кожную хвіліну шчыльней насоўваў акуляры на нос.

— У вас тры каровы, дык вам адну пакінем, якую сабе хочаце,— сказаў Змітрок да гаспадара-гайдачаніна.

— Мне што,— сказаў той,— мне нічога, але вось жонка артачыцца.

Барадаты гайдачанін зірнуў на жонку — нізенькую зморшчаную кабеціну. Яна паглядзела спалоханымі вачыма на Змітрака, на «Льва Талстога». Нават на Яўхіма недаверліва зірнула.

— Я бурай каровы не дам. Гэта пасаг дачкі! — сказала яна пісклявым голасам.

— Вялікая бяда,— засмяяўся Змітрок,— няхай бурая табе застанецца, а падласую і рабую мы запішам для калгаса.

— Дзякую за ласку! — завізгатала старая.— А нам не трэба? Запішыце адну — падласую! Рабую нам патрэбна, а бурая — Марыльчын пасаг.

Тут жа стаяла іхняя дачка Марыля. Яе шчокі ўспыхвалі, нібы агонь.

— Не можна так,— тлумачыў Змітрок.— Тады ж у вашай сям'і застануцца дзве каровы, а мы пастанавілі толькі па адной пакідаць.

— Але ж гэта пасаг! — крычала старая.

— Марыля яшчэ замуж не ідзе. Як ты, Марыля, ідзеш цяпер замуж? — запытаўся Змітрок.

Марыля чырванела, маўчала і не ведала, дзе дзецца ад сораму.

— Ды яшчэ з бацькамі жыць будзеш! — не адставаў Змітрок.

— З бацькамі,— ледзь чутна прагаварыла Марыля.

— У калгасе і пасаг непатрэбен,— тлумачыў Змітрок.— Там адна вялікая гаспадарка для ўсіх. Там мужчыны і жанчыны роўныя. Выдадзім Марылю замуж за лепшага камсамольца. Без пасагу Марыля будзе добрай гаспадыняй-калгасніцай! Праўда, Марыля?

Дзяўчына ўсміхалася.

Старая маці Марылі супакоіцца не магла. Калі ўжо ўсе выйшлі з хаты, чуваць быў яе лямант:

— А я гадавала, а я карміла буранькую, думала, для Марылькі пасаг, а вось чэрці лысыя буранькую запісалі.

— Ціха ты! Дурная! — крычаў на яе муж.

Гаспадыня заплакала.

«Страх бярэ»,— падумаў Яўхім, ківаў галавою і цмокаў губамі.

У другой хаце выйшла гісторыя з новым хамутом.

Усе ведалі, што ў Яўмена ёсць два хамуты, адзін стары, а другі новы. А вось ён запісвае толькі стары хамут.

— А дзе новы? — запытаўся Змітрок.

Глядзіць на яго Яўмен у вочы і кажа:

— Прадаў новы хамут.

— Як гэта — прадаў? — дзівяцца ўсе.

— Калі прадаў? Гэта ж пазаўчора, як ты ехаў у лес на кані, быў новы хамут. Што ты, Яўмен, пляцеш? Трэба прызнацца, ты хлусіш. Так.

Гэта сказаў «Леў Талстой» і падняў акуляры з носа на лоб.

— Кажу, прадаў, ды і годзе! — зазлаваўся Яўмен і давай круціць плячыма, ніба хоча скінуць з сябе невідочны хамут.

— Хто ў цябе купіў?

— У Шапалевічах на рынку прадаў! Вось што!

— Ты ж нікуды не ездзіў. Што выдумляеш?

— Прадаў, і канец,— падняў голас Яўмен.

— Як табе, Яўмен, не сорамна маніць,— пачаў яго стыдзіць Змітрок.— Калі ты такі, дык навошта было табе ў калгас пісацца? Нам гэткія ў калгасе непатрэбны. Можаш выпісацца!

Яўмен апусціў галаву. Нешта мармытаў сабе пад нос. Неразборлівае спачатку мармытанне перайшло ў разборлівыя словы:

— Я хацеў прадаць гэты хамут. Слуп сказаў, купіць. А калі такая ўжо справа, дык няхай сабе! Запішы і гэты хамут,— звярнуўся ён да «Льва Талстога».

У трэцяй хаце сварыліся бацька з сынам.

— Я не пісаўся ў калгас! — крычаў бацька.— І не хачу, каб да мяне прыходзілі цяпер апісваць! Нікога ў хату не пушчу!

Ён стаў каля парога, разняў рукі крыжам і не пускаў у хату. Густыя рыжыя бровы над яго вачыма былі на-

суплены, вочы непрытомныя. Заслюнявілася рэдкая рыжая бародка.

Сын стаяў з другога боку, без шапкі, і спакойным голасам прасіў:

— Пусці, тата.

— Не пушчу!

— Тут і мая праца ёсць.

— Уткніся ты са сваёй працай!..— крыкнуў бацька і кінуўся на яго з паднятым кулаком.

Сын адскочыў, збянтэжыўся спачатку, а потым і ён зазлаваўся. І ў яго бровы насупіліся. Ён цяпер стаў вельмі падобным да бацькі.

— Дык давай дзяліцца! — крыкнуў ён. І голас яго стаў падобным да бацькавага.— Я са сваёй часткай пераходжу ў калгас!

— Не сын ты мне!

— А ты мне не бацька!

Яўхім не вытрываў ды ўголас сказаў:

— Страхоцце адно...

— Якое страхоцце? — звярнуўся да яго Змітрок.— Сын з бацькам пасварыліся? Глупства! Памірацца. Пасля яшчэ сам стары прасіцца будзе, каб мы яго прынялі ў калгас, але мы яшчэ падумаем, ці варта прымаць яго такога сварлівага.

Потым абагульванне пайшло спакайней. Толькі адзін гаспадар адмовіўся ісці ў калгас. Калі Яўхім у яго ціха на вуха запытаўся, у чым справа, дык той сказаў:

— Ведаеш, нейкі страх бярэ. Вось як пачнуць на сходзе гаварыць, дык здаецца, усё добра, лепш быць не можа. Ну, думаю, толькі ў калгасе мне і жыць. А як вось дайшло да таго, што трэба ў агульны кацёл кінуць усё тое, што за ўсё жыццё сваё нажыў, дык нейкі страх нападае. Хто яго ведае, што са мною робіцца. Вось жыццё не міла. Баюся ісці туды. Хто яго, братку, знае, што з усяго гэтага будзе?

Глядзіць Яўхім на спалоханага гайдачаніна ды шчыра яму спачувае.

Ведае Яўхім добра гэтага чалавека. Не раз ездзілі разам у лес, вазілі калоды на сплаўную рэчку. Гэты голены, невысокі, шыракаплечы гайдачанін Макарам завецца. Хоць гаспадарка ў яго невялікая, але не кепска жыве. Ён трохі сталяркай займаецца. Усю восень працаваў у Курганішчы, калі дом Крушынскага перараблялі пад клуб.

— Дык страшна, кажаш?

— Страшна, братку, аддаваць гатовенькае, а потым ласкі чакаць, каб хто табе даў паёк з твайго ж запрацаванага.

Каб добра самому даведацца, у чым рэч, і каб самому упэўніцца ў перавазе калгаснай гаспадаркі над аднаасобнай, Яўхім пачаў яго агітаваць:

— Як гэта, каб хто табе даў паёк! А сам ты не гаспадар у калгасе, як усе іншыя?

— Так-то яно так, але ці будзе чаго дзяліць? Ведаеш, не будуць жа працаваць, як раней, для сябе. Кожны пачне выкручвацца ад працы. А тады шыш і дастанеш.

— Ну, ну! — паехаў далей у сваёй агітацыі Яўхім.— А як жа ў камуне жывуць? Лепш, чымся мы, брат, з табою.

— Калі неяк боязна. Вось і там коней атруцілі, раней спаліць хацелі колькі разоў.

— Дык гэта ж сволачы робяць! — аж крыкнуў Яўхім і сам збіўся са свайго голасу.— А тут палохаюць адзін аднаго немаведама чаго. Вось мне Слуп кожны раз нагаворыць, дык жыццё нямілым становіцца.

— І мяне той самы палохае чорт ведае чым: вайна, паны...

— Такім, як Слуп, выгады няма ісці ў калгас з багатай гаспадаркі, але нашаму брату зусім іншы сэнс ёсць.

— Што праўда, то праўда, але хто яго ведае, каб чалавек не баяўся б, дык...

Яўхім не заўважыў, як пры гэтай гутарцы з чалавекам самога сябе пераконваў у тым, што трэба ісці ў калгас.

Яны яшчэ доўга гутарылі б, але пачулі крыкі з трэцяга двара. Жаночы візгатлівы голас рэзаў паветра:

— Не дам хлява! З сякерай у руках буду свой хлеў бараніць!

Яўхім і Макар пабеглі туды паглядзець. Там стаяў гурт людзей. Хто жартаваў ціханька, а хто ўголас смяяўся. Але ўсім было весела. Пасярод грамады стаяла старая жанчына, злосная, страшная ў сваёй злосці, ды ўсё крычала, што хлява не дасць. А з грамады пад'юджвалі яе, што хлеў забяруць для абагуленых кароў.

Абагульванне ішло не лёгка. Змітрок аж ахрып.

— Навошта яшчэ пісаць? — пыталіся некаторыя.— І так вядома, што ў каго ёсць.

Затое іншыя з гайдачан з нейкай шчырай радасцю адносіліся да гэтага. Яны хацелі, каб усё запісваць у агульнае.

І вось у Яўхіма з'явілася такое адчуванне, што ён сам не ведаў, як тут рабіць — ісці ў калгас ці не?

Пабачыць Яўхім новага калгасніка з вясёлымі вачыма і добрым настроем — і думае тады, што адным з першых пойдзе ў калгас. А вось хто-небудзь скрывіцца, скажа моцнае слова супраць калгаса — Яўхім пачынае сумнявацца. З такой няўпэўненасцю ён вярнуўся дахаты.

## 18

## СУТЫЧКА

Пасля ветру пачалася адліга. Неба было яснае, сонечнае; капала са стрэх, каля сцен будынкаў стаялі лужыцы. З саламяных дахаў сышоў снег. Дарогі пачарнелі. Было падобна да вясны. Аголіўся лес. Усюды ў даляглядах ён цяпер абрамляў край неба цёмнымі палоскамі. Чыліканне вераб'ёў напоўніла паветра. Санкі ўрэзваліся ў разлезлы снег, як у кісель.

Калі скончылася абагульванне кароў і коней, інвентару і насення ў вёсцы Гайдачаны, на нарадзе ў сельсавеце Мікола Ярэмчык раіў дастаць каваля для рамонту плугоў. Ён абяцаўся паехаць у мястэчка і прывезці сюды каваля Лейбу. Што тычыцца чысткі збожжа на насенне, дык гэта зробіць «Чырвоны Кастрычнік».

Драчыка захапіла іншае:

— Пачатак зроблены. Люблю шчырасць! Пастараемся, каб увесь сельсавет на ўсе сто працэнтаў быў калектывізаваны! Мы гэта зробім! Што б тут ні было, а так павінна быць!

— Не гарачыся! Сваёй гарачкай нічога не зробіш. Трэба рабіць памаленьку, але затое моцна, грунтоўна, каб потым не прыходзілася перарабляць. Дразды і Дзяткалы яшчэ добра пахнуць духам Крушынскага. Трэба выветрыць з іх гэты пах.

— Камсамольцы пастараюцца,— не адступаў Драчык.— Змабілізую ўсю беднату! Люблю шчырасць, з кулакамі хутка пакончым!

Некалькі гадзін цягнулася нарада.

Ночы надышлі цёмныя. Над зямлёю віселі густыя хмары. Гнілая вільгаць расплылася па дварах. У адну з такіх начэй Бочка разбудзіў старшага свайго хлапчука.

— Гальяшка! Схадзі пазаві сюды Слупа!

— Навошта ён? — пазяхаючы, запытаўся хлапчук.

— Ты не пытайся, а хутчэй збегай! — зазлаваўся бацька.

Гальяшка апрануўся і пабег. Тым часам Бочка пайшоў крадучыся ў хлеў і запаліў запалку. Тры яго добрыя каровы паднялі на гаспадара здзіўленыя асалавелыя вочы. Ужо ўпоцемках Бочка накінуў на рогі адной з кароў пятлю з вяроўкі і ціханька павёў у пуню. Карова ішла за ім спакорліва. Калі прыйшоў Слуп, Бочка паслаў у хату сына па маленькую газоўку. Яе паставілі на калоду пасярод пуні. Жоўтым кругам расплылося святло лямпачкі ў халоднай будыніне. Слуп выняў з кішэні бліскучы навострапы нож. Дзве пары вачэй паглядалі на Слупа і Бочку не то са страхам, не то з дзівам. Гэты выраз асвечваўся ў цёмных зрэнках Гальяша і каровы.

— Што ж тут такое будзе? — запытаўся Гальяшка.

Ні бацька, ні сусед яму на гэта не адказалі. Яны, можа, і не чулі, бо былі заняты. Нейкім хітрым чынам зачапілі ногі каровы вяроўкай, і карова павалілася. Тады яны моцна звязалі ногі каровы. Бочка ўрэпіўся за рогі і павярнуў, пацягнуў карову за галаву. Бурая шыя каровы напружылася. Слуп падышоў з нажом... Карова замэкала. Спужаўся Гальяшка.

— Татка, не трэба...

І слёзы бліснулі ў яго вачах.

— Адыдзі! — прабурчаў бацька такім голасам, што Гальяшка яшчэ больш спалохаўся, заплакаў.

— У хату ідзі, шчанё! — крыкнуў бацька.

Хлапец пабег.

Як справіліся з каровай, прывалаклі пару авечак. Скончылі і пайшлі да Слупа рабіць тое самае...

Яшчэ ўдодні яны паехалі ў Мінск. Па дарозе заўважылі многіх, якія ехалі ў горад на напакаваных санках. У некаторых за санкамі ішла на павадку жывёла.

У Мінску ў Цярэшкавай кватэры на кухні тады стаяла пазычаная ў суседкі, былой крамнічыхі, вага. Тут адбываўся продаж мяса. Зося, хатняя работніца Цярэшкавых, наказала ўсім знаёмым. Прыходзілі пакупцы, Слуп і Бочка з імі нават мала таргаваліся. Ці ведаў Цярэшка

аб гэтым, ці не, але яго жонка прымала ў гэтай працы самы гарачы ўдзел.

Удава Мацеіха глядзела праз акенца на вуліцу. Нядаўна яна ўправілася са снеданнем. Накарміла бульбай сына, які зараз жа пабег у Гайдачаны ў сельсавет, і не ведае, што рыхтаваць на абед. Сын яе ўжо некалькі тыдняў, як увайшоў у камсамол. Цэлымі днямі працуе ў сельсавеце. Лявон з ёю цяпер мала гаворыць, ён вельмі заняты. Глядзіць Мацеіха ў акно і бачыць, цэлая гання сабак цягне па вуліцы трыбух і кішкі. За сабакамі з кіямі ў руках бягуць дзеці.

«Хто ж гэта жывёлу зарэзаў? — падумала яна.— Эх, даўно мяса не каштавала... Забылася нават смак гэтага мяса... Добра, каб хлеба было ў волю. Колькі ўжо год будзе, як Мацей памёр?»

Мацеіха ўспомніла:

Было так. Пры паляках яе муж партызаніў. Яго шукалі, і вось аднаго разу... Была тады цёмная летняя ноч. Душна было ў хаце. Яна спала на ложку з васьмігадовым хлапчуком. Пачула, нібы нехта драпае пальцамі акно з боку гумна. Уздрыганулася Мацеіха, падскочыла да акна ў адной кашулі.

— Хто тут? — Яна спалохалася, бо ў вёсцы былі легіянеры.

— Выходзь, гэта я...— пачула яна голас і задрыжала ўсім целам. Гэта быў Мацей. Яна хутка апранулася і выбегла на двор.

Яшчэ раней некалькі разоў прыходзілі легіянеры.

— Дзе муж?

— Не ведаю...

Тады яе пачалі цягаць за валасы і вадзіць па хаце ад сцяны да сцяны...

— І цяпер, псякосць, не ведаеш?

— Не ведаю...

Яна сціскала зубы ад болю, калі бізун ляснуў ёй па спіне і твары.

Малы Лявон плакаў.

— Маўчы, чортава насенне! — крыкнуў адзін ды намерваўся над хлопчыкам бізуном.— Кажы, дзе тата?

— Не ведаю...— Лявонка заплакаў.

Хацеў азвярэлы чалавек даць хлопчыку бізуна, але вырвалася матка. Клок яе валасоў застаўся ў руках жаў-

нера. Болю яна тады не адчувала. Бізун ляснуў ёй па руцэ. Абараніла сына.

Некалькі разоў прыходзілі да яе легіянеры.

На двары за вуглом хаты яна тады сказала Мацею:

— Уцякай, легіянеры ў вёсцы.

— Ведаю. Забяры сына, ды пойдзем у лес, а то яны цябе тут прыкончаць. Можа, яшчэ тыдзень, і мы іх адгэтуль прагонім.

— А хата? — няўпэўненым голасам запыталася Мацеіха.

— Усё роўна спаляць. Сына я панясу, а ты падушку якую возьмеш.

— Рукі ўгару і ні з месца! — пачулі яны раптам гучны крык.

Мацей стральнуў з нагана, але з-за вугла кінуліся на яго з шаблямі трое. Мацеіху павалаклі назад у хату.

Што было далей?

Крывавы туман ахапіў з усіх бакоў, душыў. Прачнулася ў местачковай бальніцы. Яе хлапчука забраў сусед.

Глядзіць Мацеіха ў акно і думае: «Што сыну зварыць на абед?»

Чуе вясёлыя посвісты і крыкі дзяцей, візгатанне сабак.

Не заўважылі Мацеіха, як адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшла жонка Слупа.

— Дзень добры, мая міленькая! — пачула Мацеіха шчабатлівы голас. Задрыжала ад неспадзеўкі ды адвярнулася.

— Дзень добры, дзень добры! — паўтарыла яна аж два разы.

Не здзівілася на прыход жонкі Слупа, бо ў апошнія часы тая часта прыходзіла да яе з рознымі навінамі. Але і не абрадавалася, бо навіны цёткі Слупіхі заўсёды былі нейкія невясёлыя: то «канец свету» яна прыносіла ў гэту хату, то з вайною прыходзіла, то з нейкімі бунтамі супраць бальшавікоў, то з цудадзейным сном...

З пустымі рукамі цётка Слупіха ніколі не прыходзіла.

Кожны раз, пасеяўшы трывогу ў сэрцы Мацеіхі, яна ішла ў іншую хату з тымі ж падарункамі.

Доўга шчабятала на гэты раз цётка Слупіха.

— Людзі па начах не спяць, мая ты родненькая. Ад нуды вошы напалі. Кажуць, не можна пісацца ў калгасы, бо хутка палякі прыйдуць. Тым, што ў калгасе, горш будзе, мая ты родненькая...

Вочкі цёткі Слупіхі бліпічаць. Яна выцірае слёзы.

— На, прынесла трохі мяса... Ты ж, мабыць, даўно не прабавала. Людзі рэжуць жывёлу. Усё роўна, кажуць, у калгасах лепшых дадуць, а мы ўсе хочам быць беднякамі. Мы ўсе цяпер роўныя, на, міленькая. Дык ты там глядзі, каб твой Лявон нічога па нас не ўзвёў. Нешта там, у сельсавеце, кулакоў шукаюць. Мой жа, ведаеш, цяпер зусім не кулак...

Яна палажыла на зэдлік ёмкі кавалак бараніны.

— Дык няхай ужо есць на здароўе твой Лявон і ты, мая родненькая, таксама... Ну, бывай здаровенька!

Пад вечар прыйшоў Лявонка і здзівіўся: у хаце пахне тлустым вараным мясам.

— Маці, хутчэй есці! — і носам давай уцягваць прыемны пах.

Ён ужо ведае новую кулацкую махінацыю. У сельсавеце гавораць, што трэба прыняць меры супраць разбазарвання жывёлы. Сам бачыў на некаторых дварах лужы крыві ад зарэзаных кароў і авечак. Але цяпер думаць аб гэтым не хочацца. Вельмі галодны, а пах з печы так вабіць...

Маці тым часам выняла з печы гаршчок.

— Ах, як пахне... Маці, дзе ты дастала мяса?

— Слупіха прынесла...— зірнула на сына і спалохалася. Ніколі не бачыла яго такім узлаваным.

Ён увесь пачырванеў, жылы ўздуліся на яго лбе, з вачэй пасыпаліся іскры.

— Як?! — крыкнуў ён не сваім голасам.— Ад кулака ты падаруначак прыняла?! Можа, Слуп хоча мяне падкупіць? Няхай сабак корміць! — З агідай і злосцю Лявон скінуў мяса са стала.

Прыехаў стары Лейба з мястэчка. На дзвюх фурманках прывезлі ўсе яго кавальскія прылады і хатнюю маёмасць. У адзін з гэтых шумных дзён у Курганішчы ў кузні, дзе раней Язэп Крушынскі рыхтаваў на продаж калёсы на жалезным хаду, пачуўся звон малаткоў. Рамантаваліся плугі ды іншыя сельскагаспадарчыя прылады гайдачан для калгаса «Першае мая». У дапамогу старому кавалю прымацавалі да кузні яшчэ двух камсамольцаў. Вакол кузні грамадкі людзей.

За пару дзён каля кузні вытапталі чорную пляміну зямлі. Не то што снегу тут не засталося, але і леташняй травы.

Часта падыходзіў сюды крадучыся Слуп. Глядзеў на гайдачан кплівымі вачыма:

— Плужочак ладзіш, першамайнік?

— Плужочак, а табе што?

— Мне? Мне нічога, цябе шкадую. Хіба вясною цябе ў ім араць упрагуць, бо коні вашы перадохнуць. Хто за імі цяпер глядзіць, за чужымі?

— Толькі ты, Слуп, не вельмі бядуй,— адказвае барадаты гайдачанін.

— Як мне не бедаваць? Суседа шкода.

— Ідзі адгэтуль, бо пападзецца табе за кулацкую агітацыю,— злуецца той ды аглядаецца па баках, каб ніхто ўсё ж такі не пачуў...

Слуп смялее.

— Ты схаваў калёсы? Хоць калёсы схавай, а то паломяць. Па-суседску кажу. Я ж цяпер такі серадняк, як і ты...

Барадаты наставіў вушы.

— Калёсы, кажаш?

— Ты ж гэтулькі гараваў, пакуль іх нажыў... (У Слупа літаслівы галасок.) Ты ўжо, братку, не гаспадар. Над сталым чалавекам гаспадараць сысуны-камсамольцы. Дажыўся ты, няшчасны.

— Не плач над маёю галавой.

Слуп аглядаецца па баках і шэптам кажа:

— Схавай, дурны, калёсы, як суседу кажу. Будзеш пасля шкадаваць.

З кузні выйшаў адзін з памочнікаў Лейбы, малады хлапец.

Слуп павярнуўся ды праз сад пайшоў у вёску.

— Што табе Слуп на вуха бубніў?

— Апічога... Пытаўся, ці можна тут яго каня падкаваць...

У бакавым пакоіку на ложку гара падушак і падушачак матушкі. Ад большых да меншых яны цягнуцца ўверх завостраным стажком. Збоку каля самага акна стаіць круглы столік. Айцец Дзімітры сядзіць пры століку і піша. Часам паднімае твар з паперы і глядзіць у акно. Са страхі падаюць упіз кроплі. Мільгаюць перад вачыма. У цішыні айцец чуе, як кроплі плюхаюцца ў лужынку. Яны лічаць хвіліны, лічаць несупынна, без памылак: раз, два, тры... На гародзе выступіла чорнае лапікла зямлі.

Здалёку відаць аголены бярэзнік. Адліга змыла з яго снежны кажух.

Айцец не піша, а «друкуе» — піша друкаванымі літарамі, каб ніхто не пазнаў яго рукі. Павольна і старанна выводзіць літары.

Адліга плача за акном. А кроплі са страхі: раз... два... тры... Лічаць яны «надрукаваныя» айцом Дзімітрыем радкі. Айцец чытае напісанае манатонным голасам. Яго пульхныя губы выпячваюцца. Хадыром ходзіць рэдкая барада.

«Браты сяляне!

Цяжкі час надышоў для вас.

Новыя чырвоныя паны вас абдурваюць рознымі спосабамі ўжо многа год. Цяпер яны ўжо бессаромна накідваюць моцныя петлі на вашыя шыі. Калгасы — гэта чырвоная паншчына.

Калгасы — гэта...»

Айцец Дзімітры «надрукаваў» яшчэ некалькі слоў і спыніўся. Зірнуў праз акно на гарод і задумаўся.

Перад яго ўяўленнем стаяў на гародзе, на чорным лапікле, аголенай ад снегу, зямлі вайсковец у белым летнім мундзіры з бліскучымі залатымі пагонамі.

— Глядзі, з настаўніка які зграбны афіцэр выкраўся! — смехатлівым голасам кажа «яна», з якой увесь час перапісваўся з фронта. У «яе» доўгія косы і сінія вочы. Ён гасціць у яе бацькоў. Жаніхоўскі настрой.

Пільна ўглядаецца ў айца Дзімітрыя малады афіцэр, малады, але абветраны ў бойках. Дзе яго ні было — на Каўказе, у Крыме, пасля — на Румынскім, а пасля...

Толькі вочы тыя самыя засталіся...

Афіцэр-стратэг перасцерагае айца Дзімітрыя знаёмым голасам, да якога айцец даўным-даўно адносіўся з павагай:

— Не пішы. Небяспечна... Прымежная паласа... На цябе падазронасць падзе... Яшчэ па стылі пазнаюць... Не пішы... Словамі лепш... Праз сваіх людзей... Кожнаму на вуха... А то... скончыцца, як з Язэпам Крушынскім...

Айцец Дзімітры рве «надрукаваную» паперу на дробныя кавалачкі, кідае ў грубку.

За акном кроплі — кап, кап.

Айцец Дзімітры ўздыхае.

Вечарам прыходзіць да яго Слуп.

— Бацюшка, напісаў?

— Не... Не...

Спалох у вачах айца.

— Што ты, мілы мой... Не можна так супраць Савецкай улады... Ты глядзі... Каб і Бочка не ведаў... Сказанае слова ніхто за хвост не зловіць, гавары колькі хочаш, а з напісаным не жартуй...

Праз некалькі дзён у новым клубе адбыўся яшчэ адзін сход.

Голас брыгадзіра з Мінска, наборшчыка Сакалоўскага, роўны, спакойны і пераконваючы. Нібы вядзе гутарку, таварыскую, сямейную, з адным чалавекам. Вочы яго ўсміхаюцца лагодна. Ад катара ён трохі гаворыць у нос, часта робіць перапынкі і аглядае сход такімі пільнымі вачыма, нібы выбірае сярод людзей тых, якія адразу яго зразумеюць.

Ён гаворыць аб фабрыках і заводах, на якіх працуюць адной сям'ёю сотні і тысячы рабочых, аб спорнасці ў калектыўнай працы, аб магутнай сіле рабочых калектываў, якія ў аб'яднанні з бедным сялянствам скінулі з сябе ярмо фабрыкантаў і паноў.

— Беднаце і серадняцтву адна толькі выгада пры той сельскай гаспадарцы, дзе людзі, як на фабрыках і заводах, працуюць разам вялікаю грамадою. Толькі ў калектыве вызваліцеся з-пад эксплуатацыі кулака, які па сягоншні дзень трымае вас у руках. Мала вы яму працуеце за малатарню, за пазычку збожжа, грошай, каня? Калектыў зніме з вас многа лішніх клапот па гаспадарцы, палегчыць працу, павялічыць ураджаі.

Доўга гаворыць брыгадзір Сакалоўскі.

Маўчыць сход, прыслухоўваецца. Ніхто прамоўцу не перабівае.

Лямпы «молнія» асвятляюць шапкі і хусткі роўным святлом.

Бываюць хвіліны, калі Сакалоўскаму здаецца, што ўсе з ім цалкам згодны. Тады яго голас становіцца яшчэ больш лагодным. А часамі яму здаецца, што такая маўклівасць, без ніводнай рэплікі з боку схода, азначае незацікаўленасць да яго слоў нейкай раней падрыхтаванай змовай. Ён гаворыць і той жа час думае, што куды лягчэй збудаваць новы завод, чымся арганізаваць калгас.

Не падабаецца Сакалоўскаму загадкавая маўклівасць сялян.

Дзе-нідзе blішчаць аганькі папярос. Вочы становяцца нецярплівымі. Чуецца з розных куткоў кашаль.

— Не думайце,— кажа Сакалоўскі,— што як толькі ўступіце ў калгас, дык адразу нападзеце ў сацыялістычны рай. Ніхто гэтага вам не абяцае. Але агульнымі сіламі вы даб'ецеся поспехаў. Не думайце, што ў калектыве не будуць вам перашкаджаць нашы ворагі. Але гэта вам добра вядома.

Калі Сакалоўскі скончыў, сход нават і дыханне стрымаў. Да воплескаў у прэзідыуме далучыліся толькі камсамольцы і «Леў Талстой». І гэтыя воплескі — адзінокія, не падтрыманыя ўсім сходам, здаліся дзіцячай гульнёю ў аладкі.

Сакалоўскі сеў і давай прыглядацца да дзесяткаў вачэй маўклівых людзей. У вачах некаторых бліпчаць іскрачкі стрыманага смеху. Не то злосць, не то сум заўладаў Сакалоўскім.

Мікола ў сваім чарговым выступленні прыводзіў лічбы з іншых калгасаў БССР, дзе кожны гектар зямлі дае ў два разы больш, чымся ў аднаасобніка. Ён, як і Сакалоўскі, даводзіў на фактах выгаду калгаснай гаспадаркі.

— Няўжо ж вам так цяжка і боязна, таварышы, адмовіцца ад сваіх вузенькіх шнуроў, ад праклятых дзедаўскіх межаў? — запытаўся ён у многагаловага сходу.

— Цяпер, таварышы, кажэце вы свае думкі без усялякай утойкі,— кончыў Мікола свой даклад і зірнуў на залу.

— Хто просіць слова? — запытаўся Драчык.

Маўчыць сход.

Вочы ўсіх накіраваны ў бок прэзідыума.

Марцін, швагер Міколы, падняўся:

— Я прашу слова! Дык вось, таварышы! Сягоння Дразды і Дятлы ды ўсе іншыя павінны раз і назаўсёды пакончыць з той музыкай, якая цягнецца ад бандыта Язэпа Крушынскага. Вы ледзь не ўсе парабкамі былі ў яго, за гарэлку і касу ён вас купляў і прадаваў. У яго вы заўсёды талакою працавалі, а для сябе вы не хочаце агульна весці сваю гаспадарку? Я думаю, што сягоння ўсе дадуць згоду арганізаваць у нас калгас. Я першы іду!

— Бач, як швагер швагру камерцыю падтрымлівае! — пачуўся голас з грамады.

— Хто яшчэ просіць слова? — запытаўся Драчык і давай аглядаць сход, плаваў вачыма па лаўках, наставіў здаровае вуха.

Шушуканне прайшло па ўсіх лаўках. Адзін кашлянуў.

— Ты, Мірон, просіш слова? — звярнуўся Драчык да

таго, хто кашлянуў.— Дык не кашляй, а гавары смела! Люблю шчырасць, няма чаго маўчаць, таварышы!

— Я не прашу,— адказаў Мірон.

— Ніхто не хоча выказацца? І так усё ясна? Тады, можа, хто пытацца хоча?

Ніхто на лаўках і з месца не зварухнуўся.

Зрабілася так ціха, што чуваць было, як стары Сухарукі цмокаў сваю люльку.

— Пастаў на галасаванне! — шапнуў Мікола Драчыку.

— Хто за калгасы? — крыкнуў Драчык. Яго ліхаманкавыя вочы ахапілі ўсю залу. Над галовамі сходу ён заўважыў толькі двое рук — Марціна і Мэры.

Драчык глядзеў на дзве паднятыя рукі, як на выспы паратунку ў бурлівым моры, і ахрыплым голасам прагаварыў:

— А хто яшчэ?

— Ніхто...— мармытнуў «Леў Талстой», які рыхтаваўся лічыць галасы.

— Хто супраць калгаса?

Драчык сціснуў зубы. Сківіцы ў яго дрыжалі ад напружанага гневу. Вочы кідалі маланкі на анямелы сход.

— Ніхто...— уздыхнуў «Леў Талстой».— Хто ж гэта іх зачараваў? Трэба прызнацца, гэта ўжо нешта нейкае...

— Хто стрымаўся?

— Ніхто...

Пры гэтым слове «Леў Талстой» выцер акуляры, а хацеў выцерці ўспацелы лоб...

Мікола ўтаропіў вочы ў залу.

Апрача вачэй, па-рознаму бліскучых, гаварлівых без слоў, ён нічога не бачыў. Твары і постаці людзей зліваліся перад яго зрокам у нейкую туманістую бясформенную масу. Ён успомніў саламяныя стрэхі, вузенькія шнурочкі, схудалых маленькіх konікаў, малаўрадлівую глебу. Забалела... Чым прабіць гэту многавекавую саламяную крэпасць, якая прапахла клапамі, «святымі» абразамі і брыдкімі лаянкамі? Як ты ім дасі зразумець, што калгас — адзіны для іх паратунак? Няйнакш варожыя лапы заткнулі ім рты...

Перад яго вачыма пачалі з туману вырысоўвацца знаёмыя постаці Драздоў і Дзятлаў. Вось Сухарукі піпкае сваю люльку. Удава Мацеіха глядзіць спалоханымі вачыма, ківае галавою і нібы шэпча: «Божа мой, божа мой». А там далей, у цені, і каля самых дзвярэй двое шэпчуцца.

— Дык што ж вы, таварышы, маўчыцё (голас Міколы

збянтэжаны).— Я ж бачу сярод вас нямала беднаты. Няўжо ж вы не ведаеце, што ў «Чырвоным Кастрычніку» бедната лепш жыве, чымся вы ў адзіночку? Што вы баіцёся? Вы ж нічым не рызыкуеце? Саламяныя стрэхі і вузенькія шнурочкі не вялікае шчасце, за якое трэба трымацца і рукамі і нагамі. А не спадабаецца калгас — ніхто вам не забароніць выйсці з яго. Прымусу ў нас няма. Усё гэта па добрай волі.

— Няхай Савецкая ўлада выдасць закон, каб усе ішлі ў калгас, тады пойдзем! — пачуўся жартаўлівы голас з задніх лавак.

— Законаў такіх няма. Я ўжо казаў, што гэта добрая воля кожнага грамадзяніна,— сказаў Драчык ажыўленым голасам. Ён рад быў, што хоць адзін загаварыў.

— Калі па добрай волі, дык мы не хочам...— адказаў той жа голас.

Драчык стукнуў кулаком аб стол, закрычаў:

— Гэй, хто там? Выходзь сюды, кулацкі аблакат! Чаго хаваешся, як мыш пад венікам? Сюды ідзі! Вы што гэта, таварышы, кулацкага падпявалу нанялі за аблаката? — крыкнуў Драчык ахрыплым раптам голасам. Яго голены твар пачырванеў, успыхваў чырвонымі латкамі. Драчык цяжка дыхаў. Аглядаў сход. Нібы ўпершыню бачыў гэтых людзей.

Абазвалася некалькі галасоў. Не то апраўдваліся, не то зласаваліся, не то радаваліся:

— Ніхто Слупа не прасіў за нас гаварыць!

— Ён сам за сябе!

— Ліха яго бяры, гэтага аблаката!

Мікола прыглядаўся, прыслухоўваўся.

«Прабіта саламяная крэпасць,— падумаў ён.— Людзі загаварылі».

Дзе-нідзе на лаўках блішчалі папяросныя агенькі, успыхвалі, ніклі, зноў мігацеліся.

— Дык, можа, цяпер хто з вас выступіць, таварышы?

Высунуўся наперад Сухарукі. Высокі, тонкі, як жэрдка, ён падышоў аж да прэзідыума. Усе павярнуліся з цікавасцю ў яго бок. Ён выняў люльку з губ, спакойна вытрас попел і палажыў люльку ў кішэнь штаноў.

— На-а-а! — сказаў ён ахрыплым голасам і паглядзеў бліскучымі, як тлеючыя вуголлі, вочкамі на прэзідыум.— На-а-аце маё горла! Рэ-э-эжце!

Ён выставіў наперад сухі, зморшчаны гарляк.

— Рэжце, усё роўна не пайду! Альбо пінка, альбо рыб-

ка! Усё роўна хутка памру. Мае бацькі і дзяды адбывалі паншчыну, а мне дайце хоць памерці спакойна. Маёй мяжы не чапа-а-айце! Ніко-о-ога не баюся! Вось арыштуйце мяне, калі хочаце! Арыштуй, Драчык!

— Ніхто і не думае цябе, дзядок, арыштаваць,— сказаў усхваляваны Мікола.— Не хочаш, не ідзі ў калгас.

— Не слухайце, што стары пляце,— абазваўся барадаты сын Сухарукага, Пархвен.— Сядзеў бы, тата, на печы, лепш было! Як усе зробяць, так і мы!

Паднялася раптам з месца ўдава Мацеіха:

— А я скажу перад усімі, хто нам тут круціць мазгі!

— Гавары! Гавары! — падбухторылі яе некаторыя з лавак.

— А вы думаеце, што баюся казаць? — звярнулася яна да сходу.— Зусім не баюся! Старога так навучыў гаварыць Слуп. Ён ды яшчэ некаторыя ўвесь час нас баламуцяць.

— Ах, гадзіна! — крыкнула Слупіха,— вечна корміш цябе, а ты вунь што ўзводзіш на нас.

— Ды я тваё мяса сабакам выкінула! Лявон і не думаў есці,— увайшла ў азарт Мацеіха.— Слуп і старога Сухарукага навучыў, а ўвесь сход маўчаць вучыў! Я гэта таму, што нейк нядобра гэта і ўсё такое.

Ад хвалявання ў Мацеіхі дрыжалі губы. Шэрая хустка з'ехала на лоб.

Сход загуў, як устрывожаны вулей.

Цяпер ужо многія парываліся гаварыць. Нібы паводка, якая хоча прарваць грэблю.

«Рушыцца саламяная крэпасць...» — узрадаваўся Мікола. Ён выцер успацелы лоб.

— Не толькі Слуп! — крыкнуў Яўхім, чалавек у кажуронку.— Тут і Бочка ды яшчэ некаторыя! А мы, бедната, за калгас стаім! Няма, казаў той, чаго нам баяцца. А то многія — «страх бярэ»!

Некалькі чалавек пры гэтым шуганула за дзверы. У агульным тлуме і сумяціцы ніхто гэта і не заўважыў.

Спалоханы і злосны бег Слуп. Ён туліўся каля вуглоў будынкаў, каб яго ніхто не заўважыў.

Ноч была цёмная і вільготная.

Боты Слупа хлюпалі ў мокрым снезе. Мінуўшы вёску, ён пайшоў дарогай. Часта азіраўся навакол, ці хто за ім не гоніцца. Ноч ахапіла яго з усіх бакоў. Вільготны вецер калоў твар халоднымі шыламі.

— Цікава, што на гэта ўсё скажа бацюшка...— мармытаў Слуп і адварочваў твар ад ветру.

Скрыгатаў зубамі і прыдумваў розныя рэчы:

«Млын падпаліць? Каля млына ўночы ходзіць варта... Застрэліць Драчыка або Міколу Ярэмчыка? Хто яго ведае...»

Успомніў нецікавы лёс Язэпа Крушынскага.

Сцюдзёны вецер сцёбаў у твар.

Здалёку мігацеўся прытульны агеньчык з хаты айца Дзімітрыя.

## 19

## РАШУЧЫ БОЙ

У сельсавеце няма мапы, але Антось Драчык ведае на памяць, як сваю далонь, тую ваколіцу, дзе ён радзіўся, вырас і жыве па сягонняшні дзень.

Пяцьдзесят працэнтаў сельсавета ўжо калектывізавана.

Той сход у клубе быў пераломным. Большасць Драздоў і Дзятлаў згадзіліся ісці ў калектыў. За імі пайшла і вёска Глухаўка. Цяжэй з хутарамі ды пасёлкамі.

Шэрыя вочы Драчыка за гэты час заўпалі. Ён па начах не спаў. Некалькі разоў ездзіў у райкалгассаюз за парадамі і кіраўніцтвам.

Абшар сельсавецкай зямлі стаяў увесь час перад вачыма.

Рэчка на вялікім балоце цягнецца на некалькі вёрст, робіць розныя ўзвівы, лукі, падковы. Яна служыць гранічнай паласою. Каля яе стаяць прымежныя слупы. Далей мяжа ідзе праз хваёвы лес роўнай, як струна, лініяй. Яшчэ далей мяжа прасякаеаграмаднае поле, тлустае, роўнае, без каменняў (тут ёсць разгул для трактараў). У гэтым месцы калючы дрот дзяржаўнай мяжы. На тым баку калючага дроту вёска Рудня. Туды ў прымакі пайшоў старшы брат Драчыка. Даўней Драчык там бываў часта. Ведае ўсіх сялян вакольных блізкіх вёсак на тым баку. Калі стаіш на высокім камені, што ляжыць на полі, і глядзіш туды, дык за Рудняю бачыш некалькі хутаркоў.

Уяўляючы перад сабою ўвесь абшар сельсавета, Драчык пачынае перад новым сельсавецкім актывам меркаваць аб новых планах вось у самыя блізкія гады: вялізарныя дамы для калгаснікаў; дзве, тры школы; дзіцячыя

яслі; сельскагаспадарчыя машыны; аграмадныя свірны для збожжа; добрыя хлявы для жывёлы; сілосныя вежы; шасейныя дарогі, цагельні, вапярні, асушка балот, торп; новыя насельныя пункты, новыя назвы насельных пунктаў; электрыфікацыя ўсяго сельсавета.

«Усё гэта напэўна будзе ды нават хутка!» — мяркуе актыў.

Недалёкая будучыня.

А на сельсавецкіх сталах ляжаць сціркамі, кубікамі карткі — рэшткі часоў Язэпа Крушынскага, калі былы старшыня сельсавета рабіў розныя фокусы.

На стале Драчыка гарыць газавая лямпа і асвятляе скупым святлом пакоік. На сценах мільгаюць цені. Перад яго нутраным зрокам — немалы абшар сельсавета, асветлены сонцам, жыве новым жыццём...

У гэтыя ночы Драчык спіць толькі па тры-чатыры гадзіны. Схуднеў за гэты час.

«Яшчэ адна пяцігодка»,— думае ён.

Удзень кіпіць праца.

Змітрок, Драчык з брыгадай камсамольцаў паехалі ў пасёлак да Хвёдара. Пасля адлігі выпаў новы снег. Санкі шпарка слізгаліся па снезе. Мільгалі перад вачыма і адсоўваліся назад платы, дробныя хмызнячкі.

Трохі непрыемна Змітраку:

«Калісьці разам у арміі служылі, былі шчырымі таварышамі. Чужым зрабіўся цяпер Хвёдар, чужым і далёкім...»

Бялее на ўзгорачку прышчэпаўскі пасёлак, які выгадаваў пару новых кулакоў ды ўзмацніў ранейшых.

Хутка імчацца санкі, шорхаюць у пухкім снезе.

Пасёлак расце перад вачыма, набліжаецца.

На Хвёдаравым двары іх сустрэла гаспадыня. Хвёдарава жонка.

— Да нас?

— Да вас.

Гаспадыня выцірае рукою сняжынкі з русых валасоў, падазрона глядзіць на гасцей.

— Хвёдар дома?

Маладая ружовая Хвёдарыха аглядаецца па баках, ратунку шукае.

— У хаце яго няма,— кажа яна.

Ноткі сполаху ў голасе. Яна ўтаропіла вочы ў твар Зміт-

рака, шукае ў ім тлумачэння: навошта запатрэбіўся Хвёдар?

— Дык дзе ж ён? — не адстае Змітрок.

Яна стараецца не глядзець у бок гумна. Адвярнулася тварам да абледзянелай студні.

— Не ведаю, дзе Хвёдар.

— Не ведаеш, дык абыдземся без яго.

Нешта такое было ў голасе Змітрака, ад чаго яна яшчэ больш устрывожылася.

— А вы па якой справе прыехалі?

— Трэба апісаць вашу гаспадарку,— сказаў Драчык.

Жанчына пабляднела. У яе вачах загарэліся два аганькі.

— Вось як... Вось як...

Адвярнулася ў бок гумна і крыкнула:

— Хвё-о-о-да-ар!

— Глядзі, і Хвёдар дома! — усміхнуўся Змітрок, і дзве глыбокія маршчынкі заігралі на яго лобе.

Да двара падыходзяць некалькі пасялкоўцаў.

Зацікаўленымі вачыма яны паглядаюць на Змітрака, Драчыка і маладых хлапцоў, якія стаяць каля санак.

Змітрок з імі вітаецца.

— А ты, Сідар, што валачэшся хворы? — пытаецца ён у аднаго худога селяніна ў латаным, зашмальцаваным кажушку.

— Усё роўна.

Сідар махае рукамі. Ён ледзь на нагах стаіць ад слабасці.

— Хто сёлета ў цябе касіў луг?

— Хвёдар...

— І ўсё сена забраў?

— Навошта мне сена, калі не маю каго карміць гэтым сенам. Бачыш, хварэю, жывёлу прадаў.

Сідар вінавата апускае галаву.

— Хвёдар і каня ў мяне адкупіў,— мармыча ён ціха, нібы сабе самому навіпу гаворыць.— Дзеці малыя...

— Хвё-о-о-од-ар! — крычыць гаспадыня ў другі раз.

— Чаго-о табе? — плыве з пуні Хвёдараў голас.

— Ды ты, Марыля, не крычы. Мы да яго пойдзем,— супакойвае гаспадыню Змітрок.

Гаспадыня ўсплясиула рукамі:

— А божа ж мой... А мі-і-іленькі...

У пуні яны засталі Хвёдара пры тым, як ён канчаў

аблупліваць карову. Над яшчэ цёплым тулавам віўся ледзь прыкметны дымок пары...

— Га? — адазваўся Хвёдар на прывітанне Змітрака.

— Ты не кепскі скуралуп! Навошта такую добрую карову зарэзаў?

— Як навошта, на мяса,— спакойна адказвае Хвёдар.

— А ведаеш, што дастанеш за разбазарванне жывёлы?

— Жывёла мая, што хачу, то і раблю.

Хвёдар адразу падняўся, і твар яго зрабіўся сур'ёзным. Не ведаў, як схаваць боты і рукі, запэцканыя ў крыві.

— Эх ты, скуралуп! Раней Сідара некалькі год лупіў, а цяпер вось што робіш! Хадзем! Трэба рабіць вопіс тваёй гаспадаркі. Хлопцы, запрыце пуню, каб сабакі не ўлезлі сюды,— звярнуўся Змітрок гаспадарчым тонам.

— Што? Раскулачваеш? — запытаўся Хвёдар змененым раптам голасам, і левая рука ў яго задрыжала.

Змітрок нічога не адказвае.

У хату ідзе не ранейшы Хвёдар: моцны і ўпэўнены, а чалавек, якога раптам нібы схваціў паляруш. У яго павіслі рукі і апусцілася галава.

На гумне стаяць, нібы дробныя хатачкі з дзіцячых казак, рамачныя вуллі. Іхнія маленькія стрэшкі абтрушаны свежым сняжком. Дзверцы і сценкі вулляў афарбаваны ў зялёны колер. Над вуллямі, нібы белыя пчолы, кружацца, мільгаюць сняжынкі.

— Падлічы, Лявон, вуллі,— звярнуўся Змітрок да аднаго маладога хлапца з камсамольскай брыгады.

— А цяпер так трэба рабіць,— навучаў айцец Дзімітры,— зараз жа, пакуля не выслалі, падацца ў калгас. Усім нашым гаварыце, каб ішлі... А там далей відаць будзе, што рабіць. Трэба, каб калгасы апынуліся ў нашых руках... Вы разумееце?

— Разумею...— кажа Слуп.

— Разумеем, яшчэ як...— дадае Бочка.— Нас дык, мабыць, не прымуць, але іншых з нашых возьмуць.

Той самы маленькі пакойчык. Тая самая лямпа на стале, і матушка слухае вельмі зацікаўлена. Жвавы кот грае фрэнзлямі сарвэткі, якія вісяць з камоды.

Мала таго што аканіцы зачынены, вокны шчыльна завешаны тканінамі.

На двары сеецца дробны снег, пытлюецца, і пыліцца, і туліцца каля платоў і сцен будынкаў невялікімі гурбамі.

Каля царквы сцелецца сіняя ноч. Над купалам вісяць халодныя зоркі.

Айцец Дзімітры п'е гарбату. Матушка налівае з самавара і гасцям. Яны, чырвоныя і потныя, слухаюць настаўленні айца:

— Да вясны трэба трымацца так-сяк, а потым пабачым. За граніцай маўчаць не будуць. А як толькі вайна, дык наша ваколіца будзе вызвалена ў першы дзень.

Айцец аглядаецца на завешаныя вокны. Доўга прыслухоўваецца, прыгнуўшы трохі галаву на левы бок. Апрача шуму самавара, нічога не чуваць.

— Вясною нешта будзе. Вайна немінуча. Увесь свет супраць тутэйшых парадкаў...

Голас айца шапатлівы і меланхалічны.

— Канец усяму ж гэтаму павінен быць. Так цягнуцца доўга не можа...

Ён частуе гасцей папяросамі.

— У мяне іх цэлы запас. Яшчэ ўвосені купіў на трыццаць рублёў. Цяпер у кааперацыі ні за якія грошы не дастанеш.

Матушка перагортвае старую «Ніву». Глядзіць на малюнкі ды любуецца:

— Вось прыгожа. А як пісалі даўней. Прыемна чытаць.

— Э-э-эх...— глыбока ўздыхае айцец Дзімітры і вачыма ўпёрся ў сцяну, нібы некага бачыць там жывога. Вочы ў яго павялічыліся, пацямнелі.

На дварэ гудзе вецер. Каля сцен царквы мільгаюць цені. Вось яны вызначаюцца чорнымі профілямі, а вось снег зноў закруціў, калматымі сівымі лапамі пачаў мацаць высокія сцены, давай пыліць па іх белай мукою. І зноў нікога няма. Толькі ноч сіва-сіняя глядзіць з усіх бакоў, вандруе па снежным полі ў абмерзлых лапцях. А з зажмураных далячынь імчыцца вецер, імчыцца грозны і суровы і блытае па саламяных стрэхах свой заільдзянелы бурнос.

І думае айцец Дзімітры: «Хутчэй ужо скінуць гэту агідную расу ды зноў апрануць бліскучы мундзір паручніка».

Слуп і Бочка кураць папяросы, зацягваюцца смачным дымам, і на іх тварах разліта прыемнасць.

— Даўно такіх добрых папірос не курыў.

— Аг-га...

Забрахаў на дварэ Мурза.

Уздрыгануўся айцец Дзімітры і давай азірацца па баках.

Слуп і Бочка ўскочылі з табурэтак.

— Што гэта можа быць? — устрывожылася матушка і адкінула ад сябе «Ніву».

Загаласілі, завылі на розныя галасы ўсе сабакі вёскі Глухаўкі.

У айца Дзімітрыя ледзь дрыгнула барада.

— Няўжо ж...— прамармытаў ён...— Няўжо ж вобыск?

Адну хвіліну прыціснуў стол правай рукой. Пальцы пабялелі. Супакоіўся:

«У хаце нічога не знойдуць. Няма чаго баяцца».

— Адчыні-і-це!

На ганку тупат ног. Драчык, трое вайскоўцаў-прымежнікаў ды некалькі камсамольцаў увайшлі ў хату. Усе са зброяй у руках.

У прытульны пакой уварваўся холад зімовай ночы. Вочы ў людзей блішчаць, марозны срэбны шэрань на брывах.

Аж да поўдня круціла завея. Марозным подыхам яна імчалася па полі па замеценых дарогах. Гурбы снегу наносіла на гумны.

Мікола і Сакалоўскі сягоння яшчэ нікуды не выходзілі. Трэба ехаць у Мінск, а тут гэткае надвор'е.

Марцін лапатай пракопвае сцежку ад двара да гумна, а Мэра трымае на каленях Зорачку і кажа да Міколы і Сакалоўскага:

— Не бядуйце, пад вечар паедзеце. За дзень дарога палепшае.

— Навошта чакаць?

— Ды ўсё роўна адпачнеце. Гэтулькі ў нас працавалі. Ды як працавалі. Не елі, не спалі.

— Ну гавары, гавары! Яшчэ што скажаш?

— Ахрып ты, Мікола, высах, аброс барадою.

Зорачка паўтарае за Мэрай:

— Дзядзя ахліп, высах, аб'ёс баядою...

Усе смяюцца.

— Аж неяк не верыцца,— кажа Мэра,— што ў нас ужо калгас. Здаецца, нічога не змянілася.

— Вясною зменіцца. Тыя межы, якія цяпер занесены снегам, будуць завораны. Іх знішчыць трактар.

— Мама, сто такое т'яктай? — пытаецца Зорачка.

Не паспела Мэра адказаць Зорцы на гэтае запытанне, як у хату ўвайшоў «Леў Талстой».

Не сказаўшы «дзень добры», ён адразу запытаўся:

— Чулі?

— А што?

«Леў Талстой» да таго ўсхваляваны, што доўгі час атрасае нешта невідочнае з барады.

— Ды на вашай барадзе няма снегу! — смяецца Мэра.

— Так. А я, трэба прызнацца, мог бы трэсці яе яшчэ доўга, бо яна белая сама па сабе, а я ўсё думаю, што на ёй снег. Так. Ух ты! Забыўся, што мне даўно стукнула шэсцьдзесят год. Так! Мая барада і летам пакры...

— Дык раскажы, брат, у чым справа? Чаго прыбег так раптоўна? — зацікавіўся Мікола.

«Леў Талстой» наставіў на яго вочы, памацаў кішэні ды ўстрывожыўся:

— Ах ты ліха! Акуляры ў хаце забыўся.

— Раскажы без акуляраў,— параіў Мікола і ўсміхнуўся.

— Так. Сягоння ўночы быў вобыск у бацюшкі. Арыштавалі яго, і Слупа, і Бочку. Яны якраз былі на той час у яго хаце. Доўга шукалі, дык вось у царкве раскапалі нейкі стары склеп, а там знайшлі пудоў сто тухлага збожжа, шмат кантрабанды і дзве кадкі з салам: каля пятнаццаці пудоў.

— Ого-го-о-о! Гэта дзела!

Мікола ўскочыў са свайго месца:

— Бачыш ты іх! Дзе ж яны цяпер, арыштаваныя?

— Павязлі ў Шапалевічы — у раён. Так. А раскулачванне ідзе поўным ходам!

— Каб хаця Драчык не перахапіў мерку,— заўважыў Мікола.— Але не! Было ўсё гэта абмеркавана раней з удзелам раёна. Пагрэйся, стары, і назад туды пойдзем — у Гайдачаны.

— Не ў Гайдачаны, а ў «Першае мая». Так,— направіў яго «Леў Талстой».

Як супакоілася завея, засвяціла яркае сонца.

Бліскучы і крохкі снег сляпіў вочы. Мікола, Сакалоўскі і «Леў Талстой» ішлі ў «Першае мая».

«Леў Талстой» усю дарогу апавядаў падрабязнасці вобыску.

Пры гэтым кожную хвіліну спыняўся і ўстаўляў у свой верставы маналог свежыя навіны:

— Ага, ледзь не забыўся. Так. Раскулачваюць сягоння Слупа і Бочку. Так.

Прайшлі яшчэ трохі, і «Леў Талстой» зноў успомніў:

— Бацюшка, як кажуць, зусім не быў раней духоўнай асобай, а белагвардзейскім афіцэрам.

«Вось табе «храм божы»,— думае Мікола.— А хлебанарыхтоўкі? У кулака лепш згіне збожжа, а дзяржаве даць не хоча».

— Ага,— перабіў яго думкі «Леў Талстой»,— шмат золата знайшлі ў склепе пад царквою. Так. Бацюшка, тоісь афіцэр белагвардзейскі, тлумачыў, што золата і кантрабанду тут схаваў не ён, а Язэп Крушынскі.

Сельсавет перанеслі з Гаідачан у дом бацюшкі. Драчык яшчэ ўвосені збіраўся гэта рабіць. Усё часу не было.

Царква зусім забыта людзьмі. Дзверы яе занесены снегам. Часта Драчык глядзіць на яе праз акно сельсавета. Яна мазоліць яму вочы.

І вось была пушчана пагалоска, што стары Сухарукі, адзін з бацькоў Драздоў і Дзятлаў, нейк дзіўным зрабіўся. Пачаў гаварыць сам з сабою аб тым, што нікога на свае межы не пусціць, што крыжам ляжа і сваёй зямлі нікому не аддасць.

Аднаго разу ў мяцеліцу, калі ў полі круціла завіруха і намяло многа снегу, стары Сухарукі ўзяў лапату і пайшоў шукаць у снежным прасторы палёў свае палоскі.

— Хачу перад смерцю паглядзець свае шнуры,— гаварыў ён і давай лапатай раскопваць тое месца, дзе каля стагодняга адзінокага дуба павінна была быць вузенькая мяжа аднаго з яго шнуроў.

Ён капаў лапатай, а мяцеліца круціла, выла пад яго галавою, сляпіла вочы і новыя гурбы намятала на тым самым месцы. Вось ён дабіраўся да самой глебы, да таго месца, дзе ўвосені вылезла з зямлі скупая рунь, тоненькія жыцяныя шпілечкі, але мяцеліца зноў засыпала снегам ачышчаную глебу.

Як аб гэтым даведаліся калгаснікі, дык гаварылі, што Сухарукі звар'яцеў, папрабавалі супакойваць яго тым, што ніхто яго шнуроў чапаць не будзе. Няхай ён сабе асобна гаспадарыць.

У другі раз ён у цёмную ноч пайшоў некуды. Хатнія не агледзеліся. Раптам пачулі людзі сярод ночы пераклікание званоў. Устрывожыліся, аглядаліся, ці не палыхае ў небе полымя пажару. Прыслухоўваліся, ці не чуваць крыку, гвалту. І пабеглі з усіх бакоў да забытай царквы.

На званіцы знайшлі адубелага ад мароза і зусім звар'-

яцелага Сухарукага. Ён упіраўся рукамі і нагамі ды не хацеў злезці.

Некаторыя старыя бабы ў сувязі з гэтымі званамі пачалі прыдумваць новыя байкі аб «цудах божых».

Тады калгаснікі пастанавілі зняць званы.

## 20

## ТРЫВОЖНЫЯ ДНІ

Нарэшце выйшла з друку кніжка Антона Цярэшкі «Галасы палёў». Аўтар з трывогаю чакаў, што аб ёй скажа крытыка:

Ці будзе заўважана тое, аб чым ён выказваў свой боль? Ці пачуюць гэты «Голас палёў»? Ці дойдзе ён да сэрца? Ці знойдуць тое, што ёсць у гэтых вершах між радкамі, між словамі?

Ён хацеў, каб усё гэта было знойдзена, было зразумела, бо ў адваротным выпадку — не варта было пісаць...

Ён і не хацеў гэтага, бо тады пачнуцца на яго, Цярэшку, напады, і немаведама, чым гэта ўсё можа скончыцца...

Антон Цярэшка пільна сачыў за газетамі: калі ўжо з'явіцца? У Інстытуце ён прыглядаўся да твараў людзей, можа, уловіць усмешку пры сустрэчы з імі, можа, хто проста звернецца да яго са словамі: «Тав. Цярэшка, ёсць у друку аб вашай кніжцы...»

Але сам Інстытут перажываў тады трывожныя дні. Нікому з інстытутчыкаў і ў галаву не лезла кніжка Цярэшкі.

Некаторым Цярэшка даў свае «Галасы палёў» з цёплым словам «ад аўтара». Дзякавалі, ціскалі руку. Лічылі за гонар, але ніхто з іх не казаў яму свайго погляду аб «Галасах палёў».

Да Інстытута была тады прымацавана рабочая брыгада: праверка працы Інстытута за ўсе гады і чыстка партячэйкі. У калідоры была прымацавана да сцяны скрынка з надпісам на ёй:

*СЮДЫ АПУСКАЮЦЦА*
*МАТЭРЫЯЛЫ ДА ЧЫСТКІ*

Многія з працаўнікоў трывожна будзілі сваё мінулае, успаміналі даўно пазабытае, прыглядаліся адны да адных, шэпты вялі па кутках. Настрой у іх быў такі, як у Цярэшкі.

— Калі напішаце? — звярнуўся раз Цярэшка да свайго крытыка Гайдача.

— Цяпер не да гэтага,— адказаў Гайдач.— Хіба пасля, як у нас усё супакоіцца.

Гайдач трымаў нос па ветру і наогул лічыў, што лепш не пісаць у часе буры і завірух, а то яшчэ можна ўлезці ў такую бяду, што і не вылезеш.

Тое самае і юбілейны крытык.

Ліхаманкава блішчалі тады вочы ў некаторых інстытутчыкаў. Яны не спалі начамі.

А ў страшную скрынку ляцелі паперкі.

Што ж там, у тых паперках? Які лёс яны нясуць? Прыглядаліся інстытутчыкі да твараў рабочых з брыгады, да выразу іх вачэй, лавілі кожнае слова...

Усе ведалі, што хутка пачнецца. Але заўчас хацелася знаць тым, у каго на сумненні паіржавелыя гіры туманістага мінулага.

Антон Цярэшка дачакаўся. З'явіўся артыкул у «Савецкай Беларусі».

«Гэта не галасы палёў, а галасы кулакоў,— гаварыў крытык.— Няўжо ж можна ў такі час вострага змагання, калі на вясковых палях наступае класа на класу, пісаць аб воблаках, зорках і курганах? Ды яшчэ ў такіх танах, як пісалі прыблізна сорак год таму назад? Каму патрэбны гэты сум, слёзы, маркотнасць, задуменнасць?»

Прыводзілася многа ўрыўкаў з вершаў Цярэшкі з запытаннямі да іх:

«Аб чым паэт сумуе? Аб чым ён лье такія слёзы? Сум паэта — гэта сум кулака. Слёзы яго — плач класавага ворага, які адчувае сваю немінучую гібель. Апрача малюнкаў прыроды ў гэтым зборніку вершаў (досыць слабых з фармальнага боку), нічога няма. Ні слова аб класавым змаганні, ні слова аб калгасах і камунах. Для Антона Цярэшкі рэканструкцыя сельскай гаспадаркі пусты гук. Антон Цярэшка — кулацкі паэт. Ён чэрпае свае настроі з чужых для нас крыніц. Цярэшка нам чужы».

Артыкул заняў у «Савецкай Беларусі» цэлы падвал, пад якім стаяў подпіс: «Н. Бандарчук».

Цярэшка аж ускочыў са свайго месца.

Яшчэ больш Цярэшка ўз'еўся за два радкі ў гэтым артыкуле:

«Цярэшка сядзеў сабе ў кулацкім хутары і капіраваў настроі кулака».

— Няхай яно згарыць гэта Курганішча! — сказаў ён уголас.— Вось і падарунак ад стрыечнага брата...

Цярэшка злаваўся немаведама на каго і на што. Былі вінаваты і Крушынскі, і цяжкі час, і «тэндэнцыйны» крытык, і жонка, якая псавала яму нервы, і ўвесь свет — толькі не ён сам...

Хацеў бы Цярэшка плюнуць на ўсё гэта, але нешта ўнутры смактала, трывожыла і супакою не давала.

Першае, што Цярэшка зрабіў супраць крытыкі, гэта тое, што ён перастаў вітацца з Бандарчуком... Бандарчук на гэта ніякай увагі не звярнуў. І гэта яшчэ больш злавала яго.

У той час трамваі святкавалі свае першыя мядовыя месяцы на вуліцах Мінска. Кончыліся анекдоты аб тым, што рэйкі будуць дваццаць год іржавець на бруку, пакуль дачакаюцца вагонаў. Аўтары анекдотаў з нецярплівасцю чакалі, «калі ўжо спыніцца трамвай», «калі сапсуюцца вагоны», бо:

«Не можа быць, каб у нас усё добра ішло».

А тым часам на вуліцах горада кіпела. Гулі трамваі, звінелі. Новенькія, прыгожыя вагоны імчаліся па бліскучых рэйках з канца ў канец горада.

Пралетарскі Мінск радаваўся, а Цярэшка сабе месца не знаходзіў. Усё яму было чужым і далёкім.

Тым часам Язэп Крушынскі яго не забываў. Часта лісты прысылаў з Нарымскага краю. Калі-нікалі пытаўся, што робіцца цяпер у Курганішчы. Аднаго разу напісаў, што сустрэўся там з былым аграномам Іванам Мацвеевічам Шапаваловым, ці, па-ранейшаму, Антонам Сяргеевічам Мятловым.

Цярэшка адразу рваў гэтыя лісты.

«Вось каб можна было так сабраць увесь тыраж маёй кніжкі «Галасы палёў» і парваць на дробныя кавалачкі».

Часам ён зайздросціў і аграному, і Язэпу Крушынскаму.

«Яны цяпер спакойны. Яны працуюць «там», і ніхто іх не чапае. У іх там ідзе новае жыццё на новым месцы. А я...»

Свае скаргі Антон Цярэшка выказваў цяпер толькі аднаму: чалавеку з вачыма сфінкса і еўрапейскай бародкай.

Той раіў:

— Углыбіцеся ў сябе. Вы ў самім сабе знойдзеце вялізны свет летуценняў... Думайце аб вечным харастве на

зямлі і не ўдавайцеся ў тыя драбніцы жыццёвыя, якія мільгаюць, як цені. Будзьце горды сабою, а ўсё рэшта трын-трава... Вы чалавек, шануйце свой чалавечы гонар. У вас тады з'явяцца такія ідэі, якія дадуць вам вялікую асалоду. <...>

— Ведаеце што, дзядзька Цярэшка,— звяртаецца да яго чалавек з вачыма сфінкса,— прыходзьце да мяне. Я вас навучу адносіцца абыякава да ўсяго, што робіцца вакол, да ўсялякіх вашых непрыемнасцей. Трэба мець цвёрдасць духу... А вашыя «Галасы палёў» вельмі ўдала напісаны...

Крытыка прац Інстытута перанесена ў адзін з рабочых клубаў. З усіх канцоў горада накіроўваюцца туды інстытутчыкі. Кожны вечар у вялікай зале клуба шмат народу. Аспірант Бандарчук сядзіць у прэзідыуме. Ён узяў на сябе абавязак сакратарства. Апрача інстытутчыкаў, якія акуратна прыходзяць сюды кожны вечар, тут прысутнічае шмат рабочых.

Антон Цярэшка сядзіць у кутку і прыслухоўваецца да выступленняў.

— Дык вось, таварышы...— чуе Цярэшка голас аднаго з рабочых.— Глядзіце, хто засеў у Інстытуце? Усе ранейшыя беларускія «міністры». У выпадку чаго, дык у іх гатовы свой урад! Я не ведаю, чаму ячэйка да гэтага часу не прымала болей рашучых мер, чаму ячэйка так раскланьваецца перад так званымі прафесарамі... Гэта, можа, горш, чым апартунізм, таварышы!

Цярэшка ўглядаецца ў прамоўцу: той самы наборшчык Сакалоўскі. Ён успамінае розныя сустрэчы з гэтым Сакалоўскім. Голас яго строгі. Калі-нікалі чуюцца асаблівыя грозныя выкрыкі. Вось зараз сарвецца ў яго лаянка. Але не: ведае меру. Вочы колеру піва пацямнелі.

«Відаць, часта выступае»,— думае Цярэшка.

У гэты час Цярэшка забывае пра крытыку яго кніжкі «Галасы палёў». У моры вялікіх непрыемнасцей, калі праца Інстытута разносіцца ў пух і прах, яго кніжачка толькі малая кропля... У гэтым ён знаходзіць для сябе нават малую ўцеху.

У вялікай зале цішыня. Ніхто і не шапне. Толькі калі-нікалі чуваць прыглушаны рукою кашаль.

«Бачыш, як рабочыя цікавяцца навукаї»,— думае Цярэшка.

Ён углядаецца ў незнаёмыя твары мужчын і жанчын і шукае сярод іх асаблівасці тыпу, рысаў твару... Адно ён заўважае, што рабочыя чыста і добра апрануты. Не горш за вучоных інстытутчыкаў. А некаторыя вучоныя спецыяльна для гэтых вечароў у рабочым клубе замест капелюхоў ці каракулевых шапак насунулі на галовы старыя кепкі.

— Я, таварышы рабочыя,— чуе Цярэшка голас Сакалоўскага,— не бяруся сам крытыкаваць навуковыя працы Інстытута, але, паводле водзываў нашых кампетэнтных таварышаў, у навуцы адбываецца шкодніцтва. Мастацтва нашае — гэта, паводле мастацтвазнаўцы, апісанне цэркваў і касцёлаў, у аграрных працах апраўдваецца тэорыя Прышчэпава, які спрые кулаку, у гісторыі адмаўляецца класавае змаганне на Беларусі. Таварышы! Гэта яўнае шкодніцтва! Гэта працяг дзейнасці контррэвалюцыйных радаўцаў і так званых маршалкаў і міністраў, якія знайшлі сабе ў Інстытуце цёплае месца!

Цярэшка смаліць папяросу за папяросай, апускае нізка галаву, бо яму ўсё здаецца, што новы крытык Бандарчук шукае яго вачыма.

Чалавек з вачыма сфінкса падсеў да Цярэшкі. Шапнуў яму на вуха:

— Прыйдзіце заўтра да мяне. Я зараз адгэтуль выходжу. Трэба супакоіць нервы.

— Дык вы таксама непакоіцеся? — зацікавіўся Цярэшка.

— А дзе ж ты, чалавеча, дзенешся...

Цярэшка заўважыў, што за час гэтых вечароў у рабочым клубе твар чалавека з вачыма сфінкса пакрыўся маршчынамі, і вочы зусім выцвілі, нібы змылі з іх сінюю фарбу.

— Нам патрэбны ў навуцы свае пралетарскія кадры,— чуе Цярэшка, як праз сон, голас прамоўцы.

Бандарчук пры стале прэзідыума нешта ўпісвае ў свой блакнот. Недалёка сядзіць і Мікола Ярэмчык. Ніколі ў яго не было такога вясёлага твару, як тут у рабочым клубе.

— Чыстка павінна быць у нас самая бязлітасная! Побач з гэтым нам патрэбны новыя кадры вучоных. <...>

Калі пасля аднаго з такіх вечароў Мікола Ярэмчык прыйшоў дамоў, ён знайшоў на сваім стале ліст ад швагра Марціна. Той пісаў:

«Дарагі Мікола.

Праца ў нас кіпіць. Мы ўсе рыхтуемся да веснавой сяўбы. Трыеры з камуны «Чырвоны Кастрычнік» працуюць поўным ходам. Кончыўшы з абагульваннем, калгаснікі цяпер возяць лес на новыя хлявы ды на іншыя патрэбы. Да нас цяпер часта прыязджаюць рабочыя брыгады і дапамагаюць нам у працы. Антон Драчык працуе з усіх сіл удзень і ўночы, ніколі аддухі не мае. На пасяджэннях сельсавета ці праўленняў нашых новых калгасаў ён выстаўляе для абмеркавання такія цікавыя планы, ажна многіх радасць прабірае. Аднак некаторыя выпісаліся з калгасаў, і ў сувязі з гэтым было нямала новых непрыемнасцей. Вясною прышлюць нам з Украіны сто цялушак і некалькі заводных свіней. З раёна нам абяцаліся прыслаць штучнага ўгнаення некалькі сот пудоў. Усё ідзе не кепска. Я ўпэўнены, што ўжо да вясны забудуцца старыя назвы вёсак Гайдачанскага сельсавета.

Усе мае жывы і здаровы. Мэра і Зорачка табе кланяюцца. Зорачка просіць, каб ты купіў ёй трактар у Мінску. Вось табе і малыя дзеці аб трактарах загаварылі. Цікавыя часы! Праўда? Ага! Яшчэ адна навіна. Пры абагульванні вельмі шмат працаваў стары Гарбочык з белай барадою. Памятаеш яго? Усе ў нас завуць яго «Леў Талстой». Ён прастудзіўся, хварэў некалькі дзён і памёр. Перад смерцю цябе бачыць хацеў. Ён мне перадаў для цябе свае рукапісы. Іх вельмі многа. Прасіў, каб ты іх друкаваў у Мінску. І яшчэ адна навіна! Стары дзед Сухарукі звар'яцеў. Бегае па дарогах з лапатай у руках ды ўсё гаворыць аб сваіх межах, засыпаных снегам. І яшчэ адна навіна! З царквою ў нас паканчана. Новага папа няма. Некаторыя з калгаснікаў паляць абразы. У сувязі з гэтым між старымі і маладымі адбываюцца вялікія спрэчкі, якія часам даходзяць да боек. Дык вось, Міколка, што ў нас робіцца! Яшчэ нейкія цёмныя сілы стараюцца баламуціць нашых сялян, але нічога! Перамога на нашым баку. У калгасе «Чырвоная ніва» скінулі старшыню. Помніш, як ён на сходах выраблялся, крычаў, што толькі ў калгасах добра будзе жыць, і запісаўся адным з першых? Дык вось што ён зрабіў — прысвоіў сабе шмат з маёмасці раскулачаных ды кожны дзень ладзіў вечарынкі ў сваёй хаце. Вось і вер! Яго, вядома, выкінулі з калгаса. Трэба пільна глядзець за тым, каб кулацкія агенты не ўлезлі ў калгасы. Можа, вырвешся калі да нас на некалькі дзён? Напішы, дык я па цябе адразу прыеду».

Мікола толькі ўсміхнуўся на гэтае запрашэнне.

— Дзе ж тут паедзеш, калі ў Інстытуце гэтулькі цікавага! Хутка Інстытут будзе аднаўлены. Увальюцца ў яго свежыя сілы. Будзе выкінута шмат старога барахла...

Удзень Цярэшка ходзіць у Інстытут на працу. Усе сталі вельмі акуратнымі... Кожны з навуковых працаўнікоў адседжвае гадзіны пры сваім стале. Часам некаторыя з інстытутчыкаў шэпчуцца між сабою. У іх вачах трывога.

Ледзь не штодня мяняецца насценгазета «Навука і праца». Ёю пачалі цікавіцца...

Трывожныя дні.

Ходзіць Цярэшка з кабінета ў кабінет да навуковых працаўнікоў, аглядаецца па змрочных калідорах, туліцца каля сцен.

— Што чуваць? — пытаецца ён, як у хворых.

— Тое самае...

Зноў садзіцца на сваё месца і глядзіць праз акно. Калі супакоіцца трохі ад агульнай трывогі ў Інстытуце, тады пачынае яго мучыць нутраны боль. Як ні стараецца забыцца пра крытыку, паводле парады чалавека з вачыма сфінкса, а паасобныя сказы артыкула не выходзяць з галавы:

«Цярэшка нам чужы...»

«Кулацкі паэт...»

«Хутарская лірыка...»

Курыць Цярэшка папяросу за папяросай і глядзіць у акно. Дахі абтрушаны снегам. Дзе-нідзе ў аддаленні над высокімі фабрычнымі комінамі кучаравяцца дымкі.

У такія хвіліны Цярэшка хоча схавацца ад усяго свету, каб нікому не мазоліць сабою вачэй. Хоча, каб усе забыліся аб ім, аб яго паэзіі, аб яго кніжках.

Кожны дзень заходзіць да яго чалавек з вачыма сфінкса. У таго цяпер з'явілася новая ідэя:

— Пішыце для самога сябе... Не старайцеся ламаць сваёй псіхалогіі, а будзьце такім, які вы ёсць...

Гэта ідэя падабаецца Цярэшку. Ён так і робіць. Піша і чытае сваім блізкім. <...>

Трывожныя дні.

У гэтыя дні ў Міколы Ярэмчыка вольнай хвіліны няма.

Крытыка прац Інстытута за некалькі год з'яўляецца для Міколы працягам працы пры калектывізацыі Гайдачанскага сельсавета. Ува ўсім гэтым ён адчувае лагічны

ход падзеяў, якія з незвычайным імпэтам імчацца наперад. Накіроўвае адна магутная рука.

Мікола часта думае аб гэтым адзінстве і рад, што таксама і ён прымае хоць маленькі ўдзел у тварэнні новай гісторыі, якая разгортваецца перад ім шырокім палатном.

Плывуць трывожныя дні адзін за адным: адліга, мароз, мяцеліца. Мікола іх не заўважае. У ліхаманцы напружанай працы ён з кожным днём усё ярчэй і ярчэй бачыць строгае адзінства і вялікі сэнс у змаганні новага са старым, як на вёсцы, так і ў горадзе. <...>

21

## МЕЖЫ

Па лясах, па тых гушчарах, дзе і ўлетку мала доступу сонечным косам, дзе-нідзе яшчэ туляюцца ад неба закарэлыя латачкі снегу. На іхнія крохкія спіны сеюцца з дрэў пажоўклыя хвоіныя іголкі. Сюды ледзь праладзіць цёплы вецер. Ён трэцца-ціскаецца каля шурпатых грудзей стагодніх пнёў і кідае праз густыя галіны сонечныя кропачкі на забытыя вясною кавалкі снегу. Смокча вецер прытоеныя ў лесе рэшткі зімы, і вакол замурзаных снежных латак блішчаць лужыны. Воддаль рупліва ёрзаюць па моху розныя мурашкі. Над дрэвамі па-вясноваму чылікаюць птушкі, разгульвае сонца.

Па зялёных лясных палянах, па лугах і палях, па азімай руні, па рэчках і вёсках вандруе красавік у жаўронкава-сонечнай світцы. На месцы яго слядоў як бы ніколі не даплываў сюды воўчы лямант з асівелай сцюжы хвойнікаў.

Пад босымі нагамі красавіка сцелецца юнацкая пахучая глеба, разгортваецца ярка-зялёная далечыня, апушаная мяккай, як дзіцячыя валасы, травою.

Каля прасёлачных дарог цягнуцца дзе-нідзе вузенькія, нібы істужкі, шнуры, доўгія, дзесяткі год нечапаныя, межы. Воддаль — купкі саламяных стрэхаў.

За мінулую зіму паплыла ў нябыт частка апошняй спадчыны стагоддзяў. Зніклі Глухоўкі, Ванцэвічы, Магданаўкі. Зніклі ранейшыя назвы вёсак, якіх агідная паншчына хрысціла калісьці прозвішчамі паноў часоў прыгону.

Межы на вузенькіх загонах дажываюць свае апошнія дні. Некаторыя глядзяць на іх з прытоенай жаласлівасцю

ў вачах, а некаторыя з несхаванай радасцю. Зараз знікнуць межы разам са старымі панскімі назвамі вёсак і хутароў. Дажываюць апошнія гады і саламяныя стрэхі.

На зямлі вандруе красавік.

Грэецца на сонцы Цыпрук Ярэмчык. Зняў з сябе кажушок і выставіў засохлыя грудзі, аброслыя сівымі валасамі.

Няхай пякуцца!

Ён недзе чуў, што вясновае сонца лечыць чалавека лепш за розных дактароў.

Прыжмураныя вочы Цыпрука блішчаць дзвюма ільдзінкамі. Ён глядзіць на старыя межы і гаворыць сам з сабою:

— Зараз іх не стане, ці што? Ну й здольны народ пайшоў на розныя мудроныя штукі!

Стары Цыпрук абапіраецца аб моцны кій і грэе асівелыя валасатыя грудзі.

Паволным крокам падыходзіць да яго матрос царскіх часоў Солах.

— Добры дзень.

— Дзень добры.

У Солаха пануры выгляд. Вочы пазіраюць углыб. Ён пастарэў за гэтую зіму.

— Ну як? — пытаецца Солах надломаным голасам.— Скора сяўба?

У яго такі голас, нібы працягвае толькі што спыненую гутарку. Глядзіць на Цыпрука такімі вачыма, быццам стары ў нечым перад ім вінаваты.

— Хутка, братку мой, ці што...— адказвае Цыпрук.— Я вось гляджу на іх... (Ён паказвае на вузкія шнуры.) Усё жыццё іх бачыў і быццам сягоння толькі ўгледзеў.

— Твой Мікола табе акуляры надзеў,— іранізуе Солах і мерае сур'ёзнымі вачыма Цыпрукову постаць.

— Ай-я-яй, які народ пайшоў...— адказвае Цыпрук не Солаху, а ўласным думкам.

Стары мяняе позу, настаўляе далонь над вачыма, як брыль, міг адзін глядзіць зажмураным вокам супраць сонца, дзе на далёкіх паплавах тырчаць пустыя сцяжарні, раптоўна адварочваецца ад Солаха і кажа радасным голасам (каб дапякчы Солаху): «Усе межы сёлета зааром!»

— Хто ж гэта «мы»? — пытаецца Солах.

— Ну, мы ўсе... і я, і ты...

— Без мяне мяне жанілі,— кажа Солах.— Няхай будзе «мы»,— згаджаецца ён.— Затое і ваявалі тут усю зіму.

Пры гэтым Солах успамінае чамусьці вайну з Японіяй. Глядзіць задуменна на межы і ўсміхаецца самому сабе.

Цыпрук з нецярплівасцю за ім назірае. Ведае, што калі Солах моршчыць лоб гармонікам, дык скажа зараз нешта цікавае. Любіць Цыпрук цікавае паслухаць...

— Та-а-ак...— Солах трэ лоб рукою.— Мы цяпер калгаснікі Энгельса. Прывык ужо да новай назвы. Ну і ваявалі зімачку, а ўсё за гэтыя межы! Ведаеш?

— Што?

— Крэпасць «Порт-Артур» лягчэй далася, чым гэтыя межы.

— Ну?

— Так, так!

— Яно і праўда.

— Усё гэта яшчэ віламі па вадзе пісана,— пачаў Солах сумнявацца. Многія яшчэ не вераць, што сапраўды будзе адно вялікае поле. Некаторыя прыхавалі збожжа. На ўсялякі, кажуць, выпадак.

— Плугі ўжо гатовы, насенне прачышчана, няхай толькі трохі зямля абсохне. Яшчэ якіх тры дні, калі будзе пагода. А сягоння мы пойдзем з Міколам у Гайдачаны паглядзець калгасную сяўбу. Кажуць, трактары заўтра раніцою, ці што, прыедуць. Бачыў Міколу? Ён сягоння аўтобусам прыкаціў. З ім нейкі рабочы Сакалоўскі, які зімою ў мяне начаваў.

— А як жа, і мой Саўка пойдзе. Ён цяпер газетная шышка. Піша і друкуе. А дзе Мікола?

— Мікола? Ды ён у канцылярыі калгаса, падганяе на сяўбу, ці што.

Пад вечар, калі пры будынках паляглі доўгія цені, па новай грэблі, дзе колькі год таму назад квохала непралазная гразь, пайшлі чацвёра: стары Цыпрук, яго сын Мікола, Сакалоўскі і Саўка Солах.

Яны ішлі ў Гайдачанскі сельсавет на калгаснае свята, каб паглядзець заўтра раніцаю трактарную калону.

Над бярэзнікам палыхае, дрыжыць яркая бавоўна зараніцы. Звіняць жаўранкі. Свежы ветрык шапаціць між галінамі.

Ад бярэзніка пачынаецца аграмаднае поле, шызае ад ценяў веснавой ночы. А вось брызнулі шырокім веерам першыя праменні сонца. Цені на полі пачалі таяць, блекнуць.

На высокім камяні, які вызначаецца на гладкім полі, нібы помнік невядомым падзеям і геройскім учынкам, гра-

юць сонечныя блікі. Вызначаюцца вузкія палосы глухаўскага поля. Рыжаватыя межы цягнуцца роўнымі вужамі. На адным месцы, недалёка ад высокага каменя, поле абселі вароны.

На ранічным абшары цямнеецца паіржавелы калючы дрот савецка-польскай мяжы. Недалёка за калючым дротам зліваюцца з небам саламяныя стрэхі замежнай вёскі Рудні. Адгэтуль менш відаць былая вёска Глухаўка, цяперашні калгас «Чырвоная варта». Толькі вокны царквы ярка блішчаць, нібы знутры будынка брыскаюць іскры пажару. Крыж з царквы быў зняты яшчэ зімою.

Па дарозе да поля ідзе спешна групка хлапцоў і дзяўчат. Часам аглядаюцца на бярэзнік, прыслухоўваюцца і зноў ідуць сюды на поле.

— Мы самыя першыя,— кажа адна з дзяўчат. Шустрымі вачыма глядзіць на хлапцоў і вось-вось засмяецца.

З боку бярэзніку, за якім раскінуўся бальшак, пачуліся невядомыя ў гэтай мясціне гукі. Не то самалёт невідочны гудзіць, не то машына нейкая грукоча.

— Лявонка, едуць! — успляснула дзяўчына рукамі, нібы спалохалася, падскочыла ўгару і зараз жа паправіла пасму валасоў, якая ўпала ёй на вочы.

— Камсамол, наперад! — закамандаваў Лявонка.

— Едуць! Едуць! — закрычалі ў адзін голас усе і пусціліся бягом наперад.

З-за бярэзніку паказаліся адна за адной пяць машын. Яны шпарка імчаліся наперад. І здавалася, што вельмі цяжкія яны, аж зямля пад імі гнецца. І здавалася, што лёгкія яны, нібы вецер. Над машынамі ірдзеліся чырвоныя сцяжкі. Мільгаліся над ветрам, як крыллі невядомай птушкі.

— Вы павольна,— стрымліваў Лявонка грамадку камсамольцаў з робленай паважнасцю ў голасе,— а то як дзеці малыя!

Усе засмяяліся, і па ўсім полі разлёгся гучны крык:

— У-ра-а-а!

— Трактарная калона...

— Драчык не падвёў! Мілыя, вось жа лоўка! — не стрымлівала сваіх пачуццяў яшчэ адна з дзяўчат.

І пабеглі насустрач трактарнай калоне.

Грукаценне матораў расло, напоўніла сталёвымі гукамі ружовае паветра.

З крыкам падняліся з загонаў спалоханыя вароны, шэрым стадам яны ўзняліся над полем. Паляцелі на той бок

калючага дроту. У празрыстым паветры ярка абрысоўваліся шырока разгорнутыя крыллі і завостраныя дзюбы.

Пяць трактараў спыніліся, выстраіліся на полі ў адзін шэраг.

— Здаровы, хлопцы! — крыкнуў Лявонка з усёй сілы маладых грудзей і зачырванеўся ад напружання.

Прывітанне падхапілі ўсе.

Трактарысты смяяліся, блішчалі белыя зубы. Усе махалі рукамі, крычалі, і кожны па-свойму бурна выказваў сваю радасць.

Тым часам з розных месц: з-за бярэзніку, з боку — «Чырвонай варты», «Першае мая» паказваюцца на даляглядзе грамады і грамадкі людзей. Палыхаюць над галавамі чырвоныя сцягі, чуваць песні, хто ідзе стройнай калонай, дзе ўрассыпную, едуць конныя, каля дарослых мітусяцца дзеці. Белыя і чырвоныя хусткі на жаночых галовах. Між вяскоўцаў і чырвонаармейцы-прымежнікі. Расце, надыходзіць, нібы хвалі, людскі гоман, смех, жарты.

— Ніколі гэтае поле не бачыла столькі народу! — кажа адна з дзяўчат, і вочы яе робяцца сур'ёзнымі і задуменнымі.— Як на пазіцыі,— кажа яна цішэй.

— Вось яна, гэта пазіцыя,— смяецца Лявонка.— Дзікая трава на межах! Зараз ім канец!

Усё бліжэй і бліжэй падыходзяць грамады. Вышэй узнімаецца сонца.

— Мабыць, ніхто з вас яшчэ трактара не бачыў,— смяецца адзін трактарыст і чорнымі, трохі выпуклымі вачыма глядзіць на Лявонку.

— Бачылі! — кажа Лявонка з крыўдай у голасе.— Вось хіба з тых (ён паказвае рукою на грамады, якія набліжаюцца сюды) старыя не бачылі гэтага «дзіва».

Толькі каля самага бярэзніку і далёкіх хмызнякоў і гайкоў яшчэ ляжаць вільготныя цені. Усё поле ахоплена рыжаватым водсветам сонечнай раніцы.

— Каля чатырохсот чалавек будзе тут, глядзі Лявонка! — дзяўчата тармошаць яго за пінжак.

— Праўда,— згаджаецца Лявонка.— Ніколі наша поле столькі народу не бачыла.

Расце шум, набліжаецца. Сотні вачэй, свежыя ад узбуджанасці твары, узмахі рук, крыкі «ўра!». Усё гэтай жывой хваляй плыве на трактарную калону. Адзін момант здаецца, што грамада, якая цяпер з дробных груп склеілася ў адно цэлае, рынецца на трактарную калону, накінецца на яе...

Старыя, маладыя, мужчыны, жанчыны мацаюць рукамі жалеза і сталь машын.

Вось адзін стаў на крыло трактара. Вось і другі, трэці.

Маленькі хлопчык узлез на калені трактарысту. Другі крычыць: «Татачка, і мяне пасадзі туды, да дзядзькі!» У агульным тлуме раздаецца плач маленькай дзяўчынкі. Трактарыст са смехатлівымі міргаючымі вачыма, з тонкім ружовым носам выставіў дзяўчынцы доўгія рукі з растапыранымі пальцамі.

— Мамачка, баюся...— просіцца дзяўчынка.

— Ну дык не трэба, Галенка.— Маці смяецца і выцірае рукою слёзы дачушкі.

— Баіцца, нялюдскае дзіця,— апраўдваецца кабета.— Што ж ты з ёю зробіш...

— Ай, нага, нага! — крычыць дзесяцігадовы хлапчук. Нехта ўступіў ботам на яго босую нагу. Ён скача на адной назе. Ён без шапкі, белагаловы. На сонцы яго валасы ружавеюць.

Драчык, Шаневіч, Змітрок, Мікола, Сакалоўскі і некалькі іншых, заклапочаныя і ўзбуджаныя,— бегаюць туды і сюды і шукаюць месца, дзе пачаць мітынг.

— Глядзі, Марцінка,— торгае мужа за руку Мэра,— каб хто не ведаў, падумаў бы, што яны злуюцца. Надуліся, як пузыры.

Марцін ёй нічога на гэта не адказвае і падскоквае да Драчыка.

— Антось, Антось! — крычыць ён.

— Га? — Драчык падстаўляе здаровае вуха.

— А вунь там! — Марцін паказвае рукою на вялізны камень.

Драчык ўзрадаваўся. Маршчыны на яго твары расплываюцца ў шырокую ўсмешку.

— Вось тут мы і пачнём,— кажа ён.— Люблю шчырасць, каменная трыбуна. Та-ва-ры-шы! Сю-у-уды-ы-ы! — крычыць ён да грамады і паказвае рукою на камень.

Жывы лес грамады рынуўся, валам валіць. Да каменя ціснуцца ўсе, кожны стараецца захапіць самае блізкае месца.

— Ды ты не піргайся! — чуваць пісклівы голас.

— Мяне піргаюць, дык і я,— адказвае спакойны басок.

Многія расчырванеліся, выціраюць з твару пот рукамі.

Малады Саўка Солах нешта піша алоўкам у блакнот, аглядаецца навакол пільным вокам і зноў піша...

Блізка ад каменя стаяць стары Цыпрук, каваль Лейба, Мікола, Сакалоўскі, Марцін. Мэру адціснулі на дзесяць галоў далей.

Стары Лейба толькі ўчора вечарам пазнаёміўся з новым сватам — Цыпруком. Часта Лейба паглядае на Цыпрука цёплым вокам сваяка... Чым больш сваякоў, тым Лейба шчаслівейшы. Сівая барада ў яго расчэсана па-святочнаму. Чорныя вочы пад кусткамі броваў трохі здзіўленыя.

— Сваток! Сваток! — кажа Лейба і кладзе руку на плячо старога Цыпрука.

— Га?

— Відаць, што свята ідзе не ад бога, але ад людзей. Ад людзей ідзе яно. Вось бачыш, сваток, гэту грамаду? Захацелі яны — і свята сабе ўладзілі.

— Праўду кажаш, ці што...

Цыпрук жмурыць вузкія ільдзінкі вачэй і глядзіць на Лейбу з нейкай асаблівай павагай.

— Глядзі, сваток, цяпер на гэтыя межы. Пасля ты іх ніколі ўжо не пабачыш.

Цыпрук ківае галавою і ўстаўляе сваё слова:

— Мабыць, Язэпу Крушынскаму гэта і не снілася.

— А калі і снілася, дык гэта было для яго страшным сном.

— Ну і разумны ты, сваток, чалавек...— любуецца Цыпрук на Лейбу.

Яны не гавораць, а крычаць адзін аднаму, бо гул грамады расце, шум павялічваецца, нібы ў лесе ў час навальніцы.

Антось Драчык тым часам узлез на высокі камень. Вакол каменя цясней падступіла грамада. Спляліся людзі ў адно, склеіліся, здаецца, так, што ніколі не разыдуцца пасобку.

— Та-ва-ры-шы! — пачаў Драчык зычным голасам.

— Цішэй, цішэй! — перадавалі адзін аднаму з берагоў грамады.

Грамада пачала супакойвацца. Шэпт, нібы жытняе поле пад ветрам, чуваць быў з усіх бакоў.

— Цішэй, цішэй.

— Як прозвішча таго, што на камені стаіць? — пытаецца Саўка Солах у аднаго старога дзеда.

— Гэта ж Драчык, старшыня сельсавета.

Саўка запісвае ў блакнот.

Драчык аглядае мора галоў і на хвіліну задумваецца; выцер рот дрыжачай рукою і кашлянуў у далонь.

— Таварышы!

Голас яго змяніўся, зрабіўся болей спакойным.

— Сягоння мы руйнуем спрадвечныя межы паасобных гаспадарак беднякоў і серадкякоў. Сягоння памруць межы! Памруць на векі вечныя! Ніколі ўжо калы не будуць гудзець над гэтымі межамі, як часта бывала да гэтага часу! Ніколі ўжо сварак і боек тут не будзе. Мы аб іх забудзем, аб межах, а нашы дзеці і гэтага слова, можа, не пачуюць! Толькі памятайце, таварышы, што ў нашых калгасах яшчэ ёсць крушыншчыкі, з імі яшчэ прыйдзецца змагацца!

Драчык спыніўся на адну хвіліну, задумаўся. Нецярплівае шорханне грамады як бы ўзбудзіла яго. І ён зноў пачаў:

— Цяпер нам трэба абмеркаваць...

Антось Драчык пачаў пералічваць тое, што зроблена было за зіму калгасамі сельсавета, успомніў, што з раёна прыслалі сто заводных цялят, што пабудавалі некалькі новых хлявоў, і давай разгортваць далейшыя планы пяцігодкі: школы, добрыя дамы, яслі для дзяцей, багатыя ўраджаі, асушка балот, крухмальні, лесапільні. Ён разгортваў перад грамадою шырокае палатно блізкай будучыні...

Некаторыя старыя жанчыны выціраюць хусткамі вочы. Ківаюць адна адной галовамі не то з папрокам, не то з пашкадаваннем.

— Адвекавала я свой век...— кажа адна нізенькая старая цётка сваёй суседцы.

— Ды ліха цябе, Макарыха, не возьме. Яшчэ даўбнёй не прыб'еш,— пацяшае яе высокая без хусткі суседка.

— А ты, Мацеіха, чаго зараўла? — пытаецца тая самая ва ўдавы Мацеіхі.

— Я? З радасці...— усхліпвае сарамліва Мацеіха.

І раптам спыніла ўсхліпванне, выцерла вочы і зацікаўлена паглядзела на замежную вёску Рудню за паіржавелым калючым дротам.

— Глядзіце, глядзіце, людцы,— Мацеіха паказвае рукою, куды глядзець.— Як вераб'і ўсё роўна!

Мацеіха пры гэтым пачала смяяцца.

Многія адварочваюць галовы ў бок граніцы.

На саламяных стрэхах замежнай вёскі Рудні стаяць дзеці і пільна глядзяць сюды. Некаторыя стаяць каля комінаў, і на яркім фоне неба яны вызначаюцца як малюнкі

на паперы. На гародах і платах стаяць дарослыя мужчыны і жанчыны. Усе яны глядзяць здалёку на вялікае поле «Чырвонай варты».

Саўка Солах доўга піша нешта ў блакнот.

— Як нябожчык «Леў Талстой»,— кажа нейкі дзядзька.

Каваль Лейба і стары Цыпрук выслізнуліся з грамады, каб паглядзець туды, за калючы дрот...

— Эх, сваток,— кажа Лейба,— каб не гэтая граніца — усе з Рудні былі б тут і святкавалі б разам з намі.

Цыпрук наставіў над вачыма далонь правай рукі, а левай рукой мацней абапіраўся аб кій.

— Праўду, сватку, кажаш. Бач, сюды ім хочацца, ці што...

Да каменнай трыбуны прабіраўся Мікола Ярэмчык, локцямі сабе прабіваў дарогу паміж плеч, спін і грудзей. Тым часам пяць трактараў нарыхтаваліся каля вузкіх загонаў на шырокім полі. Загулі маторы. Закруціліся калёсы. Вялікія сталёвыя плугі ўгрызліся ў глебу.

Да першых свежых баразнаў падыходзілі калгаснікі. Стары Цыпрук па-гаспадарску падсунуўся да свежай узворанай баразны, нагнуўся і давай сваім кіем мерацць шырыню і глыбіню.

З лёгкім крэхтам падняўся, выпрастаўся, пагладзіў паясніцу, вочы зажмурыліся; ён кіўнуў галавою ад дзіва і сказаў:

— Нічога сабе баразёначка, га? Ніколі ў нас так не аралі...

Цыпрук цмокнуў губамі, нібы цукерку смокча, выставіў палец угару, бы хоча неба пракалоць пальцам, і казаў самому сабе:

— Век пражыў, шмат чаго бачыў, а вось гэткага ворыва, яй-права, ніколі...

Яшчэ раз нагнуўся, узяў у рукі кавалак зямлі і давай яго мяць і расціраць з асаблівай любасцю, як скульптар гліну.

— Вось гэта дык ратаі!.. ай-я-яй!..

Запахла свежая глеба... Ноздры Цыпрука дрыжалі. Ён прагна, з лёгкім посвістам уцягваў у сябе носам парны пах глебы...

Гудуць трактары...

Вось узбіраецца на мяжу трактар, трохі кавыляе ў адзін і другі бок, пярэднімі калёсамі прасуе адзірванелую мяжу. Вось і заднія калёсы душаць яе жалезнымі бара-

даўкамі-шыпамі, хочуць яе распластаць, расціснуць, каб з мяжы аж сок паказаўся. Два сталёвыя дыскі крамсаюць яе, дробяць на часткі. Трактарыст націрае на педаль з асаблівай упартасцю. Сталёвыя лемяхі пачынаюць пераварочваць, пераЖоўваць дзёран... Ірвецца белае карэнне дзікіх траў, шорхае зямля...

— Ур-р-а-а! Межы гінуць!

Дзеці, расхрыстаныя, вясёлыя, бягуць за трактарамі, размахваюць рукамі, рагочуць...

Сярод неахопнага гулу чуваць гучныя словы Міколы Ярэмчыка. Ён стаіць на высокім камені, пакрытым зялёнымі лішаямі.

— Паміраюць межы... Надыдзе час, што не будзе ніякіх меж...

Мікола паказвае рукою на калючы дрот дзяржаўнай мяжы.

Шаневіч пачаў спяваць «Інтэрнацыянал», падхапіла грамада. Вышэй запалыхалі чырвоныя сцягі.

— Глядзі, глядзі, сватку! — стары Цыпрук штурхнуў злёгку Лейбу.— Глядзі!

На тым баку калючага дроту рудненцы падкідвалі ўгору шапкі...

Расшырыліся на адзін міг вочы Цыпрука ды зноў звузіліся ў дзве ільдзінкі.

— Людцы! Людцы! — ён узмахнуў рукамі, усім тулавам падаўся наперад, нібы збіраўся бегчы, каб кагосьці ратаваць.

Глядзяць рудненцы з таго боку калючага дроту на бальшавіцкую сяўбу, а да іх па гародах гарцуюць на конях жандары. Шапкі іх блішчаць, і відаць, як з-пад конскіх капыт выбіваюцца ўгору камы зямлі...

— А-я-яй...— не то стогне, не то дзівіцца стары Цыпрук. Яму добра відаць, як рудненцы мітусяцца, як над іх галовамі паднімаюцца і апускаюцца бізуны...

Жандары хутка ачысцілі гароды, платы, саламяныя стрэхі.

Грамада калгаснікаў раптам сціхла. Усе павярнуліся тварамі на той бок... Чулася напружанае дыханне некалькіх сот чалавек.

У вачах старога Цыпрука заблішчалі слёзы. І вось ён пачуў голас старшыні «Чырвонага Кастрычніка», тав. Шаневіча:

— Няма на свеце такой сілы, якая прымусіла б нашых зарубежных братоў — прыгнечаных Заходняй Беларусі —

не глядзець на Савецкую Беларусь і не ведаць, што ў нас робіцца...

Саўка Солах рупна піша нешта ў блакнот, паднімае галаву з паперы, аглядае грамаду і зноў піша.

Сонца мацней пачало грэць зямлю.

Нешта звініць у вушах Цыпрука. Ён заўважае, як некаторыя калгаснікі пільна глядзяць на вузкія палоскі.

Нішчаць трактары гэтыя палоскі. Ужо ладны кавалак поля заворвны, ужо многа меж не стала.

І неяк дзіўна становіцца Цыпруку: ён у сябе нешта новае адчувае, што ён сягоння адзін з тутэйшых гаспадароў... Першы раз на гэтым полі, а вось гаспадар... Па-гаспадарску пачынае ўсё аглядаць... Пры ім нейкі стары з сівой бародкай рукі ламае.

— Чаго ты? — пытаецца Цыпрук.

— Страшна, ніколі свайго шнура не пазнаю. Усё жыццё на ім спіну гнуў.

— Кінь! — злуецца Цыпрук.— Во хто цяпер будзе за цябе карак гнуць,— і паказаў рукою на трактары,— а калі каньмі араць, дык на гэта таксама ёсць моладзь. Табе дадуць працу па сіле. Эх ты!

На высокім камені стаіць наборшчык Сакалоўскі. Ён жмурыць вочы на сонцы, аглядаецца ва ўсе бакі.

— Рабочыя нашай друкарні прымаюць шэфства над калгасамі Гайдачанскага сельсавета! — гучыць яго голас.— Надрукуем для вас газету. У хуткім часе прышлём бібліятэку!

Голас Сакалоўскага пачынае плаўна разыходзіцца па шматгаловым сходзе на полі.

Адну хвіліну Сакалоўскі спыняецца, выцірае рукою ўспацелы лоб, успамінае зімовыя сходы ў клубе тутэйшага сельсавета. «Як цяжка ўсё гэта было сарганізаваць»,— думае ён.

— Мы перамагаем усе цяжкасці. Нямала яшчэ іх будзе і ў вас, таварышы калгаснікі. На кожным кроку ворагі пастараюцца перашкодзіць. Але будзьце ўпэўнены, што перамога будзе на нашым баку!

Блішчыць вільгаццю свежаўзараная глеба.

Стары Цыпрук ужо некалькі разоў імкнецца да каменя. Кожны раз стрымліваецца. Заўсёды толькі іншых слухаць любіў. Ніколі сам перад грамадою не гаварыў.

«Папрасіць слова, ці што?»

Страх яго бярэ. Аднак усё бліжэй падсоўваецца да каменнай трыбуны.

— Наш прымежны сельсавет,— чуе Цыпрук малады голас аднаго з тутэйшых камсамольцаў,— будзе стаяць на варце. Няхай польскія паны не думаюць лезці да нас, бо трактары па-іншаму загуляюць... Я тады, пры польскай акупацыі, быў яшчэ хлапчуком, а добра памятаю панскія бізуны...

Каля Цыпрука стаіць цяпер удава Мацеіха і плача ўголас.

— Чаго ты, цётка?

— Гээ-эта ж мой Лявонка гаворыць...

— Дык ты радуйся, ці што. І мой Мікола нядаўна гаварыў.

— Але майго Лявонкі бацька, мой муж Мацей, памёр пад польскімі шаблямі... Успомнілі вось, і...

— І я каштаваў панскі бізун,— пацяшае Цыпрук удаву.

Гудуць трактары.

На агромністым полі яны разыходзяцца і зыходзяцца. Цёплы вецер, афарбаваны сонцам, нясе на той бок калючага дроту пах свежай глебы.

Першы раз у жыцці бачыць Цыпрук Ярэмчык такое ворыва...

Заўсёды ён уставаў раніцаю ды хадзіў адзін на свой шнур. На суседнім шнуры — другі араты, далей — трэці, але рэдка калі зыходзіліся разам. Здалёку толькі чуваць былі нялюдскія лаянкі і злосныя галасы.

Плоймай ластавак праносяцца перад Цыпруком кавалкі ўспамінаў, пырхнуць ценем і зікнуць. Па доўгай дарозе свайго шэрага жыцця ён так прагнуў бачыць і чуць цікавае.

— Хто яшчэ просіць слова? — чуе Цыпрук голас Драчыка.

— Я-а-а! Я!

Цыпруку здаецца, што гэта не ён сам крыкнуў, а нехта незнаёмы, бо свайго ўласнага голасу не пазнаў. Яму ачышчаюць дарогу да каменнай трыбуны. Ніколі ён не адчуваў у сябе такой сілы. Ніхто б яго цяпер не стрымаў. Ён мусіць гаварыць перад грамадою. Ён павінен выказаць тое, што расце ў яго ўнутры...

— У Рудні вокны завешваюць, каб сюды і праз вокны не глядзелі,— чуе Цыпрук нейчы голас.

Ён па-хлапцоўску ўскочыў на высокі камень. Перад сабою ён бачыць шмат твараў. Гарачыя вочы накіраваны на яго. Заўважыў, як яго сын Мікола глядзіць на яго

радаснымі вачыма, а вунь сівы Лейба, яго сват. Кінуў вокам на той бок калючага дроту: толькі паліцэйскія жандары на конях раз'язджаюць...

І цяпер Цыпрук не пазнае свайго голасу, які імкнецца з усяго яго нутра:

— Таварышы браты! Бачачы і чуючы ўсё гэта, прашу запісаць мяне ў бальшавікі!

Больш гаварыць ён не можа. Ад крыкаў «ура!», ад пляскання ў далоні звініць у вушах.

*1930 — 1931*
*Мінск*

# СЯРЭБРАНАЯ ТАБАКЕРКА

КАЗКА

## ГОНАР І ЧЭСЦЬ СЯМ'І

З дзіцячых рук выслізнуўся і паляцеў угару вялізны яркі чырвоны шар. Ён астаўся вісець над лесам і называецца месяцам. У сінім моры неабсяжнай вышыні плылі залатагаловыя гускі-зоркі. Месцамі ў грудзях лясных змрокаў палыхала зялёнае ззянне. Цені гонкіх смуглых хваін ляжалі на паплавах, дзе кожнае сцябло і травінка былі адглянцаваны паасобку. А воддаль у бездані возера, колеру начнога неба, адсвечваўся партрэт месяца.

Была такая цішыня, быццам увесь свет чакаў чагосьці новага і незвычайнага, якое во-во з'явіцца немаведама адкуль. Як зморany касец, драмаў вецер. Не спалі адны камары. Здавалася, што не яны гудуць, а нецярплівы дзяцюк прабуе ціха, каб нікога не разбудзіць, толькі сёння купленую гітару, і цішыню глыбока драпае аднатонны гук:

— Дзын-н... дзын-н-н... дзын-н-н-н-н.

У маленькай хацінцы, вокны якой былі расчынены, мірна вячэрала сям'я. У гліняных місачках дымілася на стале малочная зацірка. Бацькі клапатліва назіралі за тым, каб хлопчык і дзяўчынка не абліваліся ежай, каб пад сталом не малацілі адно аднаго драўлянымі лыжкамі. Малыя былі непаседлівыя, імпэтныя і вясёлыя і любілі забаўляцца заўсёды — трэба ці не трэба. Сядзець спакойна было для іх пакутай.

За сталом у самым пачэсным куце сядзеў стары дзед. Ён еў вельмі марудна, прыслухоўваўся да смаку, таропячыся вачыма ў столь, і павольна, з асалодай пражоўваў ежу. Пасля кожнай лыжкі стравы дзед старанна выціраў вусы, пажоўклыя ад частага нюхання тытуню, і з лагоднай усмешкай паглядаў на малых унукаў.

Яшчэ да пачатку вячэры дзед ім сказаў так:

— Дам панюхаць тытуню са святочнай табакеркі, калі вы, жэўжыкі, будзеце вясці сябе за сталом прыстойна.

Унукі паслухаліся.

У гэты вечар яны не шчыпаліся пад сталом, не лезлі лыжкамі ў чужыя місачкі, не строілі смешных мін адно аднаму, каб не стрэльнуць гучным смехам, бо гэтага дзед у апошнія дні вельмі не любіў. Яму балела галава. Ён адчуваў сябе не зусім добра, і кожны лішні гук прыводзіў яго ў дрыгат.

З вялікай цікавасцю ўнукі паглядзелі на лямпу.

На яе святло ляцелі праз акно з лесу, як на паратунак ад разбойніцкай ночы, грамадкі матылькоў, жучкоў, мушак, скакуноў, фокуснікаў, спевакоў, музыкаў, свістуноў і пстрыкуноў рознага выгляду і колеру. Некаторыя з іх былі меншыя за макавае зерне — смешныя і спрытныя. Іншыя нагадвалі веліканаў-танцораў на даўжэзных дыбках, тонкіх, як валасінкі. Былі яны рагатыя і крылатыя, даўгавусыя і даўгахвостыя. Хто скакаў галавой уніз, а хто слізгаўся бокам — як бы катаўся на саначках.

Усе гэтыя казюлькі нагадвалі малюпасенькіх клоунаў-цыркачоў у фантастычным адзенні, у ярка-каляровых масках. Яны, гэтыя маленькія скамарохі, як бы наўмысне далі тут дармовае прадстаўленне дзецям.

Дзеці імі захапляліся. А насякомыя захапляліся начным сонцам-лямпай.

Лямпа была для іх шчасцем і няшчасцем у непрытульнасці начы. Яны слеплі і гінулі дзесяткамі на прывабным агні. Няйначай крык болю і пагібелі гэтай драбязы быў страшны да жудасці, але не даходзіў да слыху дзяцей.

Зусім магчыма, што кожнай казюльцы пры смерці здавалася, нібы ўвесь свет гіне з ёю разам у нечаканых пажарах.

Пра такія начныя відовішчы дзед часта гаварыў унукам:

— І вы, букашкі, не гойсайце на невядомыя агні, бо яны апаляць вам крыллі і не будзеце магчы нават пашкадаваць самі сябе. Вас будуць шкадаваць бацькі і дзяды. Эге!

Дзед меў звычку замацоўваць свае думкі словам «эге!».

Супакой у хаце нарушаўся толькі тады, калі заядлы камар бязлітасна калоў дзецям вуха, губы, нос. Тут ужо самая добрая істота на свеце не сцярпела б. Баліць, калі камар п'е тваю кроў.

Хлопчык і дзяўчынка былі спрытнымі лаўцамі кама-

роў: плясь, ляп — і адным крывапіўцам стала на свеце меней. Каб паляўнічы, скажам, так лёгка трапляў у зайцаў, ад іх роду-племені не асталося б і звання. Але заяц не п'е чужой крыві.

Як скончылі вячэраць, дзед выканаў сваё абяцанне: асцярожненька закандыбаў у сваю старыкоўскую бакавую каморку па табакерку.

Хлопчык і дзяўчынка пільна ўзіраліся ў яго згорбленую спіну. Толькі цяпер яны заўважылі, што дзед ледзьледзь ходзіць. Ён абапіраўся аб кіёк, а яго рукі і ногі ўсё роўна дрыжалі, нібы во-во адпадуць ад цела. Галавой ён бесперапынку круціў направа і налева. Здавалася, што ён ні з кім і ні з чым на свеце не згаджаецца і зараз на ўвесь голас крыкне:

— Не! Не! Не!

Дзед вярнуўся з табакеркай. Ён нёс яе ў правай руцэ вельмі асцярожна, нібы яна вырвецца з яго рукі і паляціць птушкай.

Стары паставіў табакерку на стол урачыста. Яна была гордасцю і гонарам сям'і. Яна пераходзіла ў спадчыну яго роду з пакалення ў пакаленне.

Была гэта надзіва прыгожая сярэбраная скрыначка мастацкай ювелірнай работы. На яе сценках красаваліся два залатыя зграбныя зайчыкі, частуючыя адзін аднаго тытунём.

А вось якім чынам табакерка, паводле апавядання дзеда, трапіла іхняму роду.

Адзін багаты вандроўца з заморскай зямлі прыехаў у тутэйшыя лясы паглядзець, як жыве народ. Аднаго разу заблудзіўся ён на паплавах і балотах і апынуўся ў страшэннай дрыгве. Выратаваў яго з бяды адзін з прадзедаў гэтай лясной сям'і, які выпадкова трапіў у тую мясціну.

За тое, што лясны жыхар выратаваў багатага замежніка ад пагібелі — той падараваў яму сваю табакерку.

Дзед асцярожненька адчыніў табакерку, дазволіў унукам узяць па шчапотцы тытуню і сабе засунуў у абедзве ноздры пахучага пылу. Калі ён уцягваў тытунь ноздрамі глыбока ў сябе, вочы яго закатваліся задуменна ўгору і па яго абветраным твары расплылася шчаслівая гарклівастарэчая ўсмешка. Ён сажмурыў вочы, ртом лавіў паветра, як рыба, выцягнутая з вады, і стрымліваўся, каб не чхаць. У такім стрымліванні ён адчуваў невыказны смак, незразумелую для іншых асалоду. На яго вачах накручва-

ліся хмельныя слёзы радасці. Дзед трымаўся абедзвюма рукамі за стол, глядзеў весела, нібы збіраўся сказаць нешта вельмі цікавае і раптам пачынаў чхаць шчыра, смешна, з зацягваннем, са спынкамі ды з такім прыслухоўваннем да гэтых гукаў, нібы раз назаўсёды задумаў вычхнуць з сябе ўсю старэчую немач.

— Апчхі! Апчхі! Апчхі! — чхаў дзед.

— Чхі-чхі-чхі,— чхаў унук.

— Чых-чых-чых,— чхала ўнучка.

Было так забаўна, што смяялася ўся сям'я.

Кожны раз пасля нюхання тытуню дзед на некалькі хвілін маладзеў да таго відавочна, што мутныя вочы станавіліся ясныя, як у юнака, рукі і ногі не дрыжалі, і галавою ён пераставаў рабіць «не, не».

— Калі я з гэтай табакеркі нюхаю,— сказаў дзед,— галава становіцца яснай, як летняе сонца, увесь я мацнею, і лезуць у памяць, нібы вераб'і ў авёс, старыя-старыя гісторыі, даўно вадой заплыўшыя і травой зарослыя. От што значыць нюхаць з добрай табакеркі! Даўней і каралі і каралевы, прынцы і прынцэсы нюхалі тытунь з табакерак залатых, просты народ — з бяроставых. Табакеркі былі ў вялікай пашане. Эге!

Дзед махнуў рукой.

Унукі з цікавасцю глядзелі на табакерку. Дакранацца да яе рукой дзед не дазваляў. Стары бліснуў на хатніх вясёлымі агеньчыкамі ў памаладзеўшых вачах і звярнуўся да малых:

— Дык апавядаць вам гісторыю, якую вы яшчэ ні разу ад мяне не чулі? Эге?

— Раскажы, дзядуля, раскажы!

Унукі пачалі скакаць і пляскаць у ладкі, распяваючы на розныя лады:

— Раскажы, дзядуля, раскажы!

## ПАЛЯВАННЕ

Уся сям'я расселася слухаць дзедава апавяданне.

Што гэта была за сям'я?

Не сям'я адзінокага палясоўшчыка. Не сям'я авантурніка-злачынцы, які хаваецца ў глухім лесе ад добрых людзей. Не сям'я якога-небудзь катаржніка, самагоншчыка, фальшываманетчыка. Гэта была самая прыстойная, мір-

ная і слаўная сям'я, дзяды і прадзеды якой любілі лес і жывуць у ім спакон вякоў, гэта была сям'я жвавых, спрытных, мілых зайчыкаў-шарачкоў. Праўда, праўда!

Сям'я зайчыкаў, а не людзей.

Зайцова сям'я навастрыла вушы, і стары дзед-заяц пачаў апавядаць сваю гісторыю. Кожны раз, калі ён стамляўся, пачынаў заікацца і дрыжаць рукамі, нагамі ды ўсім целам — ён браў з адчыненай табакеркі шчапотку тытуню, нюхаў, чхаў і ажыўляўся.

— Гэта мне апавядаў,— бубніў дзед,— каб вам не змані́ць, мой дзед, светлай памяці, а чуў ад свайго дзеда. А яго дзед чуў зноў жа ад свайго дзеда. Гэта значыць ад нашага пра-пра-пра-прапрадзеда. Каб лёгка было выгаварыць гэта слова, прыдумаем новае, без «пра-пра-пра». Не з неба лятуць словы клёцкамі ў рот. Мы самі з вусамі — прыдумваем іх, калі яны нам патрэбны. Давайце замест «пра-пра-пра-пра-дзед», будзем гаварыць «Дзіда-дзед». Згодны?

— Згодны! Добрае слова «Дзіда-дзед»! — пахвалілі ўнукі, майстры на прыдумванне новых слоў.

— Эге! Мне выдумаць новае слова тое самае, што боб малаціць — лёгка. Дык вось аднаго разу наш Дзіда-дзед, светлай памяці, выйшаў пасля полудня на спацыр. Ён быў тады яшчэ зусім малады і не любіў спаць пасля абеду. Дзіда-дзед, мір праху яго, быў жвавы, як віхор, любіў рухацца і кружыцца ўюном. Ого-го! Ён быў зух і скакун на ўсю ваколіцу. Ён, няхай ён мяне прабачыць, не быў святым Антоніем, нічога не меў супраць таго, каб паласавацца капусткай ці карой маладых яблынь. Цяпер у нас ёсць свой сад, свой гарод, а Дзіда-дзед наш не быў заможнікам. Гора і нядоля вадзілі яго ў чужое поле. Ад вялікай бяды лез ён у чужыя сады. Эге! Дык вось у цёплы восеньскі дзянёк Дзіда-дзед ішоў сабе па бярэзніку — асцярожненька, азіраючыся направа і налева. Чуе хруст сучка — насцярожваецца. Шышка валіцца з дрэва — вушы вострыць. Варона ўзляціць — азірнецца. А можа, вораг спудзіў штушку? Хоць табакерку меў ён пры сабе, але не нюхаў, каб ніхто чхання не пачуў. Выйшаў Дзіда-дзед у чыстае поле — прыслухоўваецца. Слух быў у яго востры, як тая каса. Лісток з дрэва ўпадзе — пачуе. Ветрык траўку калыхне — пачуе. Пільна цікуе Дзіда-дзед за галасамі зямлі і чуе, што робіцца на вярсты дзве навакол.

Раптам Дзіда-дзед закалаціўся з галавы да ног. Ён пачуў небяспечную агідную звягу:

— Іях-іях-іях-іях! Дзях-дзях-дзях-дзях!

— А хто так яхкаў і дзяхкаў? — запыталіся ўнукі.

— Сабака, ганчак, каб яго зямля не насіла! Значыць, сабака трапіў на яго, Дзіда-дзедаў, след. Значыць, тут і стралец са стрэльбай цікуе. І не так шкадаваў Дзіда-дзед жытка сваё, як дарагую табакерку — вельмі шкадаваў. Ні за што ні пра што табакерка чорту лысаму застанецца, калі я загіну,— думаў Дзіда-дзед. А водгаласкі покатам каціліся з бярэзніку, з хмызняку, з возера, з чыстага поля:

— Іях-іях-іях! Дзях-дзях-дзях!

— Ой, баімося! — піскнулі ўнукі.

— Не бойцеся, родненькія,— супакойваў іх дзед.— Да нас ніякі паляўнічы са сваімі сабакамі не дабярэцца. А Дзіда-дзеду было тады страшнавата. Аднак ён не вельмі збянтэжыўся. Эт! Страшней смерці не будзе. Панюхаў тытуню і начхаў, казаў той, на ўвесь свет! Разумны быў ён, светлай памяці. Эге! І Дзіда-дзед рашыў пісаць па зямлі кітайскую грамату: блытаць сляды, каб збіць сабаку з яго сабачага панталыку.

Блытаў ён, блытаў і рабіў мудрагельныя петлі. Зробіць пятлю і — скок у паветра на дваццаць зайцаў у даўжыню, другую пятлю і — скок, трэцюю — скок! І скакун жа быў наш Дзіда-дзед — над усімі скакунамі скакун! Ніякі ганчак не данюхаецца, куды скокнуў Дзіда-дзед. Скокнуў куды трэба — у самае неба.

Урэшце Дзіда-дзед схаваўся ў кусты, і слухае, і чакае, што будзе далей. А навакол — дзях-дзях-дзях! чах-чах-чах! Не жартачкі — Смерць-паганіца на носе, як той клешч, сядзіць. Эге!

Вось ужо і сабака блізка, і стралец блізка. Дзіда-дзед хітрыў-хітрыў, ды не перахітрыў. Данюхаўся ганчак, каб на яго звод! Накінуўся на Дзіда-дзеда драпежны, магутны, чарнабуры. Зрэнкі ганебныя гараць пякельным агнём, дыхае полымем, язык чырвоны, як агонь, а клыкі, клыкі! Абцугі, а не клыкі... Эге! Во зараз канцы...

— Ой, баімося...— піскнулі ўнукі.

— Не бойцеся, малыя,— сказаў дзед і хвіліну адпачыў.

Дзед зноў пачаў.

— Дзіда-дзед правільна меркаваў: трэба быць адважным. Смерць не ручаінка — не пераскочыш. Але гэты закон пісаны толькі для баязліўцаў. Адважнаму і неба невысока, і мора неглыбокае. Дзіда-дзед, доўга не думаючы,

шахнуў-махнуў, скокнуў на ганчака, збіў яго з ног, а сам толькі свіснуў — ф-ф-ф'юіць! Як маланка бліснуў! Эге!

І зноў лататы! Што ні скокне — на сорак зайцаў у даўжыню. Дзіда-дзеду тады здавалася, што да самых воблакаў скача. А па ім стралец са стрэльбы шротам сыпле і так грыміць, аж зямля дрыжыць, аж лес стогне.

Раззлаваўся Дзіда-дзед на стральца: страляеш, дык грукні адразу ў лоб, і капут! А то... хочаш, каб я табе лоб пад самую рульку падставіў? На!

І Дзіда-дзед з імпэту і злосці кінуўся на стральца. Альба-альба! А можа, выратую табакерку... Гарачы быў наш Дзіда-дзед, светлай памяці! Гэта ж трэба з глуздоў з'ехаць, каб лезці з вушамі і вусамі ў разбойніцкія лапы! Эге!..

А ў небе Сарока, суседка белабокая, ляціць ды крычыць:

— Дурань касавокі, што ты робіш? Чаго ты лезеш, як мыш у саладуху?

— Маўчы, лапатуха! — крыкнуў Дзіда-дзед і скокнуў стральцу на грудзі...

Стрэльба грукнула-стукнула, стралец ухнуў і ахнуў і кінуўся вобземлю, а наш Дзіда-дзед стралой паімчаўся, куль-куль-куль, гуль-гуль-гуль — як віхор! Эге!

— Ой, малайчына наш Дзіда-дзед! — узрадаваліся ўнукі.

— А то як жа! — падтакваў дзед.— О-го-го! Кульгіцнуўся Дзіда-дзед пад корч, каб патыліцу пачухаць і тытуню панюхаць. Тыцнуў-мыцнуў рукой за пазуху — табакеркі няма. Тут Дзіда-дзед здранцвеў да таго, хоць жыўцом у магілу хавай. Жартачкі, такая табакерка прапала! Каб вам не зманіць — вось гэта самая табакерка...

— Гэта самая?

— Эге!

Дзед на хвіліну спыніўся, уволю нанюхаўся і пачхаўся і паехаў далей:

— А Дзіда-дзеду табакерка была даражэй за свае ўласныя вушы. Што рабіць? Няўжо ж прыйдзецца ў другі раз ставіць жыццё на кон? І прыйшлося! Дзіда-дзед выйшаў у чыстае поле шукаць табакерку. Чуе — стралец стогне, а сабака скавыча. Што за капэлю наладзілі? Зіркнуў ён правым вокам, зіркнуў левым — праўда! Яго шчырыя сябры зусім не жартуюць. Качаюцца па зямлі і стралец, і яго хлапец, гэта значыць ганчак. А стрэльба ляжыць воддаль.

Аказваецца, як Дзіда-дзед наскочыў на стральца, стрэльба бабухнула сама, разарвалася рулька, бо залішне пораху ўсыпаў стралец. Шрот папаў стральцу ў рот і ганчаку ў жывот.

Заспяваў салавей і ў Дзіда-дзедаўскім садзе.

Табакерку ён знайшоў у гэтых разбойнікаў пад самымі нагамі. Хацеў ім сыпнуць ад злосці тытуню ў вочы, але ў моры і кропля не лішняя — пашкадаваў тытунь. Вельмі ж ён быў смачны... Ад адной шчапоткі паўгадзіны чхалася. Дзіда-дзед нанюхаўся і чхаў тут жа на стральца і ганчака і зараз жа па... Але хопіць на сягоння. Пара, дзеткі, спаць. Заўтра раскажу вам пра нештачка такое страшнае... в-в-ву! Надта страшнае...

— Расказвай, дзядок, расказвай! — прасілі ўнукі.— Любім, калі страшна...

— Спаць! — строга сказаў дзед і патушыў лямпу.

У лесе пераклікаліся совы. З далёкай вёскі сюды даплыло спяванне пеўняў. Была поўнач. Над возерам дыміўся туман.

Дзеці доўга не маглі заснуць. А калі заснулі, усю ноч снілі свайго Дзіда-дзеда, паляўнічага, ганчака, табакерку. Яна ляжыць на лясной паляне і дзіўна расце. Вырасла ў сабачую будку, потым — у хату, а пасля — у палац. Залатыя зайцы на табакерцы-палацы сталі веліканамі. Веліканы-зайцы адарваліся ад сцен табакеркі і пайшлі вандраваць у свет. Яны нюхалі тытунь і чхалі так моцна, з такімі небывалымі грымотамі, ажна вёскі рассыпаліся ў кучы бярвенняў.

## ДУДКІ! НЕ ВЫЛЕЗЕШ З БУДКІ...

Назаўтра ўнукі цэлы дзень з нецярплівасцю чакалі вечара, калі дзед ім зноў будзе апавядаць пра Дзіда-дзеда. Увесь дзень дзед хадзіў пахмуры і скардзіўся на ламаніну ў касцях.

— Косці ломяць на дождж,— гаварыў ён.

Унукі не верылі.

— Як гэта можа быць, дзядулька? Глядзі, якое сонца!

Дзень быў пагодны. Сонца свяціла ярка. Было горача. Спявалі жаўранкі. Дзяцел стукаў дзюбай па асіне, нібы

бондар малатком па бочцы. Дзед тупаўся на дрывотніку з сякерай у руках. Дзед ніколі ў жыцці не лячыўся ў дактароў, не ўжываў ніякіх лякарстваў, а калі адчуваў сябе кепска — хадзіў на дрывотнік і длубаў сякерай. Ён гаварыў, што ад працы яму становіцца добра; кроў цяплее, дыханне лепшае, рукі і ногі мацнеюць і галава яснее не менш, чымся ад тытуню.

Дзед часта паглядаў на неба, ківаў галавой і прарочыў:

— Сёння будзе дождж!

Пад вечар неба засланілася шэрымі хмарамі. Яны прыдушылі сонца, нібы назаўсёды. Яны хацелі на векі вечныя сагнаць сонца з неба — вельмі злыя былі хмары. Лес наліўся сінім змрокам. Вяршыны дрэў задрыжалі ад страху. Птушкі схаваліся так хутка, нібы ва ўсім былі вінаваты яны. Кудысьці зніклі камары і мухі, якія сёння кусаліся так драпежна, як злыя сабакі.

З пацямнеўшага неба пачалі даіць на зямлю тысячы кароў. Пасыпаліся кроплі, пасля чаго пасеяліся з густога аграмаднага рэшата тоненькія вадзяныя ніткі. Урэшце дождж засцябаў такімі мокрымі пугамі — хоць ты гвалту крычы!

Дождж ліў цэлы вечар.

На вячэру маці згатавала капустку з бульбачкай, з маслам, са смятанкай. Было так смачна, што малыя лыжкі аблізвалі.

Маці пазірала на дзяцей шчаслівымі вачыма. Яна радавалася, што дзеці маюць чаго есці. Бацька вастрыў на тачыле сякеру, а дзед сядзеў задуменны. Дождж біў у дах, як у бубен. Дзед любіў думаць пад гэту музыку.

Як толькі кончылася вячэра, дзед сумленна прыступіў да працягу Дзіда-дзедаўскай гісторыі. Канешне, ён не забыўся перад гэтым панюхацца тытуню ўволю і начыхацца аж да сёмага пакалення наперад.

— Эге! Дзе ж я там спыніўся, мае зайчаняткі?

— Як наш Дзіда-дзед выратаваўся ад стральца і сабакі,— сказаў унук.

— І як шрот папаў стральцу ў рот і сабаку ў жывот,— успомніла ўнучка.

— Эге! — прамовіў дзед.— Наш Дзіда-дзед спакойненька паваляўся дахаты. Шугае сабе хмызнячком, аж чуе: блізка сучкі трашчаць. Дзіда-дзед пастараніўся. Зірнуў у адзін бок, у другі — бачыць: каса блішчыць. На сонцы яна

так зіхаціцца, што вочы слепіць. «Што за касец? — думае Дзіда-дзед.— Паплавы скошаны. Унь стагі стаяць. Хіба атаву косіць?»

Не бачыць Дзіда-дзед касца, кусты засланяюць. І відзець касца не хоча. Яшчэ па неасцярожнасці вуха адцяпне. Лепш не шапкавацца з ім, з касцом. Паверне Дзіда-дзед направа — і каса рухаецца да яго направа. Паверне Дзіда-дзед налева — і каса рухаецца да яго налева.

Значыць, касец бачыць яго і пнецца сюды паміж кустоў. У Дзіда-дзеда сэрца задрыжала, нібы на нітачцы вісела. Ён спудзіўся толькі на хвіліну. Хацеў ён кінуцца на касца, як раней на стральца. Але пры такой блізкасці каса горш за стрэльбу — зарэжа і дзякуй не скажа. А што тады будзе з дарагой табакеркай?

Не паспеў ён азірнуцца — ажна касец перад ім — нос у нос...

Дзіўны касец. Ахутаны ўвесь у чорную хустку, як баба, а спаміж хусткі толькі доўгі нос тырчыць, прыгнуты, завостраны, нібы дзюба ў каршуна. Дзіда-дзед падумаў: «З гэтай цёткай я не спраўлюся. Яе перахітрыць нельга. Не па маёй лапцы рукавіца».

— Хто ж гэта быў? Хто? — не выцерпелі ўнукі.

— Хто? Гэта была сама Смерць, каб вам не зманіць,— тлумачыў дзед.— Наш Дзіда-дзед гэта адразу змікіціў. У тыя даўнія гады Смерць хадзіла па зямлі зусім не тоячыся.

«Прапала маё жыццейка,— падумаў Дзіда-дзед.— Дай хоць перад канцом сваім нанюхаюся тытуню. На тым свеце, можа, і не дадуць».

Дастаў ён табакерку, нюхае і чхае, чхае і нюхае. А Смерць да яго кажа:

— Добры дзень, дзядзенька!

— Добры дзень, цётанька! — адказвае Дзіда-дзед, здымае шапку і нізка-нізка кланяецца. А ў самога каленкі дрыж-дрыж... Яму і гаварыць цяжка, і ад страху, і ад тытуню. Ён бесперапынку чхае.

Смерць зноў звяртаецца да Дзіда-дзеда:

— Які слаўны сёння дзянёк! Га?

Дзіда-дзед трымае фасон і адказвае ёй у тон:

— Вельмі, апчхі, харошы, апчхі, дзянёк! Апчхі, апчхі, апчхі!

— Дай,— кажа Смерць,— тытуню панюхаць.

Дзіда-дзед падсунуў табакерку.

— Нюхай! Калі ласачка... Апчхі, апчхі! — а ў самога аж дух заняло.

Высунула Смерць з-пад чорнай хусціны тонкія пальцы, лезе ў табакерку ды ніяк тытуню дастаць не можа. Носам, як той бусел, цэліцца ў адчыненую табакерку — не трапляе.

Вінаваты быў зноў жа Дзіда-дзед, няхай яму будзе пуховай падушачкай зямелька родная. Рука з табакеркай у яго ходырам хадзіла ад страху.

Тады Дзіда-дзед кажа:

— Лезь, ягадка мая, у табакерачку! Нюхай, нюхай, на міласць, колькі ўлезе! Я не скупы, свайго дабра не шкадую. А дома ў мяне аж цэлы куфар тытуню. Адсыплю на памяць. А вясной мультанку пасаджу і на тваю долю... Пампушы пад страхой павешу. А потым спірытусам апырскаю... мядком аздоблю. Навучу цябе церці лісты ў пылок... Эх, будзе тытунёк!

Дзіда-дзед хацеў рознымі хітрыкамі адцягнуць сваё жыццейка, як кароўку за рогі, яшчэ на гадок,— і падлабуньваўся салодкімі слоўцамі. Як топішся, дык за цюцькін хвост хопішся. Эге! І што вы, мае міленькія, скажаце? Смерць з касою драбнела, драбнела, драбнела... Зрабілася малюсенькая, як павук, а каса — як павуцінка, ускочыла ў табакерку, нюхае і хваліць тытунь на ўсе лады:

— Ах, які смачны! Чых-чых-чых! Спірытус, а не тытунь — чых-чых-чых! Золата, а не тытунь — чых-чых-чых!

— Нюхай, цётухна, нюхай! — гасцінна просіць Дзіда-дзед.— Не спяшайся, цётухна! Трэба нюхаць павольненька. Тады яшчэ смачней...

Хітруном быў мой Дзіда-дзед. Улегцы яго не возьмеш — о-го-го! У яго галаве стрэльнула адразу адважная думка-стрэльбачка. Доўга не думаючы, ён табакерку трахтарарах і зачыніў яе. Стоп, цётачка Аўгіня. Цяпер маё жыццё не загіне.

Заляскатала, залапатала, забалбатала Смерць у зачыненай табакерцы, як тая мыш, што папала ў глыбокі гладыш.

— Не жартуй, дзядзька! Адчыні вароты,— зачмыхала яна спалохана.

А Дзіда-дзед на гэта:

— Зусім не жартую!

А Смерць да яго:

— Як загневаюся, горш будзе.

Дзіда-дзед засмяяўся:

— Гневайся не гневайся — мне ўсё роўна.

— Дабром прашу, выпусці...

— Дудкі! Не выпушчу з будкі...

Тады Смерць залямантавала і ўзмалілася жаласлівым галаском:

— Выпусці, родненькі, выпусці, родненькі...

Дзіда-дзед зазлаваўся:

— Які я табе родненькі? Мы з табой пажаніліся, ці што?

Горка плача Смерць:

— Выпусці, паночку... Выпусці, паночку...

Яшчэ больш загневаўся Дзіда-дзед:

— Які я табе па-но-чак? Маёнтак у мяне, ці што? За ціввуна цябе наняў, ахмістрыняй ты ў мяне, ці што? З бедных людзей здзекуюся, ці што?

А Смерць просіць:

— Злітуйся, злітуйся... Будзь сябрам...

Аж нагой тупануў Дзіда-дзед:

— Які я табе сябар? Не магу быць сябрам такой гадзіны...

— У мяне так шмат працы,— галосіць Смерць.

— Прападзі ты са сваей працай! — закрычаў Дзіда-дзед на ўвесь голас.— Разбойніца! Бязлітасніца! Злюка! Галаварэзка! Валацуга!

Дзіда-дзед сыпаў лаянкамі не менш гадзіны, аж пакуль язык забалеў і голас асіп. Смерць у табакерцы прытаілася і цярпліва маўчала. Пакрысе Дзіда-дзед адышоў ад злосці. Яму раптам так захацелася тытуню панюхаць, так захацелася — хоць самому лезці носам у табакерку... Ён, вечнай памяці, узяўся за табакерку, бо на хвіліну забыўся, хто ў ёй сядзіць. Па натуры ён быў зусім не злы.

Дзед спыніў апавяданне і з хітрай усмешкай зірнуў на ўнукаў.

— Ой,— спалохана ўскрыкнулі зайчанёнак і зайчанятка.— Ой, Дзіда-дзед выпусціў Смерць з табакеркі!

Дзед засмяяўся, панюхаўся з табакеркі і сказаў:

— За каго вы мяне маеце? Я ж гэтага не казаў. Дзіда-дзед ледзь не выпусціў, але ў пору ачухаўся ды ўспомніў, на якім ён свеце. Ого, Дзіда-дзед! Такі разумнік... Ён у тую хвіліну вяровачкай моцна аплёў табакерку, каб раз назаўсёды зарубіць сабе на носе аб тым, хто ў ёй сядзіць. На хвіліну Смерць нават абрадавалася, думала, што Дзіда-

дзед завароніцца і незнарокам выпусціць птушачку з клеткі, калі яму захочацца тытуню панюхаць. Потым хітрая Смерць адчула, што ёй тут не хаханькі. «Дам яму хапу ў лапу»,— падумала яна. Голас яе зрабіўся салодкі, як мёд:

— Давай, шаноўны Заяц Зайцавіч, найвышэйшае правасхадзіцельства, не будзем больш сварыцца. Калі ў гаспадарцы сварацца, у гаршку трасца варыцца. Зробім такую ўмову. Калі выпусціш мяне на волю — я на векі вечныя зайцаў чапаць не буду. Тваіго рода-племені ніякія кулі не возьмуць, ніякія стральцы і ганчакі нічога з зайцамі не зробяць. Згодзен? Я ў палоне ў тваёй табакерцы, а твая табакерка — у палоне ў мяне, і ты з яе не можаш нюхаць. Цяпер жа твая табакерка зусім не табакерка, а немаведама што... Выпусці мяне на волю, і я не буду чапаць тваіх.

— Так табе і паверу,— артачыўся Дзіда-дзед.— Дурня знайшла!

І Дзіда-дзед пачуў урачысты голас палонніцы:

— Клянуся сваёй касой!

У гэты час Дзіда-дзеда нешта смактала ўнутры, нібы п'яўка. З гэтай табакеркі і тытунь яму здаваўся смачнейшы. Аднак ён сказаў:

— Дудкі! Не выпушчу з будкі.

— Ведаеш што, яснавяльможны мой,— пачуў ён з табакеркі найдаражэйшы на свеце галасок.— Апрача таго, што я тваіго роду ніколі чапаць не буду, дам табе яшчэ адзін багаты падарунак, клянуся касой...

— А які? — зацікавіўся Дзіда-дзед.

— Дарую табе сто чалавечых жыццяў. Выбірай каго хочаш. Прытварайся доктарам. Захварэе які-небудзь кароль, граф, магнат, мільянер і калі ўжо ніякія дактары яму не памогуць,— ты да яго з'явішся і скажаш: «Аддасі мне палавіну свайго багацця, і я выратую цябе ад смерці». Ты мне толькі табакеркай махнеш, вокам міргнеш, і я таго чалавека чапаць не буду. Разбагацееш, як ніхто на свеце, клянуся касой! Ну як? Згодзен?

— Дудкі! — сказаў Дзіда-дзед.— Не выпушчу з будкі! Не толькі сто чалавечых жыццяў — тысячу і мільён дасі! Лепш маўчы, рыбка ты мая залатая. Колькі ні танцуй казачка — не адарвешся ад майго кручка. Ведай, стары цвіркунок, свой новы шасток! І без тваёй сардэчнай ласкі буду мець цяпер усё, што толькі захачу. Але мне патрэбна толькі адно — твая няволя, твае пакуты, твае

слёзы. Каб сабраць усе слёзы, пралітыя тваёй касой, дык і ў іх можна выкупаць усю зямлю, нібы дзіцё ў начоўках з вадой. Крывёй, пралітай табою, можна ўсё неба афарбаваць. Праклёнамі, што на цябе сыпаліся спакон вякоў, можна пагасіць сонца, месяц і зоркі. З магільных помнікаў на ўсім свеце можна пабудаваць шмат вялізных гарадоў. Палічы — колькі загінула на свеце адных толькі зайцаў. З прачытанняў па нябожчыках, з галашэнняў матак, дзяцей, бацькоў, братоў і сясцёр, каб іх льга было сабраць у адно,— атруціўся б увесь свет...

Дзіда-дзед крыху памаўчаў, каб адсапнуцца. Потым загаварыў далей:

— Не! Не! Не! Хоць ты мяне госпадам богам сваім назаві, не выпушчу на волю! Табакерка? Зраблю табакерку з нашай слаўнай бяросты. Буду нюхаць тытунь, і нічагусенькі! А ты будзеш у мяне за пазухай сядзець і чхаць мне на весялосць. На дно мора я цябе не кіну, бо рыба пагрызе табакерку, і ты выскачыш. На высокую гару я цябе не панясу, бо птушкі раздзяўбуць табакерку, і ты выскачыш. У зямлі я цябе не пахаваю, бо ржа праб'е сценкі табакеркі, і ты выскачыш. Буду трымаць цябе ў табакерцы за сваёй пазухай на векі вечныя, і нічога са мной зрабіць не зможаш... Чуеш?

— Чую,— сказала Смерць і заскрыгатала зубамі.

— Можаш скрыгатаць зубамі колькі хочаш, не баюся цябе! Не баюся! Не баюся! — Голас Дзіда-дзеда быў радасны як ніколі.— Абмажу сценкі табакеркі такім маслам, якое не дасць іржавець серабру. А зверху абалью табакерку гарачым шклом. Потым пайду да каваля, і ён закуе табакерку ў моцную скрыначку са сталі.

Радасць Дзіда-дзеда расла з кожным словам.

— Ты нават не пачуеш, што дзеецца на свеце. Ніякія гукі зямлі да твайго слуху не дойдуць. Ты будзеш жадаць, каб табе надышоў канец, але ён не надыдзе. Ты захочаш сабе самой галаву адкусіць і не зможаш. Ты будзеш пакутаваць горш за тыя мільярды мільярдаў жывых істот, якіх ты сцёрла ў пылок. Бо яны памерлі, а ты будзеш жыць вечна, нюхаць мой тытунь і чхаць на сябе...

На гэта палонніца ў табакерцы адказала тоненькім, дзіцячым, жаласлівым плачам: «кв-в-в-в... ву-у-у-у... ва-а-а-а...» Нібы заходзілася і захлынулася ў плачы маленечкае, як зайцава вока, дзіцё. Яе плач быў такі жа-а-аласны.

Раптам дзед спыніў апавяданне і крыкнуў:

— Што вы робіце, мае маленькія зайчаняткі?

— Пла-пла-плачам,— усхліпвалі яны і ад ціхага ўсхліпвання расплакаліся ўголас...

Занепакоілася маці Зайчыха і Заяц-бацька:

— Што з вамі, мае вушастыя плотачкі? Што з вамі, мае пушыстыя бульбачкі?

— Жаласць бярэ... Гэткія пакуты Дзіда-дзед наладзіў у табакерцы бедненькай...

— Якой бедненькай?

— Бедненькай Смерці...

Выціраючы хустачкай вочы малым, вялікія зарагаталі:

— Го-го-го! Якія вы яшчэ дурненькія...

— Ха-ха-ха! Не можна быць такімі добрымі...

— Хі-хі-хі! Якія вы просценькія і міленькія...

Дзеду стала крыху няёмка, што сваім стараннем давёў малых да плачу, і пачаў апраўдваць і сябе і Дзіда-дзеда:

— Наш Дзіда-дзед таксама крыху збянтэжыўся, як пачуў плач палонніцы. Сэрца сталага, загартаванага Зайца таксама ледзь не абамлела. У Дзіда-дзеда скацілася на вус адна сляза, бо Смерць добра ўмела расчульваць жывых істот плачам. У гэтай справе яна была вялікім ведуном. За многа тысяч год страшных забойстваў яна наслухалася разнастайнага плачу і ведала ў гэтым вялікі толк. Плач быў яе тысячагадовай скрыпкай, на якой яна наігрывала сваёй касой, як смычком. Плач быў ёй адзінай узнагародай за сваю працу сусветнага ката, знішчальніка жыцця.

Слухаючы плач, яна млела ад шалёнага шчасця. Яна сама налаўчылася выдаваць з сябе розныя пералівы плачу і часам для прыемнасці паплаквала... Нібы грала на свісцёлцы.

Гэтак плачуць часам наўмысна некаторыя зайчыхі, калі хочуць разжалабіць тупавухіх, як яны кажуць, мужоў. Вось гэтым самым спосабам спрабавала Дзіда-дзедаўская палонніца ўздзейнічаць на яго добрае сэрца. Дзіда-дзед ледзь не паддаўся, аднак вытрымаў апошні экзамен.

Палонніца адчула, што ўсё для яе скончана. Яна змоўкла — змоўкла, як усе ахвяры яе вострай касы. Ад сваіх ахвяр яна навучылася і маўчаць. Яна змоўкла, нібы памерла. Такая маўклівасць была страшней за плач. Небяспечная маўклівасць. Такой бывае маўклівасць драпеж-

ніка-звера, гатовага ў кожную хвіліну скокнуць на беднага Зайца.

Маўклівасць была цяпер адзінай зброяй Дзіда-дзедавай палонніцы. Яна рыхтавалася маўчаць тысячагоддзямі, каб выждаць долю хвіліны, калі яе нечаканы ўладар забудзецца і... адчыніць табакерку. Вось тады...

І палонніца прыдумвала страшныя кары Дзіда-дзеду. Яна з ім расплаціцца так, як умее. Бедны будзе Дзіда-дзед, калі адчыніць табакерку — ой, бедны...

Пры гэтых словах дзед палез рукой за пазуху па табакерку. Унукі выпучылі вочы ад страху, выхапілі табакерку з яго старэчых рук і крыкнулі:

— Выпусціш, дзядок...

— Выпусціш... Выпусціш...

— Каго?

— Смерць!

— Ачмурэлі, дзеткі, ці што?

— Забыліся! Забыліся! — апраўдваліся ўнукі.— Мы думалі, што і цяпер Смерць сядзіць у гэтай табакерцы!

Па ўсёй хаціне зазвінеў дзіцячы смех.

Дзед усміхнуўся і слабым голасам сказаў:

— Яшчэ вы, дзеткі, не выраслі са сваіх кашулек... Шмат чаму верыце... Эге!

Дзед задумаўся. Кожная часціна цела ў яго дрыжала. Здавалася, што яму тысяча год. У яго не было сілы і на тое, каб выцягнуць з табакеркі шчапотку тытуню. Бацькі малых Зайчанятак пад рукі павялі старога ў яго каморку і палажылі спаць. Пайшла спаць уся сям'я.

Уночы зноў распагодзілася. Спыніўся дождж. Праяснела неба, і ў зайцову хацінку ўзіраўся праз акно зацікаўлены месяц. Што ён бачыў? А вось што:

Дзед, ледзь жывы, трымаўся рукамі за сцяну і рухаўся да стала. Ён быў у доўгай зрэбнай кашулі. Дабраўшыся да стала, ён адчыніў табакерку і нанюхаўся з такой прагнасцю, нібы цэлы год не нюхаў тытуню. Пачулася самая прыемная для яго музыка:

— Апчхі! Апчхі! Апчхі!

Хатнія прачнуліся.

— Што з табой, тата?

— Я ж ледзь не памёр,— сказаў дзед.— Вы не здагадаліся падсунуць мне перад сном табакерку. Ледзь дабраўся да яе.

Дзед пайшоў у сваю каморку крокам юнака.

## АД НЯНАВІСЦІ ДА ЛЮБВІ

Пасля дажджу была цёплая раніца.

Гэту раніцу дзед назваў «грыбной», калі раненька-рана ён і ўнукі пайшлі з кошыкамі ў руках у грыбы.

Неба было цёмна-сіняе. Лёгкі ветрык забаўляўся вершалінамі лесу, нібы дзіцячай цацкай. Ён кідаў у зайцаў спелыя шышкі. Заяц-дзед і Зайцы-ўнукі ўздрыгвалі. Ім гэты жарт не падабаўся. Яны асцярожнымі крокамі ішлі вузенькай сцяжынкай у грыбнік. «Грыбнікам» дзед называў малады хвойнік ля касагора. Мох там заўсёды быў сухі. Там нараджаліся найлепшыя баравікі ва ўсёй ваколіцы. Ісці на грыбнік трэба было касагорам, з якога добра відаць быў усход сонца.

Спявалі дразды. З нары выйшаў вожык і задзіраў лычок у неба. Чырвоны круг сонца ўзнімаўся з глыбіні возера. Яно расло даволі хутка, нібы з вады яго падштурхоўвалі акуні і пloткі. Увесь касагор паружавеў. Шурпатыя скуры хваін засвяціліся. Можна было падумаць, што яны пустыя і празрыстыя і ўнутры запаліліся раптам свечкі. Лычок вожыка ад сонечнага прывітання ўспыхваў залатым дукатам. Свежа было ў паветры. Усё выглядала так молада і ярка, нібы нарадзілася першая на свеце раніца. І вожык — самы першы на свеце. І зайцы — самыя першыя на свеце. І баравічкі — самыя першыя...

Дзед пазіраў навакол яснымі, захопленымі вачыма, выкупанымі ў маладой раніцы. Унукі так разгуляліся, што дзеду прыйшлося стрымаць іх малады імпэт. Ён глядзеў на малых добрымі вачыма і сказаў строгім голасам:

— Ведайце, дзеткі, што гэта лес, а не тэатр. Яшчэ можам натрапіць на гаспадара.

Дзед меў на ўвазе старога ваўка, свайго равесніка.

Баравікоў назбіралі хутка. Малыя бачылі іх толькі тады, калі яны ўжо ляжалі ў кошыках. Дзед гаварыў унукам, што ў такую ясную раніцу баравікі самі лезуць у кошыкі. Толькі трэба адварочвацца. Малыя адварочваліся, і дзед ім кідаў у кошыкі поўныя жмені баравікоў.

Калі кошыкі ўжо былі поўныя, дзед панюхаўся тытуню і хацеў паласавацца салодкім чханнём. Ужо цела яго напружылася, вочы прыжмурыліся, ноздры расшырыліся, рот разявіўся. Дзед ужо быў гатоў даць волю сваім лепшым пачуццям праз чханнё. Але раптам... Вочы яго сталі строгія і трывожныя. Ён пачаў з усіх сіл стрымліваць сябе. Ён пачаў давіцца так, як бы глынуў костку. Грудзі

яго хадыром хадзілі. Пальцамі ён даставаў нябесны пылок тытуню з ноздраў і прыдушыў чханнё тады, калі яно гатова было пачынаць сваю салодкую страляніну.

Лягчэй было, здаецца, стрымліваць плынь шпаркага ручая, чымся чханнё дзеда, але стары аказаўся здольным на такі зверхгераічны ўчынак. Унукі глядзелі на яго з дзівам і ледзь не зарагаталі, бо ў тую хвіліну дзед быў вельмі смешны. Дзед хутка і моўчкі павярнуў іх тварамі ў другі бок, і вочы малых зрабіліся круглыя і бліскучыя, як шкляныя гузікі.

Дзед і ўнукі застылі на месцы за карчом-вываратнем. Іх позіркі таропіліся ў адзін пункт на вяршыне ўзгорка і страх смерці цямнеў у іх вачах.

На самым хрыбце ўзгорка, які падпірае неба, налітае сонечным мёдам, ішоў воўк.

Гэта быў лясны гаспадар, равеснік дзеда.

На фоне неба постаць ваўка вызначалася чотка, як малюнак на паперы. Воўк быў такі згаладалы і худы, што можна было пералічыць усе яго рабрыны. Адзін клык ён ужо даўно згубіў. Ніжняя губа вісела, як шматка. Месцамі воўчая футра так выліняла, нібы яе пагрызла моль. Ва ўсім целе ляснога гаспадара адчувалася небывалая млявасць. Можна было падазраваць, што яго нядаўна адлупцавалі сукаватым кіем, як беспрытульнага сабаку.

Аднак яны баяліся яго, бо воўк астаецца ваўком, а зайцы — зайцамі. Праз некалькі хвілін дзед і ўнукі лічылі грыбы. Пры гэтым стары з жалобай сказаў:

— Абодва мы з ім, з гаспадаром бора, старыя дзяды. Пара было нам памірыцца і частаваць адзін аднаго з табакерак. Але дзе там! Не хоча воўк з зайцам сябраваць — вольнаму воля. Ведаеце, што я вам скажу, дзеткі мае?

— А што, дзядок?

— Сёння ў лазню пайду. Пасля лазні буду доўга спаць. Таму хачу тут, ля гэтага карча, апавядаць чарговы раздзел з гісторыі нашага Дзіда-дзеда. Эге! Толькі вы, малыя, слухайце вушкамі, а вочкамі глядзіце направа і налева, каб нечакана стары воўк зноў не трапіў сюды. Бо калі возьме за вушы хоць старымі зубамі,— усё роўна не выпусціць. Хто ж тады нашы грыбы есці будзе?

Дзед працягваў спыненае ўчора перад сном апавяданне:

— Дзіда-дзед нёс дахаты табакерку з палонніцай. За пазухай на голых грудзях халоднае серабро табакеркі пяк-

ло яго агнём. Ён прыціскаў рукой маленькую скрыначку, за якую любы кароль аддаў бы ўсё сваё каралеўства. За гэту скрыначку народы гатовы былі насіць на руках Дзіда-дзеда, як героя, як вызваліцеля ўсяго свету ад тысячагадовай бойні. Ён, Дзіда-дзед, ажыццявіў нясмелую мару ўсяго жывога на зямлі: запалаціў адвечную грабежніцу жыцця, выцер слёзы з усіх вачэй, знішчыў страх небыцця.

Адчуванне Дзіда-дзеда было дзіўнае. Думкі ў галаве пераскоквалі адна праз адну, як вырай птушак, які спяшаецца ў вечнае лета. Яму здавалася, што ўсё гэта не ява, не сапраўднасць, а сон, казка. Пакуль што ён усё гэта будзе трымаць у вялікім сакрэце. Нават сваім родным, вечна напалоханым зайчыкам не раскажа.

Дзіда-дзед аглядаўся навокал сябе — на возера, на лес, на неба, на паплавы і ўзрадаваўся: «Мне ж цяпер не трэба баяцца нікога і нічога. Раптам пачуў здалёк грукат фурманкі і крык чалавека на каня: «Но-о-о! Но-о-о!» Дзіда-дзед па старой прывычцы трывожна навастрыў вушы, але тут жа схамянуўся і зарагатаў на ўвесь голас:

— Го-го-го-о-о! — і закрычаў чалавеку, які не чуў яго: — Ці ведаеш ты, чалавеча, якім ты стаў шчаслівым? Калі едзеш з хворым дзіцём да доктара — вярніся дахаты! Доктар ужо нікому не патрэбны. Няма Смерці! Няма Смерці! Няма!

Ён глядзіць на сонца, на птушак у небе, і ў яго галаве тоўпіцца вялікая на ўвесь свет радасць... «Заўсёды, заўсёды буду на ўсё гэта глядзець... На месцы ранейшых магільнікаў цяпер зацвіце яблыня». Ён пачаў падскокваць, танцаваць, кружыцца, як уюн. Свет стаў яму цесны ад радасці. Ён заспяваў:

І піць будзем,
І гуляць будзем.
У табакерцы Смерць —
Вечна жыць будзем!

Раптам ён спыніў песню і пачаў узірацца ў бярэзнік. Вочы яго напоўніліся роспаччу і расчараваннем. Ён акамянеў. Вось што Дзіда-дзед, вечная памяць яму, угледзеў.

Па сцежцы з усіх сіл імчыцца воўк — малады, аграмадны, магутны. Яго ногі спружыністыя, пругкія і лёгкія на скаку. Ён знекуль цягне авечку... Ці ж так? Не! Не! Не! Дзіда-дзед пачаў супакойвацца. Беласнежная авечка ляжыць на воўчай спіне, гойдаецца, як на пярыне, і зусім

не баіцца. Вочы яе лагодныя. Яна не бляе, а пазірае з цікавасцю на белагрудыя бярозкі, колеру яе шэрсці.

Вочы ў ваўка, спачатку злыя, з драпежніцкім жоўтым бляскам, пакрысе робяцца добрымі, спакойнымі, бадай што такімі, як у авечкі. Нібы нутро звера пачынае астываць ад таго страшнага пекла і смагі ў крыві, якое паліла яго самога, яго бацькоў і дзядоў. Воўк змяншае свой гон, пакуль зусім не спыняецца. Крыху прыхіляе пярэднія ногі, і з яго спіны павольна, нібы пані з карэты, злазіць авечка.

І авечка і воўк пачынаюць з цікавасцю абнюхваць адно аднаго. У іх выгляд брата і сястры, якія дагэтуль шмат год не бачыліся. Яны ліжуцца, кладуць галовы адно аднаму на карак з нязведанай дагэтуль пяшчотай. У ваўка пачынаюць нараджацца новыя, незнаёмыя яму самому гукі: ён варкуе, як голуб.

Доўга паглядаюць яны адно на аднаго, пакуль авечка пачынае мірна шчыпаць траву. Воўк доўга нюхае траву, ліжа языком, дзівіцца нечаму ледзь не з чалавечым выразам у вачах і постаці, круціць галавой і кідаецца з наскокам на траву, як на падатлівае горла авечкі. Пару разоў ён выплюнуў траву, прысеў на заднія лапы і давай ірваць траву пярэднімі лапамі і зубамі — і глытаць камкамі, нібы мяса. Пакруціў галавой, шпарка ўскочыў і схапіў авечку за гарляк.

Авечка ўслужліва падставіла ваўку горла, нібы хацела сказаць: «Калі табе прыемна, рэж мяне...» Воўк з агідай адскочыў ад авечкі, прыпаў бокам да бярозы і завыў. Выццё павольна перайшло ў сабачы радасны візгат. Воўк высока падскочыў, нібы хтосьці, мацнейшы за яго, падкінуў яго ўгару і пачаў кружыцца на адным месцы ў радасным вар'яцтве. Сам ён захапіўся сваім танцам і пачаў пабрыкваць. Пры гэтым хвост скручваўся ў абаранак і зноў раскручваўся.

Воўк гулліва падсунуўся да авечкі і давай ілбом бадаць яе ў бок. Авечка строга патупала нагой, грэбліва на яго зірнула і накіравалася назад у вёску. Воўк, апусціўшы галаву, як вінаваты, ціха патрусіў за ёю.

Дзіда-дзед з захапленнем назіраў за ваўком і авечкай. Што гэта? Мір на зямлі? Ці ж так? Што ж... без ветра і дуб не шуміць. Калі Зміцер хіцер, дык і Матрона не варона. Паспрабую і я!

Доўга не думаючы, Дзіда-дзед скокнуў ваўку на спіну. Воўк задрыжаў, спудзіўся, павярнуў галаву і лізнуў Дзіда-дзеда ў калена. Дзіда-дзед дастаў з кішэні доўгую драцяную вяровачку, накінуў на галаву ваўка, як аброць, і пакіраваў ваўка ў бярэзнік. Вазіў я цябе сваімі касцьмі, павязі ж ты мяне хоць на спіне! Ты ж, Мікітка, не хвор...

Воўк паслухмяна павярнуўся і патрусіў дробным крокам.

Першы раз у жыцці Дзіда-дзед, каб яму лёгка ікалася на тым свеце, зрабіўся казаком — на ваўку конна паехаў. Стукнуў ён пару разоў пяткамі, нібы шпорамі, ваўка ў бакі — і воўк памчаўся па лясной сцяжынцы. Дзіда-дзед радаваўся ды толькі вусамі вадзіў направа і налева.

Тым часам вядомая на ўсю ваколіцу пляткарка і зводаятка Сарока-белабока мо ў дзесяты раз звоніць ва ўсе сарочыя званы і трубіць ва ўсе сарочыя трубы:

...Калі Смерць падышла да Зайца, ён вельмі спалохаўся. Гэта ж на ўсім свеце вядома баязлівасць зайцоў. Аб гэтым людзі ў сваіх кнігах друкуюць. Заяц глядзіць на Смерць, дрыжыць і не ведае, што рабіць. Я тады падскочыла, вырвала ў Зайца табакерку, адчыніла яе і кажу да Смерці: «Нюхай, матулька, нюхай, цётачка! Нюхай, золатца! Нюхай, ягадка! Нюхай, карміцелька наша, абараніцелька наша!» Яна, Смерць, прыгнула нос да табакеркі, а я, доўга не чакаючы, кульганула яе ў табакерку і хлоп табакерку на ўсе замочкі! Я, мае родныя, павесіла на табакерцы замок з пуд. «Не вылезеш, гадаўка, кажу. Сядзі і не свавольнічай, кажу. Тытунь, кажу, нюхай і паганыя лыткі свае чухай!» Каб у мяне крыллі адваліліся, калі не так! Каб мне раса вочы выела, калі не так! А заяц зайцам — баязлівы і хітры — прыстаў да мяне самой: «Аддай табакерку!» Яго ўласная, кажа, табакерка! І давай бэсціць мяне на чым свет стаіць. «Ты, кажа, такая, ты сякая, ты і гэткая!» Аж у мяне вушы вянулі ад яго брыдкіх слоў. Я зазлавалася ды тыцнула яму табакеркай у зубы. «Нюхай, кажу, калі твая табакерка!» Ён — табакерку за пазуху ды нават не падзякаваў... Наадварот — вылаяў. «Шышкі, кажа, глытай і смалой запівай!»

— Едзе сабе Дзіда-дзед на ваўку, слухае, як Сарока меле языком, і смяецца. Бяда яму, калі Сарока выдумляе хлусню. На тое ж Сарока! Ці ж разумнаму Дзіда-дзеду адгукацца на яе брахню? У разумнага вочы і на патыліцы

сядзяць. Ён ведае ўчарашні дзень, ён без акуляраў бачыць і заўтрашні.

Дзіда-дзед разумеў, што Сарока Сарокай астанецца, хоць яна цяпер і неўміручая. Каб увекавечыць яе асабіста, ён і не стараўся б пасадзіць Смерць у табакерку. Эге!

А тым часам у лесе такая радасць, нібы ўсе толькі што выратаваліся ад страшнага пагрому, які цягнуўся з тых далёкіх часоў, як свет стаіць на сваіх уласных ножках.

Птушкі спявалі як ніколі. А якія птушкі! Ранейшыя лютыя між сабой ворагі. Каршуны і вераб'і, арлы, галубкі, сокалы, вароны, крумкачы, дразды, дзятлы, буслы, плісачкі, сініцы, зяблікі, удоды, зязюлі, качкі, селязні і многія-многія іншыя розных пappend і плямён.

Навокал іх кружацца мухі, пчолы, авадні, осы, матылькі, жукі і жучкі. Арол пасадзіў сабе на магутную спіну статак кволых гусянят ды вандруе, лунае з імі над лесам асцярожненька, каб яны не зваліліся ўніз. І не бяда, калі зваляцца, бо не заб'юцца.

Муха вучыцца ў павука ткаць. Ці ж яна хоча стаць ткачыхай?

Смерць запалонена. Усе жывыя істоты цяпер неўміручыя. Як жа ім не радавацца ды не гуляць?

На лісіцы — рыжай і пушыстай — сядзіць курыца і весела кудахча. А пад лісіцай грэецца кучка куранятак. Лісіца круціць і верць хвастом ва ўсе бакі і пяшчотнымі матчынымі вачыма паглядае на куранятак. На галаве гэтай самай лісіцы стаіць певень і спявае на ўвесь лес:

Кукарэку, табакерка!
Смерць сядзіць у табакерцы!
Кукарэку, няма смерці!
Радасць, радасць на ўсім свеце!
Кукарэку! Кукарэку!

Дзіўнае стада ідзе лясной дарогай: мядзведзі, ваўкі, барсукі, зайцы, расамахі, авечкі, каровы, быкі, свінні, коні, касулі, ласі, дзікія кабаны ды многія-многія іншыя — усіх не перакажаш — язык намазоліш.

Галасы і гукі ўсіх гэтых жывёл і звяроў — на першы слых разнастайныя, паводле свайго аднолькавага радаснага пачуцця, вельмі падобныя адны да адных. Здаецца, што гэта на розных інструментах граюць адзін і той самы радасны марш.

Якія ў іх цудоўныя вочы! Нібы хтосьці дзіўнай хустачкай выцер ім усім вочы — не стала драпежніцкага бляску ў адных і выразу страху ў другіх. Якія постаці.

Усе яны выражаюць лагоду, дабрату, радасць і любоў, уважлівасць і далікатнасць.

За гэтым дзівосным стадам з хварасцінай у руках павольна ступае маленькая, босенькая, сінявокая, белавалосая дзяўчынка-пастушка. У яе статку была адна кароўка, дзве авечкі і пара рабенькіх парасятак. Пастушка нават не паспела агледзецца, як вырасла яе стада.

Ногі ў бедненькай пастушкі закарэлыя ад гразі і патрэсканыя да крыві. Рукі яе ў сіняках і твар ў сіняках. Мабыць, старыя вечна крыўдзілі яе, бязлітасна білі. Яе адзенне-мяшок цвёрды, як луб. Затое вочы ў малой пастушкі ззяюць радасцю неўміручасці. Яна сама не ведае, што водсвет неба ў яе вачах ніколі-ніколі не пагасне. Яна сама не ведае, што ніколі-ніколі жыццё не вылеціць з яе сэрца.

Пастушка дзівіцца на сваё небывалае стада і смяецца дзіцячым галаском.

Што гэта за плюх і плях, плюсь і плясь? Ці тысячы лапак ударающца адны аб адны? Гэта насельнасць вялікага слаўнага возера святкуе першыя хвіліны вечнасці, неўміручасці.

На ўзверх вады выплывае рыба. Яна блішчыць серабром і золатам. Яна пераліваецца ў перламутравыя колеры. Круглымі чырвонымі вачыма рознаплямённая рыба з цікавасцю пазірае навокал. Розныя рыбкі ўзнімаюць галовы з вады, скачуць, плюхаюць адны адных — і пад праменнямі сонца яны самі выглядаюць праменнямі, якія спусціліся з неба ў ваду.

Ніхто ніколі не бачыў на возеры такога дзівоснага малюнка. Здаецца, што яны, рыбкі, зараз засмяюцца, заяюць. Гэта быў як бы кірмаш рыб. Кірмаш, які ніколі не спыніцца, ніколі не змоўкне, ніколі не загіне, ніколі не згубіць сваёй радасці. Гэта быў кірмаш тых рыб, якія раней, нібы людзі, жыўцом адны адных глыталі.

Плоткі цалаваліся цяпер са шчупакамі, карасі нюхаліся з карпамі, лінямі. Самыя маленькія рыбяняткі скакалі ў вадзе стайкамі-грамадкамі, узнімаліся над вадою бліскучымі брошачкамі, пыралі, плюхкаліся, пырскаліся, купаліся і выраблялі розныя смешныя штучкі і фокусы. Яны пускалі навокал сябе кругі, бурбалілі бурболкі-пацеркі і, як малыя дзеці, акраплялі адны адных вадзянымі веерамі-бліскучкамі.

Здаецца, што гэта з нябеснай сямікаляровай агромністай дугі-вясёлкі, яшчэ як яна стаяла ўлетку над возерам, спусціліся ўніз дзеткі-грайкі, дзеткі-плывункі, дзеткі-скакункі — усе ў сярэбраных, шытых залатымі ніткамі кашульках — і ладзяць у вадзе небывалыя карагоды.

Малады рыбалоў пазірае на ўсё гэта і дзівіцца-дзівіцца. Што за відовішча? Што за балтакі ў рыб? Што за радасць у вадзяных жыхароў? Што з імі здарылася? Ля ног рыбалова ляжаць венцеры. Ля берага зыбаецца яго стары свежазасмолены човен.

Малады рыбалоў палажыў на хвіліну далонь на лоб, нібы стараўся нешта зразумець ці нешта ўспомніць даўно забытае. «Цяпер я зразумеў! Зразумеў!» — крыкнуў ён, дастаў з кішэні ножык і парэзаў венцеры на кавалачкі. Потым палез у човен, адпіхнуў яго вяслом ад берага і паплыў, паплыў. А калі часам вольнага месца не знаходзіў для чоўна ад скакуноў-рыб, ён спыняўся і прасіў: «Дайце дарогу! Прашу вас, дарогу дайце! Каюся, што губіў вас, такіх прыгожых, такіх вясёлых! Больш ніколі не буду вас чапаць».

Рыбалоў зняў з сябе вопратку і кінуўся з чоўна ў ваду. Рыба кінулася да яго з усіх бакоў, малая і вялікая, шчыкатала яго, забаўляла, лезла яму на спіну, на галаву, давалася ў рукі, выслізгвалася, шчыкатала яму пяткі.

Малады рыбалоў смяяўся і пачаў перакідваць рыбу з месца на месца, нібы сярэбраныя лыжкі. Возера плюхалася, і пляскалася, і смяялася дзівосным вадзяным смехам.

— Чаму адразу і птушкі, і звяры, і жывёла, і рыба, і ўсе жывыя істоты і істоткі такімі добрымі сталі? — запытаўся ўнук.

— Праўда, чаму? — усхапілася і ўнучка.

— Таму, дзеткі мае,— сказаў дзед,— што наш Дзіда-дзед цапнуў Смерць у табакерку. Раней яна атручвала ўсё жывое на зямлі. Кожны жывы ад самага нараджэння насіў у сваім сэрцы кавалачак вострай касы Смерці. А калі яна, паганая, папалася ў палон, у кожнага з мільярдаў жывых цяга да забойства страціла сваю сілу. Ніхто больш не хацеў быць парабкам лютай пані Смерці.

— А ты, дзядок, зрабі нам ваўчка, і мы на ім будзем катацца следам за нашым Дзіда-дзедам,— папрасіў унук.

— Будзем катацца на ваўчку, як Дзіда-дзед,— паўтарыла ўнучка.

— Добра, дзеткі, добра! — абяцаў дзед.— Зраблю ваўчка!

Яны ўзялі кошыкі з баравікамі і пайшлі дахаты. Вярнуліся яны без лішніх прыгод, калі не лічыць таго, што пад адной арэшынай жартаўлівая ваверка пачала кідаць у іх пустымі арэшкамі. Малыя ўстрывожыліся.

І яшчэ адна прыгода.

Яны ў другі раз угледзелі старога ваўка. Унукі-зайчыкі кінуліся на яго ўздагон, каб пакатацца на ім, як Дзіцадзед. Стары, падслепаваты воўк не бачыў, хто за ім гоніцца, і пусціўся з усіх ноч наўцекача.

Дзед, глядзеўшы на гэтую смешную сцэну, паківаў галавой і з сумам сказаў:

— Няхай бы хоць старасці не было на свеце...

Дома дзеда чакала напаленая лазня. Ён зняў з падстрэшша бярозавы венік і пайшоў парыцца на гарачым палочку. Дзед быў на гэта вялікі ласун. Параным венікам старанна сцёбаў яго ўнук. Дзед паварочваўся з боку на бок ды ўсё маліў-прасіў:

— Яшчэ! Яшчэ! Сып між лапаткамі! Не шкадуй старога грэшніка! Не шкадуй, унучак мой! Жар па паясніцы! Яшчэ... яшчэ... Ой-ой-ой, добра! Ай-ай-яй, добра! Яшчэяшчэ-яшчэ! У-у-у-х! А-а-ах!

І чым больш унук перабіраў яго костачкі гарачым венікам, тым больш дзед вохкаў ад прыемнасці і прасіў яшчэ... Потым яны мыліся гарачай і халоднай вадой. А калі дзед намыліў унуку галаву, унук крычаў «горка». Мыла папала яму ў вока. Унук плакаў, а дзед смяяўся і стыдзіў яго.

З лазні яны выйшлі такія бадзёрыя і лёгкія, нібы скінулі з плеч па сто пудоў. З коміна хаткі плыў у неба тоненькі шызы дымок. Тапілася печ. Маці рыхтавала на абед баравікі.

Унукі палуднавалі смачнымі грыбамі ў масле і смятане, а дзед піў халодны квас і пацеў. Вочы ў старога зліпаліся, яго цягнула паспаць пасля лазні, а малыя яму супакою не давалі:

— Зрабі нам ваўчка...

— Заўтра, заўтра раніцою зраблю,— прамовіў дзед і, смачна пазяхаючы, пайшоў у сваю каморку-баковачку, паставіў табакерку на столік, лёг і адразу заснуў.

Сонца свяціла праз акно ў дзедаву каморку. Дзеці па-

зіралі туды праз шчылінку. Потым яны ціхенька ўвайшлі ў каморку, забралі са століка табакерку і пячутна, як мышы, выйшлі.

Да самага вечара малыя гулялі ў Дзіда-дзеда і Смерць. Замест Смерці яны палажылі ў табакерку жывую асу і яшчэ розных іншых «смярцей». Так яны забаўляліся да вечара. Пасля бярозавага пачастунку дзед спаў моцна і соладка. Перад сном малыя паставілі табакерку на ранейшае месца.

З першымі крыкамі пеўня дзед прачнуўся, запаліў святло, прыняўся за табакерку і выцягнуў спачатку мёртвую асу, пасля — муху і жучка. Потым матылька. У табакерцы было шмат мёртвых казюлек.

— Нягоднікі! — злаваўся дзед на ўнукаў.— Ну й работка!..

Раніцою ўнукі расказалі дзеду аб тым, як яны лавілі Смерць у табакерку. Дзед зрабіў такі злосны твар, ажна малыя спужаліся і выгляд у іх быў смешны да таго, што дзед, які хацеў накрычаць на іх, зарагатаў.

— Усю ноч я мыў табакерку ад вашых «смярцей»,— скардзіўся дзед.— Больш не чапайце маёй табакеркі.

— А чаму, дзядок, ваўчка нам не зрабіў?

— Сёння зраблю. Абяцанка не будзе цацанкай.

## ШРУБОК

Абяцанка асталася цацанкай. Дзед, замест ваўчка, даў ім два кійкі і сказаў: «Катайцеся». Унукі пакрыўдзіліся.

— Гэта ж не ваўчкі, а кіёчкі,— сказалі яны.

— Думайце, што гэта ваўчкі,— параіў дзед.

Дзеці наморшчылі лбы і пачалі думаць. Потым зірнулі на кійкі і сказалі:

— Не! Гэта не ваўчкі!

Дзед засмяяўся.

— Так яно і ёсць, галубочкі мае! Ваўчок ваўчком, а кіёк кійком. Аднак некаторыя дзеці ўмеюць дадумвацца да таго, што кіёк ім здаецца ваўчком. Я шчыра хацеў вам зрабіць такога ваўчка, каб ён сам рухаўся і вазіў вас. Я прыдумаў такую спружыначку і калясо, але не хапіла шрубка. Патрэбен мне быў шрубок.

— Які шрубок? — зацікавіліся малыя.

— Талент! Таленту не маю, хоць вельмі хачу яго мець.

— А што такое талент?

— Яго, дзеткі, за грошы не купіш, з агарода не выкапаеш і ні ў кога не ўкрадзеш.

— Не разумеем,— сказалі ўнукі.

Дзед пачаў тлумачыць:

— Талент... Талент... Скажам так: сярод тысяч качаноў капусты на агародзе ёсць адзін качан-талент. Па выгляду ён не адрозніваецца ад іншых качаноў, аднак у гэтым качане ёсць фокус-покус: адарвеш лісток — шаўковы, другі — сярэбраны, трэці — залаты. Можаш нарваць гару лісткоў, а качан цэлы. Такі качан называецца талент. Кожны заяц думае, што яго качан з талентам. А папрабуй зайцу праўду сказаць, што яго качан без таленту, дык ён табе выдзера і вочы і вушы і галаву адкруціць.

— І што зайцы робяць з качанамі без таленту? — запыталіся ўнукі.

— Некаторыя зайцы лысеюць, а некаторыя абрастаюць чубамі. Яны крычаць на ўвесь свет: «Мы з талентам!» Так яны галосяць да тых часоў, пакуль вераб'і гнёзды пачынаюць віць у іх валасах, а на лысінах рупныя гаспадары пачынаюць боб малаціць. У мяне, на жаль, няма таленту, і я не мог вам зрабіць ваўчка.

— Мы хочам мець талент! — сказалі ўнукі.

— Шчыра жадаю вам мець талент,— прамовіў дзед.— А цяпер рушым далей па гісторыі Дзіда-дзеда.

— Шмат тысяч год жывыя істоты на зямлі шукалі качан капусты з талентам. Яны хацелі зрабіць такі шрубок, каб зашрубаваць як след раз'езджаны вазок, які называецца жыццё. Гэты шрубок знайшоў наш Дзіда-дзед. Няхай памяць аб ім свеціцца нябесным светлячком. Смерць у табакерцы — Дзіда-дзедаўскі шрубок. Гэты шрубок замацаваў слабую спружыну жыцця.

Як толькі агіда апынулася ў табакерцы, жыццё зацвіло пышным цветам неўміручасці. Усё падрабязна цяжка расказаць. З розных старон свету Дзіда-дзед пачаў атрымліваць эстафету за эстафетай аб тым, дзе што робіцца. А хто насіў эстафеты ад свету Дзіда-дзеду і ад Дзіда-дзеда свету? Як вы, дзеткі, думаеце?

Унукі апраўдваліся:

— Мы ніяк не думаем.

— Эстафетніцкай, якая разносіла навіны, была Сарока. Замацаваўшы свет прубком неўміручасці, Дзіда-дзед хацеў жыць у спакоі, але Сарока — бранджотка-калакотка — гэтага не хацела. Яна кракала пра Дзіда-дзеда на ўвесь свет. Дзіда-дзед яе страшна не любіў. Яна яго таксама не любіла. Аднаго разу яна ўзляцела высока ўгору і пачала кідаць на яго шапку непрыстойныя шышачкі. А за што? За тое, што Дзіда-дзед сказаў ёй у вочы: «У цябе, Сарока, няма таленту!» А яна, шляхецкая костка, любіла, каб яе называлі таленавітай паняй Сарачынскай. Эге!

Цяпер гэта паветраніца-паганіца так разышлася, што жыцця ад яе няма. Вялікае шчасце ўсяму свету, што яна, Сарока, ніколі не памрэ. Жартачкі: Сарока — нявеста, а вечнасць — яе светлы жаніх! А клапоціцца яна і гойсае так, нібы ёй часу няма. Яна забывае, што перад ёю даўжэзны абрус тысячагоддзяў. Тысячагоддзямі яна будзе аплятаць свет хітрыкамі, плёткамі, маною, падлізваннем, падлабуньваннем і падглядваннем. Яна будзе падлятаць да кожнага прыпечка, каб панюхаць, што ў каго ў гаршку на абед гатуецца.

Дзіда-дзед шкадаваў шчыра, што каршун не выскуб сарочына пер'е да таго, як у яго табакерку папалася сусветная душагубка. Цяпер пішы прапала!

У Дзіда-дзедавым сонечным небе адзінай хмаркай была Сарока. Цяпер яна зрабілася самазванай эстафетніцкай. Вось першая навіна, якую яна прынесла ў лес.

У адным з блізкіх гарадоў жыў небагаты шавец. Зваўся ён Юрка Дратва. Юркам ён зваўся ад нараджэння, а Дратва была яго мянушка, калі ён вырас і зрабіўся шаўцом. Разумнага ён называў моцнай дратвай, дурнога — гнілой дратвай. Калі што-небудзь яму падабалася, ён казаў, што гэта сшыта добрай дратвай. На ўсё прыгожае ён выражаўся: блішчыць, як новая дратва.

Юрка Дратва быў барадаценькі, худзенькі, маленькі, спрытненькі, з чырвонымі абадкамі вакол сініх вачэй. Ён сядзеў згорблены і заклапочаны над новым ботам, у абцас якога ўбіваў драўляныя штыфчыкі. Яго жонка ў гэты час выцягнула з печы чыгунок бульбы і высыпала на стол побач з талеркай, на якой ляжаў ува ўсю даўжыню разрэзаны на драбнюткія кавалачкі селядзец. Галодныя дзецi, рознага ўзросту хлопчыкі і дзяўчынкі, з нецярплівасцю

чакалі ўрачыстай хвіліны, калі бацька паложыць бот, кіне поцяг, зніме з сябе зрэбны фартух, памые рукі і сунецца сур'ёзны і засопшыся к сталу. Тады ўся сям'я кінецца на гарачую бульбу і на халодны селядзец, як ваўкі...

Усе цікавалі за сваім хлебадаўцам.

Раптам вочы Юркі Дратвы зрабіліся нейкія здзіўленыя і нясвойскія. Юрчыха зірнула на яго са страхам. Хутка і ў яе і ў дзяцей зрабіліся такія ж самыя, як у гаспадара, вочы, здзіўленыя і нясвойскія. Уся сям'я быццам аслупянела ад дзіва. Першыя падалі голас дзеці:

— Тата... татачка... кінь! Гэты бот кавалак трупа ад каровы, ад каня, ад казла! Кінь яго! Нам страшна... Страшна...

Юрка Дратва ўздзёр бараду ў столь:

— Га? Што? Мне таксама страшна...

— І я баюся! І я баюся! — крычала Юрчыха.

— У печ! У печ!

— Спаліць! Спаліць!

— Каб звання трупнага ў хаце не засталося!

Так крычала ўся сям'я.

У печ ляцелі новыя боты, камашы, груда старога абуцця, кавалкі падошвы, рэмня, скруткі скуры і ўсё тое, што людзі бралі з забітых жывёл — нават касцяныя гузікі з вопраткі. Кінулі ў печ і прыпраўлены цыбуляй і воцатам селядзец. Зрывалі з ног і шпурлялі ў печ свае ўласныя паселядзец... дзёртыя атопкі і хадакі. Ад усяго гэтага так чадзіла і дыміла, хоць ты гвалту крычы. Хатнія шукалі з выпучанымі ад агіды вачыма па кутках кавалкі «трупаў» і радасна крычалі:

— Добра! Добра! Добра!

Людзі чапляліся за свае ўласныя панчохі, валіліся, узнімаліся і гаварылі, нібы апраўдваліся:

— Больш не будзем! Не трэба нам магільніку ў хаце! Не хочам быць трупаносамі і трупаедамі! Годзе! Годзе!

У печы палала і дыміла.

Юркава сям'я шукала пад сталом і пад ложкамі рэшткі магільніку. У печ паляцела зімовая футравая шапка гаспадара. Юрчыха шукала нешта ў старой шафе. Раптам адтуль пачуўся дзіўны гук:

— Д-д-р-р-р-р... д-д-р-р-р-р...

— Што ты там дырдаеш? — зацікавіўся Юрка Дратва.

— Во што я раблю! — з гордасцю сказала радасная Юрчыха і паказала мужу зайцавы каўнер.— Здзёрла са свайго святочнага паліта.

— У печ! У печ! — камандаваў Юрка Дратва.

Калі хата шаўца была ачышчана ад трупнай погані, хатнія памаліліся і ў адных панчохах або зусім босыя выскачылі на вуліцу шчаслівыя і задаволеныя.

Босых мітуслівых людзей з натхнёнымі ад шчасця вачыма было на вуліцы паўнюткі поўна. Усе былі босыя. Усе пакідалі боты ў агонь.

З усіх комінаў віўся ў неба густы смуродны дым.

У багатых былі па кватэрах куды большыя магільнікі, чым у бедных: шмат абуцця, смажаных курэй, гусей, парасячыны, цяляціны, ялавічыны, каракулевыя футры, тхаровыя, янотавыя, зайцавыя, крэслы, абітыя скурай, і шмат іншых. Не злічыш усяго.

Былі магільнікі ў розных будынках, якія людзі называлі «божымі дамамі»: торы, евангеллі і караны, пісаныя ад рукі на пергаміне, старадаўнія рукапісы на свіной і цялячай скуры, скураныя фаліянты. А тое, што ў іх было напісана, таксама пахла трупам — усё аб смерці ды аб смерці.

Тысячы кніг выносілі з бібліятэк. У тых кнігах былі альбо гімны смерці, альбо страх смерці, альбо філасофія аб смерці. Запыленыя бібліятэкары і бібліятэкаршы пералістваді кнігі і выкідвалі іх праз вокны і дзверы на вуліцу.

Усё гэта пахла трупам. Усё гэта трэба было спаліць, каб і звання не асталося. Іх попел трэба было пахаваць у зямлі, як апошніх нябожчыкаў. А што рабілася на гарбарнях і бойнях! Працы было па горла! Паліць скуры, выпускаць на волю жывое быдла. Ачышчацца, ачышчацца ды ачышчацца.

Крыкі радасці і вясёлыя гаворкі глушылі паветра.

Так было не толькі ў гэтым горадзе, але на ўсім свеце. Спадчына, якую пакінула на зямлі Смерць, была аграмадная. Людзі, збянтэжаныя і радасныя, з выразам неўміручасці ў палымнеючых вачах, усклікалі на розныя галасы:

— Заяц выратаваў свет!

— Няхай яго табакерка ніколі не адчыніцца!

— Няхай страшная нявольніца па векі вечныя кешкаецца ў нюхальным тытуні!

Людзі розных узростаў спявалі песні пра табакерку і танцавалі на вуліцах у чэсць неўміручасці.

Дзверы і вокны дамоў былі ўсюды насцеж адчынены. Адусюль валіў чадны дым апошніх трупаў на зямлі. Рэшткаў Смерці было так багата, што ўсе яны не маглі месяц-

ца ў печах. Навакол гарадоў, мястэчак, вёсак і сёл, маёнткаў, фермаў і хутароў палілі вогнішчы.

Агні палыхалі па ўсіх кутках зямлі, па ўсіх частках свету. Дым, іскры і чад лезлі ў самае неба. А неба, нягледзячы на гэта, усміхалася зусім па-новаму.

Чалавек так шчыра ўзяўся ачысціць зямлю ад погані Смерці, што справіўся з гэтым у адзін дзень. Гралі струнныя і духавыя аркестры, а дзе не было музыкаў — спявалі, вытылінгвалі на язык.

Можна сабе ўявіць, якая гэта была музыка і якія гэта былі песні! Падумаць толькі... Кожны — і стары і малы — адчуваў, што перад ім плывуць даўжэзнай ракой гады. Спачатку іх лічаць на дзесяткі, потым на сотні, потым на тысячы, на сотні тысяч. Потым даходзяць да такіх цыфраў, што і неба не хопіць, каб на ім усё гэта запісваць.

Словы «заяц», «табакерка», «палонніца» падхопліваліся чалавечымі вуснамі як самыя смачныя цукеркі.

Кастры гарэлі ўсю ноч.

Усю ноч пры кастрах мітусіліся людзі. Пры святле кніг з «жыціямі святых», якія скручваліся на агні і сыпалі іскры, былі пастаўлены столікі. Прадавалася марожанае, піражныя, канфеты, яблыкі, грушы, кавуны, вінаград, булкі, малако, масла, сыр і ўсё-ўсё, за выключэннем вырабаў з агіднага мяса.

Апрача ежы неўміручыя гандляры прадавалі і іншыя тавары: гарнітуры, дамскае адзенне, кашулі, панчохі, бранслеты, гадзіннікі, капелюшы, рукавіцы, дзіцячыя цацкі.

І прадаўцы і пакупцы хадзілі босыя альбо ў панчохах, бо за першы дзень неўміручасці шаўцы яшчэ не паспелі пашыць абуцця з нятрупнага матэрыялу.

Знайшліся прадпрыімчывыя людзі, якія прадавалі табакеркі. Гэты тавар прадаваўся нарасхват усімі. Тытунь з табакерак нюхалі нават малыя дзеці. Яны чхалі разам са сваімі бацькамі, дзядулямі і бабулямі. А за імі ўвіваліся надакучлівыя жабракі і жабрачкі і прасілі літасці, малілі, лямантавалі слязлівымі, жаласлівымі галасамі.

— Дайце, людцы вечныя, шчаслівыя, няшчасліваму вечнаму жабраку адну шчапотачку тытуню! І мы хочам панюхаць і пачхаць... Дайце з табакеркі, з табакерачкі... Дайце, родныя... Дайце беднаму... панюхаць... панюхаць... Пачхаць... Пачхаць...

Ах, якое было відовішча! Якое сусветнае вяселле! Каб расказаць усё — слоў не хопіць. Эге!

Заінькі-ўнукі так уважліва слухалі апавяданне Зай-

ца-дзеда, што яго не перабівалі. Ён спыніў самога сябе, бо захацеў панюхаць тытуню. Унукі прасілі:

— Доўга, дзядок, не чхай, а гавары, гавары...

— Апчхі, апчхі! Дайце ж, апчхі, адсапнуцца, апчхі,— умаляў дзед і сыпнуў далей:

— Цікава тое, вушастыя мае, што першая радасць вызваленай зямлі не абышлася без смутку і слёз. Свет не паспеў за адзін дзень залізаць свае балючыя раны. Эге! Навокал кастроў хадзілі групкі жанчын, дзяцей, дзядоў і ўпотайку, каб не ацямраць радасць іншых, выціралі слёзы. У чым справа? У аднаго нядаўна сын быў забіты на вайне, у другога — бацька, у трэцяга — брат, у чацвёртай — муж. У некаторых толькі раніцай памерлі ад розных хвароб самыя родныя, самыя блізкія.

У першы дзень славы Дзіда-дзедаўскай табакеркі Смерць была куды больш балючай, чым раней. Бо раней бывала адна ўцеха — двух смярцей не бываць, адной не мінаваць — а цяпер, хто жыве, ужо ніколі не памрэ...

Людзі ў жалобе рукі ламалі:

— Няхай бы Заяц пасадзіў Смерць на месяц раней, і мой брат астаўся б жыць.

— Няхай бы Заяц зліставаўся над намі тыдзень таму назад, і выратавалася б наша маці.

— Няхай бы Заяц паразумнеў на дзень раней.

З гэтых нараканняў на Дзіда-дзеда са словам «няхай бы» можна было сплясці вяроўку ад зямлі да неба. Ад дзённага тэрміну пераходзілі на гадзіну, на паўгадзіны, на хвіліну, на паўхвіліны. І за паўхвіліны Дзіда-дзед мог бы выратаваць на ўсім свеце шмат-шмат жыццяў. Чалавек заўсёды знойдзе прычыну да незадаволенасці. Эге! Гэта ж каб наш Дзіда-дзед учыніў штуку з табакеркай не толькі адзін год, але тысячу год таму назад — былі б тыя самыя нараканні.

У людской нездаволенасці Дзіда-дзед вінаваты, як вы, шызыя галубочкі мае! Няхай дзякуюць Дзіда-дзеду, вечнай славы яму, што ён знайшоў патрэбны шрубок і як належыцца пакруціў тады спружыну вечнасці. Эге!

## ЦУДЫ ТАБАКЕРКІ

Раптам дзед спыніў на хвіліну апавяданне.

— Эге, мілыя, ледзь з галавы не выскачыла... Сарока, лятаючы тады па свеце, спынілася ля адной кватэры. Акно

было адчынена, і Сарока ўсё бачыла. На ложку ляжала маладая дзяўчына. Яна канала.

З кватэры выйшаў паважаны сівабароды доктар у залатых акулярах. За ім ішоў заплаканы чалавек сярэдніх год — бацька паміраючай. Са страшэннай усмешкай на пакутлівым твары і шапатлівым зморапым голасам ён запытаўся:

— Скажыце, паважаны прафесар, гэта канец?

Доктар бездапаможна паціскаў плячыма. Бацька паміраючай настойваў нібыта абыякавым голасам:

— Няўжо няма паратунку? Скажыце праўду!

Доктар выціраў хустачкай акуляры, глядзеў на пакутлівага чалавека падслепаватымі вачыма, і ў яго голасе чутна была саромлівасць.

— Медыцына пакуль што ў гэтым бездапаможна, як малое дзіця. Сухоты — гэта страшны біч чалавецтва...

Калі пакутлівы чалавек палажыў доктару ў кішэнь грошы, той зрабіў грэблівую міну, нібы не хоча браць, хутка надзеў акуляры і прывычным вокам паспеў заўважыць, колькі грошай той паклаў у яго кішэнь.

Яны развіталіся. У пакутлівага чалавека ногі раптам зрабіліся цяжкія-цяжкія. Ён ледзь рухаўся назад. Хрусцеў касцяткамі пальцаў і сіпата гмыкаў. Быццам нешта глытаў ды не мог праглынуць. У яго дрыжала левая рука, брыво, губы, але ён не заплакаў. Вочы ў яго былі сухія і патухшыя.

З пакоя паміраючай выйшаў ксёндз. Пакутлівы чалавек і яму сунуў у руку грошы. Духоўнік з такой жа мінай, як раней доктар, прыняў грошы і сказаў прывычным голасам нябеснага настаўніка:

— Мужайцеся, дарагі, маліцеся богу, дзякуйце яму за цяжкія іспыты. «Каго бог любіць — таго ён і чубіць»,— кажа просты народ. І гэта праўда. Ваша любімая доч ідзе ў вечнае жыццё, дзе душа яе зноў злучыцца са сваім тварцом.

Духоўнік перахрысціў чалавека і пайшоў.

— Пракляцце... пракляцце... пракляцце...— шаптаў пакутлівы чалавек. Магчыма, што ён сам не ведаў, каго ён праклінае. У гэту хвіліну твар яго быў шэры, а ў вачах успыхвалі злыя аганькі.

У пакоі паміраючай мігацелі аганькі васковых свечак. Пры стале сядзеў чорны малады манах і гугнява чытаў псалтыр. Паміраючая адвярнулася тварам да сцяны. Яна была бадай без руху. Яе русыя валасы былі рассыпаны

па белай падушцы. З акна свяціла сонца. Валасы паміраючай іскрыліся на сонцы і як бы гарэлі. Гэта было страшна, бо рука паміраючай ужо была сіняя і бадай што мёртвая.

Чалавек засланіў акно фіранкай. Аганькі свечак паярчэлі. Раптам рука дзяўчыны пачала наліванца ружовай фарбай. Пальцы пачалі рухацца так, нібы гралі на невідочным музычным інструменце. Паміраючая працяжна ўздыхнула.

Бацька ў гэты час стаяў у кутку тварам да сцяны, і яго плечы ўздрагвалі. Ён плакаў без слёз і без голасу.

У адзін і той самы час манах і бацька паміраючай зірнулі са страхам і дзівам на канаючую дзяўчыну. Яна сядзела на ложку і папраўляла валасы.

— Што гэта? — запытаўся бацька ў вялікім страху, у небывалым здзіўленні.

— Цу-цу-цуд божы! — усклікнуў спалохана манах.— Будзем маліцца.. А можа, душа ўжо вылецела з яе цела, а туды перасяліўся нячысцік і фокусы вытварае?..

А за акном Сарока крычала ахрыплым голасам:

— Не цуд божы, не нячысцік, а цуд табакеркі, табакеркі, табакеркі...

— Ха-ха-ха! Хі-хі-хі!

Гэта здаровым смехам смяялася дзяўчына. Ні манах, ні бацька яе не паспелі заўважыць, як яна ў адну хвіліну напоўнілася жыццём і сонцам. Яна ўся паружавела. Вочы заблішчэлі дзіўным ззяннем здароўя і маладосці.

Яна ўскочыла з ложка, спрытная, як маладая каза, апчаперыла рукамі бацькаву шыю, заскакала і закрычала:

— Мы жывём! Мы жывём! Я не памру! Ты не памрэш! Ніхто, ніхто больш не памрэ!

Яна заспявала. Бацька схапіў яе, вялікую, на рукі і спяваў разам з ёю. А з яго вачэй сыпаліся на яе валасы слёзы радасці.

Манах глядзеў на іх здзіўлена. Дзяўчына расцвіла. Ад яе хваробы і знаку не было. Манах не зводзіў з яе вачэй. На момант яго вочы зрабіліся маслянымі і вільготнымі. Позіркі яго былі прыкуты да яе ружовых лакцей. Ён спалохана крыкнуў:

— Бязбожніцтва! Бязбожніцтва! Маліцеся... за мае грахі і за грахі ўсяго свету!

Раптам ён змяніў тон:

— Заплаціце мне за псалмы. Гэта мае псалмы яе ўваскрэсілі... А можа, сапраўды дапамагла нейкая табакер-

ка... Хто яго ведае... Я адчуваю, што цяпер сам буду вечна жыць, як архангелы і серафімы. Мне патрэбна цяпер на вечнае жыццё шмат грошай... шмат-шмат...

Бацька і дачка пачалі сыпаць на манаха асігнацыі і залатыя манеты. Манах падставіў крысо чорнага адзення. Грошы на яго сыпаліся, як сонечны дождж. Ён налаўчыўся на ляту злавіць ротам залаты дукат і некалькі штук папяровых грошай, як вучоны пёс, што ловіць цукар.

Бацька і дачка глядзелі на манаха і рагаталі. А ён голасам, падобным да сабачага брэху, прасіў:

— Яшчэ! Яшчэ! Яшчэ!

— Забрэшаш, дам яшчэ! — пажартавала дзяўчына.

Святы манах пачаў брахаць:

— Гаў! Гаў! Гаў! Гыр! Гыр! Гыр!

Дзед на хвіліну спыніўся.

— Усё гэта здарылася якраз тады,— сказаў дзед,— калі наш Дзіда-дзед захлопнуў табакерку з палонніцай.

Дзеці запыталіся:

— Як гэта Смерць можа паспяваць пабываць за адну хвіліну ў розных месцах?

Дзед збянтэжыўся, але зараз жа схамянуўся.

— Палонніца Дзіда-дзеда,— сказаў ён,— шпаркая, як думка. Яна паспявае ўсюды. Яна куды шпарчэйшая не толькі за ганчакоў, але і за вецер.

— А як Сарока магла ўсё гэта бачыць?

— Наша пані Сарачынская такая спрытная, як Смерць! Эге! Маланка падобна да свайго мужыка Янкі. А калі будзеце мне надакучаць сваім «як гэта?», не буду больш апавядаць Дзіда-дзедаўскія гісторыі. А то, чаго добрага, яшчэ не паверыце, што людзі бязлітасна палілі сваё дабро на ўсім свеце... Дык прашу вас верыць. Я толькі забыўся сказаць, што часта сусед у суседа паліў. А пажар быў на ўсім свеце. Годзе! Больш апавядаць не буду... не буду...

Унук рукі заламаў. Унучка ўсхліпнула. Яны ўмалялі дзеда:

— Хлусі і мані, дзядулька! Будзем слухаць і маўчаць.

Дзед павесялеў і прамовіў:

— Ваша новая запаведзь «хлусі і мані» прынята даўным даўно ўсім светам. А за тое, што вы мне сыпнулі перцам праўды ў вочы, я вам зраблю ваўчкоў са спружынкамі

і шрубкамі. Я ўжо прыдумаў спосаб, як знайсці качан з талентам.

Дзед хвілінку падумаў і працягваў апавяданне.

— Значыць, раней Смерць, а пасля Сарока паспявалі ўсюды. Паспела Сарока ў адзін вялікі заморскі горад у той час, калі на галоўнай плошчы супроць ратушы стаяла высокая шыбеніца, якую акружыла конніца з голымі шаблямі ў руках. За конніцай тоўпіліся гараджане. З нецярплівасцю яны чакалі, калі павесяць тут аднаго галаварэзаразбойніка.

Кат стаяў на эшафоце ў чорным сурдуце, як духоўнік. Пышны чорны цыліндр быў на яго галаве, чорная маска на твары і белыя пальчаткі на руках. Гэты кат быў дабравольны, кат-аматар, кат-мастак, кат-магнат. Сам гаспадар гэтай заморскай краіны. Народ не ведаў, што гэта ён сам выконвае такую агідную работу. Ніхто не ведаў, хто хаваецца пад чорнай маскай.

Кат з натхненнем назіраў за тым, як яго памочнік завязваў намыленую, слізкую пятлю. Пракурор, высокі і худы, трубным урачыстым голасам чытаў прыгавор. Поп нешта гаварыў на вуха разбойніку, тойківаў галавой і шаптаў нешта ў адказ. Пасля гэтага кат накінуў на шыю разбойніка пятлю, акуратна яе зацягнуў і давай праз перакладзіну шыбеніцы разам са сваім памочнікам цягаць за другі канец вяроўкі.

Разбойнік павольна адарваўся ад зямлі, падпімаўся ўсё вышэй ды вышэй ад памоста, на якім ён стаяў. На яго твар страшна было глядзець. Нават Сарока не глядзела. Глядзеў на яго твар адзін толькі кат, і, відаць, з вялікай асалодай. А Сарока і ўвесь натоўп стараліся глядзець вісельніку на ногі. Яны дрыжалі так, нібы пад імі было полымя.

Раптам адзін з натоўпу — нізенькі і спрытны чалавечак са спалоханымі выпучанымі вачыма — прабіўся, нібы жывы клін, між натоўпу і конніцы, палез на эшафот і падхапіў вісельніка за ногі, каб даць яму аддыхнуць. Пры гэтым чалавечак строга крыкнуў памочніку ката:

— Рэж вяроўку! Рэж! Рэж! Рэж!

Памочнік ката без вялікай ахвоты выканаў нечаканы загад невядомага. Разбойнік з пятлёй на шыі ўпаў на дошкі памоста і хутка падняўся на ногі.

Кат і пракурор спрабавалі супярэчыць, але як бы чагосьці спалохаліся і адышлі набок. Падскочыў натоўп. На-

тоўп і вайскоўцы схапілі разбойніка на рукі і з вясёлымі песнямі панеслі па вуліцах.

Разбойнік маліў і прасіў:

— Пакарайце мяне... Я душагуб... Пакарайце... Пакарайце... Пака...

— Не можам! — крычаў натоўп.— Не хочам! Не трэба! Усе разам жыць будзем! Вечна жыць будзем. Вечна... Вечна... Няма смерці...

Сотні вачэй свяціліся вялікай радасцю. А вочы разбойніка з пятлёй на шыі былі вельмі засаромленыя. Ён не мог глядзець на людзей. Ціхачом, тоячыся, уцяклі кат, пракурор і поп.

Разбойнік шчыра каяўся перад натоўпам:

— Паколькі я цяпер неўміручы, няхай і мая кара будзе вечнай. Ніколі не зніму з шыі пятлі. А калі яна перагніе на маёй шыі — надзену новую. Няхай мне будзе вечная ганьба!

— Навошта такая суровая кара? — крычалі мужчыны і жанчыны з натоўпу.— Не трэба! Не трэба! Забудзем твае ганебныя ўчынкі! Забудзем...

У гэты час Сарока паслала сваю сястру ў другое месца. Тая бачыла вось што: адзін малады кучаравы паэт, песні якога былі вядомы па ўсёй краіне, раптам задумаў скончыць жыццё самагубствам. Разгубленымі вачыма ён пазіраў на сонца і развітваўся з ім. Потым напісаў алоўкам на кавалку паперы апошняе пісьмо да сваіх бацькоў і першае пісьмо да сваёй каханай. Пры гэтым яго рукі чуць-чуць дрыжалі. Пасля гэтага ён сыпнуў сабе на язык белы парашок. Пасінеўшы за адну хвіліну, ён паваліўся спіной на мяккую кушэтку. Цень Смерці мільгаў па яго твары.

Увесь час за паэтам назіраў яго любімы сабака. Разумныя вочы аўчаркі ўстрывожыліся. Сабака прыпаў да гаспадара, пачаў выць жаласліва-жаласліва і лізаць яму твар.

Раптам самагубца расплюшчыў вочы і здзіўлена пачаў аглядаць пакой. Сабака весела завізгатаў і кінуўся лапамі абнімаць свайго прыяцеля-гаспадара.

Кучаравы паэт загаварыў да сабакі:

— Няўжо, Апалон, стрыхнін перастаў дзейнічаць? Што за цуд? Я ж адчуваў Смерць усімі сваімі жылкамі і паджылкамі. А цяпер? А цяпер... Не хочацца памерці... Не памру... Не магу памерці... Ніколі-ніколі не памру...

Паэт з натхненнем у прарочых вачах сеў пісаць верш пра хараство неўміручасці. Адной рукой ён пісаў, другой гладзіў сабаку. Кончыўшы верш, ён загаварыў да сабакі пяшчотным голасам:

— Апалон мой чатырохногі! Апалон, з трапяткім, як сэрца пяшчотнай жанчыны, хараством, з тонкім нюхам багоў! Чуеш? Мы з табою вечна жыць будзем. Мы з табою пераступілі раней непраходную мяжу ад смерці да жыцця. Мы з табою — каралі. Нашы каралеўствы — нашы ўласныя неўміручыя сэрцы. Нашы падданыя — нашы думкі і пачуцці. У нашых сэрцах — увесь свет, як сонца ў чыстым возеры.

Кучаравы паэт пацалаваў Апалона ў вочы так горача, нібы каханую дзяўчыну. Паэт загаварыў, паглядаючы на шпалеры з чырвонымі зайцамі пад сінімі кустамі:

— Бачу мора, абсыпанае залатым пяском сонца. За морам — зялёны гаёк. За гаем — тонкія бярозы ў белых халатах, як сёстры міласэрдзя. На гарачым ад сонца карчы мільгае туды і сюды шпарка, як думка, бронзавая яшчарка. Над медуніцай гудзе руплівая пчолка. Ад паляўнічага ўцякае заяц... Ах, які спрытны скакун! Колькі хараства ў яго рухах... Няўжо паляўнічы застрэліць сонечнага, жыццярадаснага зайца?

Кучаравы паэт пагладзіў сабаку і зноў загаварыў:

— Заяц адчыняе табакерку — сярэбраную, прыгожую. Нюхае... Як ён смешна чхае... Што гэта? Перад зайцам Смерць у чорным плашчы з капюшонам, з бліскучай касою. Чаму яна не з парашком стрыхніну? Чаму не з пятлёй вісельніка? Чаму не з пісталетам ці нажом у руках? Чаму не з міністэрскім партфелем? Чаму не з залатымі эпалетамі вайсковага начальніка? Чаму не з каронай цара на галаве? Чаму не з крыжам духоўніка на грудзях? Чаму не ў адзенні фальшывага доктара ці вясковай шаптухі?

Паэт хвіліну адсопся.

— Чаму Смерць не ў выглядзе выдаўца кніг, цэнзара, нуднага пісьменніка, майстра зброі, мухамора, гіцля, легкадумнай красуні? Чаму смерць не ў выглядзе тых паэтаў і пісьменнікаў, якія ўсхваляюць яе ў сваіх творах? Чаму яна не маскіруецца пад некаторых дурных крытыкаў і прафесараў літаратуры, ад артыкулаў чыіх мухі дохлі да апошніх дзён?

Паэт задумаўся. Лоб яго на момант зморшчыўся і зноў зрабіўся гладкім.

— Відаць,—сказаў ён,— просты чалавек, стары, за-

працаваны касец, запрэзентаваў ёй свой благародны інструмент працы. Паводле думак прастадушнага касца травы, і жыццё трынь-трава! Глядзі... Глядзі, Апалон! Бачу праз тысячы міль... Слаўны заяц запаланіў Смерць у табакерку. Туды ёй і дарога! Цяпер мы неўміручыя. Слава жыццю! Слава! Буду пісаць цяпер тысячы тамоў песень. Толькі дзе я іх буду друкаваць? Гэта ж вечна будуць жыць некультурныя выдаўцы, якія ўпэўнены, што Гамер пісаў на турэцкай мове, а Дантэ — аўтар гогеля-могеля.

Паэт са сваім чатырохногім Апалонам выскачылі на вуліцу, бо за акном людзі спявалі песню з прыпевам: «Табакерка! Табакерка! Табакерка!»

У гэты самы час цётка Сарокі назірала за полем бітвы.

У простым жыцці кожны край мае свой звычай, затое войны, бадай, усюды аднолькавыя. Войска выступае супраць войска. Людзі, якія жыць хочуць, выступаюць супраць людзей, якія таксама жыць хочуць. Ваююць! За што! За каго? За сваіх багатых начальнікаў.

Грымяць гарматы. Свішчуць кулі. Валяцца людзі, коні. Смурод, дым, агонь, крыкі, стогны. Народы па загаду начальства вырэзваюць адны адных і паляць адны ў адных гарады, топяць адны адных караблі. Яшчэ бахваляцца гэтым. І кожную вайну называюць апошняй. Эге! Дык вось — вялікае поле бітвы. Зямля дрыжыць. Войскі топчуць трупы сваіх і чужых, топчуць параненых сваіх і чужых.

На адным і другім баку поля бітвы начальнікі глядзяць у вялізныя карты і моршчаць ілбы. Яны спрачаюцца між сабою аб тым, як спрытней знішчыць зямельку. Колькі невінаватых зайчыкаў тады гіне... Эге! Дык вось — стаяць і сядзяць начальнікі і мяркуюць аб перамогах, а за іх спіною стаіць Смерць, і радуецца, і кепікі строіць.

А раптам, калі Дзіда-дзед паклікаў Смерць на візіт у табакерку, на полі бітвы стала ціха-ціха. Ад такой цішыні начальства ўстрапянулася ад страху. Не паспела начальства выскачыць са сваіх хованак, як пачулі крыкі радасці. Войска абодвух бакоў пакідала зброю і давай абнімацца, цалавацца і крычаць:

— Няхай начальства між сабой ваюе, а мы будзем жыць... жыць... жыць! Няма смерці! Няма... Няма... Няма...

Салдаты спяваюць песні. У параненых уміг залечва-

юцца раны. Толькі трупы забітых без слоў сведчаць аб тых страшных мінутах, якія ўжо больш не вернуцца. Начальнікі спалохана крычаць:

— Біцеся!

Яны шукалі вяроўку на рагах лысай кароўкі.

Вайсковыя духоўнікі страшаць салдат пеклам. Салдаты рагочуць:

— Го-го-го! Пагасла пекла! Смала кончылася!

Начальнікі і духоўнікі пачынаюць страляць у сваіх салдат. Нікога кулі не бяруць. Людзі неўміручыя. Тады начальнікі супраціўных лагераў міранца між сабой, каб агульнымі сіламі знішчыць «бунтаўшчыкоў». Гэтыя начальнікі так прапітаны смуродным духам Смерці, ажна не адчуваюць, што іх чорная, драпежная каралева адпачывае ў Дзіда-дзедавай табакерцы. Гэтыя шчырыя парабкі Смерці будуць тысячы год жыць і з нецярплівасцю чакаць: а можа, Смерць выскачыць з табакеркі?..

Дзед змоўк.

Вочы ўнукаў былі чырвоныя. Была пара спаць. Аднак малыя зацікавіліся:

— Як гэта ваююць? — запытаўся ўнук.

— Растлумач, дзядок, больш проста! — прасіла ўнучка.

Дзед панюхаў з табакеркі і добра прачхаў, прачысціў свой нос, як флейціст сваю флейту. Крыху падумаўшы, ён весела выставіў наперад сваю руку і пачаў тлумачыць тэхніку вайны:

— Уявіце сабе, дзеткі, што вось гэта мая далонь не далонь, а вялікае поле бітвы. На сярэдзіне далоні, дзе вось гэтыя дзве зморшчыны, праходзіць глыбокая рака. На правым беразе ракі стаіць адна армія, на левым беразе — другая армія. Пры кожнай арміі сваё начальства. Начальства кажа «плі!» — і бедныя салдацікі пстрыкаюць адны адных у лоб жалезнымі шышачкамі. Абліваюцца крывёй бедныя салдацікі, валяцца ў раку, і вада становіцца чырвонай ад крыві. А начальнікі ў залатых эпалетах радуюцца і сварацца між сабой.

— Мы вашых больш забілі! — кажуць адны.

— Не! — кажуць другія.— Гэта мы вашых больш знішчылі!

Ні адны, ні другія не хлусяць. Забітых шмат і на адным і на другім беразе ракі.

Раптам зайчык-унук усхапіўся.

— А я, дзядок, на тваім месцы зняў бы з рукі ўсіх салдат, усіх начальнікаў і сказаў бы: ідзіце дахаты!

— Не зусім так! — запярэчыла ўнучка.— Я на месцы дзеда зняла б з рукі салдат і зачыніла б руку. Тады ўсе начальнікі патапіліся б у рэчцы і каюк вайне!

Дзед зарагатаў.

— Ах, мае разумнікі! — сказаў ён.— На такую справу патрэбна рука ад зямлі да неба. Можа, калі-небудзь вырасце такая аграмадная, магутная ручышча, а пакуль што пара спаць. Заўтра, браткі, раскажу вам пра Дзіда-дзедавых гасцей.

## ДЗІДА-ДЗЕДАВЫ ГОСЦІ

Раніцой дзед прачнуўся раней за ўнукаў. Ён пайшоў у краму і купіў для іх два дзіцячыя веласіпеды. Дома ён прымайстраваў для іх з чурбанчыкаў воўчыя галовы і, падаўшы ўнукам цікавыя машыны, так сказаў:

— Выканаў сваё абяцанне!

Ён пасадзіў малых на веласіпедзікі і навучыў іх катацца. З пагорка ўнукі імчаліся з такім імпэтам, ажна думалі, што кусты, бярозкі і ўвесь свет ляціць супраць іх, а яны самі стаяць на месцы. Вялікая была іх радасць, а дзедава — яшчэ большая. Калі яны сышлі з «ваўчкоў», дык першае пытанне было такое:

— Ты, дзядок, знайшоў свой талент?

Дзед усміхнуўся па-старыкоўску мудра і сказаў:

— Зеніцы вачэй маіх! Прыемна карыстацца сваім уласным талентам, а яшчэ прыямней карыстацца талентам свайго бліжняга. Ваўчкоў зрабіў майстар з добрым талентам. А за яго талент я ў краме чэсна заплаціў. Але ёсць на свеце пані Сарачынскія, якія прысвайваюць чужыя таленты ды яшчэ кідаюць з неба на капялюшыкі аграбленых арэшкі. Пасля таго як накатаецеся ўволю на ваўчках, я вам раскажу пра Дзіда-дзедавых гасцей. Эге!

І ўнук сказаў:

— Ваўчкі не ўцякуць. Яны ж нежывыя.

І ўнучка сказала:

— Ад жывых мы самі дадзім лататы.

Тады дзед з вялікім пачуццём прамовіў:

— Мне вельмі добра, дзеткі! Калі я з вамі, мне здаецца, што ў кожную хвіліну перажываю вечнасць і ніякай

чарнухі з вострай касою не баюся. Эге! Дык слухайце ж!

— Не шукаў наш Дзіда-дзед славы. Хацеў ён спакойна жыць у роднай дубраве. Ён, хай заззяе імя яго, не любіў грукату-стукату. Але пані Сарачынская захацела сыпнуць на Дзіда-дзедавыя вушы яшчэ некалькі шышачак. Цьфу! Дзіда-дзед сядзеў і чытаў кніжку аб тым, як змагацца з капусным чарвяком, і раптам ускочыў з месца.

Да яго слыху даплыло разнастайнае «гу-га». З кожнай хвілінай «гу-га» расло і расло. Адзін голас вырас над усімі іншымі, як вялікі баравік над малымі апенькамі:

— Табакерка! Табакерка! Табакерка!

Дзіда-дзед на гэта з абурэннем заўважыў:

— Пазнаю голас неўміручай Сарокі, трасца ёй у бокі! — і зараз жа схамянуўся: — Пры маім становішчы непрыстойна лаяцца... Няхай Сарока ўпадзе ніц ад дзесяці трасавіц! Дарую ёй паганыя старыя звычкі. (Яму было прыемна ў душы, што яна сюды склікае народ.) Трэба адносіцца больш мякка да ўкаранелых звычак і больш цвёрда да ўкаранелых подласцей.

Дзіда-дзед зірнуў у акно.

Да яго хаткі рухалася вельмі шмат народу: рознага ўзросту, рознага адзення, рознага полу і выгляду. Над імі рабіла кругі Сарока і паказвала:

— Вось тут! Вось тут! У гэтай самай хацінцы. У хацінцы сядзіць заяц. У зайца за пазухай табакерка, а ў табакерцы заарыштавана Смерць.

Дзіда-дзед таропіў вочы праз маленькую шыбіну. Яму і страшна і ў той жа час прыемна было глядзець на такую грамаду. Ён раптам засаромеўся немаведама чаго. У гэту хвіліну ён хацеў праваліцца праз зямлю разам з табакеркай і разам з той красуняй, што нюхае ў табакерцы тытунь.

Вывела яго з бяды зноў жа пані Сарачынская. Яна сама вызвалася яму ў памочнікі. Дзіда-дзед нават абрадаваўся. Перш-наперш яна ў шматтысячнага натоўпу збірала падаруначкі, шэпчучы кожнаму на вуха:

— На капустку пану Зайцу!

Людзі давалі не шкадуючы. Пані Сарачынская тут жа раздавала сардэчныя падарункі, назначаныя Дзіда-дзеду, розным лясным птушкам. Яны ўсё гэта хавалі па кустах, у дуплах дубоў, па вяршынях высокіх хвоін, у балоце, пад мохам і дзе толькі хочаш.

Сабраўшы ў людзей даніну, пані Сарачынская прывяла першымі ў пакой Дзіда-дзеда шаўца Юрку Дратву і паляўнічага, які зусім нядаўна ледзь не прыкончыў Дзіда-дзеда. Паляўнічага звалі Саўка. Юрка Дратва быў маленькі і худы, з рэдкай бародкай. Саўка быў высокі, з русымі вусамі і голеным ружовым тварам.

Ля дзвярэй яны абодва збянтэжыліся і гаварылі адзін аднаму:

— Ідзі ты наперад!

— Ты наперад ідзі!

З няёмкага становішча вывела іх зноў жа спрытная пані Сарачынская. Яна ўзяла іх абодвух пад рукі і павяла к сталу, дзе сядзеў Дзіда-дзед.

— Дзень добры, пан Заяц!

— Дзень добры пану Зайцу!

— Добры дзень! Добры дзень! — ветліва адказаў ім Дзіда-дзед, хаця на паляўнічага вока ў яго было не зусім ласкавае. Аднак Дзіда-дзеду было прыемна тое, што сам паляўнічы, імя якога ён заўсёды ўспамінаць баяўся, прыйшоў да яго цяпер з чалабіццем.

Гасцей Дзіда-дзед запрасіў сесці такім тонам, нібы яны дваццаць год ходзяць да яго ў госці.

Тым часам Саўка штурхнуў Юрку локцем у бок. Юрка пачаў:

— Мы, высокапаважаны пан Заяц, прыйшлі замацаваць наша першае знаёмства добрай дратвай і падзякаваць за... за... за... за...

— За вечны век,— падхапіў пачырванелы Саўка і пацягнуў левай рукой свой правы вус.

— Бо мы,— далей гаварыў Юрка,— заўсёды думалі пра Смерць і гэта... гэта... гэта...

— І гэта нам атручвала жыццё,— дапамог яму Саўка.

— Таму,— перахапіў у яго працяг слоў Юрка,— ад шчырага сэрца мы... мы... мы...

— Дзякуем пана Зайца! — кончыў Саўка.

Дзіда-дзед бачыў, што вочы гасцей куды больш красамоўныя за іх словы. І ён прамовіў:

— Навошта дзякаваць? Суседская справа! Надыдзе час, і вы чым-небудзь адслужыце мне.— І тут жа ён звярнуўся да Сарокі: — Пані Сарачынская!

Дзіда-дзед з Сарокай аб нечым доўга гаварылі шэптам, пасля чаго Сарока выйшла ў сенцы ды пачала адтуль на-

сіць на стол пачастункі: піва, мёд, гарэлку, вішнёўку, булкі, бліны, сыр, масла, садавіну ды ўсяго-ўсяго.

— П'ём на хаўтурах Смерці! — урачыста сказаў Дзіда-дзед, калі пані Сарачынская наліла ўсім у келішкі.— П'ём за вечнае жыццё!

Ад вялікага хвалявання Дзіда-дзед не мог больш слова сказаць.

— За здароўе гаспадара табакеркі! — крыкнуў Юрка.

— Будзем піць і не тужыць! — стукнуў у рыфму Саўка.

— І вечна жыць! — падтрымала яго пані Сарачынская.

Зазвінелі келішкі і раз, і другі, і трэці раз, і без усякага ліку. Развязаліся языкі. Успаміналі старое. Пачаў Саўка.

— Ці памятаеш, пане Заяц, наша апошняе паляванне? Эх, было яно...

— Не будзем пра гэта гаварыць,— прасіў Дзіда-дзед. Ён баяўся, каб у яго самога не ўскіпяцілася сэрца і каб ён не нагаварыў гасцю непрыемных слоў.

— Апошняе паляванне пана Зайца было самае ўдалае! — сказала дасціпная Сарока.— Пан Заяц зрабіўся самым слаўным на свеце паляўнічым.

— Так, так, так! — затакаў Саўка.— Што праўда, то праўда! Гэта ж да мяне, значыцца, збегліся суседзі з вакольных вёсак і давай распытваць, як была справа. Я, значыцца, ім усё расказаў. А яны мне, суседзі, значыцца, от што сказалі: «Ведаеш, Саўка, каб не ты са сваёй стрэльбай, табакерка пана Зайца не зрабіла б таго... таго значыцца». Паляванне ў мяне пачалося здуру, а кончылася тым, што і Саўка не дурань!

Саўка пацягнуў сябе за вусы і змоўк.

— А ведаеш, Саўка,— сказаў Дзіда-дзед,— я зусім пра гэта не падумаў. Каб не ты, сусед, дык Смерць не сядзела б у мяне тут! — і трах кулаком сабе ў грудзі.— Давай, Саўка, пачаломкаемся з табой,— сказаў Дзіда-дзед і абняў свайго былога ворага і цяперашняга прыяцеля.

Ім было ў гэты час мора па калена. Пані Сарачынская полечку танцавала і сама сабе падпявала:

Антон маладзенькі
Піў мёд саладзенькі,
Прыгарнуўся к бочачцы —
Яшчэ болей хочацца.

Ёй па-маладзецку прытупваў Саўка, тапырычачы вусы, як таракан, і зацягваў сваё:

Пайшоў дзед у грыбы,
Баба ў апенькі,—
Знайшоў дзед тры рублі,
Баба — ні капейкі.

Тады Юрка Дратва падаіў сябе пару разоў за бараду, завальсаваў, смешна выгінаючыся, і заспяваў тоненька-тоненька:

Танцуйце, вальсуйце,
Чаравічак не жуйце!
Заўтра будзе кірмаш,
Чаравічак няма ж!
Трам-ты-ры-ры-ры,
Трам-ты-ры-ры-ры,
Трам-тым-тым-там!

Дзіда-дзед сядзеў пры стале і прыемна ўсміхаўся. Юрка Дратва кончыў вальс, падышоў да Дзіда-дзеда з просьбачкай:

— Пакажы мне тую штучку... Хачу, браток, сваімі вачыма паглядзець.

Дзіда-дзед рабіў выгляд, нібы не чуе. Пані Сарачынская танцавала і спявала, аднак ласым вокам пазірала на Дзіда-дзеда і ласым вухам слухала, як Юрка просіць паказаць яму табакерку.

— Пакажы штучку, сусед... Шкода табе, ці што?

На дварэ пахмурнела і паліў дождж. Мнагатысячны натоўп бараніўся ад дажджа як хто мог. Нельга было цяпер прастуджвацца да смерці, аднак людзям было непрыемна. Гандляры ўсё ж і пад дажджом умудраліся прадаваць свой тавар. Дзіда-дзеду няёмка было, што гэтулькі народу яго чакае. Ён усё зварочваўся да сваёй няпрошанай памочніцы, і ў яго голасе і вачах была пакута:

— Пані Сарачынская, не выпадае так...

Сарока яго супакойвала:

— Пане Заяц, не турбуйцеся і не прымайце блізка да сэрца. (Пры гэтым кланялася, зграбна прысядала і адным вокам падміргвала да Юркі.) Добра ведаю людзей. Чым больш яны вас чакаць будуць, мой шаноўны, тым большая пашана будзе ў іх да вашай асобы.

Тут жа неўзаметку Сарока шапнула Юрку на вуха:

— Прасі паказаць табакерку... прасі, прасі...

Юрка Дратва не адступаў ад Дзіда-дзеда:

— Пакажы, родны мой, тую штучку...

— Эх,— сказаў Дзіда-дзед.— На, глядзі!

Дзіда-дзед усунуў руку за пазуху, і не паспела табакерка бліснуць яркім серабром і золатам, як Сарока каршуном накінулася на яе. І што вы скажаце? Каб не Саўка і Юрка, Сарока вырвала б табакерку з рук Дзіда-дзеда. Дзіда-дзед зазлаваўся не на жарт.

— Вон, Сарока! Каб тваёй паганай нагі тут больш не было!

Сарока апраўдвалася.

— Я толькі пажартавала. А пан Заяц такі недалікатны...

— Думаеш, я не бачыў, як ты збірала грошы ў людзей для мяне нібыта і перадавала сваім родным? — гневаўся Дзіда-дзед.— Гэта подла! Вон з маёй хаты, пізкае стварэнне!

Сарока пакруціла хвастом туды і сюды, плюнула, бразнула клямкай ад дзвярэй і сказала Дзіда-дзеду на развітанне:

— Будзеш мяне помніць! — і зірнула на Дзіда-дзеда да таго поўнымі смяртэльнай нянавісці вачыма, нібы Смерць знаходзілася на волі і ўліла ў вочы Сарокі сваю атруту.

Сарока выскачыла з хаты, узнялася і паляцела.

У Дзіда-дзеда, Саўкі і Юркі выйшаў хмель з галавы. Дзіда-дзед супакоіўся ад гневу і сказаў да Юркі з дакорам.

— Бачыш, Юрачка, як шкодна цікаўнасць. З-за тваёй цікаўнасці ледзь не загінуў увесь свет. Сарока і Смерць дзве родныя сястры, і Сарока, напэўна, выпусціла б яе на волю.

Юрка ад згрызоты аж бараду кусаў. Крыху падумаўшы, ён сказаў:

— Няма зла без дабра. Мая цікаўнасць якраз выратавала табакерку з палонніцай, бо выкрыла твайго заядлага ворага. Прынамсі, будзеш ведаць цяпер, што трэба асцерагацца Сарокі.

Дзіда-дзед хлопнуў Юрку па плячы і сказаў каротка і ясна:

— Малайчына! А цяпер выйдзем к народу!

Дзіда-дзед, стралец і шавец выйшлі на двор.

Радасныя прывітанні натоўпу глушылі лес. Дзіда-дзед расказаў натоўпу падрабязна, як ён злавіў Смерць, якую

цікавую гутарку з ёй вёў, і людзі былі ад усяго гэтага ў вялікім захапленні. Урэшце Дзіда-дзед папрасіў іх разысціся па хатах і жыць, жыць, жыць.

Ён развітаўся з натоўпам ды ўжо хацеў ісці ў хату, але яго спыніла пажылая жанчына. У яе былі ўскалмачаныя валасы. Мабыць, яна іх нядаўна бязлітасна скубла, бо ў яе дрыжачых, скручаных пальцах засталіся жмуткі валос. Вопратка на гэтай жанчыне было падзёртая, і яна ўся выглядала кучай шматак. Схуднелая, зморшчаная жанчына бляднела і чырванела ад унутранага парывання, ад нечалавечага болю і хвалявання. Яна цяжка дыхала разяўленым ротам. Над Дзіда-дзедам грымнуў яе душу раздзіраючы голас, які давёў Дзіда-дзеда да дрыжыкаў і калоў сотнямі голак.

— Ратуй, пан Заяц! Злітуйся, родны, злітуйся...

Нешчаслівая жанчына кінулася перад Дзіда-дзедам на калені, прыпала тварам да яго ног, і плечы яе закалаціліся ад нястрымнага плачу.

— Сыноў маіх вярні... Вярні сыноў адзінокай, бяздольнай удаве!.. Яны ў мяне былі як таполі ў чыстым полі... Яны ў мяне былі асілкі... Яны мяне на руках насілі, а цяпер іх няма... На вайне загінулі...

Дзіда-дзед пачаў далікатна вызваляцца ад лямантуючай жанчыны. Яму і холадна і горача было. Ён сам ледзь не заплакаў ад жалю да маткі, якая асталася без дзяцей.

— Але чым я дапамагчы магу? — запытаўся Дзіда-дзед.

— Ажыві маіх сыноў! Ажыві!

Жанчына качалася па зямлі як апантаная. У яе голасе і вачах было гэтулькі гарачай мальбы, гэтулькі было гора і бяды, што ў Дзіда-дзеда сэрца заходзілася.

— Ажыві! Ажыві! Ажыві!

Гэта была замова, пагроза, просьба і загад у адзін і той самы час. Голас жанчыны з кожнай хвілінай рабіўся больш цвёрдым, больш патрабавальным, ад жабрачага енку ён перайшоў да пагрознага заклінання.

— Ажыві! Ажыві! Ажыві! Калі ты, пан Заяц, не разбойнік, аддай мне сыноў! Калі ты, пан Заяц, не кат, не здраднік, не гіцаль — вярні мне дзетак маіх, саколаў маіх... Чуеш ці не? Пакупай сваё сэрца ў маіх слязах крывавых і дзяцей мне выратуй! Чуеш? Выратуй! І ў цябе ж была матка...

За жанчынай упала на каленні яшчэ шмат народу. Пачалося галашэнне, падняўся нечуваны лямант. Ён зліваў-

ся ў адзін жудасны хор, у адно выццё. Ён напоўніў лес, плыў у неба. Нібы сама маці зямля стагнала і плакала. Нібы плакаў лес, возера, каменне. Бура стогнаў, віхор болю раздзірала паветра:

— Ажыві нашых родных! Ажыві! Ажыві! Ажыві!

Калі спачатку Дзіда-дзеда агортваў жаль, дык цяпер ён пачаў злавацца на гэтых нешчаслівых людзей, вар'яцеўшых ад гора. Дзіда-дзед пачаў услухвацца ў гэты жудасны лямант. Кожны з прыйшоўшых у лес меў да Дзіда-дзеда прэтэнзію. Хто прасіў вярнуць памершага бацьку, хто — матку, хто — дзяцей, жонку, мужа, братоў, сясцёр.

Людзі прасілі ў Дзіда-дзеда самую дробязь — каб ён адчыніў пазуху зямлі ды ажывіў нябожчыкаў хаця б за апошні гадок... Маленькая была гэта просьба...

Дзіда-дзед збянтэжыўся як ніколі. Ён апраўдваўся як толькі мог.

— Я на гэта сілы не маю... Не па майму росту капітан,— сказаў ён.— Я нічым дапамагчы не магу... Чуеце? Не магу! Не магу! Не магу!!!

Да Дзіда-дзеда падскочыў адзін худы чалавек з ашалелымі вачыма, нізка кланяўся і гаварыў з пенай на губах:

— Калі ты мог выратаваць свет ад Смерці, можаш таксама ўваскрашаць мёртвых!

За гэтым чалавекам хорам крычалі іншыя:

— Можаш, пан Заяц!

— Можаш, пан Заёнц!

— Можаш, пан Заянчкоўскі!

— Ты мусіш гэта зрабіць, пан Зайцаў!

— Ты павінен злітавацца, дзядзя Зайчуковіч!

— Ты бог!

— Ты ўсемагутны!

— Ратуй нас! Ратуй!

Ад жудасці ў Дзіда-дзеда валасы дыбам сталі. Ён увесь успацеў. Кругі — чырвоныя, сінія, чорныя — захадзілі перад яго вачыма.

— Я звычайны Заяц,— умаляў людзей Дзіда-дзед.— Прашу не блытаць маёй фаміліі. Я просты Заяц.

Але голас яго патануў і разгубіўся, як сарваны з галінкі лісток у часе вялікай навальніцы. Людзі крычалі:

— Ты бог! Табе трэба толькі захацець выканаць нашу просьбу, злітавацца над намі. Захацець трэба! Захацець! Адзін цуд ты ўчыніў, учыні другія! Цуд! Цуд...

Гэтыя словы гучэлі ў Дзіда-дзедавых вушах як заклі-

нанне, як малітва. Дзіда-дзед умаляў, упрашваў натоўп:

— Цішэй... цішэй... цішэй... цішэй...

Нешчаслівыя спынілі крыкі, стрымлівалі дыханне. На хвіліну стала так ціха, што пачуўся лагодны шумок высокіх верхавін лесу.

— Разумейце вы, урэшце, мілыя людзі,— пачаў Дзіда-дзед з вялікім хваляваннем і сарамлівасцю,— разумейце, што я звычайны Заяц, які выпадкова падлавіў Смерць у звычайную табакерку. Цяпер ніхто з вас не памрэ ніколі, ніколі. А той, хто памёр дагэтуль, дык яго ўжо не вернеш назад у жыццё. Што з воза ўпала, то прапала! Чуеце! Прапала!

У адказ загрымелі крыкі вялікага абурэння:

— Ты незвычайны заяц!

— Ты — разбойнік!

— Ты — гіцаль!

— Ты — ліхадзей!

— Ты — вырадак!

— Ты — гад!

— Літасці не маеш да нешчаслівых!

— Не хочаш нам вярнуць родных з магілы!

— Не хочаш! Не хочаш! Не хочаш!

У паветры пачуўся свіст першага камня, які ляцеў у Дзіда-дзеда. Пачуўся гуд першых калоў, якімі ўзмахвалі раз'юшаныя бядой і роспаччу людзі.

— Біць будзем разбойніка!

— Заб'ём! Заб'ём!

— Няхай зямлю не паскудзіць!

— Фаршыроўку з Зайца зробім!

— З хрэнам мы яго з'ямо!

Людзі забыліся, што цяпер ніхто нікога забіваць не можа. Дзіда-дзед таксама на хвіліну забыўся пра гэта і вельмі спалохаўся, калі ў яго паляцелі дзесяткі і сотні каменняў, калі да яго падступаліся адзічэлыя людзі з вар'яцкімі вачыма.

Дзіда-дзед азіраўся. Дзе Саўка? Дзе Юрка?

Яны ціханька змыліся. Нібы іх тут не было. Дзіда-дзед застаўся адзін-адзінюткі... Яму стала сорамна за людзей і крыўдна. Раптам яго твар азарыўся, як сонца. Ён успомніў, якая сіла знаходзіцца ў яго за пазухай... І ён крыкнуў:

— Вар'яты! Ухадзіце!

— Не пойдзем! Не пойдзем! Не пойдзем! — грымела грамада.

Больш за ўсіх дзейнічала ўдава. Яна выглядала цяпер раз'юшанай ваўчыхай. Яна падскочыла да Дзіда-дзеда, завыла і ўелася зубамі ў яго руку. Вырваўшы руку, Дзіда-дзед выхапіў з-за пазухі табакерку, наставіў на людзей, як пісталет, і пагрозна сказаў:

— Зараз выпушчу з табакеркі Смерць! Яна вас усіх перарэжа, як вы рэзалі цялят! Смерць вам!

Людзі адступілі шчытнай сцяной назад, падаліся, як хвалі пад ветрам. Вочы ў іх выпучыліся на лоб ад страху. Яны ўцякалі ад Дзіда-дзеда з усіх сіл. Валіліся, як ахмялелыя, узнімаліся ды ўцякалі, скідаючы з сябе лахманы. Яны крычалі, галасілі і раўлі, як недарэзаныя быкі:

— Заяц Смерць выпусціў з табакеркі!

— Смерць! Смерць!

— Смерць... Смерць...

— Во-о-ой... Во-о-ой... Во-эй...

За людзьмі ўзнялося выццё ваўкоў і крыкі птушак. Разам з людзьмі з лесу ўцякалі мядзведзі, лісіцы, вавёркі. Пачуўся тупат чатырохногіх, ламаніна кустоў. Па лесе прайшлі пошчакі ад крыкаў: «Смерць! Смерць! Смерць!» Над дрэвамі шасталі крылламі нечаканыя вырaі птушак. Гукі крылляў нагадвалі шастанне шаўковай вопраткі.

Уцякалі мышы, яшчаркі, краты і розная іншая дробязь. Ляцелі з лесу дзівоснымі воблакамі матылькі, камары, мухі, восы, сляпні ды іншыя насякомыя. Паўзлі па зямлі змеі, мурашкі, слімакі, вусені.

Вельмі вялікі быў спалох — як у часе лясных пажараў.

Дзіда-дзед палажыў за пазуху табакерку з палонніцай і пазіраў за нечаканым відовішчам.

Усё жывое сунулася ў даль ад лесу, топчучы па дарозе адно аднаго. Жывыя хвалі людзей і жывёл на лугах і птушак у паветры ўсё драбнелі і драбнелі, пакуль не схаваліся недзе там, дзе неба з зямлёй зліваюцца ў адно.

Толькі цяпер Дзіда-дзед зразумеў і адчуў незвычайную сілу сваёй табакеркі. Нельга сказаць, каб ён гэтаму не радаваўся. Па дарозе яшчэ не ўлёгся пыл, з аддалі яшчэ даносіўся гул і гуд, нібы з-пад зямлі, але лес пачала ўжо агортваць цішыня — ні аднай жывой істоты ў ім не асталося, апрача Дзіда-дзеда.

На Дзіда-дзеда напала туга, небывалы смутак. Каб у

гэту хвіліну ён угледзеў бы пчолку — і то было б весялей. Што за жыццё аднаму? Дзіда-дзед пачаў хадзіць па лесе ў вялікай задуменасці ад хвоі да хвоі, ад бярозы да бярозы, ад куста да куста ў пошуках жывой істоты — хоць бы адзін матылёк астаўся...

Раптам... пад кустом... ляжыць нехта ці нешта...

Дзіда-дзед пабег туды.

Ляжала маленькая дзяўчынка.

Дзіда-дзед падняў яе, лёганькую, як верабей. Яна была з зачыненымі вачыма, белавалосая, з тоненькімі ручкамі і ножкамі, у зрэбнай кашульцы. Дзіда-дзед трымаў яе на руках. Яна скрывіла губкі і заплакала з зачыненымі вачыма.

— Адчыні вочы,— прасіў пяшчотна Дзіда-дзед.

— Страшна...— сказала дзяўчынка плачучы.— Калі вочы зажмураны, не так боязна...

— Не плач, дзяўчынка,— прамовіў Дзіда-дзед.

— А я жыву? А ты мяне не з'ясі?

Дзіда-дзед засмяяўся.

— Ты жывеш, і я цябе не з'ем,— сказаў ён.

— А я думала, што памерла, як ты наставіў на нас усіх табакерку. Ты быў страшны, страшны...— Пры гэтым дзяўчынка расплюшчыла вочы. Яны былі сінія, як васількі.

— Я наставіў табакерку,— сказаў Дзіда-дзед,— але не выстраліў з яе.

Паглядаючы на гэтую маленькую дзяўчынку, Дзіда-дзеду стала так шкода ўсіх людзей, як гэта малое дзіўнае дзіця.

— Як цябе завуць? — запытаўся Дзіда-дзед.

— Людзі мяне завуць Люся. А я заву сябе Люсенька, бо мне так шкода сябе... Я ж круглая сірацінка... Ні бацькоў, ні дзядзькоў, ні дзеда, ні бабулі. Ніводнай сястрычкі і ніводнага брацікa не маю. Я такая бедненькая Люсенька...

— Бедненькая Люсенька...— паўтарыў за ёю Дзіда-дзед.

— Маленечкая, як гарошынка...— сказала дзяўчынка.

— Маленечкая, як гарошынка...— паўтарыў за ёю Дзіда-дзед, папраўляючы белыя валасы на яе галоўцы.

— Куды ж ты мяне нясеш? Дзе ж я жыць буду?

— Нясу цябе ў хату. Жыць будзеш, Люсенька, са мною. Добра?

Люсенька паглядзела Дзіда-дзеду глыбока ў вочы і сказала:

— Добра!

— Буду для цябе бацькам, маткай, братам, сястрой і чым хочаш. Добра?

— Добра!

Дзіда-дзед прыціснуў Люсеньку да грудзей. Дзяўчынка паморшчылася.

— Што з табою? — устрывожыўся Дзіда-дзед.

— Ты колешся.

— Вусамі?

— Нешта ў цябе за пазухай цвёрдае.

— Гэта табакерка. Буду цяпер асцярожненька. Што ты так задумалася, Люсенька?

— Думаю, як цябе зваць — татка, мамка, брат, сястра?

— Заві татка,— сказаў Дзіда-дзед.

Дзяўчынка зашапацела:

— Татка... Татка... Татка...— і гладзіла Дзіда-дзеда па твары адным пальчыкам.

Дзіда-дзед забыўся аб усіх непрыемнасцях сённяшняга дня. Люсенька заснула ў яго на руках. Дзіда-дзед прынёс яе ў хату і палажыў спаць. Ён сам таксама лёг спаць, бо быў вельмі замораны. Ён прыслухоўваўся да ціхага дыхання дзяўчынкі, да журчання ручая, з якога і рыба паплыла ад страху, ён чуў шолах ветру над саламянай страхой хацінкі.

Іншых гукаў у лесе цяпер не было. Жывых істот у лесе было толькі двое — Дзіда-дзед і Люсенька. Дзіда-дзед заснуў.

На гэтым месцы дзед спыніў апавяданне.

— Як добра зрабіў наш Дзіда-дзед, што забраў маленькую Люсеньку,— сказаў унук.

— І ты, дзядок, таксама добры,— сказала ўнучка.— Цікавую гісторыю нам апавядаеш. У грыбы водзіш. Ваўчкоў купіў нам.

Дзед, смеючыся, сказаў:

— Прашу не пералічаць маіх дабрачыннасцей, а то будзе як з тым цыганом.

— А што было з цыганом?

— Меў цыган каня. Конь быў такім самым старым дзедам, як я — з'езджаны. Цыгану не было ад яго ніякай карысці. Успомніў цыган, што хвост у каня доўгі-доўгі. Бо за ўсё конскае жыццё цыган яго ні разу да цырульніка не

павёў, каб падстрыгчы. Пайшоў цыган да скрыпача і сказаў: «Купі ў мяне конскі хвост на смычкі!» Старгаваліся — тры залатоўкі за конскі хвост. Пабег цыган дамоў, гладзіць каня па шыі ды хваліць: «А ты, старэнькі мой, добры! А ты — слаўны! Шкада мне цябе. Хвост у цябе цяжкі. Сіл не маеш валачыць яго за сабой. Зраблю табе аперацыю. Асцярожненька па валасінцы буду выдзёргваць твой хвост. Табе будзе лягчэй...» І цыган прыняўся за аперацыю. Спачатку дзёргаў па аднаму воласу, потым па два, па тры і па пяць. Конь цярпеў-цярпеў ды, як забалела, не выцерпеў. Нахмыліўся і брыкнуў цыгана ў зубы. Прапалі тры залатоўкі і пяць цыганскіх зубоў. Калі будзеце мяне хваліць і дзёргаць, дык і я брыкну вас, мае саколікі...

Унукі спалохана схапіліся за зубы. Дзед засмяяўся.

— Я ж не конь, а вы не цыганы. Я брыкну толькі такім чынам, што не буду далей апавядаць гісторыі Дзіда-дзеда, калі не возьмецеся за грамату. Бо як ні стараюся гаварыць вам проста, а вы ўсё роўна не разумееце некаторых слоў.

Дзед пайшоў у каморку і прынёс адтуль акуляры і патрапаную кнігу. Кнігу палажыў на стол, а акуляры насунуў на нос. Праз хвіліну пачуліся дзівосныя, старадаўнія словы:

— Аз...

— Букі...

— Ведзі...

— Глаголе...

Над галовамі ўнукаў гуў чмель і нібы паўтараў за імі.

## РЫЦАРЫ СМЕРЦІ

Уночы ўнукі снілі цыгана і скрыпача. Яны снілі музыку і прачнуліся, спяваючы. Дзед хацеў раззлавацца, ды не мог. Ён рашыў купіць дзецям губную гармошку і балалайку. І ён папрасіў унукаў:

— Не спявайце. Тата і мамка прачнуцца. Яны так напрацаваліся за дзень. Раніцой я вам нештачка ў краме куплю. Ідзіце ка мне!

Унукі перасталі спяваць і на цыпачках пайшлі ў дзедаву каморку. Калі яны ўжо ляжалі пад цёплай коўдрай, дзед шэптам пачаў:

— Мы пакінулі маленькую Люсеньку ў Дзіда-дзедавай

хаце. Сірацінка спала. Спаў Дзіда-дзед. Спаў лес. У ім не асталося нават камара. Бо, як вы помніце, усё жывое ўцякло з лесу, калі Дзіда-дзед пастрашыў людзей, што выпусціць Смерць з табакеркі.

Люсенька, якая прывыкла раней спаць дзе папала — пад шум і грукат, прачнулася ад непрывычнай цішыні. Ёй стала страшна. Яна пачала прыслухоўвацца і раптам пачула:

— Тут-тук! Тык-тык! Тук-тук! Тык-тык!

Яна падумала, што гэта маленькі гадзіннік — маленькі, як пазурок. Аднаго разу Люсенька бачыла такі малюсенькі гадзіннічак у адной багатай дзяўчынкі, якая мае і тату і маму.

Люсенька доўга шукала цудоўны гадзіннічак, які туркатаў блізка, ці то на падушцы, ці пад коўдрай. Потым яна яго знайшла. Гэта ж яе ўласны вечны гадзіннічак... Гэта яе сэрца стукатала ад страху.

Люсенька заснуць не магла. Яна, каб не было так страшна, вочы зажмурыла і ціха ляжала. Раптам уздрыгнула...

— Ой... хто гэта рыпнуў дзвярмі?

Люсенька чуць-чуць расплюшчыла вочы.

— Ой... чые гэта такія злыя і круглыя вачышчы гараць упацёмках? Ой... хто гэта асцярожна, як цень, ходзіць па хаце?

У Люсенькі ад страху язык адняўся.

— Хто гэта?

Яна хацела крыкнуць і не магла. А пара змяіных вачэй прыблізілася да ложка новага таткі Люсенькі... Люсенька здагадалася, што гэта злодзей. Ён, мабыць, хоча ўкрасці табакерку ў яе новага таткі. «Каб хоць адно слова крыкнуць, самае лёгкае слова...» — падумала Люсенька. І дзяўчынка крыкнула на ўсю Дзіда-дзедаўскую хату:

— Ма-а-ма-а-а!!!

Прачнуўся Дзіда-дзед. Ён адразу схапіў рукамі злодзея. Люсенька здагадалася запаліць лучыну. У моцных руках Дзіда-дзеда шыпела і кіпела ад згрызот пані Сарачынская. Яна кусалася, драпалася і крычала. Дзіда-дзед не выпускаў яе з рук ды ўсё пытаўся ў Сарокі:

— Што мне з табою, гадаўка, рабіць? Смерці ж на волі няма. Ні агонь, ні вада, ні сякера цябе не возьмуць. Хіба трымаць цябе ў клетцы, як Смерць у табакерцы? Не! Залішне для мяне клопату.

Сарока ад злосці магла прагаварыць толькі адно:

— Кра-кра-кра.

Урэшце Дзіда-дзед сказаў:

— Я ўжо ведаю, што з табой рабіць, і зараз жа зраблю!

Дзіда-дзед пачаў скубці пер'е з крылляў Сарокі. Потым з хваста. Ён гэта рабіў спакойна і акуратна, па аднаму, клаў пер'е ў рэшата. Сарока сарамліва апусціла вочы і маўчала. Гэта ж з яе зрывалі вопратку. Калі Дзіда-дзед выскуб апошнія дробныя пер'і і прыняўся было за пух, Сарока ўзмалілася і так сказала:

— Мне будзе сорамна па ўвесь лес. Пакінь мне, пане Заяц, хоць кашулю...

— Добра! — прамовіў Дзіда-дзед,— пакіну кашулю.

Люсенька хоць дрыжала ад страху, але ўвесь час свяціла лучынай.

Не выпускаючы Сарокі з рук, Дзіда-дзед вынес яе ў сенцы, выкачаў Сароку ў карыце з дзёгцем і выкінуў на двор. Пані Сарачынская выкрыквала страшныя праклянцці, але Дзіда-дзед толькі смяяўся і звярнуўся да Люсенькі.

— Надалей ты мяне ўсё ж і не заві мамай, а татам. Я ж не ў спадніцы. А я цябе буду зваць дачушкай. Згодна? Дык чаму ж ты маўчыш? Ты што? Плачаш?

Люсенька заплакала ўголас.

— Мне Са-са-сарокі шкада-а-а...

Дзіда-дзед пагладзіў Люсеньку па галоўцы.

— Не плач, малая-ўдалая, яна ж хацела ўкрасці ў мяне табакерку, выпусціць Смерць на волю і зрабіць маленькіх дзяцей на ўсім свеце сіяцінкамі... Разумееш? Яна хацела асіраціць увесь свет... Разумееш?

— Разумею, але цёці Сарачынскай будзе х-х-холадна і с-с-сорамна голай...

— Глупства! — сказаў Дзіда-дзед.— Такая зладзейка не сёння дык заўтра сама б выскубла сабе пер'е, каб украсці ў каго-небудзь новае, прыгажэйшае. Добра ведаю зладзейку!

— Калі так, дык больш плакаць не стану,— сказала Люсенька і адразу павесялела.

— Здагадваешся, дачушка, у каго Сарока ўкрадзе ўбранне?

— У каго, татка?

— У прыгожай Павы. Напэўна! Ведаю шмат такіх Сарок, што называюць сябе Павамі. Ходзяць Сарокі Павамі па зямлі, круць-верць хвастом і так фанабэрацца, што блізка не падступіся! О-го-го! А дурныя Вароны на іх глядзяць і млеюць і нізка кланяюцца.

Люсенька здзівілася.

— Ці ж Вароны не пазнаюць, што гэта не Павы, а Сарокі?

Дзіда-дзед засмяяўся.

— На тое ж яны Вароны! А я пазнаю іх. Бо, як яны ні мажуцца markdown рознымі духмянамі, ад іх па тры мілі пахне дзёгцем. Сарочына пер'е, дачушка, выкінь на сметнік. Хай вецер разносіць па ўсім лесе, каб памяталі іншыя пані Сарачынскія.

Пакуль Люсенька вынесла пер'е, Дзіда-дзед дастаў для яе з печы пірог з мёдам і гарачае малако. Калі Люсенька ела, Дзіда-дзед глядзеў на яе з замілаваннем і сказаў так:

— Каб не ты, дзеўчанё маё, пані Сарачынская ўкрала б нашу табакерку. Сваім крыкам «мама» — ты выратавала ад пагібелі ўвесь свет! Цэлы свет! Разумееш! Еш яшчэ, каток ты мой!

— Дзякую, татка. Наелася.

— Калі ты ўжо сыценькая,— сказаў Дзіда-дзед,— дык лезь ка мне на калені! Вось так... добра... Цяпер запяём з табою так, як мы ўмеем!

Дзіда-дзед заспяваў магутным, як гром, голасам. А Люсенька падцягвала верабʼіным галаском:

Війся, війся, хмелю,
Навокал дубоў.
Ты не бойся, хмелю,
Ніякіх вятроў!
Вецер збіў хваінкі,
Вецер збіў кусты,
Дуб адзін астаўся,
А на дубе — ты!
Ў зімачку на дубе,
Хмель, не прападзеш.
Ў лецейка на дубе
Буйна зацвіцеш!

Яны спявалі гэту песню да самай раніцы. Потым Дзіда-дзед спусціў дзяўчынку з каленяў і сказаў:

— Будзем віцца, плотачка мая, вакол магутнага дуба вечнага жыцця, і ніякія вятры Смерці нам не страшны. Абыдземся цяпер без паганіцы. Няхай яна ў табакерцы дрыхне... Няхай наве...

Дзіда-дзед спыніўся на паўслове і давай прыслухоўвацца. Паківаў ён галавой і здзіўлена прамовіў:

— Было ціха, як у магіле, а раптам зноў... Выскачы, браток-Люсенька, паглядзі, хто там шуміць у лесе.

Люсенька паслухалася і праз пару хвілін ускочыла ў хату збянтэжаная і засопшаяся. Яна паведаміла:

— Ой, татка! У лесе, ух, як шмат мамаў і татаў! І ўсе яны сюды ідуць і едуць. Хто пехатой, хто конна, а хто ў карэце. Ух, колькі там дзядзей у капелюшах і шапках! Апранутыя ў чорным, у сінім, у шэрым! Аж у вачах міга-ціцца — ух! А над іх галовамі — ай-я-яй, прыгожая якая Павачка лятае ды на ўсіх паглядае, ды спявае, спявае: «табакерка-керка-керка...» — Ух, весела як!

Дзіда-дзед стукнуў кулакамі па каленах і з грызотай сказаў:

— Так яно і ёсць! Пані Сарачынская паспела ў адну ноч пераапрануцца ў Паву і сабраць супраць мяне вой-ска... Цікава, чаго гэтыя паночкі ад мяне хочуць?

Выйшаў Дзіда-дзед з дзяўчынкай на двор, паглядзеў на чорныя і шэрыя хвалі разнастайных капелюшоў, плю-нуў і звярнуўся да Люсенькі з такімі словамі:

— Гэта не народ, а так сабе, з боку прыпёку! Мог бы я іх пагнаць адразу аж на той канец свету. Аднак яны пазі-раюць на мяне такімі вочкамі, нібы я абаранак, і ім хо-чацца папробаваць мяне на смак. Усе яны, як тыя вожыкі, у якіх аднялі ножыкі. Хочуць калоць, рэзаць, а няма чым і няма каго.

Калі шумная людская навала падышла бліжэй, Дзіда-дзед замахаў рукамі, крыкнуў на ўвесь голас:

— Пачакайце, госцікі!

Навала паслухмяна спынілася і сціхла. Пані Сарачын-ская ў вопратцы Павы схавалася сярод галін высокіх ду-боў ля Дзіда-дзедавай хаты.

Да Дзіда-дзеда прыбеглі ўстрывожаныя, запыленыя і ўспацелыя Саўка і Юрка. Завёўшы іх у хату, Дзіда-дзед запытаў:

— Што гэта за народ?

— Не народ, а розны зброд,— сказаў Саўка.

— Адно гора з гэтымі людзьмі! — дадаў Юрка.— Яны моцнай дратвай звязаны са сваёй каралевай Смерцю і прыйшлі сюды вызваляць яе.

— Так, так, так! — пацвердзіў Саўка.

— Звар'яцелі яны, ці што?! — дзівіўся Дзіда-дзед. Ён хадзіў туды і сюды па хаце ў вялікім хваляванні. Урэшце ён спыніўся і звярнуўся да Саўкі і Юркі: — У чым усё ж такі справа? Чаму ім так хочацца вызвалення Смерці?

— Мы з Саўкам гэтым цікавіліся,— сказаў Юрка.— Мы з імі гутарылі, пане Заяц, доўгі час. Саўка запісваў гутарку. Па парадку растлумачу пану Зайцу, хто яны, а наш Саўка будзе чытаць з кніжкі іх вымаганні.

Дзед на хвіліну спыніў апавяданне і сказаў унукам:

— Памятайце! Юрка тлумачыць Дзіда-дзеду на памяць, што за людзі, а Саўка чытае з запісной кніжкі, чаму яны хочуць вызвалення Смерці. Цяпер пачынаю:

Юрка. Суддзі, адвакаты, пракуроры, следчыя.

Саўка. Яны скардзяцца, што паколькі цяпер людзі будуць вечна жыць, заблытаны ўвесь кодэкс законаў і выпаў зусім пункт аб кары Смерцю. Крымінальных і іншых злаўчынкаў будзе менш, дык юрыстам астанецца адна толькі праца — пасвіць камароў на балоце.

Юрка. Разбойнікі, галаварэзы, шпіёны, міністры, каты, мяснікі, маладыя мэдыкі ды іншыя такія дзядзькі.

Саўка. У сувязі з запаланеннем Смерці ў табакерку, іх прафесіі страцілі ўсю пышнасць і бляск. Яны астаюцца без працы.

Юрка. Многія з вайсковых начальнікаў.

Саўка. Без Смерці нельга абараняць бацькаўшчыну. Вымагаем неадкладнага адчынення табакеркі, каб аднавіць хараство ваенных маршаў.

Юрка. Фабрыканты вайсковай зброі, майстры атруты.

Саўка. Лепш, кажуць яны, быць смяротнымі багачамі, чымся неўміручымі беднякамі.

Юрка. Самагубцы — з вяроўкамі на шыі, з пісталетамі ў руках, скакуны з акон высокіх паверхаў, аматары вады і агню, нажавікі, самаатруцільшчыкі і гэтак далей і таму падобнае.

Саўка. Яны кажуць, што не хочуць такога жыцця, якога не могуць парэзаць у любы момант, як паперу нажніцамі. Калі Смерці няма, яны і над сваім уласным жыццём не гаспадары.

Юрка. Прадаўцы рэлігійных цацак, хвалебшчыкі раю і страшыльшчыкі пеклам: папы, рабіны, ксяндзы, пастары, мулы, шаманы, знахары, чараўнікі, шаптухі, манахі, манашкі, выдумшчыкі цудаў.

Саўка. Без Смерці, кажуць яны, няма жыцця, без Смерці яны ўсе — жывыя нябожчыкі. Без Смерці, кажуць яны, божай пугі няма на зямлі. А божая пуга — іх матка карміцелька. Яна дае гэтым дабрадзеям пірагі і мёд, кат-

леткі і шоўк, маёнткі, віно, золата і ўсялякія радасці і асалоды.

Ю р к а. Трунаробы, далакопы, спевакі псалмоў, плакальшчыцы, некралогапісцы, саванасшывальшчыкі, хаўтурнікі і розныя іншыя майстры з сусветнай славай па апрацоўцы нябожчыкаў.

С а ў к а. Смерць — іхняе жыццё, кажуць яны. Адна маленькая табакерачка, кажуць яны, аграбіла іх вялікае жыццё.

Ю р к а. Дзеці багатых бацькоў.

С а ў к а. Яны ўвесь час з нецярплівасцю чакаюць смерці бацькоў, часам нават шчыра дапамагаюць у гэтым старому бацьку, любімай мацеры. А цяпер нейкі лясны Заяц, разбойнік і злодзей адняў у іх спадчыну.

Ю р к а. Дзеці цароў і каралёў, розныя прынцы і прынцэсы ды іншыя наследнікі кароны і скіпетра.

С а ў к а. Умаляюць пана Зайца, каб ён выпусціў Смерць толькі на хвілінку, пакуль яны, венцаносныя дзеткі, кінуць атруту ў ежу бацькоў-венцаносцаў.

Ю р к а. Некаторыя мужы і некаторыя жонкі і розныя іншыя людзі, жадаючыя смерці сваім бліжнім.

С а ў к а. Яны гатовы на ўсё, абы толькі яго міласці Заяц злітаваўся над імі ды ўмярцвіў тых, пра каго яны, нізка кланяючыся, просяць.

Ю р к а. Некаторыя кампазітары, маляры, паэты і пісьменнікі, журналісты.

С а ў к а. Яны кажуць, што Смерць — іх муза-натхніцельніца, Смерць — лаўровы вянок на іх чало, Смерць — іх хараство. Смерць — галоўнае зярно іх геніяльнай творчасці. У Зайцавай табакерцы нюхае тытунь і чхае іх хлебадаўца. Яны з гэтым ніяк не могуць згадзіцца.

Ю р к а. Розныя інтэлігенты, мільянеры і мільярдэры, каралі найвялікшых ва ўсім свеце трэстаў.

С а ў к а. Яны крычаць у адзін голас, што пан Заяц пасадзіў у табакерку цывілізацыю.

Ю р к а. Некаторыя хімікі.

С а ў к а. Яны ўмаляюць яго светласць Зайца, каб ён ім адсыпаў некалькі шчапоткаў тытуню з табакеркі, у якой сядзіць Смерць,— і яны змайструюць з гэтага нешта такое, што зробіць цэлы пераварот у навуцы і тэхніцы.

Ю р к а. Лісіцы, ваўкі, каршуны, рысамахі, ільвы, змеі, гадзюкі, шакалы і шмат іншых драпежнікаў.

С а ў к а. Першую радасць неўміручасці яны адсвяткавалі з авечкамі, козамі, сабакамі, каровамі, коньмі, курамі,

вераб'ямі ды іншымі, а цяпер ім стала нудна і нецікава жыць на свеце. Іх зубы не прыстасаваны да травы. Вечна на жываты хварэюць. Ім проста непрыстойна весці кампанію з тымі дурнямі, якія ніколі ў жыцці не кусаліся. Ім крыві хочацца, а не вадзічкі дажджавой. Свайго ўласнага хваста не пераскочыш,— кажуць яны.

Ю р к а. Прыслалі пісьмы акулы і шчупакі.

С а ў к а. Яны пішуць, што ў іх выпадаюць зубы ад ціхамірнага жыцця. Апрача пяску ды травы, яны не маюць чаго глытаць. Хацелі б ад маркоты памерці, дык няма Смерці.

Ю р к а. Гэта яшчэ толькі пачатак спіска.

С а ў к а. У мяне запісана дзве кніжачкі іх розных прэтэнзій да пана Зайца.

— Годзе! — крыкнуў Дзіда-дзед.— Больш слухаць не хачу! У кожнага з іх кішка на паўтара мяшка. А дзіравага мяшка не напоўніш. І ўсе яны прыйшлі да мяне ў лес?

— Хто прыйшоў, а хто прыехаў. Іх тут некалькі тысяч,— сказаў Юрка.

— На ўсім свеце іх набярэцца некалькі мільёнаў,— дадаў Саўка.

Дзіда-дзед, светлай памяці, быў вельмі ўсхваляваны. Доўга ён хадзіў па пакоі моўчкі, у вялікай задуменнасці, цёр сабе лоб, стагнаў, уздыхаў і быў вельмі сумны. Урэшце ён звярнуўся да Саўкі і Юркі з такімі словамі:

— Можа, я сапраўды зрабіў вялікі злоўчынак сваёй табакеркай? Можа, я сапраўды парушыў вечную раўнавагу на зямлі? Можа, я найвялікшы на свеце разбойнік? Можа, аддаць ім табакерку? Выпусціць палонніцу? — і гара з плеч? Што рабіць? Аддаць ім яечка ды яшчэ аблупленае?

Дзіда-дзед схапіўся рукамі за галаву, і вялікія сумненні рвалі на кавалкі яго сэрца. Потым ён звярнуўся да Люсенькі з такімі словамі, якія плылі з глыбіні яго сэрца!

— Ты, Люсенька, нявіннасць і чыстата. Ты, Люсенька, дачка зямлі і сонца. У твае маленечкія ручкі перадаю лёс усяго свету. Як скажаш — так я зраблю.

Люсенька ўтаропіла ў Дзіда-дзеда здзіўленыя васільковыя вочы.

— Скажы, Люсенька, што лепш — жыццё ці смерць?— запытаўся ў яе Дзіда-дзед.

Дзяўчынка ўстрапянулася.

— Не люблю Смерці,— сказала яна.— Смерць у мяне

мамку і татку адняла. Не аддавайся, новы мой татка, мілы мой татка, у рукі Смерці. Не трэба! Не трэба! — і Люсенька ад абурэння тупнула нагой.

Дзяўчынку супакойвалі Юрка і Саўка.

— Не гневайся... Не гневайся...— сказаў Юрка.— На табе яблычак...

— Супакойся, міленькая...— сказаў Саўка.— Я табе зраблю стрэльбачку...

Абурэнне дзяўчынкі змылі з сэрца Дзіда-дзеда ўсялякія сумненні. Ён цвёрдым голасам сказаў:

— Няхай жыве ўвесь свет! Трэба берагчы табакерку як зяніцу вока. Я да гэтых рыцараў Смерці не выйду. Кот цюціка не баіцца, але не любіць з ім сварыцца. Ты, Юрачка, вызвалі лес ад усёй гэтай смяртэльнай ганні! І ты, Саўка, таксама.

Юрка і Саўка зірнулі адзін на аднаго і мнагазначна ўсміхнуліся.

— Без табакеркі як без рук,— сказаў Юрка.— Але ў пана бога хлопчыкаў многа.— І Юрка палез да сябе ў кіпэнь і выцягнуў табакерку.

У Дзіда-дзеда аж лоб успацеў. Ён паміма волі схапіўся рукой за пазуху. Табакерка была на месцы. Дзіда-дзед здзівіўся.

— Цюцелька ў цюцельку, як мая...

— Работа тутэйшага майстра,— сказаў Саўка.— Глядзі, пане Заяц!

І Саўка таксама дастаў з кішэні табакерку.

— Ах! — сказаў Дзіда-дзед.— Тры Янычкі адной мамачкі.

— Цяпер толькі аднаго трэба пільнавацца,— папярэдзіў Юрка,— не зблытаць табакерак. Новыя клопаты, але нічога страшнага. Ты, пане Заяц, пакуль што паспедай і накармі маннай кашкай Люсеньку, а мы з Саўкам прагонім з лесу рыцараў Смерці. Каб мог, дык задушыў бы іх добра насмоленай дратвай! Але абманем іх гэтымі табакеркамі, падумаюць, што са Смерцю. Абы шапкі — дурныя галовы знойдуцца.

Юрка і Саўка высунуліся на двор, дзе іх глушыў гул вялікага натоўпу. Пані Сарачынская ў пер'ях Павы сядзела на даху Дзіда-дзедавай хаты. Саўка ёй хітра міргнуў, і яна да яго зляцела. Ён падсунуў ёй табакерку і сказаў на вуха:

— Толькі што сцібрыў у пана Зайца. Уцякай і нікому аб гэтым ні слова!

Пані Сарачынская ўзмахнула крылямі і гайданула ўдаль. У небе яна драбнела, драбнела — пакуль схавалася з вачэй.

Юрка Дратва падышоў да рыцараў Смерці і сказаў урачыстым голасам:

— Вяльможныя панове,— джэнтльмены, графы і графіні, князі і княгіні, паны і магнаты і дробныя паняты, святыя манахі і іншыя божацкія стразі! Яго светласць пан Заяц адчувае сябе сёння не зусім добра. У яго жылках і паджылках нейкая дохтурская дратвачка трэснула. Але ён цалкам і ўраздроб згодзен з вашымі благароднымі патрабаваннямі. Вы гаворыце дарэчы, як войтавы дзеці. Вось вам ад пана Зайца падаруначак — ваша ўцеха, вашы надзеі, ваша шчасце — ешце і нюхайце за сваё поўнае здароў'ечка. Як потым пойдзеце жабраваць, скажыце мне — буду вам вароты адчыняць,— і кінуў табакерку ў самую гушчу чорных капелюшоў, цыліндраў і шапак.

Крыкі і вохканні грамады былі такія шчырыя, нібы Юрка кінуў у іх гранату, якая зараз выбухне. Пачалася таўкапіна, беганіна, лямант і вар'яцкае галёканне.

— Свінні якія! Шкада бальзаму на рэдзьку! — сказаў Юрка, заткнуў пальцамі вушы і ўцёк у хату, дзе ля акна стаялі Дзіда-дзед з Люсенькай на руках і Саўка. Яны рагаталі да колікаў, да болю.

— Табакерку падхапіў адзін манах,— сказаў Дзіда-дзед.— Што ты палажыў у гэту табакерку? — запытаўся ён у Юркі.

— Некалькі рослых тараканаў,— адказаў Юрка.

— Малайчына! — пахваліў Дзіда-дзед.— А ты, Саўка, у сваю табакерку?

— Белую ружу і любоўную запісачку пані Сарачынскай, падпісаную тваім прозвішчам, пане Заяц. Трэба ж было нечым пацешыць пані Сарачынскую за выскубаныя пер'і.

— Ну і жулікі вы, мілыя жулікі! — смяяўся Дзіда-дзед.— А адкуль жа ты, Савачка, так хутка даведаўся пра начны візіт пані Сарачынскай у мой палац?

— Вельмі проста,— тлумачыў Саўка.— Другая Сарока бачыла праз акно і раструбіла на ўсю ваколіцу.

І Юрка Дратва дадаў:

— Таму мы ўночы за вялікія грошы абсталявалі ў майстра залатых цацак дзве новыя табакеркі, каб выратаваць

Смерць ад волі, жыццё ад Смерці і пана Зайца ад няпрошаных гасцей.

— Усё ж такі прыйдзецца ўзяць лахі пад пахі і дзе-небудзь схавацца ад сарок усяго свету,— сказаў Дзіда-дзед і адразу пачаў выбіраць са сваіх манатак самае каштоўнае, лёгкае і патрэбнае ў дарогу. Саўка і Юрка таксама далі згоду не пакідаць яго.

Дзед спыніў апавяданне і выцер успацелы лоб. Тое самае зрабілі ўнукі.

— Ты спацеў, апавядаючы,— сказаў унук.

— А мы, слухаючы,— сказала ўнучка.

— Вы, шпунты, яшчэ не снедалі! — успомніў дзед.— Апранацца, памыцца і снедаць! Вось тры першыя ранішнія абавязкі дзяцей. Потым вы будзеце пісаць у вашых сшытках літары, толькі зграбныя і без клякс, а я пайду ў краму, дзе нешта для кагосьці куплю. Эге!

Удзень, калі дзед вярнуўся з крамы і дзеці паказалі яму зроблены ўрок, ён дастаў са свайго вялікага кошыка губную гармошку і балалаечку.

— Во!.. Маеце!..

Дзеці адразу абрадаваліся і тут жа засумавалі. Кожнаму з іх хацелася і гармошку і балалаечку. Калі справа ў іх дайшла да кулачкоў, дзед зноў усунуў руку ў вялізны кошык, у якім мог бы змясціцца ўвесь свет, і дастаў яшчэ адну гармошку і яшчэ адну балалаечку.

— Адкуль ты ведаў, дзядок, што мы захочам так многа адразу? — зацікавіліся дзеці.

— На тое я вядун! — смяяўся дзед.— Гэта добра, што вы так многа жадаеце. Хто шмат жадае, той шмат чаго рабіць будзе. З-за такіх унукаў мне чырванець не прыйдзецца. Буду мець шмат прыемнасцей.

Першыя прыемнасці дзед адчуў зараз жа. Унукі ўзяліся за музыку, а дзед заткнуў вушы і ўцёк у сваю каморку. Унукі пагналіся за ім у каморку. Тады дзед выскачыў на двор. А малыя з інструментамі — за ім. Ад іхняй музыкі ў лесе ўцякалі нават птушкі і жукі.

Калі дзед пабачыў, што ніякага паратунку няма ад малых, ён сказаў:

— Я такі стары вядун і не дадумаўся, што без пары аглохну з-за вас, дзеткі. Лепш кіньце сваю капэлю, і я тут жа, не адкладваючы, буду вам далей апавядаць гісторыю

пашага Дзіда-дзеда; калі зацірка забелена, дык і есці велена!

Малыя адказалі са смехам:

— Гэтага мы дабіваліся сваёй музыкай! Гэтага мы і хацелі!

## НЕХТА Ў ЧОРНАЙ КАРЭЦЕ

Дзед сеў з унукамі пад двума вялізнымі дубамі ля хаты і пачаў апавядаць.

— Дзіда-дзед пакаваў свае рэчы, паглядаў на сцены хаткі і ўздыхаў. Тут ён выгадаваўся, тут ён вырас. Дзіда-дзед, светлай памяці, нават слязу пусціў, але так спрытна, што Люсенька не ўгледзела. Трэба было выбірацца як найхутчэй, а Дзіда-дзед усё адкладваў. Так цягнуліся дні і тыдні. Аднаго разу ля самай хаты спынілася чорная карэта, у якой сядзеў худы даўганосы чалавек у чорным адзенні, у пурпуровым шыракаполым капелюшы, з залатым крыжом на грудзях.

Дзіда-дзед паглядзеў у акно і звярнуўся да Саўкі і Юркі, якія нядаўна прыйшлі наведаць яго.

— Дайце гэтаму даўганосаму касу ў рукі, і будзе якраз Смерць.

— Для такой доўгай Смерці патрэбна будзе табакерка, вялікая, нібы куфар,— спакойна заўважыла Люсенька.

Усе ўсміхнуліся, і Саўка сказаў:

— Зноў адзін з духоўнай каманды.

— Усе духоўнікі, якой бы веры ні былі, сшыты адной дратвай і падобны да Смерці, як бот да бота, а кешкаюцца ў ёй, як жукі ў гнаі,— думаў услых Юрка.

— І не дзіва,— тлумачыў ім Дзіда-дзед.— Бо Смерць — гэта той сук, на якім кукуюць такія даўганосыя, чорныя, божыя зязюлі. Вось табе, Люсенька, песня пра іх:

Ку-ку ў пекла! Ку-ку ў рай!
Ку-ку! Грошыкі давай!
Ку-ку, ку-ку, ку-ку-ку!
Растуць клёцкі на суку!

Тым часам даўганосы чалавек зышоў з карэты і накіраваўся на ганак Дзіда-дзедавай хаты, падняўшы, як цётка, сваю чорную спадніцу, доўгую да пят. Адчыніўшы нізкія дзверцы ў Дзіда-дзедавы пакой, ён, высокі і хударля-

вы, як кій, сагнуўся, але не настолькі, колькі трэба было, і так моцна стукнуўся капелюшом аб касяк, ажна схапіўся рукамі за галаву і забыўся сказаць «дзень добры».

Дзіда-дзеду стала няёмка, і ён збянтэжана прамовіў:

— Прашу прабачыць, паночку, маім дурным дзвярам. Яны нізкія і цвёрдыя. А тое, што капялюш пакамечыўся,— не бяда. Возьмем яго зараз у нашы рукі і навядзём ранейшую пышнасць. Мы — капялюшнікі. Мы з гэтага жывём і хлеб жуём.

Даўганосы зняў капялюш і давай ліць з вядра ваду на галаву.

— Не памрэш, паночку,— супакойваў гасця Дзіда-дзед.— Пакуль я над смерцю гаспадар — не памрэш. А капялюшык шах і мах — і ён стане зноў круглы, гладкі і прыстойны. Люсенька! Люсенька! Пагладзь і пачысць чырвоны дзядзін цабэрачак. Правільна! Шчотачкай... Вось-вось! Дзядзеньку больна... Глядзі, Люсенька, дзядзя лобік моршчыць, вочкі чорненькія жмурыць... раток сцяў... Во... загневаўся на мае дзверы... Але не бойся, дачанька... дзядзенька не кусаецца... Дзядзенька не памрэ. Дзядзенька— добры... Дзядзенька — разумненькі... Дзядзенька — цаца...

За спіною Дзіда-дзеда ў гэты час Саўка і Юрка гнуліся і душыліся ад нямога нутранога смеху. Дзіда-дзед неспадзявана для самога сябе зрабіўся скамарохам. У яго была такая дабрадушная і нібыта шчырая фізіяномія, што чортаны «дзядзенька» ніяк на яго пакрыўдзіцца не мог. Дзіда-дзед граў дасканала ляснога прастачка, які збянтэжыўся пры такім высокашаноўным госціку з вялікіх гарадоў.

Дзіда-дзед не ўнімаўся.

— Люсенька! Пацалуй дзядзеньку ў ручачку... Не! Не! Дзядзенька не хоча... Ах, ён падставіў ручачку для бусенькі? Нічога! Не цалуй, Люсенька, яе трэба раней памыць у гарачай вадзе, жвірам пашараваць... Можа, самаварчык дзядзеньку паставіць? Можа, панок, яечаньку хочаш? Ці кваску вып'еш? Выбачай, мілы... Мяснога ў мяне нічога няма. Я ж чытаў у адной цудоўнай кнізе: «Кожнае жывое стварэнне хваліць сонейка і жыць хоча». А калі хочаш, панок, арэшкаў? — Я зараз... Не жалезныя арэшкі, не са стрэльбачкай, якія бласлявіў, можа, і ты сам на свайго бліжняга, а простыя, лясныя арэшкі... А калі ў пана зубкі слабыя — малаточак дам! Будзеш рабіць — трах-трах па арэшках, як твае парахвіяне рабілі трах-трах па галоўках... Ой, як ты смешна зморшчыўся! Зубкі баляць? Зубы бедныя... Зубы вострыя... Мышачка, мышачка! Выдзеры ў

пана зубкі касцяныя і дай яму зубкі залатыя! Люсёк! Прынясі абцугі з сенцаў... Мы ў мент-мамент...

Дзіда-дзед паказвае рукой на Саўку.

— Вось гэты дохтур на зубы. Панок матае галавой? Не зубы баляць? Ай-яй-яй! Я памыліўся... Пан за сэрца хапаецца? Эге-э-э! Разумею! Пану сэрца баліць... Святое сэрца... Чулае сэрца... Добрае сэрца...

Дзіда-дзед паказвае рукою на Юрку.

— Гэты ў мяне прухвесар на сардэчныя болесці... Шаноўны прухвесар, дастань са сцяны бяроставую трубачку і паслухай сэрданька чорнага пана...

Тут ужо Юрка Дратва і былы паляўнічы Саўка не вытрымалі. Яны выскачылі ў сенцы, як ашпараныя варам, і так гучна рагаталі, што сцены Дзіда-дзедавай хацінкі ледзь не рассыпаліся. За імі выскачыла і Люсенька. І яна зазвінела гучным тоненькім смехам, як бразгулкамі.

Дзіда-дзед нават не ўсміхнуўся. На яго твары была разліта пашана, гасціннасць, уважлівасць. Дзіда-дзед паглядзеў на свайго чорнага госця і заўважыў на яго твары ўсмешку. На тонкім, хударлявым, даўганосым твары ўсмешка мільганула на адзін міг і пагасла. Здавалася, што па сцятых губах даўганосага мільгом прабегла яшчарка і знікла.

Даўганосы сказаў:

— Новы самадзержац зямлі — цудоўны актор.

Голас яго быў ласкавы і строгі, мяккі і цвёрды ў адзін і той самы час. Ён не ішоў проста ў слых, а слізгаўся, як падмазаны, краўся, як злодзей — на цыпачках, поўз, нібы асцярожная змяя. Гэта быў голас-хітрун, голас-злодзей, голас-фокуснік, голас-змейка.

Дзіда-дзед на хвіліну збянтэжыўся, але зараз жа ачухаўся і трапіў акурат у тон даўганосага.

— Стары самадзержац зямлі і неба быў яшчэ лепшым акторам, чым трэба! А капэля ў яго была — о-го-го! Аралі ў ёй шмат-шмат чорных і даўганосых. Ну і спадчыну ён мне пакінуў... Удрызг разбітую зямлю, разбэшчаную і распушчаную, як старэцкая пуга... Ладу і складу на ёй няма... Соваю людзям у рот спелы колас жыцця, а яны просяць чорную жняю з бліскучай касою. Грэх гаварыць — не ўсе такія. Просты люд жыць хоча, жыць і жыць... і клёцкі есці, і піўка піць...

Даўганосы вылупіў на Дзіда-дзеда такія вочы, што ў іх можна было ўтапіцца, як у азёрах з гарачай смалою. Вочы даўганосага хацелі пракалоць Дзіда-дзеда двума шы-

ламі. А ў той жа час яны былі такія гуллівыя, гарэзныя і кемлівыя, пранізваючыя і ўсёведаючыя, што Дзіда-дзеду на адзін міг захацелася праваліцца скрозь зямлю. Ад гэтых вачэй аддавала агідай, нібы ад смерці перад тым, як яна кульгіцнулася ў табакерку. Голас і вочы даўганосага былі, як у Смерці. Ён быў яе родным братам ці пляменнікам. Даўганосы сказаў так хітра, аж нельга было заўважыць, што ён падлабуньваецца пад Дзіда-дзеда. Ён так сказаў:

— З цябе, пан Заяц, выйшаў бы добры каталік. Я ад папы рымскага, Кія дзесятага, прыехаў да цябе, каб пра гэта сказаць. Яго святасць, Кій дзесяты, прыслаў мяне да цябе адкрыць табе гэты сакрэт.

Дзіда-дзед прамовіў з лёгкім смяшком:

— Ці варта было ехаць з-за гэтага ў далёкі свет! Можна было пісульку напісаць...

— Ёсць і цыдулка ад Кія дзесятага,— сказаў даўганосы.— Вось яна!

— Вельмі прыемна! Гэта для мяне такі гонар, такі гонар... Каб у мяне быў доўгі ў тысячы міль нос, я задзёр бы яго цяпер ад фанабэрыі да самага неба. Гэта ж піша мне не казёл рагаты, а Кій дзесяты! Чытай, чытай! — папрасіў Дзіда-дзед.

Даўганосы пачаў чытаць ліст Кія дзесятага да Дзіда-дзеда.

«У імя айца, сына і духа святога, амін. Я, намеснік бога на зямлі, Кій дзесяты, паведамляю рабу божаму Зайцу, што раб божы Заяц учыніў вялікі грэх. Слухай, разумей і дрыжы перад справядлівай сілай усемагутнага. Захаваўшы ангела Смерці ў табакерку, ты пераступіў непраходную адвечную мяжу божых законаў. Як вядома кожнаму, за непаслухмянства бог пракляў першых людзей на зямлі, Адама і Еву, смерцю. З таго часу вечнае жыццё можа быць толькі на небе, а не на зямлі. Для нябожчыкаў-праведнікаў ёсць месца ў раі. Нябожчыкі-грэшнікі вечна пакутуюць у апраметнай. У раі і пекле падрыхтаваны месцы для ўсіх людскіх пакаленняў аж да светапрадстаўлення. А цяпер, з-за тваёй табакеркі, праведнікам загароджана дарога ў рай, а грэшнікам — у пекла. Перасталі наведваць храмы божыя. Ніхто богу не моліцца і ніхто яго не баіцца. Спыніліся шчырыя лепты на дабрачынныя справы ўслаўлення нябеснага імені. Таму заклікаю цябе павяленнем айца неба і зямлі ўручыць майму даверанаму, кардыналу Баніфацыю, табакерку з прабываючай у ёй збі-

ральніцай вечных душ з тленных аблачэнняў па божаму вяленню, папярэдне абвязаўшы табакерку ў даўжыню і шырыню ў выглядзе святога крыжа моцным дротам. Як бог мне загадае, так я і паступлю з тым яго пасланцом, які так па-здрадніцку і агідна быў прыхлопнуты вечкам табакеркі. Падарую табе, раб божы Заяц, зямныя грахі, калі ўчыніш амавенне сваёй душы і свайго цела ў святым Іярдане каталіцкага веравызнання. Набліжаю сваю правую пантоплю да тваіх вуснаў, якімі да крыжа сына божага на ёй прычасце ўчыні».

— Шылам кісялю не схваціш. Нічога мне гэты святы пісьмапісец не зробіць. Аднак я не зразумеў апошняга ў пісьме Кія дзесятага,— сказаў Дзіда-дзед.— Чаго ён ад мяне хоча?

— Кій дзесяты хоча, каб пан Заяц па нашаму звычаю яго ў пантоплю пацалаваў.

Тады Дзіда-дзед сказаў у вялікай злосці:

— Няхай ён мяне па...

— Ціха, не думай лаяцца,— перабіў яго кардынал Баніфацы.

— Я хацеў сказаць: «Няхай ён мяне пакіне ў спакоі»,— сказаў Дзіда-дзед.— Годзе! Парві цыдулку! За вочы пугай ён мяне не насцёбае і рукою па спіне не пагладзіць.

— Пасланне папскае яшчэ не скончана,— сказаў кардынал Баніфацы.

— Чытай! — буркнуў Дзіда-дзед.

— Чытаю,— пакорна сказаў кардынал Баніфацы.

«Апошні твой грэх я табе, пан Заяц, ніколі не дарую. Адзін з маіх адданых нунцыяў прывёз мне ад цябе табакерку з тараканамі. Тараканы распладзіліся ва ўсім маім палацы. З палаца яны выпаўзлі і апанавалі ўсю Ватыканскую гару. Мне і маім людзям спаць не даюць. І знішчыць іх нельга. Яны ж па тваёй ласцы не паміраюць».

Кардынал Баніфацы падаў папскае пасланне ў рукі Дзіда-дзеду. Дзіда-дзед сказаў:

— Вельмі добра! Тут такія цікавыя выражэнні. Па гэтай цыдулцы буду вучыцца пісаць далікатныя пісьмы далікатным людзям. Значыць, нашы тараканы апанавалі вашага Кія дзесятага. Выходзіць, што кулік чайку ўзяў за чубайку!

Стаяўшыя за дзвярыма Саўка, Юрка Дратва і Люсенька слухалі ўважліва ўсё папскае пасланне. З сянец пачуўся іх новы рогат... «Ціха!» — крыкнуў да іх Дзіда-дзед.

А як стала ціха, ён звярнуўся да даўганосага такімі шчырымі словамі:

— Вось што я табе на ўсё гэта адкажу, кардынал Баніфацы! Скажы свайму папу, і маме, і дзеткам-блізняткам, і іхнім багам і бажаняткам: калі яны ўсе будуць мне яшчэ надакучаць, я ім буду выпраўляць кожны тыдзень цэлыя караваны, нагружаныя таракапамі, і не ў табакерках, а ў бочках. А мае тараканы, як ужо вядома на ўсім Ватыкане, вечныя і куды больш плодныя, чым тады, калі на зямлі яшчэ панавалі Смерць, і яе дзядзенькі, і цётачкі, і пляменнікі, і дзеткі, і ўнукі.

Дзіда-дзед пры гэтым ветліва пакланіўся кардыналу Баніфацыю і прамовіў:

— Магу напісаць пра гэта Кію дзесятаму ўласнаручна.

— Не трэба! Я словамі перадам,— загаварыў кардынал Баніфацы проста.— Вось што, пане Заяц. Бачу, што ты разумны гаспадар жыцця і смерці. Старому Кію дзесятаму папалася ад цябе па заслугах. Аднак я дзесяць год чакаю канчыны яго святасці, каб заняць яго месца, і дачакацца не магу. У апошні час ён праляжаў аж тры месяцы хворы. Ён ужо быў такім спелым яблыкам, што вось-вось павінен быў упасці з дрэва жыцця. Цяпер я страціў надзею, каб мяне выбралі на яго пасаду, хоць даўным-даўно ўсе семдзесят два кардыналы мною падкуплены. Да тых часоў, пакуль Смерць будзе ў тваёй табакерцы, Кій дзесяты будзе падстаўляць каталікам усяго свету сваю пантоплю на пацалунак. Што рабіць, пане Заяц? Ці ж мая пантопля горшая?

— Не бойся, каток ты мой,— сказаў Дзіда-дзед.— Кій твой ад адных таракапаў уцячэ туды, куды Макар ніякімі кіямі цялят не гнаў. Нацкую на Ватыкан гэтулькі тараканаў, што нават святое папскае войска рады не дасць. Магу яшчэ камандзіраваць туды клапоў і блох, жаб і пацукоў і іншых жыхароў егіпецкіх... Якая наша сілка, такая будзе і скібка...

— Годзе! — сказаў кардынал Баніфацы.— Не пужай, пане Заяц. Я ж ведаю тваё добрае сэрца. Не засыпай пяском зла золата сваёй душы. Я вельмі рад, высокапастаўлены над усімі намі пан Заяц, што меў гонар пазнаёміцца з табою. Пакліч сюды сваю шаноўную фамілію. Я кожнаму яе прадстаўніку прывёз на добрую памяць дрындушачку з Ватыканскай гары.

Дзіда-дзед засмяяўся і паклікаў:

— Саўка! Юрка! Люсенька! Сюды! Наш госць — доб-

ры дзядзенька. Ён хоча расчыніць перад вамі пялюсткі свайго сэрца праз дары са святой рымскай гары. Як гэта кажуць, няма худа без дабра.

Саўка, Юрка і Люсенька ўвайшлі з сянец у пакой. Кардынал Баніфацы даў кожнаму з іх па залатой табакерцы з добрым папскім тытунём, а дзяўчынцы ўсыпаў у табакерку жменю рубінаў, дыяментаў і сапфіраў. У Дзіда-дзедавай убогай хаціне яны заблішчэлі, як зоркі.

— А вось пантопля Кія дзесятага! — сказаў кардынал Баніфацы і выцягнуў з-пад чорнага адзення з кішэні штаноў аксамітную пантоплю з вышытым на ёй залатымі ніткамі крыжыкам.— Можаш забраць сабе на памяць, пане Заяц! — сказаў вясёлым голасам кардынал Баніфацы.— Перадам яго святасці, што пан Заяц у кожную раніцу замест малітвы цалуе пантоплю.

Дзіда-дзед засмяяўся.

— Я пакуль што не каталік,— сказаў ён.— Але, калі сустрэнуся з добрымі каталікамі, надзену пантоплю на правую нагу і заткну рот праведных каталікоў пантопляй, калі яны пачнуць мне глупства плясці.

Кардынал Баніфацы засланіў свой рот рукой і сказаў:

— Хачу развітацца з панам Зайцам па-добраму!

— Дзядзенька сапраўды добры! — сказала Люсенька, перабіраючы пальцамі дарагія камені ў залатой табакерцы.

— Калі пан такі добры,— сказаў Юрка Дратва,— дык я дам пану па сакрэту парашок супраць тараканаў.

Юрка Дратва дастаў з кішэні пушачку і падаў кардыналу Баніфацыю. Кардынал падзякаваў, палажыў пушачку ў кішэнь, усміхнуўся і сказаў:

— Пан Юры забыўся, што цяпер ніякія ранейшыя парашкі не дзейнічаюць на насякомых.

Шчыры Юрка Дратва з крыўдай падаіў сябе за рэдкую бародку і сказаў:

— Пан кардынал яшчэ добра Юркі не ведае. Калі Юрка кажа: парашок ад тараканаў, дык гэта цяперашні парашок ад цяперашніх тараканаў. Мы з аптэкарам Савіцкім цэлыя суткі галовы ламалі над тым, як бараніцца ад тараканаў. Наконт тараканаў магу з папам рымскім у ачко пагуляць. Мне здаецца, што я выйграю. У мяне вельмі шмат тараканаў.

Кардынал Баніфацы смеючыся запытаўся:

— І прыдумалі парашок?

— Прыдумалі! — сказаў Юрка.— Маё слова моцнае,

як дратва! Калі кажу прыдумалі, дык прыдумалі! Парашок усыпляе тараканаў.

— А сон доўга цягнецца? — зацікавіўся кардынал.

— Пяць год, а калі павялічыць дозу, дык і дзесяць год. Не толькі таракана, і мядзведзя можна ўсыпіць! — пахваліўся Юрка Дратва.

Твар кардынала Баніфацыя заззяў, як сонца. Ён сказаў:

— Дзякую за парашок. Усяго добрага! Павязу Кію дзесятаму падарунак ад пана Юрыя. Яго святасць вельмі ўзрадуецца. Усяго добрага ўсім!

Высокі кардынал Баніфацы адчыніў нізкія дзверы і нагнуўся так, нібы яму трэба было пралезці праз падваротню. Ён выйшаў, не ўдарыўшыся галавой, і моцна стукнуў клямкай. А Дзіда-дзед стукнуў сябе моцна пальцам у лоб.

— Ах ты, Юрачка, ды з цымбаламі, водзіш дружбачку з кардыналамі. Я мёдам пішу, а ты смалою падпісваешся? Ты ж мне сапсуў усю капэлю... Сон — блізкі кум Смерці. А калі я выратаваў жыццё ад Смерці — ты з рознымі аптэкарамі Савіцкімі пачаў прыдумляць парашкі на сон? Брыдка! І яшчэ раз брыдка...

Юрка Дратва аж зачмыхаў носам ад згрызоты і пачаў апраўдвацца:

— Вельмі ж мне надакучылі тараканы...

Дзед спыніў апавяданне і дарваўся да тытуню. Унукі запыталіся:

— Кій дзесяты б'ецца?

— Кожны кій б'ецца, дзеткі мае, калі пападзе ў злосныя рукі. Толькі, калі бліжні захоча вас пабіць адзін раз — паруппеся раней і пабіце яго дзесяць разоў. Ага! Добра, што ўспомніў, дзеткі. Вазьміце парашок, што я ўчора купіў у аптэцы, і пасыпце на мой стол. На ім завяліся тараканы.

## У КАРАЛЯ ПІНГ-ПОНГА

У гэты вечар дзед лёг рана спаць, і музыка ўнукаў на балаласчках і губных гармошках яго не разбудзіла. Дзеці дайграліся да таго, што далі сабе слова — больш ніколі ў жыцці не граць ні на якіх інструментах. Іх захапіла толькі

адно жаданне: даведацца як найхутчэй, што ў гармошках і балалаечках унутры.

І што яны зрабілі?

А вось што яны зрабілі!

Разбілі інструменты на кавалачкі і нічога асаблівага ў іх унутры не знайшлі. Ім стала сумна ад таго, што нічога не знайшлі, і ад таго, што не стала ў іх ні балалаечак, ні гармошак.

Назаўтра яны пайшлі з дзедам у брусніцы, і дзед іх папракаў:

— Шкада, дзеткі, што знішчылі музыку. А то вы гралі б на ўвесь лес, наляцелі б птушкі і назбіралі б вам поўныя кошыкі бруснічак.

— Я не хачу, каб за мяне іншыя працавалі,— сказаў унук.

— І я не хачу,— сказала ўнучка.

— Калі так любіце працу,— узрадаваўся дзед,— дык ваша шчасце вырасце высока, як тыя два дубы, што ля нашай хаты. Сёння ўвечары я вам зноў буду гаварыць гісторыю Дзіда-дзеда.

Так ён і зрабіў.

Пасля вячэры дзед запытаўся ва ўнукаў:

— Вы памятаеце пані Сарачынскую?

— Яна апранулася ў пер'е прыгожай Павы,— сказаў унук.

— Саўка даў ёй табакерку з ружай і запісачкай, але без Смерці.

— Згодзен! — узрадаваўся дзед.— Цяпер слухайце. Эге! Пані Сарачынская паляцела тады ціхачом да хірурга. Пацягнула за званок, яе ўпусцілі. Хірург — высокі, чарнявы заіка — здзівіўся. Пасля таго як Дзіда-дзед схаваў Смерць у табакерку, ніхто ў хірургу не адчуваў аніякай патрэбы.

— Вы, ма-ма-ма-ма-ддам Пава, па якой справе? — запытаўся ён.

— Я,— сказала пані Сарачынская,— хачу, каб вы мне зрабілі аперацыю.

— А-пе-пе-пе-р-рацыю?! — здзівіўся хірург.— Цяпер?!

— Цяпер,— сказала пані Сарачынская.

— Што вам б-б-баліць?

— Нічога не баліць. Хачу нешта схаваць у жываце, каб ніхто не ўкраў,— тлумачыла Сарока.

— Пе-пе-першы в-вы-п-п-падак у маёй п-практыцы,— здзівіўся хірург. Што-ж! Ап-п-перацыя лёгкая... Ніхто цяпер па-па-памяці не м-м-можа. Жыццю па-па-па-пагрозы няма. Што ма-ма-ма-мадам Пава хоча схаваць?

Пані Сарачынская паказала яму табакерку.

— С-с-с-са С-с-смерцю? — здзівіўся хірург і выпучыў на яе вочы.

— Са Смерцю! Толькі няхай пан хірург не баіцца, табакерка моцная. Смерць не выскачыць.

— Я не ба-ба-ба-баюся Смерці,— сказаў хірург.— Мы з ёй добрыя знаём-м-мыя!

Яны старгаваліся. Пані Сарачынская наперад заплаціла чыстым золатам. Хірург адзеў белы халат і ўзяўся за свае інструменты. Пані Сарачынская папрасіла хірурга, каб ён па памылцы не адрэзаў ёй крыло. Колькі ён не даваў ёй на сон — сон яе не браў.

— Мне балець не будзе,— сказала Сарока.— Бо разам са Смерцю прапаў і боль.

Калі хірург пачаў рэзаць жывот, ёй добра забалела, але яна сцярпела, сцяўшы рот, і была давольна, што не заснула. Каб яна заснула, ён мог бы палажыць ёй у жывот камень, а табакерку сабе забраць. Табакерка была зашыта ў сарочым жываце моцнымі шаўковымі ніткамі.

Зараз жа пасля аперацыі пані Сарачынская паляцела ў свет.

Сарока ляцела ў свет, а яе цётка ляцела наперадзе і кракала на ўвесь свет, што табакерка са Смерцю знаходзіцца ў адной Павы-красуні. А наперадзе цёткі Сарокі ляцела родная сястра Сарокі і раструбіла, што прыгожая Пава схавала табакерку ў такім месцы, што ніхто яе ніколі не знойдзе. А ў другім канцы свету другая сястра Сарокі выдумала, нібы прыгожая Пава кладзе залатыя яечкі з дыяментавымі бялкамі і рубінавымі жаўткамі. А ў трэцім канцы свету трэцяя сястра Сарокі нахлусіла, што ў цудоўнай Павы ёсць на востраве Гайда-Гайда палац з белага мармуру і што яна прынцэса і катаецца на шасцёрцы арлоў у залатой карэце. А чацвёртая сястра Сарокі пусціла чутку, што гэта не Пава, а пераапранутая ў Паву дачка караля Траляляя з зямлі Гуляляя і яе сапраўдная імя — Ляля.

Гэтыя чуткі дайшлі да вушэй маладога караля Пінг-Понга за трыдзевяць зямель, за марамі-акіянамі.

Кароль Пінг-Понг насіў тады чорную жалобу па чорнай Смерці, палон якой атруціў яму жыццё і спыніў усе яго радасці. Бо раней ён кожны дзень перад снеданнем для прыемнасці ўласнай рукой адсякаў галаву аднаму са сваіх падданых, а калі Смерць апынулася ў табакерцы, гэта прыемнасць кончылася. Як ён ні пробваў размахваць мячом, яго рука не магла апускацца на галаву чалавека, каб забіць яго.

Кароль Пінг-Понг перастаў есці, засумаваў і высах так, што страшна было на яго зірнуць. Кароль за вочы палюбіў прынцэсу Лялю, дачку караля Траляляя. Ён паслаў свайго канцлера да невядомага караля ў невядомую зямлю перадаць бацьку прынцэсы Лялі багатыя падарункі, нізкі паклон і просьбу, каб той аддаў яму, Пінг-Понгу, прынцэсу Лялю за жонку.

Тым часам пані Сарачынская ў пер'ях Павы, з табакеркай у жываце, нібы зацяжараная Смерцю, даведалася, што ў яе закахаўся кароль Пінг-Понг, і паляцела адразу ў яго каралеўства.

«Вечная будзе цяпер любоў Пінг-Понга да мяне»,— думала фальшывая Пава і да таго ўзгардзілася, што задзірала нос перад арламі і сокаламі.

Вось якія думкі і мары апанавалі яе:

«Смерць усяго свету ў маіх руках. Я — багіня зямлі. Я ў хуткім часе стану жонкай караля Пінг-Понга. Надыдзе час — адчыню табакерку, накіну на Смерць залаты ланцужок і буду яе за сабой вадзіць, як пакаёвага цюціка. Эх, расплачуся тады з усімі маімі злоснікамі... Хто не пакловіцца мне нізка да зямлі, хто пра мяне хоць падумае кепска — на таго нацкую Смерць. Я скажу: «на-цю-на! Душы яго, Смерць! Лаві яго!..» А ўсіх тых, хто на мяне зірне без пашаны — сатру ў нюхальны тытунь. У першую чаргу ад мяне пападзецца пану Зайцу. Я загадаю Смерці, каб яна мучыла яго аж дзесяць год. Як жа мне называць Смерць? Я назаву яе Мопсікам. На каралеўскіх балах буду ёй гаварыць: на, Мопсік, на! Кусі, Мопсік, таго, хто жартуе з мяне! Кусі, Мопсік, таго, хто кажа, што я непрыгожая, што я злая, што я звадыятка, што я не каралеўскага роду, што ад мяне пахне дзёгцем... Кусі! Кусі! Кусі! Мой Мопсік-Смерць расквітаецца з усімі маімі ворагамі. А калі на бале я астануся адна, калі Мопсік усіх-усіх перарэжа,— тады таксама не бяда. Калі такім чынам спушчу ў магілу ўвесь

свет — таксама не бяда. Мяне Смерць чапаць не будзе за тое, што я выпушчу яе на волю. Смерць будзе маёй адзінай шчырай падружкай. Я тады на ўсім свеце расстаўлю люстэркі, па ўсіх пустых гарадах і сёлах, па ўсіх пустых лясах і садах і, куды ні гляну, буду бачыць каралеву Пінг-Понг. Вось як!»

Так марыла Сарока, злая, хітрая і дурная.

Тым часам галоўны канцлер караля Пінг-Понга па дарозе даведаўся, што прынцэса Ляля, гэта значыць Сарока, сама едзе ў каралеўства Пінг-Понга, і вярнуўся з дарогі, каб наладзіць былой пані Сарачынскай належную пышную сустрэчу.

Калі фальшывая прынцэса Ляля наблізілася да каралеўства Пінг-Понга, ёй насустрач выйшлі ўсе падданыя. Так праводзілі яе аж да каралеўскага палаца. А ў багатым палацы караля трубілі так пышна ў сярэбраныя і залатыя рагі, ажна шчокі трубачоў надзьмуліся, як шары. Там свісталі ў прыгожыя флейты так старанна, ажна губы ў флейцістаў апухлі і пальцы забалелі. Адгулялі такое вяселле, царадворцы так перапіліся, што, каб Смерць не сядзела ў Дзіда-дзеда ў табакерцы,— яны ўсе памерлі б.

Канешне, усе ў каралеўстве Пінг-Понга думалі, што Смерць знаходзіцца ў руках каралевы.

Вяселле гулялі цэлы год. Але, мяркуючыся з тым, што ніхто цяпер ніколі не памрэ, год можна было лічыць хвілінай. Галоўны канцлер адважыўся сказаць каралеўскай вялікасці, што вяселле трэба гуляць дзесяць год.

Кароль Пінг-Понг яму адказаў:

— Каб гэта было раней, я ўласнаручна з вялікай прыемнасцю зняў бы тваю галаву за такую заўвагу мне, твайму каралю. Але ты цяпер неўміручы. З-за тваёй авечай галавы яе каралеўская вялікасць, мая жонка, не выпусціць Смерць з табакеркі. Разумей, што, нягледзячы на тое, што мы цяпер неўміручыя, кожная хвіліна жыцця ўсяго каралеўства мне вельмі дарага. Хопіць адзін год для майго скромнага вяселля. Мая жонка, яе каралеўская вялікасць, не мае часу займацца вяселлем. Яна занята вельмі сур'ёзнай справай — та-ба-кер-кай!

Кароль Пінг-Понг гнеўна тупнуў нагой і выгнаў свайго канцлера не толькі з палаца, але з каралеўства.

Так ён паступіў з усімі міністрамі і начальнікамі, хаця ў душы любіў іх за шчырую службу.

Усе высокія каралеўскія пасады занялі цяпер Сарокі: браты, дзядзі ды іншыя сваякі каралевы.

Кароль страшна баяўся сваёй жонкі. Затое ён вельмі ганарыўся яе сілай. Яна сама сто разоў на дзень гаварыла:

— Захачу, выпушчу Смерць з табакеркі і знішчу ўвесь свет!

І, не доўга чакаючы, яна задумала выканаць тое, аб чым увесь час марыла: трымаць Смерць на залатым ланцужку, як пакаёвага цюціка, і даць ёй мянушку Мопсік.

Лепшыя ювеліры каралеўства займаліся выкоўваннем лёгкага і моцнага залатога ланцужка для найстрашнейшага на свеце Мопсіка.

Найлепшы хірург каралеўства рыхтаваўся да аперацыі, каб дастаць з жывата каралевы Лялі сярэбраную табакерку. Усё каралеўства дрыжала ад страху. Падданыя шапталіся па кутках са спалохам і агідай.

— Хутка з'явіцца ў палацах каралеўскі наследнічак. Мы павінны будзем плаціць гэтаму наследнічку чыншы і падаткі не абы-якія. Замест пшаніцы, мёду, воску і залатых дукатаў — мы павінны будзем аддаваць свае галовы. Каралеўскі наследнічак — Смерць...

Каралеўскі хірург, у залатых акулярах і ў белым, як снег, халаце, дрыжаў ад страху як асінавы ліст. Жарточкі — ён можа ненарокам зачапіць нажом табакерку ў жываце яе вялікасці каралевы, табакерка адчыніцца — і Смерць шусь яму ў залатыя акуляры...

Аперацыя прайшла вельмі ўдала. Калі табакерка ўжо стаяла на століку, а жывот яе вялікасці быў зашыты, хірург выйшаў з пакоя смертарадзіцелькі і тры гадзіны трымаўся за сэрца ад страху.

Нельга сказаць, каб цяперашняя каралева, наша добрая знаёмая пані Сарачынская, сама не баялася табакеркі. Але яна ўладала добрай зброяй супраць страху — вялікім пачуццём цікаўнасці. Яшчэ даўней дзеля сваёй цікаўнасці яна не раз лезла на вастрыню нажа.

Каралева Ляля заперлася ў пакоі на сем замкоў, маючы пры сабе толькі маленькага беленькага сабачку. Яна спрабуе першы раз сілу Смерці на сабачку. Яна, каралева Ляля, узяла са століка табакерку ў рукі і сказала:

— Бедная палонніца! Дарагая цёця Смертухна! Выпускаю цябе на волю з той умовай, каб ты мяне ніколі-ніколі не чапала, каб ты мяне слухалася. Ты будзеш у мяне на залатым ланцужку ў пашане і любасці. Дам табе волю знішчыць хоць увесь свет, у першую чаргу тваіго і майго заядлага ворага — пана Зайца. Ты, Смертухна, ужо сама будзеш ведаць, што з ім рабіць. Прымі вобраз маленькага чорненькага цюціка. Ты будзеш заўсёды на маіх каленях, са мною. Будзем есці з адной талеркі, спаць у адным ложку. Люблю цябе, Смертухна, люблю цябе...

Вочы ў каралевы Лялі заблішчалі двума аганькамі. Яны ў гэту хвіліну былі нават прыгожыя. Яна ўзяла табакерку ў рукі, цалавала яе і шаптала салодкім галасам:

— Ты — мая першая любоў. Люблю цябе, Смертухна, люблю цябе... Усё, што належыць мне, належыць табе.

Гэта былі першыя шчырыя словы каралевы Лялі. Яна сцяла рот, падрыхтавала залаты ланцужок, адчыніла табакерку, утаропіла ў яе вочы і ад галавы да ног уздрыганулася, бо ў тую хвіліну яна падумала, што мае справу з вельмі страшнай асобай, перад якой дрыжаць нават каралі і каралевы. Ёй стала так страшна, што кругі мітусіліся перад яе вачыма, і яна страціла прытомнасць.

Калі праз некалькі хвілін каралева Ляля ачухалася, яна азірнулася навокал. У пакоі не відаць Смерці. Яна зірнула ў табакерку і ўгледзела завяўшую белую ружу і запісачку.

Яна з нецярплівасцю чытала:

«Шаноўная пані Сарачынская! Калі вы адчынілі табакерку, значыць, вы больш за мяне адважная, бо Смерці не пабаяліся. Канешне, я не скупы, каб пашкадаваць для вас сярэбраную табакерку, зробленую выключна для вас у аднаго з лепшых ювеліраў. Канешне, я не такі дурань, каб аддаць у вашы ручкі палонніцу. Але вы, разумная птушачка з галавой міністра, можаце прыдумаць штонебудзь цікавае ў сувязі з гэтай табакеркай. Скажыце, што Смерць у ёй. Жадаю вам поспеху. Я ўпэўнены, што нават будзеце рады майму абману, бо раззлаваная мною Смерць адразу кінулася б на вас і магла б выдрапаць вашы ясныя, прыгожыя вочкі. Пры гэтым дарую вам белую ружу. Яна напэўна завяла ў табакерцы. Насіце свежыя белыя ружы, каб ад вас не так моцна пахла дзёгцем. Астаюся з пашанай і любоўю да вас. Заяц».

Прачытаўшы запісачку, каралева Ляля павесялела. «Я храбрая,— падумала яна.— Не пабаялася адчыніць табакерку, думаючы, што ў ёй Смерць. Разумны гэты пан Заяц. Дзякую яму, што не падсунуў мне тую — страшную табакерку. Бо Смерць магла мяне зарэзаць...»

Яе вочы засвяціліся ўпершы раз шчырай дабратой, удзячнасцю да Дзіда-дзеда, але тут жа на яе напала роспач і яна заламала рукі і загаварыла сама з сабою:

— Што рабіць? Усё каралеўства маё са страхам чакае вызваленай з табакеркі Смерці ў выглядзе цюціка на залатым ланцужку ў маіх руках. Што рабіць? Што рабіць?

У гэты самы час да ног каралевы лашчыўся маленькі беленькі цюцік. У каралевы бліснулі вочы ад радасці. На акне стаяў флакон з фарбай, якой рыжы кароль Пінг-Понг фарбаваў валасы ў чорны колер. Каралева гэтай жа фарбай пафарбавала белага цюціка на чорнага, пачакала, пакуль фарба добра высахла, накінула на цюціка залаты ланцужок і выйшла з ім у тронны зал, дзе сядзелі ўсе прыдворныя.

Усе прыдворныя князі і княгіні, графы і графіні, бароны і баранесы ды іншыя высокапастаўленыя асобы ўздрыгануліся ад страху. Усе думалі, што на залатым ланцужку каралева Ляля вядзе Смерць у выглядзе сабачкі. Усе прыдворныя, пабляднеўшыя ад хвалявання, узняліся са сваіх месц. А калі цюцік назнарок уступіў адной прыгожай фрэйліне на доўгі, пышны шлейф, тая крыкнула «ой» і страціла прытомнасць.

Прыдворныя разам з каралём кінуліся было наўцёкі, але каралева іх супакоіла, пагладзіла цюціка па галоўцы і сказала:

— Ты, Мопсік, нікога не чапай. Вось так. Мая прыгожая фрэйліна зноў ажыла. Я хачу, каб фрэйліна вечна жыла. Яна ж шчырая і добрая, як я сама.

Усе пакрысе супакоіліся. Фрэйліна адразу прывыкла да Смерці і кінула ёй са стала шакаладку. Смерць у вокамгненне глынула шакаладку.

— Раней яна ела ўсё жывое, а цяпер не хоча карміцца нашымі падданымі,— сказала каралева.— А ты, мілая фрэйліна, не бойся Смерці. Заві яе Мопсікам. Назначаю цябе слугою чорненькага Мопсіка.

Пры гэтым каралева падставіла руку да губ фрэйліны. Фрэйліна пацалавала руку каралевы, зрабіла рэверанс і павяла Мопсіка ў патрэбны пакой, бо вучонаму Мопсіку нешта захацелася, і ён заскавытаў.

З'яўляліся да каралевы Лялі рыцары Смерці з усяго свету, але, угледзеўшы Мопсіка, яны так напалохаліся, што ўцяклі куды вочы глядзяць.

Далёка за межамі свайго каралеўства пайшла слава пра добрую каралеву Лялю. Яна так спакарыла Смерць, што тая, будучы на волі ў выглядзе Мопсіка, нікога не чапае. Ніхто на свеце не памірае. Усе называюць каралеву Лялю найяснейшай, наймілейшай, найпрыгажэйшай каралевай на свеце.

Калі каралева Ляля спявала сваім агідным голасам, усе гаварылі, што яна найлепшая на свеце спявачка. Калі яна пальцамі перабірала струны арфы, усе ў адзін голас пацвярджалі, што каралева Ляля грае лепш за ўсіх музыкантаў на свеце.

— На сёння хопіць, дзеткі мае,— сказаў дзед.— Раніцай ваша добрая маці напячэ бліноў. Вы сніце ўночы не каралеву Сароку, а смачныя бліны з верашчакай!

— Добра,— абяцалі ўнукі,— будзем сніць бліны з верашчакай!

## ПРЫ НАЧНЫМ ВОГНІШЧЫ

Раніцай уся сям'я ела пшанічныя бліны з верашчакай. Дзед апускаў аксамітны, пухкі блін у залацістую манку, нібы невад у глыбокае возера. Замест шчупакоў ён спрытна лавіў скваркі і кавалачкі каўбасы. Зверху ён клаў залатыя круглячкі жаўткоў з крутых яечак, якіх называў зоркамі, што апусціліся з неба ў печ праз комін.

— Ведаеце,— гаварыў пры гэтым дзед,— у вас, дзеткі, больш золата, чымся ў багатага караля Пінг-Понга. Ваша мама залатая.

Спаха, пачуўшы такія перлы замест слоў, падала дзеду поўны коўш пеністага яблычнага квасу, прыпраўленага мёдам. Дзед піў і прыгаварваў:

— Першы глыток п'ю ў чэсць вашай залатой мамы. Няхай яна доўга жыве!

— Другі глыток п'ю за здароўе вашага бацькі і майго сына. Жадаю яму шмат год добрага жыцця!

— Трэці глыток п'ю за вас, унукі родныя!

Дзед зрабіў шчырыя тры глыткі, зірнуў у свой вяліз-

ны коўш з празрыстага шкла. Пітво кончылася. Тады дзед сказаў:

— Няхай вашы добрыя дзеі, плотачкі мае, будуць празрыстыя і чыстыя, як гэтае слаўнае шкло. Ніколі, малыя, не карыстайцеся чужой славай. Не бярыце злых прыкладаў са злой і фальшывай каралевы Лялі. Лепш свая смачная бульбачка, гарачанькая з маслёначкай, з гурком, з салодкай смятанкай, ці з насквaранай саланінай, альбо з селядцом,— чымся чужы посны недапечаны блін. Эге!

Дзед хацеў ад вясёласці патупаць нагамі пад сталом, але яблычны квас быў мацнейшы за яго ногі. Тады дзед паківаў галавой, зацмокаў губамі і сказаў:

— Слаўны квасок! Ён хмеліць не галаву, а ногі.

Дзед заспяваў:

Ой, у полі вярба,
Пад вярбою вада,
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка маладa.

Не скончыўшы песні, дзед заснуў пры стале. Яго, спячага, панеслі пад рукі ў бакавую каморку.

Калі дзед добра выспаўся, ён звярнуўся да ўнукаў:

— Можа, наш Дзіда-дзед зайздросціў фальшывай славе пані Сарачынскай? Не трэба так думаць, дзеткі. Дзе там! Як я ўжо гаварыў, ён доўга збіраўся ў дарогу. Разам з Дзіда-дзедам збіраліся ў дарогу Саўка, Юрка ды іхнія сем'і.

Перад развітаннем з роднай хаткай у Дзіда-дзеда так сашчамілася сэрца, што ён пусціў некалькі слёз са сваіх вечных вачэй. Ён успомніў, што розныя паляўнічыя перабілі ўсю яго сям'ю і яго хата застанецца цяпер зусім пустой. Яму цяжка было вырвацца з хаткі, нібы ногі былі прыклеены смалой да падлогі. Ён узяў лапату, выкапаў каля хаткі ямку і пасадзіў туды малады дубок. Гэты дубок павінен быў азначаць, што Дзіда-дзед яшчэ вернецца дамоў. Люсенька папрасіла Дзіда-дзеда пасадзіць другі дубок за яе, бо і яна вернецца сюды. Дзіда-дзед ахвотна выканаў просьбу дзяўчынкі.

Урэшце выбраліся ў дарогу.

У Саўкі быў конь і карова. Запраглі каня ў вялізны воз, які Юрка Дратва купіў у аднаго местачковага бала-

гула. На воз палажылі бебахі, пасадзілі Люсеньку і дзяцей Саўкі і Юркі, да воза прывязалі Саўкіну карову, пагналі каня і пайшлі за фурманкай.

У той час ужо многа дзе дачуліся, нібы Смерць знаходзіцца ў каралеўстве Пінг-Понга. Дзіда-дзед быў рады, што яго больш ніхто непакоіць не будзе.

Па дарозе, пад гару, конь занараваўся і не хацеў рухацца з месца. Конь не слухаўся і пугі гаспадара. Тады Саўка выламаў кол і намерваўся біць каня калом. Дзіда-дзед крыкнуў на Саўку:

— Што ты робіш? Ты ж яго заб'еш!

— Ён жа цяпер неўміручы...— апраўдваўся Саўка.

— Зусім забыўся,— смеючыся, сказаў Дзіда-дзед і намацаў за пазухай табакерку.

— Каню цяжка цягаць такую фуру, напакаваную паўнютка ды яшчэ з коптарам, а на коптары — восем чалавек дзяцей. Давай, пане Заяц, купім яшчэ пару коней. Тады і мы самі не будзем тупаць пехатой.

Так яны і зрабілі. Кожная сям'я сядзела на сваім возе. Вакол гэтых трох фурманак кружыўся ўюном Саўкін паляўнічы сабака, які зваўся Кудлаты.

Было вельмі пагоднае лета. Жыта стаяла вышэй чалавечага росту. Хто больш за ўсіх радаваўся такой вандроўцы? Люсенька і дзеці Саўкі і Юркі. А паколькі іх было восем, дык і радасць была павялічана ў восем разоў.

Нанач яны спыніліся ў ляску пры дарозе каля чыстага ручая. Яны паставілі палатку, якую Юрка Дратва не забыўся купіць, прынеслі з лесу хворост і расклалі вогнішча. Дзве жанчыны — жонкі Юркі і Саўкі — рыхтавалі вячэру. Дзеці падкідвалі на агонь сухія галіны, а трое мужчын селі на траве ля палаткі і давай меркаваць, што далей рабіць.

З голаду яны, канешне, цяпер не памруць, калі не будуць есці хоць тысячу год. Але будзе ўсё ж непрыемна, аслабееш, і ад цябе астанецца вечная скура і вечныя косці. Доўга яны меркавалі аб усім гэтым, але пакуль што да нічога не дадумаліся. Праўда, можна было вярнуцца ў свае старыя гнёзды, але цяга да вандроўкі раптам апанавала кожнага з іх з такой сілай, што гэту сілу нельга было перамагчы.

Калі добра пацямнела, усе павячэралі гарачай стравы. Дзеці забаўляліся пры агні з Кудлатым, пакуль за-

снулі. Старэйшыя дзеці панеслі меншых у палатку, дзе для іх ужо былі паложаны пасцелі. Хутка за імі пайшлі спаць і дарослыя, запутаўшы коней у жалезныя путы.

На варце астаўся Кудлаты.

Была ясная летняя ноч. На ўсходзе свяціў яркі маладзік у выглядзе залатой табакеркі. Зоркі былі рассыпаны па цёмна-сінім полі неба маленькімі шчапоткамі залацістага нюхальнага тытуню, і адкідвалі на зямлю брыскі святла, нібы іскры. Апрача Кудлатага, пасля дзённых клапот усе вандроўцы спалі салодкім спакойным сном.

Разбойнікаў баяцца ніхто не мог. Было нават смешна падумаць, што можна аднімаць жыццё ў неўміручых. Асцерагацца трэба было толькі зладзеяў — і то асабліва баяцца іх не было чаго. Бо калі раней людзі кралі, каб не паміраць з голаду, дык цяпер ніхто з голаду не паміраў. Кралі толькі па старой прывычцы — для забавы. Такім чынам, нашы вандроўцы маглі спаць у чыстым полі смела, як у сваёй хаце.

Надышла поўнач.

Навокал стаяла цішыня. У цішыню ўрэзвалася толькі бразгатанне конскіх жалезных пут. Раптам завыў Кудлаты. Гэты разумны паляўнічы пёс пабачыў на ўзлессі дзве пары маленькіх, як іскры, аганькоў. Аганькі рухаліся да коней.

Гэта былі два ваўкі.

Кудлаты ўскочыў на ногі, натапыршчыўся, і па ўсім абшары пачулася:

— Гхаў-гхаў-гхаў!

Кудлаты прывык галоўным чынам да звягі ў форме: «іях-іях-іях! дзях-дзях-дзях!» Не зусім прывычнае для яго «гхаў-гхаў-гхаў» здавалася не шчырым. Аднак з трывогай прачнуліся ўсе: і старыя, і малыя.

Яны заўважылі ля коней двух шэрых аграмадных ваўкоў. Коні не звярталі на ваўкоў ніякай увагі. Усе рассмяяліся старой прывычцы Кудлатага.

— Кудлаты меў прычыну брахаць,— сказаў Юрка Дратва.— Розум Кудлатага сшыты моцнай дратвай. Бо ваўкі маглі сцягнуць з вазоў што-небудзь з нашых харчоў. Ваўкі астаюцца ваўкамі.

Тым часам Кудлаты супакоіўся і загульваў з ваўчыхай. А воўку на спіну ўскочыла Люсенька і давай катацца. Воўк быў спакойны, як цялушка. Тады Дзіда-дзед прапанаваў:

— Ведаеце што, браткі? Возьмем з сабою і ваўчкоў.

Няхай дзеці бавяцца з імі, ды ў гаспадарцы прыгодзяцца гэтыя шэрыя лясныя дзядзенькі.

Сказаўшы гэта, Дзіда-дзед кінуў ваўкам па акрайцу хлеба і прывязаў ціхіх звяроў да свайго воза. Доўга ён іх гладзіў і гутарыў з імі:

— Вы, бедныя, засумавалі па мясу, па жывой крыві... Нічога! Лепш галоднаму галавою сівець, чым сытаму сэрцам паршывець.

Усе зноў пайшлі спаць.

Не паспелі яны паспаць і гадзіны, як іх зноў разбудзілі. На гэты раз іх супакой парушыў чалавек. Дзіўны быў ён, гэты чалавек. За ім бег сабака, а на вяровачцы чалавек вадзіў магутнага гордага Льва — былога цара звяроў.

Нашы вандроўнікі на хвіліну аслупянелі.

Яны прывыклі бачыць Льва ў моцнай жалезнай клетцы, спацыруючага туды і сюды ў цесным квадраце няволі. Быў ён хоць і ў няволі, але з гордай асанкай, з залацістымі вабнымі прыгожымі вачыма, з акладзістай барадой патрыярха. Ён, бывала, ляскатаў па жалезных кратах клеткі магутным хвастом з кутасом на канцы. А калі Леў рыкаў — з яго пашчы дымілася пара, дрыжала паветра і сэрцы ўсіх наведвальнікаў цырка.

Цяпер Леў быў такі смірны, што не ўзнялася поўсць ні ў воўкаў, ні ў Кудлатага, ні ў коней. Звяры і жывёлы толькі абнюхваліся на першае знаёмства, як члены адной вялікай сям'і неўміручых.

Ужо шмат пазней чалавек, які прывёў Льва, апавядаў ім, што Леў самавольна пайшоў з цырка. Па дарозе ён лапай адчыняў дзверы ў чужыя кватэры і кленчыў і жабраваў. З жаласці гаспадыні давалі яму часам гарачую страву і хлеб. Нейкая сердабольная жанчына насунула на яго шыю торбу і палажыла ў ёй пару булак хлеба і вялізны сыр.

Пробавалі дзеці на ім катацца, але ён асцярожна ссаджваў іх на зямлю і не дазваляў. Хоць быў ён вельмі дабрадушны, але гордасць асталася ранейшая.

У маладога чалавека была густая кучма валос, мроїстыя вочы незвычайнага колеру, далікатныя рукі з доўгімі пальцамі. Старасвецкая ліра вісела ў яго за спіною, а на баках віселі дзве дзівосныя торбы — аксамітныя, з залатой вышыўкай. У торбах ляжалі кнігі, скруткі белай паперы і жмуты гусіных пер'яў, падобныя да стрэл.

Малады чалавек адкінуў правай рукой з высокага лба чупрыну валасоў, прылажыў руку да сэрца, гмыкнуў, нібы збіраўся дэкламаваць, нізка пакланіўся, пасля чаго ўзняў галаву вышэй, чым дагэтуль, і прамовіў:

— Мір вам! Мір усім неўміручым на маёй дарозе!

Голас яго звінеў, як нацягнутая струна, і выдаваў такія гукі, нібы гэтую нацягнутую струну хтосьці перабіраў музычнымі пальцамі. Пасля невялікага спынку ён натхнёна прапяяў:

— Я сотні міль шагаў на ваш аганёк, о, слаўныя дзеці вечнасці! Я ішоў сюды, о, благародны Заяц-бог, Заяц міласэрдзя, Заяц радасці, Заяц натхнення, Заяц роздуму, Заяц з незвычайнай табакеркай за пазухай! Вы, пане Заяц — мая мара. Пра вас буду пісаць тысячагоддзямі. Ваша табакерка са Смерцю ўнутры зрабілася пышнацветным Везувіем жыцця, цудадзейным вулканам вечнасці!

Дзіда-дзед, які ўвесь час глядзеў на яго смехатлівымі і кплівымі вачыма, нізка пакланіўся і пяшчотным голасам адказаў:

— О, найлепшы брат з усіх братоў маіх! Накіруй свае крокі ў каралеўства Пінг-Понга. Я аддаў табакерку з пышнацветным Везувіем яе вялікасці — найяснейшай каралеве Лялі. Гэту прыгожую каралеву хвалі прыгожымі словамі. Адважную каралеву Лялю трэба славіць песнямі яшчэ за тое, што яна выпусціла Смерць з табакеркі, уціхамірыла вечную разбойніцу і трымае яе на залатым ланцужку ў выглядзе чорнага Мопсіка.

Ад каралевы пахне белай ружай і чорным дзёгцем. Усе найпрыгажэйшыя матроны пахнуць цяпер ружамі і дзёгцем і на залатых ланцугах водзяць маленькіх Мопсікаў. А рыцары гэтых матрон цалуюць лапкі ў Мопсікаў. Ідзі, сын неба, вялікі краснабай, і спявай на ганку палаца каралевы Лялі.

Так сказаў Дзіда-дзед паэту. Чалавек гэта быў, дзеткі мае, тым самым паэтам, які труціўся стрыхнінам, і смерць яго не ўзяла.

— Я,— сказаў кучаравы,— сваім натхнёным вокам бачу, што табакерка з палонніцай знаходзіцца ў вас, благародны пан Заяц, за вашай благароднай пазухай каля самага благароднага сэрца...

— Ціха... ціха...— трывожна сказаў Дзіда-дзед.— Такое паэтычнае падлабуньванне можа мяне зрабіць жорсткім, як сама Смерць. Нікому пра гэта ані пісік!

Тады кучаравы паэт шчыра і проста сказаў:

— Даю слова, што нікому пра гэта ані пісік! Выбачайце мяне, пане Заяц! Я адвык гаварыць проста. Але вы мяне ўсё роўна зразумееце. Я прыпаду да вашых вечных ног і буду качацца ў пяску вякі і тысячагоддзі, аж пакуль вы, Заяц над усімі зайцамі, не скажаце мне вось аб чым: мы самі цяпер вечныя. Але ў нас, паэтаў, ёсць іншая бяда. Нягледзячы на тое, што вы схавалі Смерць у табакерку, мае творы паміраюць... Я часта чую іхнія стогны болю... Я чую іх кананне... Чую шурхат лапат... Гэта бібліятэкары-далакопы хаваюць мае кнігі на спецыяльных паліцах-магілах... Парайце мне, пане Заяц, як знайсці і схаваць у табакерку Смерць мастацтва? Вось вам, пане Заяц, табакерка для гэтай Смерці!

Паэт дастаў з адной з торб зграбную рагавую табакерачку, падаў Дзіда-дзеду і гаварыў далей:

— Смерць мастацтва вельмі пераборлівая і несправядлівая. Творы некаторых яна не чапае тысячагоддзямі, а творы іншых яна рэжа касой яшчэ тады, калі яны толькі нараджаюцца... Яна забівае малютак...

Калі паэт гэта гаварыў са слязамі на вачах, яго пёс ад шчырага спачування лізнуў яго за руку. Паэт адштурнуў яго і крыкнуў:

— Не перашкаджай, Апалон!

Дзіда-дзед з пашкадаваннем і любасцю паглядзеў на кучаравага і так прамовіў:

— Каток ты мой! Сын Апалона, які і сабаку свайго Апалонам заве! Вось што я скажу табе: якія мы самі — такія і нашы сані. Якія нашы галовы — такія і шапкі. Смерць тваіх песень знаходзіцца ў тваім уласным сэрцы і ў тваёй уласнай галаве. Гэта Смерць строгая, але справядлівая. Яна забівае песні фальшывыя і не чапае песень шчырых. Яна наогул не забівае. Кепскія песні — мёртванароджаныя. Жыццё тваіх песень залежыць ад цябе самога, сын Апалона з псом Апалонам. Вяртаю табе назад табакерачку. Нікуды больш не хадзі. Аставайся з намі ды вучы нашых малых дзетак брынкаць на ліры.

Гэта вельмі спадабалася паэту і ўсім вандроўцам. Люсенька ціха падышла да ліры, што вісела на спіне паэта, і пальчыкам кранула струну. Са старадаўняга інструмента выскачыў новы гук, які расплыўся ў цішыні ночы і знік, нібы кавалак снегу ў ручаі.

Паэт захапіўся і тут жа пачаў граць.

Гукі былі спачатку прасценькія, як журчанне рэчкі,

як спевы жаўранка. У іх адчувалася радасць, кліч маткі да дзіцёнка. З кожным разам гукі на струнах ліры рабіліся больш жвавымі і больш складанымі. Ім было цесна на адной ліры.

Тады паэт дастаў з кішэні свісцёлку з дзесяццю дзірачкамі, даў Люсеньцы і толькі раз паказаў, як трэба граць. Люсенька зайграла. Яны гралі ўдваіх. Было куды лепш і зграбней. Але хутка гукам не хапіла месца і на двух інструментах.

Тады паэт дастаў з кішэні ражкі, гармонікі, скрыпачку і невялічкія цымбалікі. Ён усім раздаў інструменты і паказаў, як на кожным граць.

Вось тады пачалася капэля!

Як зайгралі на розных інструментах — Дзіда-дзед не вытрымаў, пачаў пляскаць у ладкі, махаць галавой і тупаць нагамі ў тахт музыцы. Не агледзеўся Дзіда-дзед, што навокал яго пачалі скакаць коні, ваўкі, сабакі, карова і нават горды леў. Музыка спакарыла ўсіх.

Прачнуліся ўсе вялікія і малыя звяры, птушкі, мушкі. Усе яны прыйшлі да музыкаў. Усе яны танцавалі разам з Дзіда-дзедам аж да ўсходу сонца.

На ўсходзе сонца жанчыны рыхтавалі сняданне, і ўсе вандроўцы, памыўшыся ў ручаі, расселіся навокал агню і думалі:

«Што далей рабіць?»

Усе моўчкі паснедалі і зноў моўчкі думалі аб адным — што далей рабіць?

Коні ўтаропілі фіялетавыя вочы ў людзей і нібыта хацелі сказаць:

— Вы, неўміручыя людзі, падумайце і пра нас, неўміручых коней. Затое мы вас будзем вазіць.

Юрка Дратва гладзіў бараду і пачаў думаць услых:

— Што далей рабіць? Юрка Дратва не лыкам шыты, а дратвай. Юрка Дратва ведае, што далей рабіць. Вось што далей рабіць! Трэба зрабіцца скамарохамі і пайсці ў свет весяліць народ. Кучаравы паэт стане ў нас галоўным скамарохам.

— Малайчына, Юрка! — крыкнулі ўсе ў шчырым захапленні.

— А што? — усхапіўся Юрка.

— Мы чулі, што ты думаў.

— Як гэта вы маглі пачуць мае думкі?

— Бо ты думаў уголас.

— Я зусім забыўся,— засмяяўся Юрка.— Пры сардэч-

ных прыяцелях я заўсёды думаю ўголас. А пры чужых я ўголас не думаю. Бо калі я пры іх што-небудзь няўдалае падумаю, яны пачнуць мяне выкпіваць, а калі што мудрае прыдумаю, яны мае думкі прысвояць сабе, а мяне дурнем назавуць. Дык вы ўсе згодны зрабіцца скамарохамі?

— Згодны! Згодны! Згодны! — закрычалі ўсе.

І Юрка цягнуў сваю думку далей, нібы нітку з кудзелі:

— Зробімся скамарохамі і будзем гэтым карміцца. Пачнём вандраваць па свеце і назіраць, як неўміручыя людзі будуць шыць свой вечны бот жыцця.

— Гэта апошняе мне больш за ўсё даспадобы,— сказаў Дзіда-дзед.

— Значыць, трэба будзе каго-небудзь з нас каранаваць за старшага скамароха! — прапанаваў Саўка.— Я калісьці чытаў кнігу аб тым, як каранують цароў. Цырамонія о-го-го!

— Гэта, мабыць, прыгожа? — сказаў Юрка.— Давайце каранаваць чубатага паэта ў цара скамарохаў!

— Каранаваць паэта! — закрычалі дзеці ў вялікім захапленні.

— Каранаваць! Каранаваць! — асобна чуваць быў тонкі галасок Люсенькі.

Наладзіць каранацыю згадзіўся Саўка. Ён адзін ведаў з кнігі, як гэта робіцца.

Саўка загадаў дзецям нашараваць медную каструлю, набраць смалякоў, доўга поркаўся ў сваім возе, пакуль дастаў дзяжу, дубовую бочачку і некалькі келішкаў. На траве ён разлажыў белы абрус і ўсё гэта паставіў туды. Жанчын ён прасіў наладзіць добры абед: грыбы, бліны, мачанку з маслам, капусту тушаную, салёных гуркоў і шмат-шмат чаго. Юрку паслаў у лес па жгут крапівы. Дзіда-дзеда папрасіў прыбраць як найпрыгажэй усіх жывёл і звяроў. Паэта ён папрасіў настроіць ліру, бо струны гучалі фальшывымі гукамі.

Увесь час Саўка быў вельмі заклапочаны. Ён бегаў ад аднаго да другога, раіў і паказваў, як што рабіць. Сонца ўзнімалася ўсё вышэй, і птушкі спявалі ўсё гучней і гучней.

Урэшце ўсё было гатова да каранацыі паэта.

Люсенька надзела яму на галаву медную бліскучую каструлю. У адну руку дала яму качан капусты, у другую

руку — снапок крапівы. Яго пасадзілі на дзяжу. Звяроў і жывёл, пафарбаваных Дзіда-дзедам у розныя калёры, яшчэ аздобілі вянкамі і павесілі ім на шыі званочкі, якія знайшліся ў вялікім ліку ў дзяцей Саўкі. Дзеці і дарослыя апрануліся ў святочныя вопраткі. Пышны абед дыміўся ў пасудзінах на абрусе. У келішкі налілі з бочкі спірытус.

Саўка накінуў на плечы Дзіда-дзеда гуньку з вясковай тканіны з залацістымі клетачкамі, а на галаву насунуў яму бяроставы высокі каўпак з вострым шпілем і доўга шаптаў яму нешта на вуха.

Юрка Дратва выстраіў звяроў і жывёл у адзін рад, дарослыя і дзеці ўзялі келішкі ў рукі, пасля чаго Дзіда-дзед з Саўкам збоку падышлі да паэта. Дзіда-дзед падняў рукі ўгару, Саўка яму ўвесь час ціханька шаптаў на вуха, і ён, Дзіда-дзед, паўтараў урачыста ў поўны голас:

— О, краса і цвет зямлі, геній і соль свету, сын Апалона з сабакам Апалонам! Твой трон — дзяжа, зробленая слаўным бондарам. Дзяжа — бацька ўсіх найлепшых інструментаў на зямлі. Без дзяжы і хлеб — не хлеб. А без хлеба надзённага хлеб духоўны ніякага смаку не мае. Твая карона — каструля з бліскучай медзі, на якой адлюстроўваецца сонца. Няхай і твой талент пераліваецца з праменнямі сонца ў адно цэлае на векі вечныя. Твой скіпетр — снапок крапівы. Няхай твае словы праўды пякуць сэрцы людзей, як пячэцца наша родная крапіўка. Твая дзяржава — качан капусты, круглы, як поўны месяц у небе. Няхай на ўсёй зямлі, дзе толькі свеціць месяц, свеціць твая слава, калі яна будзе заслужаная. І няхай будзе згода ў нашай скамарошай сям'і, як паміж гэтымі звярамі і жывёламі. І няхай твая добра настроеная ліра ніколі не будзе фальшывай, тады яна запалоніць сэрцы людзей, як я запаланіў Смерць у табакерку. Будзь у нас царом скамарохаў на вечныя годы!

Усе ўскліқнулі:

— Будзь у нас царом скамарохаў на вечныя годы!

Дзіда-дзед прамовіў:

— Вясёласць — спірытус жыцця, смех — бліны і мачанка вечнасці. О, паэт! Смяшы добрых людзей!

Усе ўсклікнулі:

— О, паэт, смяшы добрых людзей!

Дзіда-дзед падняў келішак і прамовіў:

— Піце на здароўе спірытус вечнасці!

Усе ўзялі келішкі і ўсклікнулі:

— П'ём спірытус вечнасці!

Усе выпілі і закусілі. Яшчэ выпілі і яшчэ закусілі. Жывёл і звяроў таксама напаілі і накармілі. Пасля гэтага паэт граў на ліры і ўсе танцавалі да таго, пакуль вельмі стаміліся ад спірытусу і танцаў, і кожны заснуў на траве на тым месцы, дзе паваліўся.

А потым...

Тут дзед спыніў апавяданне і сказаў:

— Дайце адсапнуцца, дзеткі. Я стаміўся не менш, чыя тыя скамарохі.

— А мы хочам ведаць, што далей было,— артачыліся ўнукі.

— І я хачу ведаць, што далей было,— засаромлена сказаў дзед,— але забыўся. Заўтра ўспомню.

— Як можна забываць? — дзівіліся ўнукі.

— А ведаеце што? — сказаў дзед.— Знайдзіце такую трубачку са шкелкай, зірніце ў яе і самі даведайцеся, што было далей.

— Што гэта за трубачка? — зацікавіліся ўнукі.

— Ну, штучка такая з цудоўнай шкелачкай,— тлумачыў дзед.— Зірнеш у яе раз і відзіш, што было даўным-даўно. Зірнеш другі раз — бачыш, што на ўсім свеце робіцца цяпер. Зірнеш трэці раз — бачыш, што будзе рабіцца на свеце праз тысячы год наперад, у будучыні.

— І ўсё добра відаць з гэтай штучкі са шкелачкай? — запыталіся ўнукі.

— Лепш, мілыя, чым праз мае старыя акуляры. Бо ў нас кожны бачыць так, як яму хочацца глядзець. Ён відзіць альбо адно добрае, альбо адно благое, альбо адно белае, альбо адно чорнае. Гэтыя бачаць няправільна, бо ў жыцці вельмі багата разнастайных колераў і фарбаў. А той, хто правільна бачыць, разумее ўсё на свеце.

— Купі нам, дзядок, такія трубачкі са шкелкамі!

— Яны за грошы не прадаюцца, як і талент. Гэта называецца мудрасць.

— Дык што рабіць? Мы хочам ведаць, што далей рабілі скамарохі, а ты забыўся, дзядок...

— Я ўспомніў, але цяпер мне трэба праверыць, як вы чытаеце і пішаце.

Унукі зморшчыліся ад неахвоты, але дзед разгарнуў перад імі кніжку, і яны чыталі па чарзе. Такім чынам яны прачыталі гісторыю пра хітрую лісу і дурную варону. Ні ліса, ні варона ўнукам не спадабаліся.

Унучка выказала жаданне быць арлом ці сокалам, а ўнук хацеў стаць скамарохам. Ён ужо крыху ўцяміў, што гэта за птушкі скамарохі. Яны хадзілі з вучонымі мядзведзямі і малпачкамі, былі вясёлыя і бедныя і ведалі ўсё-ўсё.

— Стаць добрым скамарохам не лягчэй, чым стаць арлом альбо сокалам,— сказаў дзед.— Бо хто ўмее лятаць у сваіх думках, у таго вырастаюць і крыллі. Эге! Але ёсць стварэнні, якія трубяць аб тым, што лятаюць, а яны толькі скачуць, як блохі. Эге! Прынясіце, дзеткі, палын і насыпце ў маёй каморцы. Кажуць, што блохі вельмі баяцца палыну.

## СКАМАРОХІ

Заўтра раніцай дзед прыступіў да апавядання. Ён пачаў так:

— Думаць добра заўсёды, а выдумляць — не заўсёды. Калі б, скажам, скамарохі толькі выдумлялі, яны былі б вельмі кепскімі скамарохамі. На прыкладзе аб козах і розных стрыкозах яны паказваюць жыццё. Яны паказваюць жыццё дзе хочаш і як хочаш. Скамарохам з Дзідадзедавай гісторыі прыходзілася паказваць Смерць, бо людзі хутка аб ёй забывалі, і ім прыходзілася напамінаць пра Смерць, каб больш шанаваць жыццё.

Цар скамарохаў затрымаў сваіх падданых у чыстым полі да глыбокай восені. Ён набыў для сябе асобную палатку. Кожны раз пасля вячэры пры вогнішчы, калі ўсе кладзіся спаць, ён запальваў свечку ў сваёй палатцы на ўсю ноч і пісаў кароценькія п'есы, якія ўдзень вандроўцы рэпетыравалі. Ён іх пісаў, ведаючы сваіх актораў — вялікіх і малых. Кожнаму з іх, паводле асабістага характару актора, цар скамарохаў пісаў роль. Былі Дзярыгорлы, Дзярыгаловы, Сокалы, Арлы, Мудрыя, Адважныя ды іншыя такія прозвішчы. Цар скамарохаў дамагаўся, каб кожны з актораў граў самога сябе. Гэта было вельмі трапна прыдумана. Прадстаўленні скамарохаў па вёсках і мястэчках, нават па гарадах, вельмі падабаліся. Людзі смяяліся да слёз.

Цар скамарохаў вымуштраваў льва, ваўкоў, сабак, коней для спецыяльных цыркавых нумароў. П'есы ён пісаў лёгкія і маленькія. Яны раніцай пісаліся, днём вывучаліся, а вечарам ставіліся.

Так яны пражылі ўсю зіму ў двух-трох гарадках і вёсках. Вясной яны зноў перабіраліся ў сваю палатку.

У чыстым полі цар скамарохаў пісаў драму пад назваю «Смерць у табакерцы». У першай частцы паказвалася паляванне на Зайца. У другой частцы — як Заяц шукаў сваю табакерку. У трэцяй — як Смерць папалася ў табакерку. У чацвёртай частцы — як табакерка трапіла ў рукі каралевы Лялі. У пятай частцы — як у каралеўстве Пінг-Понга каралева Ляля няньчыла Смерць у выглядзе чорнага Мопсіка на залатым ланцужку.

Так Дзіда-дзед прасіў цара скамарохаў напісаць, каб адкінуць след ад сябе. Дзіда-дзед, светлай памяці, быў скромны і не хацеў, каб яму надакучалі.

Саўка, былы паляўнічы, і яго сабака Кудлаты гралі свае ўласныя ролі, Дзіда-дзед перадаў сваю ролю маленькай Люсеньцы, а іншыя гралі астатнія ролі. Прымусілі граць Смерць адну з дачок Саўкі, а паню Сарачынскую — адну з дачок Юркі. Сам бацька паехаў да знаёмага майстра, і той зрабіў яму патрэбную для сцэны табакерку.

Пры першай пастаноўцы не маглі вырашыць цяжкі момант, як Смерці зрабіцца маленькай ды ўлезці ў табакерку. Гэта адбывалася за спецыяльнай шырмай. Для гутаркі Дзіда-дзеда са Смерцю шырма была таксама выкарыстана. На адным баку шырмы з боку сцэны стаяў Дзіда-дзед, а на другім баку шырмы — Смерць. Дзіда-дзед трымаў у руках табакерку, і здавалася, што Смерць гаворыць з табакеркі. На шырме былі намаляваны лес і кусты.

Першы спектакль быў пастаўлены ў адным гарадку, дзе цар скамарохаў наняў у багатага чалавека вялізны сарай пад часовы тэатр-цырк.

Прадстаўленне «Смерць у табакерцы» карысталася вялікім поспехам. Прыходзілі і старыя і малыя, нягледзячы на тое, што цэны на білеты былі павышаны.

З гэтым спектаклем скамарохі вандравалі аж два гады на розных мясцінах і краінах.

Сарокі паведамілі сваёй роднай пані Сарачынскай, гэта значыць каралеве Лялі, пра гэтае прадстаўленне. Каралева Ляля была вельмі задаволена і запрасіла скамарохаў у каралеўскі палац. Дзіда-дзед не захацеў туды ехаць. Тады каралева Ляля задумала прыехаць на адзін са спектакляў.

Кароль Пінг-Понг не меў на гэта вялікай ахвоты, але што было рабіць, калі жонка загадала. Кароль вельмі баяўся каралевы, каб не зацкавала яго Мопсікам-Смерцю.

— Ехаць дык ехаць,— сумна сказаў ён.

— Чаго так сумуеш, дарагі муж? — сказала каралева.— Трэба ж хоць раз паказацца народу, а то мы ніколі народу не паказваемся. Вечна сядзім у палацы, як у мармурова-залатым астрозе. Для твайго здароўя, мілы Пінг-Понг, гэта паездка вельмі карысная.

Кароль і каралева, канцлер, міністры і царадворцы, і фрэйліны, і пажы, і камергеры, і камердынеры — усе-ўсе рыхтаваліся ў дарогу.

, Тысячы бегуноў, танканогіх, мускулістых, лёгкіх, як алені, загарэлых ад сонца, без вопраткі, апрача пурпуровых кароткіх штаноў, трубілі па ўсіх дарогах у сярэбраныя трубы і крычалі:

— Саступайце з дарогі! Едзе кароль Пінг-Понг, а з ім каралева Ляля! Каралева Ляля трымае на залатым ланцужку Мопсіка-Смерць!

— Смерць! Смерць! Смерць! — перадавалі людзі адзін аднаму вельмі спалоханыя і не толькі саступалі з дарогі, але ўцякалі на некалькі міль ад дарогі.

Прыдарожныя вёскі, мястэчкі і гарады апусцелі. Насельнасць пахавалася па лясах. Нягледзячы на тое, што каралева Ляля набыла славу добрай, людзі баяліся, каб яна не спусціла на іх Смерць з залатога ланцужка. Як гэта кажуць: авечка баіцца не пастуха, а яго пугі.

За тысячамі каралеўскіх бегуноў ішоў полк лейбгвардыі і рассцілаў па дарозе пышны аксаміт. За войскам былі расстаўлены абапал дарогі скрыпачы і гарманісты, дудары і флейцісты, барабаншчыкі і арфісты, гусляры і цымбалісты. Яны і ўдзень і ўначы гралі маршы ў чэсць караля Пінг-Понга і каралевы Лялі. Па дарозе раз'язджалі каралеўскія пажы з пальмавымі галінамі ў правай руцэ і вядзерцам з духмянамі ў левай. Яны апрысквалі духмянамі пышны аксаміт на дарозе, каб смачна пахла.

За пажамі ехалі на белых сланах каралеўскія кухары з паходнымі кухнямі, у якіх гатавалася ежа. За імі ішлі лакеі ў доўгіх рыжых парыках, апранутыя ў белыя рэйтузы, у жоўтыя камзолы з залатымі галунамі, і расстаўлялі абапал дарогі сталы, засцеленыя пурпуровымі абрусамі. Яны расстаўлялі па сталах ежу і розныя дарагія віны з лепшых княжацкіх скляпоў усяго свету.

Гэта на той выпадак, калі па дарозе каралеўскай сям'і захочацца есці.

З правага і з левага боку кожнага століка стаяла па адной прыгожай нявольніцы з распушчанымі валасамі, у галубым адзенні з крыллямі за спіною, па-мастацку зробленымі з белага шоўку. Яны чакалі праезду караля і каралевы другія суткі з бакалам віна ў правай руцэ і з веткай вінаграду ў левай.

Калі каралеўскія міністры агледзеліся, што апусцелі гарады і сёлы, яны паслалі войска ў лясы па народ, які зганялі на дарогу бізунамі. Народу было строга загадана стаяць абапал дарогі з сагнутымі да самой зямлі галовамі, пакуль не праедзе залатая каралеўская карэта, якую вазіла дванаццаць ільвоў.

У людзей балелі спіны, кружыліся галовы, аднак, баючыся гневу каралевы, яны стаялі, сагнутыя ў крук.

Урэшце каралеўская карэта, а за ёю цэлы карнавал бліскучай світы прыехалі на спектакль.

Цэлыя два тыдні сарай, дзе гралі скамарохі, убіралі найлепшыя майстры з каралеўскага двара. Знутры і звонку ён быў пакрыты дарагімі персідскімі дыванамі. Простыя сасновыя ўслонкі для сядзення былі пакрыты найпушыстым пурпурам. Пад столлю, перафарбаванай найлепшым каралеўскім маляром у сіняе неба з месяцам і зоркамі, віселі на бронзавых ланцужках сярэбраныя лампады з маслам, дзесяткі аганькоў якіх нагадвалі жывыя зоркі.

Навакол сарая, які быў падобны цяпер да дзіўнай вялізнай будкі, нявіданай нідзе на свеце, хадзілі з узнятымі палаючымі паходнямі адборныя веліканы — чорнабародыя, высокія, тоўстыя — і пужалі народ сваімі тупымі бычачымі вачыма.

Кароль і каралева сядзелі ў сараі ў першым радзе перад самай сцэнай. За імі сядзелі міністры, князі і княгіні, графы і графіні ды іншая знаць. Многім з іх прыходзілася стаяць на двары, бо сарай быў перапоўнены.

Ішло прадстаўленне.

Калі каралева Ляля, былая пані Сарачынская, угледзела Люсеньку, загрымiраваную пад Дзіда-дзеда, яе сэрца апанавалі два пачуцці: страх перад сапраўднай Смерцю ў Дзіда-дзедавай табакерцы і злосць на самога Дзіда-дзеда. Гэта ж, калі яна была яшчэ простай Сарокаю, ён выскуб

усё яе пер'е і вымазаў яе дзёгцем, які не адмываецца ні ў якіх водах на свеце. І цяпер яна чуе пах дзёгцю, змешаны з пахам белай ружы... Гэта ж ён...

Але каралева была хітрая. Яна стрымлівала свае пачуцці і глядзела на ігру скамарохаў, трымаючы Мопсіка-Смерць на каленях з выразам вялікай пяшчоты на твары. Яна нянчыла Мопсіка-Смерць, як роднае дзіця... Нібы яна сама маці Смерці.

Калі на сцэну выйшла дачка Юркі Дратвы, апранутая і замаскіраваная пад каралеву ды яшчэ з такім самым Мопсікам, як у каралевы на каленях,— усе ахнулі ад дзіва. Можна было падумаць, што гэта не сцэна, а вялікае люстэрка, у якое цяпер глядзіць сама каралева і ўсе бачаць яе адлюстраванне.

Больш за ўсіх збянтэжылася сама каралева. Яна падумала так:

«А што, калі скамарохка адважыцца, сыдзе цяпер са сцэны са сваім Мопсікам на такім жа залатым ланцужку, падыдзе да караля Пінг-Понга і скажа, што гэта яна каралева, а я скамарохка? Гэта ж яна падрабляе мой голас так, што я сама спалохацца магу. Не толькі што кароль, але я сама магу зблытаць сябе з ёю».

Аднак каралева хутка супакоілася.

Ад яе, ад каралевы, чуецца пах дзёгцю. Кароль заўсёды ўцягвае гэты пах ноздрамі і вельмі хваліць. «Гэта найлепшы пах жыцця»,— кажа ён.

Тым часам Мопсік на каленях каралевы з такім жа дзівам глядзеў на Мопсіка, што на каленях скамарохкі.

Раптам абодва Мопсікі натапырычыліся і пачалі выдаваць аднолькавыя гукі:

— Гр-р-р...

— Гр-р-р...

— Гір-гір-гір...

— Гір-гір-гір...

— Гірл-гірл-гірл...

— Гірл-гірл-гірл...

Пры такой гарачай і цікавай размове абодва Мопсікі рвануліся адзін на аднаго з усіх сіл, аж пакуль не вырваліся з рук абедзвюх каралеваў.

У сараі пачуўся небывалы шум і крыкі:

— Смерць вырвалася з рук каралевы!

— Смерць! Смерць! Смерць!

Пачалася беганіна — хто куды. Прыдворныя выска-

чылі з сарая ды наўцёкі. Кароль страціў прытомнасць і паваліўся на зямлю.

Каралева была задаволена перапалохам. Яна падскочыла да Мопсікаў, схапіла аднаго з іх, бо яна добра ведала, што гэта ўсё роўна. Падсунула каралю сваю руку пад самы нос. Ён адразу прачнуўся ад паху дзёгцю. Каралева ўзяла яго пад руку, яны спакойна і павольна выйшлі з сарая і склікалі прыдворных.

Слава каралевы Лялі яшчэ больш павялічылася, бо ўсе гаварылі адно:

— Смерць хацела ўцячы ад каралевы, але адважная каралева, якая любіць свой народ, зноў схапіла Смерць за ланцужок.

У той час, калі кароль і каралева паехалі далей, пакінуўшы на сцэне шмат багатых падарункаў для скамарохаў,— усе скамарохі былі за кулісамі і так рагаталі, ажна самі думалі, што іхні рогат неўміручы і яны ад яго ніколі не вызваляцца.

Рогат скамарохаў чуваць быў далёка навакол, і жыхары мястэчка думалі, што скамарохі звар'яцелі ад страху перад Смерцю, якая вырвалася на хвіліну з рук каралевы.

Дзіда-дзед выклікаў пажарную каманду і папрасіў абліваць вадой скамарохаў. Гэта не памагло. Тады Дзідадзед загадаў наліць вады ў вялікія скрынкі і палажыў туды рагочучых скамарохаў. Калі яны захлынуліся ў вадзе, рогат спыніўся. Канешне, калі б Смерць не знаходзілася ў Дзіда-дзедавай табакерцы ў яго за пазухай, тады ўсе скамарохі патапіліся б.

Дзед спыніў апавяданне, бо зарагаталі ўнукі і гэтым перашкодзілі яму гаварыць. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Унукі шаноўныя! Калі не сціхнеце, мне прыйдзецца ўжыць Дзіда-дзедаў спосаб. Аплюхаю вас з вядра.

Калі ўнукі супакоіліся, дзед у іх запытаўся:

— Што ж бы вы, унукі, зрабілі з такой паскуднай і хітрай каралевай?

— Я расказаў бы пра яе ўсю праўдачку,— сказаў унук.

— Дзіда-дзеду пасля гэтага зноў надакучалі б розныя людзі,— апраўдвала ўнучка Дзіда-дзеда.

— Але ж яна навадзіла фальшывы страх па ўвесь народ,— сказаў унук.— Няхай бы лепш адзін Дзіда-дзед

цярпеў. Няхай бы ён моцна звязаўся з тымі людзьмі, якія ненавідзяць Смерць.

— Гэта ж праўда! — згадзілася ўнучка.

— Эге...— мнагазначна сказаў дзед і наморшчыў лоб.— Паганая Сарока аказалася спрытнейшай за чэснага Дзіда-дзеда. Раскажу вам заўтра, што было далей. А вы не гневайцеся на нашага Дзіда-дзеда. У яго быў праз меру мяккі характар, вечная памяць яму.

— Характару вечная памяць? — запытаўся ўнук.

— Не характару, а Дзіда-дзеду,— сказаў дзед.— Я стаміўся, і язык у мяне малытаецца між небам і зямлёй, як авечы хвост. А вы, унукі, зусім кепскія па характару. Вымазаліся ў гліне — аж страх! — злаваўся дзед.

— Я ляпіў з гліны Дзіда-дзеда,— сказаў унук.

— А я — Люсеньку! — сказала ўнучка.

Дзед тупнуў нагой і закрычаў:

— Ідзіце, вожыкі, прадайце ножыкі, купіце мыла, памыйце рыла! А то асцёбаю вас жыцянай пугай і запру ў вялікай табакерцы з бліноў і масла...

Малыя зараз жа пайшлі да рэчкі і памыліся.

— За тое, што паслухаліся,— сказаў дзед,— я вам заўтра раскажу аб тым, як у Дзіда-дзедаву гісторыю не хочучы ўскочыў аптэкар Савіцкі.

## ЦУДАДЗЕЙНЫЯ БУРАКІ

Назаўтра дзед звярнуўся да ўнукаў з такімі словамі:

— Калі вы, майстры фігур з гліны, памятаеце, Юрка Дратва дастаў у аптэкара Савіцкага парашок тараканам на сон. Юрка Дратва аддаў гэты парашок кардыналу Баніфацыю, каб выратаваць Ватыкан ад тараканаў.

Кардынал Баніфацы пайшоў у панскі палац, дзе Кій дзесяты з нецярплівасцю чакаў табакерку са Смерцю. Кій дзесяты і не думаў выпускаць Смерць на волю. Ён толькі хацеў запалохаць табакеркай увесь свет. Кій дзесяты быў яшчэ злейшы за паню Сарачынскую.

Сустрэўшыся з Кіем дзесятым у адным з пакояў пышнага папскага палаца, кардынал Баніфацы набожна прыпаў да яго ног і пацалаваў папскую пантоплю. Кій дзесяты запытаўся:

— Прывёз Смерць у табакерцы?

— Прывёз,— адказаў кардынал.— Табакерка ў маім

дарожным чамадане. Вакол яго — сто езуітаў. Варта вельмі пільная. Хутка прынясу табакерку ў Ватыкан. Даруй, уладыка, мае грахі, я так стаміўся, так аслабеў, што...

— Што...— падхапіў Кій дзесяты.— Не шкодзіла б выпіць келіх святога Бенедыкта і два келіхі святога Антонія? Так?

— Так, так... з дазволу вашай святасці,— сказаў кардынал Баніфацы, набожна апусціўшы вочы.

Па загаду Кія дзесятага слугі прынеслі некалькі бутэлек сталетняга віна. Калі келішкі былі напоўнены, спрытны кардынал Баніфацы дастаў з кішэні сонны парашок, які даў яму Юрка Дратва, калі Кій дзесяты адвярнуўся на хвіліну да акна, усыпаў парашок у папскі келішак і размяшаў пальцам. Пры гэтым ён не зводзіў вачэй з папскай спіны, па якой горда спацыравалі два адкормленыя вусатыя тараканы.

Было выпіта віно з бутэлек, а Кій дзесяты хоць бы што! Сонны парашок не падзейнічаў. Наадварот — Кій дзесяты разышоўся так, што, здаецца, зараз задзярэ полы і пусціцца танцаваць тарантэлу.

Занепакоіўся кардынал Баніфацы. Няўжо Юрка Дратва яго, кардынала, абмануў? Не можа быць! У Юркі Дратвы такі шчыры твар. Кардынал Баніфацы ўсыпаў сонны парашок і ў вячэру Кія дзесятага, і ў сняданне — папа рымскі толькі добра паспаў. Бо з таго часу, як Дзіда-дзед злавіў Смерць, на намесніка бога на зямлі напала бяссонніца. Ад соннага парашка ён толькі памаладзеў.

Кардынал Баніфацы перадаў Кію дзесятаму пустую табакерку, сказаўшы, што гэта тая самая, што яму перадаў пан Заяц, напалоханы пасланнем яго святасці.

Кардынал паехаў шукаць аптэкара Савіцкага.

Кій дзесяты ў адсутнасці кардынала Баніфацыя сабраў усіх іншых кардыналаў на нараду: выпусціць Смерць з табакеркі ці не?

Доўга цягнулася нарада ў сямідзесяці двух кардыналаў. Папскім каршунам і хацелася і калолася. Хацелася самім жыць вечна. А калолася тое, што Смерць у няволі і не пануе на ўсім свеце і страх божы прапаў у людзей. Урэшце рашылі пакуль што трымаць Смерць у табакерцы. Кій дзесяты забраў табакерку ў сваю кішэнь. Ён меў кепскае вока на караля Пінг-Понга, які так абманваў свет фальшывай табакеркай.

Кій дзесяты паслаў па ўсіх кутках свету сваю папскую булу-грамату аб тым, што ў каралеўстве Пінг-Понга

людзі баяцца простага Мопсіка, думаючы, што гэта Смерць у выглядзе цюціка, а што сапраўдная Смерць знаходзіцца ў Ватыканскім палацы за сямю замкамі і сямю пячацямі. Такім чынам, Смерць у яго, Кія дзесятага, руках.

Усё ж Кій дзесяты часта думаў:

«А можа, даўганосы Бонік падсунуў мне не сапраўдную, а таксама фальшывую табакерку? Бонік здолен на ўсялякія штучкі, на хітрыя фокусы. І куды ж ён раптам знік, гэты жулікаваты Бонік? Калі ён прападае дзе-небудзь на некаторы час, ён потым кажа мне, што пасціўся і маліўся ў пустыні, як святы Антоні. Я ж ведаю, што ён ілжэ. Дзіўлюся, як гэта Бонік мне не сыпнуў атруты ў талерку. Цяпер я ніякай атруты не баюся. Цяпер паганы Бонік ніколі маёй смерці не дачакаецца... Ах, гэты Заяц! Я яму так удзячны...»

Тым часам папскі Бонік, гэта значыць кардынал Баніфацы, пераапрануўся ў вопратку старога купца і з трыма сваімі адданымі і спрытнымі слугамі, манахамі-бернардынцамі паехаў у той гарадок, дзе жыў аптэкар Савіцкі. Назву гарадка ён запісаў у Дзіда-дзедавай хаце, калі Юрка Дратва даў яму сонны парашок.

Аптэкара Савіцкага не было ў гарадку. Сакрэт рэцэпта соннага парашку на тараканаў ён прадаў разам з аптэкай другому аптэкару, а сам кудысьці знік са сваёй сям'ёй.

Даведаўшыся пра гэта, кардынал Баніфацы доўга распытваўся ў гаспадара аптэкі аб прыметах аптэкара Савіцкага і даведаўся вось што: Савіцкі мае два гарбы, адзін спераду, другі — ззаду. Рукі і ногі ў яго доўгія. На носе ў яго барадаўка. Барада і вусы чорныя. Вочы чорныя.

Кардынал Баніфацы даў сваім манахам шмат золата і загадаў ім наймаць людзей на пошукі аптэкара Савіцкага, бо па прыкметах яго знайсці не так цяжка.

Аптэкар Савіцкі жыў у той час са сваёй жонкай і маленькім хлопчыкам у лесе. Агенты пераапранутага кардынала Баніфацыя знайшлі яго. Тады кардынал Баніфацы пакінуў сваіх трох манахаў у гасцініцы і сам наняў фурманку і паехаў у лес. Хатку хутка знайшлі. Навокал яе быў вялікі гарод, падзелены на дробныя градкі з таблічкамі, на якіх былі нумары і надпісы.

На градках буяла невядомая расліна, чырвоныя лісты якой былі тоўстыя і празрыстыя. На лісцях выступалі

жылкі, нібы на жылістай чалавечай руцэ. Ад гэтых расліп пахла жывым успацелым целам.

Калі рамізнік спыніўся ля дзвярэй хаткі, на ганак выйшаў ветлівы чорнабароды чалавек. Два гарбы спераду і ззаду нагадвалі барабаншчыка з двума барабанамі. Яго вочы ўсміхаліся, ззялі і былі прасякнуты незвычайнай дабратой. У яго быў вельмі меладыйны голас, які зачароўваў, як музыка.

Пальцы яго былі афарбаваны ў розныя колеры. Відаць, што ён займаўся living рознымі хімічнымі доследамі.

Кардынал Баніфацы падаў яму візітную картачку, на якой было надрукавана: «Доктар матэматыкі Джыовані Чарэнца, прафесар рымскага універсітэта».

Ён сказаў аптэкару Савіцкаму, што, катаючыся ў лесе, ён выпадкова трапіў сюды і просіць дазволу зайсці ў памяшканне.

Хата мела адзін вялікі просты пакой. Ля сцен пакоя былі прыбіты з нізу да верху паліцы, на якіх стаяла шмат шкляной пасуды з парашкамі і рознакаляровымі вадкасцямі. Былі навалены стопкамі кнігі па хіміі і сельскай гаспадарцы. Галоўным чынам аб розных карняплодах.

Пагутарыўшы з прафесарам аб розных дасягненнях навукі і аб тым, што цяпер, дзякуючы такой дзіўнай выпадковасці з табакеркай, можна займацца доследамі хоць тысячагоддзямі аднаму чалавеку і што гэта вялікае шчасце для навукі,— аптэкар Савіцкі далікатна запрасіў прафесара Джыовані Чарэнца на скромны полудзень.

У гэтым жа пакоі, дзе пасярэдзіне быў засланы белым абрусам стол, гаспадыня прынесла бутэльку віна і пачала даставаць стравы з вялікай печы.

Вельмі здзівіла прафесара тое, што падавалі мясныя блюды, якія зусім не было агідна есці. Елі смажаную пячонку, рубленыя катлеты з ялавічыны, свіныя адбіўныя ды іншыя мясныя стравы: бараніну, катлеты з курацііны, смажанага зайца, гусяціну і г. д.

— Адкуль вы ўсё гэта берыцё, шаноўны пан Савіцкі? Не можаце ж біць ці рэзаць жывых істот. Я не мог бы нават есці. Вашы закускі нагадваюць і мяса і гародніну. Дазвольце запытацца, шаноўны гаспадар, з чаго зроблена ежа?

— Бачыце, пан прафесар,— сказаў аптэкар Савіцкі,— усё гэта прыгатоўлена са спецыяльных мясных буракоў, якія растуць у маім гародзе. Над вырошчваннем такіх буракоў я працую ўжо другі год. Гэтыя буракі маюць у сабе

ўсе элементы жывога арганізма: мяса, крыві, касцей, тлушчу. Такі бурак вельмі патрэбен для людзей, якія раней ужывалі шмат мяса, і для звяроў і птушак — былых драпежнікаў, што ў сувязі з нашай неўмiручасцю засумавалі і страцілі ранейшы спрыт, жвавасць і нават характва.

— Вынікі добрыя? — запытаўся прафесар.

— Як бачыце! Я меў гонар пачаставаць вас рознымі мяснымі блюдамі, пане прафесар.

— Будзьце ласкавы, пане Савіцкі, паказаць мне вашы буракі,— папрасіў прафесар.

— З вялікай прыемнасцю,— згадзіўся аптэкар Савіцкі.— Няхай пан прафесар патурбуецца паглядзець мой гарод.

Яны выйшлі з хаты.

Спачатку аптэкар Савіцкі чытаў яму таблічкі на градках:

— Буракі-бараны, буракі-зайцы, буракі-быкі, буракі-кабаны, буракі-качкі, буракі-куры, буракі-гусі, буракі-цяляты і шмат-шмат буракоў іншых гатункаў.

— Цікава, цікава...— мармытаў прафесар.

— А цяпер,— сказаў аптэкар Савіцкі,— зірнём, што гэта за буракі.— Пры гэтым ён узяўся абедзвюма рукамі за бацвінне і ледзь вырваў бурак, ростам з вялікі гарбуз. Калі ён сцёр з яго зямлю, гэты арыгінальны корань-плод меў выгляд шара з сырога мяса. Прафесар ахнуў ад дзіва.

Аптэкар Савіцкі разрэзаў нажом бурак толькі да палавіны. З яго паліўся сок, падобны да крыві. Потым узяў вострую сякеру, палажыў бурак на калодачку і рассек. Гэта ён перасек цвёрдую косць таўшчынёй у палец, якая пранізала бурак з верху да нізу, як шкворан. Косць была ўнутры пустая. З яе ліўся тлушч.

— Я захоплен вашым геніяльным бураком,— усклікнуў прафесар.

— Цяпер,— сказаў аптэкар Савіцкі,— мы выпрабавалі з вамі, пане прафесар, гэтыя буракі на смак. Давайце зірнём, як іх ядуць звяры. Зойдзем на хвілінку ў гэты хляўчук.

У хлеўчуку стаялі воўк і лісіца. Аптэкар Савіцкі кінуў ім па палавіне бурака. З вялікай прагнасцю звяры накінуліся на бурак. Вочы ў іх гарэлі ад асалоды. Яны выдавалі гукі задаволенасці, елі буракі і аблізваліся, як пасля мяса.

— Як вы да гэтага дадумаліся? — запытаўся прафесар.

— Я над гэтым працаваў куды раней да таго, як мы зрабіліся неўміручымі. Быў я чалавек даволі бедны, і я не меў грошай за што купляць фунт мяса на абед. Усё, што расце на зямлі, мае ў сабе жывыя клеткі. Ну, я моцна падумаў над усім гэтым, пане прафесар, і папрацаваў. У мяне ўсё запісана ў маіх сшытках.

— А вы ведаеце, шаноўны пан Савіцкі, што вашы мясныя буракі могуць стварыць па ўсёй зямлі новы промысел? Вы ведаеце, што вы можаце зрабіцца мільянерам?

— Грошы мала мяне цікавяць, пане прафесар. Голаду я не баюся цяпер, бо мы неўміручыя. А доследы над стварэннем новых сартоў буракоў даюць мне самі па сабе вялікую асалоду. Больш мне нічога не трэба.

Пры гэтым аптэкар Савіцкі зірнуў на прафесара такімі чыстымі дзіцячымі вачыма, што той апусціў свае вочы.

— Та-ак...— задуменна сказаў прафесар.— Вы святы чалавек.

— Як гэта — святы?! Я — самы просты, звычайны чалавек,— апраўдваўся аптэкар Савіцкі.

— Я шчаслівы, што нечакана пазнаёміўся з такім цікавым чалавекам,— салодка сказаў прафесар.— У мяне да вас просьба, пане Савіцкі...

— Напрыклад...

— Адважуся ў вас папрасіць некалькі штук буракоў і жменьку расады. Канешне, за прыстойную плату...

— Я ахвотна дам пану прафесару і буракоў і насення без грошай. Але справа, бачыце, у тым, што буракі псуюцца хутчэй за звычайнае мяса. Яны не псуюцца толькі ў той глебе, дзе растуць, і то, калі тонкі ніжні карэньчык не адарваны. Ніякія лядоўні і халадзільнікі іх не могуць выратаваць. А сапсуты мясны бурак аддае такім трупным страшным пахам, якога вынесці цяжка. Што тычыцца насення, дык яно дае расткі толькі ў маёй глебе. Зірніце, пане прафесар!

Аптэкар Савіцкі ўзяў лапатку і пачаў асцярожна капаць зямлю вакол аднаго з буракоў. Корань бурака як бы закупорыў тонкае горлачка вялікага шклянога гладыша, напоўненага ружова-малочным кісялём.

— Гэты кісель дае жыццё насенню бурака і з'яўляецца маім сакрэтам. Тут знаходзяцца разнастайныя элементы жывога арганізма. Але гэта яшчэ не ўсё. Патурбуйцеся схадзіць са мною ў тую будыніну! — І аптэкар Савіцкі павёў прафесара яшчэ ў адзін хляўчук.

Там стаялі вялізныя рамы з рознакаляровым шклом.

— Гэтыя шклы, у залежнасці ад таго, як яны пастаўлены, прапускаюць праменні, яшчэ не вядомыя ніякім фізікам. Гэтымі рамамі я пакрываю грады ў залежнасці ад патрэбы два разы на дзень, калі яшчэ бацвінне не вылезла з зямлі.

Прафесар выпучыў вочы ад дзіва і маўчаў.

— Апрача гэтага,— сказаў аптэкар Савіцкі, завёўшы прафесара ў адну каморку,— вось зірніце сюды!

Там стаяў кацёл, у якім грэлася вада. Ад катла ішла цэлая сетка трубак.

— Куды вядуць гэтыя трубы? — запытаўся прафесар.

— Яны падыходзяць блізка да кожнай шкляной пасудзіны з той кісялёвай вадкасцю, якую вы бачылі. Прытрымліваецца пастаянная тэмпература жывога арганізма. Дык вось, пане прафесар! Пакіньце мне ваш адрас, і калі я скончу дослед над гэтым цікавым карань-плодам і яго насенне можна будзе сеяць, як звычайную бульбу ці буракі, тады вам прышлю мяшочак насення. Ды не толькі вам, але ў сельскагаспадарчыя акадэміі ўсяго свету.

Прафесар Джыовані Чарэнца нізка пакланіўся, падзякаваў і сказаў:

— Пасля палону Смерці ў табакерцы ваша праца над мяснымі буракамі — другі цуд на зямлі, другі каштоўны падарунак усяму чалавецтву. Жадаю вам ад усяго сэрца давесці сваю працу да шчаслівага канца! У знак маёй шчырай пашаны да вашай асобы дазвольце папрасіць вас на некалькі хвілін у сваю гасцініцу, дзе хачу мець чэсць перадаць вам некалькі бутэлек сталетняга віна са склепаў Ватыкана. Дарога туды і назад займе не больш гадзіны часу.

Прафесар паглядзеў на яго такімі жаласлівымі ўмаляючымі вачыма, што аптэкар Савіцкі згадзіўся з ім паехаць.

Па дарозе ў гасцініцу прафесар запытаўся:

— Мне выпадкова прыйшлося карыстацца вашымі соннымі парашкамі супраць тараканаў. Пры гэтым я баяўся, каб яны на мяне самога не нагналі сон.

— Мае парашкі, у залежнасці ад дозы, наганяюць сон нават на мядзведзяў і сланоў, але не на людзей.

— Чаму не на людзей?

— Таму, што ў людзей больш складаная нервовая сістэма.

— Але для нас, неўміручых грэшнікаў, можна таксама прыдумаць сонны парашок?

— Я ўжо нават прыдумаў.

— На колькі год?

— Ад пяці да дзесяці год.

— Гэта цікава. А чаму гэтым не займаецеся?

— Гэта ж вельмі шкодна для людзей. Розныя цёмныя людзі, захапіўшы такі парашок у свае рукі, могуць нарабіць шмат шкоды чалавецтву.

Прафесар Джыовані Чарэнца вельмі далікатна адчыніў дзверы ў нумар гасцініцы, дзе яны спыніліся, і сардэчным голасам сказаў:

— Прашу, пане Савіцкі!

Як толькі аптэкар Савіцкі ўвайшоў у пакой, на яго накінуліся, як тыгры, тры манахі-бернардынцы. Яны заткнулі яму рот анучай, каб ён не крычаў, звязалі яму моцна рукі і ногі, накінулі на галаву мяшок, палажылі ў скрыню, падобную да труны, і забілі скрыню наглуха цвікамі.

Вось які фокус учыніў кардынал Баніфацы з аптэкарам Савіцкім.

Дзед панюхаў тытуню і апавядаў далей.

## СОН І ПРАБУДЖЭННЕ

— Як сцямнела, яны вынеслі скрыню на двор, палажылі ў карэту і рушылі з месца, пагнаўшы коней з усіх сіл.

Чуў нешчаслівы палоннік, як праз кожныя некалькі гадзін спыняліся і мянялі коней. Так цягнулася некалькі дзён. Потым яго кудысьці панеслі. Калі скрыню зноў паставілі на месца, ён праз некаторы час пачуў усплёскі вады і калыханне. Аптэкар Савіцкі здагадаўся, што ён на караблі. Ён адчуў вялікую непрыемнасць ад голаду і ўспомніў, што не можа ад гэтага памерці. А Смерць не з'явіцца з Дзіда-дзедавай табакеркі — колькі яе ні заві...

Ехаў аптэкар Савіцкі морам аж дзесяць дзён. Потым яго кудысьці пацягнулі ўніз. Праз гадзіну ці дзве адчынілі скрыню, надзелі на ногі кайданы, развязалі вочы і выцягнулі з рота анучу. Ён праляжаў нерухома некалькі хвілін.

Першае, што ён убачыў,— гэта маленькі агеньчык, які разануў яму ў вочы, як востры нож. Ён са стогнам зноў

зажмурыў вочы. Потым пачаў іх пакрысе расплюшчваць усё шырэй і шырэй, пакуль прывык да святла.

На невялічкім століку мігацелася ў медным падсвечніку васковая свечка. Перад ім стаяў прафесар Джыовані Чарэнца, гэта значыць кардынал Баніфацы ў вопратцы манаха. Кардынал усміхнуўся і, паказаўшы на акраец хлеба і жбанок вады на століку, сказаў:

— Выбачайце, пане аптэкар Савіцкі, што ў мяне тут няма вашых цудадзейных буракоў, але пакуль што хлеб і вада — таксама не бяда. Вы доўга, прашу прабачэння, галадалі. З'ешце гэты хлеб, і я прынясу яшчэ. Кій на кій шкодзіць, а хлеб на хлеб не пашкодзіць.

Аптэкар Савіцкі моўчкі азіраўся навакол. Ён быў у сырым падзямеллі ці ў склепе пад будынкам — цяжка было пазнаць. Адной нагой ён быў прыкуты да каменя сцяны. Аптэкар зірнуў на кардынала так строга, што той на адно імгненне адвярнуўся. Аптэкар ад абурэння скінуў са стала акраец хлеба і жбан вады, схапіўся рукамі за галаву і запытаўся:

— За што?

— Так трэба...— мяккім голасам адказаў кардынал Баніфацы і пайшоў кудысьці ў цемру.

Яго крокі спачатку гулка аддаваліся ў вялікім падзямеллі. Потым пачалі слабець і замерлі ў аддаленні.

«Я цяпер нібы Смерць у табакерцы,— падумаў аптэкар.— Але ж я нікога не крыўдзіў. А калі я прыдумаў сонны парашок на людзей, дык не для таго, каб яго ўжываць. Я ж не думаў ім карыстацца... У чым жа справа? Хіба таму, што я стаў небяспечным, ведаючы сакрэт парашку?»

Пасядзеўшы ў цяжкім раздум'і пару гадзін, аптэкар нагнуўся, падняў акраец хлеба і з'еў да апошняй крошкі. Яму захацелася піць. Ён пашкадаваў, што выліў ваду. А яму, нешчасліваму, так хацелася піць, што, каб Смерць не сядзела ў табакерцы, ён памёр бы ад смагі.

Ён, здаецца, лізаў бы цяпер сухім языком вільготную зямлю, дзе была выліта вада. Ён нагнуўся і пад стэлом угледзеў другі жбанок з вадою. «О, якое шчасце!» Ён цяпер быў удзячны здагадліваму чорнаму манаху за гэта. Ён выпіў ваду са жбанка і заўважыў на зямлі свежы куль саломы. Ён кінуўся на салому. Пры гэтым агідна зазвінеў ланцуг, на якім ён быў прывязаны да сцяны, як злы пёс. Ён уткнуўся галавой у салому, хацеў плакаць, ды не мог. Ад гэтага было яшчэ цяжэй.

«Няўжо на векі вечныя буду тут таміцца? — падумаў ён.— О, злы Заяц! Навошта трымаеш Смерць у табакерцы?.. І трэба ж было мне паверыць незнаёмаму чалавеку і паехаць да яго ў гасцініцу... Але каб чалавек ведаў, дзе ён паваліцца, дык раней шоўкавую падушачку падлажыў бы на тым месцы».

Праз некаторы час аптэкар Савіцкі моцна заснуў.

Калі кардынал Баніфацы яго разбудзіў, дык сказаў, што ён спаў трое сутак. Потым так прамовіў:

— Вы, пане аптэкар, адпачылі з дарогі і, я думаю, крыху супакоіліся. Цяпер магу з вамі гаварыць, як вечны з вечным. Мне трэба ўсыпіць аднаго чалавека. Чым хутчэй вы мне дасцё парашок, тым хутчэй будзеце вызвалены з гэтай вялізнай табакеркі.

— Значыць, я павінен быць саўдзельнікам вашых злоўчынкаў? — запытаўся аптэкар.

— Нявольным саўдзельнікам,— паправіў яго кардынал.

— Я не згодзен! — крыкнуў аптэкар.

— Бачыш ты яго! — засмяяўся кардынал.— Гол, як далонь, а гарач, як агонь. Вашы крыкі не памогуць. Я вам тут наладжу магчымасці для працы, і вы мне зробіце некалькі парашкоў — і бывайце здаровы! Адвяду вас назад да вашых бурачкоў, да жонкі і да маленькага сынка...— Зрабіўшы маленькі спынак, кардынал сказаў: — Усё, што вам трэба, я дастаўлю сюды...

— Сюды?!

Аптэкар Савіцкі ўскочыў з месца і зазвінеў ланцугом.

— Не хачу сюды! — крыкнуў ён.

Кардынал Баніфацы загаварыў пяшчотным голасам:

— Разумееце, высокашаноўны вучоны, што пры ўсім маім спачуванні да вас, інакш быць не можа. Сонныя парашкі павінны быць зроблены ў сакрэце ад усяго свету. Гэта раз. А па-другое, тут вы хутчэй зробіце, каб хутчэй вызваліцца з цёмнай і сырой ямы. Кожная скацінка павінна мець дубінку... Разумееце?

— Разумею,— сказаў бедны аптэкар.

— Значыць, згода?

Аптэкар сумна кіўнуў галавой і апусціў яе ў задуменнасці на грудзі!

— Не сумуйце, пане Савіцкі. Хутка зноў будзеце займацца сваімі слаўнымі бурачкамі ў акружэнні слаўнай

жонкі і цудоўнага маленькага хлопчыка. Да вашай бацвінкі будзе паложана смачная свінінка. Будзеце спяваць свайму хлопчыку так: «Білін-білін — на талерцы блін». Усе гэтыя слоўцы я запісаў на вашай зямельцы. Дык вось! Надышоў час, каб адкрыць вам сакрэт. Я хачу ўсыпіць усіх тых, хто дамагаецца вызвалення Смерці з табакеркі... Добрая справа? — Добрая! Ваша дапамога неабходна, нават сказаць «вох» і то лягчэй удвох. Значыць так: зрабіце парашкоў на некалькі сот чалавек. Вось вам папера, чарніла і пяро!

Аптэкар Савіцкі прысеў к століку і пачаў пісаць. Ён напісаў доўгі спісак па-латыні. Кардынал Баніфацы, прачытаўшы лісткі, сказаў:

— Больш вам нічога не трэба?

— Больш мне нічога не трэба... апрача...— і ён напісаў яшчэ пару лісткоў.

— Заўтра ўсё гэта будзе дастаўлена сюды! — сказаў кардынал, пакланіўся і пайшоў.

Аптэкар Савіцкі быў усхваляваны. Ён ужо знайшоў парашкі, якія могуць усыпіць чалавека не толькі на пяць ці на дзесяць год, але нават на сто год. Ён аб гэтым нікому раней не гаварыў, каб зноў не абяздоліць усё чалавецтва. А вось што выйшла са звычайнага парашка на таракана ў, які ён змайстраваў дзякуючы просьбе Юркі Дратвы. Канешне, думка кардынала аб усыпленні ўсіх прыхільнікаў Смерці някепская. Аднак ён не зусім верыў кардыналу.

Ён прыняўся за хлеб і ваду. Апошнія суткі спаць ён не мог. Кардынал урэшце прывалок яму некалькі мяшкоў рознай велічыні, пару скрынак рознай шкляной пасуды і аптэкарскіх прылад. Таксама скрыначку з аптэкарскай вагой.

З кардынала цурком ліўся пот, пакуль ён усё гэта прынёс.

— Канешне,— як бы апраўдваўся кардынал,— мае людзі маглі б усё гэта прынесці, але я хачу захоўваць справу ў вялікім сакрэце. І мне, духоўнай асобе, прыходзіцца так пацець. Але, як гэта вашы беларусы кажуць: «На бязлюддзі і поп чалавек». А я — каталіцкі поп! Хоць я чорны, затое праворны. Распакоўвайце і працуйце! Ад гэтага залежыць тэрмін вашага вызвалення. Нічога! Яшчэ разам будзем есці свіныя адбіўныя з вашых цуда-

дзейных бурачкоў. Калі ёсць у нас рыба, будзе і юшка. Ах, вашы прымовачкі! Я іх перакладу на італьянскую мову.

Аптэкар Савіцкі яму на ўсё гэта нічога не адказаў. Ён разумеў, што дзівацкі кардынал хоча яго развесяліць.

Ён прыняўся за распакоўванне мяшкоў і скрынак. Яго жалезны ланцуг быў доўгі, што дало яму магчымасць рухацца ў даволі шырокім паўкрузе.

Праз некаторы час даўганосы прынёс сюды скрыню свечак.

— Ледзь не забыўся,— сказаў ён.— Вы іх не шкадуйце, паліце колькі хочаце! Прынясу яшчэ. Хлеб і ваду буду прыносіць кожны дзень. Да пабачэння!

Аптэкар Савіцкі астаўся адзін. Яго агарнулі цяжкія, нібы каменні, думы. Ён мог са сваёй работай справіцца хутка. Ён мог адцягнуць яе на год і больш. Пры неўміручасці год і адна хвіліна адно і тое самае. Аднак у падзямеллі і хвіліна вечнасцю здаецца, а яму, Савіцкаму, хочацца паглядзець родную зямельку, родную сям'ю... Калі гэты чорны каталіцкі поп праўду кажа, што ён хоча ўсыпіць толькі агідных рыцараў Смерці, дык мой абавязак — дапамагчы яму. І ён рашыў: чым хутчэй я зраблю, тым хутчэй я адгэтуль выйду...

Ён працаваў без перапынку круглыя суткі, не ведаючы, калі на дварэ дзень і калі ноч. Святло сюды ніколі не пранікала. Пахла вельмі кепска, і было вільготна.

Калі кардынал прыносіў яму чарговыя порцыі хлеба, вады і свечак, дык бачыў, што гара парашкоў расце з кожным разам.

Так аптэкар працаваў больш месяца. Урэшце ён сказаў, што ўсё гатова. Ад радасці кардынал яго пацалаваў у губы і прамовіў:

— Дзякую, пане Савіцкі, дзякую! — Пры гэтым ён перанёс усе мяшкі і скрынкі па-за круг дзейнасці аптэкара, каб той, прыкуты да ланцуга, не мог іх даставаць.— На дзесяць год дзейнічаюць? Добра! Буду выпрабоўваць.

— На кім будзеце выпрабоўваць?

— Вядома — на людзях. У мяне ёсць кеп, дурань і блазан. Напрабую на ўсіх трох разам. Гэта мае тры памочнікі, якія вам ручкі і ножкі звязалі, анучаю рот запхалі, хусткай вочы завязалі і да гэтай сцяны ў ланцуг

закавалі. Калі яны заснуць, дык разам з імі засне ўся гэта справа, пра якую будуць ведаць толькі я і вы...

— Вы такі мярзотнік, як і яны! — з абурэннем сказаў аптэкар.

Даўганосы езуіт усміхнуўся змяінай усмешкай і з вялікай скромнасцю сказаў:

— Вы, пане Савіцкі, сказалі праўду толькі напалавіну. Я куды больш мярзотнік за іх і гэтым шчыра ганаруся. Вось што з вашымі парашкамі буду рабіць: буду ўсыпляць на зямлі цэлыя краі і народы. Зраблюся гаспадаром усяго свету. Дастану як-небудзь табакерку са Смерцю ў Зайца. І ніколі не выпушчу яе са сваіх рук. І мы з вамі будзем вечна жыць і рыхтаваць найлепшыя мясныя блінчыкі з вашых слаўных бурачкоў.

Аптэкар Савіцкі ад абурэння моцна рвануўся, і яго жалезны ланцуг зазвінеў і нацягнуўся, як струна.

— Вы, кардынал, найвялікшы разбойнік на свеце!

— Вы мяне перахвальваеце, пане Савіцкі! Я толькі дамагаюся стаць такім... За праўду б'юць... Гэта закон жыцця, не напісаны ні ў якіх зводах законаў. Але, хоць вельмі непрыемна мне, прыйдзецца пабіць вас, дарагі і любы. Вы будзеце адпачываць на гэтым курорце дзесяць год. Я ж хачу праверыць, ці вы не памыляецеся: а можа, праз год мае тры саракагадовыя хлопчыкі ў чорных спаднічках святых манахаў прачнуцца? Які ваш погляд на гэта, шаноўны пане?

Аптэкар маўчаў, збялеўшы як палатно.

Кардынал уздыхнуў глыбока і, выпучыўшы вочы глыбокага спачування, звярнуўся плачучым голасам да аптэкара:

— Можаце не адказваць на маё запытанне. Без слоў адчуваю ваш адказ. Выйшла так, як кажа ваша беларуская прымаўка: «Папрасіліся злыдні на тры дні, а цяпер іх ніяк не выганіш...» Значыць, мы з вамі ўмовіліся — дзесяць гадкоў. Глупства! У вас, здаецца, ёсць сын? Трохмесячны? Ну, вось... Прыйдзеце дамоў, і яму будзе ўсяго дзесяць год. Правільна я кажу? — Не. Яму будзе дзесяць год і тры месяцы. Ах, як мне шкада вашага сына...

Кардынал Баніфацы пачаў выціраць слёзы з вачэй...

— А вы нават не плачаце, пан Савіцкі? Які вы нягодны бацька...

Аптэкар Савіцкі сцяў губы і маўчаў.

Некалькі гадзін кардынал выносіў з падзямелля скрынкі і мяшкі з парашкамі на дзесяцігадовы сон. Аптэ-

кар Савіцкі не зводзіў з яго вачэй. Калі кардынал узяўся рукамі за апошнюю скрынку, аптэкар сказаў:

— Пачакайце!

— А што? — запытаўся кардынал.— «Рукамі рухай, а носам не нюхай?» Хочаце мне сказаць, каб я сам па неасцярожнасці не заснуў?

— Не тое.

— Ды што?

— Парашкі ў гэтай скрынцы зусім іншага гатунку.

— Можа, стогадовыя? Гэта было б яшчэ лепш...

— Не тое,— адказаў аптэкар.— У гэтай скрынцы парашкі супраць сну. Даць панюхаць заснуўшаму адзін з гэтых парашкоў, дык прачнецца...

Чорны езуіт аж падскочыў:

— Значыць, уваскрашэнне?

— Нешта падобнае.

— І гэта карысна! І гэта выпрабуем! Вы, пан Савіцкі, геніяльны чалавек. Вы творыце сапраўдныя цуды. А цудадзеі нашай каталіцкай рэлігіі ўмеюць толькі брахаць на ваду і гаўкаць на струхлелыя пні. Я пракланяюся перад вамі! Калі зраблюся папай рымскім, дазволю вам кожны дзень цалаваць крыжык на маёй правай пантоплі.

Езуіт стаў перад аптэкарам на калені і тонам малітвы прамовіў:

— Вы — мой бог... А таму, што вы мой бог, я вам больш есці сюды прыносіць не буду. Крыху будзеце пакутаваць. А то можаце прыняць парашок на сон. Дзесяць год менш за кроплю ў акіяне вашага вечнага жыцця.— Ён падаў аптэкару парашок.— Вось вам. Не скажыце, што я благі. Панюхайце і спіце на здароўе. А калі вы мне запатрабуецеся, я вас, прашу прабачэння, разбуджу... Калі канакрад патрэбен, яго з шыбеніцы здымаюць...

Кардынал Баніфацы выйшаў з апошняй скрынкай у руках.

Аптэкара агарнула магільная цішыня, у якой яго сэрца выстуквала словы:

— Мяне адгэтуль не выпусцяць ніколі...

Ён задрыжаў, і яго ланцуг зазвінеў.

— Ніколі... ніколі... ніколі...

Аптэкар кінуўся на салому і астаўся ляжаць без руху.

На стале гарэла апошняя свечка, якая асвятляла невялікі круг, нібы вырваны ў цемры. За гэтым кругам была

чорная вечная ноч падзямелля: ноч — без неба, без волі. Ноч — страшнейшая за магілу, бо аптэкару прыходзіцца жыць тут вечна...

Доўга ён ляжаў нерухома і не заўважыў, як пагасла апошняя свечка. І ён падумаў:

«Хвіліна слабасці, і я нарабіў людзям куды большыя пакуты, чымся мог сабе ўявіць. Іх мне растлумачыў агідны кардынал. Цяпер жыццё і смерць людзей у яго руках. Заяц падліў масла ў лямпу ўсяго свету, а я падкруціў кнот, і лямпа можа патухнуць у парашках сну... Адзін паратунак — Смерць кардынала. Чымся ўсыпіць увесь свет, лепш адчыніць табакерку...»

Больш аптэкар ні аб чым думаць не мог. Ён бачыў у пацёмках вось што:

...Трохмесячны хлопчык... Маленькі, як лялька, сінявокі. Ён смяецца... Клікнеш «Антоська» — павернецца да бацькі...

Аптэкар Савіцкі не плакаў. Ён дастаў з кішэні парашок на стагадовы сон, глынуў і адчуў у роце прыгорклы смак. Яму стала сцюдзёна. Ён пачаў дубець, нібы ад вялікага марозу. Засыналі рукі, ногі. Сон плыў па яго крыві, нібы лёд.

...Маленькі Антоська выцягваў да яго рукі і ўсміхаўся. «Ця-ця-ця-ця...» — гаварыў хлопчык. І сынок пачаў расплывацца ў густой цемры. Не. Гэта не хлопчык. Гэта ў небе жаўранак звініць: «Ціў-ціў-ціў-ціў...»

Аптэкар Савіцкі заснуў на сто год.

Цішыня...

Дзед змоўк. Унукі маўкліва хавалі вочы адно ад аднаго. Дзед нанюхаўся тытуню і сказаў:

— Вы ўжо навучыліся чытаць, мае ўнукі. Я нагаварыў вам нямала невядомых вам слоў. Птушкі па зярнятках збіраюць і сыты, а вы, дзеткі, па слоўку збірайце і будзеце мудры. Без прылады і волас з галавы не вырвеш. Я вам купіў прыладу для незразумелых слоў — слоўнічак у сіняй вокладцы.

Дзед вынес ім з каморкі слоўнік і навучыў знаходзіць незразумелыя словы. Потым ён вярнуўся да ўнукаў:

— Глядзіце, якое цёплае сонца! А ўсюды павуцінкі. На ліпах, на вязах і дубах цэлыя космы пажоўклых лісцяў — акурат кусткі першай сівізны ў барадзе чалавека. Шануйце, дзеткі, сваю вясну, тады і ваша восень бу-

дзе сытая і сонечная. А восень ідзе шпаркімі крокамі, нібы добры конь над добрую пугу. Пара, дзеткі, бульбачку выбіраць. Яна ў нас не менш цудадзейная за буракі аптэкара Савіцкага. Бульбяныя аладачкі з маслам, разбаўленым на гарачай скварадзе, грэюць маё старое сэрца гарачымі далонямі. Такія аладачкі — мае найлепшыя прыяцелі. Канешне, пасля ўнукаў. Я для вас, родныя, сплёў два кошыкі на бульбу. Будзем на полі працаваць.

— А гісторыя Дзіда-дзеда?! — устрывожыліся ўнукі.

— Прыйдзецца адкласці на тыдзень, а мо нават і больш. Падрыхтуецца лепш апавядач, з большым смакам будзе слухаць слухач.

## СТАТУІ

Пасля ўборкі бульбы пачалася малацьба. Унукі пайшлі ў школу, а дзед, напрацаваўшыся за дзень, увечары спаў. Дзед вызваліўся ад працы толькі тады, калі выпаў першы сняжок. Да вясны ён перабраўся на вялікую печ і пад гуд калаўрота снахі ён апавядаў малым працяг гісторыі Дзіда-дзеда.

— Мы,— пачаў дзед,— пакінулі аптэкара Савіцкага ў падзямеллі, дзе ён быў прыкаваны кардыналам Баніфацыем на векі вечныя да сцяны. Аптэкар прыняў сонны парашок і заснуў на сто год. Вось табе яго мясныя буракі ды ўсё іншае. Як гэта кажуць: сем год шапку шыў ды за адну раніцу згубіў.

— Я на месцы Савіцкага не згадзіўся б зрабіць кардыналу Баніфацыю сонных парашкоў,— сказаў унук,— Савіцкі не герой.

— Я тое самае кажу,— пацвердзіла ўнучка.

— Праўда,— сказаў дзед,— вельмі лёгка хітры кардынал выцерабіў у аптэкара дубняк і бярэзнік і адрэзаў яму крыллі так, што аптэкар ляцеў вышэй азярода і ўпаў у яму ніжэй гарода. Але справа ў тым, што не кожны чалавек можа быць героем. Потым аптэкара абмануў кардынал, сказаўшы, што соннымі парашкамі ён хоча ўсыпіць чорных рыцараў смерці. Таксама — на векі вечныя быць прыкаваным да сцяны куды горш, чымся адразу памерці. Не будзем строга судзіць беднага Савіцкага, які пакінуў дома жонку і маленькага хлопчыка. Яго ўзяў на хітрыкі кардынал, які сам рыбку з'еў, а беднаму аптэ-

кару і юшкі не пакінуў. Вось ён у мяне і апраўданы. Я яго ўмачыў, я і высушыў. Гэта значыць апраўдаў.

Баніфацы дабіўся свайго. Ён усыпіў Кія дзесятага і сам зрабіўся папай — Баніфацыем першым. Кія дзесятага ён кінуў у рэчку ў жалезнай труне і пусціў чутку, што за вялікія дабрачыннасці бог забраў у неба святога Кія. А ён, Баніфацы першы, сам завёз яго за воблакі на шасцёрцы крылатых коней прарока Ільі.

Баніфацы першы часта знікаў з ватыканскага палаца на месяцы. Яго падручныя кардыналы гаварылі, што ён адпачывае ў раі. Тым часам навакол яго фальшывай табакеркі заўсёды стаяла варта.

Баніфацы першы сядзеў у падзямеллі і думаў над тым, як усыпіць каралеўскі двор Пінг-Понга. Дзвюх смярцей,— правільна разважаў ён,— не бывае. Гэта значыць адна Смерць у табакерцы ў папскім палацы, а другая Смерць у каралевы Лялі ў выглядзе Мопсіка на залатым ланцужку. Баніфацы першы спрабаваў угаварыць каралеву Лялю прызнацца, што яе Мопсік самы звычайны цюцік. Яна не паддавалася. Тады Баніфацы першы задумаў усыпіць увесь каралеўскі двор Пінг-Понга. «Калі шанцуе, дык і лазовы куст яйкі нясе,— падумаў новы папа рымскі.— Мне цяпер шанцуе, і я спраўлюся з дваром караля Пінг-Понга».

І ён задумаўся над тым, як зрабіць гармату для стральбы сонным парашком. Гэта зрабіць было няцяжка. З гэтай гарматай ён паехаў у каралеўства Пінг-Понга.

У той час скамарохі вандравалі па розных краінах. Усюды яны карысталіся вялікім поспехам. Захацелася ім таксама пабываць у каралеўстве Пінг-Понга, каб паглядзець, як жыве пані Сарачынская і як прыдворныя дурні баяцца яе Мопсіка.

Дзіда-дзед дазволіў туды ехаць пры той умове, каб ніхто там з актораў не смяяўся. Бо нястрымны смех можа ім там нарабіць шмат непрыемнасцей.

Першай абяцалася не смяяцца галоўная хахатуння Люсенька. За ёю — усе.

Рухаліся яны даволі марудна на тых самых трох фурманках, якія былі імі набыты з самага пачатку.

Кучаравы паэт гойдаўся на адной з фурманак і пісаў новы твор для актораў пад назваю «Мячы на сярпы». Пры бытнасці Смерці ў Дзіда-дзедавай табакерцы войны спы-

ніліся. У чалавека тады з'явілася новае адчуванне — ніхто не меў жадання падняць на другога нож, стрэльбу, меч. Рука не паднімался і тады, калі нават жадалі смерці самаму заядламу ворагу. Таму зброя на ўсім свеце аказалася непатрэбнай.

Найвялікшая частка металаў на зямлі ржавела і псавалася. Гэтыя металы ў выглядзе гармат і стрэльбаў патрэбны былі цяпер не для смерці, а для жыцця.

У тых самых кузнях, дзе рабілася зброя, кавалі цяпер плугі ды іншыя прылады для вечнага чалавечага жыцця. Аб усім гэтым пісаў кучаравы паэт па дарозе скамарохаў у каралеўства Пінг-Понга. Пісаць аб гэтым было вельмі цікава. Бо як гэта кажуць: слова вецер, а пісьмо грунт.

У каралеўства Пінг-Понга яны прыехалі раніцой. Прыгожы палац відаць быў здалёк. На каралеўскім двары іх здзівіла мноства статуй. Яны стаялі, сядзелі і ляжалі ў розных позах. У некаторых на тварах быў выраз вялікага страху. Іншыя былі здзіўлены. Многія з іх стаялі на каленях з распрасцёртымі ў неба рукамі. Твары статуй нагадвалі маскі смеху, вар'яцтва, роспачы.

Усе статуі былі апрануты ў сапраўдныя вопраткі. Зроблены былі не з каменя, не з металу, а цвёрдыя, як бронза. Яны звінелі, калі па іх пастуквалі кійкамі альбо пстрыкалі пальцамі ў нос.

Гэта ўсіх здзівіла. Паэт — вядун па ўсялякіх справах — ціскаў плячыма і сказаў, што нідзе не бачыў і ніколі не чытаў аб такіх статуях. Праўда, калісьці ў маленстве ён чытаў у нейкай смешнай кніжцы аб тым, як акамянела на дарозе жонка вядомага на ўсім свеце п'яніцы Лота. Яна ператварылася ў вялізны кавалак солі. Прыходзілі каровы і козы лізаць яе. Таксама прыбягалі хцівыя папы ды малаткамі адбівалі кавалкі святой солі для кухні. Потым нейкі барадаты крамнік прыехаў уночы, разбіў Лоціху на драбнюткія кавалкі, напакаваў у мяшкі і вазіў па вёсках мяняць соль на курэй, на цялят, на аўчынкі. Гэты крамнік разбагацеў, збудаваў вялізны дом у мястэчку і пачаў гарэлку прадаваць у памяць п'яніцы Лота, якога сяляне называлі Лотра.

Гэта гісторыя напалохала галоўным чынам жонку п'яніцы Саўкі і жонку выпівакі Юркі Дратвы — галоўных актарак вандроўных скамарохаў.

Скамарохі доўгі час кружыліся вакол палаца, чакаючы, пакуль выйдзе хто-небудзь насустрач да іх. Яны збянтэжыліся ад таго, што ўвесь каралеўскі двор выглядаў як вымершы — нідзе не відаць было жывой душы. Было вельмі прыкра.

У глыбі двара, дзе знаходзіліся службовыя будынкі і каралеўскія канюшні, скамарохі ўгледзелі статуі коней, сабак, львоў, кароў, людзей. А далей на паляне стаяла, ляжала і сядзела ў розных позах каралеўскае войска.

Тут — за войскам — скамарохі сустрэлі міністраў, прыдворных, караля Пінг-Понга, каралеву Лялю з Мопсікам. А насупраць іх усіх стаяў каля драўлянай лёгкай гарматкі даўганосы Баніфацы.

Усе скамарохі іх пазналі. Дзіда-дзед, зірнуўшы на даўганосага, пажартаваў:

— Вось ён даўганосы фігурант, боты ў рант. І ты, пасол, папаў, нібы ікаўка ў расол! І ты, Сарока з воўчым ротам, з лісім хвастом, з сабачымі вачыма, ні села ні пала ды ў святыя папала! І ты, кароль Пінг-Понг, выскачыў з палаца, як Піліп з канапель, і апынуўся на гэтым вяселлі без музыкі! І што гэта за выстаўка напаказ, я ўцяміць не магу.

Сказаўшы ўсё гэта, Дзіда-дзед спалохаўся і схапіўся рукой за пазуху, дастаў табакерку і паглядзеў. Яна была моцна абвязана.

— Смерць не выскачыла з табакеркі,— супакоіў усіх Дзіда-дзед.— Яны не памерлі!

Скамарохі ўвайшлі ў палац.

Дзверы ўсюды былі парасчынены. У залатой пасудзе на сталах дымілася гарачая страва. Віно ў бакалах было не дапіта.

Скамарохі пайшлі ў каралеўскую кухню. У печы яшчэ палаў агонь, але кухары і іх памочнікі ў белых халатах і калпаках стаялі, прыпёртыя да сцяны, без руху. У адным з пакояў ляжала на падлозе цэлая куча пакаёвак, пажаў, лакеяў, камердынераў, швейцараў і шмат іншай каралеўскай чэлядзі.

— Што за штуковіна? — сказаў Юрка Дратва.— Не маглі ж яны памерці? Вось табе дзіва: гэта табе не тое, што карова чорна, а малако сіва!

Саўка маўчаў. Жанчыны дрыжалі ад страху. А дзеці не смяяліся. Бо не было смешна.

Паэт разважаў так:

— А можа, Смерць усё ж такі нейкім чыпам выслізну-

ла з табакеркі? Але каб яна была на волі, дык у першую чаргу перадушыла б скамарохаў і пана Зайца. Аднак, можа быць, што Смерць пры вызваленні з табакеркі адразу накінулася на каралеўства Пінг-Понга, каб справіцца з тымі, хто зганьбіў яе чэсць і Монсіка назваў яе імем... Таксама не. Калі паміраюць людзі ці жывёлы, дык у іх зусім не такі выгляд. А можа, Смерць прыдумала новую заразную хваробу? А калі так, дык чаму ж яны, скамарохі, не паміраюць? Якім чынам тут апынуўся гэты даўганосы?

Усе слухалі разважанні паэта з вялікай увагай, без усялякага руху. Нават спалохаўся паэт: яму здалося, што іх усіх ахоплівае гэта страшная хвароба, што ўсе яны ператвараюцца ў статуі.

— Вы — што? — крыкнуў ён.— Таксама застываеце?!

Скамарохі ўскочылі са сваіх месц.

— Мы жывём! Мы рухаемся! Уцячом адгэтуль!

Так крычалі скамарохі ў адзін голас.

Тады маленькая Люсенька сказала:

— Як вам не сорамна? Не бойцеся! Я астаюся тут сама...

— Малайчына, Люсенька! — сказаў Дзіда-дзед.— Пайшоўшы ў драку, не шкадуй хахла! Не пойдзем адгэтуль, пакуль не дазнаемся, у чым справа. Будзем шукаць па кішэнях людзей. Можа, нешта такое знойдзем, што растлумачыць нам гэтае незразумелае з'явішча. Калі б Смерць апынулася на волі, мы ўсе адчулі б ранейшы дзікі страх. Глядзіце, наш леў нюхаецца з сабакамі. Сучка паглядзела на яго так, нібы капейку дала.

Раптам Люсенька піскнула тоненькім галаском:

— Гэта страляў у іх даўганосы, якому дзядзя Юрка Дратва даў парашок ад тараканаў!

— Гіш ты! — здзівіўся Дзіда-дзед.— Не войтава дачка, а дарэчы гаворыць.

— Я здагадваюся! — крыкнуў Юрка Дратва.— Гэта штука даўганосага! Яго фокус! Я цяпер разумею, чаму прапаў аптэкар Савіцкі, пакінуўшы дома жонку і хлопчыка.

— А я зусім не ведаю, што аптэкар Савіцкі прапаў,— сказаў Дзіда-дзед.— Чаму ты, Юрачка, мне пра гэта раней не сказаў?

Юрка апраўдваўся:

— Што мне было гаварыць? Мала куды чалавек пайшоў. Пайшоў не гнаны, дык і вернецца не званы.

Пакуль яны так гаварылі, паэт пабег да статуі даўганосага, у кішэнях якога ён знайшоў невялічкую кніжачку-дзённік. У ёй даўганосы запісваў усе падзеі свайго жыцця да апошняй хвіліны. Разам з кніжачкай ляжалі рэцэпты парашкоў на сон і супраць сну, таксама падробная карта падзямелля, дзе знаходзіўся аптэкар Савіцкі. Тут жа было некалькі парашкоў з надпісамі: «Сон на дзесяць год», «Супраць сну».

Паэт узяў парашок супраць сну і падумаў аб тым, на кім выпрабаваць сілу парашка.

Калі паэт, ці так званы цар скамарохаў, вярнуўся да сваёй кампаніі, ён сказаў:

— Зараз учыню цуд. Каго ажывіць з усёй гэтай каралеўскай кампаніі? Ці, можа, усіх ажывіць?

— Не жартуй! Кінь глупства плясці! — сказалі ўсе.

— Нікога не ажыўляць — загадаў Дзіда-дзеда.— Што не ясі, у рот не нясі. А то з'явяцца людзі з усіх канцоў свету, будуць шпурляць у нас каменнямі, калі не ажывім іх родных з магіл, памёршых на працягу стагоддзяў. Як наробім ліха, дык у людзей такія клыкі вырастуць, што загрызуць нас. Спі, шаноўная пані Сарачынская, разам з усім тваім пышным дваром! А хто спіць, той не грашыць і салодкія сны сніць.

Цар скамарохаў засмяяўся:

— Панюхайце! — сказаў ён.— Ад каралевы Лялі яшчэ пахне дзёгцем і белай ружай! Паспрабуем сілу парашкоў хоць на Мопсіку...— і ён паднёс парашок супраць сну да носа цюціка.

Застылы Мопсік пачаў набываць формы жыцця. Раптам ён адчыніў вочы і забрахаў звычным галаском:

— Гаў-гаў-гаў-гаў!

Усе зарагаталі.

Тады цар скамарохаў дастаў парашок з надпісам: «Сон на дзесяць год» і паднёс да носа Мопсіка. Цюцік сціх і зноў застыў. Усе здзівіліся.

— Ну і парашкі! Ну і парашочкі!

Цар скамарохаў прачытаў уголас дзённік даўганосага, які вам, дзеткі, вядомы даўно, і радасна сказаў:

— Вось матэрыял для новага прадстаўлення!

Юрка Дратва нездаволена адклікнуўся:

— Дзеля сваіх матэрыялаў ты забываеш майго сябра Савіцкага, якому я заўсёды падмёткі падбіваў на боты з наймацнейшай падэшвы. Ты лепш ажыві яго хутчэй,

калі ты такі майстар! Ды ты і сам майстар невялікі, бо гэтыя парашкі прыдумаў аптэкар па маёй просьбе...

Ніхто не хацеў цяпер спрачацца з Юркам Дратвай. Усе думалі аб адным, каб зараз жа выправіцца ў тую краіну, дзе ў падзямеллі спіць аптэкар Савіцкі, і разбудзіць яго.

Дзед змоўк. А ўнукі крыкнулі так голасна, што іх маці спалохалася.

— Разбудзіць аптэкара Савіцкага!

— Чаго вы там? — запыталася маці.

— Трэба разбудзіць аптэкара Савіцкага!

— Якога Савіцкага?

— З Дзіда-дзедавай гісторыі.

— Пакуль што вы мяне, вашу маму, разбудзілі. А дзед разбалаваў вас рознымі аптэкарамі, Дзіда-дзедамі і даўганосымі. Лепш урокі вучыце.

— Сёння позна,— сказаў дзед,— будзіць аптэкара Савіцкага будзем заўтра ўвечары, калі паспеем. Цяпер ідзіце спаць. Думаю, што вам, дзеткі, парашок на сон не патрэбен. Вы так спіцё, што хоць з гармат страляй — не пачуеце...

## ЖЫВІ, КСАВЕРЫ!

Назаўтра ў школе між унукаў сядзеў адзін хлопчык, які, слухаючы настаўніка, заснуў. Унук і ўнучка сказалі яму ціха ў вушы:

— Уставай, аптэкар Савіцкі!

Хлопчык прачнуўся і тут жа сказаў:

— Хаця маё прозвішча Савіцкі, але я не аптэкар і прашу не перашкаджаць мне слухаць, што кажа наш Іван Мацвеевіч.

Хлопчык Савіцкі заўсёды ўмеў выкручвацца. Унукі шкадавалі, што разбудзілі яго, бо хлопчык шчыпаў іх і гаварыў:

— Савіцкі, а вы зайцы, зайцы, зайцы.

Увечары яшчэ да вячэры ўнукі палезлі да дзеда на печ. Дзед у іх запытаўся:

— Дык вы хочаце, каб разбудзілі аптэкара Савіцкага?

— Хочам, і чым найхутчэй, тым лепш,— адказалі яны.

— Гэта праўда,— згадзіўся дзед.— Разбудзіць аптэкара Савіцкага было лёгка, але да яго дабрацца было цяжка, хаця ў цара скамарохаў у кішэні быў падробны план мясцовасці, дзе знаходзілася падзямелле і поўнае апісанне самога падзямелля, у якім Савіцкі заснуў на сто год. Ехаць туды прыходзілася праз розныя краіны сушай, а пасля морам. Дзіда-дзед не меў ахвоты ехаць. Цар скамарохаў звярнуўся да яго:

— Вы, пане Заяц, павінны пабачыць свет, жывых істот, якіх вы сваёй табакеркай выратавалі ад Смерці.

— Праўда,— сказаў Дзіда-дзед.— Аба мне на ўсім свеце варкатня штодня, а я і не чую.

Дзіда-дзед згадзіўся паехаць. Пакуль што яны рухаліся на сваіх трох фурманках і дзе-нідзе ставілі спектаклі. Ім за працу плацілі галоўным чынам добрым старасвецкім мёдам. Саўка і Юрка запэўнівалі, што кожны келішак добрага мёду дае ім тры келішкі таленту.

З іхняй думкай згадзіўся адзін з публікі, шчыры прыхільнік скамарохаў. Ён сказаў так:

— Каб я так меў зайцаву табакерку, як гэта праўда! Я сам па сабе маляр, і добры мёд дае мне таксама натхненне. Некаторыя ў нас нават кажуць, што лепш мець мёд у бочцы, чымся Смерць у табакерцы.

Пра Дзіда-дзедаву табакерку гаварылі ўсюды. Былі нават пушчаны такія прымаўкі:

Каб свіння мела зайцаву табакерку, яна зноў пусціла б Смерць на волю.

Каб на цябе зайцава табакерка адчынілася.

Не зацягнеш мяне ў зайцаву табакерку.

Вандруючы па розных гарадах, яны заўважылі, што жанчыны носяць капялюшыкі-табакеркі альбо шапачкі з зайцавымі вушамі. Таксама гузікі былі ў выглядзе табакерачак. Рэстараны і гасцініцы насілі назву «Табакерка».

Скамарохі ездзілі з горада ў горад і ставілі спектаклі. На прадмесці аднаго горада яны заўважылі вялікі натоўп. Яны зацікавіліся і спыніліся каля саракагадовай жанчыны з напалоханымі шэрымі вачыма, якая хуталася ў вялікую, з галавы да пят, хусціну з вытканымі сярэбранымі табакеркамі і залатымі зайчыкамі. Яна апавядала ім вось што:

— Увесь гэты люд збіраецца каля аднаго акамянела-

га чалавека, мае родныя. А той акамянелы чалавек, мае міленькія, мой муж, мой бедны Ксаверы.

Жанчына біла сябе кулакамі ў грудзі ды ўсхліпвала.

— Мой Ксаверы быў добрым мужам для мяне і добрым бацькам для нашых дзетак. Кавальскім малатком ён зарабляў чэсны хлеб для нашай сям'і. Хай будзе благаславёны пан Заяц, які трымае за пазухай табакерку, а табакерка трымае ў сваіх сценах Смерць-паганіцу. Ксаверы быў слаўным кавалём, мае ягадкі. Працаваў у кузні ад рання да цямна. Ён да таго не любіў духоўнікаў за іх фальш, за іх хцівасць, за іх драпежнасць, што заўсёды ў кузні высмейваў іх перад усім народам. «Яны і такія, яны і сякія»,— гаварыў Ксаверы. Калі мой муж што-небудзь рабіў у кузні для папа ці для манаха — тыя ніколі за работу не плацілі, мае залаценькія. А замест платы яны заўсёды брахалі адно: «Дзякуем. Бог заплаціць!» — «За дзякуй шапкі не купіш»,— гаварыў ім Ксаверы. А бог плаціў заўсёды аднымі і тымі самымі манетамі — дзяцьмі, якіх трэба карміць. Дзяцей у мяне, маі саколікі, адзінаццаць штук з коптарам — адзін у адзін. Што мне з імі цяпер рабіць? Парайце, людцы добрыя, што рабіць?

Цяжарная жанчына заламала рукі і заплакала ўголас.

— Дык вось, месяц таму назад спыніўся ля кузні адзін даўганосы поп, каб яму гарачы вугаль у лоб! Перш-наперш гэты даўганосы ў мяне есці папрасіў. Я паставіла яму міску капусты і булку хлеба. Ён есць, вурчыць, як кот, і так жарэ, што аж цыбаты нос гнецца. Тым часам мой Ксаверы яму коней падкоўвае. Для чатырох коней шаснаццаць новых падкоў, на кожную падкову па восем вухналёў — падлічыце, якая гэта капеечка! Кончыўшы працу, мой Ксаверы папрасіў плату. А даўганосы яму на гэта — «Бог заплаціць». Тады мой Ксаверы моцна на яго зазлаваўся і сказаў: «Плаці ты сам, даўганосы каршун! Смерць цяпер у зайцавай табакерцы і ніякія багі мне непатрэбны!» — «А я плаціць не буду»,— сказаў даўганосы, каб па яго Заяц табакерку адчыніў! Тады мой Ксаверы — цап яго абцугамі за вопратку. «Плаці, кажа, а то...»

Жанчына пры гэтым выцірае вочы, з якіх слёзы цякуць ручаінамі.

— У даўганосага вочы загарэліся, ён выхапіў з кішэні нейкую паперку, прыткнуў да носа майго Ксаверыя, і муж мой, прыпёрты да сцяны кузні, акамянеў з абцугамі ў руках. Людзі, быўшыя пры гэтым, крыкнулі ад страху — і наўцёкі, куды вочы глядзяць... Даўганосы каршун доўга

смяяўся, узяў дошчачку, напісаў на ёй нешта дачырвана напаленым дротам і павесіў на грудзі майму Ксаверыю. Унь, мае людцы, ідзіце, паглядзіце! Скажыце беднай удаве, няўжо Заяц выпусціў Смерць з табакеркі? Мне так шкода маіх дзетак... Ёсць адзінаццаць, а будзе дванаццаты...

Жанчына горка зарыдала.

Скамарохі зразумелі, у чым справа, і пайшлі да кузні. Стаяў натоўп, які баяўся падыходзіць блізка да акамянелага каваля. Вочы каваля былі зачынены, але ва ўсёй постаці яго было відаць, што ён заснуў і акамянеў у часе найвялікшага гневу. У яго абцугах асталіся чорныя шматкі з вопраткі Баніфацыя.

Жонка Ксаверыя крыкнула да скамарохаў:

— Не падыходзьце блізка, мілыя людзі! Не падыходзьце. Каб і вы не набраліся ад яго акамянеласці... О, памілуй нас Заяц з табакеркай...

Скамарохі падышлі і прачыталі на дошчачцы, якая вісела на грудзях Ксаверыя:

«У імя святой тройцы я, Баніфацы першы, намеснік бога на зямлі, караю смерцю бязбожніка каваля Ксаверыя. Няхай ён так стаіць на вялікую ганьбу да тых пор, пакуль будзе стаяць сама зямля. Паведамляю, што табакерка са Смерцю ў маіх руках. Хадзіце ў божыя храмы, маліцеся, шануйце духоўнікаў, тады Смерць будзе спакойна сядзець у табакерцы. А калі не паслухаецеся, усе акамянееце. Аман».

Цар скамарохаў адкінуў ад вачэй густую чупрыну і зарагатаў. Зазвінела смехам Люсенька, Дзіда-дзед, а за імі ўсе.

Ксаверыха пакрыўдзілася і пачала іх шчыра папракаць:

— Хоць вы, паны скамарохі, з усяго па свеце смяецеся, але няма чаго шчэрыць зубы з гора беднай удавы, якая не мае хлеба для адзінаццаці сірацін. Выходзіць так, што вы камянне кідаеце ў маю жабрачую торбу,— і яна так залілася слязьмі, што скамарохі перасталі смяяцца. Плач кавалiхі ўздзейнічаў на іх мацней, чымся вёдры з халоднай вадой.

Тады цар скамарохаў звярнуўся да плачучай кавалiхі з такімі сардэчнымі словамі:

— Шаноўная часовая ўдава, пані Ксаверыха! Няхай

твае вочныя вочы пабачаць і вечныя вушы пачуюць, што скамарохі заўсёды прыносяць народу радасць. Прынясем поўныя жмені радасці і табе. Тады перастанеш быць удавой.

Ксаверыха зазлавалася:

— Як вы адважваецеся гаварыць мне пры маім дарагім нябожчыку такія непрыстойныя словы! Першы раз бачу, каб дурні кусаліся, як вужакі. Не абманвайце старую вераб'іху мякінай. Я ніколі не выйду замуж у другі раз! Не хачу мець яшчэ адзінаццаць чалавек дзяцей! Назаўсёды астануся шчырай удавой Ксаверыя. Кожны дзень я па тры разы буду сюды прыходзіць і прыносіць нябожчыку бульбяныя клёцкі з малаком. Ён іх вельмі любіў пры жыцці. А вы... А вы... ідзіце буслам сена касіць!

Ад гневу ў Ксаверыхі высахлі слёзы.

Цар скамарохаў адкінуў доўгі чуб з вачэй зграбным узмахам галавы і ўрачыста сказаў:

— Пані каваліха, высокашаноўная Ксаверыха! Вы хутка пабачыце ўласнымі вачыма, што скамарохі маюць найлепшыя на свеце сэрцы. Але пані ўдава сёння ж перастане быць удавой.

— Не старайцеся перамудрыць маё ліха,— сказала Ксаверыха, апусцілася на калені і пачала так паўзці да акамянелага мужа і гаварыць:

— Клянуся святой табакеркай, што ніколі не здраджу табе, родны Ксаверы! Клянуся адважным Зайцам, што ніколі не выйду замуж! Клянуся богам, які нашэптваў Зайцу на вуха: «Пасадзі Смерць у табакерку», што назаўсёды астануся тваёй чэснай удавой! О, Ксаверы... Ксаверы... Перастаў звінець музыкай твой малаток і перастаў карміць клёцкамі адзінаццаць сірацін. О, Ксаверы... Ксаверы... Патух агонь на тваім горне, не свецяцца іскры ў тваёй кузні, не смяецца народ ад тваіх вясёлых жартаў — і я плачу-плачу горкімі ўдовінымі слязамі... О, Ксаверы, Ксаверы... Няхай душа твая пойдзе ў рай, і ў божай кузні, адкуль бухаюць грымоты і бліскаюць маланкі, выкуй адзінаццаць малаткоў — сталёвых і гартаваных і кінь з неба ўніз. Няхай нашы адзінаццаць сірацін ходзяць па зямлі ды б'юць па галовах усіх благіх людзей!

Цар скамарохаў загадаў прывесці сюды на фурманках вопратку і грым. Так было зроблена. Тут жа паставілі палатку, у якую ўвайшлі ўсе скамарохі.

Хутка яны ўсе выйшлі з палаткі ў белых мантыях, на якіх былі вышыты залатымі ніткамі табакеркі і зайчыкі. На галовах скамарохаў былі высокія шапачкі з зайцавымі вушамі з залатой паперы. Наперадзе ўсіх ішоў цар скамарохаў з лірай у руках. За ім ішлі ў рад усе скамарохі з рознымі музычнымі інструментамі. Яны гралі вельмі прыгожа, набліжаючыся да акамянелага каваля, і спявалі ў такт музыцы песню з двух слоў:

«Жыві, Ксаверы! Жыві, Ксаверы! Жыві, Ксаверы!»

Народ змоўк. Змоўкла і Ксаверыха. Яна стаяла на каленях, і вочы яе былі зачараваныя гэтым відовішчам.

Цар скамарохаў падышоў блізка да акамянелага Ксаверыя, дастаў з-пад шырокай палы белай мантыі пазалочаную шкляную місачку і даў знак скамарохам.

Усе спыніліся. Замоўкла музыка. Цар скамарохаў перадаў ліру Дзіда-дзеду, а сам пачаў кружыць місачку над галавой Ксаверыя і гаварыць:

— О, Заяц над усімі зайцамі з табакеркаю пад усімі табакеркамі! Насып у гэту місачку па тры кроплі веснавога ветру з усіх вятроў свету! Налі ў гэту місачку па тры кроплі жывой вады з усіх рэчак, мароў і акіянаў! Насып у гэту місачку іскры з яснага сонца, з поўнага месяца, з дробных зорак і дай усё гэта панюхаць чэснаму кавалю Ксаверыю.

Цар скамарохаў паднёс місачку з парашком супраць сну пад самы нос Ксаверыя. Пры гэтым даў знак скамарохам, і яны заспявалі хорам і зайгралі:

— Жыві, Ксаверы... Жыві, Ксаверы... Жыві, Ксаверы...

Цела Ксаверыя налілося сокамі жыцця. Каваль уздрыгануўся, адчыніў вочы, пачаў чхаць, бо Дзіда-дзед прымяшаў тытунь да парашка. Ксаверы азірнуўся затуманенымі вачыма, схапіў абцугамі белую мантыю цара скамарохаў і крыкнуў:

— Плаці, даўганосы каршун, за шаснаццаць новых падкоў і за сто дваццаць восем вухналёў!

Цар скамарохаў, не звярнуўшы на гэта ўвагі, сказаў Ксаверысе:

— Уставай з кален, добрая жонка Ксаверыя! Ты ўжо не ўдава...

Ксаверыха ўзнялася на ногі, схапілася рукамі за абцугі і крыкнула радасным голасам:

— Ачухайся, Ксаверы! Гэта не даўганосы! Асцярож-

на! Парвеш белую кашулю гэтага слаўнага і шаноўнага кудлатага паніча!

— Га? — здзівіўся каваль Ксаверы.— Га?!

Ксаверыха вырвала ў яго абцугі, швырнула на зямлю і кінулася мужу на шыю, ашчаперыўшы яго рукамі мацней, чым жалезнымі абцугамі.

— О, мой Ксаверы! О, мой Ксаверы! — крычала яна неапрытомным голасам.— Я згатавала аж два саганы бульбяных клёцак з малаком! Я пазычу бочку піва ў добрага суседа! Я пашыла дзецям адзінаццаць новых зрэбных кашуль!

Ад здзіўленых і радасных крыкаў натоўпу шумела ў вушах.

Цар скамарохаў даў знак сваім. Скамарохі схапілі палатку ды на воз, самі ўсе ўскочылі на фурманкі і рушылі з усіх сіл — аж пыл задыміў на шырокім гасцінцы.

За скамарохамі гналіся дзесяткі людзей з крыкамі:

— Пачакайце, добрыя людзі! Напоім і накормім! Па-ча-кай-це!

Наперадзе ўсіх беглі каваль і кавалiха і літасці прасілі:

— Півам пачастуем! Клёцкамі! Блінамі! Дзеці нашы падзякуюць вам! Вашых коней падкуём! Новыя шыны на калёсы нацягнем! Пачакайце! Мілыя! Родныя! Добрыя! Вясёлыя! Слаўныя! Пачакайце! Па-ча-кай-це!

Скамарохі падкідвалі ўгару свае шапкі ў знак развітання, а коні імчалі іх галопам. За фурманкамі беглі карова, сабака, ваўкі і адзіны леў.

Калі скамарохі схаваліся за гарою, да іх слыху яшчэ плылі з ветрам крыкі «пачакайце!».

Фурманкі павярнулі на лясную дарогу і ехалі доўгі час блытанымі сцежкамі, каб іх не знайшлі. Яны ўцякалі ад славы і пачасцей, як ад ворагаў.

Так яны ехалі цэлы дзень. Калі сцямнела, яны спыніліся каля ўзгорка ля чыстай крыніцы. Мужчыны распраглі коней, паставілі палатку, а жанчыны расклалі агонь і рыхтавалі вячэру.

Дзед адсопся і звярнуўся да ўнукаў:

— Пара і нам вячэраць, дарагія школьнікі. Ваша слаўная мама рыхтуе сягоння бульбяныя клёцкі з малаком. І дазвольце мне на хвілінку зрабіцца прарокам: клёцкі будуць такія смачныя, аж я ўжо аблізваюся. У кожную клёцку ваша мама кладзе чвэртку крутога жаўтка і называе

гэта «клёцкі з душамі». Як прыемна сэрцу нашаму ўсё тое, што мае свежую душу. З маладой душой заяц можа напалохаць і бяздушную кабылу.

## ПАН І КСЁНДЗ

Дзед на некалькі тыдняў захварэў і не быў у сілах далей апавядаць гісторыю Дзіда-дзеда. Калі ён ачуняў, стаяла лютая зіма. Кожную ноч хатку заносіла снегам. Прыходзілася раніцай пракапваць лапатай сцежку да дзвярэй. Школьнікі вельмі любілі гэту работу.

Калі спынілася мяцеліца, школьнікі ляпілі са снегу фігуры. Дзед зацікавіўся, выйшаў на двор і запытаўся:

— Гэта хто?

— Цар скамарохаў!

— А той?

— Дзіда-дзед!

— А малая?

— Люсенька!

— А гэта пара?

— Ксаверы і Ксаверыха!

Школьнікі ляпілі слаўных герояў з Дзіда-дзедавай гісторыі. Дзед радаваўся.

— Выйдзе з вас толк, мае дарагія і паважаныя,— хваліў іх дзед.— Зусім магчыма, што знойдзеце качан капусты з шоўкавымі, сярэбранымі і залатымі лістамі. Памятаеце? Я калісьці ўмовіўся з вамі так называць талент. І няхай вас не збівае з панталыку тое, што цяпер, калі я гляджу любую з вашых снежных статуй, вы павінны мне тлумачыць, хто яна, бо вы толькі пачынаеце.

Пры гэтым дзед узяў адну са школьных кніжак, разгарнуў яе, паказаў пальцам на малюнак, схаваўшы другой рукой надпіс, і запытаўся:

— Што гэта?

— Шчупак,— сказаў унук.

— Качарга дзівосная,— сказала ўнучка.

— Прачытайце, што напісана пад малюнкам,— сказаў дзед і адняў руку.

— Лісіца! — прачыталі ўнукі.

— Вось бачыце,— сказаў дзед.— Гэтыя даўно хлеб ядуць са свайго рамяства. Яны ўжо ніколі не знойдуць качана таленту. А кожны з гэтых печкуноў думае, што цудадзейны качан у яго за пазухай.

Дзед падставіў вуха да рта снежнага Дзіда-дзеда і звярнуўся да ўнукаў:

— Чуеце? Чуеце?

— А што?

— Наш Дзіда-дзед просіць мяне, каб я пасля вячэры апавядаў вам працяг яго гісторыі.

У той жа дзень пасля вячэры дзед пачаў са слова «Эге!»:

— Эге! Скамарохаў мы пакінулі пры вогнішчы ля крыніцы. Пасля поўначы ўзышоў яркі месяц, падобны да сярэбранай табакеркі. Пад яго святлом людзі ўгледзелі блізка сад, белыя вежы панскага палаца і высокі цагляны касцёл. Скамарохі рашылі раніцай паехаць туды і паставіць у маёнтку спектакль.

Калі раніцай вецер сагнаў з поля туман, скамарохі накіраваліся ў маёнтак. На полі іх здзівіла вось якая з'ява. Голыя людзі, упрэжаныя ў цяжкія плугі, аралі поле. Другія голыя людзі імі кіравалі, моцна білі іх бізунамі і злосна крычалі:

— Барадаты! Ары глыбей...

— Гэй, лысы! Баразну раўней... раўней, ліха!

— Гультаі! Абібокі! Вось вам! Яшчэ... яшчэ!

Так крычалі паганятыя, сцёбалі людзей з усіх сіл пугамі, а тыя людзі толькі стагналі.

Скамарохі падышлі да іх.

— Чаму вы ўпрэгліся ў плугі замест коней і быкоў? — запытаўся цар скамарохаў.

Людзі адказалі:

— Не мы самі ўпрэгліся, а нас упрэглі.

— Хто?

— Пан.

— А дзе ж яго быкі і коні?

— Пан прадаў іх. Ён вельмі любіць грошы.

— Чаму не ўходзіце ад пана? Ён вас добра корміць?

— Пан зусім не корміць. Але мы чамусьці з голаду не паміраем. А баімося ўхадзіць, бо нас напалохаў ксёндз.

— Што ж вам ксёндз гаварыў?

— Ксёндз сказаў нам, што жывём яго малітвамі. А калі толькі пойдзем ад пана, дык у той жа дзень перамрэм.

— Ці вы не чулі, што Смерць сядзіць у табакерцы?

— Не, не чулі.

— Дык мы вам сёння пакажам, як гэта здарылася, што Смерць сядзіць у табакерцы.

— Што вы за людзі?

— Мы скамарохі.

Голыя людзі пачалі хрысціцца і спалохана пазіраць на скамарохаў.

— Чаго вы спалохаліся? — запытаўся цар скамарохаў.

— Ксёндз нам гаварыў, што вы... што вы... што вы...

— Што хто мы?

— Баімося сказаць...

— Гаварыце! Мы ж не кусаемся... Мы не ваўкі, не авадні і не камары...— сказаў цар скамарохаў.— Ах вы бяззубыя! Ах вы авечкі! Не можаце пакусаць пана і ксяндза!

Людзі пачалі ўцякаць ад скамарохаў, а здалёку крыкнулі да іх:

— Ксёндз гаварыў, што скамарохі — чэрці!

Здзівіліся скамарохі, што тут жыве такі цёмны, прыбіты і пужлівы народ, які ў гэтай глушы нават не чуў пра Смерць у табакерцы. Калі панскія парабкі зніклі за ўзгоркам, цар скамарохаў сказаў:

— Зараз сюды з'явіцца пан, а можа, і ксёндз. Бо людзі пабеглі ў маёнтак сказаць, што на панскае поле чэрці прыйшлі. Давайце наладзім для іх спектакль — зусім новы. Я толькі што прыдумаў.

— Без рэпетыцыі? — запытаўся Юрка Дратва.

— Тут і рэпетыцыя непатрэбна. Я зраблюся богам, а вы ўсе — ангеламі. А там самі пабачым, што рабіць далей.

Скамарохі апрануліся ў доўгія белыя кашулі, прычапілі ззаду папаратнік замест крылляў, на галовы насунулі абручыкі, абклееныя сярэбранай паперай.

Сам ён надзеў на галаву гаршчок, абклееены залатой паперай. Прывязаў сабе да твару льняную бараду, абкруціўся ўвесь бялюткім кужалем і ўрачыста сказаў:

— Я бог, а вы мае паслухмяныя ангелы! Ты, Люсенька, мой найлепшы ангел! Станавіся каля мяне з правага боку і пабачыш, што тут зараз будзе. Саўка і Юрка, між намі кажучы, хутчэй падобны на чарцей, чым на ангелаў.

— А ты, пан бог,— зазлаваўся Юрка Дратва,— выглядаеш як той Піліп, што выскачыў з канапель.

— Не як Піліп,— паправіў яго Саўка,— а як чучала, каб вераб'ёў пужаць.

— Ціха вы,— смяяўся цар скамарохаў,— не шануеце мяне ні як свайго цара, ні як свайго бога, ні як свайго паэта.

Дзіда-дзед сказаў:

— Гэта вельмі кепска. Бо хто плюе ў сваю вясну, будзе мець неўраджайную восень.

Сказаўшы гэта, Дзіда-дзед павёў фурманкі з бебахамі і жывёламі ў бярэзнік. Ледзь паспеў ён гэта зрабіць, як з боку маёнтка паказалася карэта, запрэжаная ў чацвёрку людзей. У карэце сядзелі пан і ксёндз, абодва худыя, у падранай вопратцы.

Цар скамарохаў дастаў з кішэні дзве бяроставыя табакеркі і закамандаваў:

— Пойдзем насустрач карэце!

Праз дзве хвіліны яны сустрэліся з карэтай.

Ксёндз і пан саскочылі з карэты і давай з дзівам пазіраць на скамарохаў.

— Гэта вы скамарохі? — запытаўся пан.

— Гэта вы бязбожнікі? — запытаўся ксёндз.

Цар скамарохаў адказаў:

— Скамарохаў мы толькі што спалілі на нябесным агні, а вецер панёс іх попел на мхі і балоты, на пустыя лясы. Мы моцна загневаліся, калі ўгледзелі, што скамарохі-чэрці паганяць вашу святую зямельку.

— А вы самі хто будзеце? — запытаўся пан.

— Вы манахі? — запытаўся ксёндз.

Цар скамарохаў растлумачыў:

— Я бог, а гэта мае ангелы...

Пан і ксёндз кінуліся перад імі на калені і ў адзін голас узмаліліся:

— Даруй нам грахі, божанька літасцівы...

Цар скамарохаў гнеўна сказаў:

— А чаму вы бедных людзей так мучаеце? Чаму вы ім есці не даеце?

Спалоханы ксёндз пачаў вінаваціць пана:

— Пан па скупасці нікому есці не дае. Ён хавае крупінку на злую гадзінку.

Спалоханы пан пачаў вінаваціць ксяндза:

— Гэта ксёндз сказаў, што трэба пасціцца, бо пост — да рая залаты мост.

— І ніхто ў вас не памірае? — запытаўся цар скамарохаў.

— Ніхто, божанька літасцівы, у нас не памірае ўжо каля двух год,— сказаў ксёндз.

— Так, так, божа салодкі,— дадаў пан.

— Вы і сваіх людзей не корміце?

— Так, пан бог, няхай і яны будуць вечныя.

— Ах, вы дурныя і хітрыя! — загневаўся яшчэ больш цар скамарохаў.— Голадам морыце людзей! Бязбожнікі вы! Грэшнікі вы! У пекла я вас кіну! Вы хочаце мець вечных дармовых парабкаў?

— Ой, ой, ой...— узмаліўся пан.— Строгі бог гасподзь, і за лучынку знойдзе прычынку, каб накрычаць...

А ксёндз біў сябе кулаком у грудзі ды шаптаў:

— Даруй, божанька... Даруй, божанька... Даруй, божанька...

— А вы, людзі бедныя, лезце ў карэту!

Ксёндз і пан так і зрабілі.

— А мы, божанька, іх вазіць не будзем,— сказалі людзі, што валаклі панскую карэту.

— Ваша нежаданне вазіць паноў мяне вельмі радуе,— сказаў цар скамарохаў.— Значыць, ліха вас доўга няньчыла і ў вас пачалі вырэзвацца зубы. Гэта добра! Злазце, пан і ксёндз, з карэты!

Пан і ксёндз паслухаліся.

— А вы, людзі бедныя, лезце ў карэту!

Людзі селі ў карэту.

— Пан і ксёндз! У аглоблі! Любілі катацца, пакатайце і іх!

— Сілы не маем, божанька... Мы не прывыклі.

Тады цар скамарохаў загадаў фурману, які сядзеў на козлах:

— Ану, усып ім гарачых, тады яны набяруцца сілы!

— Я гэта, божанька, з прыемнасцю зраблю! — абрадаваўся фурман і пачаў бізуном грэць пана і ксяндза.

Яны пусціліся галопам і ажна заіржалі, як жарабцы.

— Калі яны сем разоў аб'ездзяць навокал поля, няхай зноў вернуцца сюды! — закамандаваў цар скамарохаў.

Пан і ксёндз спрытна скакалі ў аглоблях, аж пыл і дым курыў, а «бог» і «ангелы» рагаталі, як жарабцы. Ажна водгаласкі покатам каціліся з бярэзніку і з чыстага поля.

Калі карэта спынілася каля цара скамарохаў пасля таго, як пан і ксёндз павазілі парабкаў, цар скамарохаў сказаў лагодным голасам:

— Вы ўспацелі і стаміліся. Вы, конікі, гагочаце і ў сваю канюшаньку хочаце... Дарую вам грахі. Садзіцеся ў сваю карэту! Вось вам па адной табакерцы! Нюхайце з іх

райскі тытунь! Гэта табакеркі архангела Гаўрыіла і архангела Міхаіла.

— Дзякую,— сказаў пан.— Вось гэта я люблю таму, што дармовае.

— І таму, што райскае,— дадаў ксёндз.

— Нюхайце! Нюхайце! — далікатна папрасіў цар скамарохаў.— Нюхайце!

Ксёндз і пан пачалі нюхаць і чхаць.

— Апчхі! Апчхі! Апч...— І, не вычхаўшыся як след, пан і ксёндз заснулі і акамянелі ў карэце, бо цар скамарохаў усыпаў у бяроставыя табакеркі парашок на дзесяцігадовы сон — майстэрства рук аптэкара Савіцкага.

Цар скамарохаў пахваліў парашок і майстра:

— Дзела дзельніка баіцца.

Калі везлі ў маёнтак у карэце акамянелых пана і ксяндза, вакол іх збіралася шмат народу. Скамарохі, скінуўшы тэатральную вопратку, памаглі падпіхваць карэту.

Цар скамарохаў расказаў усё парабкам, і яны папрасілі яшчэ некалькі сонных парашкоў для суседніх паноў і ксяндзоў.

Па дарозе да падзямелля, дзе спаў аптэкар Савіцкі, скамарохі пачаставалі сонным парашком з бяроставых табакерак нямала благіх людзей.

Дзед закашляўся так моцна, што мусіў спыніць апавяданне. Яго напаілі ліпавым цветам і палажылі спаць, а ўнукі ўзяліся за ўрокі.

Аж да самай вясны хварэў дзед. Унукі прынеслі яму некалькі свежых пралескаў.

— Гэтыя пралескі,— сказаў дзед,— першы парашок супраць сну, які цёплы ветрык, як цар скамарохаў, даў панюхаць зямлі, каб разбудзіць яе ад зімовага сну. Хутка сонца знішчыць апошні снег па лясах. Смерць зямлі схавана ў табакерцы-сонцы. Спявае жаўранак. Прылятаюць буслы, шпакі ды іншыя крылатыя скамарохі.

Дзед быў яшчэ вельмі слабы і спыніў гутарку. Праз пару хвілін ён сказаў:

— Як толькі ачуняю, скончу апавядаць гісторыю Дзіда-дзеда. Мы нашага Іванца давядзём да канца. А пакуль што вы, унукі, будзеце мне апавядаць гісторыю жытняга поля.

Унукі паслухаліся і час ад часу прыносілі дзеду весткі:

— Верабей у руні хаваецца.

Дзед панюхаў тытунь і прамовіў:

— Вы, унукі, рунь жыцця. Вы вясёлыя і лёгкія, як вераб'і.

У другі раз унукі прыйшлі з такім паведамленнем:

— Варона ў руні хаваецца.

Дзед адказаў унукам на такі лад:

— Будзьце ў жыцці не варонамі, а сокаламі.

У трэці раз унукі абрадавалі дзеда такой навіной:

— Гадавая свіння ў жыце хаваецца.

Дзед занепакоіўся:

— Пільнуйце жыта, каб свінні не здратавалі. Бо свінні, як тыя шляхцюкі — дзе ядуць, там і плююць.

У чацвёрты раз унукі так пахваліліся:

— Мы ў жыце хаваемся.

— Расціце, мілыя, як жыта, і красуйце, як жыта. Няхай колас вашага жыццяналіваецца шчасцем. У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.

## МАЛАЙЧЫНА, ЛЮСЕНЬКА

Калі дзед выйшаў на летняе сонейка ў кажушку пасядзець на прызбе, ён так гаварыў:

— Не буду вам доўга апавядаць, як скамарохі пакінулі ў адной вёсцы фурманкі, жывёл і звяроў і плылі па моры, як карабель патануў у часе буры, а людзі ўсе да апошняга выплылі на бераг, бо Смерць, будучы ў табакерцы, не магла адняць у людзей жыцця.

Каб не замачыць рэцэптаў Савіцкага і некалькі гатовых парашкоў на сон і супраць сну і карты падзямелля, цар скамарохаў усё гэта ўсунуў у бутэльку і горлачка заляпіў воскам, каб туды вада не прасачылася.

Выйшаўшы на бераг, цар скамарохаў разбіў бутэльку і палажыў рэчы з яе ў свае кішэні. Дзіда-дзед быў апошні час маўклівы і задуменны. Да яго звярнуўся з запытаннем цар скамарохаў:

— Аб чым задумаўся, пане Заяц?

— Індык думаў і да нічога не дадумаўся,— сказаў Дзіда-дзед,— а я дадумаўся.

— Калі гэта не сакрэт, скажы, шаноўны Заяц, усім нам, у чым справа?

— Гэтага я і хачу,— сказаў Дзіда-дзед.— Бо, як гэта кажуць, вастры зуб аб зуб і розум аб розум. Мы маем во-

рагаў: рыцараў Смерці, якія хочуць вызваліць Смерць з табакеркі. Іх, канешне, не мала. Затое ў нас вельмі шмат прыяцеляў, якія нам удзячны. Гэта — простыя, бедныя людзі. У нас ёсць цяпер цудадзейныя парашкі аптэкара Савіцкага. Імі трэба ўсыпіць ворагаў і аддаць табакерку пад ахову народа.

Скамарохі згадзіліся з думкамі Дзіда-дзеда. Потым яны па плану лёгка знайшлі падзямелле, спусціліся ўніз і трапілі да аптэкара Савіцкага, які ляжаў акамянелы на саломе і быў прыкуты да сцяны ланцугом.

Цар скамарохаў быў такі вясёлы, што і тут не мог абысходзіцца без прадстаўленняў.

Скамарохі распілілі на некалькі частак жалезны ланцуг аптэкара Савіцкага і кінулі кавалкі з такой сілай, што доўга з усіх бакоў чуваць былі водгукі прыкрага звону. Потым цар скамарохаў загадаў апрануцца ўсім ва ўсё белае і кожнаму з іх даў запаленую свечку ў рукі. Сам ён сеў насупраць спячага Савіцкага і зайграў на ліры.

Ад цудоўнай ігры цара скамарохаў усім здавалася, што над іх галовамі не каменнае скляпенне, а сіняе неба з яркім сонцам. А навокал жытняе поле, і птушкі спяваюць, і журчаць ручаі. У сэрца кожнага расла такая радасць, якой ніхто ніколі раней не меў.

Цар скамарохаў падаў парашок супраць сну Юрку Дратве, а сам яшчэ лепш зайграў. Што ён граў? Дайце ўспомніць. Эге! Ён граў мяцеліцу — нашу слаўную мяцеліцу. Скамарохі паставілі свечкі на стол і пусціліся танцаваць.

Юрка тым часам падсунуў пад нос аптэкара Савіцкага парашок. Праз хвіліну твар Савіцкага паружавеў. Уздрыгнуўся Савіцкі з галавы да ног, расплюшчыў вочы і сеў. Ён пачаў прыслухоўвацца да музыкі і азірацца на танцуючых, на цара скамарохаў, на Саўку, на Люсеньку, на Юрку Дратву.

Яго вочы былі здзіўленыя. Ён азіраўся ва ўсе бакі ды ўсё ж такі не ведаў, на якім ён свеце. Юрка Дратва далікатна ўзяў яго за локаць і запытаўся:

— Савіцкі, ты мяне пазнаеш?

Савіцкі маўчаў.

— Савіцкі, ты яшчэ спіш?! — здзівіўся Юрка і пачаў яго тармашыць з усіх сіл.

— Юрка, гэта ты? — урэшце прагаварыў Савіцкі.

— Гэта я! Гэта я! Той самы Юрка Дратва, якому ты даў парашкі тараканам на сон.

— Ты зусім не пастарэў...— здзівіўся Савіцкі.— Я праспаў сто год, а ты выглядаеш, як сто год таму назад. Нават барада не падрасла.

— Не сто год, а ўсяго каля трох год, дарагі сусед,— сказаў Юрка Дратва.

— А я ж прыняў сонны парашок на сто год,— сказаў Савіцкі ўстрывожана.— Няўжо парашок быў нядобры?

— Не трэба непакоіцца. Парашок быў добры, але мы вас разбудзілі, пане Савіцкі! — сказаў цар скамарохаў.

— Як жа вы мяне разбудзілі?

— Парашком супраць сну.

— Дзе вы яго дасталі? — зацікавіўся Савіцкі.

— У даўганосага.

Скамарохі дасталі са сваіх сумак віно і закускі. У час ежы Савіцкі апавядаў усё, што зрабіў з ім даўганосы. Цар скамарохаў у сваю чаргу расказаў Савіцкаму пра статуі ў каралеўстве Пінг-Понга. Калі Савіцкі даведаўся, што сам даўганосы заснуў, ён сказаў:

— Калі яму папала ў нос няпоўная доза парашку, ён можа прачнуцца ў любую хвіліну. Прыйдзецца з'ездзіць туды і ўсунуць яму ў ноздры стогадовы сон.

Цар скамарохаў падаў Савіцкаму рэцэпты, якія знайшліся ў кішэні даўганосага, і аптэкар іх спаліў на свечцы.

— Я іх ведаю на памяць,— сказаў ён.— Не трэба іх трымаць, каб не папалі ў варожыя рукі.

Скамарохі елі, пілі і весяліліся і забылі пра ўсё на свеце. Не агледзеліся яны, як у падзямелле ўвайшла грамада ўзброеных людзей. Наперадзе ўсіх ішоў даўганосы ў адзенні папы рымскага пад імем Баніфацы першы. Аптэкар Савіцкі і скамарохі не так спалохаліся, як здзівіліся. З даўганосым было некалькі сот узброеных людзей.

Нядоўга думаючы, Люсенька непрыкметна выцягнула з кішэні цара скамарохаў тыя некалькі парашкоў на сон, якія яшчэ засталіся. Яна падскочыла да Баніфацыя першага, усунула яму парашок у нос і сказала: «Спі дзесяць год!» Даўганосы зараз жа паваліўся і заснуў.

Дзіда-дзед засмяяўся і сказаў:

— Так удалося, што верабей перамог лося!

Яшчэ некалькі разоў усе чулі тоненькі галасок Люсенькі:

— Спі дзесяць год! Спі дзесяць год! Спі дзесяць год! Заснулі яшчэ некаторыя спадручныя даўганосага.

— Вязаць! Вязаць гэтых людзей! — крычаў нехта з папскага войска.— Тут між іх і Заяц з табакеркай! Лавіце яго і вяжыце!

Пачалася сумятня...

Дзед на хвіліну змоўк. Сонца пякло. Дзед з унукамі пайшлі пад цень двух старых дубоў, на галінах якіх забаўляліся вавёркі. Дзед пачаў апавядаць далей:

— Першай выскачыла з падзямелля Люсенька. Яна крыкнула ў самае неба: «Жаўранкі, птушкі родныя! Ляцайце па ўсяму свету і склікайце бедных, гаротных людзей! Няхай з'явяцца сюды бараніць табакерку. Зайца акружылі благія людзі. Яны хочуць выпусціць Смерць на волю».

Паляцелі слаўныя жаўранкі склікаць народ. Тым часам пры сумятні ўдалося ўсім скамарохам, і Дзіда-дзеду, і аптэкару Савіцкаму выскачыць з падзямелля, захлопнуць дзверы і наваліць зверху каменне, каб папскае войска не магло вылезці адтуль.

З усіх бакоў бег туды народ ратаваць Дзіда-дзеда і яго табакерку — беглі з косамі, з каламі, з нажамі, з сякерамі, са стрэльбамі. А за народам пусціліся ўздагон узброеныя рыцары Смерці з усяго свету.

Раптам скамарохі і Дзіда-дзед угледзелі, што паміж народам і рыцарамі Смерці пачалася сапраўдная бітва. Пачуліся першыя стогны параненых людзей. Пацякла кроў, пакаціліся трупы забітых...

— Смерць выскачыла з табакеркі! — крыкнуў цар скамарохаў.

Дзіда-дзед схапіўся за пазуху.

— Згубіў табакерку! — усклікнуў ён.— Я чуў, як нешта брызганула аб камень пры выхадзе з падзямелля.

Люсенька пабегла да падзямелля і на дзвярах яго, заваленых каменнем, знайшла адчыненую табакерку. Яна аддала табакерку Дзіда-дзеду.

Дзіда-дзед сказаў:

— Добра, што хоць табакерка засталася... Будзе што ўспамінаць ды з чаго нюхаць і мне, і ўнукам, і праўнукам...

— Што ты парабіў? — сказаў цар скамарохаў Дзіда-дзеду.

— Была такая спешка,— апраўдваўся Дзіда-дзед.— А спешка да дабра не даводзіць. Шпарка добра толькі камароў біць...

Скамарохі развіталіся адны з аднымі і з Дзіда-дзедам і ўсе разбрыліся па сваіх хатах і да сваёй ранейшай працы.

Непатрэбны сталі цяпер мясныя буракі, а парашкі на сон і прабуджэнне перасталі дзейнічаць. Аптэкар Савіцкі зноў вярнуўся ў аптэку. Усе прыручаныя звяры зноў адзічэлі. Нарабіўшы шмат шкоды, яны зноў пахаваліся па лясах.

Дзіда-дзед, вечнай памяці, з Люсенькай дабраліся дамоўляснымі сцежкамі і ціхімі дарожкамі. Дзіда-дзед аддаў Люсеньку ў школу, выгадаваў яе, і яна паехала ў свет. А сам ён садзіў добры тытунь, цёр на пылок, сыпаў у табакерку і нюхаў, можа, гадоў сто.

Унукі пыталіся ў дзеда:

— А вайна між працоўным народам з рыцарамі Смерці?

— Яна, родненькія мае, цягнецца па сягоняшні дзень. Народ жыць хоча, а рыцары Смерці стараюцца яго знішчыць.

На хвіліну стала ціха. Дзед і ўнукі задуменна прыслухоўваліся да песні жаўранкаў.

— Ці-ці-ці...— спявалі жаўранкі.— Ці-ці-ці...

— Гэта жаўранкі кажуць,— тлумачыў дзед унукам,— ці скора зноў зловяць Смерць у табакерку? Ці скора спыняцца войны? Ці скора працоўны народ знішчыць рыцараў Смерці? Калі вы, дарагія ўнукі, зловіце Смерць у нявалю, дык моцна трымайце і ніколі з рук не выпускайце. А я ўпэўнены, што зловіце, бо, як гэта кажуць: прыйдзе люты мароз і на мухамораў, і на змеяў, і на іншых ліхадзеяў. Яны адмарозяць рукі і ногі, нос і вушы і ўсё-ўсё. Трэба толькі знішчыць раней прыслужнікаў Смерці, у якіх вочы завідушчыя і рукі заграбушчыя.

Дзед дастаў шчапотку тытуню з табакеркі, усунуў у ноздры, вочы ў яго зажмурыліся з асалодай, і ён пачаў сваю старую песню:

— Апчхі... апчхі... апчхі...

# ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

## НЕ АДНЫМ ХЛЕБАМ...

Сказана ў Бібліі: «Не адным хлебам чалавек жыў будзе»,— і гэта шчырая праўда, бо каб чалавек мог здаволіцца толькі ядой, ён не лічыўся б вышэй другіх стварэнняў на зямлі. Апрача хлеба, урываюцца ў яго жыццё духоўныя патрэбы, каторыя ўсякі чалавек па-свойму стараецца здаволіць. Агульна ўзяўшы ўсе праявы духоўнага жыцця, каторыя аскрыдляюць душу чалавека, паднімаюць яго ўвысь, можна назваць хараством.

Святое адвечнае хараство! На зямлі няма нічога вышэйшага за цябе!.. Ты адно чыстае, яснае, без жаднай плямін... Ты злучаеш чалавека з праўдзівым богам, з добрым, усёдаровываючым, святым богам зямлі...

З самага пачатку чалавечай культуры людзі, яшчэ дзікія, цёмныя, зрабіліся тваімі шчырымі паклоннікамі і хоць у грубых формах складалі табе сваю пашану і славілі цябе. Розныя культы, розныя веры паўставалі, перамяняліся і замiралі, як мары паўночныя; розныя філасофіі праходзілі на экране чалавечых мазгоў, і новыя тэорыі, новыя мыслі касавалі іх. Толькі адно хараство адвечна стаіць, як багіня на сваім высокім аўтары...

— Што гэта — хараство? — пытаемся мы; і цікава тое, што само пытанне заўсёды з'яўляецца апасля таго, як мы скаштавалі ўжо гэтага дзіўнага напітку, як наша пачуццё знаходзіцца ўжо ў межах хараства. Раней пытацца нельга,— усё роўна як не радзіўшамуся чалавеку нельга пытацца — што такое жыццё? Хараство — маці жыцця, кіраўніцтва дабра і праўды. Хараство — гэта гарманічна скрысталізаваныя жыццёвыя атамы: каторыя, губляючы сваю даўнейшую хаатычнасць, уваходзяць у цыкл кемпасці, штукарства.

У розных вопратках з'яўляецца яно: у музыцы, у паэзіі, у малярстве, у разьбярстве, у будаўніцтве, у рамёслах, у звычаях рэлігійных і савецкіх. Жыццё можна назваць кветкай, хараство — мёдам гэтай кветкі, а чалавека — пчалінай, збіраючай гэты мёд. Паўтараю: хараство або штукарства (артызм) — гэта сама прырода ў кароне сваёй вялікай творчасці.

Усе народы зямлі моляцца хараству адным магутным гімнам, толькі гімн гэты ў кожнага народа мае свой асобны лад, каторы вытвараецца пад уплывам акружаючай яго прыроды.

Кожны народ мае свой асобны стыль ва ўсіх праявах штукарства. У стылі, спосабе выяўляць хараство красуецца душа народа, яго асобны характар, асобнае жыццё, асобнае паняцце хараства.

Калі жадаем грунтоўна пазнаёміцца з жыццём якога-колечы народа, то трэба ўзяцца за яго святыя кронікі — яго штукарства, адкапаць, вывесці на свет, калі яно зацэнена, і спазнаць яго.

Гэту вось працу якраз цяпер павінны мы, беларусы, паставіць на першы чарод.

Многапакутная, асірацелася старонка наша! Колькі гора і несправядлівасці ты перанесла: твае сыны не ведалі і не хацелі ведаць цябе з тваім багатым скарбам!..

А зірніце толькі адкрытымі вачыма на наш народ, і вы ўбачыце нешта пекнае, дарагое, пакрытае пылам вашай нядбаласці...

Зірніце... Зусім асобны, забыты куток на зямлі... Сваімі рэчкамі, лугамі, балотамі, лясамі; сваімі зычнымі, хапаючымі за душу песнямі, музыкай, казкамі, бывальшчынай; сваімі характэрнымі будоўлямі, разьбярствам, тканінамі; сваімі танцамі, гульнямі, звычаямі — усім тым, у чым выяўляецца асобная, таемная, а такая дзіўная містэрыя нашага народа, ці не папхне вас, каб спазнаць усё гэта, выведаць і паказаць свету ўсяму!..

Хто мае святы агонь у сэрцы сваім, хай не стаіць збоку, а хай бярэцца горача за працу над пазнаннем хараства нашай старонкі, нашага народа. Няхай прытуліцца гарачым сэрцам да зямелькі-маткі роднай і вокам загляне глыбока-глыбока ў жыццё: у зямлю аж да дзедаўскіх костачак, у людзей — да бяздоні душ, у край — праз усе яго долі, да першых дзён і спазнае душу сваёй зямлі, душу народа ў найцікавейшых, у характэрных праявах, каторыя выліваюцца ў песнях, казках, звычаях.

Трэба ўсе песні, звычаі і ўсё іншае, у чым праяўляецца душа нашага народа, збіраць, запісваць, зарысоўваць, фатаграфаваць, бо ва ўсім гэтым крыецца характэрная,— наша частка,— агульналюдскога хараства.

## КУПАЛЬСКАЯ НОЧ

Аб купальскай ночы на Беларусі шмат пяюць песень, шмат казак расказваюць...

Галоўны матыў гэтай народнай творчасці — шуканне нейкага таемнага скарбу, шуканне захаванага шчасця і долі...

Не дзеўкі агонь раскладалі, 1,24
Сам бог агонь раскладаў...

Кажа купальская песня і ладзіцца — свята-гульня на ўсю купальскую ночку.

Браты мае! Ад вёскі да вёскі паліце агні!.. Гуляйце, скачыце хоць дзеля таго толькі, што жыццё ваша, цяжкімі ланцугамі абхапіўшы вас, не ўсе светлыя думкі выбіла з грудзей вашых і не зусім бяздушнымі, сухімі муміямі зрабіла вас... бо жыве ў сэрцах вашых пачуццё нездаволенасці цяперычынай, бо жадаеце і шукаеце нязнанага шчасця, дзіўных агняцветаў.

Ладзьце гульні, паліце агні па ўсёй зямельцы нашай!..

Як у душах вашых запалае агонь змагання за сваё роднае, як у думках вашых зацвіце чароўны цвет святой праўды — тады вы пазнаеце, што ў вас саміх, у вашых сэрцах захаван той багаты скарб, каторага ад вякоў шукаюць у купальскую ночку...

Толькі не хавайце адзін ад другога свайго шчасця шукаючы, а наадварот — шматмільённай грамадай ступайце наперад па шляху сваім... Як зіма нікне перад магутным сонцам, так знікне ўсё цяжкое, цёмнае, і яснае шчасце зайграе ў вачах вашых тысяччу жыватворнымі праменнямі, калі вы знойдзеце загубленую сваю душу, душу свайго народа...

Хай старцы засядуць пры агнях і дзіўныя казкі баяць унукам сваім, хай уся моладзь беларуская, з вянкамі са свежых кветак на галовах, пяюць і скачуць усю ноч купальскую!.. Гэта ночка павінна быць святам нашага нацыянальнага адраджэння, катораму імя — бязмерны скарб. Хоць мы яго доўга шукалі, але знайшлі, і ён ужо ад нас навекі не ўцячэ!..

Паліце радасныя агні, радуйцеся па ўсёй краіне нашай!..

## КУПАЛЛЕ Ў ВІЛЬНІ

У купальскую ноч 23 чэрвеня ўвесь горад, ведаючы пра штогодняе святкаванне беларусаў у Вільні, высыпаў на бераг Віліі паглядзець дзіўную казку наяву. І праўда, дзякуючы стаpанню Беларускага муз.-драм. кружка, гэтае вялікае свята зелені і агню штогод пякнее ды пякнее...

Вачам не верылася — здавалася, што гэта нейкая цудоўная мара...

Уся Вілія ад Антокаля да Закрэтнага лесу была ў агнях... Па рацэ, акружанай з абодвух берагоў дзесяткамі тысяч людзей, плылі параходы, баркі і лодкі, прыбраныя зеленню, светачамі і рознаколернымі ліхтарэнькамі. Над імі ўзвіваліся ўгару іскраўкі (феерверкі), іскрыліся бенгальскія агні. Мелодыі музыкі і беларускага хору ўторыла шчырым віншаваннем публіка з берагоў.

Прыехаўшы ў Закрэтны лес, гулялі тамака ўсю ноч, яшчэ захапіўшы ладны кавалак раніцы.

Там зноў былі вогнішчы, музыка, беларускі хор, беларускія танцы, беларускія гульні і інш.

Вельмі пекна выступалі беларускія дзявочыя ўборы.

Словам, пазіраючы на гэту містэрыю, поўную хараства і паэзіі, душа безгранічна весялілася... Агульны шчыры настрой абхапіў грамаду людзей, каторыя, забыўшы свае штодзённыя клопаты, увайшлі хоць на кароткі час ва ўладарнасць праўдзівага шчырага паэтычнага настрою.

## ПАДМОГІ

Чытаючы ў газетах, што сяляне шмат дзе па вёсках цэлымі сходамі касуюць манапалькі і шынкі, неяк робіцца весялей на душы, родзіцца вера ў маладую, яшчэ мала папсутую новымі «веяннямі», Сілу і Розум народа...

Селянін сам пачаў пазнаваць, скуль бярэцца шкадлівасць яго жыцця! Гэта ўсё добра, вельмі добра, толькі трэба яшчэ раз азірнуцца назад ды глянуць на «пачатак пачаткаў усіх» — на галоўную прычыну народнага п'янства, тады і змаганне куды лягчэй зробіцца.

— Чаму селянін п'е?

— Бо цёмны.

— Чаму цёмны?

— Бо п'е.

І так без пачатку і без канца.

«Круці не круці, а трэ памерці!»

Нейкі зачараваны круг...

Ён цёмны — ён не ведае, якой другой гульнёй насыціць сябе пасля цяжкой працы, чым выпіўка. Яму патрэбна нейкая гімнастыка, рух, сувязь з людзьмі і... ён ідзе ў карчму, бо другога месца няма. Тут настае яго душэўнае жыццё, пачынаючы шчырымі пацалункамі добрага прыяцеля і канчаючы бурнымі бойкамі... Атуманьваюцца яго мазгі, і ён ужо не ў сілах вырвацца ад свайго паганага ворага — п'янства.

Ён п'е, бо цёмны.

Ён цёмны, бо п'е...

Каб гэта знічтожыць, трэба не піць, не быць цёмным.

Вось бачым мы жывыя факты, што самі сяляне паўстаюць супраць гэтага, пачынаюць змагацца, а месцамі па вёсках кабеты ўстраіваюць «мітынгі» аб скасаванні прадажы паганай атруты. З гэтага відаць, што «гора народнае» «бедны наш край затапіла»... далей ужо нельга дыхнуць, і народ крыкнуў: «Не дачакаемся мы — ад «лепшых» братоў сваіх ніякай падмогі — мы самі павінны ратавацца!» Але тут трэба звярнуць увагу на тое, што адказацца ад гарэлкі яшчэ мала; — трэба чым колечы дапоўніць застаўшаеся пустое месца ў жыцці селяніна пасля гарэлкі.

Трэба даць страву, рух і новае жыццё яго мазгам і душы... Трэба прыйсці яму на падмогу.

Перш-наперш разам з павелічэннем чысла школ і навукі ў школах для сялянскіх дзяцей трэба і для сталых устраіваць чытальні, клубы, рабіць спектаклі, кінематогра-

фы, спявацкія гутаркі і інш. (не гаворым тут аб вельмі патрэбных каапэратыўных установах).

Трэба ўстраіваць гульні, танцы, спортавыя гурткі для маладзёжы...

Калі селянін будзе мець новую страву для душы, тады можна сказаць напэўна — счэзне ўся злыбеда нашага жыцця.

Мы шчыра верым, што сам народ возьмецца з часам за гэту работу, але цяпер трэба народу паказаць, куды трэба ісці. Трэба, каб народная інтэлігенцыя ўзялася цяпер за працу.

Болей светлыя, свядомыя сыны бацькаўшчыны, цяпер пара ўзяцца за працу!

Цяпер рука аб руку з народам! Гэта праца дасць у скорым часе багатае жніво і народная душа выгоіцца з тых глыбокіх ран, каторыя спрадвеку ўкараніліся ў яго душы, дзякуючы варункам, у якіх быў пастаўлен народ.

Пры гэтым трэба памятаць, што кожная культурная работа сярод беларусаў павінна весціся ў беларускай мове, бо не можна ламаць душы народнай.

## К ЖЫЦЦЮ!

Кожная новая ідэя, кожная новая думка родзіцца заўсёды самім жыццём. Паяўляюцца апосталы, каторыя цэлай галавой вышэй стаяць ад звычайнага народнага імпульса, і пачынаюць шырыць свае вучэнні і пропаведзі.

Апрача нямногіх, яшчэ не даросшыя да гэтых думак, людзі спачатку лічаць новае за нейкае апаганьванне старых традыцый, за непрыемнае для іх узбурэванне старога спакою — балота, пакрытага зверху зялёнай абманчывай цінай, і... прарока распінаюць, як бязбожніка і бунтоўніка, каторы няпрошаны ўлез у іх прысяжную праўду. Жыццё ідзе тым часам сваім ходам, і ў канцы канцоў тыя гарачыя, шчырыя словы непрызнанага апостала спаўняюцца...

Аглядаюцца людзі — жыццёвая праўда сваім добра загартаваным папрокам урэзваецца ўсё глыбей і глыбей...

Шэпчуцца людзі: «Той распяты намі быў святы!.. святы!..»

Народ перакідаецца ад крайнасцей да крайнасцей і з

тым самым імпэтам, што раней паганіў, цяпер паважае свайго прарока жыцця...

Людзі цалуюць пакорна яго магілу і ставяць яму хвалебныя манументы...

Людзі каюцца:

— О, чаму мы раней не зразумелі?

— Мы б дагэтуль шмат чаго большага зрабілі б! Мы б дагэтуль...— і захлёбваюцца новай хваляй навейшага жыцця...

І зноў тая самая гісторыя!

І зноў тая самая чарапашая хадзьба!

У гэтым ад незапамятных часоў і ўся трагедыя жыцця...

Дзела ад слова заўсёды гранічыцца вялікаю прорваю, і доўгі час прыходзіцца чакаць агульнага ўсведамлення...

Галоўным мастом паміж словам і дзелам ёсць падгатоўка і ўсведамленне народа да новай ідэі ў жыцці.

Але так як усё ў жыцці мяняецца, гэтак само жыццё мяняецца.

Самы тэмп і ход жыцця ўжо не такі, які быў даўней.

Галоўны нерв жыццёвы зрабіўся вельмі чулы, так што рахавацца цяпер з устарэлай практыкай нельга.

Цяпер замест «Паспех — на людскі смех» кажуць «Адклад не ідзе ў лад»... Кожная ідэя павінна адразу дапасавацца да жыцця.

Жывое жывым і корміцца! Досыць нам уздавольвацца пустымі казкамі, прыгожымі словамі!..

Жыцця, жыцця дайце нам!..

Гэта належыць да нас, беларусаў, цяперака... да нашага руху...

Праўда, уелася гэтая святая справа ў жыцці, у мазгах укаранілася... Усе — і тыя, каторыя спачатку жартавалі, пачалі цяпер другімі вачамі глядзець на справу. Вельмі добра. Так павінна быць. Але нам цяпер трэба скарэйшым шагам пайсці ў асвятленні вёскі. Не чакаць злажыўшы рукі, а адразу з дзела пачаць...

Чаго вы маўчыцё, жывыя святлейшыя людзі нашы?

Ідзіце да працы! Будуйце будучыню народу беларускаму.

Тварыце каапэратыўныя ўстановы!

Няхай селянін папраўдзе болей карысці мае з працы рук сваіх...

Дзе тыя хаўрусныя банчкі? Чаму іх гэтак мала?

Няхай селянін папраўдзе падмогу мае ад шчырых братоў сваіх...

Дзе тыя школы народныя? Чаму іх гэтак скупа?

Дзе тыя чытальні, гурткі асветы, дзе тая жыватворная духоўная страва па вёсках?

«Яшчэ далёка да таго часу! — кажаце вы.— Жыццё ідзе сваім звычайным парадкам»...

Не, браткі, жыццё да жыцця не роўна...

Што раней, а што цяпер — вялікая розніца...

Не, браткі, у вас толькі ёсць занадта духоўнага гультайства...

Не аставайцеся ззаду, ідзіце разам з жыццём к жыццю!

К таму жыццю, каторае гарыць полымем вялікай энергіі, жыццё, маючае ў сабе багатыя сілы, каторыя, нібы дынаміт, разрывае ўсё старое, заржаўленае, скрыпучае, а ладзіць новае, чыстае, гулкае, наадвекі загартаванае жыццё!..

Ад слова да дзела!

У гэтым галоўная апора і надзея...

Не кажыце, што не патрапіце, трэба толькі хацець...

Не кажыце: «яшчэ паспеем».

Кожная хвілінка дарага...

І якая важная работа цяпер стаіць перад вамі, браткі мае!..

Мы спадзяёмся, што тыя здаровыя элементы вясковага люду, каторыя гадаваліся пад небам і сонейкам, не затуленым едкім дымам фабрык і шэрымі гарадскімі сценамі, саслужаць ускорасці вялікую службу.

Гэтыя свежыя народныя элементы будуць тымі прышчэпамі, каторымі хутка прыйдзецца лячыць выраджаючыяся гарадскія пакаленні, каторыя ўжо чуць ногі валакуць пад цяжарам атручанага фізічнага і духоўнага жыцця і нездаволенасці ва ўсім...

К жыццю!

Дайце народу хлебануць, пакаштаваць толькі глыток чароўнай асветы, і ён прачнецца, як тая казачная, спячая царэўна...

Бярыце пад увагу, што цяпер, то не раней... і ўсё павінна твaрыцца скорым тэмпам...

Клічу вас к жыццю!..

## СВЯТЛО

Цэпнасць жыцця — гэта творчасць, гэта рух уперад,— калі жыццё не гніе ў застоі, а ўсцяж прабівае сабе дарогу ўперад і ўвыш, калі кругазор чалавека робіцца ўсё абшырнейшы ды большы і даходзіць да безгранічнасці.

Творчасць — гэта тая вялікая сіла, каторая гарыць агнём, пылае да самых нябёс, грыміць па вялікім абшары бязмежнай волі і з хаосу вытварае нешта фарэмнае, суцэльнае і магутнае...

Творчасць — гэта тое чароўнае слова, каторае нясецца па ўсяму свету вялікім клічам:

— Хай будзе святло!

Хто на гэткі лад строіць свой шлях жыцця, той ніколі, пазіраючы на далёкія зоры, не скажа: «Дзе доўгачаканае жаданае шчасце маё?» Бо тады светлае шчасце ў яго руках і сэрцы, бо тады вялікая сіла творчасці ва ўсёй душы яго...

Гэтая вялікая сіла праўдзівага шчасця і жыцця не можа быць у адным выбранніку, у «вышэйшым чалавеку», бо голас яго зачынаецца і канчаецца не ў пустэльні, а ў цэлым народзе. У народзе ў абшырным значэнні гэтага слова!

Толькі тады можа народ жыць, калі ён багат творчай сілай...

Толькі тады ён можа быць шчаслівым, калі творыць...

Толькі тады ён можа называцца народам і казаць: «Я жыву!»

Па закону прыроды — кожны народ у сабе мае гэту сілу творчасці, толькі бывае часамі яна ў ім няразвітая, спячая, неўсвядомленая.

Трэба, каб сіла творчасці ў народзе не чэзла без руху. Трэба працай будзіць яе. Трэба як дзіцё гадаваць, расчыняючы перад ёю ўсе вароты, вядучыя да жыцця і волі.

Сіла творчасці крыецца ў мыслі, у слове, у дзеле.

У мыслі:

Як той захаваны глыбока вулкан прабівае мысль усю душу, усё нутро, усе пачуццці. Кіпіць там, ірвеццца, выходзіць наверх і фармуецца словам.

У слове:

Слова — гэта душа жывых і даўно сышоўшых у забыццё пакаленняў, уцэленае ў асобу — народ. Дзеля гэтага слова, высcанае з малаком маці, блізка і зразумела народу. Слова, каторае лілося ў душу з калыснай песняй

мацi, каторае пры смеху i слязах варушыла душы адышоўшых пакаленняў; яно бясчысленыя вякi, як бы евангелле святое, перадаецца з вуст у вусны, шлiфуецца, гартуецца i робiцца, як тая дамасская сталь, вострым i гiбкiм. Яно да касцей прырастае, у кроў уядаецца i адбiваеццца ў псiхiцы народу.

Гэта вялiкая частка душы яго, вялiкая частка творчасцi ўсяго жыцця яго.

Музыкай аддаецца яго вуху, асалодай — пачуццю. Сонцам жывым разлiваецца яно па краi ўсiм, разрастаецца, распаляецца i пануе прыгажосцю i моцай сваёй над народам усiм. Усе робяцца як адзiн чалавек — сэрца к сэрцу, душа к душы. Праз слова яны разумеюць душу адзiн аднаго, i тады родзiцца чын.

Чын-дзела, гэта жаданая мэта, вялiкае мора, куды сплываюцца ўсе ручаi i ручайкi творчасцi. Чын-дзела дае жыццё i шчасце не толькi аднаму народу, але ўсяму свету...

Толькi як гадаваць у народзе гэтую вялiкую сiлу?

Гэту мысль, што жыве ў iм, трэба паказаць яму словам. Словам яму зразумелым — яго мовай,— тады мысль усвядомленая вырвецца, як стромкая крынiца, праб'е камень i разлiецца па прасторы, заблiшчыць тысячай барвоў i падніме чалавека ўверх.

Тады чалавек зможа ўсвядомiць сабе свой вялiкi чын-дзела: будзе тварыць на сваю i агульную карысць...

Народ сам несвядома рвецца да гэтага свайго роднага сонейка, трэба толькi яму болей волi даць, i ён сам усё зробiць...

I запалае вялiкае шчасце...

## ЧАКАЙЦЕ СВАIХ...

Па сялiбах i вёсках чакайце братоў, сыноў i бацькоў сваiх, што вернуцца з поля бiтвы! Хай шнуры вашы будуць упарадкаваны на зiму як мае быць; хай запрацаванае дабро ваша будзе змалочана, у гаруды сабрана, як заўсёды; хай праца штодзённая iдзе сваiм звычайным ладам, i вы, спадзяваючыся супакою, чакайце родных сваiх з поля бiтвы! Абагрэйце, накармiце iх, пацешце прыхiльнасцю шчырай раненых; аб тых не хапаючых, без крыжоў

пахаваных, намаліцеся... І жыццё зноў пачне будоўлі свае будаваць.

Чакайце сваіх!

Ой, шмат чаго яны і вам прынясуць з сабою вартага і карыснага. Яны вам скажуць, што сіла — у злучэнні вялікім, у шчырасці, у адвазе і праваце сваёй...

Яны вам скажуць, што кожнаму народу трэба стаяць за сваё, толькі за сваё... І гэтым самым прыносіць ён карысці ўсім, паказваючы свае самабытныя творчасці, а не копіі — здымкі з чужога... Усе людзі на зямлі, ва ўсёй здабыванай дагэтуль культуры сваёй, стараліся кожны толькі сваё выказваць... Яны вам скажуць, гэтыя вашы ваякі, што хто галаву сваю хіляе, пужаючыся, той нявольнікам стане ў чужынца і будзе пыл ад яго ног выціраць. Яны вам скажуць, што трэба пужацца не жыцця ў смерці, а смерці ў жыцці... бо яшчэ больш небяспечна смерць духу; калі чалавек не можа стаяць за сваё «я»; калі ён, нібы губка, убірае, упіваецца толькі пабочным, а сваё, роднае, у яго расплываецца, гіне...

Чакайце сваіх!

І новае жыццё разверне ўшыр і ўвысь скрыдлы свае...

## ЖЫЛА, ЖЫВЕ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!..

**(К гадаўшчыне «Нашай нівы»)**

Пакратай мінуўшчыны попел,
Што ў казках не кінула жыць...
*Я. Купала*

Жыла, жыве і будзе жыць душа народа нашага!..

Душа народа нашага — гэта тая падземная, імпэтная моц жывой крыніцы, каторая, знаходзячыся пад каменным пластам, шукае сабе болей рыхлага слою зямлі для выхаду ўверх. І напор той мае гэткую сілу ў сабе, што, нягледзячы ні на якія перашкоды, нарэшце ўсё ж такі вырываецца да сонейка і, разбіваючыся цудоўным фантанам, разыходзіцца па лугах-палях ручайкамі, разліваецца на бязмерныя абшары, падымаючы свой зычны кліч: «Жыла, жыве і будзе жыць!..»

Душа народа нашага — гэта тая жывая, кіпучая кроў у жылах, тыя пачуцці і думкі ў сэрцы, якія перадаюцца нам як спадчына, ад роду ў род... У сваёй самабытнасці,

у сваёй іначасці ад другіх выяўляе яна свой бляск, сваю неацэненую вартасць, як для сваіх, так і для чужых, акружаючых яе.

Душа народа нашага жыла ў благіх гістарычных варунках, жыла пад няволяй у другіх, мацнейшых, каторыя хацелі сцерці яе самабытнасць, але такі ніякай рады не далі, і пры першай бліскавіцы свядомасці чужы налёт пачаў рассейвацца, як попел ветрам, а душа народа пачала красавацца ў сваёй чыстаце і бляску...

Колькі трагізму было ў гісторыі народа нашага! Колькі цемнаты і нядолі! Колькі вызыску яго рознымі грубымі сіламі! Колькі болю і слёз, пачынаючы ад часу прыгону! Здавалася, ужо ворагі краю беларускага свайго дасціглі, дабіліся таго, што шмат з нашых братоў ахвяравалі свае сілы чужым, запрадалі ім душы свае... Узгадаваныя на руках пакутніка-ратая, гэтыя адступнікі выкпівалі яго, адракаліся памагаць чым-колечы «хаму-мужыку»... Дайшло да таго, што «хам» гэты думаў, нібы ён прапашчы навекі чалавек; нібы ён ніжэйшае стварэнне ад другіх «паноў, багатых ды адукаваных разумнікаў». Ужо, здавалася, канец, магіла... Але сваім чародам, па законе, прызначаным ад прыроды, душа беларуская «жыла, жыве і будзе жыць!..»

Душа народа, нягледзячы на ніштo, гадавалася ў творчасці, харастве. У песнях сумных і вясёлых, у вырабах, тканінах, рэзьбах і г. д.— яна вылівала затоеныя думкі свае і такім парадкам тварыла нам свае скарбы, пісала свой летапіс — Евангелле... Несвядома ішла барацьба духу беларускага з усім для яго шкадлівым. «Што гэта? Што гэта?» — пыталася само сэрца народнае. «Мы жыць хочам! Жыць хочам...» — адказвала яно самому сабе кожны раз... і як блізкі, зразумелы былі народу гэтыя чулыя струны сэрца!.. Нешта да болю, да слёз кратала, будзіла сыноў Беларусі-маткі да вольнага, светлага жыцця, да пазнання сваёй вялікай вартасці.

«Жыла, жыве і будзе жыць!..» Гэты міфічны кліч восем гадоў таму назад пабудзіў выліцца думы сэрца народнага ў болей рэальныя і відзімыя формы. Паявілася ў свет першае свядомае беларускае друкаванае слова — «Наша доля», а ўслед за ёю — «Наша ніва».

«Наша ніва», не гаворачы аб іншых розных беларускіх часопісах, ад пачатку свайго паяўлення ў свет па сягоншні дзень — гэта народны часопіс, у якім ясна адбіваецца думка нашых мазольных братоў з розных глухіх кут-

коў Беларусі. З кожным годам паяўляюцца на ніве роднай усё новыя і новыя сілы. З кожным годам наша родная мова на старонках «Нашай нівы» «шліфуецца-гартуецца», робіцца ўсё болей чыстай, гібкай і выразнай, робіцца здатнай да малявання самых чуць ухопных пачуццяў душы і звініць, як той жаваранак вясною над свежай раллёй, як тая дудка хлопчыка-пастуха на лузе...

І большая частка братоў нашых ужо пачынае разумець, што мова наша не ёсць «простая», «хамская»... І вучоная моладзь наша — настаўнікі, студэнты, дактары, аграномы, інжынеры і г. д.— ужо не гавораць і не пішуць толькі на «панскіх» мовах, але самае першае месца займае ў іх свая, родная...

«Наша ніва» не прапаведуе сляпога, шавіністычнага нацыяналізму, але мае за закон: «Свайго не цурайся і чужога навучайся!» Мэта яе: праца шчырая і прасвятленне роднай Белай Русі на эканамічным і культурным грунце. Праўда, шмат нападкаў маем ад суседзяў сваіх, яны стараюцца чым болей каменняў накідаць на шляху нашым, але мы, не астанаўліваючыся, цвёрда ідзём наперад.

І вось у час гадаўшчыны «Нашай нівы» мы смела кажам: «Жыла, жыве і будзе жыць Беларусь-маці!..» Мы ў гэта свята верым!

## НАТХНЕННЕ І ГАРМОНІЯ

**(К 3-й гадаўшчыне смерці М. Багдановіча (25) V — 1917 года)**

Хараство — гэта ёсць крыніца жыватворных чараў, якая з першых атамаў жыцця пад сонцам, з першых раслін на зямлі, хмарак пад небам, спеваў птушак над лугамі, грацыйных скокаў тыгрыса ў трапічных лясах пачала звяртаць на сябе ўвагу і палоніць сабою ўсіх болей-меней свядомых істот.

Хараство,— дачка сонца, царыца неба і зямлі,— з усмешкай сфінкса цэлыя тысячагоддзі пазірала на сваіх жрацоў-людзей, якія шчыра служылі яму, творачы гімны і малітвы ў розных кшталтах і постацях зыкамі, лініямі, фарбамі і словамі.

А чым болей людзі разумелі тайны хараства, тым болей шчаслівыя былі яны. Чым глыбей яны ўнікалі ў дзіўную

гармонію ўсясветнасці, тым болей іх душы і сэрцы палалі бясмертным агнём натхнення.

Захопліваючыся залатым тэстамэнтам прыроды, выбраныя людзі тварылі асалоду ў жыцці, рай на зямлі, маючы сваёй мэтай тлумачыць людскім масам з'явішчы хараства ў даступных формах — у музыцы, на камені, на палатне, у паэзіі.

Жрацы хараства адкрывалі людзям яго таемнасці, паказваючы ім яго творчасць усюды, каб ачысціць гэтакім чынам людскія душы, падняць іх на скрыдлах натхнення да нябёс, каб яны парабіліся лепшымі і святлейшымі. Мастацтва ёсць той святы хорам, каторы асвятляе жыццё парываннямі к дабру і праўдзе, будзіць свядомасць і руйнуе нізкія інстынкты ў сэрцах людскіх.

Светлай сцежкай ішлі да людзей прарокі хараства пакаленне за пакаленнем, век за векам, тысячалецце за тысячалеццем, убіраючы залатую карону багіні хараства сваімі творамі — агняцветнымі каменнямі, каторыя ззяюць у небе творчасці чалавечага генія, як Млечны Шлях сярод неба.

Кожны народ паасобку меў сваіх лепшых людзей, каторыя служылі хараству шчыра і набожна, каторыя сваімі патхнёнымі творамі авекавечылі свой народ.

Адным з шчырых жрацоў хараства, з святлейшых людзей нашага народа быў і наш паэт чыстай красы, Максім Багдановіч. За кароткі час сваёй творчасці ён выведаў тайну гармоніі, вывучыў карты роднай красы і вянкамі вясновых паэтычных кветак аздобіў ніву беларускага адраджэння.

Азнаёміўшыся з вялікім кветнікам усясветнай паэзіі ад старадаўніх класічных часоў па сягонняшні дзень, Багдановіч навастрыў сваё паэтычнае пачуццё, узбагаціўшы родную нацыянальную паэзію новымі формамі, новымі гармоніямі, фарбамі, вобразамі і мелодыямі. Ён умеў знаходзіць фарбы там, дзе другія праходзілі міма, нічога не бачачы.

На беларускай ліры ён выпрабаваў розныя тоны, розныя акорды паэзіі, паказваючы гібкасць і меладыйнасць жывой беларускай мовы, на якой можна выказаць самыя, чуць улоўныя, размаітасці думак і пачуццяў.

У сваіх творах М. Багдановіч часта выказваў свой погляд на красу і паэзію.

Усюды ёсць хараство — у вясновым красаванні дрэваў,

у сінякрылым матыльку, у залатых струнах сонца, у шэптах ветру, у шуме чароту ля рэчкі, усюды...

Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт.

Бо людзі заняты сваімі будзённымі справамі жыцця. Пачуцці ў іх агрубелі штодзённшчынай. Яны ходзяць па дарагіх скарбах, як па простых каменнях, не прыкмячаючы іх, і толькі адзін паэт, каторы аддаецца ўвесь служэнню музам, гэта ўсё бачыць і адчувае:

Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

І толькі калі чалавек зліваецца з хараством прыроды, ён знаходзіць сваё шчасце і свой супакой:

Падымі ўгару сваё вока
І ты будзеш ізноў як дзіця,
І адыдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцця.

Ціха тучу блакіт закалыша,
У душы адрасце пара крыл,—
Узляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.

Там не трэба ні шчасця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

Паэт на горне сваёй душы перакоўвае, як той казачны алхімік, камень на золата.

Душа паэта адбівае жыццё ў розныя колеры, як вясёлка пад сонцам. І такім чынам:

Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцця,—
У жэмчуг звернецца ён сілай пачуцця.

Чалавек можа толькі тады быць паэтам, калі душа яго пранікнута хараством да самазабыцця, да самаахвярнасці, калі душа яго гаворыць на сваім уласным агні, як той матылёк, каторы ляціць на агонь, зачараваны красой, не думаючы аб сваёй гібелі:

Свяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо не б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса!

У сваім «Апокрыфе» М. Багдановіч у пекнай форме выказвае свой погляд на хараство і на яго практычную карысць:

11. Штодзённымі клопатамі поўна людское жыццё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песні свае.

12. Бо спяваюць нават жабы ў багне.

20. ...... Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы.

У «Мадоннах» — дзе паэт паміж непрыкметнымі, здаецца, абразамі дзяўчынкі-дзіцяці і дарослай дзяўчыны прыкмячае лік маці божай, твор вялікага Рафаэля,— Багдановіч кажа аб бязмежнай сіле хараства, каторая ачышчае душу ад звычайных інстынктаў, даючы ёй найвялікшае духоўнае шчасце:

і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсьць шырокаю, радзімаю красою,—
І, помню, я на міг пахарашэў душою.

Або:

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Схіліўся я душой маёй
Натхнёнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,—
Там запалілася цяпло.

Краса дае шчасце і натхненне, але натхненне без гармоніі не дасягае мэты. Дарагі камень цэніцца подлуг свайёй апліфоўкі. Звычная арфа без кемных пальцаў не дае цэлай мелодыі.

Усё павінна быць у мастацтве строга апрацавана. Гэты строгі закон мы бачым нават у прыродзе, дзе кожная маленькая, скромная кветка прыгажэй у шмат разоў багатага хораму Саламонава. Хаатычнае накідванне пекных слоў, вобразаў без сістэмы, без апрацоўкі, без цэльнасці не мае патрэбнага ўплыву на людзей.

У паэзіі, апрача душы — натхнення, павінна быць і голае цела — добрая тэхніка. І вось Багдановіч у цудным

вершы з васьмі радкоў звяртаецца да маладога песняра з навучаннем, як пісаць вершы:

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім,— ён як звон зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.

Тут уся мудрасць аб карысці добрай тэхнікі вершаў. Гэта ёсць словы праўды аб паэзіі практычнага настаўніка, сказаныя проста, коратка, пекна і вобразна. Кожны малады пясняр, прачытаўшы іх, пэўне, адкіне большую часць сваіх спробных твораў і свядома пачне апрацоўваць вершы свае і пачне глядзець на мастацтва непамылкова.

Ва ўсіх творах Багдановіча чуецца стараная, строгая апрацоўка, багацце і разнастаітасць вобразаў і формаў, вялікая краса і глыбіня думак. У сваіх кароценькіх вершах ён куе родную красу і торыць дарогу для другіх беларускіх паэтаў.

## МАЕ ЎСПАМІНЫ

**(Да вечара памяці М. Багдановіча)**

Ёсць песняры, якія, нягледзячы на свае высокамастацкія творы, на ўтончаную далікатнасць і пежнасць тонаў у перажываннях, адмалёваных у лірычных вершах,— адпак у звычайным штодзённым жыцці, у адносінах да людзей, гэтыя песняры бываюць з сухімі, неадзыўчывымі натурамі, бываюць праз меру празаічнымі.

А ёсць такія песняры, у якіх паэтычныя творы гармаруюць з іх уласным жыццём. Яны з'яўляюцца паэтамі і ў звычайным жыцці.

Да ліку апошніх і належыць загінуўшы на 26 годзе жыцця наш пясняр Максім Багдановіч.

Пазнаёміўся я з М. Багдановічам увосень 1916 г., калі ён прыехаў з цэнтра Расіі ў беларускі Мінск на працу. Гэта быў першы раз, калі наш паэт парашыў працаваць у цеснай сям'і беларускіх адраджэнцаў.

Беларускія адраджэнцы перажывалі тады ў Мінску цяжкі час царскай рэакцыі. Беларускае друкаванае слова,

як «небяспечнае» на лініі фронту, было забаронена. Беларускія культурныя дзеячы групаваліся каля Беларускага камітэта дапамогі пацярпеўшым ад вайны, які быў заложаны ў 1915 г. Працы было шмат: трэба было даваць прытулак і яду тысячам сялян-уцекачоў, якія вялікай хваляй рынулі з Віленшчыны, Гродзеншчыны і часткі Міншчыны.

Беларуская культурная праца тады зусім заглохла. Гэта значыць, што абставіны працы былі для беларускага песняра неспрыяючыя.

Пры гэтым яшчэ трэба заўважыць, што М. Багдановіч быў тады ўжо моцна хворы на сухоты, і тэмпература ў яго была пастаянна павышаная.

Я тады жыў на Мала-Георгіеўскай вуліцы і прапанаваў Максіму перабрацца да мяне на кватэру. Каля шасці месяцаў да самага выезду ў Ялту М. Багдановіч жыў у мяне.

Нягледзячы на слабае здароўе, М. Багдановіч прыняў службу ў земстве, дзе надта шмат працаваў. У вольны ад службы час ён або сядзеў у Пушкінскай бібліятэцы, або сядзеў дома і займаўся літаратурнай працай. Сядзеў пры керасінавай лямпе штодня да гадзіны 3—4 уночы. Галоўным чынам ён тады студ'яваў тэхніку вершаў. Па гэтай галіне ён здабыў сабе шмат кніг як на расійскай, так і на іншых мовах. Ён меў спецыяльны тоўсты сшытак, які цалкам быў запоўнены матэматычнымі вылічэннямі і іерогліфамі — узорамі розных размераў верша.

Гэтыя іерогліфы ён час ад часу ілюстраваў пробнымі вершамі, якія часам чытаў мне. Памятаю — чытаў ён тады вершы з японскай паэзіі, якія сваёй арыгінальнай формай вельмі зграбна выходзілі на беларускай мове.

Рабіў ён тады доследы метрыкі і рытмікі беларускіх народных песень, аб якіх зноў жа пісаў таемныя іерагліфічныя знакі.

Ён страшна захапляўся тады беларускай народнай творчасцю. Чытаў ён мне тады цэлы цыкл сваіх вершаў на народныя матывы, паміж іншымі і верш «Страцім лебедзь».

Яго рабочы стол быў праўдзівай лабараторыяй яго паэтычнай творчасці. Ён мог папраўдзе свядома гартаваць і шліфаваць свае паэтычныя перлы, бо быў чалавекам з еўрапейскім выхаваннем: ведаў старакласічныя і новыя еўрапейскія мовы і меў з чаго браць прыклады для маладой беларускай паэзіі.

Але пры гэтым смутна было глядзець, як побач з кіпамі рукапісаў на яго рабочым стале былі расстаўлены бутэлечкі з мікстурамі, якія ён часта прымаў, а ў час працы ўночы дык па некалькі разоў мерыў сваю тэмпературу, якая павышалася ў яго болей 38 градусаў.

Раз на тыдзень у адной з беларускіх для ўцекачоў сталовак ладзіліся нелегальныя вечарынкі-суботнікі, дзе збіралася наша моладзь. На гэтых вечарах Багдановіч заўсёды выступаў з рэфератамі і дэкламацыямі сваіх вершаў. Гаварыў ён заўсёды натхнёна, з пад'ёмам і вельмі красамоўна.

Трэба адзначыць, што здароўя свайго М. Багдановіч не шкадаваў, не зварачваў увагу на яду і вопраткі. Заўсёды хадзіў у студэнцкай старой вопратцы, а гарбату піў без цукру.

«Як я магу дазволіць сабе такую роскаш і ўжываць цукар,— гаварыў ён,— калі ў гэты самы час нашы ўцекачы хлеба не маюць...»

І, сапраўды, ён быў ідэалістам-фанатыкам, чалавекам надзвычайна добрым і ўважлівым да людзей, хаця на першы выгляд ён здаваўся суровым і замкнутым. Невялікую казённую пенсію сваю раздаваў направа і налева, а для самога сябе быў бездапаможным, як малое дзіця.

За шэсць месяцаў сумеснага жыцця з М. Багдановічам я не прыкмячаў, каб ён, нягледзячы на сваю хворасць, сядзеў хоць хвіліну без працы. Калі часам я скардзіўся яму на сваю нудную працу ў камітэце, ён знаходзіў для мяне адно лякарства — з памяці дэкламаваць вершы вялікіх сусветных паэтаў, тады адразу на сэрцы палягчэе...

Вось да чаго даходзіла ў яго любоў да паэзіі і красы!..

Паэзія была найлепшай уцехай яго жыцця. Пры ёй забываўся ён аб сваёй хваробе, забываўся аб тым, што дні яго жыцця злічаны...

У Ялту на лекі выправілі яго гвалтам — не хацеў ехаць з бацькаўшчыны...

З асаблівым смуткам успамінаю я апошнія месяцы сумеснага жыцця з М. Багдановічам, калі ён гарэў на сваім уласным агні, з асаблівай радасцю ўспамінаю знаёмства з ім. Яго светлы вобраз не выходзіць з памяці тых, хто яго блізка знаў.

# КУЗНЯ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

**(Думкі аб студыі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра ў Маскве)**

I

Мы знаходзімся толькі пад брамай новай эпохі; у яе цудадзейныя, светазорныя гмахі мы яшчэ не ўвайшлі.

Акцябрскі пераварот ачысціў толькі шлях к новаму жыццю. Працэс барацьбы яшчэ не закончан. Па ўсяму СССР ідзе змаганне за адбудову гаспадаркі, за стварэнне новага быту, за знішчэнне цёмных забабон нявольніцкай мінуўшчыны.

У сонечныя палацы новага жыцця ўвойдзе толькі наша шчаслівая моладзь, якой неакрэпшая пакуль што сучаснасць будзе служыць традыцыйным грунтам. Нашай рэвалюцыйнай сучаснасцю будзе пранікнута псіхіка новага пакалення. Гэта загартуецца ў моладзі праз новае выхаванне.

Наша сучаснасць знаходзіць сваё праламленне ва ўсіх формах новага жыцця, галоўным чынам, у багаталічных галінах маладога пралетарскага мастацтва.

Мастацтва — зачарованае фаустаўскае люстэрка, у якім вабная постаць цудна-прыгожай Гэлены красуецца навекі.

Мастацтва ў сваіх фарбах, формах, вобразах і згуках авекавечвае эпохі тысячалеццяў. Яно, мастацтва, служыць новым пакаленням у сэнсе гісторыі ў сто крат болей, чымся летапісы, прафесарскія працы і г. д., бо ў ім захаван непадробны дух эпохі,— яе настроі, яе перажыванні, яе ідэалы хараства.

Мастацтва ў нас робіцца цяпер галоўным базісам перафарэння людской псіхікі: праз яго толькі грамадзяне сав[ецкіх] рэспублік і дастануць сваё перавыхаванне.

Мастацтва ва ўсіх відах сваіх павінна не адбіваць сучаснасць на шматметравых фільмах праз мёртвы фотаапарат, а жывым прарочым словам клікаць людзей у новы свет, перарабіць іх душы, загартаваць іх і пераадзець у вясёлкавыя вопраткі сучаснасці.

Мастацтва тады толькі мае жывы твар, вялікую сілу, праўдзівае хараство і неабходную каштоўнасць, тады

толькі дасягае сваёй мэты і тады толькі захоплівае людзей сваімі чарамі, калі творчасць яго саткана з пявучых струн спецыфічнай народнай душы, калі выяўляе праўдзівы дух таго народа, з якога яно хоча прадставіць. Мастацтва нацыянальна. Класавае мастацтва таксама нацыянальна.

Масква зрабілася цяпер калыскай новага мастацтва розных нацыянальнасцей СССР.

Гэтая мая Масква, дзе раней чарнасоценным царскім духам пахла, скуль раней дыктаваліся законы ўгняцення нацыянальных культур розных народнасцей быўшай вялікадзяржаўнай царскай Расіі.

Тэатр у сваёй мнагаграннасці ахоплівае ўсе формы мастацкай творчасці. Дзеля гэтага грае ён дамінуючую ролю ў сучаснай пралетарскай культуры.

Пад Савецкай уладай тэатральнае мастацтва дайшло да вялікіх дасягненняў. Аб савецкіх тэатрах загаварылі цяпер на ўсім свеце. У кароткім газетным артыкуле не месца гаварыць аб новых напрамках, новых школах у тэатральным мастацтве, але тут мы хочам пагаварыць аб адным вельмі важным факце маладой беларускай культуры — аб студыі Бел[арускага] дзяр[жаўнага] акад[эмічнага] тэатра ў Маскве.

Беларуская студыя ў Маскве пераходзіць ужо на 3-ці вучэбны год. Сёлета на экзаменах у Мінску прынята яшчэ 18 чалавек. А ўсяго студыйцы складаюць ужо каля 40 чалавек. Гэта ўжо праз некалькі год можа быць аснаўной трупай Беларускага дзяржаўнага тэатра.

Наша тэатральная студыя папала якраз на самы рубеж двух таатральных напрамкаў — правай школы Станіслаўскага і левай — Меерхольда.

Правае крыло тэатра прытрымліваецца той тэатральнай культуры, дзе галоўную ролю грае творчасць акцёра, творчасць жывога чалавека. Гэта значыць, што тут галоўным з'яўляецца змест, унутраны настрой, а не знешняя форма.

Левае крыло тэатра дамагаецца ўсімі сіламі выяўляць не ўнутраны змест, а знешнюю тэатральную форму.

Кіраўнікі беларускай студыі ў Маскве, як т. Смышляеў і іншыя, бяруць для асновы сярэдняе з гэтых двух на-

прамкаў — павінны гарманіраваць паміж сабою ўнутраны змест і знешняя форма.

Адно без другога ў першай беларускай тэатральнай студыі быць не можа. Змест і форма — ідэальны сінтэз.

Вось тая правідловая, бясспрэчная лінія, якою кіруюцца правадыры нашай студыі.

Тэрмін заняццяў у студыі мае быць пяцігадовы. У гэты тэрмін уключаюцца і тыя два гады, якія студыя ўжо існуе. Пяць гадоў з'яўляюцца тым мінімумам, у які зусім незнаёмыя з тэатрам людзі могуць азнаёміцца і заўладаць тэатральнай тэхнікай. Разумеецца, гэта можа быць пры надзвычайна энергічнай працы і падборы неабходнага высокакваліфікаванага складу настаўнікаў.

Пры такім плане працы к канцу 3-га года павінны быць прыгатоўлены тры п'есы для сталых пастановак. Праз тры гады, гэта значыць к канцу 5-га года, павінна быць 9 п'ес, якія і будуць служыць асновай рэпертуару будучага беларускага тэатра.

Галоўная мэта педагагічнага персаналу студыі: стварыць тэатр спецыфічна беларускі, у чым і будзе яго найвялікшая каштоўнасць.

Што тычыцца спецыяльнага беларускага напрамку студыі — яе ўласнай школы, дык яе створыць ужо пасля сам малады беларускі тэатр. Гэтага дадуць не маскоўскія тэатральныя педагогі, а тыя жывыя беларускія сілы, якія выхоўваюцца ў Маскве. Настаўнікі толькі накіроўваюць іх да саматворчасці.

Беларускі будучы дзяржаўны тэатр знойдзе сваю ўласную дарогу, створыць сваю беларускую школу. У гэтым мы не сумняваемся.

Прыкладам можа служыць у гэтым кірунку Яўрэйскі дзяржаўны камерны тэатр, які ўжо мае сваю ўласную школу і нажыў сабе заслужаную славу сваімі нацыянальна-бытавымі рысамі.

Беларуская народная творчасць: песні, казкі, мелодыі, беларускі народны тэатр-батлейка, цыкл гадавых сцэнічных абраднасцей, сакавіты быт беларускага хлебароба, беларуская навейшая літаратура — вось багатая аснова дзеля стварэння праўдзівага свайго тэатра, які галоўным чынам сваёй беларускасцю будзе надзвычайна багатым укладам у агульналюдскі скарб сцэнічнага мастацтва.

Беларускі тэатр мае перад сабою багатую будучыню.

## II

Так, беларускі тэатр мае перад сабою багатую будучыню.

Гэту будучыню ткаў яму песнямі на роднай глебе і ў курнай хаце беларускі селянін соткамі гадоў. Гэту будучыню стварылі яму фантастычныя казкі беларускай бунтарскай пушчы, дзе гадаваліся паўстанцы Каліноўскія. Гэту будучыню здабыў для яго наш аматарскі тэатр эпохі адраджэння пасля рэвалюцыі 1905 года. Гэту будучыню творыць яму цяпер Савецкая рэспубліка.

Вясну беларускага сцэнічнага мастацтва кліча цяпер «вяснянка» — Беларуская дзяржаўная студыя ў Маскве.

*Поспехі будучага беларускага тэатра — у яго выключнай беларускасці.*

Вось пуцяводная зорка, якой павінна прытрымлівацца наша студыя.

Пры гэтым мы разумеем беларускасць і яе асновы — народная творчасць і быт — не ў тым сэнсе, што трэба нанава стварыць культ старасветчыны — не.

Наша мінулае павінна даць нам толькі той самабытны беларускі каларыт, праз які ўсе бачылі б, што гэта мастацтва спецыфічна беларускае.

Але гэтае мастацтва павінна быць прапушчана праз прызму рэвалюцыйнай сучаснасці, павінна быць стылізавана праз самыя навейшыя прыёмы тэатральнай тэхнікі.

Гэта зробіць лабараторыя нашай студыі, якая, як мы ўжо гаварылі, мае ў сваім складзе найлепшых сучасных тэатральных педагогаў Масквы.

Вялікай мастацкай свядомасцю і сцэнічным інстынктам павінен заўладаць кожны беларускі студыец, каб потым быць у калектыве тэатральнай майстроўні чынным тварцом беларускай сцэнічнай школы.

Кожны беларускі студыец — будучы тварэц самабытнай беларускай тэатральнай школы.

Дзеля гэтага трэба, каб беларускі кіраўнік студыі налажыў добрую аснову беларускасці ў вучэбнай працы.

Беларусазнаўства ў студыі павінна быць пашырана да максімуму:

1) Беларускую мову, гісторыю Беларусі, беларускую літаратуру, гісторыю беларускага адраджэння, гісторыю рэвалюцыі на Беларусі студыйцы павінны ведаць дасканальна ў курсе вышэйшых школ.

2) Яшчэ большая ўвага павінна быць звернута на вы-

вучэнне беларускай этнаграфіі, на азнаямленне з жывым бытам сучаснай беларускай вёскі (апошняе болей усяго адносіцца да тых студыйцаў, якія не выйшлі з беларускай вёскі. Такіх ёсць некалькі чалавек у нашай студыі).

3) Гісторыя беларускага тэатра, хаця яна не мае ў сабе яскравых момантаў, аднак яна мае некалькі сот гадоў развіцця. Гэта, безумоўна, адзін з галоўнейшых прадметаў навучання.

4) Пры студыі павінен быць поўны збор беларускіх народных мелодый і музыкальных кампазіцый, напісаных рознымі мастакамі да гэтага часу. Студыя павінна спецыяльна камандзіраваць чалавека ў глухія куткі дзеля запісаў беларускіх мелодый і песняў (словы).

5) Студыя павінна сабраць усе беларускія народныя танцы, каб мець аснову дзеля стварэння беларускага балета. Беларускі балет, які меў такі-сякі росквіт у часы Ігната Буйніцкага (1910—1911 — 1912 гг.), цяпер зусім загінуў.

Трэба запісваць беларускія танцы па вёсках.

6) Студыя павінна стварыць свой беларускі аркестр, які граў бы толькі беларускую музыку. У гэтым кірунку трэба зрабіць так, як зрабіла Яўрэйская студыя дзяржаўнага камернага тэатра: прыцягнуць да нацыянальнага аркестра лепшых музыкантаў беларусаў, якіх у межах СССР ёсць шмат.

Яшчэ да гэтага трэба, каб студыя мела поўны камплект беларускіх народных музыкальных інструментаў (цымбалы, дуда, ліра, бубен, жалейка і г. д.) і каб некаторыя навучыліся іграць на іх.

7) Трэба, каб спецыяліст збіраў па вёсках самабытную музыку вясковых музыкаў, як вясельную, таксама і вечарынachную. Напрыклад: вясельныя маршы, кадрылі і г. д., якія маюць свой беларускі каларыт.

8) Беларускі стыль у вопратках, тканінах, у хатняй абстаноўцы павінен быць добра вядомы кожнаму студыйцу.

Варта было б выдаць спецыяльны альбом беларускіх вопратак розных мясцовасцей і часоў і поўны збор беларускай арнаментыкі.

9) Студыя павінна мець поўную бібліятэку беларускай літаратуры.

10) У час вакацыяў штогод студыя павінна арганізаваць экскурсіі ў беларускія вёскі, каб мець жывую сувязь з бытам селяніна.

Што тычыцца асноўнага рэпертуару, які павінна даць студыя за пяць гадоў працы, дык да гэтага трэба падыходзіць з вялікім падборам.

Нам спачатку нецікава бачыць на беларускай сцэне Шэкспіра, Сервантэса, Шылера, Мальера і інш. Гэта мы можам бачыць пакуль што на любой мове.

Нам спачатку дайце з беларускіх падмосткаў толькі беларускае. Ужо пасля, калі беларускі тэатр нажыве сабе імя сваёй уласнай творчасцю, тады толькі можна будзе даць і сусветных класікаў.

З спецыфічна беларускім рэпертуарам можна будзе рабіць потым турнэ па ўсіх вялікіх гарадах СССР.

А калі ў рэпертуары будуць мець перавагі чужыя сцэнічныя творы — тады сядзі сабе ў Мінску і не рыпайся, бо для небеларусаў гэта будзе нецікава.

Матэрыял?

Аж надта. Ёсць і ёсць.

Можна выбраць некалькі п'ес з рэпертуару аматарскіх беларускіх труп (з драматычных твораў Купалы, Галубка, Кудзелькі, Радзевіча і г. д.).

Напрыклад, «Чараўніца» («Колдунья»), якая ставілася на яўрэйскай сцэне 30 гадоў таму назад, у сучасным выкананні Яўрэйскага камернага тэатра з'яўляецца зусім новым сучасным творам.

Можна зрабіць цыкл мініяцюр з беларускіх народных казак (удзячны матэрыял дзеля гэтага ў зборніках Сержпутоўскага, Раманава, Шэйна, Федароўскага і інш.), з беларускіх песень калядныя русальныя карнавалы, нумары з батлейкі і г. д.

Дзеля сцэнічнай ілюстрацыі такіх твораў трэба, вядома, палажыць шмат працы. Трэба выкарыстаць пры гэтым усе магчымасці навейшай тэатральнай тэхнікі плюс музыка, песня, балет. Але затое гэта будуць надзвычайна прыгожыя нумары.

Потым можна інсцэніраваць творы навейшых беларускіх пісьменнікаў. Тут зноў жа ёсць багата матэрыялу.

Кіраўнікі нашай студыі павінны памятаць, што яны могуць стварыць эпоху ў беларускім мастацтве.

Мы пэўны, што так яно і будзе. Мы пэўны, што яны будуць працаваць у гэтым кірунку не пакладаючы рук.

Гукайце вясну нашага маладога мастацтва!

Адмыкайце, як кажа беларуская народная песня, «залатымі ключамі» браму ў новае жыццё!

Вы гэта зробіце!

# НА РУБЯЖЫ

## (Штрыхі)

### I

На рубяжы дзвюх эпох знаходзіцца цяпер наша літаратура. Яе сцежкі цягнуцца з бязмежнай гушчы народнай творчасці, агорнутай туманам старасвецкай міфалогіі, сялянскага быту і даходзяць да бунтарскіх вогнішчаў Чырвонага Кастрычніка.

У працягу якіх-колечы двух дзесяткаў гадоў нашага культурна-нацыянальнага адраджэння мы ў нашым маладым мастацтве павінны былі праходзіць тыя стадыі, якія ў іншых народнасцей праходзіліся многімі стагоддзямі.

Калі мы нават пачнём ад Дуніна-Марцінкевіча лічыць адраджэнне нашай літаратуры (50-я гады мінулага века), дык гэта таксама выйдзе невялікі працяг часу. Але мы павінны лічыць наша адраджэнне толькі з тых часоў, калі беларускае друкаванае слова пачало акуратна з'яўляцца ў свет, калі беларуская інтэлігенцыя арганізаванымі сіламі ішла ў народ прапагандаваць думкі аб нашым адраджэнні, калі з'явілася адразу цэлая сям'я беларускіх пісьменнікаў з сялянскіх гушчаў — гэта значыць канца 1905 года.

Ужо тады ў нашай літаратуры чуліся два напрамкі: бунтарска-рэвалюцыйны (Цётка, Жылуновіч) і спакойна-народніцкі (Я. Колас, Я. Купала і іншыя).

Цётка ў сваёй паэзіі будзіла народ да паўстання, апявала рэвалюцыю 1905 года і нервова-яскравымі радкамі клікала народ на змаганне за свае правы.

Жылуновіч апісваў гора-нядолю беларускіх рамеснікаў-гарбароў, кавалёў, шаўцоў і г. д., маляваў іх перажыванні, настроі, паказваў сілу і значэнне працы.

Я. Колас, Я. Купала і іншыя ахоплівалі ў сваіх творах усё сялянства, малюючы іх жыццё-быццё і клічучы іх да адраджэння, тлумачачы цёмным людзям аб тым, што і яны маюць права «звацца людзьмі», што і яны не нейкія «тутэйшыя людзі», а цэлы народ — беларускі народ.

Бадай усе беларускія пісьменнікі, дзеля таго каб паказаць селяніну, хто ён, што ён завецца беларусам,— капаліся ў сівой мінуўшчыне, у старакнязёўскіх гуслярскіх паданнях, у мнагатомных зборніках народнай творчасці, на канве якіх яны пісалі свае творы.

Тое, што было завалена (пад мнагаслойным пылам вякоў), выкапвалася наверх, апрацоўвалася ў новых мастацкіх формах і друкавалася на старонках беларускіх часопісаў.

Ва ўсіх творах беларускіх пісьменнікаў чуўся адзін голас-кліч: «Беларусь жыве і жыць будзе!..»

Уся літаратура таго часу была як бы нацыянальна-патрыятычнай агітацыяй аб тым, каб кожны беларус ведаў, хто ён і што яму рабіць.

З тых прычын, што царская цэнзура не давала размаху беларускім пісьменнікам пісаць так, як бы ім жадалася, беларускія пісьменнікі парабіліся Іерэміямі свайго народа: апісвалі яго горкае жыццё і крывавымі слёзамі плакалі разам з ратаем. У гэтых творах па настрою чуецца вялікі адчай, надмерная скарга і балючасць.

Што тычыцца формы і стылю твораў беларускіх пісьменнікаў у той час, дык гэта залежала ад таленту і асветы кожнага з іх. Чулася мешаніна формаў і вобразаў — ад народных прымітываў да мастацка-сучаснай віртуознасці.

Кожны з беларускіх пісьменнікаў лічыў за абавязак павялічыць скарб роднага слова рознымі формамі паэзіі, беручы за прыклад літаратуры суседніх народаў, галоўным чынам у паэзіі.

Такім чынам, кожны з нашых пісьменнікаў у працягу некалькіх гадоў як бы вандраваў праз сталецці, праходзіў усе стадыі развіцця свайго народа, выйшаў наперад і павёў ратая за сабою.

Біблейным пафасам, ядранымі народнымі зваротамі і сімволікай пачатку 20-га веку перапоўнены творы Я. Купалы. Архітэктура яго вершаў — класічна шліфаваная і незамыславатая, рыфмы звычныя, гладкія. Верш звініць сваёй апрацаванай музычнасцю. Вобразы не пластычныя ў дэталях, але ў агульнай будове яркія і выразныя.

Мілай прастатой народнай творчасці аддае паэзія Я. Коласа. Верш яго збудаван лёгка і проста, рыфма не ўтончаная, будова верша старасвецкая, затое ў вобразнасці чуецца пэндзаль вялікага мастака.

У гэтай галіне да найвышэйшай віртуознасці паэт даходзіць у паэме «Новая зямля».

М. Багдановіч у сваіх вершах з надворнага выгляду дае размаітыя формы стараеўрапейскіх класікаў.

Унутраная вобразнасць яго паэзіі надзвычайна шліфаваная, як бы шматкаштоўныя старасвецкія медальёны.

Пакуль што спынімся на гэтых трох.

Нібы тыя працавітыя пчолы, нашыя пісьменнікі, жывучы скромна, а часам нават праз меру бедна, тварылі скарбы нашага мастацтва — і хто ў большай, хто ў меншай меры адбівалі ў сваіх творах сучаснасць.

Цяпер бадай усе выдатнейшыя нашыя пісьменнікі эпохі адраджэння жывуць у межах Савецкай Беларусі. Ужо гэта адно даказвае, што яны не адсталі ад эпохі. Кожны з іх безумоўна нясе ў сваёй творчасці адбіткі Кастрычніка.

Вялікая рэвалюцыя паслужыла для іх найлепшым сродкам амаладжвання. Хто зусім парваў з старымі матывамі і настроямі і як бы перарадзіўся ў сваіх творах, а хто, прынамсі, з узверхняга выгляду аздобіў свае творы ў вопраткі сучаснасці.

Словам, адбылася тая рэвалюцыя ў іх творчасці, якая павінна была адбыцца паводлуг нармальных законаў жыцця.

У нашай паэзіі пачуліся новыя матывы, новыя формы і вобразы. Ранейшыя сентыментальна-рамантычныя салодкія слёзы адышлі ў панства мінулага.

Побач з нашымі амалоджанымі старыкамі нарадзіўся маладняк — новыя маладыя беларускія паэты, выгадаваныя рэвалюцыяй. Аб усіх тут гаварыць не будзем. Возьмем толькі самага выдатнейшага з іх — М. Чарота. У яго зборніку «Завіруха» яшчэ дзе-нідзе чуецца яго блізкая кроўнасць з адраджэнцамі. Чуецца гэта нават у тых месцах, дзе ён усімі сіламі стараўся вырвацца з-пад іхняга ўплыву, але сваёй паэмай «Босыя на вогнішчы» ён ужо паставіў паміж сабою і імі высокі канец. Гэта відаць і ў адрыўку з яго паэмы «Чырванакрылы вяшчун», які друкаваўся ў нашай газеце. Новыя настроі, новыя формы, новыя вобразы, дынамічнасць сучаснасці чуецца ў яго творах.

Аднак наша літаратура яшчэ знаходзіцца на рубяжы. Мінулае з сучасным пераблытаны ў адно на сягоняшні дзень.

## II

Пераблытанасць мінулага з сучасным у беларускай літаратуры мала таго што з'яўляецца вынікам спецыяльных абставін тварэння і развіцця гэтай літаратуры і, як мы казалі ў папярэднім артыкуле, у працягу двух дзесяткаў гадоў праходзіла стагоддзі, гэтая ж мешаніна адбівае псіхіку і настроі сучаснасці. Раздвоенасць аказалася не

толькі ў мастацтве, але і ў быту, у жыцці. З аднаго боку, напрыклад, можна было бачыць фанатыкаў-багамольцаў, якія шчыра моляцца ў царкве, а вакол царквы — гучны, шумлівы карнавал бязбожнага камсамола. На кожным кроку ў сучасным жыцці можна бачыць такія процілегласці. Гэтая раздвоенасць, дваядушнасць ёсць і ў характары большасці нават перадавых рэвалюцыйна настроеных грамадзян нашых рэспублік.

Мастацтва і жыццё — гэта два фактары, якія ўзаемна ўплываюць адзін на адзін. Гэта відаць вельмі ярка ў нашым сучасным тварэнні новага быту.

У гэтым кірунку не адстала ад іншых і наша маладая беларуская літаратура. Новыя матывы бачым у навейшых невялічкіх апавяданнях нашых празаікаў, новымі настроямі перапоўнены вершы нашых маладых паэтаў.

Мы можам, як на экране, прагледзець развіццё нашай рэвалюцыйнай паэзіі за апошнія шэсць гадоў. Гэта дужа цікава з псіхалагічнага боку творчасці наогул і з боку павелічэння рэвалюцыйных настрояў, вышуквання новых вобразаў у часнасці.

Колькі гадоў таму назад, калі хто з нашых маладых пісьменнікаў аздабляў свой верш у кожным радку словам «Чырвоны», «Свабода», «Чырвоны сцяг», «Пралетарыят», «Працоўны люд» і г. д., дык гэта лічылася рэвалюцыйнай паэзіяй. Калі ён дадаваў словы: «змаганне», «біць буржуя», «хата», супастаты», «волі-долі» і іншыя,— дык гэта лічылася сучаснай паэзіяй.

Калі мы цяпер спакойна прагледзім усе такія творы маладых аўтараў, дык адразу пабачым трафарэтнасць, вершаплёцтва і штучнае, робленае пачуццё гэтых вершыкаў. Такіх твораў у нашай літаратуры, як і ў расійскай, ёсць шмат. Гэта быў час прымусовай ломкі ў паэтаў, калі яны пасля рэвалюцыі стараліся і думаць і тварыць на сучасныя матывы.

Большасць такіх твораў ужо кінута ў мусарную скрынку забыцця.

Але год за годам, калі пад апекай Саветаў пачалося будаўніцтва краю, калі ў псіхіцы паэтаў рэвалюцыя і новае жыццё пачалі пакідаць свае шчырыя адбіткі, рэвалюцыйная паэзія перайшла ў новую стадыю — ад простай фабрыкацыі да шчырай творчасці.

Хаця беларускі народ не мае свайго пралетарыяту, каб паэты маглі абрызгаць сваю творчасць новай рытмікай заводаў і машын, аздабляць свае творы вобразамі з рабо-

чага быту і хаця галоўная канва нашай паэзіі — працоўны селянін — не вельмі ўдзячны для новай творчасці з прычын кансерватыўнасці вёскі, якая не дае размаху для фантазіі, аднак нашыя пісьменнікі знаходзілі новыя матывы. Гэтыя матывы выяўляюцца не ў чырвані, не ў сцягах, г. з. не з знешняга боку рэвалюцыі, а знутры, з самой глыбі яе вулкана.

Паэты пачалі іначай, чымся раней, успрымаць усё акружаючае, усе з'явішчы жыцця і прапускаць іх у паэтычных радках праз новыя прызмы. Адбыўся даўгажданы рэвалюцыйны пераварот унутры самаго мастацтва. Паэт пачаў па-новаму адчуваць, думаць — і вобразы і формы, і рытм і тэмп яго творчасці ў яго аднавіўся. Гэта можна прасачыць у вершах Чарота «Чырвоныя вяснянкі», у паэме Грамыкі «Крылан» і ў некаторых творах іншых аўтараў.

Пісьменнікі дасяглі той бясспрэчнай праўды, што рэвалюцыйная паэзія не ёсць тое, каб рыфмаваць «свабода — народа», «пралетарскія струны — камуны», «волі — полі» і г. д., а праўдзівая рэвалюцыйная паэзія з'яўляецца там, калі нават і ніводнага слова аб чырвані і аб свабодзе няма ў вершы, але калі верш ва ўсёй сваёй унутранай і верхняй будове рэвалюцыйны.

Можна апісаць беларускі гаёк, рэчку, вясну, лета, каханне і г. д.— не аздабляць гэтыя вершы ніякай «чырванню», ніякай «свабодай», а твор будзе рэвалюцыйным, новым, пранікнутым псіхікай сучаснасці, новай формай і незатасканымі свежымі абразкамі.

У гэтым кірунку вызначаецца наш малады пясняр Дубоўка (зб. вершаў «Строма»).

Аднак, як надзіва, яшчэ ёсць у нас цэлая плеяда маладзенькіх, большасць якіх нічым новым не вызначаецца. Форма іх вершаў бедная, вобразнасць адсутнічае, і бяруцца яны за старыя надакучлівыя перапевы аб «родным краі і раі» і г. д., хапаюць нашага «мужыка», што называецца, «за лапці і аборы». Дзеля якой-колечы рыфмы яны калечаць беларускае слова, круцяць яго ва ўсе бакі, здзекуюцца над ім, аж, здаецца, роднага бацьку забіў бы, каб толькі выходзіла ў рыфму. Творы такога гатунку час ад часу з'яўляюцца ў беларускіх часопісах.

А гэта што азначае? Азначае тое, што мы яшчэ не зусім пераскочылі рубеж. У нас у гэтым кірунку засталіся адраджэнцкія традыцыі.

«Трэба прыцягнуць хлапца да беларускай працы».

І дзеля гэтага прыцягвання друкуюць яго кепскія вучнёўскія вершыкі. Рабіць друк даступным для ўсіх — гэта добрая і патрэбная справа, але друкаваць кепскія вершыкі — справа кепская. Гэта надае нашым маладым аўтарам самахвальства, кожны з іх прадстаўляе сябе, што ён геній, і ў канцы канцоў яны не хочуць працаваць над сваім самаразвіццём.

Цэлы шэраг такіх пісьменнікаў мы маем яшчэ з эпохі Адраджэння. А калі прасачыць іх творчасць ад пачатку да канца, ад першага да апошняга верша, дык не ўгледзім у іх ніводнай кроплі прагрэсу. І мы пэўны, што каб пісьменнік такога гатунку пісаў бы сто гадоў, дык было б тое самае.

Гэта яшчэ калісьці заўважыў М. Багдановіч у сваім вершы «Паэту» і раіў нашым маладым песнярам шчыра над сабой працаваць.

Яшчэ засталася нам адна спадчына — шмат хто з нашых пісьменнікаў ужывае ў мастацкіх творах закавырыстыя слаўцы сваёй ваколіцы. Вельмі часта такія словы незразумелы не толькі што чытачам, але і спецыялістам — знаўцам беларускай мовы.

Бывае так, што па ўнутранаму зместу і вобразнасці твор вялікай мастацкай вартасці, але дзеля цяжкасці стылю, дзеля незразумеласці многіх слоў, якімі твор перасыпаны, ніхто яго чытаць не хоча.

Такія грашкі здараюцца ў некаторых пісьменнікаў і старэйшага пакалення. Кожны з іх з'яўляецца як бы патрыётам сваёй воласці — прызнае толькі мову сваёй невялічкай ваколіцы.

А ўжо надыходзіць пара пакончыць з жарганізмамі ў нашай літаратуры. Кожны пісьменнік павінен мець свой асобны стыль, але мова павінна быць адна, зразумелая для ўсіх.

Быў час, калі кожны з нашых пісьменнікаў меў сваю ўласную граматыку. З гэтым пакончылі. Цяпер трэба пакончыць з правінцыялізмамі, якія ў некаторых пісьменнікаў ужываюцца не ў характэрным маляванні быту, але ў вершах або ў звычайных артыкулах.

Побач з гэтым сярод нашых пісьменнікаў развіта словатворчасць. Гэта рэч неабходная для кожнага паэта, але ў нас гэта павінна рабіцца вельмі асцярожна. Новыя словы павінны адпавядаць духу беларускай мовы і павінны быць зразумелымі для ўсіх.

Але розныя недахваты ў нашай літаратуры нічога не

значаць перад той вялікай творчай працай, зробленай у працягу двух дзесяткаў гадоў. Пры гэткім тэмпе творчасці, пры такіх выбухах энергіі, пры такім вялікім замілаванні да адраджэння нашай культуры і мастацтва, выяўленых у нашых пісьменнікаў, нельга надта строга крытыкаваць іхнія памылкі.

Мы толькі хочам адзначыць тое, што ціскі дзвюх эпох, у якіх мы знаходзімся, барацьба новага са старым у нашай літаратуры хоць яшчэ не вывела, але выведзе нас на цвёрды шлях. Да гэтага мы імкнёмся рознымі пуцявінкамі.

## III

Рубеж нашай літаратуры хоць ён выклікан агульнымі ўмовамі сустрэчы дзвюх эпох і адразу штучна нельга яго абмінуць,— аднак трэба прыняць крокі дзеля штучнага вызвалення нашай псіхікі з ланцугоў мінуўшчыны, каб пайсці па новаму шляху творчасці, па тым шляху, які вымасціла нам загартаваным металам вялікая рэвалюцыя Акцябра.

«Адклад,— як гэта кажуць,— не ідзе на лад». Адкладваць нам да тых часоў, пакуль з'явіцца гістарычная перспектыва дзесяцігоддзяў, мы не можам. Хаця погляд аб тым, што найлепей тады апісваць пэўную эпоху, калі мы знаходзімся ад яе на пэўнай адлегласці часу, але гэты погляд спрэчны. Магчыма, што калі пісьменнік адразу выкарыстоўвае моманты сучаснасці, дык яго творы не абмінаюць тэндэнцыйнасці; але трэба заўважыць, што тэндэнцыйнасць існуе ва ўсім мастацтве, ва ўсёй літаратуры наогул; так што калі цяпер у новых матывах з'яўляецца тэндэнцыйнасць, дык гэта зусім нармальная рэч. Без тэндэнцыйнасці нічога на свеце не творыцца. Тэндэнцыя надае жыццёвы імпэт творчасці. Толькі гэта тэндэнцыйнасць павінна выходзіць зграбная і непрыкметная, бо інакшай яна не то што карысці не прыносіць, але яшчэ шкодзіць.

Каб выйсці з рубяжа на пэўны цвёрды шлях, трэба нашым пісьменнікам раз назаўсёды парваць з пэўнай часткай мінулых традыцый. У нас сапраўды іх не так многа ёсць, каб цяжка было з імі парваць. Фенаменальным чынам выйшла так, што адраджэнне нашай культуры мела сваёй крыніцай рэвалюцыю 1905—1906 гг. Далейшае развіццё гэтага самага адраджэння мы бачым цяпер пад апе-

кай сярпа і молата ў Савецкай Беларусі. Гэта азначае, што толькі на грунце рэвалюцыі мы можам будаваць нашую новую культуру і мастацтва, што і даказана гісторыяй [1]. Калі ўжо трымацца за традыцыі, дык наша адраджэнне галоўным чынам звязана з рэвалюцыйнымі традыцыямі, што выяўляе сабой псіхіку нашага народа. Ён, жыўшы доўгімі вякамі ў паншчыне, ірваўся да новага жыцця толькі пры ўзбухванні рэвалюцыйных вогнішчаў. Калі захочам шукаць гэту рэвалюцыйнасць яшчэ глыбей у народнай душы, мы можам яе знайсці ў вялікім скарбе беларускай народнай творчасці.

У гэтых творах (казках і песнях) ёсць шмат рэвалюцыйна-бытавых матываў проціў папоў і духавенства і царскай улады. Шмат дзе гэта выказана проста, а шмат дзе ў сімвалічнай форме [2]. Такія бунтарскія матывы сто гадоў ці болей таму назад яшчэ распаўсюджваліся па нашых вёсках сялянскімі баечнікамі. Спрадвечная праца на багатых, вечная няволя выпрацавала ў нашых народных масах бунтарскую філасофію, рэвалюцыйныя погляды на жыццё.

Вось у гэтай рэвалюцыйнасці і ёсць наша праўдзівая традыцыя. Уся рэшта з'яўляецца толькі наносам чужых буржуазных культур. У гэтым кірунку мы смела можам сказаць, што наш новы сучасны шлях вытаптаны для нас лапцямі нашых дзядоў і прашчураў.

Новы быт. Шмат гаворыцца, шмат пішацца аб новым быце. Ніхто не сумняваецца ў тым, што ён з кожным годам выяўляецца ўсё ярчэй і ярчэй. Кожны разумее, што пры новых абставінах жыцця ва ўсіх краях СССР, у тым ліку і ў Савецкай Беларусі, ствараецца новы быт жыцця. Адыходзяць у панства мінулага старыя традыцыі: мяняецца псіхіка мас, з'яўляюцца новыя звычаі, новыя ўрачыстасці, новыя погляды на жыццё і акружаючае і г. д.

Але, нягледзячы на ўсё гэта, большасць беларускіх пісьменнікаў адарвана ад новай вёскі. Варункі жыцця прымушаюць іх жыць пастаянна ў горадзе, і калі яны што-колечы твораць, дык гэта творчасць з'яўляецца на

---

[1] У гэтым кірунку мы можам даць факты і з ранейшых часоў, як, напрыклад, пракламацыі на беларускай мове, пісаныя Кастусём Каліноўскім яшчэ ў 1863 годзе.

[2] Гл. нашы артыкулы ў газ. «Савецкая Беларусь» у канцы мінулага года пад назваю «Рэлігія і паншчына ў беларускай народнай творчасці». Там сабрана маленькая частка матэрыялаў такога характару.

фоне ўспамінаў аб мінулай дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы. Аб новай вёсцы яны маюць уяўленне толькі з газетных радкоў, з тых карэспандэнцый, якія прысылаюць у тутэйшыя часопісы вясковыя дапісчыкі. З такіх мёртвых матэрыялаў пісаць мастацкія творы аб нашай вёсцы нельга. У вёсцы трэба цяпер жа пабываць, пажыць, каб набрацца новых настрояў.

Праўда, з'явіліся новыя маладыя пісьменнікі, апавяданні якіх час ад часу друкуюцца ў нашай газеце, але большасць такіх твораў мастацкай вартасці не маюць і з'яўляюцца толькі хранікёрскімі апісацельнымі артыкуламі. Беларускія пісьменнікі павінны даставаць спецыяльныя камандзіроўкі на вёскі. Кожны з іх павінен пазнаёміцца з новым бытам на месцы, у яго жывым выяўленні. Кожны з беларускіх пісьменнікаў павінен пабываць ва ўсіх паветах нашай рэспублікі, ва ўсёй этнаграфічнай Беларусі, каб добра выведаць свой край.

Да гэтага часу,— колькі аб гэтым ні гаварылі і ні пісалі,— нашыя літаратары яшчэ не зарганізаваліся, прынамсі, у адзін які-колечы гурток. Няма сяброўскага абмену думак паміж сабою, зусім не ладзяць літаратурных вечароў, рэдка калі здараюцца літаратурныя суды над творамі нашых пісьменнікаў. А ў гэты ж самы час на Украіне ёсць розныя літаратурныя гурткі, як, напрыклад, «Гарт», «Плуг» і г. д. Яны маюць і свае ўласныя клубы, дзе ладзяць акуратна вечары, чытаюць свае новыя творы, крытыкуюць, папраўляюць памылкі аўтараў і г. д. Гэтыя вечары яны ўжо лічаць соткамі. Ужо не будзем гаварыць аб расійскіх літаратурных гуртках — іх і не пералічыш. У нас у гэтым кірунку нічога няма. Таксама ў нас не выдаюцца перыядычна невялікія зборнікі новых твораў нашых пісьменнікаў. Выдаюцца толькі кнігамі па адной у працягу двух-трох і болей гадоў.

Гэта вялікая памылка з двух бакоў: па-першае, тоўсты том твораў пры цяперашняй дарагоўлі зусім недаступны для нас, у той час калі маленькія кніжачкі ў некалькі разоў болей распаўсюджваліся б. А па-другое, куды ахвотней пішацца, калі аўтар часта бачыць выдрукаванымі свае творы. Праўда, у газеце «Сав[ецкая] Беларусь», у часопісах «Полымя», «Маладняк» (выйшаў адзін нумар) нашы літаратары знаходзяць такое-сякое месца для сваіх твораў, але гэтае друкаванне аўтара мала здавальняе, бо такое раздрабленне яго працы не дае поўнай характарыстыкі яго творчасці. Каб пісьменніку прад'явіць шмат

патрабаванняў, дык трэба ісці насустрач і яго патрабаванням — стварыць яму і маральныя і матэрыяльныя абставіны дзеля таго, каб пісаць мастацкія і каштоўныя творы.

А як вядома, дык нашы пісьменнікі маюць сваю літарацкую творчасць, можа, на якім дзесятым месцы сваёй працы, бо кожны з іх заняты не па сваёй спецыяльнасці дзеля таго, каб здабываць сабе сродкі на штодзённыя жыццёвыя патрэбы.

Калі ўсе вышэйпамянёныя хібы і недахваты будуць папраўлены хоць на пяцьдзесят працэнтаў, дык мы пэўны, што наша літаратура сыдзе са свайго рубяжа і ў сваіх новых творах не толькі дасць поўны адбітак сучаснасці, але будзе рабіць значныя ўплывы на масы чытачоў.

Новы быт у мастацкай абрысоўцы ў літаратуры ёсць найлепшы агітацыйны спосаб укаранення і ўзмацнення яго. Аб гэтым спрачацца не прыходзіцца. Мы ведаем, якія вялікія ўплывы на масы рабілі ў свой час фантастычныя утопіі аб сацыяльных устроях людзей у будучыні. Цяпер за фантазіямі гнацца не прыходзіцца. Нашае жыццё багацей за якія б ні было фантазіі.

## АД КУСТАРНІЦТВА ДА МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ

**(Навейшы этап развіцця беларускай народнай мелоды)**

Два гады таму назад у Маскве стварылася Беларуская дзяржаўная тэатральная студыя. Студыйцы будуць служыць асновай навейшага беларускага тэатра. Найлепшыя тэатральныя сілы Масквы з'яўляюцца настаўнікамі студыі.

За гэты час зацікаўленасць маскоўскіх мастакоў нашым народным мастацтвам павялічылася ў некалькі разоў болей.

Маскоўскія кампазітары зацікавіліся беларускай народнай мелодыяй. Вынікам гэтага, як у нашай газеце ўжо не раз пісалася, злажылася ў Маскве Беларуская пяснёвая камісія. У склад Камісіі ўваходзяць найлепшыя сучасныя маскоўскія кампазітары, як, напрыклад: М. М. Іпалітаў-Іванаў, Я. В. Прохараў, А. А. Аленін, А. В. Нікольскі, С. Л. Талстой, П. М. Сініца, Я. С. Багаценка, Н. В. Пятроў, Е. Н. Лебедзева, В. В. Пляханаў, Г. І. Лю-

бачаў, М. І. Аладаў, Е. М. Бройда (муз. гісторык з Петраграда), Н. А. Гарбузоў і іншыя.

Мэта Камісіі — лабараторна-даследчая праца, як перагляд сабраных беларускіх мелодый да гэтага часу рознымі этнографамі і аматарамі, пераацэнка гарманізаваных друкаваных зборнікаў, якія ўжо ўжываюцца беларускімі хорамі Тэраўскага і Равенскага, таксама збіранне новых мелодый, складанне новых зборнікаў і стварэнне мастацкіх беларускіх кампазіцый.

Цікава пры гэтым зрабіць маленькі агляд мінулага беларускай песні (мелодыі).

Яшчэ ў 40-х гадах мінулага веку беларускую мелодыю пачалі карыстаць розныя кампазітары нашага краю. Быў напісан нейкім кампазітарам твор з беларускіх мелодый пад назваю «Літоўская рапсодыя», другім кампазітарам была напісана «Дуда зачараваная» і г. д.

Ужо ў 50-х гадах польскі кампазітар Манюшка пісаў свае кампазіцыі ў большасці пад уплывам беларускіх мелодый. Такім чынам, Манюшка, дзякуючы беларускай народнай мелодыі, набыў для польскай музычнай скарбніцы багаты ўклад.

Беларусь дала таксама і расійцам знамянітага кампазітара Глінку.

Такі ўжо быў агульны лёс Беларусі: яна гадавала для расійцаў і палякаў вялікіх мастакоў у розных галінах мастацтва і культуры.

Этнаграфічнымі запісамі нашай песні займаліся вядомыя этнографы: Шэйн, Раманаў і іншыя. Зінаіда Радчанка, калі не памыляемся, у канцы мінулага сталецця выпусціла невялічкі зборнік беларускіх народных песень з Гомельшчыны.

Беларускія песні выпаўняліся яшчэ да адраджэння 1905 года празнымі расійскімі спявачкамі і хорамі.

З пачатку нашага адраджэння над беларускай мелодыяй пачалі працаваць Грыневіч, які ў кожнае лета раз'язджаў па беларускіх вёсках, запісваў беларускія песні, складаў з іх зборнікі; цяперашні польскі кампазітар Рагоўскі, які напісаў «Сюіту беларускую», музыку да верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» і зборнік песень. Апрацоўваў беларускія мелодыі і літоўскі кампазітар Шымкус.

Усе гэтыя асобы кіравалі ў свой час беларускімі хорамі ў Вільні і Петраградзе.

Яшчэ шмат хто збіраў беларускія народныя песні (мелодыі).

Вось чытаем, напрыклад, заяву Мік. Мік. Чуркіна, прысланую старшыні Беларускай пяснёвай камісіі ў Маскве:

«З 1917 г. па 1915 г. кожнае лета я быў камандзірован б. Віленскім Геаграфічным таварыствам у паветы Віленскай губ. дзеля збірання народных песень (мелодый). За гэты час я сабраў мелодый каля 500. За кожную экскурсію я сабраныя песні і справаздачу аб паездцы прадстаўляў у памянёнае Таварыства, якое хавала песні ў Віленскім музеі — архіве старасветчыны. У часе эвакуацыі з прычыны вайны, архіва (здаецца, у Маскву) песні былі таксама забраны. Дзе знаходзяцца цяпер песні — мне невядома, але наглядчыкам музея ў момант эвакуацыі быў Змітры Іванавіч Даўгялла. Ён цяпер у Мінску і, пэўна, не адмовіцца даць паказанні аб тым, дзе знаходзяцца памянутыя песні. Прашу, калі гэта магчыма і карысна, прыняць крокі к вышуканню іх».

Мы застанавіліся над гэтым фактам дзеля таго, што 500 песень — гэта вялікі скарб для беларускай мелодыі. Гэтыя матэрыялы абавязкова трэба знайсці.

Магчыма, што такім чынам ляжаць яшчэ нявыкарыстанымі соткі такіх матэрыялаў у розных навуковых установах і ў прыватных асоб.

За час вайны развіццё беларускай народнай песні, як і беларускае культурнае адраджэнне наогул, спынілася.

Ад рэвалюцыі 1917 г. наша песня зноў пайшла ўверх. Зарганізаваўся хор Тэраўскага, які нажыў сабе славу ў Беларусі. Тэраўскі за час працы запісаў некалькі сот (здаецца, 500) мелодый, выдаў пару зборнікаў.

Збіраў у той час беларускія мелодыі і прафесар Усцюжанінаў, які жыў тады ў Мінску.

Злажыў зборнік беларускіх песень і прафесар Янчук у Маскве.

Пасля Тэраўскага ў Мінску працаваў над беларускай песняй яшчэ і гр. Равенскі, які таксама меў свой хор, збіраў народныя мелодыі ў Случчыне (болей 200 нумароў) і выпусціў невялічкі зборнік.

Вось у кароткіх словах гісторыя развіцця беларускай песні.

Дадзема тут цікавы погляд на беларускую песню старшыні Бел. пяснёвай камісіі ў Маскве Я. В. Прохарава, выказаны ім на пасяджэнні камісіі пры этнаграфічнай асацыяцыі «Гімн» у Маскве:

«Беларускай песні не пашанцавала, у той час калі яе

родныя сёстры — велікаруская і ўкраінская песня — маюць аграмадную літаратуру і масу сабраных матэрыялаў і спецыяльных зборнікаў, беларуская песня бадай яшчэ зусім не выследавана, а якія ёсць аб ёй працы, у большасці далёкія ад грунтоўнасці. Праўда, ёю цікавіліся многія, але з прычыны малага ліку матэрыялаў у друку гэта зацікаўленасць у большасці выпадкаў таксама застаецца нездавальняючай.

Усе друкаваныя зборнікі беларускіх народных песень не могуць даць поўнага і яснага зразумення аб тым, што такое беларуская песня, бо аўтары іх або зусім не былі музыкантамі, або мелі аб музыцы і яе законах вельмі слабае паняцце.

Такім чынам, у гэтай галіне нас чакае вялікая і складаная праца па выясненню і ўстанаўленню асноўных тыпічных рысаў беларускай народнай песні.

Наша Беларуская пяснёвая камісія павінна пераглядзець усе існуючыя аб гэтай справе погляды і думкі, усебакова іх разважыць, адны прыняць, другія адкінуць і падвясці ў канцы канцоў свайго роду аканчальны скутак».

З гэтага пункту Беларуская пяснёвая камісія і пачала сваю працу. Камісія пазнаёмілася з выпаўненнем беларускіх песень хору Тэраўскага і разглядае ўсе вышэйшыя да гэтага часу зборнікі беларускіх песень.

Разам з гэтым камісія прыступіла адразу да творчай працы. Ужо апрацоўваецца праект здаць у першую чаргу заказ на гарманізацыю 250 беларускіх песень. З гэтага ліку: 100 для школьнага зборніка, 75 для хору, 50 сола, дуэтаў і г. д. і 25 у пералажэнне на музыку.

Праца ўжо ідзе поўным тэмпам:

Я. В. Прохараў ужо закончыў гарманізацыю 55 песень.

А. А. Аленін згарманізаваў 15 песень;

М. М. Іпалітаў-Іванаў — 2 песні;

М. І. Аладаў напісаў чатыры музычныя творы да вершаў беларускіх песняроў.

Пры ўсім гэтым яшчэ робяцца новыя запісы беларускіх народных песень этнографа Сербава, украінскага кампазітара-этнографа Квітко ў паветах Чарнігаўшчыны. Таксама Народны Камітэт Асветы Беларусі мае на мэце наладзіць спецыяльную экспедыцыю, якая будзе збіраць народныя мелодыі па Беларусі.

Ужо апрацоўваецца план чарговых выданняў зборнікаў беларускіх песень. Да гэтых зборнікаў будуць дададзены артыкулы музычна-тэарэтычнага характару аб беларус-

скай музыкальпай творчасці і стацці этнаграфічна-лінгві-стычнага характару.

Беларускай пяснёвай камісіяй звернута таксама ўвага на беларускія музычныя інструменты. Галоўным чынам зацікавіліся цымбаламі. Мае быць зарганізаваны спецыяльны аркестр з цымбалаў і іншых беларускіх народных інструментаў.

Як відаць з усяго вышэйсказанага, Беларуская пяснёвая камісія з'яўляецца новай беларускай установай у Маскве. Гэта ўстанова, мы пэўны, дасць у недалёкай будучыні багатыя плады. Можна спадзявацца, што да першага выпуску студэнтаў Дзяржаўнай беларускай тэатральнай студыяй у Маскве мы будзем мець багата апрацаваную беларускую песню і беларускую музыку. Гэта будзе багатым дадаткам да беларускага маладога тэатра.

## АД ГУРТКОВАЙ НАВУКОВАЙ ПРАЦЫ — ДА БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Быў час, калі беларусазнаўства, або, як у старыя часы гэта называлі, «исследование Северо-Западного Края» было рассеяна па розных навуковых установах былой царскай Расіі. Праз якія б русіфікатарскія акуляры даўней расійскія вучоныя ні глядзелі на беларускі край, аднак вызначаліся пэўныя асобы, якія займаліся даследаваннем нашага краю па розных галінах культуры і эканомікі. Нягледзячы ні на якія тэндэнцыі саміх вучоных, жыццёвыя факты, самабытнасць нашага краю і яе карэннога насялення бралі верх у навуцы. Такім чынам праз увесь працяг мінулага стагоддзя і па сённяшні дзень мы мелі багаты кадр беларусаведаў, працамі якіх мы карыстаемся і цяпер.

З 1921 года, калі ў невялічкім абшары Савецкай Беларусі пачалося будаўніцтва новай беларускай культуры, як распаўсюджанне беларускіх школ і г. д., само жыццё выклікала патрэбу стварыць беларускую тэрміналагічную камісію дзеля апрацавання навуковых тэрмінаў для школьных падручнікаў на беларускай мове.

Потым з членаў тэрміналагічнай камісіі, з яшчэ большым пашырэннем беларускай культуры, стварыўся Інстытут беларускай культуры. Інбелкульт з'яўляецца цэнтрам,

вакол якога групуюцца беларускія культурныя дзеячы, пад кіраўніцтвам якога яны знаходзяцца. Пад яго веданнем знаходзіцца, паміж іншым, беларускі тэатр, беларуская студыя ў Маскве і г. д. Інбелкульт рабіў спробы навуковых экспедыцый па даследаванню культурных і эканамічных багаццяў нашага краю і мае замеры надалей пашырыць гэту справу. Інбелкульт трымае пад сваёй апекай маладых беларускіх вучоных, пад яго кіраўніцтвам яны пішуць свае працы, і наогул пачынае збіраць у адно цэлае ўсё тое, што творыцца ў сэнсе беларускай маладой навукі і мастацтва.

Разумеецца, Інстытут беларускай культуры ў межах сваёй працы шмат ужо зрабіў, але гэта праца чыста лабараторнага характару (у большасці — апрацаванне навуковай тэрміналогіі), не зусім вядомай для шырокіх колаў грамадзянства і не абхопліваючай усіх галін навукі і мастацтва ў шырокім сэнсе гэтага слова.

Ёсць яшчэ адна мэта ў працы Інбелкульта — выгадаваць кадры маладых беларускіх прафесараў для Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У гэтым кірунку зроблены таксама такія-сякія крокі.

Аднак, трэба прызнацца, што, нягледзячы на вялікую карысць ад працы Інбелкульта, яго трэба пераарганізаваць у нешта болей шырокае, усёабхопліваючае. Падышоў час выйсці з рамак гуртковай навуковай працы да працы большага размаху — да Беларускай краёвай акадэміі навук. У звязку з пашырэннем нашай тэрыторыі гэтае пытанне павінна стаяць у нас на чарзе дня. Гэткая акадэмія павінна знаходзіцца ў Мінску — у цэнтры нашай рэспублікі, скуль яна павінна разнасіць святло навукі і культуры па ўсяму нашаму краю.

Дзеля гэтай мэты, на наш погляд, трэба было ў хуткім часе склікаць у Мінску з'езд беларускіх вучоных, рассеяных па ўсяму СССР па розных навуковых установах і пагаварыць аб гэтай неадкладнай справе. Маленькае ядро такіх людзей маем сярод працаўнікоў Інбелкульта, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, але шмат выдатнейшых беларускіх вучоных працуе па-за межамі нашага краю. Іх усіх трэба сабраць у адну вялікую сям'ю, якія разам з мясцовымі паслужылі б асяродкам Беларускай Акадэміі навук.

Час на гэта надышоў. Чакаць далей нельга. Мы тут выказваем у гэтай справе сваю першую думку і просім выказацца аб гэтым зацікаўленых асоб болей дэтальна.

## К 15-гадоваму ЮБІЛЕЮ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРАЦЫ ЦІШКІ ГАРТНАГА

(1908—1923)

У пятніцу ўвечары 14 снежня ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры Інстытут беларускай культуры ладзіць урачыстасць 15-гадовага юбілею літаратурнай працы першага беларускага пралетарскага паэта і пісьменніка Цішкі Гартнага (Змітра Жылуновіча). Якраз 14 снежна 1908 года выдрукаваўся першы літаратурны твор Гартнага ў першай беларускай часопісі «Наша ніва» ў Вільні.

Цішка Гартны радзіўся ў мястэчку Капылі Слуцкага павета 23 кастрычніка 1887 года. Бацька паэта — чорнарабочы, які зарабляў падзённай работай каля васьмі злотых на тыдзень. Гэтым харчавалася ўся сям'я.

Дзеля таго каб аблягчыць цяжар беднай сям'і, малога Змітра (на 11-м годзе) бацька аддаў улетку за пастушка. Узімку хлопчык вучыўся грамаце ў нейкага «дарэктара», так на Беларусі называлі дамарослых настаўнікаў. У «дарэктара» хлопец паказаў вялікую здольнасць да навукі, але «дарэктар» прагнаў яго за смех на малітве.

Потым ён вучыўся ў Капыльскай школе. Зноў жа ў школе вучыўся ён зімой, а летам служыў за пастуха.

Пасучы стада, будучы беларускі паэт любіў чытаць розныя кніжкі.

У 1904 г. на вялікдзень ён у першы раз папаў на мітынг Капыльскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, які адбыўся патаемна ў блізкім лесе.

«З гэтага часу,— як піша сам пясняр у сваіх успамінах,— мяне пацягнула да «дэмакратаў», аб якіх ішлі легенды па мястэчку».

З гэтага ж года Гартны пачаў пісаць вершы, спачатку па-расійску.

У 1906 г. Гартны пайшоў у гарбары. Стаўшы рабочым, ён прайшоў у камітэт Капыльскай арганізацыі сацыялдэмакратаў, працуючы сярод капыльскай моладзі. А ў 1908 г. пачаў пісаць у «Нашу ніву». З 1909 г. Гартны пусціўся ў вандроўку па Беларусі. З 1909 па1912 г. ён з дапамогаю рабочых-гарбароў аб'язджаў гарады і мястэчкі бацькаўшчыны. Свае вершы, карэспандэнцыі і апавяданні пісьменнік пісаў у дарозе, вагонах, на вакзалах, у цесных і брудных каморках, у начлежках і г. д.

У 1913 г. Гартны паехаў у Петраград і паступіў на за-

вод. Там ён таксама не пакідаў пісаць па-беларуску вершы і раман «Сокі цаліны».

Пасля пяці месяцаў працы на заводзе быў разлічан. Жыў у горадзе без працы 3 месяцы пры падтрыманні сяброў беларусаў Б. Шыпілы, д-ра Ярэміча і інш., пакуль дастаў службу загадчыка выдавецтва, на якой і захапіла яго рэвалюцыя 1917 г. Яшчэ да рэвалюцыі быў рэдактарам газеты «Дзянніца», потым быў рэдактарам газ. «Савецкая Беларусь». Цяпер стаіць на чале выдавецтва «Савецкая Беларусь» у Мінску.

Пакуль што паасобнымі зборнікамі твораў Гартнага выйшлі «Песні працы і змагання» і першы том рамана «Сокі цаліны», а многа яго вершаў, апавяданняў і артыкулаў рассеяны па розных беларускіх часопісах, пачынаючы ад «Нашай нівы», «Маладой Беларусі» і канчаючы сучасным часопісам «Полымя».

Творчасць Цішкі Гартнага займае ў беларускай літаратуры асаблівае і пачэснае месца. У той час калі ўсе іншыя беларускія паэты пісалі аб сялянах, малявалі настроі бунтарскай сялянскай беднаты, Цішка Гартны ў большасці сваіх вершаў апявае беларускі пралетарыят.

Яго песні аб гарбарах, кавалях, шаўцах і г. д. пранікнуты вялікім натхненнем і выкуты, загартаваны нейкай надзвычайнай бунтарскай сілай.

Шум рабочага станка, шэлест сярпоў на полі, звон касы на лузе чуваць у яго творах.

Цішка Гартны цяпер у поўным росквіце сваёй творчасці. Беларуская літаратура ад яго яшчэ шмат-шмат чакае.

## ЧАТЫРОХСТУПНЁВАЯ ЛЕСВІЦА

**(Нататкі аб Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры)**

«На купалле».

«Машэка».

«Кастусь Каліноўскі».

«Мешчанін у шляхецтве».

Вось тая чатырохступнёвая лесвіца, створаная Беларускім тэатрам за апошнія тры гады.

А раней?

Раней,— ад першага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага ў Вільні да рэжысёрства Міровіча,— наш тэатр знаходзіўся на этнаграфічна-аматарскім узроўні.

Прычына?

Вядомая. Наша сцэнічнае мастацтва, поплеч з усёй беларускай культурай, пачало развівацца толькі тады, калі яно апынулася на беларуска-дзяржаўным грунце. Не будзь гэтага грунту — наш тэатр стаяў бы на ранейшым узроўні яшчэ 10, 50 і болей гадоў.

Першая ступень нашага новага тэатра пад сонцам Кастрычніка была «На купалле» — муз. драма М. Чарота (музыка Тэраўскага).

«На купалле» — адзін з яркіх феерверкаў беларускай міфалогіі, які акамуліруе ў сабе нашу лясную легенду аб старадаўнім богу-сонцы, атуленым залатымі кудзерцамі сакавітых народых абраднасцей, аздобленых спевамі і скокамі.

Часам чуеш, што «На купалле» не мае зместу, што ігра прымітыўная. Тут гэтыя ўвагі заганай служыць не могуць.

Чаму?

Тут, іменна, у простым народным лірызме, у штрыхавым прымітыве — і змест і хараство. Фактідавочны. «На купалле» ўжо каторы год не зыходзіць са сцэны і кожны раз падабаецца. Падабаецца патаму, што ў гэтай п'есе ёсць якраз глыбокі змест — мнагабарнасць душы нашага народа, якая крысталізавалася ў сваёй першабытнай юнацкай свежасці.

Другая ступень — «Машэка», сказ магілёўскіх лірнікаў, апрацаваны Міровічам. Легенда — напаўгістарычнага і напаўрамантычнага зместу, маючая сацыяльна-класавую падкладку, зноў жа аздаблёная народнымі абраднасцямі.

«Машэка»,— безумоўна,— добра апрацаваная для сцэны рэч. Гэты прымітыў зроблены тут зноў жа інстынктам мастака, бо ён і тут на месцы.

Трэцяя ступень — «Кастусь Каліноўскі» (п'еса ў дзевяці абразках, Міровіча) узбудаваны на гістарычным факце часоў знамянітага царскага ката Мураўёва, усмірыцеля польскага паўстання мінулага веку. Каліноўскі — рэвалюцыянер-беларус, які зарганізаваў тады «Чырвоны жонд», пісаў да нашага сялянства адозвы на беларускай мове. Тут ужо багаты змест і, трэба сказаць, багатая ігра нашых сцэнічных працаўнікоў. Аб дэталях гаварыць тут не будзем.

Чацвёртая ступень — гэта мальераўская п'еса «Мешчанін у шляхецтве», пастаўленая Міровічам у новым стылі.

Мы чулі ад некаторых і нават было ў друку (газ. «Звяз-

да»), што гэта п'еса хоць і прыгожа пастаўлена, але не мае зместу...

Ды якога лепшага зместу яшчэ трэба? Высмейваецца просты чалавек, які, узбагацеўшы, захацеў жыць на панскую манеру. Хоць гэта рэч напісана толькі сто гадоў таму назад, але міжвольна геніяльны аўтар у агульным скутку кініць з паноў і з тых людзей, якія не хочуць жыць натуральным здаровым жыццём, а хочуць быць панамі. Такіх мяшчан у шляхецтве можна знайсці вельмі шмат хоць бы ў нашым сучасным жыцці.

Але тут справа не ў змесце. Справа ў тым, што беларускі тэатр у асобе Міровіча на чале пачаў шукаць новых формаў. Беларускі тэатр пачаў тварыць сваю ўласную школу.

Тэндэнцыя шукання ўжо з'яўляецца вялікім дасягненнем для нашага сцэнічнага мастацтва.

Міровіч, праўда, не Меерхольд, але чалавек з багатай тэатральнай эрудыцыяй, з тонкім пачуццём хараства і ў дадатак надзвычайна працаздольны. Увесь свой творчы талент ён аддаў адраджэнню беларускага тэатра.

Гэта ён болей усяго паказаў уператворанай ім па-новаму мальераўскай п'есе. Тут чуецца прагрэс ва ўсім, як у ігры актораў таксама ў хоры, балеце і дэкарацыі. Ва ўсім гэтым відаць віраўнічая мастацкая рука рэжысёра.

Пастаноўкай Мальера Беларускі тэатр паказаў сваю свежую гібкасць. Гэта з'яўляецца ўжо шырокім узлётам, які прарочыць нашаму тэатру багатую будучыню.

Задаткі к гэтаму наш тэатр паказаў першай сваёй чатырохступнёвай лесвіцай.

А гэта лесвіца, мы пэўны, узвысіцца да дзесяткаў і соткаў ступеняў.

## ДУМКІ К ЧАСУ

**(Аб нашай літаратуры і нашых літаратарах)**

### I

Няма крытыкі.

У нас да гэтага часу яшчэ няма крытыкі на творы нашых пісьменнікаў. Няма поўных і пэўных разглядаў твораў як старых, так і маладых тварцоў нашага прыгожага пісьменства.

У нас ёсць толькі бібліяграфічныя нататкі альбо выпадковыя, канспектнага характару артыкулікі аб тым ці іншым пісьменніку.

Проста гора. Хоць ты знекуль спецыяльна выпішы крытыка-спецыяліста.

Гэты крызіс адчуваюць вельмі самі нашыя пісьменнікі і арганізуюцца ў групы (як, напр., «Маладняк») і займаюцца самакрытыкай.

Займацца самакрытыкай — рэч, безумоўна, вельмі карысная і неабходная як для літаратурнай групы пэўнага напрамку, таксама для кожнага пісьменніка паасобку. Але... але крытыкі пастаронняй, бестэндэнцыйнай, строгай, якая аналізавала б усебакова літаратурныя творы, якая служыла б пасрэднікам між пісьменнікам і чытачом, якая грунтоўна знаёміла б у школах з нашай літаратурай — няма.

Гэты крызіс адчуваўся за ўвесь працяг развіцця новай беларускай літаратуры перыяду «Нашай нівы» да апошніх часоў.

Гэтага пуцяводнага маяка-крытыка ўвесь час чакалі і чытачы і самі нашыя пісьменнікі.

— Калі ніхто аб нас, дык мы самі аб сабе!

Так разважалі беларускія пісьменнікі. Імі кіравала не пачуццё самарэкламы і сябеўсхвалення. Не, нашыя пісьменнікі вельмі скромныя ў гэтым кірунку.

Тут проста справа вымагала.

І вось першым з нашых пісьменнікаў, які пачаў займацца крытыкай, быў нябожчык Максім Багдановіч. Яго крытычныя нарысы, праўда, вельмі сціслыя, але меткія, пападаючыя якраз у кропку. Ён даваў характарыстыкі кожнаму пісьменніку ў некалькіх радках, двума-трыма штрыхамі; але гэтыя характарыстыкі такія трапныя, што пазнейшыя аглядальнікі нашай літаратуры іх і па сённяшні дзень цытуюць.

Пісьменніку так-сяк можна пісаць аб сваім таварышу-пісьменніку (хоць таксама часам прыкравата, каб не вінавацілі ў тэндэнцыйнасці), але як пісаць аб самім сабе?

Зусім не пісаць аб сабе нельга — адным пісьменнікам у літаратуры менш будзе. Пісаць зноў жа як бы нялоўка.

І вось М. Багдановіч, не ацэньваючы сябе з боку мастацкага, у сваіх артыкулах гаварыў аб сабе прыблізна так:

«М. Багдановіч у сваіх вершах стараўся даваць старакласічныя формы розных еўрапейскіх літаратур».

Гэта пісаць было неабходна, бо ў кірунку стылізацыі розных формаў вершаў ад старагрэцкіх да навейшых французскіх уключна Багдановіч быў адзіным. Каб ён аб сабе гэтых некалькіх слоў не пісаў — быў бы вялікі прабел у яго крытычных аглядах нашай літаратуры...

Наш таленавіты празаік Максім Гарэцкі дзеля школьных патрэбаў напісаў у 1920 г. «Гісторыю беларускай літаратуры».

Не будзем тут удавацца ў крытыку гэтай працы. Факт застаецца фактам, што іншага і лепшага твора ў гэтым кірунку для нашых школаў пакуль што няма. У нашых школах гэта кніжка — рэч неабходная.

М. Гарэцкаму выпала вельмі цяжкае заданне: даць акрасленне і пэўнае месца на беларускім Парнасе кожнаму з нашых пісьменнікаў. Гэта было лягчэй рабіць з тымі пісьменнікамі, якія ўжо адышлі ў нябыт, як Д.-Марцінкевіч, Багушэвіч, А. Гарун і іншыя. А тыя пісьменнікі, якія знаходзяцца ў перыядзе развіцця, якія выявілі свой твар, але яшчэ маюць многа казаць і выяўляць новыя рысы ў сваёй бягучай творчасці,— які падход рабіць да іх?

Праўда, заданне цяжкае.

М. Гарэцкі цытаваў крытычныя агляды Багдановіча аб некаторых з гэтых пісьменнікаў, даваў і ад сябе і — такім чынам — стварыў дзеля школ першы падручнік аб беларускай літаратуры.

Але выйшаў адзін вялікі недахват — аб празаіку М. Гарэцкім (у той час, калі ў нас празаікаў вельмі мала) М. Гарэцкі ні слова не сказаў.

І, праўда, трэба мець надзвычайную адвагу пісьменніку самому аб сабе гаварыць.

У гэтым кірунку мы маем яшчэ адзін прыклад: Цішка Гартны, якому таксама прыходзіцца рабіць агляды беларускай літаратуры. У сваіх крытычных аглядах («Зажынкі» — зб., «Беларусь» — зборнік) Цішка Гартны ўспамінае і аб сабе, даючы невялічкі агляд сваіх твораў, і зусім рацыянальна. Бо без гэтага артыкул быў бы няпоўны, тым болей што Ц. Гартны займае ў нашай літаратуры асобнае месца як пачынальнік пралетарскіх матываў у нашай паэзіі яшчэ шмат гадоў таму да вялікай рэвалюцыі.

Вось у якім трагікамічным становішчы знаходзіліся тыя з нашых пісьменнікаў, якія браліся пісаць крытычныя нарысы аб нашай літаратуры.

За апошнія гады ў нашых перыядычных часопісах з'явіліся новыя крытыкі, мільгнулі новыя прозвішчы:

Ігнатоўскі, Чаржынскі, Пятуховіч, Каравайчык і Байкоў.

Але тут зноў жа іхнія працы носяць выпадковы характар: альбо артыкул напісан аднабакова («Лірыка ў творах М. Чарота», Ігнатоўскі), альбо носіць чыста бібліяграфічны характар (артыкулікі Байкова ў «Полымі»).

А крытыкі ў нас усё ж такі няма. Яшчэ ніводнага слова не было сказана аб новых напрамках, аб новых формах у нашай паэзіі. Яшчэ не было ў нас прызываў-клічаў да пісьменнікаў пісаць вялікія творы як прозай, таксама і вершам. А такія прызывы маюць вялікае значэнне. У гэтым кірунку можа служыць прыкладам адзін маленькі ліст у газеце «С. Б.» ад групы «Маладняк» да нашых пісьменнікаў аб тым, каб пісалі аб Леніне. Зараз жа з'явіўся ў нашым прыгожым пісьменстве цэлы цыкл твораў у гэтым кірунку.

Каб у свой час і паралельна з развіццём нашага прыгожага пісьменства ішло развіццё і нашай крытыкі, дык мы пэўны, што творы нашых літаратараў і па якасці, і па ліку куды вышэй сталі б, чымся дагэтуль.

Шмат з капітальных твораў нашых пісьменнікаў, можна сказаць, праходзяць зусім моўчкі. Мала хто аб іх словам адгукнецца. Узяць, напр., ранейшыя творы Я. Купалы, як «Сон на кургане», «Раскіданае гняздо» і інш., Коласа — «Новая зямля», «У палескай глушы», «Сымон-музыка», таксама і іншых аўтараў, дык, апрача няпоўных бібліяграфічных аглядаў, аб іх нічога не сказана.

Вось яшчэ прыклад. Ужо каторы раз выходзяць у свет нашы часопісы «Полымя», «Маладняк», і ніхто аб іх, хоць бы ў нашай газеце, і словам не адгукнецца, апрача заметкі характару звычайнай кнігарскай абвесткі.

А чаму?

Таму, што пісьменнікі не могуць пісаць — яны самі супрацоўнічаюць у гэтых часопісах, так што тут з'яўляецца звычайная, зразумелая нялоўкасць. А болей ніхто з пісьменнікаў не дадумваецца пісаць. Праўда, адзін раз Я. Дыла адважыўся даць некалькі слоў.

Выходзіць так, што чытачы «Полымя» ці «Маладняка» не маюць да часопісаў крытычнага ўводу, той электрычнай лямпачкі, якая асвятляла б чытачу (масаваму, бо мы тут ужо не кажам аб беларускім інтэлігенце) радкі вершаў і прозы ў новым стылі.

А крытыка — гэта трыбуна, з якой чытач чуе тлумачэнне аб творах, якія ён чытае. Крытыка дапамагае чыта-

чу арыентавацца ў прачытаным, навучае яго ўдумвацца ў творы.

Пасля чытання добрых крытычных нарысаў чытач сам робіцца крытыкам і свядома глядзіць на творы розных аўтараў.

Беларуская літаратура ў канчатковым скутку сваім яшчэ не мае крытыкі, якая вельмі патрэбна як пісьменнікам, таксама і чытачам.

Як выйсці з гэтага становішча?

## II

Няма друкаванай крытыкі, дык дайце публічнай масавай крытыкі!

Вось яшчэ ў мінулым годзе пачалі ладзіцца літаратурныя вечары «Полымя», потым і «Маладняка».

Як мы прыпамінаем, вечары былі жывыя, шумныя, прыходзіла шмат вучнёўскай моладзі.

Але немаведама, дзеля якой прычыны гэтыя вечары, не расцвіўшы, адцвілі...

А такія вечары, на якіх робіцца жывая сувязь між літаратарам і чытачом, надзвычайна патрэбны. Моладзь вельмі пільна прыслухоўваецца к новаму прыгожаму беларускаму слову. Моладзь вучнёўская нават прабавала ладзіць літаратурныя суды над некаторымі творамі беларускіх пісьменнікаў (як, напр., суд над паэмай «Босыя на вогнішчы» М. Чарота ў Белпедтэхнікуме).

Але ўсялякія такія парыванні-спробы ажывіць беларускую літаратуру праз жывую крытыку на публічных выступленнях у далейшым працягу як бы замёрлі.

Што служыць гэтаму прычынай?

Першым чынам, кожны з нашых пісьменнікаў заняты іншымі працамі дзеля здабывання сродкаў на пражыццё, і ён не мае часу рыхтавацца да такіх вечароў. Літаратурнай творчасцю нашы пісьменнікі займаюцца ў вольны ад працы час, выпадкова. А па-другое — гэткія літаратурныя выступленні патрабуюць кожны раз усё ж такі крытычнага ўводу, разгляду твораў, якія маюць чытацца на даным вечары.

Кожны раз спачатку патрэбна лекцыя аб напрамку твораў, аб мастацкіх дасягненнях аўтара ў новых шуканнях і г. д. А ўжо пасля такой лекцыі літаратурныя творы чытаюцца як ілюстрацыі к памянёнай лекцыі.

Але наогул літаратурныя вечары ў нашым беларускім абхваце маюць і свае адмоўныя бакі.

Не кожны аўтар умее добра чытаць свае творы. Такім чынам вельмі часта добры твор у кепскім чытанні траціць 80 працэнтаў сваёй вартасці.

Таксама большасць слухачоў не можа адразу ўлавіць усе адценні твора, каб потым мець магчымасць зараз жа экспромтам сказаць сваю крытыку. А калі хто і кажа на такіх вечарах сваё мімалётнае ўражанне, дык гэта крытыкай поўнай і сур'ёзнай лічыцца не можа.

І зноў жа большасць публікі пасля такога вечара не выносіць поўнага ўражання. Большасць бачыць абразцы літаратурнай творчасці як бы праз туман.

На наш погляд, такія вечары вельмі патрэбны, і не толькі ў Мінску, але па розных гарадах Беларускай рэспублікі. Толькі гэтыя вечары павінны ладзіцца болей арганізавана, з добрай да іх падгатоўкай.

Перш-наперш спачатку павінна быць прачытана лекцыя, добра апрацаваная, якая характарызуе даных аўтараў у іхніх творах, якія дэманструюцца на даным вечары. Лекцыя павінна быць вельмі папулярна выложана. У ёй павінна быць указана і аб форме, і аб змесце, і аб агульным настроі даных твораў, і аб тым, што аўтар у гэтым творы хацеў сказаць, наколькі яму гэта ўдалося і г. д.

Тыя аўтары, якія самі добра чытаюць, павінны чытаць самі, а рэшта — няхай чытаюць дэкламатары-спецыялісты.

Што тычыцца крытыкаў, дык, не лічачы выпадковых асобаў, якія выступяць з публікі, некалькі крытыкаў павінны заўчас прачытаць творы, добра прадумаўшы свой крытычны агляд, а потым ужо выступаць публічна.

Абавязкова хоць два крытыкі павінны да гэтага быць падрыхтаваны, адзін — за, другі — процiў. Гэтыя два крытыкі — пракурор і абаронца, якраз дадуць повад іншым, выступіўшым экспромтам, выявіць сабе цалкам сэнс твораў з усіх бакоў.

Тады, можна быць пэўным, літаратурны вечар дасягае сваёй мэты. Масы будуць знаёміцца з беларускай літаратурай, будуць мець аб ёй жывое выяўленне.

Магчыма, што пасля такіх вечароў апрацуецца, выкрысталізуецца сталая крытычная думка аб нашай літаратуры. Такія вечары, магчыма, дадуць вам у канцы ад-

наго-двух і болей сапраўдных крытыкаў, якія возьмуцца спецыяльна ў гэтым кірунку пастаянна працаваць.

Нашым маладым крытыкам трэба раз назаўсёды ведаць, што пісаць крытыку — гэта тое самае значэнне мае ў літаратуры, як пісаць паэму ці повесць. Трэба мець той жа самы мастацкі талент — трэба быць самому мастаком. Трэба часам разумець аўтара з паўслова, з няўдачнага часам слова трэба ўгадаць, што аўтар хацеў сказаць. Крытык павінен уцяміць нахілы аўтара, яго моцныя і слабыя бакі і пакіраваць яго туды, дзе ён чуецца моцным. Калі часам аўтар сам сябе не знаходзіць у сваіх творах — крытык павінен яго вышукваць, знайсці, паказаць аўтару яго праўдзівы твар. Інтуітыўная, часам надсвядомая творчасць аўтара павінна быць навукова разложана крытыкам на псіхалагічныя, калі можна так казаць, атамы. Псіхалогія творчасці дадзенага твора павінна быць высветлена крытыкам усебакова, якія ўплывы, якія абставіны, якія настроі дыктавалі аўтару дадзены твор. Часам, калі твор надзвычайна выдатны, аб ім прыходзіцца куды болей пісаць, па колькасці, чымся сам твор займае. Гэта патрэбна. Гэта найлепшая літаратурная студыя і для чытачоў і для аўтараў.

Але, разумеецца, крытык павінен быць надзвычайна адукаваным чалавекам, павінен ведаць хоць некалькі еўрапейскіх моў і грунтоўна быць знаёмым з сусветнай літаратурай усіх часоў.

Шмат хто пакладзе надзеі ў гэтым кірунку на наш Дзяржаўны універсітэт.

З беларускай студэнцкай моладзі выйдзе некалькі крытыкаў нашай літаратуры. Шмат хто з іх піша рэфераты аб нашым прыгожым пісьменстве і г. д.

Мы таксама спадзяёмся, але пакуль што — чакай у мора пагоды.

Гэта шмат залежыць ад таго, якую падгатоўку ў гэтым кірунку дадуць студэнтам прафесары.

Цяпер колькі слоў аб прадмеце беларускай літаратуры ў нашых школах. Як вам вядома, кожны настаўнік пасвойму выкладае гэты прадмет. Кожнаму настаўніку прыходзіцца капацца ў розных матэрыялах, рассеяных па часопісах чуць не 20-гадовага перыяду.

Чаму? — Таму, што яшчэ не выдрукавалі Поўных збораў твораў нашых пісьменнікаў.

Калі нават каму-небудзь з настаўнікаў і ўдасца азнаёміцца на 50 працэнтаў з творамі нашых пісьменнікаў,

дык усё роўна вучні (сярэдніх і вышэйшых школ) гэтага чытаць не маюць доступу. Значыць, якія бы сабе лекцыі ні былі, а ў вучняў у галаве вельмі мала астаецца аб беларускай літаратуры. Мы ўжо тут не кажам аб выкладанні прадмета народнай творчасці па нашых школах, а ён у большасці зусім не выкладаецца. А калі дзе і знаходзіцца такі працавіты настаўнік, які бярэцца і за гэты прадмет, дык яму прыходзіцца доўга капацца па многа цёмных працах нашых этнографаў. Пры гэтым такому настаўніку прыходзіцца яшчэ тварыць сваю тэорыю. Словам, кожнаму настаўніку беларускай літаратуры прыходзіцца, як таму Рабінзону Круза, тварыць, пачынаючы ўсё спачатку.

Крытыка нашай літаратуры — гэта пытанне дня, адна з важнейшых спраў нашай адраджаючайся культуры.

Над гэтым трэба не адкладваючы пачаць працу. [...]

## IV

Для нашых пісьменнікаў, якія ў большасці выйшлі з сям'і працоўнага сялянства і не мелі магчымасці скончыць нават сярэднюю школу, абавязкова трэба адчыніць у Мінску літаратурную студыю. Пішучай братыі па ўсёй Беларусі набярэцца некалькі дзесяткаў чалавек. Некаторыя з іх жывуць у глухіх вёсках і не маюць магчымасці нават добрую кніжку пачытаць.

Такая студыя для нашых пісьменнікаў надзвычайна патрэбна. Студыйцы павінны праходзіць агульныя навукі ў абхваце сярэдніх школ. Пасля патрэбна вывучэнне некалькіх еўрапейскіх моваў, марксізма і, галоўным чынам, тэорыі і практыкі літаратурнай творчасці і азнаямленне з сусветнай літаратурай. Гэты прадмет павінен быць шырока пастаўлены.

Такая студыя пашырыць гарызонт думак пісьменніка, узвысіць яго светагляд і дасць яму магчымасць разгарнуць свой прыродны талент.

Літаратурную студыю трэба арганізаваць у гэтым жа годзе.

Пры якіх варунках нашы пісьменнікі пішуць свае творы?

Кожны з іх працуе на звычайнай дзяржаўнай службе. Кожны з іх мае шмат розных абавязкаў, якія адымаюць у пісьменніка найлепшы час. Спецыяльна літаратурай ніхто з беларускіх пісьменнікаў не займаецца. Сваёй замілава-

най працы — літаратурнай творчасці — ён аддае вельмі скупыя гадзіны, піша ўрыўкамі і тады, калі ён вызваляецца ад сваёй будзённай працы дзеля здабывання кавалка хлеба.

Гэта значыць, што наш пісьменнік бярэцца за літаратурную працу тады, калі ён ужо змучаны, калі ўся энергія аддадзена той рабоце, якую за яго маглі б выпаўняць іншыя.

Мы пэўны, што, калі б нашаму пісьменніку даць патрэбныя варункі для творчасці, гэта творчасць і па ліку, і па якасці павысілася б болей, чым на сто працэнтаў.

Большасць нашых пісьменнікаў знаходзіцца альбо ў Мінску безвыездна, альбо дзе-небудзь у вёсцы ці павеце. Гэтак некалькі гадоў надрад: службовыя абавязкі іх звязваюць па руках і нагах, яны прыкуты да аднаго месца.

З'яўляецца пытанне: якім чынам пры такіх абставінах беларускія пісьменнікі могуць у сваіх творах даваць жывыя абразкі новага быту нашай рэспублікі?

І не могуць, і не даюць.

Нашыя пісьменнікі дзеля гэтага выключна заняты цяпер пісанінай дробных вершыкаў. Некаторыя з іх (як, напр., Я. Пушча) проста захварэлі на ясеніншчыну[1]. Жыўцом вырываюць ясенінскія вобразы і рыфмы. І цікава, калі пачытаць некалькі вершаў розных аўтараў гэтага гатунку, дык адразу прыкмеціш, што яны вельмі падобны адны да адных і да прыкрасці паўтараюцца.

Гэта з'явішча ў нас ненармальнае. Гэтаму прычынай служыць тое, што пісьменнікі мала звязаны з рабочымі сялянскімі масамі Беларусі і, седзячы на адным месцы, варацца ў саку маскоўскіх журналаў, знаходзячыся ў палоне маскоўскіх паэтаў.

Галоўная каштоўнасць беларускай новай літаратуры якраз у тым, каб даваць сваё самабытнае, каб не быць падобным да кагосьці, а быць самім сабою.

У гэтым кірунку трэба браць прыклад з украінскіх пісьменнікаў, якія ідуць у творчасці сваім уласным шляхам і твораць свае ўласныя літаратурныя школы.

Дзеля таго, каб некаторыя з нашых маладых пісьменнікаў вызваліліся з палону маскоўскіх пісьменнікаў, трэба ім наладзіць сувязь з беларускімі працоўнымі масамі.

---

[1] Але трэба заўважыць, што ў той час, калі ў Ясеніна сапраўды мастацкія творы, у нашых ясенінцаў яны туманныя і часам з'яўляюцца наборам недарэчных слоў.

Нашыя пісьменнікі павінны вывучыць новую беларускую вёску і там чэрпаць свае настроі — з жывых крыніц нашага народа.

Наша Савецкая Беларусь займае вялікі абшар. У любой з нашых вёсак можна ўгледзець праблескі новага жыцця, каванне новага быту. Вось тут і трэба шукаць матэрыялу для сваёй творчасці беларускаму пісьменніку.

Цяпер ва ўсіх галінах навукі і мастацтва прыняты метад экскурсій. Экскурсіі — жывая наглядная школа, якая не можа быць заменена ніякімі кніжкамі, ніякімі лекцыямі.

Экскурсіі патрэбны нашым пісьменнікам як хлеб, а яны засядзеліся праз меру на адным месцы. Такія экскурсіі могуць быць дваякія: экскурсіі па Беларусі і СССР і — за граніцу.

Кожны беларускі пісьменнік павінен добра выведаць свой родны край і ўвесь Саюз ССР.

Кожны беларускі пісьменнік павінен пабываць у еўрапейскіх дзяржавах.

Украінскія пісьменнікі, як нам вядома з газет, сёлета ўжо ладзяць сваю першую экскурсію за граніцу. Пара і нам аб гэтым падумаць!

## Б'ЮЦЦА Ў АДЧЫНЕНЫЯ ДЗВЕРЫ

Маладыя празаікі. Іх цяпер шмат у нашых вёсках. Прысылаюць у рэдакцыю кароткія апавяданні, аповесці; дамагаюцца, каб як найхутчэй творы былі выдрукаваны; прыходзяць у рэдакцыю ды вядуць доўгія гутаркі аб літаратуры, аб тэндэнцыйнасці і нетэндэнцыйнасці, аб вольным мастацтве, аб новым быце, аб рэвалюцыйнай рамантыцы, аб імажынізме, аб сюжэтах.

Часта чуеш скаргі маладых пісьменнікаў аб тым, нібы няма сюжэтаў для апавяданняў. Справа ў тым, што кожны з гэтых пісьменнікаў шукае нейкіх зногшыбацельных сюжэтаў. Звычайны вясковы сюжэт нудна апісваць, няма дынамікі, нецікава.

Кожны з нашых маладых пісьменнікаў проста хварэе гэтымі пытаннямі. Для яго гэта пытанні жыцця і смерці, бо ён з поўным імпэтам маладосці рвецца да творчасці і не ведае, як яго выяўляць, як выкарыстоўваць.

Справа ў тым, што не толькі маладым, пачынаючым, цяжка вырашаць гэтыя пытанні — вельмі цяжка яны даюцца часта аўтарам з практычным пяром. Бо глядзяць на новы свет, на новую эпоху праз старыя акуляры.

Аб тэндэнцыйнасці і нетэндэнцыйнасці.

Шмат хто з аўтараў кажа, што ім тэндэнцыйнасць не падабаецца, што яны не могуць пісаць так, каб з кожнага радка, з кожнага слова тарчала агітацыя. Аб гэтай тэндэнцыйнасці яны наслухаліся ад старой інтэлігенцыі, ад прыхільнікаў так званага «вольнага» мастацтва.

У старой літаратуры яны тэндэнцыйнасці не бачаць. Але ці праўда, што ў старой літаратуры яе няма?

Не. Няпраўда.

Уся старая літаратура, як буржуазнае мастацтва наогул, пранікнута тэндэнцыяй і ідэалогіяй свайго класа. Нават тыя з пісьменнікаў, якія выходзілі з бедных людзей, пранікаліся буржуазнай ідэалогіяй, падрабляліся пад іх стыль, пад іх «утанчоныя» перажыванні і тварылі «свабоднае» мастацтва.

У гэтым-то і ўвесь сакрэт, што тады яўная тэндэнцыя не прыкмячалася, хаця яна тарчала з кожнага слова. Без тэндэнцыі мастацтва быць не можа. У праціўным выпадку гэта будзе нечым адарваным ад жыцця, вісячым паміж небам і зямлёй.

Чаму ў новым пісьменстве прыкмячаецца тэндэнцыйнасць?

Таму, што большасць з нас яшчэ не выйшлі за рубеж старой эпохі; таму, што старыя погляды нябачнымі мікробамі жывуць у нашым мозгу, у нашых пачуццях. Як мы ні стараемся адыходзіць ад іх, але гэта цяжка зрабіць. Цяжка ўчыніць над сабою такую ломку. А хто гэта прабуе — падобен таму, хто ўцякае ад свайго ўласнага ценю.

Такая ломка псіхікі можа быць толькі тады, калі нашыя мастакі не толькі павярхоўна перанясуцца ў новае жыццё, але калі яны сальюцца з масамі ў адно, калі іх сэрцы, іх пачуцці будуць адбіваць пачуцці працоўных. Такімі і былі старыя пісьменнікі, якія адбівалі ў сваіх творах настроі, погляды і пачуцці той сферы, той групы грамадства, сярод якіх яны жылі, з салонаў якіх яны чэрпалі сваю творчасць.

Той, хто хоча жыць, хто хоча шчыра прыносіць карысць сваёй творчасцю новай эпосе, будаўніцтву новага жыцця — павінен учыніць над сабою перараджэнне. Тады ўся справа аб тэндэнцыйнасці прападзе сама сабою.

Агітацыя.

Перад тым як малады аўтар бярэцца за пяро, ён павінен задаць сабе пытанні такога зместу:

— Для каго я пішу? Хто мяне будзе чытаць? Які вывад зробіць з майго апавядання рабочы і селянін? Якую карысць прынясу сваім творам новаму чырвонаму мастацтву?

Пасля таго як аўтар так запытаецца сябе самога, ён пачне свядома адносіцца да сваёй творчасці — і агітацыя выявіцца сама сабою, не робленая, не пракламацыйная, а натуральная, высунутая самім жыццём, яго новымі абставінамі. Шчыры твор сам сабою зробіцца найлепшым агітацыйным сродкам.

Вольнае мастацтва. Паміж іншым, некаторыя з аўтараў прысылалі нам артыкулы ў абарону вольнага мастацтва.

Дзе яно і што яно?

Ці можна называць вольным мастацтвам тыя чалавечыя індывідуальныя перажыванні, якія часам выліваюцца фантанам лірыкі на паперы? Дык зноў жа гэтыя перажыванні — прадукт акружаючай сферы людзей, якія робяць уплыў на яго настроі.

Ці можна называць вольным мастацтвам творы, адцягненыя ад жыцця, незразумелыя шырокім масам у стылі хоць бы таленавітага польскага пісьменніка Пшыбышэўскага? З такіх ёсць шмат ва ўсіх літаратурах. Гэта не вольнае мастацтва, а перажыванні неўрастэнікаў, псіхапатаў, уложаныя ў пекныя паэтычныя рамкі.

У сваім надзвычайна прыгожым творы «Апокрыф» Максім Багдановіч разглядае вельмі сур'ёзнае пытанне: жытнія каласы і васількі, практычнае жыццё і акружаючае яго хараство. Што з гэтых двух элементаў болей патрэбна чалавеку? Аўтар прыходзіць к вываду, што і адно і другое патрэбна.

Гэтак скажам і мы. Але прыносяць карысць гэтыя два элементы толькі тады, калі яны ў жыцці гарманічна сплецены паміж сабою.

Карысцен васілёк у жытнім полі, калі ён сваімі фарбамі цешыць вока жняі. Але абсейце поле селяніна аднымі васількамі — ён ім радавацца не будзе.

Абсаджваюць клумбы кветак вакол сваіх палацаў багатыя людзі, якія маюць вельмі лёгкі хлеб, па якіх іншыя працуюць.

Такія ж людзі-бяздзельнікі і смакуюць так званае

«вольнае» мастацтва. І вось гэтае вольнае мастацтва з'яўляецца характэрнай асаблівасцю буржуазнага класа.

Мы не кажам, што ў нас не павінна быць і няма цягаў да хараства, да любавання ім. Наадварот — у нас з'явілася вельмі шмат новых гарызонтаў красы, з'явіліся новыя яе высоты, новыя законы хараства. Мы бачым гэту прыгажосць там, дзе раней мы на яе не звярачвалі жаданай увагі. Мы бачым пекнату там, дзе раней мы тапталіся нагамі. Калі мы абхопім усю веліч нашай эпохі, найбагацейшую музыку барацьбы за лепшае жыццё вялікіх мільёнаў, рвенне да творчасці, да новага жыцця тых масаў, якіх сотнямі гадоў трымалі ў няволі, як жывёлін, тады толькі пабачым нікчэмнасць і мізэрнасць тых канонаў хараства, якія нам у спадчыну пакінула буржуазнае мастацтва.

Для нашых маладых пісьменнікаў няма болей удзячнай эпохі, як цяпер. Ва ўсіх праявінах новага быту горада і вёскі мы гэта бачым. Ва ўсіх формах тварэння новай беларускай культуры мы гэта чуем. Каб зразумець усё гэта, нам патрэбна толькі адно, каб мы не стаялі ў баку ад жыцця, а ішлі разам з масамі, каб нашы думкі былі яе думкамі, каб нашы сэрцы біліся ў такт з сэрцам масаў.

Масы, не чытаючы нас, высоўваюць выявіцеляў сваіх імкненняў ва ўсіх галінах мастацтва і культуры, ва ўсіх галінах будаўніцтва новага жыцця.

Зусім зразумелы вялікі ўзрост новых маладых пісьменнікаў нашых з новай беларускай вёскі. Але ім трэба даць добры напрамак, да іх трэба адносіцца вельмі ўважліва і шчыра, каб яны не засталіся зашчэмленымі паміж жалезнымі сценамі двух эпох.

Пісьменнік павінен даць у сваіх творах адбіццё эпохі — новы быт. Гэта — адна з першых задач сучаснага прыгожага слова.

Але як падыходзіць к апісанню новага быту? Як выкарыстоўваць яго?

Справа ў тым, што нашыя пісьменнікі, сыны беларускай вёскі, свае сюжэты бяруць звычайна з вясковага жыцця.

Хто кіне вока на нашу сучасную вёску, таму спачатку здаецца, што вёска жыве тым жыццём, якім жыла, прынамсі, дваццаць гадоў таму назад. Але гэта толькі павярхоўна. Калі глянуць глыбей, дык пабачым на кожным кроку вялікія перамены. Ужо не лічачы той устраскі, якую меў наш край у часе вайны, у часе бежанства і

фронту, досыць паглядзець на нашу вёску з рэвалюцыі Кастрычніка па сягоннешні дзень. Тут ужо мы бачым гэту перамену не ў павярхоўнасці, а ў псіхіцы нашых сялян.

Селянін пачуў, зразумеў, што ён чалавек, што ён мае права на лепшае жыццё. Каб здабыць гэта лепшае жыццё, трэба змагацца. І вось у часы акупацыі у нашым краі з гушчы сялян, з тых масаў, на якіх усе глядзелі як на цёмны элемент, паказаўся паўстанчы рух. Беларускія гушчы кішмя кішэлі партызанскімі атрадамі, якія змагаліся з панамі за лепшае жыццё бацькаўшчыны. Тут была прычынай не агітацыя збоку, але здаровы інстынкт селяніна.

Апрача фізічнай барацьбы наша сялянства змяніла свае погляды на ўсё акружаючае — моладзь сялянская выступае на барацьбу проціў бацькоў, проціў іх забабонасцяў. Моладзь ірвецца ў горад вучыцца. Побач з гэтым, на канве рэвалюцыйнасці, развіваецца нацыянальная самасвядомасць народных гушчаў.

У той час калі ў любой народнасці, дзе культура нацыянальная развівалася вякамі на пануючым дзяржаўным грунце, нацыянальны рух ніхто не лічыць вялікай справай, але ў нас, дзе да рэвалюцыі Кастрычніка нават слова «беларус» лічылася дзівосным, гэтае сучаснае развіццё нацыянальнай ідэі сярод мас трэба лічыць вялікай рэвалюцыйнай справай, народжанай пад чырвоным сцягам, пад бурай і полымем вялікай рэвалюцыі.

Вось ва ўсім гэтым і трэба бачыць нашу новую вёску. Хоць саламяныя стрэхі засталіся пакуль што тыя самыя, але пад гэтымі стрэхамі жывуць новыя людзі з новымі думкамі, з новымі імкненнямі.

Гэта і ёсць праявіны новага быту. Малады наш пісьменнік павінен прыкмячаць малейшыя светацені новага жыцця вёскі, каб тварыць з іх летапісы нашага прыгожага пісьменства.

У гэтым кірунку на фоне нашага новага Парнаса вызначаюцца два пісьменнікі: М. Зарэцкі і Кузьма Чорны (тут мы гаворым выключна аб празаіках). Праўда, апрача гэтых двух, у нас ёсць яшчэ шмат новых празаікаў. Але гэтыя два паспелі ўжо выявіць свой уласны твар, а не адбітак кагосьці.

М. Зарэцкі ў шэрагу апавяданняў за апошнія два гады даў цыкл малюнкаў рэвалюцыйнай рамантыкі, з сакавітым лірычным пад'ёмам. Яго творы чытаюцца з шчырай зацікаўленасцю, пакідаюць за сабою цэльны настрой як сваёй паэтычнасцю, таксама псіхалагічным падходам. Ён

дае зарысоўкі новых людзей, якія ўжо зрабіліся ўладарамі эпохі, а побач з гэтым праходзіць у яго творах галерэя людзей, адыходзячых у нябыт.

Кузьма Чорны мае іншы жанр — новая вясковая штодзённшчына: вясковы сход, прадналог і іншыя нібыта нецікавыя з'явішчы вясковага жыцця — быццам мільгаюць у яго творах. На канве гэтага просценькімі ўзорамі праходзяць беларускія мужыкі — сарамлівыя, заікі, старычкі, хлопчыкі, бабы і г. д.

І сапраўды, не фокус паказваць вясковую моладзь — дзяцей рэвалюцыі ў новым жыцці, але цікава даваць малюнкі тых вясковых жыхароў, якіх, здаецца, рэвалюцыя мала кранула. Але як глыбока ў рэчаіснасці рэвалюцыя перарабіла вось гэтых закарузлых, забытых людзей! Якое ўражанне — глыбокае, поўнае — робіць на іх Дом селяніна ў горадзе, лектар, які гаворыць аб сельскай гаспадарцы! Стары селянін чуе, што ім цікавяцца як чалавекам, што ён роўны з усімі. І вось у яго псіхіцы пачынаецца пералом. Ён бачыць, што горад не толькі бярэ ў яго натурай, але і дае, шмат дае і багаты скарб — свядомасць.

Апрача гэтых двух новых празаікаў у нас яшчэ ёсць шмат маладых таленавітых пісьменнікаў. Але тыя яшчэ не зусім заўладалі пяром і б'юцца, як гэта кажуць, у адчыненыя дзверы: скардзяцца на тое, што не маюць сюжэтаў, у той час калі гэтых сюжэтаў многа на кожным кроку, нікім не выкарыстаных. Часам яны адкідаюць звычайныя жыццёвыя сюжэты і прыдумваюць нешта легендарнае, адарванае ад жыцця, або калі бяруць сучасных людзей, дык дадаюць ім несучасную псіхалогію. Напр., камсамолкі вядуць паміж сабой бяседу як старасвецкія інстытуткі, адна з камсамолак немаведама дзеля чаго канчае самагубствам і г. д.

Разумеецца, такія рэчы да друку не дапушчаны. Але тут цікава псіхалагічная падкладка аўтара, які стараецца даць нешта такое «дынамічнае», каб «цікава» было чытаць. Другі дае малюнак з пагранстражы, дзе чырвонаармеец абмалёван з сентыментальнай душой вядомай «Беднай Лізы». Трэці сыпе цэлыя аповесці прымітыўнай эратычнай лірыкі, дзе ўсе героі нагадваюць нейкіх аркадаўскіх пастушкоў. У чацвёртага — камуніст выклікае камуніста на дуэль за дзяўчыну. Няхай нас выбачаюць аўтары гэтых недрукаваных твораў. Нам прыходзіцца ілюстраваць такім чынам неправільны падыход да апрацоўкі сюжэтаў сярод многіх з нашых маладых празаікаў.

Большасць з іх крычыць гвалту:

— Даеш сюжэт!

Стаяць яны па горла ў вадзе і просяць піць. Кожная вёска, кожны сельсавет мае шмат сваіх сюжэтаў. Толькі не трэба гнацца за жульвершчынай і пінкертонаўшчынай. Мы б раілі маладым пісьменнікам сачыць за дзеямі жывых людзей сваёй ваколіцы, весці дзённікі, запісваць цікавыя думкі гэтых людзей, запісваць іх развіццё, прыглядацца да ўсяго акружаючага, прыкмячаць усё дробнае на першы погляд, бо з драбніц складаецца вялікая будыніна нашага жыцця. А пасля з жывых матэрыялаў тварыць свае апавяданні.

А. Чэхаў не шукаў сюжэтаў для сваіх навел. Цэлымі жамчужнымі скрынямі ляжалі яны ў запасе ў яго мазгах. Ён не браў замыславатых сюжэтаў, а самыя звычайныя, простыя, улюбёна іх апрацоўваў, даваў самыя ледзьве прыкметныя ўхіленні чалавечай душы, самыя тонкія пераліванні чалавечых думак, музыку яго пачуццяў. І разам узятыя творы Чэхава адбіваюць суцэльна яго эпоху. Гэтым яны цікавыя і па сягонняшні дзень. Безумоўна, мы тут не хочам казаць, каб нашыя маладыя пісьменнікі пісалі па Чэхаву. Не. Кожны з іх павінен быць самім сабою. Але тут мы хочам паказаць, як трэба выкарыстоўваць сюжэты, як не трэба гнацца за надзвычайным, нежыццёвым.

Толькі само жыццё, толькі ў яго рамках трэба чэрпаць нашаму пісьменніку матэрыял для творчасці.

А наша сучаснасць у гэтым кірунку багатая як ніколі. Толькі трэба быць не з боку гэтай сучаснасці, а ў яе асяродку, тады яна дасць настрой і творчую сілу дзеля таго, каб пераліць яе на пергамін літаратуры.

## СЕМ ЧЫРВОНЫХ ВЫРАЯЎ

Гэта было сем гадоў таму назад.

Сем выраяў чырвоных з таго часу прапасіліся над беларускімі лясамі і балотамі.

Многа ў нас за гэты час змянілася. Багатырскімі крокамі рабочыя і сяляне пайшлі наперад па сонечным шляху новага жыцця.

Усё ў жыцці мяняецца, але традыцыя вялікага Кастрычніка застаецца той самай, наадварот — мацнее з кожным годам, з кожнай новай перамогай.

Традыцыя барацьбы, традыцыя рэвалюцыі.

У гэтай традыцыі: чырвань — найлепшы колер, гук гарматаў і свіст стрэльбаў — найлепшая музыка. Кастрычнік — вясновы месяц. Гэта ўсё аздоблена харaством барацьбы, харaством перамогі.

Восень для нас ператварылася ў вясну.

Сем кастрычнікавых свят начарталі ў гісторыі Беларусі самыя найбагацейшыя, самыя яскравыя пергаміны.

Першы Кастрычнік пракаціўся перупом пажарышч над панскімі маёнткамі на беларускай зямлі. Векавая помста падобна злоснаму пану-кату выбухнула адразу агнёвым вулканам — віхрам народнага гневу.

Класавы інстынкт земляроба казаў сваё магутнае слова. Сталёвы кліч агітатараў, разумнае слова свядомых рэвалюцыянераў спынілі фізічныя ўчынкі і пакіравалі думкі сялянскіх мас да разумнай працы. Але не суджана было, каб у нашым краі адразу ішло рэвалюцыйнае будаўніцтва па роўнаму шляху Кастрычніка.

Паміж першым і другім Кастрычнікам праходзіла паласа нямецкай акупацыі. Тады на Беларусі кішмя кішэлі розныя партыі ад эсэраў да хрысціянскай дэмакратыі.

Сам народ беларускі ў гэта не блытаўся. За яго гаварылі няпрошаныя яго «прадстаўнікі».

Селянін з затаёным гневам маўчаў і чакаў вестак з бальшавіцкай Масквы, з роднага чырвонага Смаленска.

Упарта вялася барацьба з войскам Язэпа Пілсудскага, які доўга біўся ў Мінскія брамы.

Трэці Кастрычнік у цяперашняй сталіцы нашай Беларускай рэспублікі адсвяткаваны ў падполлі, бо зверху па вуліцах панаваў польскі жандар.

Пан і ксёндз стараліся вярнуць паншчыну беларускай вёсцы. Тады па нашых дзікіх пушчах-лясах тварылася адна з найлепшых казак рваўшыхся да волі сялян.

Паўстанні.

Моладзь, а часам і старыя дзяды, ішлі ў лес, а стуль рабілі свае адважныя налёты на польскіх жаўнераў, якія палілі нашыя вёскі і здзекаваліся над людам.

У віхоры паўстанняў процiў шляхты і паноў загартавалася бальшавіцкая думка ў маладых грудзях вясковых дзецюкоў.

Тады нарадзіўся наш слаўны Камсамол.

Чацвёрты Кастрычнік кінуў крыллі сваіх агнёвых штандараў над зруйнаваным, спаленым, разграбленым польскім войскам Мінска.

Але наша сталіца, нягледзячы на руіны, нягледзячы на вір белагвардзейшчыны, якія акружылі тады РСФСР, прыняла святочны выгляд.

Гэта ўрачыстасць свяцілася з вачэй рабочых і сялян, якія ў шматтысячных дэманстрацыях святкавалі вялікі дзень вызвалення.

Хаця радасць была няпоўная, бо Рыжская ўмова адрэзала Заходнюю Беларусь беламу польскаму арлу, аднак надзея не была патрачана.

Савінкаў, Балаховіч і іншыя «бацькі» розных бандаў лезлі на наш край, нібы пчолы на мёд, але жудаснай казкай асталіся іх дзеянні.

Рабочыя і сяляне перамаглі ўсіх ворагаў.

Пяты Кастрычнік адсоўваў вайсковы камунізм убок і клікнуў да працы камунізм творчы, будаўнічы.

Гэта было пасля ліквідацыі вялікага голаду ў Паволжы.

Край ачуняў.

Пачалося савецкае будаўніцтва — гаспадарчае і культурнае.

Антырэлігійная барацьба. Змаганне за новы быт. Сельская гаспадарка. Развіццё нацыянальных культур. Паветраны флот і інш. і інш.

Усяго не пералічыш.

Кожная кампанія атуляла наш край сеткамі-ячэйкамі, якія рабілі строга і планава ўзложаную на іх працу.

Кожная кампанія аплятала нашу зямлю жывымі нервамі, кравянымі жыламі, якія ўлівалі новае жыццё, новую энергію ў стомлены за час вялікай барацьбы арганізм.

Шосты Кастрычнік прынёс нам на сваіх сталёвых крыллях адраджэнне нацыянальнай культуры.

Кліч, кінуты Ільічом аб нацыянальнай справе, адбіваўся звычнымі рэхамі па ўсіх кутках нашай краіны.

Ідэі ленінізма і марксізма дзеля зблíжэння з масамі працоўных пачалі перадавацца па ўсім СССР у родных мовах прыгнечаных у часы царызму нацыянальнасцей.

У той жа час у Беларусі пад Польшчай зачыняліся беларускія школы, беларускія культурныя дзеячы гібелі ў

панскіх турмах і дзікія жандары чынілі жудасці над рабочымі і сялянамі «крэсаў усходніх».

Белавежская пушча запоўнілася беларускімі паўстанцамі, якія змагаліся за лепшы лёс сваіх бацькоў і братоў.

Вялікі страх наводзілі паўстанцы на паноў і панскіх наймітаў.

Паўстанчы рух у Заходняй Беларусі, нягледзячы на турмы і шыбельніцы, разросся, распажарыўся ў цэлае мора.

Сёмы Кастрычнік... Вялікая жальба атуліла яго пачатак.

Не стала Ільіча.

Увесь свет працоўных мас тады схіліў галаву перад вялікім Маўзалеем Леніна.

Пачаўся ленінскі набор, які абхапіў сабою многія тысячы працоўных.

Пасля смерці Леніна з яшчэ большай натужнасцю працавалі.

Усебеларускі з'езд Саветаў.

Пашырэнне Беларусі.

Беларусізацыя школ, савецкіх устаноў.

Развіццё культур нацменшасцей.

Пераход вядзення сельскай гаспадаркі з старых спосабаў на новыя.

Сельскагаспадарчыя выстаўкі па ўсім краі.

Вось галоўныя вехі працы, якая праводзілася ў працягу апошняга года.

Гэта праца шырыцца і расце з кожным месяцам, з кожным днём.

Сем чырвоных выраяў пранасіліся над нашым краем.

За гэты час СССР вырас у магутную дзяржаву, якая хутка будзе прызнана ўсім светам.

Кожны з новых Кастрычнікаў прыносіць новую пабеду. Кожны новы Кастрычнік робіць новы падрыў старым буржуазным дзяржавам. Кожны новы Кастрычнік аслабляе сілу нашых ворагаў і змяншае іх лік.

Кастрычнік — наш найвялікшы дзень, наш Чырвоны Новы год. За першыя сем гадоў нашай новай эры рабочыя і сяляне ўстрасянулі ўвесь свет.

Па гэтай слаўнай дарозе рабочыя і сяляне пойдуць далей, нягледзячы ні на якія перашкоды.

# ГЕНІЙ СУСВЕТНЫХ ПРАЦОЎНЫХ МАС

## (У жалобную гадавіну)

Гляньце на якога-колечы ратая-бедака або батрака толькі што ад сахі, закарузлага, аблепленага свежай раллёю, прыслухайцеся да яго простай гутаркі, абсыпанай пацеркамі мудрых прыбаутак-пагаворак, у якіх стужкай мітусіцца светагляд ратая, яго практычная філасофія жыцця, набытая ў працягу доўгіх вякоў.

У гэтым селяніне вы знойдзеце іскрынку-пылінку Леніна.

Вазьміце гарадскога рабочага, мускулістага, мазолістага, з суровым, строгім нахмураным тварам, з адрывістымі ядранымі фразамі, якія ўдараюць па сэрцы, нібы грукат молата на кавадле, у якіх адчуваецца векавая нянавісць да фабрыканта, які яго эксплуатуе, і наогул да ўсіх багатых.

У гэтым рабочым, гатовым у кожную хвіліну да бою з багатым, вы знойдзеце часцінку Ільіча.

Зірніце на геніяльны чэрап Леніна, на яго лагоднастрогія, хітра прыжмураныя вочы, учытайцеся ў ленінскія творы, у іх просты стыль, у глыбокую аналітычную думку, у яго меткія слоўцы, якія ўдала брызгаюць балючым градам на яго палітычных праціўнікаў, і вы ўбачыце ва ўсёй гэтай дзіўнай архітэктуры геніяльных думак творчасць і філасофію працоўных рабоча-сялянскіх мільённых мас.

У гэтым-та і ўвесь сэнс генія: ён з мора думак і імкненняў мільённых масаў падбірае паадзіночныя перлы, якія потым сыпле імі зноў у народ цэлымі жмутамі, ён падбірае іскрачкі настрояў і думак у працоўных мас, раздувае іх у вялікае полымя, якое свеціць над галовамі гэтых жа мас.

Імкненне да барацьбы ў працоўных людзей, іх гнеў і нянавісць да багатых класаў — аднальковы ва ўсіх краях, ва ўсіх народаў. У гэтым кірунку нават час мала мяняе іх свежасць, іх імпэт.

Дзеля гэтага Ленін з'яўляецца тым багатым, чароўным люстрам, якое адбівае настроі працоўных мас не толькі ў межах СССР, але ўсяго свету.

Хто з працоўных, у якой бы дзяржаве ні было, чытае творы Ільіча,— той адразу і кажа: гэта ж мае думкі...

Так. Кожны працоўны інстынктыўна думае па-ленін-

ску. А калі знаёміцца з думкамі Леніна, дык бачыць у іх свае ўласныя імкненні, толькі адшліфованыя, аформленыя, ясныя, жывыя, выйшаўшыя з свайго першакрынічнага хаосу.

Ленін, вялікі сусветны правадыр працоўных, даў магчымасць рабочаму ці селяніну, незалежна ад нацыянальнасці і тэрыторыі, знаходзіць самаго сябе, згуртаваць свае рассеяныя думкі ў адно цэлае.

Дзеля гэтага Ленін — самы блізкі, самы кроўны, самы інтымны працоўнаму люду ўсяго свету.

Імкненне да барацьбы з паадзіночнымі эксплуататарамі масавага чалавецтва — вечна нова, вечна свежа, як бы толькі што нарадзіўшаеся. Таму творы Леніна — ленінізм, які пачаў тварыцца гадоў трыццаць таму назад — свеж цяпер і будзе вечна новым.

Цяпер ад імкнення да барацьбы пяройдзем да фактычнасці, да самай барацьбы. У розныя часы гісторыі «ўзбунтаваўшыяся рабы» рабілі спробы змагання проціў сваіх угнятацеляў. Інстынкт да фактычных выступленняў заўсёды жыў сярод працоўных, прыгнечаных. Але ім не хапала арганізаванасці і планавасці, дзеля чаго шмат пралівалася працоўнай крыві, шмат бывала ахвяр, якія фактычнай карысці на месцы зараз жа прыносілі мала, а толькі несупынна гадавалі нянавісць да варожага класа. Гэтае часта няўдачлівае праліцце крыві, гэтае вечнае ўспыхванне помсты «рабоў» проціў сваіх уладароў як бы падтрымлівалі тое вечнае вогнішча класавага самаўсведамлення, якое ў вялікую ленінскую эпоху фактычнага змагання, пад кіраўніцтвам надзвычайнага ленінскага генія, давялі да тых бліскучых, яскравых пабед над царызмам, якія праграмелі на ўсім свеце зычным клічам да новых пабед працы над капіталам, якія далі натхненне сусветнаму працоўнаму люду дамагацца канчатковых перамогаў і якія здзівілі і напалохалі сусветных ворагаў працоўных.

Увесь веліч ленінскага генія ў тым, што ён патрапіў злучыць у адно цэльнае імкненне да барацьбы і фактычныя выпадкі яе, сканцэнтраваўшы ўсё гэта ў чыннасць, у ажыццяўленне думак і дамаганняў працоўных мас на такім вялікім абшары зямлі, як СССР.

Такога генія — генія думак і чыну, гарманізуючых паміж сабою ў фактычным выяўленні, гісторыя чалавецтва бачыць у першы раз — у асобе Леніна.

Ад фазы перамогі над ворагамі працоўных творчы геній Леніна перайшоў у фазу савецкага мірнага будаўніцтва. Нататкі і схемы Леніна ў гэтай самай галоўнай галіне працы абхопліваюць надзіва ўсе драбніцы жыцця працоўнага люду: электрыфікацыя, зямельная справа, асвета, развіццё нацыянальных культур і г. д. і г. д.

І ў гэтым кірунку ніхто так добра не цяміць псіхалогіі нашага селяніна, нашага рабочага, як Ленін.

І ў кірунку мірнага будаўніцтва Ленін зірнуў ад сучаснасці ў далёкую будучыню праз свой — ленінскі, надзвычайна яркі пражэктар.

І тут планы і праекты Ільіча ўзбудаваны моцна і грунтоўна на аснове жыццёвых магчымасцей, на аснове псіхалогіі рабочых і сялян.

У планах і праектах мірнага будаўніцтва Ільіч зноў жа перадае жаданні і імкненні рабочага і селяніна.

Кожны рабочы, кожны селянін можа казаць і кажа:

— Я ж сам гэтага хацеў, я ж сам гэтага дабіваўся ўсімі сіламі сваіх думак і мазалёў. Толькі я гэтага не мог выявляць. А Ленін як бы растлумачыў мне — чаго я жадаю, чаго я дабіваюся...

Год таму назад, як вялікага правадыра працоўных не стала, прагрымеў на ўвесь свет моцны кліч:

— Ленін памёр — жыве ленінізм!

Водгалаські гэтага клічу раздаюцца на сённяшні дзень у сэрцах мас і ў фактычных афармленнях ленінскіх ідэй у рэчаіснасці.

Ленін пакінуў нам сваё вялікае вучэнне, вычарпанае з нетраў псіхікі працоўных мас усіх народаў, усіх часоў, і кінуў гэтае вучэнне, як нейкае жыватворчае сонца, на сакавітую глебу.

Ён вырваў гэтае вучэнне з далёкага заўтра і аддаў блізкаму сягоння.

Будаўніцтва па Леніну, ленінцы, ленінізм, ленінскія куткі і г. д., усё, што носіць імя вялікага Леніна,— гэта не ёсць нейкі фетышызм, нейкі ленінскі культ — не! Гэта само нашае новае жыццё, якое будуецца па Леніну.

Гэты «год без Леніна» з'яўляецца якраз адным з самых слаўных ленінскіх гадоў, калі мірнае жыццё будуецца па Леніну, калі новае пакаленне гадуецца па Леніну, калі старэйшае пакаленне выхоўваецца нанова — па Леніну, калі ленінізм з'яўляецца тым фактам новага жыцця, якое бачыш і чуеш на кожным кроку.

Гэты год — ёсць год з Леніным, як ніводны з раней-

тых гадоў. Бо за апошні год, за год вывучэння ленінскіх ідэяў шырокімі працоўнымі масамі, гэтыя масы разумеюць саміх сябе — Ленін адчыніў ім ларэц іх уласных думак і імкненняў.

А з кожным годам надалей, у звязку з пашырэннем асветы сярод шырокіх мас, прыбліжэнне да Леніна яшчэ больш павялічыцца.

## «МАЛАДНЯК» НА УСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**(Полацк — Магілёў)**

Мне трэба напісаць справаздачу аб маладняцкай паездцы на Усход.

Я ведаю, ні ў які «падвал» не ўлажыцца тым думкам і ўражанням, якія мы вынеслі ад гэтай паездкі. Я толькі некалькі штрыхоў хачу даць.

Полацк. З'езд селькораў. Выступае «Маладняк».

Ні адзін хранікёр, нават і мастак, не апіша таго, што пачуў у «маладняцкіх» словах селькор. Селькор сам у полацкай газеце лепей усяго апісаў свае ўражанні.

«...І вось дачакаліся таго, чаго чакалі, піша селькор: выступаюць «маладнякоўцы». У іх словах мы пачулі, што жыве і будзе жыць наша мужыцкая мова...»

На другі дзень «маладнякоўцы» ў педтэхнікуме.

Вершы... Здаецца, надаелі ўжо. Досыць жа іх чытаць... Не: просяць, прапануюць, прымушаюць... Чытайце яшчэ і яшчэ. Усіх «маладнякоўцаў»: і Чарота, і Якімовіча, і Гурло, і Чарнушэвіча, і Бабарэку, і ўсіх-усіх...

І разам з вершам стогаловая аўдыторыя і сумуе і смяецца.

Вершы. Яшчэ і яшчэ... Прыязджайце, прыязджайце яшчэ! — просяць педтэхнікумаўцы.

— Грошай няма,— смеючыся, а так сур'ёзна, як яно і ёсць, адказваюць «маладнякоўцы». На гэты раз Інбелкульт даў...

І выносяць пастанову тэхнікумаўцы: «Прасіць Інбелкульт»... і г. д.

Лясны тэхнікум.

Тут беларускі гурток — 50 хлапцоў, як адзін. «Маладнякоўцаў» ведаюць, і добра нават. Толькі пытаюцца, дзе з іх каторы.

Усяму «Маладняку» прывітанне ад 50 хлапцоў — як адзін з Полацкага лясного тэхнікума.

Вечарам «Маладняк» у камсамольскім клубе.

Даклады.

«Палітпрасветнік» камсамольскі шэпча на вуха: «Ніколі так уважліва не слухалі камсамольцы прамовы, як сягоння»...

Нават не разумее, што гэта здарылася з камсамольцамі. Камсамольцы рэзалюцыі не выносяць. Замест яе даюць у студыю «Маладняка» восем таварышаў.

Магілёў. Горад паважны. Недарма ж на вакзале надпіс: «Магілёў на Дняпры». Накшталт таго, як імя, ды яшчэ і па бацьку.

Вісяць афішы. Вялікія, паважныя: «Маладняцкі» вечар».

З цягніка — у камсамольскі клуб. Ужо чакаюць. Чалавек, каб не зманіць, пад 700.

Памяшканне доўгае-доўгае. Да 10 рада чутна, што гаворыць прамоўца, а далей ані слова. Як ні рвалі глоткі «маладнякоўцы», сядзячым ад 10-га рада анічога нячутна. Да таго крычалі «маладнякоўцы», што, шатаючыся, саўсім без сіл канчалі прамовы. А хлопцы з адзінаццатага рада кажуць: «Бачым, як вы глоткі разяваеце, а слова, дык ніводнага не чуем...»

Але, нягледзячы на ўсё гэта, у клубе ціха.

Як трэба быць зацікаўленым, каб 3 гадзіны глядзець, як «маладнякоўцы» дралі глоткі, і нічога не чуць.

У чырвонаармейцаў...

У «азарце» «маладнякоўцы» злазяць са сцэны і непасрэдна ў зале гавораць, чытаюць...

Спаткалі адзін аднаго крыху варожліва.

Чырвонаармейцы папрасілі гаварыць па-расійску. «Маладнякоўцы» адказалі: «Не ведаем расійскай мовы». А праз 15 хвілін ужо «маладнякоўцы» пыталіся ў чырвонаармейцаў, мо гаварыць па-расійску — вам будуць больш зразумелымі нашыя словы.

«Не, не, не трэба, вы гаварыце акурат так, як гавораць у нашай вёсцы»...

Яшчэ і яшчэ выступленні. Але ўсе далейшыя пастановы і рэзалюцыі нішто ў параўнанні з словамі чырвонаармейцаў: «Мы вас разумеем. Вы гаворыце акурат так, як гавораць у нашай вёсцы».

Дождж запісак-запытанняў.

Перада мною ляжыць цэлы стос грамзолак, рознай ве-

лічыні абрыўкі паперак, запоўненыя круцёлкамі-літарамі, палоскамі слоў...

З кожнай паперкі відаць нейкае самабытнае аблічча пытаючага, яго пільная зацікаўленасць маладой, новай беларускай паэзіяй.

Бадай усе запытанні напісаны па-беларуску. Можа, 5 працэнтаў з іх па-расійску.

Цікавая рэч:

Паперкі-запытанні, пісаныя па-расійску, вызначаюцца круглым, роўным характарам адукаваных людзей, людзей, прайшоўшых сталую расійскую адукацыю. Словам, іх пісалі інтэлігенты.

Паперкі, пісаныя па-беларуску (а іх 95 працэнтаў), вызначаюцца неспрактыкаванай да пяра рукой, літары раскіданыя, няроўныя. Адчуваецца ў іх мазолістая рука рабочага або селяніна, які піша толькі паміж іншым, вось калі ёсць вольная хвіліна ад фізічнай працы...

Вось — кароткая шматгаворачая характарыстыка аб тым, хто прыхільна адносіцца да беларускай мовы, у каго яна з'яўляецца як бы часткай арганізма, пераліваючайся ў яго жылах разам з крывёю...

Цікава, камусьці на руку распускаць па вёсках Магілёўшчыны байкі аб тым, што па-беларуску не можна пісаць. Вось запісачка:

«У нас гавораць вёскі, што, хто піша па-беларуску, таго штрафуюць і дужа многа грошай трэба плаціць».

Аўдыторыя вельмі цікавіцца сацыяльна-палітычным становішчам паэтаў «Маладняка».

«Ці многа камсамольцаў у «Маладняку»?

«Ці ёсць жанчыны ў «Маладняку»?», «Ці ёсць піянеры?»

«Хто можа паступіць у маладнякоўскую студыю, якія ўмовы?»

«Ці можна ў вёсцы арганізаваць «Маладняк»?»

«Што вы робіце апрача працы «Маладняка»? Ці вучыцеся, ці яшчэ што?»

Такіх запытанняў ёсць вельмі шмат. Гэтыя запытанні, на першы выгляд, сухія, анкетныя. Але яны ахапляюць сабою грунт-базіс, на якім «Маладняк» нарадзіўся, выгадаваўся.

Трапна падыходзіць працоўная моладзь і да мастацтва, інстынктам адчувае, хто можа і павінен прапускаць праз прызму мастацтва сапраўдныя імкненні і настроі працоўных.

Шмат ёсць карталюшак-запытанняў аб тым, як арганізаваўся «Маладняк», калі арганізаваўся, колькі ў ім людзей, па якіх гарадах і г. д.

Не дадзім іх сюды — іх вельмі шмат і яны паўтараюцца. Але такія запытанні характарызуюць усебаковую зацікаўленасць аўдыторыі.

Ёсць шмат запісак аб напрамках паэтычнай творчасці ў «Маладняку», аб напрамках у сучаснай творчасці паэтычнай наогул:

«Скажыце, калі ласка, далей усе «маладнякоўцы» да якой мэты дойдуць і ці не зробяць яны ўхіл у другі бок, бо песня вясёлая ўжо спяецца і не будзе матэрыялу».

«Тав. песняры. Ці ёсць у вас вершы на гумарыстычныя тэмы?»

Аўдыторыя, відаць, уважліва, надзвычайна ўважліва прыслухоўваецца да дакладаў маладых дакладчыкаў, мяркуе аб тым, што далей будзе пісаць «Маладняк», якія ў яго перспектывы, ці ёсць разнастайнасць у матывах яго творчасці і г. д.

Аўдыторыя ловіць на ляту словы «маладнякоўцаў», якія надоўга ўрэзваюцца ў іх памяць. Аб гэтым кажа вось якая запіска:

«А чаму ж Чарот у прошлым годзе гаварыў, што «Маладняк» прытрымліваецца выключна імажынізму?»

Так, словы «маладнякоўцаў» доўга памятаюць. Гэта — адзін з лепшых плюсаў «Маладняку».

«Маладнякоўцы» не глядзяць толькі з сваёй званіцы — абхопліваюць у сваіх дакладах усе сучасныя напрамкі пяснярскай творчасці. Гэта выклікае шмат запытанняў:

«К якому гуртку песняроў належыць расійскі паэт Дзям'ян Бедны?»

«Як можна адрозніць футурыстычныя творы ад нефутурыстычных?»

«Якi з расійскіх пісьменнікаў больш падыходзіць па сваёй творчасці к «Маладняку»?»

«Якія літаратурныя школы пануюць зараз як у нас, на Беларусі, таксама на Захадзе?»

Ёсць шмат запытанняў аб пралетарскай культуры наогул.

У некаторых запісках просяць чытаць яшчэ творы Вольнага, Александровіча і іншых.

Потым наступае красамоўная кароценькая запіска:

«У Магілёўскай акрузе будзе філіял «Маладняка».

Каментарыі тут непатрэбны.

Ёсць шмат цікавых запісак, але дзеля браку месца мы іх тут не даём.

Характэрны і запіскі, пісаныя па-расійску:

«Ничего не понятно».

«Вы очаровательны».

Шмат у такім духу. Спыняцца на іх не будзем: яны напісаны надта «літаратурна» і характар пісаніны вельмі гладкі. Відаць — добрыя канцылярысты!

Мы казалі спачатку: «дождж запісак» — і не пераўвялічваем. Запіскі яскрава гавораць аб уважлівасці і настроі 700-най аўдыторыі.

«Маладняк» расце, набывае папулярнасць, развіваецца, зацікаўлівае шырокія грамады працоўнай моладзі.

Гэта мы ад усяго сэрца вітаем!

## ЧЫРВОНАЯ МАСКА

**(П'еса ў 7 абразках А. Луначарскага. Нядзеля, 15 лютага. У Беларускім дзяржаўным тэатры)**

Шуканне новага, новых формаў, новага зместу, новых настрояў,— вось імкненне Бел[арускага] дзярж[аўнага] тэатра. На гэта выкарыстоўваюцца ўсе здольнасці яго працаўнікоў, усе яго тэхнічныя магчымасці.

Шуканне — правільны шлях нашага тэатра. Разумеецца, у гэтым шуканні яшчэ не выпуклена новая беларуская тэатральная школа, але задаткі ў гэтым кірунку ёсць грунтоўныя, дасягненні безумоўна вялікія.

«Кастусь Каліноўскі», «Мешчанін у шляхецтве» і інш. у справе дасягненняў нашага тэатра — яркі доказ.

Кожны год працы нашага тэатра — буйны крок наперад. Кожны тэатральны сезон разгортвае перад намі вялікую старонку поспехаў. Тэндэнцыя шуканняў з кожным сезонам больш энергічна выяўляецца.

— Рэпертуарны голад! Дайце новых сцэнічных твораў! — гарачыцца перад кожным новым тэатральным сезонам рэжысёр Б[еларускага] дз[яржаўнага] тэатра т. Міровіч.

Гэты крык, разумеецца, застаецца крыкам у пустэчы, і т. Міровіч (гэта ўжо ўвайшло ў традыцыю) бярэцца кожны раз сам пісаць новую п'есу або выбірае што-колечы з

расійскага рэпертуару і стараецца ўлажыць у перакладную п'есу сваю творчасць і творчасць усяго тэатральнага калектыву. Гэта заўсёды прыкметна.

Наш рэпертуарны голад даўся ў знакі і сёлета. Каго тут вінаваціць? Беларускіх пісьменнікаў? Думаем, што не. Справа ў тым, што абставіны жыцця беларускіх пісьменнікаў такія, што яны займаюцца, наогул, не па сваёй спецыяльнасці (не літаратурай), а ў сэнсе драматургіі, мы адважымся сказаць праўду, што яны і не спецыялісты. Калі нават у каго з нашых пісьменнікаў і ёсць сцэнічны нахіл, дык гэты нахіл не выкарыстоўваецца, бо нашы пісьменнікі замураваны ў сценах Мінска і не маюць магчымасці быць у курсе справы ўсіх новых сцэнічных дасягненняў сталіцы РСФСР, не маюць магчымасці адукавацца ў драматургіі.

Але што гаварыць аб рэпертуарным голадзе ў нас, калі ён адчуваецца і ва ўсім СССР.

Так, рэпертуарны голад нервуе, непакоіць пастаянна т. Міровіча і ўвесь калектыў працаўнікоў нашага тэатра, якім прыходзіцца дзеля гэтай прычыны ўмудрацца на розныя лады, каб кожны раз даваць нешта новае і свежае.

Для нашага малога тэатра гэта заданне вельмі цяжкае. У бягучым тэатральным годзе тэатр справіўся з гэтым заданнем, калі можна так казаць, на 50 прац. «Панскі гайдук» вялікага поспеху не меў. «Савецкі чорт» — агітка, якая падходзіць для якога-колечы мястэчка ці нават вёскі, толькі не для нашага тэатра, дзе публіка вымагае больш высокіх мастацкіх каштоўнасцей.

Цяпер падыдзем бліжэй да тэмы — да п'есы Луначарскага «Чырвоная маска» («Поджигатели»).

Па змесце «Чырвоная маска» — адзін з ненайлепшых твораў Луначарскага. Па сваім сюжэце п'еса не розніцца ад любой з навейшых кінап'ес. Пінкертонаўскія матывы, бравурны тон, крыклівасць, пустыя эфекты нічога не кажуць на карысць гэтага твора. Дыяна (галоўная гераіня п'есы), вядомая артыстка ў Седмігградзе, сталіцы Белаславіі, а разам з гэтым палюбоўніца міністра замежных спраў Белаславіі — звычайная шансанетка. Праўда, яна дачка рабочага, але «каючайся Магдаленай» і «гераіняй» у рэвалюцыйнай справе яе лічыць нельга. Яна кабета, якая захопліваецца рознымі інтрыгамі,— а разам з гэтым і палітычнымі. Паставіць побач з ёю Рудаліку — вядомага палітычнага дзеяча-камуніста — нельга. Гэта зараз жа напамінае інтрыгі французскага двара, сюжэтамі якога

перапоўнены былі кінатэатры яшчэ колькі гадоў таму назад.

Словам, п'еса напамінае сваім зместам і апрацоўкай лёгкі кінафельетон: змест павярхоўны, не захопліваючы. Пазнаёміліся з ім — і нічога ў галаве не застаецца, ніякога ўражання не робіць.

Як падышоў да п'есы наш тэатральны калектыў з Міровічам на чале? У якую форму апрануты твор у нашым тэатры?

У форму дэкарацыйнага канструктывізму, але ажывіць гэту п'есу кінаэфектамі нельга было дзеля браку тэхнікі.

Дэкарацыі напамінаюць палітычныя карыкатуры па старонках сталічных газет або малюнкі да фельетончыкаў у «Крокодиле»: яны зроблены густоўна і ўдала. Рухі персанажаў, вопраткі і ігра наогул таксама добра вытрыманы ў гэтым стылі. Вытрыманасць стылю трэба лічыць вялікім дасягненнем нашага тэатра. Перапоўнены публікай тэатр быў захоплены дэкарацыямі, ігрой артыстаў, а не зместам.

Гэта паказвае толькі надзвычайную стараннную працу ў тэхнічнай галіне п'есы.

Настраёва і прыгожа выйшлі гукі фабрык у 2-й карціне, якія вабілі сваёй магутнай, гарманічнай, творчай сілай і як бы падказвалі фантазіі дамалёўваць поўны жывы абраз працы.

Падняў настрой публікі і ажывіў усю п'есу мітынг рабочых у 4 карціне. Тут рэжысёр як бы ўчыніў цікавы эксперымент калектыўнай сцэны, дзе ў ігры прымае ўдзел уся публіка. На некалькі хвілін увесь тэатр зрабіўся сцэнай. Артысты,— рассеяныя сярод публікі, з усіх куткоў тэатра, прымаючыя ўдзел у мітынгу, галасуючыя, выкрыкваючыя і «за» і «супраць» прамоўцаў,— захапілі і глядзельнікаў, якія парываліся таксама прыняць удзел. Здаецца, яшчэ некалькі хвілін — і ўся публіка пачала б разам з артыстамі іграць.

Гэты эксперымент яскрава паказвае вялікае значэнне такой калектыўнай сцэнічнай творчасці, дзе няма паасобна артыстаў і публікі, а ўсе іграюць, усе твораць...

Гэта, можа, маленькі намёк на калектыўную сцэнічную творчасць у будучыні? — цяжка сказаць, але яно — пекна, захопліваюча і настраёва. З гэтым інстынктыўна згодзіцца кожны, хто нават мала знаёмы з мастацтвам.

З такой удалай спробай трэба вітаць наш тэатр!

Але з другога боку — вобраз з мітынгам адцяніў толькі незахопленасць публікі іншымі абразамі п'есы, якія, нягледзячы на дынамічнасць ігры, у агульнай кампазіцыі выглядалі манатоннымі і статычнымі...

Такое ўражанне яшчэ павялічвалася тым, што антракты цягнуліся па 20—25 хвілін, а абразы — 5—10 хвілін, што выглядала, нібы на экране паказваюцца малюнкі з тэкстам-тлумачэннем да іх...

Публіка ўтамлялася доўгімі антрактамі, траціла сувязь у змесце, не захаплівалася — і воплескі былі больш чым скупыя...

Ігра артыстаў была наогул адшліфаваная, вытрыманая ў стылі, у механічнасці і ўмоўнасці, якая запатрабавалася ў гэтай п'есе.

Вельмі ўдалымі былі ў сваіх ролях Ржэцкая (Дыяна), Грыгоніс (барон Салавейка), Крыловіч (Рудаліка) і Ф. Ждановіч (Мсціслаў Рагін).

Дэкарацыямі і касцюмамі мастак О. Марыкс паказаў сваю таленавітасць, размах задумаў і добры густ.

Агульны стыль ігры — паказвае гібкасць і размах таленту т. Міровіча, які, спадзяемся, у выніку сваіх шуканняў дойдзе да самабытнай беларускай тэатральнай школы.

## ДА 15-годдзя ЛІТАРАТУРНАЙ ТВОРЧАСЦІ АЛЕСЯ ГУРЛО

Капыль даў цэлы шэраг беларускіх пісьменнікаў-рэвалюцыянераў 1905—1906 гг.

Самыя яркія з іх — Цішка Гартны, Станілевіч, Чарнушэвіч З., Лагіновіч, Шантыр Ф. і г. д.

Алесь Гурло, будучы тады яшчэ школьнікам, таксама далучыўся да гэтай сям'і.

Будучы старэйшым у сям'і, А. Гурло, як сын беднага селяніна, дапамагаў у гаспадарцы. Але тая іскра, кінутая ў яго сэрца беларускімі рэвалюцыянерамі, не давала маладому хлопцу супакою, і, маючы 17 гадоў, паэт-юнак пасылае свае першыя творы ў «Нашу ніву» (1910).

Цікава адзначыць, што першыя творы А. Гурло вызначаліся жартаўлівым, вясёлым характарам («Лясун», «Капыльскі кірмаш»). Ужо пасля — пад уплывам адраджэнцкіх матываў беларускіх пісьменнікаў — А. Гурло пераходзіць на мінорны тон:

Краю мой, краю,
Горам павіты,
Усё ў табе, знаю,
Потам abліта.
Поту і слёз
Многа без ліку, і г. д.

А. Гурло, па характару бадзёры і вясёлы, пераходзіць на сумныя матывы.

У гэтым кірунку на яго ішлі ўплывы з двух бакоў: 1) яго ўласнае жыццё, поўнае змагання за кавалак хлеба і 2) творчасць старэйшых песняроў-адраджэнцаў.

Але бурлівая натура маладога песняра не можа згадзіцца з гэтай нудою.

Паэт кудысьці рвецца-імкнецца. Яму робіцца цесна ў малым Капылі, яго не здавальняюць матывы беспатольнага гора нашаніўскіх песняроў. І вось на 19-м годзе свайго жыцця А. Гурло едзе ў Ленінград, дзе паступае на механічна-ліцейны завод «Вулкан». Але «званы працы» — музыка машын, спевы фабрычных гудкоў, соткі заняволеных буржуазіяй рабочых зрабілі на ўспрыімучую душу маладога песняра цяжкае ўражанне. Каб успакоіць сваё сэрца, ён пачынае піць хмельны мёд успамінаў аб родным краі:

Там прыгожа так сонца сіяе
Над радзімай маёю хацінай.
Усякі думку маю там згадае,
Руку помачы даць не праміне.

Так, паэт кінуў вока зноў у бок свайго краю, скуль вырваўся, каб вызваліцца з свайго суму.

Успаміны маюць вялікую сілу і ўладу над душою песняра. У аддаленасці ад Беларусі над беларускім полем у марах песняра весялей сонца свеціць, званчэй птушкі спяваюць, болей ярка жытняе поле каласіцца...

І сапраўды, вершы А. Гурло пра бацькаўшчыну ў той перыяд робяцца болей яркімі і бадзёрымі.

А далей завіруха-вайна кідае песняра зусім у іншы бок. Яго забіраюць у войска, дзе ён служыць матросам у флоце.

Тут неспакойная душа песняра знайшла свой водгук, свайго сабрата — буру сярод бязмежных хваль марскіх.

«Гоман мора» зачароўвае песняра. Гэты цыкл яго песняў — адзін з найлепшых.

Ды наогул, у нашай паэзіі толькі адзін Гурло апісаў хараство мора:

Плешча мора вечнай воляй...
Чайка вольнай узрасла;
Як накружыцца даволі,
Адпачыць прыме скала.
І там вечна неразлучны —
Мора, чайка і скала...
А крылом сваім магутным
Воля трох іх абняла.

Гэта паэт пісаў яшчэ ў 1914 г. Настрой зусім не нашаніўскі.

А вось яшчэ ў тым жа годзе:

Я люблю бурлівасць мора,
Роўны іскрам хваль крышталь,
Шыр бязмежную прастору,
Сонца бляск на версе скал.

Улюбёнасць у марскую стыхію чуецца ва ўсіх яго вершах таго перыяду.

Праз увесь час імперыялістычнай вайны А. Гурло быў на Балтыйскім моры. У часы Кастрычніцкай рэвалюцыі А. Гурло прымаў чынны ўдзел у барацьбе супраць керанішчыны, разам з харобрай сям'ёй матросаў. Ліру паэт пакінуў на болей спакойныя часы, а сам змагаўся на барыкадах за лепшы лёс працоўных.

У часы грамадзянскай вайны А. Гурло апынуўся на Волзе, дзе быў ранены і праляжаў у шпіталі ў Ніжнім 11 месяцаў. Пасля выхаду са шпіталя А. Гурло служыў там жа ў Ніжнім — у парту да 1921 года, калі Нар[одны] кам[ітэт] асветы Савецкай Беларусі вытрабаваў песняра на бацькаўшчыну.

Праз увесь працяг вайны і рэвалюцыі Гурло мала прыходзілася займацца паэтычнай творчасцю. Гэта творчасць аднавілася толькі пасля прыезду песняра ў Мінск. Тады толькі пачалі з'яўляцца яго «званы працы» і наогул рэвалюцыйныя матывы.

У 1924 г. выйшаў першы зборнік вершаў А. Гурло пад назваю «Барвёнак», дзе змешчаны яго выбраныя творы за ўсе гады. Большасцю ў зборнік увайшлі творы за перыяд 21—23 гг.

Ужо другі год, як А. Гурло з'яўляецца сябрам аб'яднання «Маладняк». Вершы Гурло апошняга часу вызначаюцца шліфованасцю формы, музычнасцю і добрымі вобразамі. Пясняр як бы перарадзіўся — прамаладзеў. Сумныя настроі яго ранейшых твораў цяпер не паўтараюцца. Пясняр з кожным месяцам усё болей развіваецца. 15-ты

год яго паэтычнай творчасці з'яўляецца найвышэйшай ступенню ў развіцці яго таленту.

Гэта паказвае, што для песняра-рэвалюцыянера і рабочага найлепшай глебай для мастацкай творчасці з'яўляецца той дзяржаўны лад у роднай краіне, які створан Камуністычнай партыяй.

## ТРЫ ЭТАПЫ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

1. Эпоха Кастуся Каліноўскага.
2. Рэвалюцыя 1905 года.
3. Чырвоны Кастрычнік.

Пад дзікім гнётам беларускі народ жыў цэлымі вякамі.

Захаваныя ў глыбіні яго сэрца пачуцці і імкненні народ выяўляў у сваіх песнях-думах аб волі.

Замест друкаванага слова, замест беларускіх кніг і газет,— жывыя песні луналі, пераліваліся водгаласкамі ад поля да поля, ад вёскі да вёскі.

Друкаваць па-беларуску было ўвесь час забаронена. Небяспекай для «Северо-Западного края» лічылася друкаванае беларускае слова.

Слова «Беларусь» было «крамолай», «рэвалюцыяй», «бунтам».

Толькі тады, калі нашы пушчы запаўняліся паўстанцамі, калі беларускае неба ірдзелася ўночы ад пажарышчаў панскіх маёнткаў, калі шчоўкалі над нашай глебай бунтарскія стрэльбы,— тады з'яўлялася друкаванае беларускае слова, з'яўлялася звестнікам свабоды і вызвалення.

З'яўлялася беларускае слова чорнымі друкаванымі літарамі на паперы тады, калі прамень волі мільгаў над нашай зямлёй, калі ратай ішоў пад чырвоны штандар на барацьбу за вызваленне з-пад панскага і царскага ярма.

Першымі ластаўкамі беларускага друкаванага слова былі адозвы Кастуся Каліноўскага ў часы апошняга польскага паўстання. У гэтых адозвах ясна гаварылася, што беларускі народ павінен рабіць дзеля свайго вызвалення.

Мураўёўскі «гальштук» задушыў тады паўстанне. Але царская шыбельніца, на якой згінуў беларускі рэвалюцыянер Каліноўскі, не задушыла імкнення працоўнага люду да волі, да лепшага жыцця-быцця.

Пасля доўгай царскай рэакцыі, якая затапіла наш край вялікай плоймай чарнасоценцаў, ад першага папа да апош-

няга чыноўніка і гарадавіка,— яркім полымем выбухнула рэвалюцыя 1905 года.

Рэвалюцыя запатрабавала жывых сіл беларускага земляроба.

Як непасрэдна звязацца з селянінам?

Як кінуць у яго мозг свядомасць аб яго становішчы, аб яго чалавечых правах?

Як растлумачыць яму, што ён — гаспадар зямлі?

Як навучыць яго з сярпамі і косамі выступіць супраць сваіх адвечных, заклятых ворагаў?

І Беларуская сацыялістычная грамада знала, што трэба рабіць:

Нашы вёскі былі наводнены цэлым патопам адозваў-лістовак на беларускай мове.

У вёскі разам з лісткамі з'яўляліся агітатары, якія кліkнулі вялікі кліч да волі. Па нашых лясах ладзіліся мітынгі на беларускай мове. Распаўсюджваліся першыя рэвалюцыйныя беларускія кніжачкі.

Вершы Цёткі і Багушэвіча беларускія сяляне пачалі вучыць на памяць.

«Наша доля», якая пачала ў 1906 г. выходзіць у Вільні, была ўся гарачым клічам да рэвалюцыі. Усе нумары (3) гэтай першай беларускай газеты канфіскаваліся царскай уладай.

Рэвалюцыйнымі наскрозь былі і першыя нумары беларускай газеты «Наша ніва». Яна пасля зрабілася напалову легальнай, але за рэдакцыяй несупынна сачылі царскія жандары.

Супрацоўнікі беларускай газеты жылі на бяспашпартным становішчы і пастаянна хаваліся ад вока царскай паліцыі.

Рэдакцыя «Нашай нівы», выкаваная ў доменнай печы рэвалюцыі 1905 года, была ўвесь час беларускім рэвалюцыйным генеральным штабам.

Час ад часу тут ладзіліся сакрэтныя з'езды беларускіх рэвалюцыйных дзеячаў. Пішучы гэтыя радкі памятае такі з'езд, які быў наладжан пад маскай навагодняй гулянкі на 1913 Новы год. На гэтым з'ездзе была апрацована праграма будучай аўтаномнай Беларусі.

З «Нашай нівай» мелі пастаянную сувязь украінскія рэвалюцыйныя дзеячы таго часу. У «Нашу ніву» наведваўся тады вядомы шлісельбуржац — Мікалай Марозаў.

«Наша ніва» — дзіця рэвалюцыі 1905 года, выгадавала на сваіх старонках найлепшых беларускіх паэтаў і пісьмен-

нікаў. «Наша ніва» палажыла першы фундамент для будучай беларускай культуры, для будучага беларускага друкаванага слова.

Вялікая імперыялістычная вайна зноў прыпыніла беларускі друк. Паласа фронту, якая перарэзала Беларусь на дзве часткі, зрабіла тое, што слова «Беларусь» лічылася «крамолай».

Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускае друкаванае слова пачало сваё шырокае развіццё.

Штодзённая беларуская газета «Савецкая Беларусь» (6-ты год выдання), вялікі лік беларускіх часопісаў, кніг, развіццё беларускай культуры ў шырокім ахопе — вось гэта і ёсць падарунак вялікага Кастрычніка беларускаму працоўнаму люду!

Дзень друку для беларускага працоўнага люду выяўляецца адным з найвялікшых урачыстых дзён у заваёвах рэвалюцыі. З гэтым днём звязана суцэльная наша новая культура. З гэтым днём звязана адраджэнне нашага народа.

Пад сцягам ленінізма наша нацыянальная культура расце, развіваецца і пранікае ўглыб, расплываецца ў шыр беларускіх зямель сонечнай паводкай.

Дзеля болей яркага выпуклення гэтага дня, дзеля глыбейшага ўразумення вялікага свята нашага чырвонага беларускага друку, кінем вокам на Заходнюю Беларусь па-за польскімі межавымі слупамі з панскім белым арлом.

Там прыдушан беларускі друк — прыпынена беларуская культура. Жандары гойсаюць па вёсках і ў каго знаходзяць беларускую газету — арыштоўваюць, катуюць і садзяць за жалезныя краты.

Беларускае друкаванае слова і рэвалюцыя, беларуская газета, кніжка і камунізм — сінонімы, адно неразлучнае паняцце.

На рэвалюцыйнай глебе ўзрадзілася беларускае друкаванае слова — першы культурны праблеск выяўлення нашага нацыянальнага «я». На ўзворанай Кастрычнікам глебе наша друкаванае слова знайшло сваё далейшае развіццё і выгадавала новае, маладое пакаленне дзеячаў друку, беларускіх пісьменнікаў, настаўнікаў, беларускі камсамол, стварыла нашу нацыянальную культуру.

Уся ўвага Савецкай улады цяпер кінута на вёску — на працоўнага селяніна. Мэта — адна: падняць сялянскую гаспадарку да найвялікшых размераў і закідаць сялянскую хату кнігамі.

Так яно і будзе! Мы ў гэта верым!

## МОЛАДЗЬ І КРАЯЗНАЎСТВА

Вельмі значны працэнт нашых краязнаўцаў — гэта моладзь: студэнты вышэйшых навучальных устаноў, рабфакаўцы, педтэхнікумаўцы, студэнты Горацкай с.-г. акадэміі, Віцебскага мастацкага тэхнікума, вучнёўская моладзь па школах, маладыя настаўнікі і г. д.

Усе яны працуюць як па тэарэтычным краязнаўстве ў сваіх інстытуцыях, таксама па практычных доследах у краязнаўчых таварыствах у акругах, раёнах і вёсках.

Нават у Ленінградзе пры універсітэце студэнты-беларусы маюць свой навукова-даследчы гурток, у якім працуюць па даследаванню Беларусі — этнографы, лінгвісты, эканамісты і г. д. Кожны год у час летніх вакацый яны накіроўваюцца з Ленінграда ў розныя акругі Беларусі з мэтай разнастайных краязнаўчых доследаў.

Апрача лекцый і кніг кожны з вучнёўскай моладзі практыкуецца па сваёй спецыяльнасці на жывых краязнаўчых доследах. Для гэтага моладзь мае вельмі багатую бібліятэку — жывыя ілюстрацыі нашага краю на яго прасторах.

Аб'ектаў краязнаўчых доследаў вельмі багата, і яны вельмі разнастайныя — ад археалагічна-гістарычных раскопак, збірання матэрыялаў народнай творчасці да сучаснай сельскай гаспадаркі, да даследавання нашай саматужнай прамысловасці і фабрык.

Наша моладзь назбірала па вёсках шмат слоў жывой беларускай мовы, шмат нумароў народных песень, казак і інш., назбірала па глухіх кутках Беларусі ўзоры народных вырабаў — разьбярства, тканін і г. д. Студэнты Віцебск[ага] мастацкага тэхнікума кожнае лета робяць па вёсках краязнаўчыя зарысоўкі беларускага арнаменту, народных тыпаў, краявідаў і інш. За апошнія два гады зроблена шмат доследаў па народнай медыцыне, абследавана санітарна-гігіенічнае становішча, сацыяльныя хваробы па некаторых гарадах і вёсках. Вывучаецца на месцах наша звычаёвае права, новы быт, сацыяльныя ўзаемаадносіны і класавае расслаенне на вёсцы, даследуюцца: наша сельская гаспадарка, лясы, ладзяцца экспедыцыі і экскурсіі з мэтай раскопак старасвецкіх помнікаў, даследуюцца нашы фабрыкі і заводы.

Такім чынам, нашы школы выхоўваюць з моладзі багатую змену даследчыкаў-краязнаўцаў. Ужо ў працягу апошніх трох гадоў мы бачым плён гэтай працы. Возьмем

для прыкладу хоць бы толькі «Наш край», на старонках якога надрукавана некалькі дзесяткаў розных навукова-даследчых прац маладых краязнаўцаў. А колькі іх ёсць яшчэ не надрукаваных ды яшчэ не толькі ў рэдакцыі «Нашага краю», а ў многіх навукова-даследчых установах нашай рэспублікі.

У сувязі з новым будаўніцтвам ва ўсіх галінах нашай гаспадаркі і культуры павялічваецца ў моладзі імкненне да пазнання свайго краю, бо да Кастрычнікавай рэвалюцыі Беларусь мала даследавалася, а калі і рабіліся такія-сякія доследы, дык з тэндэнцыйнымі мэтамі — давесці, што тут «истинно русский Северо-Западный край». Дык вось і не дзіва, што сярод моладзі імкненне да пазнавання саміх сябе, вытворчых сіл і багаццяў свайго краю вырасла да такіх памераў.

У выніку праца вялікіх кадраў моладзі ў краязнаўчых арганізацыях дасягне дзвюх мэт:

1. выгадуе на практычных доследах вялікую сям'ю маладых навуковых працаўнікоў;

2. выявіць усе магчымасці новага гаспадарча-культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі.

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Беларуская Акадэмія навук — гэта адказ вялікага Кастрычніка на той культурны заняпад, на тую стрыманую цемнату, у якой знаходзіўся наш край у працягу вякоў.

Беларуская Акадэмія навук стварылася на касцях многіх тысяч ахвяр рабочых і сялян, загінуўшых у полымі рэвалюцыі.

Беларуская Акадэмія навук — гэта здзяйсненне таго, аб чым нават не адважваліся марыць нашы песняры часоў «Нашай нівы».

Беларуская Акадэмія навук — гэта вынік працы нашай маладой савецкай культуры за некалькі год мірнага будаўніцтва.

Беларуская Акадэмія навук не мае традыцый шкоднай для нас буржуазнай культуры — яна вырасла на свежай ураджайнай глебе рэвалюцыі.

Няхай гадуюцца ў сцянах Акадэміі новыя, бадзёрыя навуковыя працаўнікі з вялікай сям'і рабочых і сялян!

Няхай вялізны гмах нашай савецкай навукі будзе светлым маяком для ўсіх народнасцей БССР, якія да Кастрычніка цярпелі здзек царызму! Няхай Беларуская Акадэмія навук у Мінску служыць вялікай маральнай апорай для падтрымання духу змагання нашых братоў у Заходняй Беларусі, дзе польскі пан бадай да апошняй зачыніў беларускія школы!

Няхай жыве Беларуская Акадэмія навук!

Няхай жыве камуністычная партыя, пад кіраўніцтвам якой развіваецца і расце наша культура!

## УМОВЫ ПРАЦЫ НАШЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

### 1. НАШЫ ПІСЬМЕННІКІ НЕ ПРАФЕСІЯНАЛЫ, А АМАТАРЫ

Ад пісьменніка грамадства многа патрабуе: сувязь з масамі, яркае адлюстраванне жыцця рабочых і сялян, адхіленне ўпадніцтва, пралетарская ідэалогія на ўсе сто працэнтаў і г. д. і г. д.

Як бачым, намаганні самыя справядлівыя, самыя неабходныя. Але ці хто зацікавіўся ўмовамі працы пісьменнікаў? Ці ведаюць, пры якіх абставінах нашым пісьменнікам прыходзіцца тварыць? Думаю, што з гэтага боку мала хто дбаў і дбае.

Матэрыяльнае становішча беларускіх пісьменнікаў не дазваляе ім займацца выключна літаратурнай творчасцю. Літаратуры яны аддаюць той выпадковы вольны час, які застаецца ў іх пасля службы ва ўстанове. Яны аддаюць мастацкай творчасці той час, які звычайна служачы мае для адпачынку. Гэты «вольны час» пісьменнік выкарыстоўвае яшчэ для непасрэднай грамадскай працы (хаця пісьменніцтва само па сабе ёсць грамадская праца), для самаадукацыі, для чытання і г. д. Пісьменнік бярэцца за пяро зморany дзённай працай, ад чаго вельмі церпіць і якасць і колькасць яго творчасці.

У той час, калі рабочы мае свой варштат, калі вучоны мае добра абстаўлены кабінет, калі яму даюць камандзіроўкі ў розныя гарады СССР і за граніцу для збірання матэрыялаў для сваіх навуковых доследаў,— пісьменнік не мае ніякай магчымасці знаёміцца з жывой кнігай сучаснасці, не мае магчымасці вывучаць дасканала наша багатае шматграннае жыццё.

Калі можа бачыць наш пісьменнік вёску, абвостранае

змаганне між бедняком і кулаком, узмацненне новага быту, сустрэчу паміж старым і новым?

Ці можа ён знаёміцца з працай калектыўных гаспадарак, з іх ростам?

Ці мае магчымасць наш пісьменнік, у якога няма вольнай хвіліны часу, знаёміцца з нашымі фабрыкамі і заводамі?

Ці ёсць з нашых пісьменнікаў хоць адзін, які добра ведае Беларусь, які абхадзіў, аб'ездзіў усе куткі нашай маладой рэспублікі?

Наш пісьменнік адарваны ад жыцця. Гэта праўда. Гэта факт. Ён карыстаецца ў творчасці толькі тымі запасамі, якія прынёс з вёскі некалькі год таму назад або ў кароткія часы адпачынку, калі ён меў магчымасць выехаць на дачу.

Пісьменнік збірае толькі тыя дробныя асколкі жыцця, якія мільгаюць часам перад яго вачыма, і, безумоўна, які матэрыял — такая і творчасць. Дзеля гэтага наша сучаснасць у творах пісьменніка выяўлена або з рэзка адмоўных бакоў, або праз меру дадатна, бо ён чэрпае свае веды ў большасці з газетных радкоў і выпадковых сустрэч з людзьмі.

## 2. ПІСЬМЕННІКІ-СТЫПЕНДЫЯТЫ

Ёсць у нас цэлы рад маладых пісьменнікаў, якія вучацца ў вузах і тэхнікумах па розных гарадах БССР і СССР. Яны з'яўляюцца ў некаторай меры шчаслівымі, бо маюць магчымасць вучыцца. Пісьменнікі часоў «Нашай нівы» гэтай магчымасці не мелі. Кіруючыся сацыяльным становішчам студэнтаў наогул, Савецкая ўлада дае стыпендыі ўсім. На пісьменнікаў у гэтым выпадку звернута спецыяльная ўвага. Як мне вядома, сёлета ў Наркамасветы было больш 40 заяў на стыпендыю ад студэнтаў-пісьменнікаў. Усяго было вызначана на ўсіх пісьменнікаў, якія вучацца па розных гарадах Саюза — 1.070 рублёў — г. зн. сума, якую атрымліваюць у месяц тры або часам два спецы. Каб дзяліць пароўні для ўсіх 40 пісьменнікаў вышэйпаказаную суму, дык на аднаго не выйшла б нават па 30 р.[1], а 30 руб. атрымлівае звычайны стыпендыят БДУ і плюс к

[1] Камісія па размеркаванні стыпендыі, у складзе якой былі прадстаўнікі ўсіх літаратурных груп, лічыла патрэбным некаторым больш выдатным пісьменнікам даць па 100 і па 80 руб., іншым па 40 р., а астатнім раілі хлапатаць аб стыпендыі на агульных асновах.— *З. Б.*

гэтаму яшчэ месца ў інтэрнаце. Дык вось, з'яўляецца пытанне: якую ж спецыяльную дапамогу маюць пісьменнікі-студэнты?

Калі пісьменнік-студэнт хоча па агульных асновах атрымаць стыпендыю, яму не даюць. «Вы,— кажуць яму,— пішаце. Можаце і так зарабляць».

У пісьменніка-студэнта вельмі прыкрае становішча і з іншага боку: калі ён, будучы студэнтам, мала займаецца пісьменніцкай творчасцю і аддае ўсю ўвагу вучобе, тады яго папракаюць, што дарма дастае стыпендыю. Баючыся, каб не знялі ў яго стыпендыі, ён стараецца як найбольш пісаць. Церпіць вучоба. Ён застаецца на другі год на тым самым курсе — і зноў у яго адбіраюць стыпендыю. Проста? «Тришкин кафтан».

### 3. ПІСЬМЕННІКІ-«КРЭЗЫ»

У нашага абывательства чамусьці ўтварыўся такі пагляд, што беларускія пісьменнікі надзвычайна багатыя, што дзяржава іх проста золатам абсыпае.

Мала хто з грамадства ведае, што пісьменнікі атрымліваюць вельмі малы ганарар: мала хто ведае, што гэты мізэрны ганарар у Беларускім дзяржаўным выдавецтве дзеляць на раты, што прыблізна да пачатку 1928 г. на гэтыя дробныя сумы пісьменніку прыходзілася хадзіць у выдавецтва па дзесяць раз, адстойваць у розных чыноўнікаў па некалькі гадзін, лаяцца з імі або льсціць, каб яккольвечы дастаць некалькі рублёў. Вельмі часта пісьменніку чыталі ў выдавецтве лекцыі, каб ён не валэндаўся туды. Часта яго становішча там было проста жабрацкае.

Мала хто ведае, што за творы ў хрэстаматыях пісьменнік ніякага ганарару не дастае, тое самае і за пераклады яго твораў на іншыя мовы. Ніхто не ведае, што за другое выданне пісьменнік бярэ 50 прац. мізэрнага ганарару першага выдання. За кнігу ў 15 арк., над якой пісьменнік часам працуе некалькі гадоў, ён мае такі ганарар, што можа пражыць за яго толькі 3—4 месяцы і то толькі тады, калі ён атрымае гэту суму адразу, чаго ніколі не бывае.

А чамусьці лічаць пісьменнікаў багатымі людзьмі, амаль што не нэпманамі. Ніхто з пісьменнікаў не звярнуў увагі на такія плёткі, каб ад «крэзаўскага» свайго становішча ён не цярпеў бы маральна.

Я ведаю, напрыклад, шмат фактаў у гэтым выпадку: яшчэ ў 1923 годзе брат аднаго пісьменніка быў прыняты

на рабфак, навучаўся там два месяцы. Раптам даведаліся, што ён брат вядомага беларускага пісьменніка — і яго зараз жа выкінулі з рабфака. Яго брат — пісьменнік у той час сам цярпеў голад і не мог утрымаць брата.

А вось выпадак з братам і сястрой другога вядомага беларускага пісьменніка. Яны паступілі вучыцца як дзеці бедняка-селяніна. Праз колькі месяцаў даведаліся, што такі-та пісьменнік з'яўляецца іх братам, і яны таксама пацярпелі: брата прымусілі ўносіць плату за вучобу і ён цэлы тыдзень не ходзіць на заняткі, яго выганяюць, пакуль не прынясе грошы, а ў сястры пісьменніка знялі стыпендыю.

Вось і трэці факт: брат беларускага пісьменніка вярнуўся з Чырвонай Арміі. Ён па сённяшні дзень не можа дастаць працы з тае прычыны, што ён брат пісьменніка — «брат дапаможа, без службы пражыве» [1].

Няўжо ж гэта не здзек з годнасці пісьменніка. Яго лічаць не то кулаком, не то нэпманам, не то сацыяльна шкодным элементам...

Яго сваякі праклінаюць яго — ён перад імі зрабіў сваёй пісьменніцкай працай злачынства, бо ім дзеля яго «ганебнай» прафесіі нідзе прыступу няма.

## 4. НАША КРЫТЫКА

Выступіць пісьменніку з новым творам тое самае, што голым праскочыць па люднай вуліцы. Здараюцца выпадкі, калі ў друку лаялі яго яшчэ ненапісаны твор... Нідзе ні ў якім іншым цэху так дрэнна між сабою не жывуць, як нашы літаратурныя групы. Калі б хто зацікавіўся скласці слоўнік выразаў некаторых крытыкаў, дык там знойдзецца багаты працэнт такіх брыдкіх лаянак, што дзіва бярэ, як яны праскочылі ў друк. Калі спыніліся ў апошнія часы лаянкі, дык пачаліся інтрыгі. Ціхачом. Вось факт: адзін крытык даведаўся, што мая аповесць «Салавей» мае друкавацца ў Ленінградзе на расійскай мове. Паехаўшы туды па камандзіроўцы Інбелкульта, гэты крытык рабіў захады, каб затрымаць друк кніжкі. Ёсць і многія іншыя факты, што газетны артыкул не дазваляе спыняцца на іх [2].

---

[1] Аб усіх вызначаных фактах магу даць спраўкі тым асобам, якія потым пацікавяцца.

[2] Фактаў надзвычайна многа. Занатавана ў мяне некалькі дзесяткаў.

Здаровай крытыкі ў нас пакуль што няма. Ёсць крытыка групавога характару. Кожны групавы крытык бачыць у членах сваёй групы выключна пралетарскую ідэалогію, а ў іншых — буржуазную. Такога характару крытыкі толькі прыносяць шкоду нашай літаратуры.

Усялякія такія неспрыяючыя ўмовы для працы пісьменніка з'яўляюцца адной з важных прычын упадніцтва некаторых маладых паэтаў, якія яшчэ не загартаваны жыццём. Але аб упадніцтве трэба пагаварыць у спецыяльным артыкуле.

## 5. ДОМ ПІСЬМЕННІКАЎ

Усе нашы пісьменнікі ўжо другі год марацъ аб Доме пісьменнікаў. На гэты Дом пакладаюць вялікія надзеі. Калі гэты Дом не паслужыць справе сувязі пісьменніка з масамі, дык, прынамсі, паслужыць сувязі пісьменніка з пісьменнікам, бо, дзякуючы некаторым крытыкам і шкодніцтвам у адносінах пісьменніка да пісьменніка, некаторыя нават не вітаюцца між сабою, зрабіліся адзін аднаму заядлымі ворагамі, што вельмі дзіка ў нашыя часы.

Нарэшце пісьменнікі атрымалі Дом. Часовая камісія прыняла яго, мяркуючы адрамантаваць і адчыніць яго да дзесяцігадовага юбілею БССР. Але... акруговы інжынер, агледзеўшы дом, прызнаў яго немагчымым для якога б там ні было карыстання: дом мае многа шчылін у сценах, трымаецца на падпорах, а падвальная частка развальваецца зусім. Пісьменнікі ўпэўнены, што ім дадуць іншы Дом. Толькі пакуль што...

## 6. НАРКАМАСВЕТЫ ПАВІНЕН ЗАЦІКАВІЦЦА

Вельмі патрэбна, каб у чытанні аб умовах працы і паляпшэнні быту нашых пісьменнікаў выказваліся на старонках друку як самі пісьменнікі, таксама і ўсё наша грамадства.

У першую чаргу гэтай справай павінен зацікавіцца Наркамасветы. Ён павінен вывучыць быт нашых пісьменнікаў і рабіць паводле гэтага пэўныя вывады і пастановы.

# КАМЕНТАРЫІ

## ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

Спадчына Бядулі-крытыка і публіцыста да гэтага часу грунтоўна не даследавана. Крыху больш увагі надавалася яго тэатразнаўчым артыкулам і працам па беларускаму фальклору, ды і то пераважна ў юбілейныя гады[1]. А між тым літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы аўтара «Абразкоў», аповесці «Салавей» з'яўляюцца цікавай, змястоўнай старонкай яго творчай біяграфіі і адначасова старонкай гісторыі ўсёй беларускай пісьменніцкай крытыкі і мастацкай публіцыстыкі, якія займаюць адметнае месца ў нацыянальнай культуры. Як літаратурны крытык і публіцыст Бядуля выступаў у друку досыць актыўна, але ў розныя перыяды творчасці гэта актыўнасць была рознай. Напрыклад, у 1918—1920 гадах публіцыстычны жанр стаў па сутнасці вядучай жанравай формай у творчасці Бядулі ў параўнанні з традыцыйнымі жанрамі паэзіі, прозы.

Літаратурна-крытычныя матэрыялы Бядулі ў жанрава-тэматычных адносінах надзвычай багатыя. Так, звяртаюць на сябе ўвагу ягоныя водгукі на новыя творы беларускіх пісьменнікаў і прадстаўнікоў іншых літаратур — Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, Э. Самуйлёнка, С. Ясеніна, В. Палішчука, Шолам-Алейхема, артыкулы, у якіх узнімаліся надзённыя пытанні бягучага літаратурнага працэсу, а таксама ставіліся праблемы тэарэтычнага характару — праблемы творчага метаду, жанравых форм, узаемаадносін творчых пакаленняў, пытанні традыцый і наватарства, пісьменніцкай вучобы, паэтычнага майстэрства, культуры творчасці.

Часта звяртаўся З. Бядуля і да гісторыка-літаратурнай праблематыкі, да творчасці пісьменнікаў дакастрычніцкага перыяду

---

[1] Гл.: Шымановіч В. М. Змітрок Бядуля — тэатразнаўца, крытык, публіцыст. Фядосік А. С. Змітрок Бядуля як фалькларыст.— Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1986, № 5.

(Ф. Багушэвіч, К. Каганец, М. Багдановіч) або тых, хто пачынаў сваю дзейнасць у дарэвалюцыйны час (А. Гурло, Ц. Гартны, М. Чарот).

Шмат пісаў Бядуля-крытык пра маладых беларускіх паэтаў, празаікаў, драматургаў. На старонках перыядычнага друку часта з'яўляліся яго артыкулы, прысвечаныя буйным падзеям культурнага, грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі.

Пяру З. Бядулі належыць таксама багата допісаў, нататак, звернутых да пытанняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў Беларусі, міжнацыянальных зносін, пытанняў развіцця беларускай мовы, школьнай адукацыі, выдавецкай справы, рэпертуару беларускіх тэатраў. На ўсім працягу сваёй творчай дзейнасці Бядуля надаваў вялікую ўвагу дзіцячай літаратуры, неабходнасці новых перыядычных дзіцячых і юнацкіх выданняў.

У асобныя цыклы складваюцца артыкулы З. Бядулі, прысвечаныя беларускай этнаграфіі, фальклору, мастацтвазнаўству, гісторыі беларускага тэатра, беларускаму краязнаўству і г. д. Зрэшты, цяжка назваць тэму, да якой бы ні звяртаўся Бядуля-крытык. Гэтакай жа разнастайнай была і форма ўвасаблення ім літаратурна-крытычнай, гісторыка-літаратурнай тэматыкі — рэцэнзія, нататка, допіс, эсэ, старонкі з блакнота, цыкл артыкулаў, праблемнае, палемічнае выступленне і г. д. І змест і форма артыкулаў Бядулі-крытыка нясуць яскравы адбітак дарэвалюцыйнай і савецкай эпохі, у якую пісьменніку давялося жыць і працаваць.

Значную цікавасць уяўляе і мастацкая публіцыстыка З. Бядулі, хоць менавіта публіцыстычны жанр аказаўся найбольш супярэчлівым у спадчыне пісьменніка. Не ўсе яго артыкулы, асабліва выступленні, нататкі, допісы 1917—1920 гадоў, вытрымалі праверку часам. Так, аб'ектыўнасць патрабуе сказаць, што ў ацэнках падзей Кастрычніка і грамадзянскай вайны пісьменнік дапускаў палітычныя памылкі, хістанні, губляў дакладныя арыенціры. Напрыклад, у артыкулах, змешчаных на старонках газеты «Вольная Беларусь», Бядуля вітаў адкрыццё Усебеларускага з'езда, скліканага Вялікай Беларускай Радай разам з Вайсковай Беларускай Радай 7 лістапада 1917 года («Свята на Беларусі», 15 снежня). У артыкуле «Пара бараніцца» (8 снежня) ён заклікаў беларускіх працоўных запісвацца ў Беларускае войска. У «кароткім фельетоне» пад назвай «Перад Новым годам» (31 снежня) Бядуля ў карыкатурным выглядзе паказваў Савецкую Расію.

З'яўленне матэрыялаў, накшталт прыгаданых тут, тлумачыцца фактарамі светапогляднага характару. У дакастрычніцкі час Бядуля, як вядома, не прайшоў сур'ёзнай школы рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы. Яго ідэйна-творчае развіццё ішло даволі складанымі, няпростымі шляхамі. Вядома, нельга скідаць з ра-

хунку і тое, што падзеі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны ўвогуле, а на Беларусі асабліва, вызначаліся супярэчлівасцю. Імкліва мянялася палітычная сітуацыя. І каб разабрацца ў ёй, патрэбны былі багаты жыццёвы вопыт, сталасць светапогляду, здольнасць бачыць схаваны сэнс гучных, прывабных палітычных лозунгаў і прагрэсіўных установак. Як сведчаць выступленні Бядулі на старонках «Вольнай Беларусі», «Беларускага шляху» (1918), «Беларускай думкі», «Звону», «Незалежнай Беларусі» (1919), «Беларускага жыцця», «Беларусі» (1919—1920), яго суб'ектыўная чалавечая сумленнасць уступала ў супярэчнасць з аб'ектыўнай праўдай гісторыі. Асабліва гэта прыкметна ў артыкулах, дзе нацыянальныя пытанні разглядаліся Бядулем па-за сувяззю з сацыяльнымі. Паступова пад уплывам самога жыцця, поспехаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва мяняліся і погляды пісьменніка, зжываліся яго памылковыя ўяўленні.

У дадзеным томе змяшчаюцца асобныя матэрыялы, якія не страцілі гісторыка-літаратурнага і пазнавальнага значэння. Літаратурна-крытычны і публіцыстычны матэрыял як арганічная, паўнапраўная частка літаратурнай спадчыны Бядулі, апрача ўсяго іншага, дае багатыя магчымасці і для больш глыбокага вывучэння ўласна мастацкіх пошукаў Бядулі-паэта, празаіка, бо нярэдка ў крытычных, публіцыстычных артыкулах пісьменнік спрабаваў тэарэтычна асэнсаваць уласны ідэйна-творчы вопыт, абгрунтаваць пэўныя эстэтычныя прынцыпы адлюстравання з'яў рэчаіснасці і духоўнай практыкі чалавека.

Сваю дзейнасць як літаратурнага крытыка і публіцыста З. Бядуля пачынаў допісамі ў «Нашу ніву» (допісы «З вёскі Пасадцы», «З Крамянца», «З засценка Ізбішча», «Варта падумаць» і г. д.). Карэспандэнцыі маладога аўтара былі прыхільна сустрэты ў рэдакцыі беларускай газеты. Потым Бядуля звярнуўся да больш складаных жанравых форм крытыкі і мастацкай публіцыстыкі. Сярод іх прыкметна вылучаліся сваім зместам і ідэйнай накіраванасцю артыкулы «Будуйце, браты, будуйце», «Уся сіла ў праўдзе» (1912), «Не адным хлебам» (1913). У апошнім з іх малады Бядуля звяртаўся да чытача з палымяным заклікам: «Хто мае святы агонь у сэрцы сваім, хай не стаіць збоку, а хай бярэцца горача за працу над пазнаннем характва нашай старонкі, нашага народа... Трэба ўсе песні, звычаі і ўсё іншае, у чым праяўляецца душа нашага народа, збіраць, запісваць, зарысоўваць, фатаграфаваць, бо ва ўсім гэтым крыецца характэрная наша частка — агульналюдскага характва».

Вялікае грамадскае значэнне мелі выступленні З. Бядулі, скі-

раваныя на падтрымку беларускага перыядычнага друку. У артыкуле «Жыла, жыве і будзе жыць!..» (1914), напісаным да восьмай гадавіны «Нашай нівы», Бядуля робіць экскурс у гістарычнае мінулае, падкрэсліваючы думку аб непераможнасці прыгнечанага, абрабаванага народа, аб яго духоўнай моцы. З'яўленне першых выданняў на беларускай мове якраз і было сведчаннем таго, што шматвяковы сацыяльны прыгнёт, нацыянальны ўціск не вынішчылі ў душы працоўнага чалавека імкнення да волі і свабоды. Ён верыў, што душа народа «жыла, жыве і будзе жыць!..». «Гэты міфічны кліч восем гадоў таму назад пабудзіў выліцца думы сэрца народнага ў болей рэальныя і відзімыя формы... «Наша ніва» ... ад пачатку свайго паяўлення ў свет па сённяшні дзень — гэта чыста народны часопіс, у якім ясна адбіваецца думка нашых мазольных братоў з розных глухіх куткоў Беларусі».

У артыкуле было закранута і пытанне аб становішчы беларускай мовы. Бядуля, усведамляючы велізарнае значэнне мовы як важнейшага фактару нацыянальнай культуры, гаварыў пра адказную ролю пісьменнікаў, намаганнямі якіх беларуская літаратурная мова паступова шліфавалася, рабілася «ўсё болей чыстай, гібкай і выразнай ... здатнай да малявання самых чуць ухопных пачуццяў душы...».

У артыкулах дарэвалюцыйнай пары З. Бядуля нярэдка звяртаўся і да пытанняў агульнатэарэтычнага характару. Напрыклад, яго цікавіла сутнасць такой эстэтычнай катэгорыі, як прыгожае, узвышанае. Даследчыкі Бядулевай творчасці аб'ектыўна ацанілі і тое станоўчае, што несла ў сабе эстэтычная канцэпцыя пісьменніка, і яе слабыя бакі. Сацыяльны пачатак у гэтай канцэпцыі выяўляўся недастаткова выразна, быў прыглушаны. А гэта мела непасрэдную сувязь з літаратурай, з творчай практыкай, паколькі размова ішла аб мэтах і задачах мастацтва ў эпоху рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы. І ў творах ранняй пары і ў перыяд імперыялістычнай вайны З. Бядуля нярэдка шукаў паратунку ад жыццёвых нягод і супярэчнасцей у абстрактнай прыгажосці. Ідэалістычны, абстрактна-сузіральны характар такога погляду відавочны. Не аспрэчваючы прынцыповай ацэнкі светапогляднай пазіцыі Бядулі, выяўленай у гэты перыяд, хацелася б разам з тым унесці пэўныя карэктывы. Думаецца, што ў гэтым пытанні трэба пазбягаць памылак, аднабаковых меркаванняў і вывадаў, як гэта мела месца ў часы панавання вульгарнай сацыялогіі. Уцёкі ў свет чароўнай мары, у свет летуценняў і фантастыкі, непрыманне змрочнай рэчаіснасці — гэта не толькі сведчанне разгубленасці чалавека перад жыццём, але і спроба знайсці станоўчы пачатак у самім сабе. Бядуля верыў у духоўную магутнасць чалавека. Бясспрэчна, ісціна была не там, дзе спра-

баваў яе знайсці пісьменнік, і той шлях, на які ён ускладваў спадзяванні, не мог прывесці да вызвалення народа ад путаў сацыяльнага прыгнёту, але сваім апяваннем красы, здольнасці чалавека разумець хараство насуперак змрочным з'явам рэчаіснасці З. Бядуля публічна сцвярджаў яго веліч і сілу духу.

Сярод публіцыстычных матэрыялаў Бядулі перыяду імперыялістычнай вайны вылучаюцца артыкулы, прасякнутыя думкай аб неабходнасці актыўнага стаўлення да жыцця, аб пераадоленні пасіўнасці («К жыццю», 1914; «Святло», 1914). Калі ў жыцці нараджаецца новае, дык прыхільнікі старога рашуча ўпарцяцца пераменам, абвінавачваюць неспакойных духам у пагардзе традыцыямі. Аднак мінае час, і аказваецца, што пабіты камянямі бунтаўнік быў сапраўдным прарокам, вешчуном маючых быць перамен. Тады людзі пачынаюць услаўляць прарока, але гэты горкі ўрок мала што дае новым пакаленням, якія па-ранейшаму баяцца тых, хто прапаведуе дзейснае стаўленне да жыцця. Пасіўнасць, «духоўнае гультайства», абыякавасць да будучыні свайго краю недапушчальныя. «Чаго вы маўчыцё, жывыя святлейшыя людзі нашы? Ідзіце да працы! Будуйце будучыню народу беларускаму». Свядомыя, адукаваныя павінны распачынаць грамадскую, асветную працу, самаахвярна несці ў гушчы народа святло ведаў, не скардзячыся на цяжкасці і перашкоды. Цікава, што крыніцай актывізацыі шырокага грамадска-асветнага руху Бядуля-публіцыст бачыў у «здаровых элементах вясковага люду», тых, што «не затулены едкім дымам фабрык і шэрымі гарадскімі сценамі». Гэтыя свежыя народныя элементы будуць тымі прышчэпамі, каторымі хутка прыйдзецца лячыць выраджаючыяся гарадскія пакаленні, каторыя ўжо чуць ногі валакуць пад цяжарам «атручанага фізічнага і духоўнага жыцця і незадаволенасці ва ўсім...».

Бядуля-публіцыст заўжды надзвычай хутка адгукаўся на падзеі часу. Тлумачылася гэта аператыўнасць, відаць, не толькі спецыфікай газетнай працы, але і адметнасцю таленту пісьменніка, асаблівасцямі яго творчай натуры. Прычым ён не праводзіў рэзкай мяжы паміж «высокай» і «нізкай» тэмай. Напрыклад, яшчэ ў дакастрычніцкі час Бядуля звярнуў увагу грамадскасці на такую шырока распаўсюджаную ў народзе з'яву, як п'янства. Пісьменнік горача падтрымаў ініцыятыву сялян многіх беларускіх вёсак аб закрыцці манаполек і шынкоў. Гэта ініцыятыва, паводле думкі Бядулі, была сведчаннем багатых унутраных, патэнцыяльных сіл працоўнага селяніна, якому беднасць і цемната перашкаджалі вырвацца з-пад улады трывала засвоенай звычкі тапіць спрадвечнае гора ў гарэлцы. Але ліквідацыя манаполек, сцвярджае Бядуля, праблему «народнага п'янства» не вырашыць. «...трэба чым-колечы дапоўніць застаўшаеся пустое месца ў жыц-

ці селяніна пасля гарэлкі. Трэба даць страву, рух і новае жыццё яго мазгам і душы...» Неабходна распачаць шырокую асветную, культурна-масавую работу, развіваць творчыя сілы народа, арганізоўваць чытальні, клубы, наладжваць спектаклі, «гульні, танцы, спартавыя гульні для маладзёжы».

Бядуля звярнуўся з палымяным заклікам да «свядомых сыноў бацькаўшчыны» актыўна ўзяцца за працу. «Гэта праца дасць у скорым часе багатае жніво і народная душа выгоіцца з тых глыбокіх ран, каторыя спрадвеку ўкараніліся ў яго душы, дзякуючы варункам, у якіх быў пастаўлен народ.

Пры гэтым трэба памятаць, што кожная культурная работа сярод беларусаў павінна весціся ў беларускай мове, бо не можна ламаць душы народнай».

У першыя паслякастрычніцкія гады З. Бядуля даў шэраг цікавых узораў тыпова «пісьменніцкай» крытыкі. Для пісьменніка-крытыка характэрны шырыня погляду на літаратурны працэс, уменне схопліваць з'яву ў яе цэласнасці, нерасчлененасці, уменне сцісла накрэсліваць перспектыўныя тэндэнцыі развіцця літаратуры. Пісьменнік тонка адчувае балявыя кропкі літаратурнага жыцця. Часта яго ацэнкі і вывады маюць суб'ектыўную афарбоўку, але гэта не зніжае іх вартасці.

Некаторыя з названых тут асаблівасцей «пісьменніцкай» крытыкі выразна выявіліся і ў артыкуле «На рубяжы» (1923), які мае вельмі паказальны падзагаловак: «Штрыхі». Тут закрануты многія наспелыя пытанні літаратурна-творчага жыцця Беларусі пачатку 20-х гадоў і нядаўняга мінулага, сфармуляваны задачы даследчыкаў літаратуры і крытыкаў. Услед за М. Багдановічам Бядуля гаворыць пра паскоранасць развіцця беларускай літаратуры новага часу («мы... павінны былі праходзіць тыя стадыі, якія ў іншых народнасцей праходзіліся многімі стагоддзямі»), справядліва расцэньвае 1905 год як пачатак новага перыяду ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства, калі вядучым пафасам літаратуры стала нацыянальна-патрыятычнае служэнне народу, бацькаўшчыне. Агульныя вытокі беларускай літаратуры Бядуля шукае ў народнай творчасці, «агорнутай туманам старасвецкай міфалогіі», у сялянскім побыце, у сацыяльнай рэчаіснасці.

Вядучай творчай сілай сучаснага яму літаратурнага працэсу Бядуля лічыў Я. Купалу, Я. Коласа і ўзгадаваны Кастрычнікам маладняк на чале з М. Чаротам. У сваім развіцці беларуская рэвалюцыйная паэзія, як сцвярджае Бядуля, прайшла пэўную эвалюцыю. Спярша маладыя задавальняліся выкарыстаннем гучных эпітэтаў, метафар і азначэнняў тыпу «чырвоны», «свабода», «пра-

летарыят», «змаганне». Але паступова ў псіхалогіі, у свядомасці саміх паэтаў адбываліся істотныя змены, якія і прывялі да абнаўлення іх творчасці, яе зместу і формы. «Адбыўся даўгаждацы рэвалюцыйны пераварот унутры самога мастацтва...» Праўдзівая рэвалюцыйнасць з'яўляецца там, калі нават і ніводнага слова аб чырвані і аб свабодзе няма ў вершы, але калі верш ва ўсёй сваёй унутранай і верхняй будове рэвалюцыйны». Гэты вывад Бядуля абгрунтоўвае разглядам творчасці У. Дубоўкі, зборніка яго вершаў «Строма».

Цвярозы погляд на з'явы рэчаіснасці прывёў Бядулю-крытыка да вываду аб тым, што многім маладым якраз і не стае здольнасці па-новаму ўспрымаць жыццё і адбіваць яго ў новых формах. Ёсць «цэлая плеяда маладзенькіх», у творах якіх няма зместу, форма бедная, вобразнасць адсутнічае. Яны бяруцца за старыя, ужо распрацаваныя ў літаратуры тэмы, хапаюць беларускага селяніна, што называецца, «за лапці і аборы». У іх вершах гучаць «старыя надакучлівыя перапевы аб родным краі і раі». «Дзеля якой-колечы рыфмы яны калечаць беларускае слова, круцяць яго ва ўсе бакі, здзекуюцца над ім, аж, здаецца, роднага бацьку забіў бы, каб толькі выходзіла ў рыфму».

Бядуля ўважліва сачыў за літаратурным працэсам, радаваўся дасягненням і засмучаўся выдаткамі, стратамі, што мелі месца ў творчасці многіх тагачасных паэтаў, празаікаў. Так, ім была звернута ўвага на адсутнасць патрабавальнасці ў прадстаўнікоў маладога пакалення і як вынік — на рамесніцкія вершаваныя паўфабрыкаты, што запаланялі старонкі друку. Была падкрэслена велізарная шкода масавай вытворчасці зарыфмаванай публіцыстыкі, шкода для саміх вытворцаў і для чытачоў. «Рабіць друк даступным для ўсіх — гэта добрая і патрэбная справа, але друкаваць кепскія вершыкі — справа кепская. Гэта надае нашым маладым аўтарам самахвальства, кожны з іх прадстаўляе сабе, што ён геній і што ў канцы канцоў яны не хочуць працаваць над сваім самаразвіццём».

Нельга думаць, нібыта З. Бядуля смела крытыкаваў толькі пачаткоўцаў, як гэта часта назіралася ў літаратурным жыцці пазнейшага часу. Не, гэтак жа прынцыпова ацэньваў ён і творчыя вынікі старэйшых. Некаторыя з іх пачалі пісаць у дакастрычніцкі перыяд, але «калі прасачыць іх творчасць ад пачатку да канца, ад першага да апошняга верша», дык нельга знайсці ў іх «ніводнай кроплі прагрэсу».

І яшчэ адно пытанне закрануў З. Бядуля ў артыкуле «На рубяжы» — аб дыялектызмах, мясцовых словах. «Шмат хто з нашых пісьменнікаў ужывае ў мастацкіх творах закавырыстыя слаўцы сваёй ваколіцы. Вельмі часта такія словы незразумелыя

не толькі што чытачам, але і спецыялістам, знаўцам беларускай мовы». І ў гэтым выпадку Бядуля меў на ўвазе не толькі маладых, але і старэйшых, тых, хто з'яўляўся «як бы патрыётам сваёй воласці», хто прызнаваў «толькі мову сваёй невялічкай ваколіцы». А гэта звужала граніцы бытавання літаратурнага твора.

На падставе прыведзенага тут выказвання было б, аднак, заўчасна адносіць Бядулю да пісьменнікаў-кансерватараў у галіне мовы, да тых, што аддаюць перавагу звыклым лексічным формам, баяцца пашырэння слоўнікавага складу мовы, яе лексікі за кошт дыялектызмаў. Бядуля не закрываў шлях мастаку да ўзбагачэння ўласнай моўнай палітры, як гэта вынікае з яго далейшых разважанняў. Ён праводзіў пэўную мяжу паміж паняццем: індывідуальны стыль аўтара і мова яго твораў.

«Кожны пісьменнік павінен мець свой асобны стыль, але мова павінна быць адна, зразумелая для ўсіх». Здараецца і так, што «па ўнутранаму зместу і вобразнасці» твор мае вялікія мастацкія вартасці, але «дзеля цяжкасці стылю, дзеля незразумеласці многіх слоў, якімі твор перасыпаны, ніхто яго чытаць не хоча».

У артыкуле «На рубяжы» Бядуля засярodзіў увагу прадстаўнікоў маладога пакалення і новага чытача на праблеме тэндэнцыйнасці мастацтва. З боку маладых, зазначае Бядуля, часта даводзіцца чуць скаргі на рэдактараў, якія патрабуюць ад іх твораў з выразна акрэсленай ідэяй. Не пагаджаючыся з гэтымі патрабаваннямі, некаторыя пісьменнікі лічаць, што раней мастацтва нібыта было свабодным ад тэндэнцыйнасці. Бядуля-крытык з'едліва высмеяў аўтараў гэтых наіўных разважанняў, павярхоўнае веданне імі гісторыі літаратуры. Безыдэйнага, нетэндэнцыйнага мастацтва ў класавым грамадстве ніколі не было і быць не магло. Іншая справа, што ў творах класікаў тэндэнцыя не дэманстравала сябе адкрыта. Каб тэндэнцыйнасць не вытыркалася з твора як штосьці яму неарганічнае, пісьменнік павінен глыбока асэнсаваць матэрыял, зліцца з тым жыццём, пра якое ён піша, з тымі людзьмі, якіх ён паказвае, з іх настроем, светаадчуваннем. «Той, хто хоча жыць, хто хоча шчыра прыносіць карысць сваёй творчасцю новай эпосе, будаўніцтву новага жыцця — павінен учыніць над сабою перараджэнне. Тады ўся справа аб тэндэнцыйнасці прападзе сама сабою». Перараджэнне, пра якое гаворыць Бядуля,— гэта не прымусовы пераход на новую светапоглядную пазіцыю, а спасціжэнне сутнасці новага.

Гэтак жа востра хвалявала аўтара артыкула «На рубяжы» і праблема пераемнасці традыцый. Пэўнай недаацэнкі вопыту папярэднікаў Бядулю-тэарэтыку ў гэтыя гады не ўдалося пазбегнуць: «Каб выйсці з рубяжа на пэўны цвёрды шлях, трэба нашым пісьменнікам раз назаўсёды парваць з пэўнай часткай мінулых

традыцый». Праўда, крытык не канкрэтызуе тут сваёй думкі. Адзінае, што ён гатовы прыняць, гэта традыцыю рэвалюцыйнага стаўлення да жыцця. «Усё рэшта з'яўляецца толькі наносам чужых буржуазных культур». І хоць Бядуля даволі шырока тлумачыць паняцце рэвалюцыйнасці, уключае сюды дух бунтарства, які жыў у сэрцы прыгнечанага люду і выяўляўся ў антыпанскай, антыпрыгонніцкай казцы, у пракламацыях К. Каліноўскага, тым не менш, на поглядах і ўяўленнях крытыка ляжыць пэўны адбітак пралеткультаўскіх канцэпцый з іх нігілістычным стаўленнем да буржуазнай культуры.

І ўсё ж арыентацыя Бядулі-крытыка на жывую творчую практыку як крытэрый ісціны нейтралізавала аднабаковасць яго выдаў. Паказальна і тое, што стваральнікам новай культуры Бядуля — у супрацьлегласць пралеткультаўцам — нідзе не абвяшчаў патомных пралетарыяў. Наадварот, ён заклікаў беларускіх пісьменнікаў старанна вывучаць сучасную вёску, бачыць нараджэнне новага быту. «Новы быт у мастацкай абрысоўцы ў літаратуры ёсць найлепшы агітацыйны спосаб укаранення і ўзмацнення яго».

З. Бядуля надаваў выключна вялікае значэнне літаратурнай крытыцы, разглядаючы яе як адзін з важных фактараў дабратворнага ўздзеяння на літаратуру і як сродак узаемасувязі паміж пісьменнікам і чытачом. «Каб у свой час і паралельна з развіццём нашага прыгожага пісьменства ішло развіццё і нашай крытыкі, дык мы пэўны, што творы нашых літаратараў і па якасці і па ліку куды вышэй стаялі б, чымся дагэтуль»,— сцвярджае Бядуля ў адным з артыкулаў цыкла «Думкі к часу» (1924). Ён марыў аб крытыцы «бестэндэнцыйнай, строгай, якая аналізавала б усебакова літаратурныя творы». На жаль, падкрэсліваў Бядуля, нават «капітальныя творы» беларускіх пісьменнікаў — «Сон на кургане», «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Новая зямля», «Сымон-музыка», «У палескай глушы» Я. Коласа — доўгі час заставаліся паза крытычным аналізам. Адсутнасць сталай прафесійнай крытыкі якраз і прымушала ў дакастрычніцкі час некаторых пісьменнікаў — М. Багдановіча, М. Гарэцкага — браць у рукі крытычнае пяро, звяртацца да жанру літаратурнай крытыкі, навуковага даследавання. У першыя паслярэвалюцыйныя гады са з'яўленнем артыкулаў З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, М. Піятуховіча, М. Байкова, Я. Дылы і іншых становішча крыху змянілася ў лепшы бок, але праблема па-ранейшаму заставалася нявырашанай. Таму Бядуля ў якасці часовага выхаду прапанаваў разгортванне «публічнай масавай крытыкі». Што ж, у такой прапанове быў свой сэнс. Ацэньваючы першыя літаратурныя вечары, што праводзілі часопісы «Полымя», «Маладняк», Бядуля падтрымліваў такія пачынанні, бо на вечарах наладжвалася «жывая сувязь паміж лі-

таратарам і чытачом», вечары аказвалі станоўчы ўплыў на ўсю літаратуру, ажыўлялі яе, прымушалі пісьменнікаў па-новаму глядзець на ўласную творчасць, ацэньваць яе самакрытычна. Адносіны слухачоў да твораў, з якімі выступаў паэт, празаік, дапамагалі яму больш дакладна ацэньваць іх вартасці і недахопы.

У адрозненне ад самаўпэўненых аўтараў, перакананых, што іх творы, маўляў, знойдуць шлях да народа і без дапамогі крытыкі, Бядуля лічыў, што гэты шлях акажацца значна карацейшым, калі ролю пасрэдніка паміж творам і чытачом возьме на сябе літаратурная крытыка. «...Літаратурныя выступленні патрабуюць кожны раз усё ж такі крытычнага ўводу, разгляду твораў, якія маюць чытацца на даным вечары. Кожны раз спачатку патрэбна лекцыя аб напрамку твора, аб мастацкіх дасягненнях аўтара ў новых шуканнях і г. д.».

Пры гэтым Бядуля ўвесь час настойліва падкрэсліваў, што крытычныя матэрыялы, адрасаваныя слухачу ці чытачу, павінны быць папулярнымі, лёгкімі на ўспрыманне і змястоўнымі. Ва ўводнай лекцыі трэба абавязкова сказаць «і аб форме, і аб змесце, і аб агульным настроі дадзеных твораў, і аб тым, што аўтар у гэтым творы хацеў сказаць, наколькі яму гэта ўдалося і г. д.».

Як бачым, Бядуля не зводзіў ролю крытыка да ролі пасіўнага каментатара. Каб данесці да чытача глыбінны змест твора, паказаць яго мастацкую адметнасць і эстэтычнае хараство, патрэбен аналіз, аб'ектыўная ацэнка. Крытык павінен дапамагчы чытачу разабрацца, ці здолеў пісьменнік па-мастацку рэалізаваць уласную задуму.

Вось такі погляд на крытыку нават тэксталагічна блізкі таму, што крыху раней выказвалася М. Гарэцкім. І гэта вельмі сімптаматычна, бо традыцыі Гарэцкага-тэарэтыка і практыка былі жыццёвымі і перспектыўнымі. Як і Гарэцкі, Бядуля не зводзіў функцыі крытыкі да вузка прагматычных мэт. Наадварот, ім акцэнтавалася ўвага на яе дзейсны, пазнавальны характар. Літаратурная крытыка — гэта не механічнае прыкладванне да мастацкага твора апрыёрна сфармуляваных прадпісанняў, а своеасаблівая форма творчасці. «Нашым маладым крытыкам,— падкрэсліваў Бядуля,— трэба раз назаўсёды ведаць, што пісаць крытыку — гэта тое самае значэнне мае ў літаратуры, як пісаць паэму ці аповесць. Трэба мець той жа самы мастацкі талент — трэба быць самому мастаком». Тут З. Бядуля працягваў плённую традыцыю пісьменніцкай дапамогі беларускай прафесійнай крытыцы, якая ў той час яшчэ рабіла першыя свае крокі. Збліжаючы ўласна мастацкую і літаратурна-крытычную дзейнасць у плане іх грамадскага значэння, Бядуля ўносіў свой уклад у распрацоўку тэарэтычных асноў крытыкі, уздымаў яе аўтарытэт у

вачах грамадства. Гэта і зразумела, бо без усведамлення сутнасці, прыроды крытыкі немагчыма дакладна ўстанавіць, калі крытыка ўплывае на літаратурны працэс, на творчую практыку, а калі гэты ўплыў толькі імітуецца.

Вось, у прыватнасці, як разгортвае Бядуля свае меркаванні адносна ўзаемаадносін крытыка і паэта, празаіка. «Трэба часам разумець аўтара з паўслова, з няўдачнага часам слова трэба ўгадаць, што аўтар хацеў сказаць. Крытык павінен уцяміць нахілы аўтара, яго моцныя і слабыя бакі і накіраваць яго туды, дзе ён чуецца моцным. Калі часам аўтар сам сябе не знаходзіць у сваіх творах — крытык павінен яго вышукаць, знайсці, паказаць аўтару яго праўдзівы твар».

Прыведзеныя выказванні сведчаць аб вялікім даверы і павазе пісьменніка да крытыка, аб гатоўнасці слухаць парады апошняга, лічыцца з яго меркаваннямі і вывадамі. Крытык можа дапамагчы пісьменніку глыбей разабрацца ў самім сабе, спасцігнуць свае моцныя і слабыя бакі, скіраваць увагу на пераадоленне выяўленых недахопаў.

Збліжаючы дзейнасць пісьменніка і крытыка як дзейнасць творчую, ствaральную, адкрывальніцкую, З. Бядуля не ігнараваў і спецыфічныя, уласцівыя крытыцы спосабы аналізу мастацкай матэрыі, а іменна, аналітычны падыход. «Інтуітыўная, часам надсвядомая творчасць аўтара павінна быць навукова разложана крытыкам на псіхалагічныя, калі можна так сказаць, атамы».

У адпаведнасці з навуковымі прынцыпамі аналізу мастацкі твор павінен ацэньвацца, гаворыць Бядуля, як з'ява шматмерная. З аднаго боку, трэба ўлічваць моманты аб'ектыўна-псіхалагічнага характару — тып таленту, схільнасць да адлюстравання тых ці іншых бакоў рэчаіснасці, а з другога — моманты сацыяльныя, грамадскія. «Псіхалогія творчасці дадзенага твора павінна быць высветлена крытыкам усебакова, якія ўплывы, якія абставіны, якія настроі дыктавалі аўтару дадзены твор».

Многія меркаванні Бядулі, выказаныя ім звыш шасцідзесяці гадоў назад, гучаць так, нібыта яны народжаны сёння ў адказ аўтарам, што недаацэньваюць літаратурна-крытычныя жанры, лічаць іх чымсьці другарадным, а то і зусім непатрэбным для літаратуры. «Часам,— зазначае Бядуля,— калі твор надзвычай выдатны, аб ім прыходзіцца куды болей пісаць, па колькасці, чымся сам твор займае. Гэта патрэбна. Гэта найлепшая літаратурная студыя і для чытачоў і для аўтараў». І зноў жа, як бы маючы на ўвазе не толькі 20-я, але і пазнейшыя гады, клапоцячыся аб прафесійным узроўні крытыка, шырыні яго інтарэсаў, Бядуля пісаў: «І... разумеецца, крытык павінен быць надзвычайна адукаваным чалавекам, павінен ведаць хоць некалькі еўрапейскіх моў

і грунтоўна быць знаёмым з сусветнай літаратурай усіх часоў».

Змястоўнай старонкай дзейнасці Бядулі-крытыка з'яўляюцца яго артыкулы, прысвечаныя літаратурнай арганізацыі «Маладняк», творчай практыцы прадстаўнікоў гэтага аб'яднання. Каштоўнасць крытычных ацэнак Бядулі ў тым, што яны належаць аднаму з удзельнікаў маладнякоўскага руху, які потым, праўда, перайшоў ва «Узвышша». І хоць у бядулеўскіх ацэнках шмат суб'ектыўнага, а часта і прадыктаванага імкненнем абараніць інтарэсы «сваёй» групы, узняць яе аўтарытэт у вачах грамадства, гэта не зніжае іх вартасць.

Вось як, напрыклад, тлумачыць Бядуля цяжкасці на шляху станаўлення «Маладняка». Маладыя беларускія паэты, празаікі выйшлі з сялянскага, а не рабочага асяроддзя. Не маючы грунтоўнай ідэйнай загартоўкі, не маючы трывалай нацыянальнай мастацкай традыцыі, так меркаваў Бядуля, маладнякоўцы вымушаны былі шукаць апору для сваёй творчасці, бо хутка стварыць уласную школу немагчыма. Для гэтага патрэбен час, гады працяглай творчай вучобы. «І «Маладняк» знайшоў гэту апору «ў імажыністычнай рускай паэзіі, ва ўстаноўцы на імажынісцкую вобразнасць». Імажыністычная традыцыя, паводле меркаванняў Бядулі, была прымальна для маладнякоўцаў на першым этапе іх дзейнасці, бо і народная творчасць, да якой звярталіся маладыя беларускія паэты, не цуралася вобразнасці...

Вядома, не ўсё з гэтага тлумачэння можа быць прынята як пераканальнае. Па-першае, у беларускай літаратуры былі свае сталыя нацыянальныя традыцыі — глыбокай народнасці, рэалізму, якія «маладнякоўцы» часта недаацэньвалі. Па-другое, імажынізм не з'яўляўся паратункам для маладых, паколькі механічнае, нятворчае выкарыстанне чужога вопыту вяло да паўтарэння, да застою.

Ёсць сэнс звярнуць увагу і на тое, як Бядуля тлумачыць прычыну сутычак моладзі з пісьменнікамі старэйшага пакалення, што складала тыповую прыкмету літаратурнага жыцця на Беларусі ў 20-я гады. Паводле меркаванняў Бядулі, прынцыповых падстаў ідэалагічнага, светапогляднага характару для палемікі не існавала. «Наша літаратура, якая пачала развівацца пасля рэвалюцыі 1905 года, уся пранікнута рэвалюцыйнасцю і мужыцкай псіхалогіяй. Нават паэзія папярэдніка гэтага перыяду — Багушэвіча наскрозь рэвалюцыйная». А змагацца з кімсьці трэба было, бо змаганне стала пафасам жыцця. І вось маладнякоўцы ў якасці аб'екту нападак абралі матывы роспачы, што мелі месца ў творах старэйшых пісьменнікаў пасля рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Старэйшыя і самі даўно адмовіліся ад гэтых матываў, але маладнякоўцам трэба была нейкая псіхалагічная аснова для сама-

сцвярджэння. «Гэта змаганне служыла «Маладняку» як бы асвяжаючым сюжэтам».

Безумоўна, зводзіць шматлікія праявы літаратурнай барацьбы пачатку 20-х гадоў да псіхалагічных момантаў, бачыць у палеміцы прадстаўнікоў двух паэтычных пакаленняў толькі сродак абуджэння творчай актыўнасці маладых — відочнае спрашчэнне праблемы. Нягледзячы, аднак, на спрошчанасць падыходу, Бядуля здолеў убачыць і станоўчыя моманты ва ўзаемаадносінах старых і маладых. Маладнякоўцы нападалі на пісьменнікаў дарэвалюцыйнай пары, але тыя пільна сачылі за кожным іх выступленнем у друку, бо бачылі ў маладой генерацыі прадаўжальнікаў сваіх ідэй. «Старэйшыя... радуюцца кожнаму новаму твору, які паказвае праўдзівы твар «Маладняка», а не адбітак расейскай імажыністыкі, якая дажывае свае апошнія дні».

Ацэнкі, якія Бядуля даў канкрэтным творам маладнякоўцаў, як правіла, завышаныя, хоць часта побач з паблажлівасцю можна сустрэць і аб'ектыўныя характарыстыкі. Так, Бядуля перабольшыў значэнне аповесці А. Вольнага «Два». Бясспрэчна, тут мела месца імкненне падтрымаць прыгодніцкі жанр у беларускай літаратуры. Але Бядуля-крытык не страчваў пачуцця меры, калі размова ішла, скажам, пра «Палёт у мінулае» А. Александровіча. Твор гэты хоць і задуманы арыгінальна, але напісаны прымітыўна. Сюжэтнай асновай яго былі не гістарычныя матэрыялы пра Каліноўскага, а ўбачаная на сцэне п'еса Міровіча, у якой драматург «дзеля эфектацыі часам адыходзіў ад гістарычнай праўдзівасці».

Нельга не аддаць належнае і густу Бядулі, яго эстэтычнаму пачуццю, здольнасці ўбачыць у пачынаючым пісьменніку вялікага майстра, вялікі талент. «Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на Кузьму Чорнага»,— справядліва заўважыў ён.

Бядулю-крытыка ўзрадавала тое, што ў вершах маладых паступова пачынаў выяўляцца асабісты твар кожнага — спынялася ранейшая калектыўная фабрыкацыя вершаваных радкоў, і маладыя раскрывалі свой унутраны, своеасаблівы свет.

Увогуле творчасць маладых — дамінуючая тэма Бядулі-крытыка, які шчодра дзяліўся з пачаткоўцамі ўласным вопытам. Пры гэтым у сваіх разважаннях і парадах ён ішоў ад канкрэтнага, пазбягаючы дыдактыкі і павучання. У артыкуле «Б'юцца ў адчыненыя дзверы» (1924) Бядуля прааналізаваў выказванні маладых празаікаў наконт адсутнасці сюжэтаў для апавяданняў, давёўшы беспадстаўнасць гэтых нараканняў, паколькі ішлі яны ад нявопытнасці, ад няўмення вывучаць жыццё, браць з бягучай рэчаіснасці аснову будучых твораў. Маладыя нярэдка «адкідаюць звычайныя жыццёвыя сюжэты і прыдумваюць нешта легендар-

нае, адарванае ад жыцця, або калі бяруць сучасных людзей, дык дадаюць ім несучасную псіхалогію». Напрыклад, у адным з твораў гутарка камсамолак нагадвае размову «старасвецкіх інстытутак», у другім героі падобныя да «аркадскіх пастушкоў», а змест твора складае «прымітыўная эратычная лірыка», у трэцім камуніст выклікае камуніста... на дуэль за дзяўчыну. Бядуля высмеяў неапраўданую пагоню за «жульвернаўшчынай» і «пінкертонаўшчынай» і раіў маладым вывучаць рэальных людзей сваёй ваколіцы, весці дзённікі, занатоўваць думкі гэтых людзей, «прыкмячаць усё дробнае на першы погляд, бо з драбніц складаецца вялікая будыніна нашага жыцця».

Паказальна, што ў якасці літаратурнага настаўніка маладых Бядуля-крытык назваў не каго-небудзь з сучасных рэвалюцыйных пісьменнікаў, а Чэхава. Зварот да рускай класікі, да рэалістычных традыцый мінулага сведчыў аб цвярозасці поглядаў Бядулі, яго ўменні ўздымацца над аднабаковымі, спрошчанымі ўяўленнямі часу. «А. Чэхаў не шукаў сюжэтаў для сваіх навел... Ён не браў замыславатых сюжэтаў, а самыя звычайныя, простыя, улюбёна іх апрацоўваў, даваў самыя ледзьве прыкметныя ўхіленні чалавечай душы, самыя тонкія пераліванні чалавечых думак, музыку яго пачуццяў. І разам узятыя творы Чэхава адбіваюць суцэльна яго эпоху. Гэтым яны цікавыя і па сягонняшні дзень».

На першы погляд магло здацца, што крытык расцэньваў апавяданні Чэхава як узор для пераймання. Але не! Бядуля падкрэсліў, што кожны з маладых павінен пісаць не «па Чэхаву», а «быць самім сабою», як гэта рабілі М. Зарэцкі і К. Чорны. Яны «паспелі ўжо выявіць свой уласны твар, а не адбітак кагосьці».

У савецкі перыяд, як і ў дакастрычніцкі час, Бядулю-крытыка па-ранейшаму прыцягвалі праблемы тэарэтычнага характару. Гэта і зразумела: для Бядулі-паэта і празаіка «тэорыя» мела не адцягненае, а практычнае значэнне. Напрыклад, ён рашуча пярэчыў супраць вузкага, спрошчанага разумення паняццяў «праўда жыцця і праўда мастацтва», калі праўдзівым лічылася толькі тое, што мела месца ў жыцці, што дакладна спісана з натуры. Пісьменнік, падкрэсліваў Бядуля, абапіраючыся на рэчаіснасць, спасцігаючы ўнутраны сэнс падзей, можа выдумаць тую ці іншую з'яву, стварыць у адпаведнасці з уласнымі ўяўленнямі чалавечы характар, і гэта будзе праўдзівае, мастацкае адлюстраванне.

Важна мець на ўвазе тое, што гаворка аб сутнасці мастацкай тыпізацыі мела шырокага адрасата — не толькі маладога пісьменніка, чытача, але і літаратурнага крытыка. «Значыць, беручыся крытыкаваць які-небудзь штучны твор (тут у сэнсе: мастацкі), мы не павінны задаваць сабе пытанне: ці праўда, што было та-

кое здарэнне, якое тут апісваецца, але павінны задаць сабе пытанне: ці магло быць гэта, ці не, як тут апісваецца? Калі магло — значыць, хоць пісьменнік яго і сам выдумаў, у ім ёсць артыстычная праўда, ён праўдзіва напісаны, і для нас усё роўна, ці было гэта, ці сам пісьменнік выдумаў яго».

А ў артыкуле «Стыль» (1920) Бядуля спрабаваў раскрыць змест паняцця нацыянальны стыль у дачыненні да твораў жывапісу, скульптуры, архітэктуры, музыкі, слоўнага мастацтва. Хоць крытык не даў дакладнага навуковага азначэння гэтага тэрміна і абмежаваўся агульнай дыфініцыяй — «асабістае прадстаўленне кожнай адзінкі ёсць стыль»,— з яго разважанняў вынікае, што непаўторнасць нацыянальнага стылю трэба выводзіць з канкрэтных бытавых, гістарычных умоў, у якіх жыў і жыве той ці іншы народ, з асаблівасцей яго псіхікі, устойлівых рыс характару. Рэчаіснасць нязменна накладвае свой адбітак на чалавека і яго светаадчуванне: «На ўсё акружаючае, на ўсё абстрактнае кожны чалавек, кожны народ глядзіць сваімі вачыма». І гэту непаўторнасць, своеасаблівасць трэба берагчы, трэба захоўваць, бо дзякуючы ёй кожны народ уносіць у агульначалавечую духоўную скарбніцу свае ўласныя здабыткі. У «Энеідзе» Катлярэўскага багі і багіні апісваюцца чыстакроўнымі казакамі і казачкамі, каторыя выбіваюць гапак украінскі ў добра вымазаных дзёгцем, падкаваных чобатах. Каб «Энеіда» і не была напісана ў чыста гумарыстычным тоне, дык усё роўна ў гэтым творы адбілася б украінская душа, украінскі стыль.

Таксама і ў беларускім творы «Тарас на Парнасе» Венера «задам мелець, як тутэйшая вясковая баба».

Не менш важнае значэнне мае і тэзіс Бядулі, паводле якога нацыянальны стыль выпрацоўваецца паступова, «цэлымі тысячагоддзямі» і паступова ўдасканальваецца, «крок за крокам робіцца ўсё болей яўным і рэльефным». Бядуля звярнуўся да беларускіх культурных працаўнікоў, пісьменнікаў, кампазітараў, жывапісцаў з заклікам актыўней «чэрпаць сваю творчасць са свежай крыніцы народнай душы», паглыбляць, узбагачаць нацыянальныя традыцыі, смялей паказваць «багацце і разнастайнасць беларускай душы з усіх бакоў, ва ўсіх яе формах і аздобах».

На пачатку 20-х гадоў З. Бядуля адным з першых у беларускім друку ўзняў пытанне аб неабходнасці развіцця і ўмацавання сувязі паміж літаратурамі розных народаў. У чацвёртым фрагменце артыкула «Думкі к часу» ён зрабіў цікавы экскурс у нядаўняе мінулае, прыгадаўшы імёны тых, хто пачынаў наладжваць сувязь з украінскімі, рускімі, літоўскімі, яўрэйскімі пісьменнікамі (С. Палуян, М. Багдановіч, М. Горкі, В. Брусаў і інш.). Праўда, не абышлося тут і без аднабаковага, спрошчанага асвятлення

некаторых з'яў і фактаў. Справядліва адзначаючы вялікую ролю такіх вядомых нямецкіх вучоных, як Абіхт, Іпель у высакароднай справе прапаганды беларускай культуры, мастацтва ў нямецкамоўным друку, Бядуля ў шэрагу выпадкаў абстрагаваўся ад ацэнкі класавай скіраванасці матэрыялаў нямецкіх газет акупацыйнага перыяду. Для яго факт публікацыі беларускага матэрыялу набываў самамэтнае значэнне. Вось у такім яўна апалагетычным тоне вытрыманы некаторыя мясціны артыкула. «У часы нямецкай акупацыі немцы звярнулі ўвагу на беларускае адраджэнне». «Самыя прыязныя рэцэнзіі аб беларускіх спектаклях у Вільні друкаваліся ў час нямецкай акупацыі ў нямецкіх газетах». Колькасная ацэнка — недастатковы паказчык, калі гаворка ідзе аб з'явах ідэалагічнага характару. Акупацыйныя ўлады сапраўды змяшчалі ў нямецкіх газетах беларускі матэрыял пераважна гісторыка-культурнага, асветніцкага характару. Палітычная праблематыка не абмяркоўвалася. Фактычна тут мела месца яўная спекуляцыя на нацыянальных пачуццях беларускага народа, які доўгі час знаходзіўся пад уціскам царскага самаўладдзя. Акупанты пад выглядам шчырых сяброў працоўных свядома супрацьпастаўлялі сваю неакаланіяльную палітыку палітыцы расійскага ўрада. На жаль, вось гэта замаскаваная тактыка кайзераўскай культурнай экспансіі не знайшла свайго выразнага адлюстравання ў артыкуле Бядулі.

Як крытык Бядуля нямала зрабіў у галіне прапаганды лепшых дасягненняў рускай, украінскай, яўрэйскай і іншых літаратур. Характэрны ў гэтых адносінах артыкул «Водгукі кабзарскіх струн», у якім раскрыта эвалюцыя яго ўласнага ўспрымання паэзіі і асобы вялікага ўкраінскага паэта. На розных этапах творчасці ўспрыманне было розным. Так, у 1903 годзе шаснаццацігадовы Бядуля ўпершыню пазнаёміўся са зборнікам «Кабзар» і быў захоплены «глыбоканародным і пафасна-рэвалюцыйным прарочым подыхам шаўчэнкаўскай паэзіі». Ужо тады ён здолеў адчуць чароўны лірызм і яркую рамантыку вершаў вялікага паэта, іх драматычную насычанасць. У гады рэвалюцыйнага ўздыму Бядуля атрымаў магчымасць пазнаёміцца з творамі Т. Шаўчэнкі, перакладзенымі ўжо на беларускую мову. Адначасова Бядуля пачынае заўважаць рэальны ўплыў Кабзара на беларускіх паэтаў, перш за ўсё на Янку Купалу. З радасцю адзначыў Бядуля і актывізацыю цікавасці да спадчыны вялікага песняра ўкраінскага народа з боку нешматлікіх на той час прадстаўнікоў беларускай крытыкі і навуковай думкі. «Паэт Максім Багдановіч вывучае рытміку і метрыку шаўчэнкаўскага верша і раіць нам усім, каб вучыліся ў Т. Р. Шаўчэнкі».

Адпаведна знаёмству Бядулі з гістарычным мінулым украін-

скага народа паглыблялася і яго ўспрыманне творчасці Шаўчэнкі, раскрывалася веліч асобы Кабзара. Бядуля быў адным з удзельнікаў святкавання юбілею Шаўчэнкі ў Вільні ў 1914 годзе. А сход праводзіўся нелегальна, бо афіцыйныя ўлады дазволу на святкаванне не далі. «...Пасля мы ўсе спявалі «Заповіт». Песня ўзнімала нас на вогненнай хвалі. Мы яе выконвалі як гімн».

У паслякастрычніцкі перыяд на ўспрыманне Бядулем паэзіі Шаўчэнкі паўплывала перш за ўсё знаёмства беларускага пісьменніка са спадчыннікамі тых, хто калісьці быў героямі твораў Кабзара: «Мілагучная ўкраінская мова чаравала мяне. Мне здавалася, што я чую голас самога Тараса Рыгоравіча... Ён глыбока жыў у маім сэрцы. І жывы кабзар на рынку (падчас знаходжання Бядулі ў Харкаве.— *М. М.*), і ўкраінскі народ сталі мне яшчэ больш блізкімі і роднымі».

Вялікую каштоўнасць уяўляюць звесткі Бядулі аб той вялікай ролі, якую адыгралі творы Шаўчэнкі ў яго ўласнай творчасці, у прыватнасці пры ўвасабленні задумы аповесці «Салавей»: «Я чэрпаю ў «Гайдамаках» ды іншых паэмах і вершах натхненне для малявання жудаснай паншчыны на Беларусі. Умовы жыцця таго часу былі аднолькавыя і ў беларусаў, і ва ўкраінцаў».

І, нарэшце, лагічным крокам у асэнсаванні спадчыны выдатнага сына ўкраінскага народа быў непасрэдны ўдзел Бядулі ў перакладзе яго твораў на беларускую мову. «Цяпер я іх глыбей разумею. Які вялікі гонар, якая асалода перакладаць творы Тараса Рыгоравіча! Я перакладаю іх з любоўю». Як вядома, Бядуля пераклаў для зборніка «Кабзар», выдадзенага ў 1939 г. на беларускай мове, вершы «Халодны Яр», «Давідавы псалмы», «Мінаюць дні, мінаюць ночы», «Тры гады», «Запавет», «Русалка», «Лілея», «Думы мае, думы мае», паэму «Ведзьма», вершаваны цыкл «У каземаце».

Цікавасць З. Бядулі да ўкраінскай літаратуры ўзмацнілася ў паслякастрычніцкія гады. Творчасць маладых паэтаў Савецкай Украіны прыцягвала Бядулю перш за ўсё сваёй навізной, духам смелага творчага пошуку, пафасам гістарычнага аптымізму: «Чуецца размах, свежасць, знутры кіпучая мяцежнасць, бурлівасць, новы быт — на канве самабытнай украінскай лірычнасці, размах вольнага стэпу, бадзёрасць і радасць жыцця» («Навейшая ўкраінская паэзія», 1923). Свае вывады і меркаванні Бядуля рабіў на аснове разгляду вершаў і паэм І. Куліка, В. Палешчука, М. Хвілёвага.

Бясспрэчна, бурлівы час першых паслякастрычніцкіх гадоў паклаў адбітак і на Бядулевых ацэнках і ўяўленнях. Так, ён некрытычна паўтараў выказванні ультрарэвалюцыйных украінскіх паэтаў, гатовых адкінуць вопыт мінулага ў імя новага мастацтва.

«Не хочам трымацца ніякіх літаратурных традыцый. Не прызнаем эвалюцыі літаратурных формаў і ва ўкраінскай літаратуры ніякага месца займаць не хочам. Апі «збагачваць роднае пісьменства, скарбніцу нацыянальнай творчасці», ані быць украінскімі наогул пісьменнікамі не хочам. Адзіны навуковы спосаб думання — марксізм, адзіная праўдзівая ідэя — камунізм. Наш пралетарскі змест знойдзе новую форму. Маем што казаць — і гэта самае галоўнае».

Зусім відавочна, што на такой вось лявацкай пралеткультаўскай эстэтычнай платформе стварыць новае савецкае мастацтва было немагчыма. Фактычна Бядуля-крытык сам абвяргаў сябе, закрэсліваў свае захапленні псеўдарэвалюцыйнай наватарскай паэзіяй, калі пачынаў аналізаваць традыцыйную пейзажную лірыку — верш М. Васількіўскага «Снег»: «Так і чуеш, як падае снег, мігціць нежна перад вачыма, тае ў слязінку на тваіх брывах, падае на бязмежную бель стэпаў, шуршыць пад нагамі, кутае цябе ўсяго і напявае табе на вуха ціхую песню ўкраінскіх даляў...»

Пяру Бядулі-крытыка належыць таксама шэраг матэрыялаў, прысвечаных выдатным майстрам слова, у прыватнасці М. Багдановічу — «У гадаўшчыну» (1918) і «Натхненне і гармонія» (1920). Гэта, вядома, не разгорнутыя гісторыка-літаратурныя даследаванні, не строга навуковы аналіз спадчыны Багдановіча. Бядуля абмяжоўваецца тут агульнай ацэнкай ролі паэта ў беларускай літаратуры і нацыянальна-культурным будаўніцтве. Але Бядулева ацэнка аказалася змястоўнай, бо заснавана яна на тонкім адчуванні прыроды таленту Багдановіча, адметнасці яго светаўспрымання. Бядуля добра ведаў Багдановіча, заўжды ставіўся да аўтара «Вянка» з увагай і любоўю. Таму і здолеў ён стварыць эскізны, але яскравы партрэт мастака-грамадзяніна, патрыёта, выдатнага майстра слова.

Вядома, з вышыні сённяшніх дзён некаторыя ацэнкі і меркаванні Бядулі-крытыка ўспрымаюцца як недакладныя, аднабаковыя. Напрыклад, вось гэты тэзіс: «Калі і згадзіцца з тым, што для шырокіх масаў чытачоў паэзія яго не ўся даступна, дык затое інтэлігенты знаходзяць у яго сціслых класічных штрыхах таямніцу, квінтэсенцыю старакультурнага беларускага інтэлігента, беларускае туманнае казачнае «калісь», намаляванае кволапявучымі тонамі». Бясспрэчна, сёння гаварыць пра недаступнасць усёй паэзіі Багдановіча шырокім масам не прыходзіцца, хоць і няма патрэбы ідэалізаваць сучаснага чытача. А ў артыкуле «Натхненне і гармонія», справядліва гаворачы аб высокай мастацкай дасканаласці паэзіі Багдановіча, Бядуля тым не менш абмінуў творы паэта, прасякнутыя грамадзянскім зместам, сацыяльным пафасам. Паводле Бядулі, Багдановіч — гэта перш за ўсё «адзін

з шчырых жрацоў хараства». Галоўную заслугу паэта крытык бачыў у тым, што ён узбагаціў «родную нацыянальную паэзію новымі формамі, новымі гармоніямі, фарбамі, вобразамі і мелодыямі», што «на беларускай ліры ён выпрабоўваў розныя акорды паэзіі, паказваючы гібкасць і меладыйнасць жывой беларускай мовы, на якой можна выказаць самыя чуць улоўныя размаітасці думак і пачуццяў». Меркаванні крытыка слушныя, справядлівыя, але яны не вычэрпваюць зместу ўсёй творчасці паэта. Тут пакінута па-за разглядам тое, што ў многіх вершах Багдановіча знайшлі глыбокае ўвасабленне і сацыяльныя супярэчнасці, класавыя канфлікты эпохі. Без гэтых тэм і матываў вобраз Багдановіча-паэта застанецца няпоўным, збедненым.

Вялікую цікавасць уяўляюць успаміны З. Бядулі пра М. Багдановіча, напісаныя да 6-й гадавіны з дня смерці паэта. Бядуля ўзнаўляе канкрэтныя ўмовы жыцця і працы Багдановіча ў Мінску на працягу шасці месяцаў — з восені 1916 да вясны 1917 года, малюе высакародны воблік беларускага песняра, раскрывае свет яго паэтычных захапленняў і грамадзянскіх клопатаў. «...ён быў ідэалістам-фанатыкам, чалавекам надзвычайна добрым і ўважлівым да людзей, хаця на першы выгляд ён здаваўся суровым і замкнутым. Невялікую казённую пенсію сваю раздаваў направа і налева, а для самога сябе быў бездапаможным, як малое дзіця. За шэсць месяцаў сумеснага жыцця з М. Багдановічам я не прыкмячаў, каб ён, нягледзячы на сваю хворасць, сядзеў хоць хвіліну без працы».

У Бядулі шмат «прыкладной, канкрэтнай крытыкі», дзе ён ставіў неадкладныя пытанні бягучага культурнага жыцця. Вядома, многія з тых пытанняў вырашыла жыццё. Але матэрыялы не страцілі цалкам свайго значэння, таму што напісаны яны майстрам слова. Ход думак, логіка разважанняў Бядулі-крытыка для нас па-ранейшаму цікавыя і павучальныя. Так, Бядуля неаднаразова прыцягваў увагу грамадскасці 20-х гадоў да неспрыяльных умоў, у якіх даводзілася тады жыць пісьменнікам. Ён выкрываў абывацельскія чуткі аб нібыта высокіх пісьменніцкіх ганарарах. Аднак пры гэтым Бядуля не абмяжоўваўся толькі бытавым аспектам, хоць і надаваў яму вялікае значэнне. Пытанні побыту, як гэта можна бачыць на прыкладзе артыкула «Умовы працы нашых пісьменнікаў» (1928), заўжды пераводзіліся ім у сацыяльны план. Так, дрэнныя бытавыя ўмовы, прывязанасць пісьменніка да месца службы перашкаджалі мастакам слова сістэматычна наведваць розныя куткі рэспублікі, знаёміцца з працоўнымі калектывамі. «Наш пісьменнік,— гаворыць Бядуля,— адарваны ад жыцця. Гэта праўда. Гэта факт. Ён карыстаецца ў творчасці толькі тымі запасамі, якія прынёс з вёскі некалькі год таму назад або ў ка-

роткія часы адпачынку, калі ён меў магчымасць выехаць на дачу. Пісьменнік збірае толькі тыя дробныя асколкі жыцця, якія мільгаюць часам перад яго вачыма, і, безумоўна, які матэрыял — такая і творчасць. Дзеля гэтага наша сучаснасць у творах пісьменніка выяўлена або з рэзка адмоўных бакоў, або праз меру дадатна, бо ён чэрпае свае веды ў большасці з газетных радкоў і выпадковых сустрэч з людзьмі». А такія сустрэчы павінны быць паўсядзённыя, разнастайныя.

У гэтым жа артыкуле, абараняючы годнасць пісьменніка ад нападак мяшчанскай публікі, змагаючыся за ўмацаванне погляду на творчую працу як на працу духоўнага парадку, Бядуля адкрыта сказаў і аб шкодзе групавой барацьбы, аб нізкай культуры палемікі, аб адсутнасці цэхавай дружбы і ўзаемнай павагі паміж пісьменнікамі. «Нідзе ні ў якім іншым цэху так дрэнна між сабою не жывуць, як нашы літаратурныя групы. Калі б хто зацікавіўся скласці слоўнік выразаў некаторых крытыкаў, дык там знойдзецца багаты процант такіх брыдкіх лаянак, што дзіва бярэ, як яны праскочылі ў друк...»

Бядуля рашуча запярэчыў супраць тактыкі наклейвання палітычных ярлыкоў, што мела месца ў 20-я гады: «Здаровай крытыкі ў нас пакуль што няма. Ёсць крытыка групавога характару. Кожны групавы крытык бачыць у членах сваёй групы выключна пралетарскую ідэалогію, а ў іншых буржуазную. Такога характару крытыкі толькі прыносяць шкоду нашай літаратуры».

Рэцэнзіямі на спектаклі і артыкуламі, прысвечанымі пытанням драматургіі, Бядуля ўнёсіў свой пачэсны ўклад у беларускую тэатральную крытыку. Нататка «Беларускі вечар у Вільні» (1913), артыкул «Тэатр і мастацтва» (1919), рэцэнзія на п'есу Я. Купалы «Раскіданае гняздо» (1919), водгук на пастаноўку п'есы А. Луначарскага «Чырвоная маска» (1922?), артыкулы «Наш тэатр» (1921), «Беларускі тэатр» (1922), «Батлейка» (1922), «Тэатр у правінцыі» (1923), «Тэатр на вёсцы» (1924), «Новая эпоха ў гісторыі беларускага тэатра» (1926) — вось асобныя вехі на шляху станаўлення Бядулі — тэатразнаўцы і крытыка. У чым сутнасць яго канцэпцыі як даследчыка гісторыі тэатра і тэатральнага крытыка? Перш за ўсё ў прызнанні за тэатрам вялікага грамадска-выхаваўчага значэння. «Тэатр,— пісаў Бядуля,— гэта настаўнік масаў. Жывымі дзеямі, шчырымі словамі і вобразамі, у якіх злучаны ў адно ўсе мастацтвы, праз фільтр якіх праходзіць усё чалавечае жыццё, тэатр дае масам пэўнае выхаванне, кіруе імі, варушыць іх думкі і пачуццё і выхоўвае ў людзей тую ці іншую псіхіку».

Істотна і тое, што арыентацыю драматургаў на вопыт народнага жыцця і нацыянальныя традыцыі Бядуля разглядаў як адну

з першасных умоў паспяховага развіцця тэатра. Невыпадковай была тая высокая ацэнка, якую Бядуля даў п'есам Я. Купалы «Раскіданае гняздо», «Машэка» і «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча. Ім падкрэслена глыбокая народнасць купалаўскай драмы, а сам Я. Купала ахарактарызаваны як «мастак праўдзівага жыцця». Музычная драма М. Чарота «На купаллe» карыстаецца шырокай папулярнасцю ў гледача таму, падкрэслівае Бядуля, што ў ёй «ёсць... глыбокі змест — мнагафарбнасць душы нашага народа, якая крысталізавалася ў сваёй першабытнай юнацкай свежасці».

Шмат увагі надаваў Бядуля-крытык праблемам драматургічнага майстэрства — сцэнічнасці п'есы, мове дзеючых асоб. Багацце і разнастайнасць тэатральнага рэпертуару, сацыяльная даступнасць драматычных твораў, наватарскія пошукі ў галіне драматургіі заўжды хвалявалі Бядулю. У водгуках на тэатральныя пастаноўкі пачатку 20-х гадоў крытык, здавалася б, іншы раз выяўляў празмернае захапленне фармальным эксперыментам рэжысёраў. Аднак было б несправядліва папракаць пісьменніка за тое, што ён нібыта недаацэньваў змястоўны пачатак у мастацтве. Наадварот, Бядуля-крытык якраз і гаварыў: драматычны твор, пазбаўлены глыбокай мастацкай думкі, не зацікавіць гледача, не кране струн яго душы і не будзе мець доўгага сцэнічнага веку.

Прыкметнай актыўнасцю вылучаўся Бядуля-публіцыст у перыяд 20—30-х гадоў. Ён плённа супрацоўнічае з многімі беларускімі газетамі, перш за ўсё з «Савецкай Беларуссю», з часопісамі, шмат ездзіць па рэспубліцы, друкуе падарожныя нататкі, дзеліцца ўражаннямі ад наведвання фабрык і калгасаў, воінскіх падраздзяленняў, кааператываў, музеяў, мастацкіх выставак. Бядуля піша нататкі, фельетоны, карэспандэнцыі, нарысы пра нараджэнне новага чалавека, пра негатыўныя з'явы гарадскога і калгаснага жыцця, пра бытавую неўладкаванасць студэнцкай моладзі і цяжкое становішча дзіцячых дамоў, пра вялікую ролю настаўніка ў вёсцы. «Калі настаўнік сумленны працаўнік, дык ён не толькі ў школе працуе, але па-за яе сценамі. Па-за сценамі школы ў сялянскай грамадзе ён вядзе вялікую працу — і парадзіць у гаспадарцы, і кааператыў зарганізуе, і аб фальшах рэлігіі пагаворыць са старыкамі, і моладзь зарганізуе і г. д. і г. д. Чэснага настаўніка, грамадзянскага дзеяча ўсе ў вёсцы любяць і паважаюць. Пад яго ўплывам знаходзіцца ўся ваколіца. Пералом у псіхіцы вясковага жыхара чуецца вялікі. Сялянства робіцца ўсё болей і болей свядомым» («На пераломе»).

Тэма сувязі горада і вёскі, тэма барацьбы за ўсталяванне ў вёсцы новых форм жыцця, новых адносін да працы займала вядучае месца ў беларускім друку 20-х гадоў. У праўдзівым асвятленні гэтай тэмы ёсць і заслуга З. Бядулі. У прыватнасці, ён час-

та пісаў пра становішча селькораў («Селькор і вёска», «Свята чырвонага друку і нашы карэспандэнты», «Сілуэты»). Праз лёс вясковых карэспандэнтаў Бядуля здолеў паказаць, якімі цяжкімі шляхамі ішла беларуская вёска ў сацыялізм. Яна прагна лавіла сумленнае слова праўды, але яна ж і з падазронасцю ставілася да перамен, баялася іх. Селькор 20-х гадоў быў веснікам новага, ён выкрываў не толькі цемнату і забабоны, але і злоўжыванне ■ боку прадстаўнікоў вясковай улады. Абаронцы старога, учарашнія багацеі, нярэдка помсцілі вясковым карэспандэнтам, рабілі замах на іх жыццё.

3. Бядулю належыць багата выдатных твораў для дзяцей і юнацтва. Лагічна, што і Бядуля-публіцыст ахвотна звяртаўся да пытанняў, звязаных ■ гэтай тэмай. У прыватнасці, ім напісаны шэраг артыкулаў аб цяжкім матэрыяльным становішчы дзіцячых дамоў, аб дрэнных умовах жыцця дзяцей-сірот. Вось на якой эмацыянальнай ноце заканчваецца яго нататка «Дзеці Камуны»: «З цяжкім уражаннем выйшаў я з дзіцячага дома № 2, выйшаў з сур'ёзных, халодных мураваных сцен на вуліцу, як бы вызваліўся з турмы...

Гэты дом ужо не напамінае «маленькай рэспублікі», не напамінае Камуны...

Ніводнай радаснай усмешкі не бачыў я на дзіцячых тварах, ніводнага вясёлага слова.

Шкада... шкада».

«Справа ў тым, што дзяцей трэба апрача ўсяго любіць...» — зазначае Бядуля. Адсутнасць любві, адсутнасць сапраўднага клопату, казённыя, бяздумныя адносіны да дзяцей — вось што абурыла пісьменніка.

Да ліку змястоўных публіцыстычных матэрыялаў Бядулі 30-х гадоў адносіцца і артыкул «Геній сусветных працоўных мас». Гэта адзін ■ першых яскравых штрыхоў у беларускай літаратурнай лeнініяне. Тут лаканічна акрэсліваюцца рысы Леніна — геніяльнага палітыка і вучонага, раскрываецца характар ленінскага вучэння, арыентаванага на практыку будаўніцтва сацыялізма.

«Ленін пакінуў нам сваё вялікае вучэнне, вычарпанае з нетраў псіхікі працоўных мас усіх народаў, усіх часоў, і кінуў гэтае вучэнне, як нейкае жыватворчае сонца, на сакавітую глебу...

Будаўніцтва па Леніну, ленінцы, ленінізм, ленінскія куткі і г. д., усё, што носіць імя вялікага Леніна,— гэта не ёсць нейкі фетышызм, нейкі ленінскі культ — не! Гэта само нашае новае жыццё, якое будуецца па Леніну».

Гаворачы пра аператыўнасць Бядулі-журналіста, газетчыка, трэба адзначыць, што часта яна суправаджалася глыбокай змястоўнасцю яго меркаванняў і прапаноў, уменнем бачыць далёкую

перспектыву, заўтрашні дзень рэспублікі. Так, яшчэ ў 1923 годзе Бядуля вынес на суд грамадскасці прапанову аб неабходнасці рэарганізаваць Інбелкульт ў Беларускую краёвую Акадэмію навук з мэтаю болей эфектыўнага і мэтанакіраванага развіцця навуковых даследаванняў у розных галінах. А назіраючы за праявамі групавой барацьбы ў літаратурным асяроддзі, Бядуля таксама ў 20-я гады гаварыў пра мэтазгоднасць утварэння адзінага Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Што датычыць дзейнасці Бядулі-публіцыста другой палавіны 30-х гадоў, дык трэба сказаць, што яму, як і многім іншым тагачасным аўтарам, не заўсёды ўдавалася заставацца на адпаведнай прафесійнай і маральнай вышыні. Змест і пафас яго крытычных публіцыстычных матэрыялаў нярэдка ўступаў у супярэчнасць з праўдай і ісцінай. Нямала ў артыкулах Бядулі гэтага часу фальшывай патэтыкі, таннага аптымізму, ідэалізацыі жыцця, хваласпеву ў гонар Сталіна. Нямала і выпадкаў, калі ён далучаў свой пісьменніцкі голас да выкрыцця так званых ворагаў народа — бязвінных ахвяр культаўскага дэспатызму і беззаконня.

Аднак лепшыя публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя матэрыялы З. Бядулі, прасякнутыя высокім грамадзянскім пафасам, роздумам пра лёс чалавека, народа, краіны, засталіся ў гісторыі беларускай культуры.

*Міхась Мушынскі*

*Язэп Крушынскі* (с. 5)

Другая кніга рамана «Язэп Крушынскі» друкуецца па тэксце часопіса «Узвышша», 1931, № 1—4, 10, 11—12, дзе ўпершыню апублікавана.

Завяршаючы публікацыю рамана, часопіс змясціў наступную заўвагу пісьменніка: «Рыхтуючы твор да асобнага выдання, я некаторыя са змешчаных тут раздзелаў грунтоўна перапрацаваў і напісаў некалькі новых, якія сюды не ўвайшлі». Да гэтага трэба дадаць, што змены адбыліся і ў кампазіцыйнай структуры твора: некаторыя раздзелы часопіснага варыянта былі падзелены на асобныя часткі і перастаўлены месцамі. У выніку чаго з 20 раздзелаў першай публікацыі атрымалася 43 у асобным выданні, якое выйшла ў 1932 годзе.

Вывучэнне і тэкстуальны аналіз двух варыянтаў паказалі, што перапрацоўка ў значнай ступені не адпавядала першапачатковай аўтарскай задуме і, відаць, была выклікана хутчэй палітычнымі матывамі, чым творчымі. Адсюль тая тэндэнцыйнасць і памылковасць у ацэнцы некаторых грамадска-палітычных падзей і падзей

культурнага жыцця 20-х гадоў, што, безумоўна, пашкодзіла твору ў цэлым і знізіла яго мастацкія вартасці.

Таму рэдкалегія лічыць, што часопісны варыянт рамана найбольш адпавядае творчай волі пісьменніка, але і ў гэтым тэксце зроблены нязначныя купюры, бо іх змест сугучны дапісаным пазней раздзелам (напрыклад, сатырычная ацэнка Акадэмічнай канферэнцыі 1926 года і яе ўдзельнікаў, шаржыраваныя партрэты некаторых культурных дзеячаў, якія пазней несправядліва абвінавачваліся ў нацыяналізме).

*Сярэбраная табакерка* (с. 250)

Упершыню ўрыўкі з аповесці-казкі «Сярэбраная табакерка» былі апублікаваны ў газетах «Чырвоная змена», 1940, 4 кастр. («Мясныя буракі»); «Літаратура і мастацтва», 1940, 5 кастр. («Жыві, Ксаверый!»), «Звязда», 1940, 6 кастр. Поўнасцю пры жыцці пісьменніка не друкавалася. Упершыню — Полымя, 1953, № 10.

Друкуецца па рукапісе, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.

Быў апошні перадваенны год. Пад рукапісам «Сярэбранай табакеркі» — паметка: «Пухавічы — Мінск, 1940 г.». Гэта аповесць — апошні вялікі твор пісьменніка.

Яшчэ ў 1922 годзе ў зборніку вершаў «Пад родным небам» у раздзеле «Зачараваны край» былі надрукаваны «Палескія байкі». Услед за Купрыным, якога Палессе натхніла на неўміручую «Алесю», Змітрок Бядуля выкарыстоўвае ў сваёй паэме багаты, але малараспрацаваны фальклор Палесся. У адным з раздзелаў «Палескіх баек» расказваецца, як паляшук злавіў смерць, схаваў у сваім ражку і што з гэтага выйшла. Выкарыстаўшы фальклорны сюжэт, пісьменнік не падняўся да глыбокіх філасофскіх абагульненняў. Між тым «вечнае» пытанне жыцця і смерці, шчасця чалавека — важная праблема ў творчасці многіх выдатных пісьменнікаў-гуманістаў усіх часоў, усіх народаў. Невыпадковым быў зварот Змітрака Бядулі да вечнага сюжэта.

У свеце — неспакойна. Пісьменніка хвалюе будучыня свайго народа, ён задумваецца аб далейшым лёсе ўсяго чалавецтва. Перад З. Бядулем пастаўлены рэальныя жыццёвыя праблемы, але яны сацыяльна завостраны, і пісьменнік іх вырашае ў казачна-фантастычнай форме, здзіўляючы сучаснага чытача навізной формы, ідэйна-мастацкімі адкрыццямі.

Галоўнае з іх — тэма барацьбы паміж дабром і злом. Праз многія выпрабаванні праходзяць героі «Сярэбранай табакеркі», што дапамагае ім выхаваць у сабе лепшыя чалавечыя якасці — смеласць, працавітасць, згуртаванасць, якія становяцца надзвычай патрэбнымі пры змаганні з несправядлівасцю, з цёмнымі дэс-

патычнымі рыцарамі смерці. Галоўныя героі казкі вельмі дарагія аўтару, і ён надзвычай шчодра надзяляе іх шматлікімі талентамі, розумам, кемлівасцю, вынаходлівасцю — тымі цудоўнымі рысамі, якія заўсёды былі ўласцівы лепшым прадстаўнікам народа. Наколькі нікчэмнымі, беспрынцыпнымі, маральна спустошанымі паказваюцца кардынал Баніфацы, пані Сарачынская. І ці не ў завуаліраванай форме паказваюцца зусім другі дэспатызм, другія злачынствы, калі гаворыцца пра тую, якая зусім не думае пра іншых, якая марыць сцерці ў тытунь усіх тых, хто не толькі дрэнна паглядзіць, але і дрэнна падумае.

Нягледзячы на казачны сюжэт і пэўную абстрагаванасць «Сярэбранай табакеркі», у ёй адсутнічае традыцыйны для казкі шчаслівы фінал.

Гэта невыпадкова. Пісьменнік адчувае актуальнасць свайго твора для многіх новых пакаленняў, ведаючы, што на пытанні, пастаўленыя ў «Сярэбранай табакерцы», пакуль няма адказу.

## ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

*Не адным хлебам...* (с. 384)

Упершыню — Наша ніва, 1913, 23 мая.
Датуецца годам апублікавання.

*Купальская ноч* (с. 386)

Упершыню — Наша ніва, 1913, 20 чэрв.
Датуецца годам апублікавання.

*Купалле ў Вільні* (с. 387)

Упершыню — Наша ніва, 1913, 5 ліп.
Датуецца годам апублікавання.

*Падмогі* (с. 388)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 6 чэрв.
Датуецца годам апублікавання.

*К жыццю!* (с. 389)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 12 чэрв.
Датуецца годам апублікавання.

*Святло* (с. 392)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 3 ліп.
Датуецца годам апублікавання.

*Чакайце сваіх...* (с. 393)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 9 кастр.
Датуецца годам апублікавання.

*Жыла, жыве і будзе жыць!..* (с. 394)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 13 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

*Натхненне і гармонія* (с. 396)

Упершыню — Рунь, 1920, № 5—6.

Датуецца годам апублікавання.

Рафаэль Санці (1483—1520) — італьянскі жывапісец, архітэктар, прадстаўнік Высокага Адраджэння.

*Мае ўспаміны* (с. 400)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1923, 16 чэрв.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны ў сувязі з 6-й гадавінай з дня смерці М. Багдановіча, які жыў у З. Бядулі ў 1916—1917 гг. у час свайго прыезду ў Мінск. Да апошніх гадоў захоўваўся дом, у якім жылі пісьменнікі, разбураны ў 1986 г. М. Багдановічу З. Бядуля прысвяціў верш, шэраг артыкулаў-успамінаў.

*Кузня беларускага мастацтва* (с. 403)

Упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 9, 10 верас.

Датуецца годам апублікавання.

*Буйніцкі І. Ц.* (1861—1917) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Стваральнік нацыянальнага, прафесійнага тэатра.

*Сервантэс Сааведра Мігель дэ* (1547—1616) — іспанскі пісьменнік.

*Шылер Іаган Фрыдрых* (1759—1805) — нямецкі паэт, драматург, тэарэтык мастацтва.

*Шэкспір Уільям* (1564—1616) — англійскі паэт, драматург. Буйнейшы гуманіст эпохі Позняга Адраджэння.

*Мальер* (сапр. Жан Баціст Паклен) (1622—1673) — французскі камедыёграф, акцёр, тэатральны дзеяч, рэфарматар сцэнічнага мастацтва.

*На рубяжы* (с. 409)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1923. 17, 18, 23 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

*«Плуг»* — украінскае савецкае аб'яднанне пісьменнікаў, заснавана ў 1922 г. у Харкаве.

*«Гарт»* — украінскае савецкае аб'яднанне пісьменнікаў, заснавана ў 1923 г.

*Ірэмія* — старажытнаяўрэйскі прарок. 7 — пач. 6 ст. да н. э. Адна з кніг Ветхага завету носіць яго імя.

*Ад кустарніцтва да мастацкай творчасці* (с. 418)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1923, 9 кастр.

Датуецца годам апублікавання.

*Аленін А. А.* (1865—1944) — савецкі кампазітар, у 1923—1924 гг. уваходзіў у Беларускую песенную камісію, апрацоўваў беларускія народныя мелодыі.

*Гарбузаў М. А.* (1880—1950) — савецкі музыказнаўца, доктар мастацтвазнаўства.

*Аладаў М. І.* (1890—1972) — беларускі савецкі кампазітар і педагог, народны артыст БССР.

*Іпалітаў-Іванаў* (сапр. Іванаў) *М. М.* (1859—1935) — рускі савецкі кампазітар, дырыжор, музычны, грамадскі дзеяч, у 1923—1924 гг. узначальваў Беларускую песенную камісію.

*Лебедзева Н. І.* (1894—1978) — рускі савецкі этнограф, кандыдат гістарычных навук, даследавала матэрыяльную культуру беларусаў.

*Манюшка Станіслаў* (1819—1872) — польскі кампазітар, дырыжор, педагог. Стваральнік нацыянальнай класічнай оперы, класік польскай вакальнай лірыкі. На працягу ўсяго жыцця падтрымліваў сувязь з беларускімі музыкантамі, кампазітарамі.

*Нікольскі А. В.* (1874—1943) — савецкі дзеяч харавога мастацтва, кампазітар, музычны пісьменнік, педагог, аўтар апрацовак народных песень.

*Прохараў Я. В.* (1870—1942) — кампазітар і музычны этнограф. Збіральнік песень народаў Расіі, у тым ліку і беларусаў.

*Радчанка З. Р.* (1839—1916) — беларуская фальклярыстка і этнограф.

*Рагоўскі Людамір Міхал* (1881—1954) — польскі кампазітар і дырыжор. Творчасць Рагоўскага цесна звязана з беларускай музычнай культурай.

*Раманаў Е. Р.* (1855—1922) — беларускі этнограф, фальклярыст.

*Тэраўскі У. В.* (1871—1938) — беларускі савецкі харавы дырыжор, кампазітар, фальклярыст.

*Чуркін М. М.* (1869—1964) — беларускі савецкі кампазітар, фальклярыст, педагог, народны артыст БССР.

*Шэйн П. В.* (1826—1900) беларускі і рускі фальклярыст і этнограф.

*Янчук М. А.* (1859—1921) — беларускі, украінскі і рускі вучоны-славіст (гісторык, этнограф, фальклярыст, літаратуразнавец).

*Квітка К. В.* (1880—1953) — украінскі савецкі музыказнавец-фальклярыст. Муж Лесі Украінкі.

*Ад гуртковай навуковай працы — да Беларускай Акадэміі навук*

(с. 422)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1923, 12 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

*К 15-гадоваму юбілею літаратурнай працы Цішкі Гартнага* (с. 424)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1923, 13 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

Акрамя артыкула, З. Бядуля прысвяціў Цішку Гартнаму ў сувязі з 15-годдзем творчай дзейнасці верш «Паэту-гарбару».

*Чатырохступнёвая лесвіца* (с. 425)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1924, 4 мая.

Датуецца годам апублікавання.

*Думкі к часу* (с. 427)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1924, 8, 9, 22 мая.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул прысвечаны актуальным праблемам тагачаснай крытыкі.

*Б'юцца ў адчыненыя дзверы* (с. 436)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1924, 7, 9 кастр.

Датуецца годам апублікавання.

*Сем чырвоных выраяў* (с. 442)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1924, 7 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

Прысвечаны 7-й гадавіне Вялікага Кастрычніка.

*Савінкаў Б. В.* (1879—1925) — рускі палітычны дзеяч, адзін з лідэраў партыі эсэраў, пісьменнік.

*Пілсудскі Ю.* (1867—1935) — польскі палітычны дзеяч, дыктатар Польшчы ў 1926—1935 гг.

*Геній сусветных працоўных мас* (с. 446)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 21 студз.

Датуецца годам апублікавання.

Прысвечаны гадавіне смерці У. І. Леніна.

З. Бядуля быў адным з першых савецкіх пісьменнікаў, хто адгукнуўся на смерць правадыра, напісаў у студзені 1924 г. паэму «Чырвона-чорная жалоба» (Полымя, 1924, № 1).

*«Маладняк» на Усходняй Беларусі* (с. 449)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 19 лют.

Датуецца годам апублікавання.

*Чырвоная маска* (с. 453)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 17 лют.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул надрукаваны пад рубрыкай «Тэатр і мастацтва», рэцэнзія на спектакль па п'есе А. В. Луначарскага, які адбыўся 15 лютага 1925 г.

*«Панскі дух»* — п'еса Н. Бываеўскага.

*«Савецкі чорт»* — п'еса Ю. Юр'ева.

*Ржэцкая Л. І.* (1899—1977) — беларуская савецкая актрыса, народная артыстка СССР.

*Грыгоніс Г. Ю.* (1899—1955) — беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР.

*Ждановіч Ф. П.* (1884—1942) — беларускі савецкі рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра, заслужаны артыст БССР.

*Міровіч* (сапр. Дунаеў) *Е. А.* (1878—1952) — беларускі савецкі рэжысёр, акцёр, драматург, педагог. Народны артыст БССР, прафесар.

*Да 15-годдзя літаратурнай творчасці Алеся Гурло* (с. 456)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 22 сак.
Датуецца годам апублікавання.

*Тры этапы беларускага друку* (с. 459)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1925, 15 мая.
Датуецца годам апублікавання.

*Моладзь і краязнаўства* (с. 462)

Упершыню — Звязда, 1928, 14 студз.
Датуецца годам апублікавання.

*Свята беларускай культуры* (с. 463)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1928, 16 кастр.
Датуецца годам апублікавання.

*Умовы працы нашых пісьменнікаў* (с. 464)

Упершыню — Звязда, 1928, 19 лістап.
Датуецца годам апублікавання.

*Крэз* (595—546 гг. да н. э.) — апошні цар Лідзіі, з 560 г. значна пашырыў тэрыторыю свайго царства, разбіты і ўзяты ў палон Кірам II, а яго царства далучана да Персіі. Багацце Крэза ўвайшло ў прымаўку.

# КАРОТКІ ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

## 1886

*Красавік, 23.*

Нарадзіўся ў мястэчку Пасадзец Вілейскага пав. Віленскай губ. *(Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн.: ДВБ, 1963. С. 78.)*

## 1893

Пачатак вучобы ў хедэры. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1898

Вучоба ў ешыбоце — яўрэйскім духоўным вучылішчы ў мястэчках Даўгінава і Ілья. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1899

Пачынае пісаць на яўрэйскай мове. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1901

Пакінуў вучобу ў ешыбоце і вярнуўся ў Пасадзец. Займаецца прыватнымі ўрокамі. Зімой працуе на лесарасрацоўках, летам — на лесасплаве. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1907—1908

Захапляецца творчасцю на рускай мове. Пасылае свае творы ў рускія часопісы. Знаёміцца з газетай «Наша ніва». *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1910

*Ліпень, 4*

Напісаў верш «Мелодзія», які пазней быў надрукаваны пад назвай «Мой спеў». *(Наша ніва, 1911, 20 студз.)*

*Жнівень, 5*

Апублікаваў допіс «З в. Пасадцы». *(Наша ніва, 5 жн.)*

*Верасень, 23*

Апублікаваў апавяданне «Пяюць начлежнікі», допіс «В. Пасадцы». *(Наша ніва, 23 верасн.)*

## 1911

*Кастрычнік, 20*

Апублікаваў верш «Неўраджай». *(Наша ніва, 20 кастр.)*

*На працягу года*

Апублікаваў верш «...Облита лунным светом круглая поляна...» *(На берегах Невы, 1911, № 16.)*

## 1912

*На працягу года*

Апублікаваў: апавяданне «Тулягі», зборнік «Нашай нівы», № 1.— Вільня, 1912, с. 60—65; апавяданні «Сон старога Анупрэя», «Пяць лыжак заціркі», зборнік «Нашай нівы», № 2,— Вільня, 1912, с. 53—60; апавяданне «Даль», Молодые порывы, 1912, № 6; верш «Стансы», Молодые порывы, 1912, № 7; верш «Пастушка», Молодые порывы, 1912, № 9; верш «Лунный рог опускается низко над бором...», Молодые порывы, 1912, № 10; верш «О, яд души твоей люблю...», На берегах Невы, 1912, № 3; вершы «Из зимних этюдов», «От рассвета окна белы...», апавяданне «Христос на кресте», На берегах Невы, 1912, № 5; верш «Пушинка снега», На берегах Невы, 1912, № 7; верш «О мрамор хрустальная ваза разбилась...», На берегах Невы, 1912, № 8.

У канцы 1912 г. пераязджае з Пасадца ў Вільню. Працуе ў беларускіх культурных арганізацыях: у выдавецкім таварыстве, сакратаром у рэдакцыі газеты «Наша ніва». Знаёміцца з Янкам Купалам, сустракаецца з В. Брусавым, К. Бальмантам. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1913

*На працягу года*

Апублікаваў: апавяданне «Толькі што бярозка пукацца пачала...» і заклік «Будуйце, браты, будуйце!», Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год.— Вільня, 1913, с. 85—87, 96, верш «Пастушка», Ветви.— СПб, 1913, с. 39—40; апавяданне «На каляды к сыну», Калядная пісанка, 1913 год.— Вільня, 1913, с. 31—40; апавяданні і вершы ў прозе «Плач пралескаў», «Прытуліся ка мне», «Нуда мая», «Вечарам», «Як памру», «Пастушка», «Не бяжы за кветкай», «Бяссоннасць», «А можа, і праўда?..», «Захаваю нуду

сваю», «Маці», «Ці я вінаваты», «Над сажалкай», «З апошнімі праменнямі», «Далёкія аганькі», «Загадка», «Ля вапеннай гары», «Кветка», «Нібы рупны араты», «Снілася мне казка», «Араты», «У досвітку», «Восенню», «На што мне...», «Як мурашкі», «Не пазірай на мяне», «Аб ёй», «У заварожаных казках», «На гаі высокі», «Не шумі...», «Спатканне», «Шчасце не ў золаце», «Яе душа», «Жальба», «За ткапінай», «На правічанні», «Чырвоная казка», «Даль», «Без споведзі», Маладая Беларусь, 1913, серыя 1, сшытак 3, с. 69—104.

Выйшаў з друку зборнік «Абразкі» — СПб., 1913 (на вокл.: 1914).

## 1914

*На працягу года*

Апублікаваў: апавяданне «Ралля», Беларускі каляндар на 1914 год.— Вільня, 1914, с. 96; апавяданне «Гармонік плакаў», Беларускі каляндар на 1915 год.— Вільня, 1914, с. 39—41; абразкі «Акорды», Велікодная пісанка.— Вільня, 1914, с. 68—73; вясковы абразок «Смерць пастушка», Лучынка, № 2; апавяданне «Буслы», Лучынка, № 3; апавяданне «Умарыўся», Лучынка, № 6.

## 1915

Закрыццё «Нашай нівы». Вяртаецца з Вільні ў Пасадзец. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1916

*На працягу года*

Апублікаваў: апавяданні «Сон Анупрэя», «Пяць лыжак заціркі», Беларускі каляндар на 1916 год.— Вільня, 1916, с. 55—62; верш «Прыйдзіце», апавяданне «Дудар», Беларускі каляндар на 1917 год.— Вільня, 1916, с. 38—39, 43—45.

## 1916—1917

Пераязджае ў Мінск. Працуе ў Мінскім камітэце дапамогі пацярпеўшым ад вайны. У кастрычніку 1916 г. пазнаёміўся і зблізіўся з прыехаўшым у Мінск Максімам Багдановічам. *(Узвышша, 1928, № 7.)*

## 1917

*На працягу года*

Апублікаваў: верш «Два браты», Дзіцячая чытанка, 1917, с. 10—15; урывак з паэмы «Віленскія ўспаміны» («Жалезны воўк»), верш «Русалка», Літаратурны зборнік «Вольнай Беларусі», сшытак 1.— Мн., 1917. с. 19—21, с. 24.

## 1918

*Сакавік — чэрвень*

Апублікаваў серыю нарысаў «Прыфрантавы рубеж на Беларусі» (нататкі і ўражанні). *(Вольная Беларусь, 10, 17 сак., 14 крас., 23 чэрв.)*

*Красавік — ліпень*

Апублікаваў серыю нарысаў «Абразкі з правінцыі» (па Даўгінаўскаму гасцінцу). *(Беларускі шлях, 26, 29, 30 крас., 1, 4, 9, 10, 11 мая, 6, 21 чэрв., 2, 3, 4 ліп.)*

*Жнівень*

Апублікаваў артыкул «Жыды на Беларусі». *(Беларускі шлях, 18, 22, 23 жн.)*

*На працягу года*

У Кіеве асобным выданнем выйшаў зборнік выбраных твораў «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства № 1», у якім былі змешчаны творы Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., А. Гаруна, С. Палуяна; былі надрукаваны вершы З. Бядулі «Ці грэх...», «Сэрца прарока», апавяданні «Сымон», «Малітва малога Габрусіка».

## 1919

*Студзень, 17*

Апублікаваў верш «Наша вера». *(Беларусь, 17 студз.)*

*Студзень, 19*

Апублікаваў верш «Прысяга». *(Беларускае жыццё, 19 студз.)*

*Студзень, 21*

Апублікаваў паэму «Абмылка». *(Беларусь, 21 студз.)*

*Студзень, 28*

Апублікаваў вершы «З альбома» (Эмме Т...ай), «Сэрца, што падаеш так...», «З альбома» (Марыне С...ко), артыкул «Штрыхі аб беларускай культуры». *(Беларускае жыццё, 28 студз.)*

*Студзень, 30*

Апублікаваў верш «Смяртэльная свечка». *(Беларусь, 30 студз.)*

## 1920

*Студзень, 31*

Апублікаваў артыкул «Народная імправізацыя». *(Беларусь, 31 студз.)*

Апублікаваў верш у прозе «Рунь», апавяданне «Містэрыя». *(Рунь, № 1.)*

Апублікаваў апавяданне «Сімфонія». *(Беларускае жыццё, 19, 28 студз., 9 лют.)*

*Чэрвень*

Апублікаваў цыкл вершаў «Мелодыі» («Ноч», «Раніца», «Поўдзень», «Малітва», «Перад дажджом», «Пасля дажджу», «Вечар», «Настала ноч», «Чары ночы», балады «Ганулька», «Вісельнікі», «Скупы». *(Беларусь, 16 чэрв.)*

Апублікаваў мініяцюры «Сэрца чалавека», «Сваім шляхам», «Прарок», «Гімны», «Замчышча», «За праўду», «У жыццёвым змаганні». *(Беларусь, 18, 22 чэрв.)*

## 1921

*Студзень*

Апублікаваў верш «Кіпіць праца...». *(Сав. Беларусь, 19 студз.)*; артыкул «Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі)». *(Вольны сцяг, № 1)*; апавяданні «Панская хвароба», «Снежны дзед». *(Зоркі, № 1.)*

*Люты*

Апублікаваў апавяданні «Дванаццацігоднікі». *(Вольны сцяг, № 2)*; «Хлопчык і плотачка», «Сіла ў грамадзе», «Скарб», вершы «Вясной», «Мае забавы», «Кветка». *(Зоркі, № 2.)*

*Сакавік*

Апублікаваў апавяданне «Сярод ночы». *(Вольны сцяг, № 3)*; вершы «Кветкі», «Лісічка», казкі «Мурашка», «Скарб», «Пірог з мёдам». *(Зоркі, № 3.)*

*Май*

Апублікаваў артыкул «Няма людзей?». *(Сав. Беларусь, 29 мая.)*; казкі «Музыка», «Як божыя кароўкі хатку будавалі», артыкул «Як забаўляюцца дзеці ў беларускіх вёсках». *(Зоркі, № 5.)*

*Чэрвень*

Апублікаваў артыкул «Хата беларускага мастацтва». *(Сав. Беларусь, 12 чэрв.)*; казкі «Песні зямлі», «Як маленькі Сцёпка маляваў чалавека». *(Зоркі, № 6.)*

Апублікаваў артыкулы «Рукапіс чарнакніжніка XVIII веку (Багатыя матэрыялы па беларускай этнаграфіі)», «Беларуская народная мелодыя (З нарыса аб беларускім тэатры)». *(Вольны сцяг, № 6.)*

## 1921—1924

Працуе ў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», у 1922—1924 гг .кіруе літаратурным аддзелам газеты, рэдагуе дзіцячы часопіс «Зоркі». З 1924 г. працуе ў Інбелкульце, рэдагуе краязнаўчы часопіс «Наш край».

## 1922

*Студзень*

Апублікаваў верш «Светлай памяці Караленкі». *(Сав. Беларусь, 29 студз.)*; артыкул «Год у беларускіх песнях». *(Зоркі, № 1.)*; артыкул «Тэатр і выхаванне мас (Этапы развіцця беларускага тэатра)». *(Полымя, № 1.)*

*Да 15 лютага*

У Берліне выдадзены зборнік паэзіі «Білорусь» на ўкраінскай мове, у якім змешчаны вершы З. Бядулі, Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гаруна, М. Багдановіча, Г. Леўчыка. *(Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1964, с. 565.)*

## 1923

*Студзень*

Апублікаваў артыкул «Вечар беларускай рэвалюцыйнай паэзіі». *(Сав. Беларусь, 6 студз.)*; верш «Крылатыя машыны», апавяданне «У глушы». *(Маладняк, № 1)*; артыкул «Францішак Багушэвіч». *(Маладое жыццё, № 1.)*

*Не пазней красавіка*

У выдавецтве «Савецкая Беларусь» выйшаў з друку зборнік апавяданняў «На зачарованых гонях».

*Красавік, 18*

Пры Доме працаўнікоў асветы створана секцыя беларускіх пісьменнікаў. У часовае кіраўніцтва секцыі абраны З. Бядуля і А. Александровіч. *(Полымя, № 3—4.)*

*Май*

Напісаў паэму «Беларусь». *(Полымя, № 5—6.)*

*Май, 27*

Беларускай студэнцкай асацыяцыяй пры сельскагаспадарчым інстытуце ў Петраградзе праведзены літаратурны вечар, на якім чыталі творы З. Бядулі, Я. Купалы, Ц. Гартнага і іншых. *(Сав. Беларусь, 5 чэрв.)*

*Ліпень — жнівень*

Апублікаваў артыкул «Гарадскі аддзел народнай асветы, звярні ўвагу!». *(Сав. Беларусь, 3 ліп.)*

Апублікаваў паэму «Чырвоны каляндар» («Наш год...», «Дзевятае студзеня», «Міжнародны дзень кабеты», «Рэвалюцыя лютага», «Дзень Парыжскай камуны», «Ленскі расстрэл», «Першае мая», «Міжнародны дзень моладзі», «Дзень ураджаю», «Акцябр»). *(Полымя, № 7—8.)*

*Снежань, 13*

Літаратурная грамадскасць Беларусі адзначыла 50-годдзе з дня нараджэння В. Я. Брусава. Беларускія пісьменнікі Я. Купала,

Я. Колас, Ц. Гартны, З. Бядуля, М. Чарот і М. Гарэцкі паслалі юбіляру прывітальную тэлеграму. *(Сав. Беларусь, 16 снеж.)*

Апублікаваў артыкул «К 15-гадоваму юбілею літаратурнай працы Цішкі Гартнага (1908—1923)». *(Сав. Беларусь, 13 снеж.)*

Напісаў верш «Паэту-гарбару». *(Гартны Ц. На дзень пятнаццацігадовага юбілею. (1908—1923).— Мн., 1923, с. 33.)*

*Снежань, 14*

На вечары, прысвечаным 15-годдзю літаратурнай дзейнасці Ц. Гартнага, які адбыўся ў БДТ-1, З. Бядуля, Я. Колас, Я. Купала, М. Чарот чыталі свае вершы, прысвечаныя юбіляру. *(Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, с. 569.)*

## 1924

*Студзень, 21*

Памёр У. І. Ленін.

З. Бядуля прысвячае памяці правадыра паэму «Чорна-чырвоная жалоба» (У далейшых выданнях «Чырвона-чорная жалоба»). *(Полымя, № 1.)*

*Люты, 11*

На вечары беларускай літаратуры, які арганізаваны літаб'яднаннем «Плуг» (Харкаў), чыталіся творы З. Бядулі, М. Чорнага, Ц. Гартнага ў перакладзе на ўкраінскую мову. *(Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, с. 569.)*

*Люты, 17*

Апублікаваў верш «Няхай наш сцяг спрабуе здзерці з месца...». *(Сав. Беларусь, 17 лют.)*

*Люты — сакавік*

Апублікаваў рэцэнзію на творы ўкраінскіх пісьменнікаў. *(Полымя, № 2)*; верш «З песняў сонца», артыкул «Народная творчасць і новы быт», артыкул «Тэатр на вёсцы». *(Маладняк, № 2—3.)*

*Не пазней красавіка*

Выйшла з друку кніга «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках».

*Кастрычнік, 18*

У Доме асветы адбыўся вечар памяці В. Брусава, які памёр 9 кастрычніка. Пасля дакладаў М. Піятуховіча і С. Вальфсона З. Бядуля прачытаў верш «На смерць В. Брусава», Я. Колас — урывак з «Сымона-музыкі». *(Сав. Беларусь, 21 кастр.)*

## 1925

*Студзень*

Апублікаваў артыкул «Геній сусветных працоўных мас». *(Сав. Беларусь, 21 студз.)*; артыкул «Партызанскі рух у Заходняй Бе-

ларусі». *(Малады араты, № 1)*; рэцэнзію на кнігу Паліпчука В. 15 паэм.— Кіеў, 1925. *(Полымя, № 1.)*

## 1926

*Кастрычнік, да 12*

Утворана новае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Узвышша», членам якога стаў З. Бядуля.

*На працягу года*

Выйшаў зборнік «Выбраныя апавяданні».

У кнігах «Беларускі народны каляндар на 1927 год»,— Вільня, 1926; «Зборнік 8 сакавіка», «Ураджайнае свята» змешчаны творы З. Бядулі.

## 1927

*Студзень*

Пачаў друкаваць аповесць «Салавей». *(Узвышша, № 1—4.)*

*Сакавік, 26 ці 27*

На агульным сходзе пісьменнікаў Беларусі разглядалася пытанне аб стварэнні Усебеларускай асацыяцыі пісьменнікаў і паэтаў. З. Бядуля ўвайшоў у склад арганізацыйнага бюро. *(Сав. Беларусь, 29 сак.)*

*Красавік, 2, 9*

Прыняў удзел у абмеркаванні часопіса «Узвышша», вакол пазіцыі якога разгарнулася вострая палеміка. *(Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, с. 583—584.)*

*На працягу года*

Асобным выданнем выйшлі кнігі «Танзілія», «Паэмы», казка «Качачка-цацачка».

У кнігах «Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год», Вільня, 1927; «Беларускі каляндар», Вільня, 1928; Дварчанін І. «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры», Вільня, 1927; «Камсамолія», «Кастрычнік у школе», «Крывавай пуцявінай» надрукаваны творы З. Бядулі.

У кн. «Просторы», Мн., у перакладзе на рускую мову змешчаны апавяданні «Воўк» і «На зачарованых гонях».

## 1928

*На працягу года*

Апублікаваў эскіз «Граф». *(Працаўнік асветы, № 15.)*

Выйшлі з друку кнігі «Вясной» (вершы), «Дэлегатка» (апавяданні), аповесць «Салавей».

## 1929

*На працягу года*

Асобным выданнем выйшла кніга першая рамана «Язэп Крушынскі».

У перакладзе на рускую мову выдадзена аповесць «Салавей», Л., 1929 і зборнік «Повести и рассказы», М.—Л., 1929.

У перакладзе на ўкраінскую мову выйшлі аповесць «Соловей» і зб. апавяданняў «Лявониха и Симониха», Харків, 1929.

### 1930

*На працягу года*

Асобным выданнем выйшла аповесць Шалом-Алейхема «Хлопчык Мотка» (пер. з яўрэйскай м. З. Бядулі).

Асобным выданнем выйшлі зборнік апавяданняў «Тры пальцы», зборнік нарысаў «Дзесяць», кніга для дзяцей «Гаспадарка».

### 1931

*Красавік, 9*

Разам з іншымі пісьменнікамі падпісвае рэзалюцыю «Рашуча пратэстуем супраць пагромаў на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне». *(Чырвонаарм. праўда, 9 крас.)*

*На працягу года*

Друкуе другую частку рамана «Язэп Крушынскі». *(Узвышша, № 1—4, 10, 11—12.)*

У перакладзе на рускую мову выходзіць першая кніга рамана «Язэп Крушынскі».

Асобным выданнем выйшла кніга «Незвычайныя гісторыі».

### 1932

*Чэрвень, 8—14*

Прымае актыўны ўдзел у рабоце I Усебеларускага з'езда пісьменнікаў, прымае ўдзел у спрэчках. *(Літ. і мастацтва, 14, 18 чэрв.)*

Апублікаваў аповесць «Набліжэнне». *(Полымя, № 6—7.)*

*Жнівень, 15*

Прыбывае ў Маскву для ўдзелу ў рабоце I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. З. Бядуля — дэлегат з правам дарадчага голасу. *(Правда, 16 жн.)*

Прымае ўдзел у сустрэчы дэлегацыі ССП БССР з рэдакцыяй газеты «Правда». *(Звязда, 27 жн.)*

*На працягу года*

Выйшла з друку кніга «Творы», т. 3 (аповесці), асобным выданнем выйшла другая кніга рамана «Язэп Крушынскі».

### 1935

*На працягу года*

Асобным выданнем выйшла кніга «Набліжэнне».

У перакладзе на рускую мову выйшла кніга «Фронт приближается».— М.

## 1936

*Сакавік, 20 — красавік, 4*

Разам з іншымі пісьменнікамі (Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва і інш.) З. Бядуля выступае на сходах па пытаннях барацьбы з натуралізмам і фармалізмам. *(Літ. і мастацтва, 22, 28, 31 сак. 7 крас.)*

*Чэрвень, да 16*

Выступаў на сходзе пісьменнікаў БССР пры абмеркаванні праекта Канстытуцыі СССР. *(Літ. і мастацтва, 17 чэрв.)*

## 1937

*Студзень*

Апублікаваў п'есу «Салавей». *(Полымя рэвалюцыі, № 1.)*

*Люты, 10*

Апублікаваў «Апавяданне пра Пушкіна». *(Звязда, 10 лют.)*; апавяданне «Анчар». *(Літ. і мастацтва, 10 лют.)*

## 1938

*Чэрвень, 22*

Апублікаваў рэцэнзію «Раман Э. Самуйлёнка «Будучыня». (Думкі і разважанні)». *(Літ. і мастацтва, 22 чэрв.)*

*Ліпень, 11*

Апублікаваў апавяданне «Жалейка». *(Звязда, 11 ліп.)*

## 1939

*Студзень, 28 — люты, 8*

Разам з іншымі пісьменнікамі і дзеячамі культуры ўваходзіў у дэлегацыю, якая прымала ўдзел у вечарах беларускай культуры ў Маскве, прысвечаных 20-годдзю БССР. *(Звязда, 29 студз., 1, 2 лют.)*

*Люты, 1*

Апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні савецкіх пісьменнікаў ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны» за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай мастацкай літаратуры. З. Бядуля ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. *(Праўда, 1 лют.)*

*Сакавік, 4*

Уваходзіць у склад дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў, якія выехалі ў Кіеў для ўдзелу ва ўрачыстасцях, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі (Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, З. Бядуля, З. Аксельрод). *(Звязда, 5 сак.)*

*Сакавік, 9*

Апублікаваў артыкул «Водгукі кабзарскіх струн». *(Звязда, 9 сак.)*

*Жнівень*

Апублікаваў аповесць «У дрымучых лясах». *(Полымя рэвалюцыі, № 8.)*

*Кастрычнік, 8*

У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў (Я. Купала, Я. Колас, З. Аксельрод, Я. Маўр і інш.) выехаў у Беласток для правядзення творчых вечароў і ўдзелу ў падрыхтоўцы да выбараў у Народны сход. *(Літ. і мастацтва, 11 кастр.)*

*Кастрычнік, 12*

Выступае ў Беластоку на вечары савецкай культуры. *(Сов. Белоруссия, 14 кастр.)*

Апублікаваў артыкул «Тчыце шчасце для сябе». *(Звязда, 12 кастр.)*

## 1940

*Чэрвень, 5—15*

Прымае ўдзел у Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, у нарадзе па пытаннях беларускай літаратуры ў ССП СССР. *(Лит. газета, 10 чэрв., Звязда, 20 чэрв.)*

*Кастрычнік, 5*

Адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 30-годдзю літаратурнай дзейнасці З. Бядулі. *(Звязда, 6 кастр.)*

*На працягу года*

Асобнымі выданнямі выйшлі зборнік апавяданняў «На пройдзеных сцежках», паэма «Хлопчык з-пад Гродна».

## 1941

*Сакавік, 5*

Апублікаваў успаміны пра М. Багдановіча «Страцім-лебедзь». *(Літ. і мастацтва, 5 сак.)*

*Лістапад, 3*

Па дарозе ў эвакуацыю памёр непадалёку ад Уральска. Пахаваны на могілках у г. Уральску. *(Пісьменнікі Савецкай Беларусі.)*

# АЛФАВІТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ТВОРАЎ, ЗМЕШЧАНЫХ У 1—5 ТАМАХ

# ЗМЕСТ

**Бядуля З.**

Б 99 Збор твораў. У 5 т. Т. 5. Язэп Крушынскі: Раман, кн. 2; Сярэбраная табакерка: Казка; Публіцыстычныя артыкулы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— с., 8 л. іл.

ISBN 5-340-00090-7.

У пяты том уваходзяць другая кніга рамана «Язэп Крушынскі» (1930—1932), казка «Сярэбраная табакерка», а таксама асобныя крытычныя і публіцыстычныя артыкулы пісьменніка.

У алегарычнай казцы «Сярэбраная табакерка» З. Бядуля раскрывае гістарычны сэнс барацьбы працоўнага народа за шчасце і волю, паказвае складанасць барацьбы з сіламі зла.

**Б $\frac{4702120201-096}{М\ 302(03)-89}$ 89—89** **ББК 84Бел 7**

**Змитрок Бядуля**

*(Самуил Ефимович Плавник)*

*СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ПЯТИ ТОМАХ*

**Том 5**

*Язэп Крушинский*

*Роман*

Книга вторая

*Серебряная табакерка*

*Сказка*

*Публицистические статьи*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар С. Р. Прыгодзіч. Мастак У. А. Бойка. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар К. А. Крукоўская.

ІБ № 2696

Здадзена ў набор 24.06.88. Падп. да друку 28.02.89. АТ 06201. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 27,30+0,84 укл. Ум. фарб.-адб. 29,19. Ул.-выд. арк. 30,0. Тыраж 5000 экз. Зак. 1622. Цана 2 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.